


НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА




БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОНД
ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

# СКАРБЫ НАРОДНАЙ МОВЫ

## Дыялекталагічны зборнік

Мінск
ВТАА "Права і эканоміка"
2005

УДК 808.26-3
ББК 83.3
С42

Рэдактар:
кандыдат філалагічных навук
Л.П. Кунцэвіч

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук Трайкоўская В.П.

кандыдат філалагічных навук Вештарт Г.Ф.

С42 **Скарбы** народнай мовы: Дыялекталагічны зб.: НАН Беларусі. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа / Рэд. Л.П. Кунцэвіч. – Мн.: Права і эканоміка, 2005. – 385 с.
ISBN 985-442-201-1.

Кніга змяшчае падборкі дыялектных слоў з розных раёнаў Беларусі. Кожны артыкул афармлены ў выглядзе невялікага слоўнічка, да кожнага слова падаецца багаты ілюстрацыйны матэрыял. У кнігу ўведзены новы раздзел "Навуковыя даследаванні", дзе змешчаны артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах, падрыхтаваныя на дыялектным матэрыяле. Завяршае кнігу раздзел "Тэксты".

Разлічана на моваведаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.

**УДК 808.26-3**
**ББК 83.3**

Кніга выдадзена пры фінансавай падтрымцы
Беларускага рэспубліканскага фонду
фундаментальных даследаванняў



**ISBN 985-442-201-1**

# ПРАДМОВА

Дыялекталагічны зборнік "Скарбы народнай мовы" з'яўляецца працягам публікацый сямі дыялекталагічных зборнікаў[1], у якіх змешчаны артыкулы аб асаблівасцях ужывання слоў у беларускіх народных гаворках. Як вядома, на пачатку развіцця нацыі дыялекты сталі базай, на якой узнікла нацыянальная літаратурная мова. Сёння ж пад уплывам літаратурнай мовы дыялектныя асаблівасці сціраюцца. Носьбітамі гаворак з'яўляюцца людзі сталага ўзросту, з кожным годам адбываецца разбурэнне гаворак, і таму вельмі важна зафіксаваць тыя з'явы, якія ў хуткім часе могуць знікнуць.

Асноўнай задачай серыі гэтых зборнікаў было і застаецца збіранне лексічных матэрыялаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі, якія будуць карыснымі пры падрыхтоўцы і выданні зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак.

У кнізе "Скарбы народнай мовы" матэрыялы размеркаваны па чатырох раздзелах. Раздзел І "З лексікі народных гаворак" складаюць пераважна слоўнічкі, падборкі традыцыйнай лексікі, якія запісаны ў сучасных гаворках розных рэгіёнаў Беларусі. Амаль кожны з іх мае кароткую прадмову з характарыстыкай гаворкі, дзе зроблены запісы. У Раздзел ІІ "Навуковыя даследаванні" уключаны навуковыя артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах, падрыхтаваныя на дыялектным матэрыяле. Трэці раздзел "Тэксты" прадстаўляе ўзоры маўлення мясцовых жыхароў з розных куткоў Беларусі (запісы зроблены ў час дыялекталагічных экспедыцый, а таксама прадстаўнікамі родных гаворак). У чацвёртым раздзеле падаюцца матэрыялы, прысвечаныя юбілярам.

У канцы кнігі змяшчаецца агульны алфавітны індэкс усіх рэгіянальных слоў, якія падаюцца ў артыкулах, з указаннем старонкі, на якой ужыта слова.

---

[1] З народнага слоўніка. Мн., 1975; Народнае слова. Мн., 1976; Народная лексіка. Мн., 1977; Жывое слова. Мн., 1978; Народная словатворчасць. Мн., 1979; Жывое народнае слова. Мн., 1992; Жывое наша слова. Мн., 2001.

# РАЗДЗЕЛ І. З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

*В.Л. Авілава*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСАК БАЯРЫ І БУРЛАКІ АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА

АБАМЛЕ'ЦЬ *зак.* Самлець. *Трэба на галаву што ўзяць, каб ні абамлець такой гарачынёй. Цэлы ж дзень будзіш на слонцы.*

АБЛАВУ'Х, АБЛАВУ'ХІ *м. экспр.* Дурань, някемлівы чалавек.

АБЛА'САВАЦЦА *зак.* Пачаць нешта рабіць. *Куры абла'саваліся ў гароччык лазіць, купа'юцца там, усе кветкі павыкопвалі.*

АДГО'Н *м.* Самагон нізкай якасці. *Як канча'іш самагонку гнаць, яна ўжо слабая, ма'ла гра'дусаў, сіва'я – гэта адгон.*

АДЫМА'ЧКА *ж.* Кухонная ануча. *Ні бяры'ся голымі рука'мі за сага'н, вазьмі' адыма'чку.*

АЛЬШЭ'ЎНІК *м.* Альховы лес, зараснік. *У альшэ'ўніку грыбоў нарасло, Фэ'ля цэ'лы кош нясла'.*

АПАНАВА'ЦЬ *зак.* З'явіцца (і пра хваробу). *А маю цыбу'лю рабакі' апанава'лі, пажаўце'ла ўся, сохня.*

АСАЛАВЕ'ЦЬ *зак.* Стаць сонным (і ад гарэлкі). *Асалаве'ў мой Паўлючок зусім, трэба спаць ісці*; АСАЛАВЕ'ЛЫ сонны. *Нейкая ты зусім асалаве'лая сядзіш – ні вы'спалася, ці што?*

АЮ'СЬ! *выкл.* Прэч! Пайшла! (на свіней)

БАБІ'НЕЦ *м.* Частка касцёла пры ўваходзе. *Столькі людзей было, усю імшу ў бабінцы прастая'ла; ні ўбі'цца ў касцёл!*

БАЙБА'К *м.* Вялікі гультаяваты хлопец. *От байба'к вырас, нічога ні памага'я, яму толькі гу'лі ў галаве'.*

БАЛЯ'СКА *ж.* Драўляная дошчачка. *З баля'сак робяць каду'шкі.*

БАРАНА' *ж.* Барана. *Бараной глебу рыхту'юць да сяўбы.* БАРАНАВА'ЦЬ *незак.* Баранаваць. *Барану'юць, калі трэ'ба разраўня'ць падрапакава'ную зямлю', ці забаранава'ць ужо пасе'янае збожа.*

БАСАЛЫ'ГА *м.* Злодзей, п'яніца. *От бяду ма'я з зя'цям, такі басалы'га! Адпусці'лі з турмы на два дні, а ён на склад калхозны залез – цяпер ішчэ' боляй даду'ць.*

БАТАРЭ'ЙКА *ж.* Ліхтар на батарэйках. *Батарэ'йку вазьмі, як наза'д будзіш ісці ноч ужо бу'дзя, на дарогу пасве'ціш.*

БЛО'ТНІК *м.* Частка веласіпеда. *У маім ровары блотнікі над заднім і пярэднім калясом ёсьць.*

БО'ЙКА *ж.* Маслабойка. *Бойка зусім рассохлася, трэба ў ваду паста'віць.*

БОР *м.* Вялікі лес, пераважна яловы. *Учора ў бор у чарні'цы ездзілі, два маліраваных вядры' набралі.*

БРУ'ДАС *м.* Мурза, брудны чалавек. *Гэты бру'дас і ног ўве'чары ні мыя - порткі зды'мя і ў ложка.*

БРУШНІ'ЦЫ *мн.* Брусніцы. *Не, каля субе'льскай дарогі брушні'цы ні растуць, гэта трэба, як па астраве'цкай ідзеш, трохі ўле'ва браць, як на лу'кі.*

БУХМА'ТЫ *прым.* Таўсташчокі. *Папра'віўся за зіму, тоўсты стаў, бухма'ты.*

ВАРА'ТАК *м.* Вар. *Вара'так завары'ўся, вы'ключы кастру'лю.*

ВІ'ТКА *ж.* Гнуткая лазовая галінка. *Што ты з голымі рука'мі каровы ідзеш па'сціць, хоць вітку вы'ламай.*

ВЫ'САЛАПІЎШЫ *зак.* Высунуўшы язык. *Цэлы дзень, як дурная, вы'салапіўшы язык, лётала.*

ВЫ'ШКІ *мн.* У гумне: перакладзіны над тарпом. *На вы'шкі склада'юць абмалочаныя снапы, салому.*

ВЭНДЛЯ'РНЯ *ж.* Вяндлярня. *Вэндля'рня толькі ў нас у вёсцы была. Звязе' тады ўся вёска мяса, вэ'ндзяць.*

ВЭ'НДЗІЦЬ *незак.* Вэндзіць. *Вэ'ндзяць ве'чарам ці ра'ніцай, як ціха, каб дым ішоў на мяса.*

ВЭ'РХАЛ *м.* Непарадак, гармідар. *У хаце пасля рамонту такі вэ'рхал, нічога ні магу знайсці'.*

ГА'ДЗІЦЦА *незак.* Брыдзіцца. *Як га'дзішся, то ні рабі', я адна абшчыпа'ю, час ёсьць.*

ГАРА' *ж.* Гарышча. *Сынок, скокні на гару, там мае боты стаяць каля коміна, прынясі.*

ГАРА'ЦЬ *незак.* Араць. *Трэба поля за гумном загара'ць.* ВЫ'ГАРАЦЬ *зак.* Выараць. *Трэба яшчэ па'ру вы'гараць, каб бабы не сядзелі.* ВЫГО'РВАЦЬ *незак.* Выворваць.

ГІЛЬ *м.* Насякомае. *Гілі' грызу'ць коней, яны такія з бальшы'мі галовамі, куслі'выя, пуза'тыя.*

ГІЛЯВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Горача, каровы гілю'юць, ні ўпасе'ш адзін.*

ГІРГУ'Н *м.* Мясцовы літовец. *Відаць, што яна гіргу'ха: як кажа, так словы ця'гня, спява'я.*

ГРА'БІЦЬ *незак.* Грэбці. ПАДГРА'БІЦЬ зак. Падгрэбці. *Падграбі' сена каля гумна.*

ГРА'ФКА *ж.* Шпілька (засцёжка). *Гу'зіка німа, спадні'цу на гра'фку зашпіл'іўшы.*

ГРО'МАЗД *м.* 1. Вялікая непатрэбная рэч. *Трэба вы'несці вазон з хаты, а то стаіць громазд, усё акно займа'е.* 2. *зборн.* Хлам

ГУ'ШТА *ж.* Курынае гняздо. *Ні хочуць ку'ры ў гу'шту несціся, шука'ю яйкі пад плотам, у гумне.*

ДАЙНІ'ЦА *ж.* Вядро, у якое дояць карову. *Усе вёдры пражаве'лі, цякуць, дайні'цай ваду нашу'.*

ДАЛІНА' *ж.* Нізіна. *Пад ваўкарэ'знікам, так пры даліне', столькі чарні'ц – вядро набярэ'ш на адны'м ме'йсцы.*

ДРАБІ'НЫ *мн.* 1. Частка воза, абрашотка. 2. Калёсы. *У драбі'нах се'на возяць.*

ДРАПА'К *м.* Культыватар. *Драпа'к мае 3-4 зубы, ён глыбока ўразае'цца ў зямлю; драпаку'юць аржы'шча, санажа'ць, цвёрдую глебу.*

ДРАПАКАВА'ЦЬ *незак.* Культываваць. ПАДРАПАКАВА'ЦЬ зак. Пакультываваць. *Трэба сёння аржы'шча падрапакава'ць, бо заўтра ў дровы пае'дзім, часу ні бу'дзя.*

ДРЫВО'ТНІК *м.* Месца, дзе сякуць дровы. *Можа дзе на дрывотніку кашулю кінуў, паглядзі.*

ДУМБЛА' *ж.* Тхліна. *Як ў дзеравя'най бочцы, не вы'мытай, агуркі засоліш, там пле'сень зацвіце – і смярдзя'ць думблой.*

ДУХ: ДУХ (ДУХІ) ЗАБІЛА. Засопся, задыхаўся.

ДУ'ШЫ *мн.* Цыпеліны. *Пайду бу'льбу скраба'ць – заўтра на ра'ніцу хачу ду'шаў нарабі'ць.*

ДЫВА'Н *м.* Саматканае пакрывала. *Ручнікі' тка'лі васімнітовыя, дываны', посцілкі дымковыя.*

Е'ЛЬНІК *м.* Яловы лес.

ЖАГАРЫ' *мн.* Тонкія сухія галінкі. *Вы'мярз а'грыст за зіму і ні аджыў – тырча'ць жагары'.*

ЖЫРКІ' *прым.* Пра хатнюю жывёлу, якая добра есць. *Харошы каба'нчык – жыркі', лахчы'вы.*

ЖЭ'РГАЦЬ *незак.* Пераступаць. ПЕРАЖЭ'РГАЦЬ *зак.* Пераступіць. *Абгародачка нівысокая, яе пераժэ'ргаць можна.*

ЗАПУ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Напужаць, прагнаць. *Я палю', а ён па кве'тках таўчэ'цца; так я яго як запу'дзіла!* 2. Шпурнуць.

ЗАРВА'ЦЬ *зак.* Пра карову: перастаць даіцца. *Карова зарва'ла, скора цялі'цца будзя.*

ЗБЯЁДАЦЬ *зак.* Папсаваць, зламаць. *От ро'спуста расце! Ні можа пагуля'цца, як дзеці! Матка ўчора машы'нку прывязла', так ужо збяёдаў, паламаў.*

ЗГРЫЗО'ТА *ж.* Перажыванне, бяда. *Такую згрызоту маю з гэтай каровай, табе ні расказаць.*

ЗЫДЭ'ЛЯК *м.* Маленькая лавачка, табурэтка. *Гэты зыдэ'ляк я рабіў, калі ў школе вучыўся; яму ўжо пійся'т гадоў.*

ЗЮ-ЗЮ-ЗЮ *выкл.* Падзыванне для гусей.

ІНА'КШЫ. Іншы. *Хацела сабе ку'ртку купіць, алі коляру ні дабра'ла. На мяне былі жоўтыя і белыя. Ну куды мне старой бабе такія! Каб які іна'кшы коляр, цямне'йшы троха.*

КАЗЛЯ'К *м.* Масляк.

КАЛАВА'ТЫ *прым.* Цвёрды. *Кажу'х не'йкі калава'ты ста'ў, павярнуцца ні можна.*

КАМО'РКА *ж.* Гаспадарчае памяшканне. *Каморка падзе'лена на асобныя катухі' – для бульбы, для па'ранкі, для агуркоў.*

КАНАПЕ'ЛЬКІ *мн. бат.* Дрыжнік. *Канапе'лькі зава'рваюць, як хто засту'дзіцца і сі'кае ча'ста.*

КА'ПА *ж.* Магазіннае пакрывала. *Калі куплёнае пакрыва'ла – то гэта капа. Цяпер ужо дываноў ніхто і ні сце'ля, толькі ка'пы.*

КАПТУ'Р *м.* Дзіцячая шапачка. КАПТУ'РЫК *памянш.*

КОСЬ-КОСЬ-КОСЬ *выкл.* Падзыванне для каня.

КАТУ'Х *м.* Адгароджанае месца ў хляве, у гаспадарчым памяшканні. *Каморка падзе'лена на асобныя катухі': для бу'льбы, для па'ранкі, для агуркоў.* КАТУШО'К *памянш.*

КВА'ШАНІНА *ж.* Халадзец. *Я ў ква'шаніне толькі галярэ'тку люблю, мяса ні надта.*

КІТ *м.* Дрэнна прапечанае цеста. *Ні ўдаліся ў мяне бу'лкі, як кіт; печ была мала напа'лена.*

КЛУБЫ' *мн.* Бёдры.

КЛУНДЗ'ЮК *м.* Мяса з бядровай часткі тушы. *Як вы'ражсых костку з кумпяка', парэ'жыш на кускі, пасоліш, можна павэ'ндзіць – гэта клундзю'к.*

КНЫ'Ш *м. жарт.* Дзіця. *Кру'ціцца пад нага'мі увесь дзень, кныш гэты.*

КО'РПАЛА *агульн.* Маруда. *Корпала ты, ужо на аўтобус ісці трэба, а ты ўсё корпаішся.* КО'РПАЦЦА *незак.*

КОТ *м.* Плесня. *Хлеб трэба дзяржа'ць у халадзі'льніку; у хле'бніцы ён на другі дзень катом зоймецца.*

КО'ТКА *ж.* Кошка. *Дзе гэта котка падзе'лася, цэлы дзень ні відаць.* КО'ТАЧКА, КАТО'К

КОЦ *м.* Плед, тонкая коўдра. *Цёпла ў ха'це, і пад коцам у ночы ні заме'рзніш.*

КРУК: СЯДЗЕЦЬ КРУКАМ. Сядзець працяглы час, напрыклад, робячы што-небудзь.

КРУП-КРУП-КРУП *выкл.* Падзыванне для курэй.

КРУ'ЧКА *ж.* Бручка. *Сёлята ні кру'чка, ні буракі' ні ўрадзі'лі; добра, што па'ранкі шмат накапа'лі – бу'дзя чым свіней кармі'ць.*

КУ'ДРА *ж.* Балоцісты лес. *Ку'дра – гэта далінка', там сосны растуць, бярозкі, мокра, усё мохам заросшы, дзяру'гай.* КУ'ДРАЧКА

КУМПЯ'К *м.* 1. Бядро. *З кумпякоў рабі'лі руле'ты: костачку выма'ім, солім, кру'цім тады ўжо ў ма'рлячку.* 2. Бядровая частка тушы.

КУРЧА'ТЫ *мн.* Кураняты.

(А)КЫШ *выкл.* Прэч!, пайшлі! (на курэй).

КЯТУ'РКА *ж.* Шырынка. *Даўне'й кяту'ркі на гу'зіках рабі'лі, а потым ужо замкі' знайшлі'ся.*

ЛАГАСІ' *мн.* Расліна; расце па берагах рэк. [вымаўл. з выбухным *г*] *Свіня'м траву сабіра'лі. Аж праз Лошу хадзі'лі, пад Кялёйці; лагасі' там надта раслі.*

ЛАГА'Ч *м. Лагачом білі дзяце'й.*

ЛАЙДА'К м. П'яніца. *Дзе ён жэ'ніцца! Хто за гэтага лайдака' замуж пойдзя!*

ЛУ'ПЫ *мн. экспр.* Вусны. *Што ты лу'пы скрыві'ў!*

ЛЫ'НДАР *м.* Гультай. *Лы'ндар – гэта каторы лы'нды збіва'е, бадзя'ецца, лынду'е.*

ЛЭ'ХАЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць, пляткарыць. *Ні маю я часу з вамі лэ'хаць, трэба сена ісці варочаць.*

ЛЮХТ *м.* Пустата ў печцы, каб дым цягнула ў трубу і воздух гарачы хадзіў і печку грэў. *Ма'ма калі'сьці цэ'глу збоку адбіва'ла і люхты' чы'сціла.*

МАГІ'ЛЬНІК *м.* Могільнік. *З касцёла е'дучы, на магі'льнік зае'дзімся, бо даўно ўжо ні бы'ўшы.*

МАЛІРО'ВАНЫ *прым.* Эмаліраваны. *Ніводнага добрага ку'бка маліраванага ні маю, усе цяку'ць.*

МАНЫНА'РКА *ж.* Пінжак. *Порткі ўжо знасі'ў, а манынарка як навю'ткая.*

МАТАЦЫКЛЕ'Т *м.* Матацыкл. *От саба'ка добры быў: Лёнгін яшчэ' па астраве'цкай дарозе на матацыкле'це едзе, а ён ужо чуў, браха'ць пачына'ў.*

МІРГА'ЦЬ *незак.* Маргаць. ПАДМІ'РГВАЦЬ незак. Падморгваць.

МІ'РТА *ж.* Мірт. *Трэба ў Сабі'ны мі'рту ўзяць зафлянсава'ць.*

МЛЫН: (ЯК) КАЛЯ МЛЫНА ХАДЗІЎШЫ. Дурнаваты (пра чалавека).

НАСА'ТКА *ж.* Насоўка. *У мяне ёсь на'дта харошы ўзор наса'ткі вышыва'ць – дробненькія бра'ткі.*

НАСТО'ЛЬНІК *м.* Абрус. *Залілі' настольнік кампотам і ні вымыва'іцца.*

ПАДЗЕ'ЛЯ *прыназ.* Для, дзеля. *Падзе'ля мяне так можыш нічога ні вары'ць, пачаю'ю.*

ПАДПАВЕ'ТКА *ж.* Паветка, павець. *Трэба дровы ў падпаве'тку знасі'ць, паку'ль дождж ні пайшоў.*

ПАДУПА'СЦІ *зак.* Адчуць недахоп чаго-небудзь. *Не'шта ей у галаве' зрабі'лася. Можа яна з ядой падупа'ла, ці што.*

ПАЗЕ'МКІ *мн.* Суніцы. *Ні будзе сёлята пазе'мак, ні цвітуць.*

ПАЗУ'Р *м.* Ногаць (у чалавека). *Пазу'р у па'лец ураста'е, хадзі'ць ні магу.*

ПАЛО'ДНІК *м.* Апалонік.

ПА'РАНКА *ж.* 1. Дробная бульба. *Ні ўрадзі'ла ў гэтым годзе бу'льба. Засушы'ла. Садзі'лі такой харошай, бальшой, а накапа'лі пяць воркаў па'ранкі.* 2. Запараная бульба. *Ране'й ніхто ле'там па'ранкай свіне'й ні карміў – ні было. Палолі лён, буракі', усю эту траві'чку рэзалі сячкарняй, мама малачком аблie, трошачка мукі'. Вот травой і карміі'лі.*

ПА'СЦІЦЬ *незак.* Пасвіць. *За'ўтра нашая кале'йка кароў па'сціць.*

ПАТУРА'ЦЬ *незак.* Не пярэчыць, адносіцца паблажліва. *Такі' роспуста расце – а што ж ты хочыш, матка яму патура'я, усё купля'я, што захоча.*

ПІ'РХАЦЬ *незак.* Кашляць. *Пагрэй плечы каля печкі, можа і пірхаць перастаніш.*

ПІТА'НІЯ *ж.* Батарэйка. *Вымі з часоў піта'нію, каб ні пацякла'.*

ПЛАСТ: ЛЯЖАЦЬ ПЛАСТОМ. Ляжаць не падымаючыся (пра хворага чалавека, гультая).

ПЛЫВУ'Н *м.* Ранні баравік. *Баравікі'-плывуны' расту'ць у пача'тку лета, калі жыта выплыва'е.*

ПЛЯЦ *м.* Вялікі кавалак зямлі. *Цэлы пляц бу'льбай засадзі'ла – хто яе капаць будзя?*

ПО'ЛЕ *н.* Засеяны або падрыхтаваны да пасеву участак зямлі. *Поле – гэта там, дзе расце бульба, жыта, авёс. А там, дзе трава – гэта санажа'ць.*

ПО'ЛЕ: ІДЗІ' Ў ПО'ЛЕ! Такімі словамі адганяюць карову.

ПО'РТКІ *мн.* Штаны. *Пае'дзім за'ўтра ў Астравец – трэба хлапцу' порткі купі'ць.*

ПРАЕ'РАК *м.* Проразь, незашытае месца. *Якая яна там шва'чка, толькі што машы'нку мая. Ворак пашы'я, зробя прае'рак для галавы – эта ў яе суке'нка.*

ПРА'ТАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. РЫ'БУ ПРА'ТАЦЬ. Патрашыць, чысціць. КІ'ШКІ ПРА'ТАЦЬ. Мыць, шліфаваць кішкі. МЯ'СА ПРА'ТАЦЬ. Разбіраць тушу, рабіць калбасы, клундзюкі, кумпякі.

ПРУ'СЯ-ПРУ'СЯ *выкл.* Падзыванне для кароў.

ПУЛЬ-ПУЛЬ-ПУЛЬ *выкл.* Падзыванне для курэй.

ПЯРША'К *м.* Высакаякасны самагон. *Пярша'к – гэта першы лі'тар, крэ'пкі – 60 градусаў, а можа і болей; як чы'сты спірт.*

РАСХРЫСТА'ЎШЫСЯ *дзеепрысл.* Расшпіліўшыся. *Што ты лётаіш расхраста'ўшыся, а потым пі'рхаць бу'дзіш!* РАСХРЫ'СТА'НЫ *дзеепрым.* У расшпіленым адзенні.

СА'ЖАЛКА *ж.* Штучны вадаём. *Са'жалка – эта такі стаў, які чалавек выкапаў.*

САНАЖА'ЦЬ *ж.* Сенажаць, луг. *Калі поле запусці'ць травой, не садзі'ць на ім нічога, то гэта санажа'ць, яе косяць.*

САСО'ННІК *м.* Сасновы лес.

СВЕНТАЯ'НСКІЯ ЗЁЛКІ. Зверабой. *Свентая'нскія ад ка'шля памага'юць.*

СКА'ЛА *ж.* Цвёрдая зямля. *Засушы'ла з вясны', а тут зямл'я пры глі'не, ска'ла, і ні абышло' нічо'га; бу'ду адсе'яваць.*

СКАРА'Ч *м.* Кусок саматканага палатна, якім закрывалі стол, калі елі. *На гэты скара'ч сы'палі адва'раную бульбу; па канцах звісалі махры, бо іх не падшыва'лі; недатку'ць палатно, адстрыгу'ць – вот табе і скарач.*

СКВА'РЫЦЬ *незак.* Смажыць. *Сёння кабана' нара'ніцы закалолі, свежані'ны насква'рылі.*

СКЛЮТ *м.* Худы, высокі чалавек. *Санёк вы'цягнуўся за зіму, высокі стаў, худы, адны косці тырча'ць. Іра кажа на яго: «Склют ты».*

СЛЯПА'К *м.* Насякомае. *Сляпа'к такі як муха', толькі паласа'ты.*

СМАТЛЫ *прым.* Вялікі, дужы (пра чалавека). *От у Света дзеўкі сма'глыя! І высокія, і грубы'я.*

СМО'РГАЦЬ *незак.* Шморгаць, зрываць. *Як назад бу'дзіш ісці, аўса насморгай – будзя што кура'м уве'чары даць.*

СПО'РНЫ *прым.*1. Пра начынне: у якое шмат улазіць. *Гэты кошык спорны, ён хоць малы, алі глыбокі.* 2. Пра рэчыва: якога шмат змяшчаецца. *Дробныя кру'пы спарне'йшыя, іх надаўжэ'й хвата'я.*

СТАЛЯВА'ННЕ *н.* Столь. *За зіму' так сталява'нне закурэ'ла, аж чорнае.*

СТАЎ *м.* Прыродны вадаём. *Стаў ніхто ні капа'е, ён ад прыроды. Было ўглыбле'нне ў зямлі, там вада сабра'лася.*

СТАЎБУ'Н *м.* Стрэлка (у капусце, бураках, цыбулі). *У мяне ўся цыбу'ля ў стаўбуны' пайшла', мусі падме'рзла вясной.*

СТРЫ'НГАЛЬ *м.* Высокі, цыбаты чалавек.

СЦІМБУ'Р *м.* Бадыль, сцябло. *Сцімбу'р – гэта абарва'ная ві'тка без лістоў. Яна можа быць суха'я, на ёй можа быць многа галі'нак.*

ТОК *м.* Насціл з гліны ў гумне, гладкі, роўны. *На таку' даўне'й цапом малаці'лі снапы'.*

ТОРП *м.* 1. Тарпа. *Торп – гэта ча'стка гумна', дзе склада'юць се'на.* 2. Колькасць сена, якая змяшчаецца ў тарпе. *Сена, зложанае ў гумне, называецца торп.*

ТРАПА'ЧКА *ж.* Мухабойка. *Трапа'чка – гэта кру'глы кусок гу'мы, прыбі'ты да па'лачкі.*

ТРЭ'БУЛЪ. Трэба было. *Трэ'булъ б з я'блыкаў соку наці'скаць, а то гніюць, алі ж ні маю бутэ'ляк. Банкі' шкода, можа ішчэ' які агурок вырасце, пастаўлю.*

ТЫР-Р-Р *выкл.* Стой! (да каня).

УПРЫЦІ'РКУ *прысл.* Мала; толькі як толькі. *Было ўпрыці'рку гро'шай, так долараў памяня'ла.*

УСКРУЦІ'ЦЦА (НА БЫКІ) *зак.* Пра стан цечкі ў каровы. *Іду на поля карову забіраць. Прыляце'ў пасту'х, кажа: забіра'й, ускруці'лася.*

ФАЕ'РКА *ж.* Канфорка. *Зусім дрэ'нная пліта' – толькі адна фае'рка гарыць, і то сла'ба.*

ЦЁХ-ЦЁХ-ЦЁХ *выкл.* Падзыўныя для свіней.

ЧАМБО'Р *м. бат.* Чабор. *Ка'жды год каля раўка', як на па'сяку ісці', чамбор рос, а сёлята німа' – мусі засушы'ла.*

ШАРА'ГІ *мн.* Рад вешакоў на сцяне. *Вазьмі' капоту, яна на шара'гах за пе'чай вісі'ць.*

ШАРША'ТКА *ж.* Вялікая іголка. *А ці прадаю'цца цяпер дзе шарша'ткі, бо я ўсе свае злама'ў за зіму, боты зашыва'ючы.*

ШАШО'К *м. заал.* Тхор. *Ні можа быць, каб адзін шашок усіх курэ'й задушы'ў. Му'сі іх там цэлы вы'вадак быў.*

ШТЫ'БНЫ *прым.* Цвёрды. *Як пакрахма'ліш палатно, тады' яно робіцца калава'тае, шты'бнае, само стаі'ць.*

ШЧАПА'ЦЬ *незак.* Пра дровы: секчы. *Трэба дровы пашчапа'ць, бо калодкі папілава'ныя ўжо ме'сяц ляжа'ць, скора згнію'ць.*

ЮРГІ'НЯ *ж.* Вяргіня. *У мяне ўвесь гародчык быў юргі'няй заса'джаны, усяля'кія кусты' былі – і жоўтыя, і бе'лыя, і філітовыя.*

*У.У. Барысюк, Н.М. Буян*

# З ФРАЗЕАЛОГІІ ВЁСКІ АЛЬМАНЫ СТОЛІНСКАГА РАЁНА

АБЫ З РУК ЗБЫЦЬ. Абыякава, неахвотна рабіць. *Ну от шчо ты робіш, абы з рук збыць, неўжэ то нельга трохі окуратней.*

АЖ ВО'КО РЭ'ЖЭ. Вельмі яркае штосьці. *Твое гетэ плацье аж воко рэжэ, і не думай его надзеваць.*

АЖ ЕЗЫ'К НА БО'РОДУ ЗВЕ'СІЎСА. Вельмі стаміцца. *У мене аж език на бороду звесіўса, пока мы з Жукова прышлі.*

АЖ ПЫЛ КУРЫ'ЦЬ. Вельмі хутка. *А куды то ты, Хведорко, бег, шчо аж пыл курэў?*

АЖ ШКУ'РКА ГОРЫ'ЦЬ. Пра шкадлівага чалавека. *На ём жэ аж шкурка горыць, так і цікуй, бо наробіць беды.*

БЕДЫ' НЕ ОБРА'ТІСА. Мець ці будуць непрыемнасці. *Луччэй не лезь ты до его, бо як розозліш, то потом беды не оберэшса.*

БІ'ЦЦА БЫ РЫ'БА ОБ ЛЁД. Пра вельмі працавітага чалавека. *Гета бедна Хахлушка б'ецца бы рыба об лёд, аж розрываецца на той робоці, а Боб цэлымі днямі на калхозном дворэ ў доміно грае, нідзе не робіць.*

БІЦЬ ЛЫ'НДЫ. Лайдакаваць. *Дзеветнаццаць год скоро, а вон цэлымі днямі лынды б'е! Хоць бы ў калхоз пошоў, то мо неку копейку заробіў бы.*

БРАЦЬ ДО ГОЛОВЫ'. Перажываць. *Ой, не беры до головы, усе ў йіх добрэ будзе. У цебе ж з твоїм Васілём зразу тожэ ж не ўсе ладзілоса.*

БРАЦЬ ЗА ДУ'ШУ. Перажываць. *От ужэ ж мене за душу берэ, як мой Сашо на мацыклета садзіцца, коб знала, то й не купляла б.*

БРАЦЬ НО'ГІ НА ПЛЕ'ЧЫ. Уцякаць. *Пока не позно, хлопчэ, то беры ногі на плечы і шчоб духу твого тут не было, бо як зловяць, то не пошкодуюць.*

БЫ ВЕ'ТРОМ ЗДУ'ЛО. Хто-небудзь хутка знік. *Надзя як побачыла цебе, то ее бы ветром здуло, мабыць, бойіцца нечого.*

БЫ ДРАБІ'НА. Вельмі худы. *Ты ўжэ бы драбіна стала, мабыць, нічого не есі.*

БЫ З ВО'ЎЧЫХ ЗУБО'Ў. Вельмі памятае. *Эйбо, поўцюж гетэ плацье, бо бы з воўчых зубоў, стыдно й на людзі ў ём показацца.*

БЫ КОРО'ВА ЕЗЫ'КОМ ЗЛІЗА'ЛА. Раптоўна знікнуць. *Оно пыдышла Дорошчыха, Надзю бы корова езыком злізала; не захацела, знаеш, слухаць праўду.*

БЫ КО'Т НАПЛА'КАЎ. Вельмі мала. *Паўліно, а шчо то ты мне цукеркоў, бы кот наплакаў отважыла, ну но шчэ столькі отваж.*

БЫ КУ'РА НА СЕ'ДАЛІ. Павольна, марудна. *А чого ты ніяк не ўсядзешса, бы кура на седалі.*

БЫ МО'КРЭ ГОРЫ'ЦЬ. Рабіць нейкую справу вельмі павольна. *Эйбо копай скорэй, а то робіць бы мокрэ горыць, так мы й до вечора не ўправімса.*

БЫ НЕ Ў СЕ'БЕ. Ненасытна, прагна есці. *Мой зяць есць бы не ў себе, а поба які худы!*

БЫ ОБ СЦЕ'НКУ ГОРО'ХОМ. Безвынікова, упустую. *Ёму кажы, кажы – бы об сценку горохом. Як пропускаў школу, так і пропускае.*

БЫ ПШЭНІ'ЦУ ПРОДА'ЎШЫ. Вельмі моцна спаць. *Обед скоро, а воны спляць, бы пшэніцу продаўшы.*

БЫ ПЫДСТРЭ'ЛЯНЫ. У кароткім адзенні. *Эйбо одзень другіе штаны, а то ходзіш бы пыдстрэляны.*

БЫ СЕРЭДА' НА П'Я'ТНІЦУ. Нядобразычліва, незадаволена (глядзець). *Ну, от чого ты дзівішса на мене, бы серэда на п'ятніцу, быттом я цебе рэзаць собіраюса.*

БЫ СМОЛА' ДО ДЗЕ'РЭВА. Вельмі рашуча і неадступна. *Твой Володзя прыстаў до мое дзеўкі, бы смола до дзерэва, проходу ёй не дае.*

БЫ СКРОЗЬ ЗЕ'МЛЮ ПРОВАЛІ'ТІСА. Прапасці. *Сашык, ты часом не знаеш, дзе наш Васіль? Бы скрозь землю проваліўса, недаўно по городу бегаў, а шчас зову, а ёго нідзе нема.*

БЫ Ў БО'ГА ЗА ПА'ЗУХОЮ. Спакойна, без трывог. *Насцечка жыве, бы ў Бога за пазухою, усе ў ее е, ніякого клопоту не мае.*

БЫ Ў БО'ЧКУ (КАШЛЯЦЬ). Вельмі моцна, гучна. *Не знаю, чым ужэ гетэ дзіця й лечыць, ужэ тыжджэнь, бы ў бочку кашляе.*

БЫ Ў ВО'ДУ КА'НУЦЬ. Прапасці. *Мой унук як поехаў вучыцца, то бы ў воду кануў – і не пішэ, і не звоніць.*

БЫ Ў ВО'ДУ ОПУ'ШЧАНЫ. Прыгнечаны, без настрою. *Послі жончыной смерці Олесь бы ў воду опушчаны ходзіць.*

БЫ ЎГОРЭ'ЛЫ. Шпарка, беспарадкава. *Гетой Шабан зроду бы ўгорэлы носіцца, а ніяку роботу ніколі не можэ до конца зробіць.*

БЫ Ў ЖА'БЫ. Пра халодныя вельмі (рукі, ногі). *А рукі бы ў жабы! Возьмі скорэй да потры йіх одна об одну.*

БЫ Ў МЕШКУ'. Парыць, вельмі душна, спякотна. *Але ж і дзень цепера выдаўса – з самого ранку бы ў мешку, коб хоць до вечора дождж не пошоў.*

БЫ ХІ'МА ГАЛО'ЎЧЫНА. Пра вельмі высокага чалавека. *У вёсцы пражывае жанчына, рост якой амаль два метры; адсюль і ўзнікненне фразеалагічнае адзінкі. Ну й выросла гета Дусіна дзеўка, бы Хіма Галоўчына.*

ВЕЦЁР У ГОЛОВЕ'. Пра маладога, нявопытнага чалавека (падлетка). *Чому вон цебе навучыць, як у ёго самого йшчэ вецёр у голове.*

ВІ'ЛАМІ ПО ВОДЗЕ' ПІ'САНЭ. Няясна. *Гето шчэ віламі по водзе пісанэ, мо шчэ ніякого весельля не будзе.*

ВО'ЧЫ ВЫ'ПЛАКАЦЬ. Многа плакаць. *Бедна Левонцьеўна ўжэ ўсе вочы выплакала чэрэз гетого Віця, а вон прыедзе на тры дне і зноў цэлы год не показваецца.*

ВО'ЧЫ ВЫ'РАЧЫЦЬ. Вельмі здзівіцца. *А чого вочы вырачылі? Шчо, першы раз мене бачыце?*

ВО'ЧЫ НА ЛОБ ЛЕ'ЗУЦЬ. Вельмі здзівіцца. *У дохторкі аж вочы на лоб полезлі, як сказалі, шчо Марыя жэніха прывезла.*

ВО'ЧЫ НА МО'КРОМ МЕ'СЦІ. Пра плаксу. *Ой, у твое кумы зроду вочы на мокром месці, у одзін міг – да ўжэ й слёзы поцеклі.*

ВУ'ШЫ РОЗВЕ'СІЦЬ. Даверліва слухаць хлусню. *Вон несе неку безглуздзіцу, а Норма з Хімою розвесілі вушы да слухаюць.*

ВЫ'ВЕСЦІ Ў ЛЮ'ДЗІ. Вывучыць, даць належную адукацыю. А шчо ж казаць, прожыў я добрэ, дзецей у людзі вывёў, от зара ўнукоў годую.

ВЫ'КІНУЦЬ З ГОЛОВЫ'. Перастаць думаць пра штосьці. *Выкінь ты ее з головы, хлопчэ, воно ж замужняя жонка. Неўжэ тобе дзевок не хватае?*

ВЫ'ЛЕЦЕЦЬ З ГОЛОВЫ'. Забыць пра штосьці. *От жэ ж хоцела ў цебе про нешчо попытаць, да з головы вылецело.*

ВЫ'СМОКТАЦЬ УСЕ' СО'КІ. Вельмі надакучыць. *Забірай скорэй од мене свойіх дзецей, бо воны мне ўжэ ўсе сокі высмокталі.*

ВУ'ШЫ ЎЯ'НУЦЬ. Не хочацца слухаць. *Лено, радзі Бога, замоўчы, бо ў мене от твое говоркі ўжэ вушы ўянуць.*

ГЕНЬ ДЗЕ ГЕЦЬ. Вельмі далёка. *Як выгнала я свою корову, аж бачу – людзі ўжэ гень дзе гэць з свойімі, давай я йіх доганяць.*

ГІЗУ'НТЫ ВЫ'ЦЯГНУЦЬ. Змучыць. *Гета свекроў мне ўсе гізунты выцягла, шчо ні зроблю, нішчо не наравіцца: то тэ не так, то гетэ не гетак.*

ГЛУХА'Я ЦЕЦЕ'РА. Пра таго, хто штосьці не дачуе. *От, глухая цецера, то я ж шчэно казала, шчо нікуды не еду.*

ГО'ЛОВУ МОРО'ЧЫЦЬ. Надакучаць. *Люба, не мороч мне голову, да йдзі ўрокі вучы.*

ГОРЭ'ЦЬ ГА'РОМ. Зломоўнае пажаданне: няхай яно згарыць. *Горы вона гаром тая робота! Я луччэй по чарніцы ходзіць буду, то больш зароблю, чым на той робоці.*

ГОРЭ'ЦЬ ОГНЕ'М. Мець высокую тэмпературу. *Моя малая цэлу ноч огнем горэла, мабыць, нейдзі застудзіласа.*

ГОРЭ'ЦЬ У РУКА'Х. Спраўна і хутка рабіць розную справу. *Марыйка Мужынова за шчо ні возьмецца, то ўсе ў руках так і горыць.*

ГУБУ' ЗАКОПЫ'ЛІЦЬ. Пакрыўдзіцца. *Дзіўлюс я, аж моя малая ўжэ губу закопыліла, да чуць не плачэ.*

ДАВА'ЦЬ ДРАПАКА'. Уцякаць. *Увечэры нека дзетва до мене ў слівы залезла, а я як вышоў з хаты, то коб вы бачылі, як драпака далі.*

ДАЦЬ ДУ'БА. Памерці. *Ну й морос! Я пока прышла з пошты дохаты, то думала дуба дам.*

ДАЦЬ ПРЫКУРЫ'ЦЬ. Моцна насварыцца на каго-небудзь. *Чуеш, як Мікола дае прыкурыць свойім хлопцам! Прыедзе бацько і тобе таке будзе.*

ДАЦЬ РА'ДЫ. Справіцца з кім-небудзь. *Я ж сама ёму не дам рады! Як быў меньшы, то накрычу да послухае, а зара крычы не крычы, то не слухае.*

ДАЦЬ У ЛА'ПУ. Даць хабар. *Зробіў бы так бы я: даў бы ёму ў лапу, то не меў бы зара морокі.*

ДЗЕ'ЛО БУ'ДЗЕ. Лепш будзе. *Зранку пойдом з тобою по чарніцы, то дзело будзе, а то седзіш цэлымі днямі ў хаці, нікуды й не выходзіш.*

ДЗЕНЬ ДЗЕНЬСКІ'. Цэлы дзень. *Я не понімаю, як так можна! Дзень дзеньскі проседзеў келе ціліві зора, нічого не зробіў; дай голова, кажы ты, не заболела.*

ДЗЕСЯ'ТОМУ ЗАКАЗА'ЦЬ. Ніколі не паўтарыць чагосьці. *А хай но я цебе шчэ раз у своём саду спой маю, то так дам, шчо й дзесятому закажэш.*

ДЗІ'ВУ ДАВА'ЦЦА. Здзіўляцца. *А я дзіву даюса, чого то до вас Серошка зачасціў, аж гето вон сватаецца.*

ДЗІРА'ВЫ РОТ. Пра таго, хто, калі есць, абліваецца. *Мото ў цебе рот дзіравы, шчо ты ўсёй обліўса, пока поеў.*

ДОГОРЫ' НОГА'МІ. У беспарадку. *У цебе ў хаці зроду ўсе догоры ногамі. Неўжэ то не можэш хоць раз у месяц пыдмесці да помыць?*

ДОЙЦІ' ДО РУ'ЧКІ. Спіцца. *Мікола Надзі Поштаркі зусем дошоў до ручкі, кажды дзень п'е.*

ДО ЛА'МПОЧКІ. Усё роўна. *А мне до лампочкі, шчо ты про мене подумаеш. Глаўнэ, шчоб мене людзі не осудзілі.*

ДОПА'СЦІ БЫ СВІНЬЯ' ДО МЫ'ЛА. Пераесці. *Пашэчка ў нідзелю ходзіла на веселье, то ўжэ, мабыць, допала до еды, бы свіньяя до мыла, шчэ, кажэ, й цепера жывот болiць.*

ДО'ЎГАЯ ПЕ'СНЯ. Вельмі працяглая справа; тое, што няскора здзейсніцца. *Гето шчэ доўгая песня, пока вон ожэніцца. Ёму трэба шчэ вучобу кончыць.*

ДУ'ШУ РОСТРАВІ'ЦЬ. Расхваляваць. *Гетымі свойімі сваркамі воны ўжэ мне ўсю душу ростравілі.*

ЕЗЫ'КА ВЫСОЛУПІ'ЦЬ. Хутка бегчы. *Вышла я з хаты, аж бачу – несецца мой Мікола, высолупіў езыка, да крычыць, шчоб есці ставіла, бо вон по сено поедзе.*

ЕЗЫ'КА ПРЫКУСІ'ЦЬ. Пра чалавека, які вымушаны замаўчаць. *Як сказала Петрычыха, шчо ніякой сваркі ў йіх не было, так Голубушка езыка і прыкусіла, поняла, шчо ніхто ёй не поверыць.*

ЕЗЫ'К ДО КІ'ЕВА ДОВЕДЗЕ'. Пра чалавека, які любіць пагаварыць. *Цебе езык до Кіева доведзе, ты з кім хоч поговорыш, а я ейбо не могу так.*

ЕЗЫ'К ДО'ЎГІ. Пра балбатуна. *От у Карпечыхі езык доўгі, ёй шчо ні скажэш, то готова ўсем людзям росказаць.*

ЕЗЫКІ' ЧЭСА'ЦЬ. Загаварыцца. *Бывало, як сядом езыкі чэсаць, той не зглядзіш, як той дзень пройдзе.*

ЕЗЫ'К НЕ ПОВЕ'РНЕЦЦА. Не змагчы сказаць. *Ну то ты глянь, у мене і езык не повернуўса б таке на мацеру сказаць, а ёй хоць бы хны.*

ЕЗЫ'К ОДСО'Х. Раптоўна змоўкнуць. *Мото ў цебе езык одсох? То нельга было остановіць, а то моўчыць.*

ЕЗЫ'КОМ НЕ ВОРО'ЧАЦЬ. Быць вельмі п'яным. *Мой учора прысунуў – і езыком не ворочае, гето так дзень механізатора отмечалі.*

ЕЗЫ'К СВЕРБІ'ЦЬ. Вельмі хочацца выгаварыцца. *А ў мене аж езык свербіць, так і хоцелоса сказаць з кім Вера ходзіць.*

ЕКІ'Е СА'МЫ, ТАКІ'Е Й СА'НІ. Пра падобных людзей. *– Гето ж Валька, такая дзеўка, выходзіць за того Мотэлёвого! – Знаеш, шчо я тобе скажу, екіе самі, такіе й сані, нічуць вона не лучшая за ёго, одзінаковые.*

Е'СЦІ ПРО'СІЦЬ. Калі ў абутку адклеіцца падэшва. *Шчоб купіла мне чоботы, а то мое ўжэ есці просяць.*

ЕСЦЬ ТАК, ШЧО АЖ ЗА ВУША'МІ ТРЭШ'ЧЫ'ЦЬ. Ненасытна есці. *Максім есць так, шчо аж за вушамі трэшчыць, бы тры дне голодны быў.*

ЖДАЦЬ З МО'РА ПОГО'ДЫ. Дарэмна спадзявацца. *Як жэ жджы з мора погоды, пока не пойдзеш да сам не купіш, то вон ў не пошэвеліцца.*

ЖДЖЫ ПЕТРА' – СЫ'РУ НАЕСІ'СА. Пра ненадзейнага чалавека. *Як жэ жджы Петра – сыру наесіса. От побачыш, шчо Васік не прынесе нічого, скажэ, шчо я найшоў ці забыўса.*

ЖЫЦЬ БЫ КОˈШКА З СОБАˈКОЮ. Заўсёды сварыцца. *Міхлік з Міхлічыхою последне ўрэме бы кошка з собакою жывуць.*

ЖЫЦЬ ЗА ОДНЫˈМ ДУˈХОМ. Мала есці. *Як ты шчэ ходзіш, не понімаю! Ты ж жывеш за одным духом, сеў бы да поеў шчо-небудзь.*

ЗАБЫˈЦЬ ДОРОˈГУ. Ніколі не наведваць больш якое-небудзь месца, каго-небудзь. *Раней Пецік до нас часто прыходзіў, а як маці ўмерла, то бы дорогу забыў, не прыходзіць.*

ЗАГЛЯˈДАЦЬ У ЧАˈРКУ. Выпіваць. *А Месеччыха тожэ любіць заглянуць у чарку, хоць і осуждае другіх.*

ЗАДРАˈЦЬ НОˈСА. Ганарыцца. *Абы то купіў машыну, то ўжэ задраў носа, да й ні з кім не здороваецца.*

ЗАЕˈХАЦЬ ПО КАˈРКУ. Пабіць. *Бацько прыедзе, то вон цебе ўговорваць не будзе, да заедзе пару раз по карку, то будзеш вучыцца.*

ЗАЙМАˈЦЦА НА СВЕТ. Калі пачынае развідневаць. *Будом выходзіць, як оно начне займацца на свет, бо дорога не блізкая.*

ЗАКРЫˈЦЬ РОˈТА. Замаўчаць. *Я тобе кажу, закрый рота, не бачыш, шчо чоловек хочэ нешчо сказаць.*

ЗА ЛАДОˈМ. Па парадку. *Дочэнька, грэбі сено за ладом, так лёхчэй будзе.*

ЗАЛІˈЦЦА, БЫ ЦЫГАˈН СЫРОˈВАТКОЮ. Вельмі смяяцца. *Як сказала я, шчо баба думае замуж выходзіць, то бацько так і заліўса, бы цыган сыроваткою.*

ЗАРОБІЦЬ, БЫ БРОˈЦКІ НА МЫˈЛІ. Пратаргавацца. *Вяскоўцы пераказваюць з пакалення ў пакаленне, што колісь, яшчэ, як кажуць, пры паляках, быў такі чалавек з вёскі Кашары, які таргаваў мылам і прагарэў на гэтай справе. Ох, дочэнька, заробіш ты з гетымі поросятамі, бы Броцкі на мылі, давай мо я луччэй йіх на базар повезу.*

ЗАРЫˈЦЬ НОˈСОМ. Упасці. *Беглі мы крос, а я за нешчо зачэпіласа, да як зарыла носом, то думала не ўстану.*

ЗАТОˈБ НЕ ОТКАЧАˈЛІ. Яшчэ трохі і не змаглі б выратаваць. *Валя Маньчына залезла ўчора ў калхозны сад, да наелас зелёных яблык – то затоб не откачалі дохторкі.*

ЗБІЦЬ З ПАНТАЛЫˈКУ. Заблытаць. *Надзе, моўчы, а то збіла мене з панталыку, не знаю, шчо й сказаць хоцела.*

ЗБІЦЬ НА НЕТ. Пабіць кагосьці вельмі моцна. *Прыежджалі перэброццы, да як зловілі Воўчыка, то збілі на нет, усёй у сіняках ходзіць.*

З ВІДНАˈ ДО ВІДНАˈ. Усю ноч. *Так я з відна до відна й промучылас, ніяк не могла заснуць.*

З ГЛУ'ЗДУ З'Е'ХАЦЬ. Страціць магчымасць разумна разважаць. *Мото твой чоловек з глузду з'ехаў, то ж мы з йім договарваліс узаўтра по рыбу іці, а вон у Столін поехаў.*

З ГОЛОВЫ' ДО П'ЯТ ОБГЛЕ'ДЗЕЦЬ. Усё поўнасцю. *Зайдзеш у клуб у новом плацьйі, то обгледзяць з головы до п'ят.*

З ГОЛОВЫ' НЕ ВЫХО'ДЗІЦЬ. Непакоіць. *Нешчо ў мене ніяк з головы не выходзіць тэ, шчо вон сказаў, коб і праўду з жонкою не розвёўса, а тож вон можэ.*

З ДУ'БА ГЕ'ПНУЦЦА. Пра чалавека, які не ведае чагосьці, што ўсім даўно вядома. *Мото ты з дуба гепнуўса? То ж Валька ўжэ даўно замужом, ужэ й дзіця скоро будзе.*

ЗЛА НЕ ХВАТА'Е. Калі нехта вельмі злуецца. *У мене ўжэ на вас, цётко, зла не хватае. Одное говоркі, шчо про грошы, аж слухаць не хочэцца.*

З П'Я'ТОГО НА ДЗЕСЯ'ТЭ. Не па парадку расказваць. *Як начаў вон нам росказваць, як ездзіў у Сібір, а сама ж знаеш, шчо росказвае з п'ятого на дзесятэ, так мы і не понялі нічого.*

З РА'НКУ ДО ВЕ'ЧОРА. Увесь дзень. *Наш Валера проседзеў учора з кніжкою з ранку до вечора, нікуды й не вышоў.*

ЗРОБІ'ЦЬ ДО ТО'ЛКУ. Зрабіць добра. *От ужэ ж і невестка моёй сусецы попалас, ніяку роботу не можэ зробіць до толку.*

ЗУ'БЫ ЗАГОВО'РВАЦЬ. Адцягваць чыю-небудзь увагу ад чагосьці важнага. *Ты мне тут зубы не заговорвай, да кажы прамо, дасі на заўтра ровера ці не.*

З ХВАНАРО'М ХОДЗІ'ЦЬ. Мець сіняк пад вокам. *А чого то твоя жонка з хванаром ходзіць? Мото нейдзі напіўса ўчора да побіў?*

З ЦЕМНА' ДО ЦЕМНА'. Увесь дзень. *Учора як пошлі ўсе разом, то з цемна до цемна бульбу копалі, але, слава Богу, кончылі.*

І ВУХО'М НЕ ВЕ'СЬЦІ. Не рэагаваць. *Я його зову, зову, а вон і вухом не ведзе, прытворыўса, шчо не чуе.*

І ТАК, І СЯК. Рознымі спосабамі. *Я ўжэ і так, і сяк його ўговорвала, а вон сказаў не поеду і ўсё тут.*

І Ў ВУС НЕ ДУЦЬ. Не рэагаваць. *Другі б за гетые іздзевацельства даўно ўжэ Харыська збіў бы, а Воўчык і ў вус не дуне, стойіць собе, посмехаецца.*

КА'ЖНОМУ СЛО'ВУ ВЕ'РЫЦЬ. Верыць усяму. *А Петрыку шчо хоч кажы, вон будзе кажному слову верыць.*

КАЛЮГІ' ЗМЕ'РАЦЬ. Набраць у боты вады. *Мой малы ўчора калюгі як змераў, то цепер усёй дзень лежыць – і кашляе, і цемпература пыд сорок.*

КАПЦЭ' ПРЫШЛІ'. Пра смерць. *Учора як схопіло мене за серцэ, то думала, шчо капцэ прышлі, аж цепера трохі одлягло.*

КІ'НУЦЬ-РЫ'НУЦЬ (УСЁ). Пакінуць без догляду. *Глаўнэ ж сказало: подоглядай свіней, дай курам, а вона кінула-рынула ўсе, пошла на рэку!*

КЛЕ'ПКІ ЎСТА'ВІЦЬ. Правучыць. *Хай но вон шчэ раз прыдзе. Я ёму клепкі ўстаўлю, вон у мене і дорогу сюды забудзе.*

КЛЁВАЦЬ НО'СОМ. Драмаць. *Бачу, ужэ мой дзед носом клёваць начаў. Кажу, выключай ты гетого цілівізора да йдзі спаць.*

КОЛКО'М СТАЦЬ. Не згінацца. *Бывае, спіна колком стане – ні сесьці, ні ўстаці нельга, так і мучуса.*

КОМА'Р НО'СА НЕ ПЫДТО'ЧЫЦЬ. Не прыдрацца. *Віцё тобе такіе сані зробіць, шчо й комар носа не пыдточыць, сто год служыць будуць.*

КОПЫТЫ' ОТКІ'НУЦЬ. Памерці. *Учора до нас Славік прыходзіў, да як начаў анікдоты травіць, то я думала, шчо от смеху копыты откіну.*

КО'РКА ПОНЮ'ХАЦЬ. Выпіць водкі. *А шчо то, Петро, от цебе, бы от браговара несе? Мото ўжэ нейдзі корка понюхаў?*

КОСТОЧКІ' ПЕРЭМЫ'ЦЬ. Абгаварыць кагосьці. *Бывало, як ідом по чарніцы, то по дорозі перэмыём усе косточкі каждому, кого стрэном.*

КО'СЦІ ПОШЧЫТА'ЦЬ. Пабіць кагосьці. *Учора кавалеры з Перэброда прыежджалі, то нашые хлопцы ўсем йім косці пошчыталі.*

КРУГО'М ДВА'ЦЦАЦЬ П'ЯЦЬ. Выдатны ва ўсіх адносінах. *Скажы люцці по праўдзі: бачыла я Гальціну невестку – кругом дваццаць п'яць. Але ж Гальці ніколі не ўгодзіш.*

КРУЦІ'ЦЦА Ў ГОЛОВЕ'. Тое, што ў момант гаворкі забылася, але вось-вось успомніцца. *От круціцца ж у голове! О, успомніў! Жучкі ў вас на ожыны кажуць.*

КУЛАКІ' ЧЭ'ШУЦЦА. Жаданне пабіцца. *У мене ж кулакі зачэсаліс, як почуў, шчо вон сказаў.*

КУ'РАМ НА СМЕХ. Бяссэнсава. *Гета твоя говорка курам на смех.*

КУСА'ЦЬ СЕБЕ' ЗА ЛО'КЦІ. Перажываць. *Не зробіў так, бы казала, от цепер кусай сам себе за локці.*

К ЧОМУ'. З якой мэтай. *Ну і к чому ты гетого сцеклорэза купіў? То ж два е, йіх нам на ўсю жызнь хваціло б.*

ЛАПШУ' НА ВУ'ШЫ ВЕ'ШАЦЬ. Хлусіць. *Пецік йім лапшу на вушы вешае, а воны думаюць, шчо ж гето праўда, да ўсёму вераць.*

ЛЕДЗЬ НОГІ' ПРЫЦЯГНУ'ЦЬ. Вельмі стаміцца, ідучы. *Ой, мамо, і не пытайса, бо ледзь ногі прыцягнула. Коб знала, шчо так далеко йці, ніколі не пошла б.*

ЛЕ'ЗЦІ Ў ЧУЖЭ' КОРЫ'ТО. Умешвацца ў чужую размову. *Чого ты лезеш у чужэ корыто, мы і без цебе добрэ поговорылі.*

ЛЁГКІ НА ЎСПОМІ'Н. Той, які з'яўляецца ў момант размовы аб ім. *От ты, Манько, лёгка на ўспомін, а мы шчэно казалі, шчо попытаём у цебе, як ты гуркі садзіш.*

МАКСІ'МКОВА ГОЛО'ЎКА. Пра вельмі хітрага чалавека. *Некалі ў вёсцы жыў надта хітры чалавек ад прыроды. От Максімкова голоўка, гето ж трэба было таке прыдумаць: порубаў собе руку, шчоб у арміі не служыць.*

МА'ЛО КА'ШЫ ЕЎ. Пра слабога чалавека. *Ну, Петро, мало ты кашы еў, раз такого пенёчка пыдняць не можэш.*

МІР НЕ ПО'МНІЦЬ, СТРАНА' НЕ ЗНА'Е. *Ніколі такого не было. Такого хвалька, бы твой сусед, ужэ мір не помніць й страна не знала.*

МОЗО'ЛІЦЬ ВО'ЧЫ. Лайдакаваць. *Валік, не мозоль мне тут вочы, да йдзі сена корові скінь.*

МОЛОКО' НА ГУБА'Х НЕ ОБСО'ХЛО. Пра маладога, нявопытнага чалавека. *А ты мне тут не ўказвай, шчо робіць, у цебе шчэ молоко на губах не обсохло.*

МОЛО'ЦЬ ЕЗЫ'КОМ. Гаварыць пустое. *Эйбо, Олечка, не мелі езыком, да дай ціліві зора послухаць.*

НАВЫЛЁТ БА'ЧЫЦЬ. Вельмі добра ведаць кагосьці. *Слухай, я ж цебе навылёт бачу, не выкручвайса да кажы, шчо ты хоцеў.*

НА ГУ'ЛЬКІ ХОДЗІ'ЦЬ. Хадзіць на дыскатэку. *Гето ж Міколіна дочка шчэ зусем малая, а бач ты – ужэ на гулькі ходзіць.*

НАДУ'ЦЦА, БЫ МЫШ НА КРУПУ.' Пакрыўдзіцца. *Моя старая надулас, бы мыш на крупу, не хочэ й говорыць.*

НАЙШОЎ ХА'НЯ МА'НЮ. Пра падобных людзей. *Ну то ты поба на Паўлікового хлопца – сам хітры, а жонка ішчэ хітрэйша. Гето ж найшоў Ханя Маню!*

НА МОЙ РО'ЗУМ. На асабістае меркаванне. *Гето то не мое дзело, але на мой розум нікуды тобе перэежджаць не трэба.*

НА НЕТ. Дашчэнту, зусім. *Валька хоць бы суседоў ужэ постыдзілас, хозяйство свое на нет звела, дажэ курэй не покінула.*

НА НОЧ ГЛЯ'ДЗЯ. Позна вечарам. *Куды собіраешса, на ноч глядзя, малы шчэ ў клуб ходзіць.*

НА ОДЗІ'Н КОПЫ'Л. Падобныя. *У іхнёй сем'е ўсе дзеці на одзін копыл.*

НА ОДНО'Й НОЗЕ'. Хутка. *Бежы у магазін, сынку, да гледзі ж на одной нозе, бо мне трэба на роботу, а малого нема з кім оставіць.*

НА СВОЕ' ВО'ЧЫ. Непасрэдна сам. *Ганночка п'яць стограмовок выпіла, я на свое вочы бачыла, то ледзь дохаты пошла.*

НА СВОЮ' ГО'ЛОВУ. Сабе на турботы. *Ой, суседко, то ж узяла на свою голову доччыных дзецей, то ўжэ трэйці дзень не маю от йіх спокою.*

НЕ БА'БІНЭ ДЗЕ'ЛО. Не твая справа. *А ты чого ўмешваешся? Гето не бабінэ дзело! Без цебе розберомса, начальнік найшоўса*!

НЕ ГОВОРЫ' КУМА', БО Ў САМО'Е МУЖЫ'К П'ЯНІЦА. Калі ў самога такая ж бяда. *– От ужэ ж у мене спіна боліць, шчо зранку не суіхае. – Ой, не говоры кума, бо ў самое мужык п'яніца. Я думала, шчо ўчора зусем не ўстану – ге болела.*

НЕ ДАВА'ЦЬ ПРОХО'ДУ. Хадзіць за кім-небудзь следам, настойваць на чым-небудзь. *Не знаю, шчо й робіць, Віця ўжэ проходу мне не дае, кажэ, шчоб выходзіла за ёго замуж, а мне йшчэ ж тры годы вучыцца.*

НЕ ЛЕЗ ПОПЕ'РЭД БА'ЦЬКА Ў ПЕ'КЛО. Пра чалавека, які хоча быць усюды першым. *От не лезь поперэд бацька ў пекло, зразу я скажу, а потом мы добавім, як будзе шчо.*

НЕМА' ДУРНЫ'Х. Выказванне нязгоды. *Нема дурных! Раз людзі не йдуць на роботу, то і я не пойду. Сьято – то сьято для ўсех.*

НЕМА' Й ШЧО. Вельмі лёгка. *Поборонуй но мое соткі. Тобе ж на тракторы гето нема й шчо зробіць.*

НЕ НАХО'ДЗІЦЬ СОБЕ' МЕ'СТА. Вельмі непакоіцца. *Я тут собе места не нахожу, а вона як поехала, то не пішэ і не звоніць.*

НЕ ПОЧА'ТЫ КРАЙ (РАБОТЫ). Вельмі многа. *Не пойду я ні на які вечор, у мене шчэ роботы не початы край.*

НЕ СВОЙІ'М ГО'ЛОСОМ. Ненатуральна крычаць. *Чую, нехто крычыць не свойім голосом. Я як выбегла з хаты, аж бачу, бык за некім жэнецца.*

НЕ ЎСЕ ЎДО'МА. Прыдуркаваты. *У цебе точно не ўсе ўдома, раз ты дзешово продала поросята.*

НЕХ ТОБЕ' КОШ І РЫБА! Вокліч з выпадку нечага нечаканага. – *Ой, учора перэходзіла канаву да чуць не ўтопіласа. – Нех тобе кош і рыба! То ж трэба было дзівіцца!*

НЕ ЦЕПЕ'Р, ТО Ў ЧЭЦВЕ'Р. Калі-небудзь, не ў далёкім будучым. *Ну нічого, попомніць вон мене! Не цепер, то ў чэцвер, а я ёму тым жэ самым отплачу.*

НЕЧЫ'СТАЯ СІ'ЛА. Пра чорта. *От жэ і не праўда! Моя баба казала, шчо нечыстая сіла ў лозе або ў болоці жыве.*

НІ БО'ГУ СВЕ'ЧКА, НІ ЧО'РТУ КОЧЭРГА'. Штосьці недарэчнае. *Ну ты й граблі зробіў, ні Богу свечка, ні чорту кочэрга.*

НІ ЖЫВЫ' НІ МЕ'РТВЫ. Аслупянелы ад страху. *Стойіць бачу моя Таня ні жыва ні мертва, гето так тое гадзюкі злекалас, ніколі ж до того не бачыла.*

НІ ЖЫЦЬ НІ БЫЦЬ. Пра вельмі цяжкае самаадчуванне чалавека. *Ой, суседко, ужэ мне ні жыць ні быць, так последніе дне голова боліць, шчо не знаю, шчо й робіць.*

НІ З ТОГО НІ З СЁГО. Без дайпрычыны. *Ну да як жэ ты не знаў? То ж учора начали ні з того ні з сёго спорыць, посварыліса да не говораць.*

НІКО'ЛІ НЕ ПРОСЫХА'ЦЬ. Быць заўсёды п'яным. *Мікола Надзін ніколі не просыхаў, то й умёр рано, годоў сорок п'яць ёму было.*

НІКО'ЛІ РОТ НЕ ЗАКРЫВА'ЕЦЦА. Пра чалавека, які любіць пагаварыць. *У твого суседа, мабыць, ніколі рот не закрываецца, колі ні побачу ёго, то вон з некім говорыць.*

НІ К СЕЛУ' НІ К ГО'РОДУ. Зусім не да месца. *Нашчо ты гетэ плацье надзела, воно ж тобе ні к селу ні к городу.*

НІ КУЕ'ЦЦА НІ ПЛЕ'ШЧЭЦЦА. Не шанцаваць. *Жывуць жэ людзі – і сем'ю маюць, і хозяйство, а мне нешчо ні куецца ні плешчэцца – ніяк не ожэнюса.*

НІ СЕ'ЛО НІ ПА'ЛО. Без прычыны. *А чого ты крычыш ні село ні пало! Мото зноў з свойім посварыласа?*

НІ СОБЕ' НІ ЛЮ'ДЗЯМ. Зусім не падходзіць. *І куды ўжэ вона дзівілас, купіла пальто ні собе ні людзям.*

НІ ТЭ НІ СЕ. Пра хваравітага чалавека. *Іхняя серэдняя дочка зусем жэ нешчо ні тэ ні се, ніяк не вылегчыцца.*

НІ ХА'ТЫ НІ ЛОПА'ТЫ. Не мець нічога. *Дочэнька, вон тобе не пара, у ёго ж ні хаты ні лопаты, як жэ ж ты з йім жыць будзеш.*

НІ ХО'ЛОДНО НІ ЖА'РКО. Зусім не хваляваць кагосьці. *А мне от твого багацця ні холодно ні жарко. По мне можэш хоць у золоці купацца, мне ўсё раўно.*

НІ ЧУ'ТКІ НІ СЛУ'ХУ. Не мець пра кагосьці звестак. *А мой хлопец нейдзі на Камчацці служыць, то ўжэ тры месяцы ні чуткі ні слуху.*

НІШЧО' СОБЕ'. Някепскі, добры. – *Як жывеш? – Нішчо собе. А жэніх Ольчын нішчо собе: высокі, шырокоплечы да й з віду хорошы.*

НІЯ'КІЕ ПРА'НЦЫ НЕ БЕРУ'ЦЬ. Нічога не здараецца ні з кім; не прапасці. *Нічого, поездзіць да й вернецца, ніякіе пранцы ёго не возьмуць.*

НІЯ'К НЕ ДАЙСЦІ'. Пра чалавека, які не можа штосьці зразумець. *Казала, казала я Йванку як до вакзала дойці, а до ёго ніяк не дойдзе, прышлоса разом з йім іці.*

НО'СОМ ХЛЮ'ПАЦЬ. Ціха плакаць. *Сама віновата і нема чого мне тут носом хлюпаць.*

НУ А ЯК ЖЭ Ж! Пацверджанне: але, так. – *Мамо, да гето праўда, шчо цепер сьято веліке? – Ну а як жэ ж! Хіба не чуеш, шчо ў цэркві звоняць?*

ОБОЕ́ РАБОЕ́. Пра падобных людзей. *І не крычэце, і не сварэцеса, бо обое рабое. Ні одзін з вас не луччы.*

ОДДА́ЦЬ БО́ГУ ДУ́ШУ. Памерці. *Маці Зоніна такая не хворая была, мучылас-мучылас да такі ўчора оддала Богу душу.*

ОДНЫ́Е ВО́ЧЫ ТОРЧА́ЦЬ. Пра вельмі худога чалавека. *Прывезлі мы нашу Галю з больніцы, а ў ее одные вочы торчаць, думала, не откормлю.*

ОДНЭ' ПЕ́РЭД ОДНЫ́М. Выслужвацца перад кім-небудзь. *Учора некі начальнік прыежджаў, то дзірэктор з прыдседацелём однэ перэд одным келе ёго ходзілі.*

ОД РУК ОДБІ́ЦЦА. Пра непаслухмянае дзіця. *Наш Іван зусем од рук одбіўся, нікого не слухае, кром бацька.*

ОД СЕ́РЦА ОДЛЯГЦІ'. Супакоіцца. *Як сказала дохторка, шчо бацьку лучч стало, так у мене од серца і одлягло, думаю, слава Богу, шчо хоць жывы остаўса.*

ОНО' П'Я́ТКІ СВЕРКА́ЮЦЬ. Пра чалавека, які вельмі хутка ўцякае. *От мы ўцекалі от вашого собакі, оно п'яткі сверкалі.*

ОТКОЛО́ЦЬ ШТУ́КУ. Зрабіць штосьці незвычайнае. *Чулі, еку Арцё штуку отколоў? Збіў Дзядзя, шчо затоб не ўратовалі.*

ОТ ТОБЕ' І НА! Вокліч з выпадку нечага нечаканага, выказванне здзіўлення, расчаравання. – *Узаўтра поеду бабу свою проведаць. – От тобе і на! А я думала, шчо з'агіціруюцебе по грыбы.*

ОЎЧЫ́НКА ВЫ́ДЗЕЛКІ НЕ СТО́ЙІЦЬ. Нявыгадна. *То, браце, оўчынка выдзелкі не стойіць! Луччэй я гетого бычка выгодую, да ў калхоз здам, то хоць грошы мець буду. Не, не продам я тобе ёго за столькі!*

ПО ВЕ́ТРУ ПУСЦІ́ЦЬ. Растраціць (грошы, багацце). *Коб знала, шчо воны тут без мене ўсе, шчо мела, по ветру пусцяць, то не допусціла б гетого.*

ПО ВУ́ШЫ. Вельмі многа. *Прыходзь до мене, я тобе сколькі хоч укропу дам, у мене гетого добра по вушы.*

ПОПА́Ў У ВОРО́НЫ, ТО КРАЧ Я ВО́НЫ. Калі выйдзеш замуж (жэнішся), то мусіш прытрымлівацца звычаяў сям'і мужа (жонкі). *Ой, дочэнька, попаў у вороны, то крач як воны. Зразу будзе вашко, а потом прывыкнеш.*

ПОПЛЕ́СКАЦЬ ЕЗЫ́КОМ. Сказаць штосьці незразумелае. *Прышла до мене кума да нешчо як поплескала езыком, то шчэ й цепер ніяк не розберус, шчо вона хоцела.*

ПО́ЎНЫ БЫ О́КО. Роўна з берагамі пасудзіны. *Наліла кварту молока поўную, бы око, як жэ я піць буду, то ж розолью.*

ПО ЎСЁМУ СЕЛУ' РОЗНЕ́СЦІ. Усім расказаць. *Да оно ж не кажы нічого куме, бо та по ўсёму селу рознесе, кажному похваліцца.*

ПРОПА'СЦІ ПРО'ПАДОМ. Зломоўнае пажаданне. *Пропадзі вона пропадом тая бульба! Як мне ўжэ надоело ее перэбіраць!*

ПРЫ ЦАРУ' ГОРО'ХУ. Вельмі даўно. *Ой, колі гетэ было! Шчэ неколі пры цару Гороху, мне тоды было столькі, бы зара мойму ўнуку.*

ПРЫЧЭПІЦЦА, БЫ РАК ДО БЕ'РЭГА. Хадзіць следам за кім-небудзь. *А чого ты прычэпіўса до мене, бы рак до берэга, можэ я не хочу, шчоб ты мене проводзіў!*

ПЫД БЕРЭЗЫ' ПОЙЦІ'. Памерці. *Скоро і я ўжэ пыд берэзы пойду, хваціць, пожыла свое.*

ПЫД ГАРА'ЧУ РУ'КУ. У хвіліну злосці. *Ты не зліса, бо ж перэд гетым маці на мене крычала, а тут ты пыд гарачу руку попаласа, то тобе й досталос.*

ПЫД НО'СОМ. Вельмі блізка. *Ну то ты поба, жыве пыд носом і ні разу не зашла до мене.*

ПЫДНЯ'ЦЬ НА СМЕХ. Абсмяяць. *Не буду я Вальцы таке казаць, вона ж не поймя, оно на смех пыдніме.*

ПЫДПІРА'ЦЬ ПЛЕЧАСМІ. Стаяць каля плота і бяздзейнічаць. *І як вам не стыдно, Васіль ледзь того мешка несе, а воны пыдперлі плечамі плота да стояць, хоць бы одзін помог.*

ПЫД РУКО'Ю. Каля сябе. *Положы ножніцы дзе-небудзь пыд рукою, воны мне шчэ трэба будуць.*

РАДЫ' Ў ГОДЫ'. Вельмі рэдка. *Да трохі часцей прыежджайце, а то рады ў годы. А мне ж ужэ не так багато й жыць осталоса.*

РАЗ ПЛЮ'НУЦЬ. Вельмі лёгка. *Вон коб оно захоцеў, то зробіў бы. Ему ж гето раз плюнуць.*

РАЗ У ГОД І КОЧЭРГА' СТРЭЛЯ'Е. Падобнае можа здарыцца з кожным. *Звычайна ў апраўданне чыйго-небудзь учынку. – Воўчык жэ ж раней не піў. – Раз у год і кочэрга стрэляе.*

РОЗРЫВА'ЦЦА НА РОБО'ЦІ. Вельмі многа працаваць, не шкадуючы сябе. *Ганька без мужыка дзецей годовала, аж розрываласа на той робоці, але усех хлопцоў свойіх у людзі вывела.*

РОЗЬЕ'СЦІСА ЯК СВІНЬЯ' НА М'ЯКІ'НІ. Разбагацець за кошт другіх людзей. *Гетой Цырык розьеўса, як свінья на м'якіні, да думае, шчо ніхто про ёго махінацыі не знае.*

РОЗЯ'ВІЦЬ ШАЙНЮ'. Моцна крычаць. *Учора Олесь як розявіў шайню, то мо за тры кілометры чутно было.*

РОСКІ'НУЦЬ МОЗГА'МІ. Напружана думаць; шукаць выйсце. *Села я, да як роскінула мозгамі – бачу непраўду вона мне сказала. Як роскіну я мозгамі – нічого не выходзіць, не знаю, шчо й робіць.*

РУ'КІ НЕ ДОХО'ДЗЯЦЬ. Не было часу штосьці зрабіць. *А я даўно ўжэ хоцела свого двора прыбраць да ўсе нек рукі не доходзяць, то ўзаўтра прыберу.*

РУКУ' НАБІ'ЦЬ. Мець вопыт. *Послухай луччэй, шчо Олесь скажэ, вон на гетом дзелі руку набіў.*

СА'МЫ РАЗ. Падходзіць. *Гетые тухлі тобе самы раз, купляй, не роздумваючы.*

СВІНЬЕ' ПО КОЛЕ'НО. Вельмі малы. *Ну то ты поба на Міхалка, як так то свіньє по колено ледзь достане, а жонкою командуе як хочэ.*

СВОЙ РО'ЗУМ НЕ ЎСТА'ВІШ. Не прымусіш думаць каго-небудзь так, як сам думаеш. *Вон і слухаць не хочэ, шчо ты ёму кажэш, а свой розум жэ ж не ўставіш.*

СЕДЗІ'ЦЬ БЫ МЫШ ПЫД МЕТЛО'Ю. Вельмі ціха. *Учора так бліскало, шчо мое малые, бы мышы пыд метлою седзелі, гето так грому бояцца.*

СЕМЕ'Н БА'БІ РО'ДНА ЦЁТКА. Вельмі дальняя радня. – *Я й не знаў, шчо вы свое! – Ой, еке там свое – Семен бабі родна цётка, але ж наш род малы, то шчытаецца, шчо свое.*

СЕ'РЦЭ КРО'ЙІЦЬ. Мучыць. *За шчо ты мне серцэ кройіш? Хіба я віновата? Ты ж сама за ёго йці хоцела.*

СЕ'РЦЭ НЕ НА МЕ'СЦІ. Трывожыцца. *Ой, нешчо ў мене серцэ не на месці, коб хоць у дочкі ўсе добрэ было.*

СЕ'РЦЭ Ў П'ЯТКІ ЎСКО'ЧЫЛО. Ахапіў страх. *А ты не злекаўса б? У кого хоч серцэ ў п'яткі ўскочыло б.*

СЁМАЯ ВОДА' НА КІСЕЛЕ'. Вельмі дальняя радня. *Ой, якая мы родня – сёмая вода на кіселе, але ж раз ужэ позвалі, то мусіш іці.*

СКАЖЫ' ДУ'РНЮ МОЛІ'ЦЦА, ТО ВОН І ЛО'БА РОЗОБ'Е'. Пра залішне руплівага чалавека, які толькі шкодзіць справе. *Ой, скажы дурню моліцца, то вон і лоба розоб'е! Я ж тобе казала оно одные граблі ўзяць. Нашчо ты трое прывёз?*

СКАЗА'ЦЬ ПО ПРА'ЎДЗІ. Чэсна сказаць. *Сказаць по праўдзі, то я не вельмі хоцела ехаць на тэ веселье, але ж прышлоса.*

СЛО'ВА НЕ ВЫ'ЦЯГНУЦЬ. Пра маўклівага чалавека. *А Міколішчэ ці п'яны, ці цьверозы – зроду моўчыць, з ёго ніколі слова не выцягнеш.*

СОБІРА'ЦЦА БЫ НА АЛЬМА'НСКЕ ВЕСЕ'ЛЬЕ. Вельмі доўга збірацца. *Эйбо скорэй, а то собіраешса бы на ольманске веселье, мы і так ужэ опаздваём.*

СОЛОЎЁМ ЗАЛІВА'ЦЦА. Выхваляцца перад кім-небудзь. *А чого ты тут солоўём заліваешса? Мы й так знаём, шчо ты за пташка!*

СОРО'КІ ЎХО'ПЯЦЬ. Пра чалавека, які вельмі доўга ўмываецца. *Ходзі скорэй, хваціць ужэ ўмываласа, а то сорокі ўхопяць.*

СПАЦЬ І БА'ЧЫЦЬ. Марыць пра штосьці. *А Палагейка спіць і бачыць, шчо ее Колік брыгадзіром будзе.*

СПОКО'Н ВЕКО'Ў. Спрадвечна. *Гетой дуб спокон векоў тут стойіць, нашчо ёго зрубваць, хай росце.*

СТАЯ'ЦЬ НА ГОЛОВЕ'. Паводзіць сябе непаслухмяна. *Думаеце, раз бацька нема, то ўжэ й на голове стояць можна? Пождҗэце, хай но вон прыедзе, то быстро ўспокойіцеса!*

СТРО'ІЦЬ З СЕБЕ' ЧОРТ ЗНА'Е ШЧО. Вельмі ганарыцца. *У том годзі Сашо поступіў у інсціітут, то ўжэ стройіць з себе чорт знае шчо.*

СТУ'КНУТЫ МЕШКО'М З-ЗА ВУГЛА'. Прыдуркаваты. *Гетой Васіль точно мешком з-за вугла стукнуты. Ці ж нормальны чоловек побіў бы так свою жонку?*

СУ'НУЦЬ НО'СА. Умешвацца ў што-небудзь. *Гетой Уркель зроду ўсуне свого носа, куды не трэба.*

СУШЫ'ЦЬ ДО'СКІ. Чакаць блізкай смерці. *Ну ўсё, бабо, сушэце доскі. Раз Ганулька ўмерла, то й вам не доўго ждаць осталоса. Вона там без вас і тыжджэнь не выдзержыць.*

СУШЫ'ЦЬ ЗУ'БЫ. Смяяцца. *А шчо воны ў нідзелю робяць? Соберуцца да цэлы дзень зубы сушаць – от і ўся йіх робота.*

СЦЯ'ЎШЫ ЗУ'БЫ. Цярпліва, праз сілу. *А шчо ты ёму зробіш? Вон ужэ такім ўрэдным і останецца. Онь учора, дзед ёго лупіць папругою, а вон моўчыць сцяўшы зубы, дажэ й не заплакаў.*

СЯК-ТАК. З цяжкасцю. *Мы свою бульбу сяк-так кончылі ўжэ копаць, але ж іщчэ бабіну трэба кончыць.*

ТАРАБА'НІЦЬ НАД ВУ'ХОМ. Балбатаць. *Эйбо, не тарабань мне тут над вухом, да йдзі лучч мацеры поможы.*

ТЛУМІ'ЦЬ ГО'ЛОВУ. Дакучаць камусьці. *Вы мне своею чытаніною ўжэ голову затлумілі. Ідзеце лучч на вуліцы пограйце.*

ТРЭ'БА, БЫ СОБА'ЦЦЫ П'Я'ТАЯ НОГА'. Зусім не патрэбна. *Трэба ёму той матацыкел, бы собацы п'ятая нога, але ж купіў.*

ТУМАКО'Ў НАДАВА'ЦЬ. Пабіць кагосьці. *Не знаю шчо й робіці, зяць дочцэ такіх тумакоў надаваў, шчо чуць у больніцу не положылі.*

ТЫМ ЧА'СОМ. Неўзабаве. *Тым часом прыбегае Міхель да кажэ, шчо праўда шчо Жар прыехаў.*

У ВО'ЧЫ. Адкрыта. *Ты ёго не слухай, бо ж вон зроду ў вочы однэ кажэ, а за вочы зусем друге.*

У ЗЛО ЎВЕ'СЬЦІ. Раззлаваць каго-небудзь. *От мы цепер Бобіча ў зло ўвелі, думалі, шчо позабівае нас своею ўказкаю. Мы й не хоцелі ёго зліць, але ж сам напросіўса.*

УЗЯ'ЦЦА ЗАТРУДКІ. Задзірацца, даходзіць да сутычкі. *А воны слово за слово, да як узяліса загрудкі, то коб хлопцы не пыдоспелі, то там добра бойка была б.*

У КАРМА'НАХ ВЕЦЁР СВІ'ШЧЭ. Пра адсутнасць грошай. *Я б тобе позычыла, але ж у самое ў карманах вецёр свішчэ, коб хоць хваціло до получкі.*

У ОДЗІ'Н МІГ. Вельмі хутка. *Шчоб ты мне у одзін міг сено згроб, бо онь хмара вышла. Шчэ дождж пойдзе.*

УСТАЎЛЯ'ЦЬ СВОЕ' П'ЯЦЬ КОПЕЁК. Умешвацца ў чужыя справы. *Вы, цётко, луччэй помоўчалі б, як нічого не понімаеце, а то везьдзе свое п'яць копеёк уставіце.*

ХОЦЬ БЫ ХНЫ. Усё роўна. Дзіця ўсе аж горыць, а ёму хоць бы хны, седзіць собе спокойно, газеты почытвае.

ХОЦЬ ВЫКРУ'ЧВАЙ. Вельмі мокры. *А моя ж Наташа попала пыд дождж, да прышла дохаты, хоць ты ее выкручвай.*

ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ'. Вельмі многа. У мене гетого бобу было хоць гаць гаці, але ж пороздавала людзям, то зара коб хоць собе хваціло посадзіць.

ХОЦЬ КОСО'Ю КОСІ'. Вельмі многа. *Тым годом у лесі грыбоў было хоць косою косі.*

ХОЦЬ СТОЙ, ХОЦЬ ПА'ДАЙ. Пра штосьці недарэчнае. *Мой Сергей як зробіць шчо, то хоць стой, хоць падай! Гето ж узяў да покрасіўса у рыжы цвет.*

ХОЦЬ ТРАВА' НЕ РОСЦІ'. Усё роўна. *Дзіця хворэ, а ёй хоць трава не росці, собралас да на базар поехала.*

ХОЧ НЕ ХОЧ. Вымушаны. *Хоч не хоч, а робі, бо сем'ю корміць трэба.*

ЧОРТ НО'ГІ ЗЛА'МНЕ. Пра непарадак. *У гетой хаці чорт ногі зламне, ніколі не найдзеш шэ, шчо трэба.*

ЧОРТ НО'СІЦЬ. Бадзяцца невядома дзе. *І дзе цебе чорт носіў цэлы дзень, я ўжэ думала шчо й ночоваць не прыдзеш.*

ЧО'РТОВЭ КО'ДЛО. Пра нягоднікаў. *От, чортовэ кодло, я ж сказала вам седзець ціхо, а вы шчо робіце.*

ЧУЦЬ ШЧО. Як толькі штосьці здарыцца. *Да гледзі ж, чуць шчо – то прыезджай до нас.*

ЧУ'ЧАЛО ГОРО'ХОВЭ. Пра неахайнага чалавека. *Маці то маці, ну а дочка – то неке чучало горохове.*

ЧЫН ЧЫНАРО́М. Вельмі добра. *Мы прыехалі дохаты чын чынаром, на машыні.*

ШАРЫ́КІ ЗА РО́ЛІКІ ЗАСКО́ЧЫЛІ. Пра страту магчымасці разумна разважаць. Мото ў цебе шарыкі за ролікі заскочылі, шчо ты не бачыш куды йдзеш.

ШЧЭ́РЫЦЬ ЗУ́БЫ. Смяяцца, рагатаць. *Люцкіе дзеці ўжэ даўно на полі, а воны ўсе тут зубы шчэраць.*

ШЫЦЬ-БЕЛІ́ЦЬ – УЗА́ЎТРА ВЕЛІ́КДЗЕНЬ. Работы многа, а часу мала. – *От тобе роботы з гетым весельём! – Не кажы, шыць-беліць – узаўтра Велікдзень, коб хоць успець усе зробіць.*

ШЫ́Ю НАМЫ́ЛІЦЬ. Насварыцца. *От мне маці ўчора шыю намыліла за тэ, шчо позно прышла.*

ЯК БАЧ. Хутка. *Прыходзь до мене, я тобе плацье як бач пошыю.*

ЯК ЗАЎЯЗА́ЦЬ. Вельмі поўна. *А грэчкі ўжэ ж усыпала ў торбу як заўязаць.*

ЯК МАЕ БЫЦЬ. Як павінна быць. *А мне мой малы от помагае! Як мене не мае ўдома, то ўжэ ўсе як мае быць по хозяйству поробіць.*

ЯК НОЧ, ТАК ДЗЕНЬ. Усё роўна. *Ему як ноч, так дзень, нап'еуца да спіць, а ці е ў хаці грошы, ці нема – ёго не інцерэсуе.*

ЯК ПЕНЬКА́ НІ ОДЗЕВА́Й – ЯК БЫЎ ПЕНЬКО́М, ТАК ПЕНЬКО́М І ОСТАНЕ́ЦЦА. Пра бесталковага чалавека. *Ой, дочэнька, не ў гэтом шчасьце. Поба на Чувашку: багата, і одзета у усём імпортном, але ж як пенька ні одзевай – як быў пеньком, так пеньком і останецца.*

ЯК ШОЎКО́ВЫ. Пра паслухмянага чалавека. *Я твого мужыка так выдрысіровала б, шчо вон у мене як шоўковы стаў бы.*

*А.А. Босак*

# НАРОДНЫ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК ВЕРХНЯЯСЕЛЬДСКАЙ ГАВОРКІ

Верхняясельдская гаворка, якая адносіцца да сярэднебрэсцкіх заходнепалескіх гаворак, распаўсюджана ў цэнтры і на ўсходзе Пружанскага раёна, у паўночна-заходняй і часткова цэнтральнай (на поўдзень ад г. Бярозы) частках Бярозаўскага раёна Беларусі. Да гэтага тыпу адносяцца таксама традыцыйная гаворка г. Лунінца Брэсцкай вобласці, а таксама гаворкі некаторых сёл, размешчаных на ўсход ад г. Нарава ў Падляшскім ваяводстве Польшчы [1-5].

За аснову народнага фразеалагічнага слоўніка верхняясельдскай гаворкі ўзяты фразеалагізмы, запісаныя аўтарам у вёсках Смаляніца і Піняны Пружанскага раёна. Пры перакладзе на беларускую літаратурную мову асобных фразеалагізмаў былі выкарыстаны адпаведныя фразеалагічныя слоўнікі [6, 7].

БІ'ЦІ БІ'НДЗІКІ. Нічога не рабіць (лынды біць). *А шо за'рэ Юра ро'біт? – Ніц, бі'ндзікі б'е.*

БОЛЬШ ЯК НІЦ. Вельмі мала, нязначна. *Ты сого'ні за цэ'лы дэнь зробі'ў больш як ніц.*

БЫ ЖА'БУ З'ЕЎ. Выглядаць неяк нязвыкла, маўкліва (як мыла з'еўшы). *Шо ты моўчы'ш, бы жа'бу з'еў?*

БЫ НА ЗАРВА'НСКОЙ ГУ'ЛІЦЫ. У беспарадку. *У тэбэ', Ганна, у ха'ці бы на зарва'нской гу'ліцы.*

БЫ НА ЗА'ЎТРЭЙ. Рабіць што-небудзь вельмі марудна. *Ты не'шо збіра'ешса ў школу бы на за'ўтрэй.*

БЫ ТЭЛЯ'. Нясмелы, сарамлівы. *Ну і чого' ты моўчы'ш бы тэля'?*

ВОЎК ТЭБЭ' ЗНА'Е (ВОЎК ЁГО' ЗНА'Е). Не ведаю, не маю ўяўлення (чуць не чуў і бачыць не бачыў). *Ты нэ ба'чыў, куды' Якім пое'хаў? – Воўк ёго' зна'е.*

ВЭРО'ЎКОЮ ХЛЕБ РЭ'ЗАЦІ. Пра некультурнага, адсталага чалавека ці людзей (аборай хлеб кроіць). *У ва'шом сэле' ешы' хлеб вэро'ўкою рэ'жут.*

ГОВО'РЫТ, ШО СЛІ'НА ГУ'БІ ПРЫНЭСЭ'. Гаварыць абы-што (рабой кабыле сон расказваць). *Твой кум гово'рыт за'ўшэ, шо слі'на гу'бі прынэсэ'.*

ГУ'РТОМ І БА'ЦЬКА ДО'БРЭ БІ'ЦІ (прымаўка). Любая праца лепш робіцца талакой. *Учо'ра у штыро'х мы ма'мэньт бу'льву пэрэбра'лі. Дзі'во шо, гу'ртом і ба'цька до'брэ бі'ці.*

ГЭ'ТО НЭ СОБЕ'. Працаваць не вельмі старанна (стук, грук, абы з рук). *Ты, Міхаль, бы нэ собе' сёго'ні цэ'лы дэнь ро'біш.*

ДАЙ БОГ ТЭЛЯ'ЦІ ВО'ЎКА ПОЙНЯ'ЦІ (прымаўка). Няхай усё спраўдзіцца, няхай будзе ўсё як найлепш.

ДЗЕ'ДУ, СЭЛО' ГОРЫ'Т, А Я Ў ДРУГОЕ' ПОЙДУ'. Усё роўна (гары яно гарам).

ДЗЕ ПХНЭШ, ТАМ І ЗЛЕ'ЗЭШ (ДЗЕ ЗАЛЕ'ЗЭШ, ТАМ І ЗЛЕ'ЗЭШ) Пра чалавека, на якога нельга разлічваць (ні сюды, ні туды, мае мілыя дуды). *На тобе', Хвэдор, дзе зале'зэш, там і зле'зэш.*

ДУ'ЦІ ГУ'БЫ (НАДУ'Ў ГУ'БЫ БЫ ТРУ'БЫ). Крыўдзіцца (дзьмецца як не парвецца). *Ну ла'дно, нэ дуй ты больш гу'бы, куп'ю' я тобе' ту'ю су'мку.*

ДЫ'БАЛА Я. Мне ўсё роўна. *Да ды'бала я на ўсэ – вон нэ хо'чэ, ну і мне нэ трэ'ба.*

ЖА'БА ДУ'ШЫТ. Зайздройсціць. *І чого' тэбэ' жа'ба ду'шыт цэ'лы вэ'чор?*

ЗАЗНА'ЦІ ГО'РА. Гараваць. *Ну і зазна'ла Рыпі'на го'ра з трыма' дзе'цьмі по'слі смэ'рці господара'.*

ЗБІ'ЦІ З ПАНТАЛЫ'КУ. Падмануць, у тым ліку і выпадкова (з толку збіваць). *Ну вон мэнэ' ўчо'ра і збіў з панталы'ку.*

ЗНА'ЦІ БЫ ОБЛУ'П'ЯНОГО. Добра ведаць. *Да я тэбэ' зна'ю бы облу'п'яного.*

КЛЕ'ПКІ Ў ГОЛОВЕ' НЭМА'. Дурны, неразумны чалавек, які да таго ж не адказвае за свае ўчынкі (дурань малёваны, сечкай галава напхана). *У тэбэ' зусі'м кле'пкі ў голове' нэма'.*

КОБ НА ТЭБЭ' ВО'ДУ ГРЭ'ЛІ. Найчасцей ужываюць жанчыны пры сварцы; тое ж самае, што і "каб ты памёр" (ваду падаграваюць, каб абмыць памерлага).

КОБ НА ТЭБЭ' ЛО'ЗЫ НАШЛІ' (КОБ З ТЭБЭ' ДУХ ВЫ'БЭГ; КОБ ТЫ ГОЛО'ЎКІ НЭ ПОВЕ'ДАЎ; КОБ ТЫ СЕЎ НА ГАРА'ЧЫ КА'МЭНЬ; КОБ ТЫ НЭ ДОЖДА'Ў; КОБ ТЭБЭ' ГРОМ ПОБІ'Ў; КОБ ТЭБЭ' ПЭРУ'Н ПОБІ'Ў ДА ПОТРЭПА'Ў; КОБ ТЭБЭ' РОСПЭРЛО'; КОБ ТЭБЭ' РЭЗА'НКА ЗАРЭ'ЗАЛА). Ужываюцца пры сварках (каб табе дабра не было).

КРУПЫ' ДРА'НЫ, ХЛЕБ ЛАМА'НЫ. Жыць спакойна, на ўсім гатовым. *До'брэ ўжэ Марылі; вы'годовала дэтэ'й, а за'рэ жывэ' ў дочкі', крупы' дра'ны, хлеб лама'ны.*

КРЫШКІ' ПОБРА'Ў. Быць вельмі падобным на сваіх бацькоў (адзін у адзін). *Уляна ўсе крышкі' з ма'тэры побра'ла.*

КРЫ'ШКІ Ў РО'ЦІ НЭ БЫЛО'. Нічога за працяглы час не з'есці (ні расінкі ні каліва ў роце). *У мэнэ' со'ні за цэ'лы дэнь і кры'шкі ў ро'ці нэ было'.*

КУРЧ УЛЕ'З. Дранцвенне (зацяканне) рукі ці нагі. *Чого' ты гэ'так ідэ'ш? Курч у но'гу ўлез.*

ЛАСКА'ВЭ ТЭЛЯ'ТКО ДВЕ МА'ТКІ ССЭ, А БОДЛІ'ВЭ НІ ОДНУ' (прымаўка). Калі чалавек добры і спагадлівы, яму заўжды дапамогуць, а калі дрэнны ды злы – ён нікому не патрэбен (добраму чалавечку добра і ў запечку, а ліхаце дрэнна і на куце).

ЛЕ'ЗЦІ Ў ШКО'ДУ. Рабіць штосьці дрэннае. *І чого' ты за'ўшэ ў шко'ду ле'зэш?*

МАЙ, ГОНІ' ВОЛЫ' Ў ГАЙ, А САМ НА ПЕЧ УТЭКА'Й (прымаўка). У травені часам бывае вельмі холадна.

МАРА'ТЫ (ЗАМУ'ЛЯНЫ) БЫ КО'МІН. Неахайны, брудны (комін у хаце заўжды чорны). *Ты, Ігнат, сёго'ні заму'ляны і мара'ты бы ко'мін.*

МА'ЦІ ПОРВЭ' ПА'ЗУХУ ДЗЕ'ЦЯМ ХАВА'ЮЧЫ, А ДЗЕ'ЦІ ПОРВУ'Т ПА'ЗУХУ ОД МА'ТЭРЫ ХАВА'ЮЧЫ (прымаўка). Маці ўсё для сваіх дзяцей зробіць, а дзеці часам забываюцца пра бацькоў.

НАБІ'ЦІ КІ'ШКУ. Пад'есці многа, але абы чым (часцей за ўсё ўжываецца ў негатыўным сэнсе). *Тобе', Макар, оно' кі'шку набі'ці; про друго'е ты і нэ ду'маеш зусі'м.*

НАШО'Ў СОКЕ'РКУ ПОД ЛА'ЎКОЮ. Сказаць тое ці даць параду, што і так усім вядома (у зубах люльку знайсці). *Ну ты і нашо'ў соке'рку под ла'ўкою.*

НІ ЦЫБУ'ЛЬКІ НІ ЎКРЫШЫ'ЦІ. Жыць бедна (ні скарынкі ні саланінкі). *У гэ'тых Макаро'вых ніко'лі ў ха'ці нэма' ні цыбу'лькі ні ўкрышы'ці.*

НО'СА НЭ ЎБІ'ЦІ (НЭ ВОТКНУ'ЦІ). Цесна, мала месца (цесна як у бочцы). *На вэсе́лі ў ха́ці но́са нэ было́ куды́ ўбі́ці.*

НЭ БЭРЭ'ЦЦА ЗА ХОЛО'ДНУЮ ВО'ДУ. Гультаяваты чалавек (палец на палец не пакласці). *Чого' ты да'жэ за холо'дную во'ду нэ бэрэ'шса?*

НЭ ВЫДУРНЯ'ЙСА. Не сваволь, не дурэй. *Дзе'ці, нэ выдурня'йтэса ве'тэ больш.*

НЭ ДОКА'ЗВАЙ ШТУК. Не гавары (не рабі) абы-чаго. *Хва'ціт, нэ дока'звай ты больш нія'кіх тут штук.*

НЭ КОПЫ'ЛЬСА. Не надувайся як індык (надзьмуўся як індык). *Ну ла'дно, сыно'к, нэ копы'льса ты больш.*

НЭМА' ГУ'ЗА Ў ЛО'БІ. Дурны, неразумны чалавек, які да таго ж не адказвае за свае ўчынкі (чысты дурань, алею мала ў галаве). *Нэма' зусі'м у тэбэ', Піліп, гу'за ў ло'бі.*

НЭМА' КОЛІ' ЎГО'РУ ГЛЯ'НУЦІ. Працаваць велімі многа і старанна (круціцца як у коле вада). *Мне ўчо'ра цэ'лы дэнь нэ было' колі' ўго'ру гля'нуці.*

НЭ СПАДЭ' С ТЭБЭ' ША'ПКА. Нічога з табой не здарыцца. *Нэ спадэ' с тэбэ' ша'пка, колі' ты схо'дзіш і попро'сіш коня' на за'ўтрэй.*

ОБО'Е РАБО'Е. Які адзін, такі і другі (адзін аднаго не перацягне). *Воны' об'ое рабо'е, ні тым ні другі'м нэ попрэ'шса.*

ОДЗЕ'ЛАСА БЫ ВАНЁ'ШЫХА (ОДЗЕ'ЎСА БЫ ФУ'ФІЧ). Адзецца вельмі неахайна і непрыгожа (Ванёшыха і Фуфіч – рэальныя мясцовыя людзі, якія заўжды альбы як апраналіся). *Ну ты, Олька, і одзе'ласа бы Ванё'шыха.*

ОНО' О'ЧЫ ВІДНЫ'Е. Схуднець (рэбры ды скура). *У ее' по'слі больні'цы оно' о'чы відны'е.*

О'ЧЫ РЭ'ЖЭ. Кідаецца ў вочы. *Гэ'та но'вая ясё'нка так і рэ'жэ о'чы.*

ПІЛНОВА'ЦІ БЫ О'КА Ў ЛО'БІ. Сачыць вельмі ўважліва. *Ганна пілну'е свого' ўну'ка бы о'ка ў ло'бі.*

ПОПРЭ'ШСА, БЫ РУКА'МІ Ў ГНОЙ. На дапамогу гэтага чалавека нельга разлічваць. *Тобо'ю попрэ'шса, бы ў гной рука'мі.*

РОБІ'ЦІ БЫ НЭ СВОІ'МІ РУКА'МІ. Рабіць павольна і няякасна (рабіць бы мокрае гарыць). *Ты не'шо ро'біш бы нэ свої'мі рука'мі.*

СВЕТ ЗАБРА'ЦІ. Быць зайздросным, усяго жадаць без меры. *Ты чу'ла, шо Пэтэру'хова посадзі'ла дво'е со'ток. Гэ'то і нэ ўдзіві'цельно, вона' б увэ'сь свет забра'ла.*

СВЕ'ТУ БЕ'ЛОГО НЭ БА'ЧЫТ. Працаваць зашмат, праз меру. *Вон све'ту бе'лого за робо'тою нэ ба'чыт.*

СМЭЯ'ЦЦА БЫ ДУРНЫ' З СЫ'РУ. Смяяцца без прычыны (дурня па смеху пазнаеш). *Чого' ты смэе'шса бы дурны' з сы'ру?*

СПА'ЦІ НА ХОДУ'. Рабіць павольна, неахвотна (рабіць як не сваімі рукамі). *Хай бокры'е ее' робо'ты, нэ ро'біт, а спіт на ходу'.*

СПА'ЦІ Ў ША'ПКУ. Прапусціць, не заўважыць што-небудзь (варон лавіць). *Ужэ' ў пэчэ' даўно' вы'горэло, а вона' ўсэ спіт ў ша'пку.*

СТА'ВІЦІ КО'НІ. Надувацца без прычыны (надзьмуўся як сыч). *І чого' ты ста'віш ко'ні на ро'ўном ме'сцы?*

СТА'ЦІ БЫ ЦЕНЬ. Схуднець (ні з стану ні з твару). *Ты, Ганна, зусі'м ужэ' ста'ла бы цень.*

СТОІ'Ш БЫ ЛО'МА З'Е'Ў. Стаяць незвычайна прама, лянавацца схіліцца (няйначай кол пракаўтнуў). *Чого' ты стоі'ш бы ло'ма з'еў?*

СЭДЗІ'Ш ЯК Ю'ДЭЛЕВА КОРО'ВА. Сядзець нeяк незвычайна, няёмка. Рэальны выпадак з жыцця вёскі Смаляніца: *Стары' Ю'дэль посла'ў сына ў хлеў поба'чыці, шо коро'ва ро'біт (час быў тэлі'ціса). У хлеве' была'*

*я'ма, і коро'ва туды' провалі'ласа за'днімі нога'мі. Сын поба'чыў, прыбе'г у ха'ту і ка'жэ: "Та'ту, та'ту, на'ша коро'ва сэдзі'т". З того' ча'су і ка'жут "сэдзі'ш бы Ю'дэлева коро'ва".*

СЯДЗЬ (ЛЯЖ) КРЫ'ЦОЮ. Супакойся. *Чого' ты крычы'ш, бы рэ'заны. А ну, сядзь кры'цою!*

ТЭЛІ'ЦІСА (пераносны сэнс). Рабіць што-небудзь вельмі павольна. *Ну шо ты ўсэ тэ'лішса, подава'й се'но хучэ'й.*

УЛЕ'ЗЛО Ў О'ЧЫ. Трапілася на вочы і не забываецца. *Мне то'е полотно' гэ'так учо'ра ў о'чы ўле'зло.*

У О'ЧЫ ЛЕ'ЗЦІ. Надакучваць (лезці як дым у вочы). *Одчэпі'са і нэ лезь мне ў о'чы.*

ХВОРО'БА (ХАЛЕ'РА) ЁГО' (ТЭБЭ') ЗНА'Е. Не ведаю (чорт цябе ведае). *Хворо'ба ёго' зна'е, дзе вон подзе'ўса.*

ХОЦЬ БЫ ДЗІ'ЧКІ. Усё роўна (хоць мак сей). *Я ёму' крычу', крычу', а ёму' хоць бы дзі'чкі.*

ХОЦЬ ДО РА'НЫ ПРЫКЛА'ДВАЙ. Добры, спагадлівы ў пераносным сэнсе (хоць да сэрца прыкладай). *Тэбэ', Якоў, як тобе' шо трэ'ба, хоць до ра'ны прыкла'двай.*

ХОЦЬ ЖЫВЫ' Ў ЗЭ'МЛЮ ЛЕЗЬ. Вельмі цяжкае становішча (лажыся ды памірай). *Ну і шо мне робі'ці, хоть ты жывы' ў зэ'млю лезь.*

ХОЦЬ З КОЛЕ'НА ВЫ'ЛАМІ. Здзейсніць любымі сродкамі (хоць ты дой быка, але дай малака). *Прычэпі'ўса вон ўчо'ра до мэнэ', хоць з колена возьмі' і вы'ламі.*

ХОЦЬ КОЛ НА ГОЛОВЕ' ТЭШЫ' (ХОЦЬ ТЫ ЁМУ' ЛОПА'ТКУ ОТПОРЫ'). Гаворыш чалавеку, а ён не хоча разумець (як да сцяны гаварыць). *Уп'ё'рса вон учо'ра, хоць ты ёму' лопа'тку отпоры'. Стоі'т і стоі'т на своё'м.*

ЧЭРЭ'З НОГУ'. Рабіць абы-як (стук, грук, абы з рук). *Ты ўсэ, Сэмэн, чэрэ'з ногу' ро'біш.*

ШО Ў ГО'ЛОЎ КО'ПНЭ. Рабіць ці гаварыць, што прыйдзе ў розум (розум свінні з'елі). *Стэпан учо'ра говоры'ў, шо ёму' оно' ў го'лоў ко'пнэ.*

ЯК НЭ ЕЎ, ТО НЭ МОГ, А ЯК НАЕ'ЎСА, ТО КОБ ЛЁГ (прымаўка). Галоднаму працаваць цяжка, але пад'еўшы добра і адпачыць.

ЯК ОПА'РАНЫ. Рабіць нешта вельмі хутка (як варам абліты). *Чого' ты бэжы'ш, бы опа'раны.*

ЯК ПОШО'Ў, ТО ЗВОН ГО'ЛОВУ ПРОБІ'Ў. Адсутнічаць вельмі доўга.

ЯК ЦЫГА'Н ПОВЭЧЭ'РАЎШЫ. Рабіць з неахвотай ці адкладваць справу на потым (заўтра ў тую пару, калі рак паляціць з вады на гару). *Ну ты со'ні і даў, як цыга'н повэчэ'раўшы.*

## Літаратура


1. Босак А. Гісторыя вывучэння народных гаворак Пружанскага раёна // Загароддзе. – 2000. – № 2. – С. 123-128.

2. Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.

3. Клімчук Ф.Д. Заходнепалескія гаворкі // Беларуская мова. Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 57, 218-219.

4. Леванцэвіч Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскана раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка. Частка 1, Частка II. – Брэст: Брэсцкі дзяржаўны педінстытут, 1993. – 120 с.

5. Леванцэвіч Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Марфалогія. – Брэст: Брэсцкі дзяржаўны педінстытут, 1994. – 82 с.

6. Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 218 с.

7. Янкоўскі Ф. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. – 556 с.

*М.А.Валошчык*

# СЛОВЫ З ВЁСКІ ЦІХНЫ БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА[1]

БАХУ́Р *м.* Малое дзіця. *Зайіехаў до родзічкі*, *а там мэнэ поўна хата бахуруоў ўстрэчае.*

БЛЁНТАЦІСА *незак.* Швэндацца, бадзяцца. *Докуоль ты будэш блёнтаціса по свіеціе?*

БРАКОВА́ЦІ *незак.* 1. Не хапаць. 2. Шкодзіць. *Забракуе коню стуолько вэзці грузу.*

БУ́ЙДА *ж.* Няпраўда. *Усэ гэто буйда, шчо вуон говорыт.*

ВАРОВІ́ТЫ *прым.* Капрызны, пераборлівы, патрабавальны. *Варовіты ў мэнэ зяць, трэба ўміеці з ім ла́дзіці.*

ВУОН *часц.* Вунь. *Вуон тут лежыт твоя шапка.*

ВЫ́ДАЦІСА *зак.* Быць падобным. *Хлопэц увэсь выдаўса ў бацька.*

ВЫ́ТУХНУЦІ *зак.* Выгаладацца. *Голод нэ ціотка, вытухнэ – будэ есці.*

ВЫЦІРА́ЦІ УГЛЫ́. Гультаяваць. *Хопіт тут тобіе углы выціраці, ідзі до роботы.*

ВЫЧВЭРА́ЦІ *незак.* Непрыстойна гаварыць ці дзейнічаць.

ВЭ *выкл.* Прэч. *Вэ одсюоль!*

ВЭРЭДОВА́ЦІ *незак.* Грэбаваць. *Нэ повэрэдуй, госцю, моею ежою, ходзі з намі есці.*

ГВА́КНУЦЦА *зак.* Цяжка ўпасці. *Покоўзнуўса на дорозіе і гвакнуўса об зэмлю.*

ГОНОШЫ́ЦІ *незак.* Ламаць, рваць без разбору. *На́шчо ты гэтых яблык нагоношы́ў?*

ГУМЗІ́ЦІ *незак.* Плакацца, наракаць. *Хопіць гумзіці, молодзіцо, ліепш налап собіе сподніцу.*

ГУСТЭ́ЧА *ж.* Гушчар. *Пошлі ў грыбы, убіліса ў такую густэчу, шчо ледво выбраліса одтуоль.*

ДОГОНЯ́ЦІ *незак.* Папракаць. *Шчо ты мніе догоняеш і догоняеш, я твого хліеба нэ ем.*

---

[1] Паводле Л.В.Леванцэвіч, гаворка в. Ціхны адносіцца да стрыгінскіх гаворак (Л.В.Леванцэвіч. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка. Брэст, 1993, ч. 1, 2.). Дыялектны тып матэрыялаў М.А.Валошчыка, якія публікуюцца, – верхнясельдскі. У дадзеным выпадку, відаць, адлюстраваны пераход часткі жыхароў вёскі на гаворку суседняга населенага пункта (рэд.).

ГО'НДЭ, О ГО'НДЭ *прысл.* Вось тут. *Гондэ положы свойіе монаткі. О гондэ садзіса.*

ЗАВІНУ'ЦІСА *зак.* Раптам чаго-небудзь моцна захацець. *Ніешчо мніе зарэз завінулоса сала пойіесці.*

ЗАЙМА'ЦІСА НА ДЭНЬ. Світаць. *Як туолько почнэ займаціса на дэнь, пуойдэмо ў ліес.*

ЗАКЛЯ'КНУЦІ *незак.* Знямець. *Од холоду ў мэнэ заклякли рукі$^{ы}$.*

ЗАКРА'СА *ж.* Заправа (да ежы).

ЗАКРА'СІЦІ *зак.* Заправіць (страву). *Сёгоня закрасім кашу здзёром гусіным.*

ЗА' ЛОБ. За валасы. *Ухопіліса хлопцы за лоб і давай цягаці одзін одного.*

ЗАМУ'РЗАНЫ *прым.* Брудны. *Ходзіт замурзаны любы сынок.*

ЗАПАДА'ЦІ *незак.* Часта хварэць. *Шчо то ты, сусіед, стаў часто западаці? Шчось тобіе нэдолегу́е гэтою зімою.*

ЗА'РЫЦІСА *незак.* Квапіцца. *Позарыліса школьнікі на яблыкі ў саду.*

ЗБЫТКОВА'ЦІ *незак.* Здзекваща. *Хваціт над дзеўчыною збытковаці, якій ты бэ$^{е}$ссоромны.*

ЗДУБЕ$^{Э}$НЕ'ЦЬ *зак.* Моцна замерзнуць. *Нашы рукі зоўсем здубе$^{э}$нєлі, як копалі буракі$^{ы}$.*

ЗЛА'МАНЫ *прым.* У выразе: На зла́ману го́лову. На ліха. *Ідзі на зламану голову, колі нэ чуеш, шчо тобіе говорат!*

КАПЛУ'Н *м.* Цура. *Бывало вэ$^{е}$чором зробімо каплуна, поемо да й ляжэмо спаці.*

КЕ'ЛЬНЯ *ж.* Сплецены з лазы "*кош*" для воза.

КЕ'ПЕЛІЦІ *незак.* Кеміць, разумець. *Хай нэ бэрэцца за дзіело, колі нэ кепеліт.*

КЕ'ПЕЛЬ *м.* Розум. *Коб у ёго кепель быў, то гэтого нэ зробіў бы.*

КЕ'ШКАЦІСА *незак.* Корпацца.

КУ'БЕ$^{Э}$РОМ *прысл.* Вельмі хутка. *Кубе$^{э}$ром марш, прынэсі мніе молотка. А вуон по сэліе кубе$^{э}$ром леціт.*

ЛА'ХТАЦІ *незак.* 1. Прагна есці. 2. Лаяцца. *Чого вуона на тэбэ так лахтае?*

ЛЕ'ДВО *прысл.* Ледзь.

ЛУПА'СІЦІ *незак.* Лупцаваць. *Одлупасіў сына пасом, коб нэ быў той свінопасом.*

ЛЮБО'ШЧЫ *мн. іран.* Каханне. *Ты ў мэнэ кі$^{ы}$нь гэтые любошчы!*

МА'НЬКА *м.* і *ж.* Ляўша. *Нэ віедаў, шчо ў сусіеда хлопэц манька.*

МАРУ'ДА *м.* і *ж.* Павольны чалавек.

МЛЯЎКО *прысл.* Млосна. *Як поела рыбы, шчо купіла, то мляўко мніе стало.*

МУЦІЦІ *незак.* Хлусіць.

НА БАКЕР. На бок. *Твуой бацько быў мудрогелісты кавалер, носіў шапку на бакер.*

НАБІРАНКА *ж.* Малая пасудзіна для збірання ягад. *Ідэш по ягоды, то нэ забудзь набіранку ўзяці.*

НАГЭЛНА *ж.* Ліха, бяда. *А коб вас нагэлна ўзяла! Куды вас нагэлна нэсэ?!*

НАЛІВАНКА *ж.* Крывяная каўбаса. *До Коля'д забілі паршука і наліванку зробілі.*

НАСТРЭМАК *прысл.* Напрасцяк. *Ідзіетэ настрэмак, як йішлі, і будэ якраз шчо трэба.*

НАХВОРОБУ *прысл.* Навошта. *Нахворóбу вуон тобіе здаўса?*

НАШЧО *прысл.* Навошта. *Нашчо ты гэто робіш?*

НІЦ *займ.* Нічога.

НЫХВЭЦІ *незак.* Працягла хварэць. *Гэтая яблоня под окном ныхвэла, ныхвэла да й зусіем зачахла.*

НЭДОЛЕГАЦІ *незак.* Нездаровіцца. *Шчо тобіе нэдолегае? Ніешчо ў тэбэ від кепскі.*

НЭХЛЮЙ *м.* Неахайны чалавек. *Нэхлюй, почысці спочатку своіе нагавіцы, а потом ужэ ідзі до людэй.*

ОБЛІЗАНЭЦ *м.* У выразе: Получы'ці облі'занца. Нічога не атрымаць. *Получыш ты ў мэнэ облізанца.*

ОБЧАХНУЦІ *зак.* Падсохнуць. *Ужэ нэма росы, трохі обчахло на дворы.*

ОДЛЕГЧЫ *зак.* Сцішыцца (пра боль). *Далі укола і зразу одлегло ў грудзях.*

ОДПЫНІЦІ *зак.* Завярнуць, адагнаць жывёліну. *Одпыні корову од жыта!*

ОДРАДОВАЦІСА *зак.* Нацешыцца. *Дочка ніяк нэ одрадуецца, шчо ёй новы чэрэвікі купілі.*

ОДЭРВЕ$^{Э}$НЕЦІ *зак.* Анямець, здрантвець. *Нэ добрэ посэдзіела і нога одэрве$^{э}$ніела.*

ОНО' *прысл.* Толькі. *Помогу тобіе, оно скажы, колі прыці.*

ОПРОЧ *прыназ.* Апрача. *Опроч тэбэ хай прыдэ і твуой брат.*

ОСМЫЧЫНЫ *мн.* Адыходы ад ільну пры часанні шчоткай.

ОСТОРКНУЦІСА *зак.* Затрымацца, апынуцца. *Осторкнуўса трохі на рынку, да й хучэ'й дохаты.*

О'ТТО *прысл.* Зараз, тым часам. *О́тто выдою корову, і дам тоды тобіе йіесці.*

ОТХА'ЯЦІ *зак.* Вылячыць. *Цяжко было мніе його отхаяці, але добрые людзі помоглі.*

ОХОЛО'ДАЦІ *зак.* Астыць. *Хай вода трохі охоло́нэ, коб рукі нэ попарыці.*

ОШЛЯ'ГНУЦІ *зак.* Занядужаць. *Даўно тэбэ, сусіедко, нэ бачыла, ніешчо ты ошлягла.*

ПЕ^Э^ЧА'ЙКА *ж.* Пякотка. *Нэма рады, замучыла мэнэ пе^э^чайка.*

ПЛЁХАЦІСА *незак.* Боўтацца ў вадзе. *Посадзіла дзіця ў воду, а воно давай плёхаціса од радосці.*

ПОВЕ'ТРЫЕ *н.* 1. Пошасць. 2. Мода. *На дэўчат нашло поветрые носіці нагавіцы.*

ПОДНЯ'ЦІ О'ЧЫ. Паглядзець, глянуць. *Такая обіда мэнэ ўзяла, шчо нэ могла очы на його подняці.*

ПОЗОЛЫ' *мн.* Луг пасля мыцця бялізны.

ПОЗЫ'ЧЫЦІ *зак.* У выразе: Позы'чыці ў ра́ка о́чы. Паступіць несумленна. *Ты шчо ў рака очы позычыў, нэ віедаеш, шчо робіш з чоловіека.*

ПОПУСЦІ'ЦІ *зак.* Кінуць далёка. *Попусціў кіем по рэбрах коровіе, коб хоць крышку провучыці.*

ПО'РХАЦІСА *незак.* Корпацца. *Муой господар дэ'то порхаецца на дворэ.*

ПОРОХНО' *н.* Парахня. *Розбурылі хлева, а з його одно порохно посыпалоса.*

ПОСЛУ'ШНЫ *прым.* Паслухмяны. *Гэты хлопе^э^ц послушны, попросі і вуон зробіт.*

ПО'ТЭСЬ *ж.* Прасніца. *Бацько зробіў сэстрэ потэсь, а мама стала учыці прасці.*

ПОХЛІСТА'ЦІ *зак.* Пасёрбаць. *Проголодаўса, похлістаў капусту, аж вушы трэсліса.*

ПРОЛУПІ'ЦІ О'ЧЫ. Прачнуцца, абудзіцца. *Ужэ сонцэ поднялоса, а тая ніяк нэ пролупіт очы.*

ПРЫПО'РЫСКО *н.* Прыстанішча. *Нашлі мніе прыпорыско ў мойго брата.*

ПРЫТЫ'РОК *м.* Неразумны чалавек.

ПЭ'ДЭРКО *н.* Божая кароўка. *Пэдэрко, пэдэрко, чы будэ погода? Колі скажэш, то пушчу, як нэ с ажэш – задушу.*

ПЭРЭ'ЧЫНОК *м.* 1. Верацяно з напрадзенымі ніткамі. 2. Пластаваны абярэмак сена. *Зноў пэрэ'чынка абы як навоўтузіў.*

ПЭРЭТРУБІ'ЦІ *зак.* Згубіць. *Нэ бэры ножа – ты ўжэ одного пэрэтрубіў.*

РЫ'ШКАЦІ *незак.* 1. Рыць зямлю лычом. 2. Шукаць. *Усэ пэрэрышкала, але нэ знайшла того, шчо трэба.*

РЭДЗЮ'ГА *ж.* Посцілка. *Лежыт рэдзюга на ложку, накрыйса ёю.*

СВІНІ'НЕЦ *м.* Прыбудова або невялікі хлявок для свіней.

СЁГО'НІ *прысл.* Сёння.

СКОЛОНУ'ЦІ *зак.* Цяжка ўразіць. *Ёго ўсёго сколону́ло, як почуў, шчо казалі.*

СКРАК *ж.* Худы, занядбаны чалавек, жывёліна. *Такі скрак той Іван. Вышлі з хлева скракіе, а нэ скоціна.*

СКУПЭНДЗЯ', СКУПЕ^ЭНДЗЯ' *м.* і *ж.* Скнара. *Нэ просі ў скупе^эндзі, нічого ў ёг нэ вымоліш.*

СМЭ'ЙЦЮХ *м.* Чубаты жаваранак. *Зімою смэйцюхі прылетают до хат.*

СПА'ТКІ *мн.* Спадчына. *За спаткі пе^эрэсварыліса дзеці, як бацькі помэрлі.*

СПОСТА'РЧЫЦІСА *зак.* Справіцца, зраўняцца. *Нэ можэш ты, сынку, спостарчыціса з дзіедом ў робоціе, у ёго опытные рукі.*

СПРАВУ'НКІ *мн.* 1. Уборы. *Поглeдзі, Ганно, які я собіе зробіла справу́нок, шчо я купіла на ярмарку.* 2. У выразе: Наво'дзіці справу'нкі. Высвятляць адносіны. *Хваціт тут тобіе наводзіці справункі, ідзі ліепш дохаты.*

СПЭРША' *прысл.* Спачатку. *Спэрша прыготоў, шчо трэба, а потом будэш робіці.*

СТАРА'ТЛІВЫ *прым.* Старанны. *Старатлівая дочка нэ будэ ў одзіночках.*

СТАРШУ'Н *м.* Старэйшы брат.

ТАРАХЦІЕ'ЦІ *незак.* Грукатаць. *Тракторыэ тахціелі ўсю нуоч.*

ТО'ЧКА *ж.* Мядзведка. *Сопсовала мніе ўвэсь город точка, навэрх цыбулю повывальвала.*

ТРЭ'СЯНКА *ж.* Сумесь сена і саломы, трасянка. *Коровам давалі зімою трэсянку і бэльцы з сечкой.*

УКЛЁПАЦЦА *зак.* Закахацца. *Уклёпаўса ў дзеўку і нічого больш нэ хочэ знаці.*

УТО'ЎПІЦЦА *зак.* Утаропіцца. *Утоўпіўся ў кнігу і нічого больш нэ бачыт.*

ХВОРОВЕ'КОВАТЫ *прым.* Хваравіты. *Хворовековаты вуон, шчо з ёго хоціеціі.*

ХНЫ́ЦІ *незак.* Цяжка і доўга хврэць; траціць сілы. *Нэма ніякой рады, хные дзіця.*

ШЛУ́НКІ *мн.* Унутраныя органы, здароўе. *Вуон мніе ўсіе шлункі выцягнуў.*

ШМА́РА *ж.* Змазка для калёс воза. *Быў у городзіе, купіў шмары для воза.*

ШЧОРО́КУ *прысл.* Штогод, з году ў год. *Шчороку садзімо гарбузы.*

ШЫМАНУ́ЦІ *зак.* Паваліць, кінуць, штурхануць. *Нашчо ты так шымануў місу со стола? Малый ліез до старшого, покуоль старшы нэ шымануў його од сэбэ.*

Я́КОСЬ *прысл.* Нeяк. *Нэ горуй, сэстра, якось трэба жыці.*

*І. А. Гапоненка, В. П. Трайкоўская*

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ЛЕКСІКА ВЁСКІ СТАРЫ СВЕРЖАНЬ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА

Сельская гаспадарка на Беларусі, як і ў іншых краінах, увабрала шматвяковы працоўны вопыт многіх пакаленняў, таму і сельскагаспадарчая тэрміналогія з'яўляецца адным са старажытнейшых пластоў лексікі і складае аснову слоўніка мясцовых гаворак, уключае вялікую колькасць лексічных адзінак, якія аб'яднаны ў розныя тэматычныя групы. Сюды ўваходзяць словы, звязаныя з жывёлагадоўляй, з зямельнымі ўчасткамі, а таксама з рознымі відамі сельскагаспадарчых работ, прыладамі працы і інш.

Лексіка, якая падаецца ў гэтым артыкуле, запісана аўтарамі ад мясцовых жыхароў Далідовіча Сяргея Рыгоравіча (1918 г. н.), Лапко Ганны Іосіфаўны (1922 г. н.), Турко Людмілы Іосіфаўны (1937 г. н.).

Вёска Стары Свержань знаходзіцца ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці, з'яўляецца цэнтрам калгаса «Нёман», размяшчаецца на паўднёвым захадзе на аўтамабільнай дарозе Стоўбцы- Івацэвічы.

Па сваіх важнейшых моўных асаблівасцях гаворка дадзенай вёскі адносіцца да гродзенска-баранавіцкай групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту.

АБАРО'ТЫ *мн.* Папярочныя загоны. *Калі конь не дайходзіў да канца, то садзілі абароты – папярочныя загоны.*

АБКАЛО'Т *м.* Салома ў снапах пасля няпоўнага папярэдняга ручнога абмалоту. *Абкалаціў снапэ, і што асталося называлі абкалот.*

АБСЕ'Ў *м.* Лапінка на ніве, якая засталася незасеянай. *Як прапусціш пры сяўбе палосачку абсеў, кажуць нядобра, памрэ нехта.*

АГРЭ'Х *м.* Прапушчаная пры ворыве лапіна на полі. *Як хто не ўмее араць, дык многа агрэхаў робіць.*

БАЙСТРУКІ' *мн.* Кураняты, якіх курыца выседзела тайна. *Байструкі, якіх прывяла курыца, мы таксама расцім.*

ВЫ'ВАД *м.* Статак гусей. *Я ўсё ўрэмя сажу гусыню, каб пасля вывад маленькіх быў.*

ГАСПАДА'РКА: ХАДЗІЦЬ ПА ГАСПАДАРЦЫ. Упраўляцца са свойскай жывёлай. *Я ўсю сваю маёмасць сматру. Цалюсянькі дзень хаджу па гаспадарцы. І курам есці даць, і карові, і свіням.*

ГРАБАВІ′ЛЬНО *н.* Ручка ў граблях. *За грабавільно дзержышся рукамі.*

ГРА′БЕЛЬКІ *мн.* Прыстасаванне ў форме грабель на касе, якой скошваюць збожжа. *Да касы грабелькі дзеравянныя прыдзелвалі, і яны за касою падграбалі.*

ГРА′ДКА *ж.* Палоска зямлі, ускапаная на агародзе. *Агарод разбівалі на нескалько градак і садзілі агурке, моркаў, картофлю, бураке.*

ГУЖА′ЎКА *ж.* Прывязка для прымацавання біча да цапільна. *Гужаўкай біч і палка злучаліся. Яе рабілі з кожы, каб біч круціўся.*

ДВАЙНІ′К *м.* Яйцо з двума жаўткамі. *Мы ўжываем у яду гэткі двайнік.*

ДРАСО′ЎКА *ж.* Матыка з зубамі. *Драсоўкаю драсуюць моркаў, цыбулю, часнык.*

ДРАЦЬ *незак.* Скубці пер′е. *Я курку ці гуску дзяру, і дочцы падушка будзя.*

ЖЭ′РДКІ *мн.* Перакладзіна ў куратніку, на якой начуюць куры; седала. *Вечарам пасажу у курніку на жэрдкі курэй, а утрам выганяю.*

КАЛО′ЦЬ *незак.* Забіваць свіню. *Заўжды сам закалю свіню, сам разбяру.*

КВО′ЧКА *ж.* Курыца, якая збіраецца сесці на яйкі. *Квочка садзіцца на яйкі, а пасля цыплят прывядзе.*

КЛЁП *м.* Адцягнутае ў час кляпання вастрыё касы. *Як зробіш добры клёп, тады каса будзе добра касіць.*

КРУК *м.* Двухзубыя вілы з загнутымі пад прамым вуглом канцамі для скопвання гною з воза. *Крук – два зубэ, загнутыя, насаджаныя на палку. У хляве навоз круком падцягвалі і скідалі навоз із воза.*

КУНДЗЮ′К *м.* Свіны страўнік. *У свінным кундзюку чаго толькі няма.*

КУРНІ′К *м.* Месца, дзе садзяцца куры на ноч. *У курніку цёпла, добра курам. Як сцямнее, так і йдуць самі ў курнік, садзяцца на жэрдкі.*

МАЛАКО′: СЛА′БАЕ МАЛАКО. Рэдкае малако. *Слабае малако, але нічога! Скора нармальнае стане, бо цяля адсаджваць будзям.*

МАЛО′ДЗІВА *н.* Малако ў першыя дні пасля цялення. *Малодзіва - гэта жыткае малако ў каровы пасля ацёлу.*

МЕ′ШАНКА, МЕ′ШАНЬ *ж.* Прыгатаваны корм для свіней. *Мешанку вару так: картошачкі, бурачкоў, мукі. Усё перамяшаю і гэта даю есці свіням. Даю свіням мешань: вараную картошачку, бурак ці гарбуза і муку.*

МЕ'ШАНЬ: ПРЫГАТАВАЦЬ МЕШАНЬ. Падрыхтаваць, прыгатаваць корм для свіней. *Ваду, лупінкі, картошку, муку – усё паткалачу і на тры разы падзялю прыгатаваную мешань. І потым даю свіням.*

НАРА'ДКА *ж.* Павозка, у якой возяць гной. *Гной накідаюць у нарадку і возяць на полё.*

НАЧЛЕ'ЖНІК *м.* Той, хто ганяе коней на начлег. *У нас начлежнік коней ночу глядзеў.*

НОС *м.* Востры канец яйка. *Нос – завостраны канец яйка, самая дзюбка.*

НЯСУ'ШКА *ж.* Курыца, якая нясе яйкі. *У мяне старыя нясушкі.*

НЯЎДО'БА *ж.* Зямля, малапрыгодная для пасеву сельскагаспадарчых культур. *Няўдоба – няўдобная почва для пасеву.*

ПАДСЦІ'ЛКА *ж.* Салома, якой падсцілаюць жывёлу. *Падсцілка для каровы вельмі патрэбна, каб не мерзлі бакі ў скаціны.*

ПАДХО'ЖЫВАЦЦА *незак.* Упраўляцца. *Люблю падхожывацца: карміць курэй зярном, пойла цяляці даваць, карове – сена, свіням мешанку раблю.*

ПАЛАВІ'ННЕ *н.* Рэшткі, якія застаюцца пры абмалоце збожжа і ачыстцы зерня; мякіна. *Як палаеш, палавінне адлятае ўбок.*

ПАЛІ'ЦА *ж.* Частка плуга, якая аддзяляе і пераварочвае падрэзаны лемяшом пласт зямлі; адвал. *Паліца адкідвае зямлю.*

ПАМЁТ *м.* Поле, якое ніколі не апрацоўвалася. *Памёт –полё, на якім нічога не расце.*

ПА'ПАРА *ж.* Папар. *Папара – дзе нічога не сеяна. Летам там кароў пасуць.*

ПАПЯРО'ЧКА *ж.* Папярочны загон. *Конь не дайходзіў да канца, тады ўпоперак несколько градок заруць і садзяць-папярочка.*

ПА'РАНКА *ж.* Прыгатаваны корм для жывёлы. *Замешваю муку, дабаўляю парэзаную крапіву, заліваю вадой ды і нясу карові гэту вот паранку.*

ПА'СБІШЧО *н.* Месца, дзе пасецца жывёла; выпас. *Былі спецыяльныя месцы, пасбішчо, дзе пасвілі коней.*

ПАСЛЕ'Д *м.* Адыходы пры малацьбе. *Калі вееш жыто, паслед лажыцца ўсярэдзіне, а за ім – дробнае жыто.*

ПАСТРО'ЛЬКІ *мн.* Частка збруі – рамяні, якія злучаюць ворчык з хамутом пры запраганні каня ў плуг, барану. *Пастролькамі прывязвалі каня да бараны.*

ПЛУЖО'К *м.* Невялікі плуг, якім абганяюць бульбу, буракі. *Плужок быў картофлі абганяць.*

ПО'ДСЦІЛ *м.* Салома, якой падсцілаюць жывёлу. *Салома – самы лепшы подсціл для жывёлы.*

ПО'ЙЛА *н.* Прыгатаванае піццё для цялят. *Насыплю мукі ў каструлю, завару, пачакаю, пакуль астыне, тады і даю пойла цяляці.*

ПО'КЛАД *м.* Яйка, якое кладуць у гняздо, каб несліся куры. *Поклад трэба аставіць, каб пасля там жа несліся куры.*

ПО'ЛЁ *н.* Засеяны або падрыхтаваны да пасеву ўчастак зямлі. *Мы ўсё полё засеялі жытам цяпер.*

ПО'СТАЦЬ *ж.* Палоска збажыны, занятая адной жняёй у час жніва. *Постаць – калі жняя заняла перад сабою метар шырыні ці два і скрозь гоніць гэту паласу.*

ПРА'СТА *ж.* 10-15 жменяў зжатых сцяблоў. *Дзесяць ці пятнаццаць жменяў ляжаць разам – праста.*

ПУСТЫ'НЯ *ж.* Неўрадлівае поле. *Пустыня – нявырабляноё, пустоё полё. Яно не радзіла, нічога не расло, адныя кустэ.*

ПЯ'ТКА *ж.* Тупы канец яйца. *Пятка слабейшая за нос. Калі дзеці гуляюць у біткі, то ёю адразу не б'юць.*

ПЯРЭ'БЕРТ *м.* Ахапак, пласт сена, саломы, набраны граблямі. *Перабіраюць пярэберты граблямі ці ложаць вілкамі.*

РО'ЖКІ *мн.* Матыка з зубамі. *Рожкамі палолі бураке, моркву, а потым акучвалі цяпкаю.*

РЭ'ШАТО *н.* Прыстасаванне ў зернеачышчальных машынах. *Усыпалі ў рэшато зерне і прасявалі, пыл вылятаў, а тады насыпалі ў мяшке.*

СЕ'ЧКА *ж.* Прыгатаваны корм для жывёлы. *Сечку даём і карові, і свіням, і курам.*

СКРЫЛЬ *м.* Валік зямлі, што адкладваецца плугам пры ворыве. *Як плух адверне скрыль зямлі, дык вароны адразу ляцяць.*

СМО'ЛКА *ж.* Вадкасць, што паяўляецца ў каровы на сасках за месяц да цялення. *Як з'явілася смолка, то і карові прас месяц апладзіцца.*

СТАЎПЕ'Ц *м.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *Стаўпец размяшчаўся папярок грабільна. У стаўпец утыкаліся зубэ.*

ТРАЕ'НІНА *ж.* Некалькі разоў пераворанае поле. *На траеніне сеялі азімае.*

ХАЗЯ'ЙСТВА: ДЗЯРЖАЦЬ ХАЗЯЙСТВА. Трымаць свойскую жывёлу. *Дзержым хазяйства заўсёды. Трэба ш што есці пасля. І куры, і гусі, і свіні, і карова.*

ЦІ'ТКА *ж.* Палоска збажыны, занятая адной жняёй у час жніва. *Цітка – калі жнея заняла перад сабою палоску і скрозь гоніць яе.*

ЧАПЕ'Ц *м.* Кішэчны тлушч. *Чапец мы выкідваем, не ядзім.*

ЧАСА'ЛКА *ж.* Прылада для часання воўны, ільну. *Часалі лён часалкай. Вычэсвалі кудзелю, а лён аставаўся.*

ШМА'ЛЕЦ *м.* Гусіны тлушч. *Шмалец я іспользую для таго, каб боты не прамакалі. Намажу зімой шмальцам кірзачы, і не мокнуць.*

ЯЙЦО': ЯЙЦО НАЙГРАНА. Яйка, з якога могуць вывесціся кураняты. *Калі яйцо найграна, то іх падлажваюць пад нясушку, каб вывеліся цыпляняты.*

*Ф.Д.Клімчук, П.А.Міхайлаў*

# У СЛОЎНІК КОБРЫНШЧЫНЫ

Асноўны матэрыял, які прыводзіцца ў гэтай падборцы, запісаны ў вёсках Пяркі (мясц. *Пыркы'*) і Ушкавіца (мясц. *Ушковы'ця*).

Запісы ў вёсцы Пяркі зрабіў Ф.Д.Клімчук у 1971 г. ад прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Вёска знаходзіцца за 10 км на захад ад Кобрына. Асноўныя інфарматары, ад якіх запісаны прыведзеныя словы: Майсяюк Еўдакія Мікітаўна (н. у 1908 г.), Бабурчык Уладзімір Сцяпанавіч (н. у 1913 г.), Капыл Дзям'ян Дзям'янавіч (н. у 1899 г.), Бабурчык Вольга Цімафееўна (н. у 1916 г.), Галашка Марк Маркавіч (н. у 1901 г.), Каберская Ева Васільеўна (н. у 1901 г.), Каберскі Рыгор Максімавіч (н. у 1898 г.), Максімук Уладзімір Кандрацьевіч (н. у 1929 г.), Раманюк Іван Савельевіч (н. у 1907 г.), Станчук Іван Уладзіміравіч (н. у 1950 г.), Максімук Уладзімір Уладзіміравіч (н. у 1954 г.).

У вёсцы Ушкавіца запісы зрабіў П.А.Міхайлаў (нарадзіўся ў гэтай вёсцы) у 1970—1990-я гады. Вёска знаходзіцца за 6 км на захад ад Кобрына. Большасць запісаў зроблена ад бацькі аўтара, Міхайлава Аляксандра Агафонавіча (1927—1990 гг.), яго маці, Марыі Восіпаўны (н. у 1930 г.) і бабулі, Сяргута Кацярыны Макараўны (1910--1995 гг.).

Іншыя крыніцы:

Словы з вёскі Аніскавічы (мясц. *Оны'ськовычы*); запісы зрабіў у 1982 і 1984 гг. П.А.Міхайлаў. Вёска знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы раёна ў 33 км ад Кобрына.

Словы з вёскі Андронава (мясц. *Андрóново*); запісы зрабіў К.С.Карнялюк (нарадзіўся ў гэтай вёсцы) у 1970—1990-я гады. Вёска знаходзіцца за 5 км на паўночны захад ад Кобрына.

Словы з вёскі Барысава (мясц. *Боры'сово*); запісы зрабіў І.І.Сінчук у 1999 г. Вёска знаходзіцца за 2 км на поўдзень ад Кобрына.

Словы з вёскі Камень (мясц. *Кáмэ$^{ы}$нь Курулéвскый*); запісы зрабіў у 1999 г. В.М.Хвірысюк (нарадзіўся ў гэтай вёсцы). Вёска знаходзіцца за 16 км на ўсход ад Кобрына.

Словы з вёскі Барадзічы (мясц. *Бoрóдычы*); запісы зрабіў У.Л.Лупіш (нарадзіўся ў гэтай вёсцы) у 1983 г. Вёска знаходзіцца ва ўсходняй частцы раёна ў 27 км ад Кобрына.

Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1962. С. 315—321

Беларуская дыялекталогія, Хрэстаматыя. Мн., 1979. С. 291—293.

Рукапісны слоўнік Кобрыншчыны, складзены К.С.Карнялюком;

У прыведзеных матэрыялах дадаткова выкарыстоўваюцца наступныя літары. Літара [ü] – "умляут" – абазначае гук, які вымаўляецца як "сярэдні" паміж гукамі [і] (або [ы]) і [у] Літарай [и] абазначаецца гук "сярэдні" паміж [і] і [ы].

Скарачэнні:

А – вёска. Андронава.

Ан – вёска Аніськавічы.

Бд – вёска. Бародзічы

Бс – вёска Барысава

(К) – Рукапісны слоўнік Кобрыншчыны, складзены К.С.Карнялюком.

Км – вёска Камень.

П – вёска Пяркі.

У – вёска Ушкавіца.

(Х) – Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1962. С. 315—321. Беларуская дыялекталогія, Хрэстаматыя. Мн., 1979. С. 291—293.

Назвы іншых населеных пунктаў прыводзяцца без скарачэнняў.

Лексічныя матэрыялы народных гаворак Кобрыншчыны, акрамя гэтай падборкі, апублікаваны ў наступных працах:

Ф.Д.Клімчук, П.А.Міхайлаў. Са скарбаў народнай мовы Кобрыншчыны // Памяць. Кобрынскі раён. / Гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск: Белта, 2002. С. 528–556.

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1—5, Мінск, 1993—1998 гг.

Дыялектны слоўнік Брэстчыны. М., 1989.

Народная лексіка. Мн., 1977, С. 70—99.

Жывое слова. Мн., 1978, С. 99—103.

АНДЫ'ЧКА *ж.* Індычка. Бд.

БАГУ'РОК *м.* Узгорак. А (К).

БАРЫ'ЛЬЦЭ *н.* Драўляны посуд з двума донцамі. П.

БАР'Я'К *м.* Бервяно. У.

БАР'Я'К *м.* Хвоя. *У бар'яка́х такы'х хоро́шых грыбы'в вчо́ра на́брав.* Ляхчыцы.

БАСАМА'Н *м.* Пляма. Рынкі (К).

БА'ХМАРКА *ж.* Хмарка. А (К).

БÜ'ЗДОРОВ'Е *н.* Дэкаратыўны куст, які мае прыемны пах. П.

БО'ДЯ *ж.* Ігліца (на дрэве). П.

БЫРВЫ'НОК *м.* П, Бс. бырві'нок *м.* Км. Барвенак.

БЫ'ТЫ *незак.* Абіваць пранікам насенне ільну. Хабовічы (Х).

ВОЛОСЫ'НА *ж.* Волас. П, У, Бс, Бд.

ВОРО'ДАЛО *н.* Веснавыя песні. П.

ВО'СОК *м.* Воск. П, У, Бд.

ВРЭ'М'Е *н.* П, ВРЭ'МНЕ *н.* Бс Час.

ВТРУБЫ'ТЫ *зак.* Згубіць, растраціць. Дубавое (К).

ВЫДА'К *м.* Мак-відук. П, Бд.

ВЫНЁСЛЭ ДЭ'РВО *н.* Дрэва з высокай кронай. П., Км.

ВЫ'РАЧ *м.* Ваўчкі. *Вы'рач – такóе зі'лле.* П.

ВЫРОСНЫ'Й *прым.* Верасовы. *Выросны'й мэд.* П.

ВЫРХОПЛА'ВКА *ж.* Рыба, якая трымаецца ў верхнім пласце вады. П.

ВЫ'СТРАХ *прысл.* Страшна. А (К).

ВЫ'СЯКАТЫСЯ *зак.* Высмаркацца. *Трэ'ба булó вы'сякатыся, алэ' булó шмат людэ'й.* Км.

ВЫЧЮ'РКА *ж.* Вячэрняя зорка. П.

ВЫЧОРОВА'Я ЗОРЯ' *ж.* Вячэрняя зорка. П.

ВЭЛЯ'ЗНЫЙ *прым.* Вялізны. Дзямідаўшчына (К).

ВЭ'ЧОРЫ *прысл.* Вечарам. Бс.

ВЭ'ЧЫРА *прысл.* Вечарам. П.

ГАРАХОВА'ТЫЙ *прым.* Кучаравы. Бд.

ГЛЫ'НЯСТЫЙ *прым.* Гліністы. *Глы'няста дорóга.* П.

ГЛЯЧІ' *мн.* Назва жыхароў з-пад Ваўкавыска. П.

ГО'ЙНЫЙ *прым.* Фанабэрысты, ганарлівы; прайдзісвет. *В йійі' гóйный хлóпэць ростэ'ть, він ныгдэ' ны пропадэ'.* У.

ГОЛОДРА'Й *м.* і *ж. экспр.* Гультай. П.

ГОЛОШЧЭ'ЧНО *прысл.* Коўзка, слізка; галалёд. *На дворі' голошчэ'чно – замэ'рзло быз сні'гу.* Ан.

Ґ'ЯТАТЫ *незак.* Гагатаць (пра гусей). П.

ДООБІ'ДДЕ *н.* Час перад абедам. Быстрыца (К).

ДОРО'ГА *ж.* П, ДУРО'ГА *ж.* Км. Млечны Шлях. *Дорóга на нэ'бы – óсыню по йий пташкы' лытя'ть.* П. *Дурóга на нэ'бі зымóю дóбрэ вы'дна.* Км.

ДОРО'ГА РОСХО'ДЬЩЬЦЯ. Ростань. П.

ДРО'ПА *ж.* П, дропá *ж.* У. Варона, капялюх (грыб). *Дрóпы вэ'льмы смáчны -- і звары'ты, і смáжыты.* П.

ДРОЧЫ'ТЫСЬ(-СЯ) *незак.* Узбуджацца ў час спёкі (пра кароў). П.

ДУ'МКА. У выразе: Мні ны в ду'мцы. Я зусім не помню. П.

ДЫРЫБНУ'ТЫ *зак., экспр.* Шмат выпіць (пра гарэлку). А (К).

ДЫРЫВ'Я'ШКЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. П.

ДЫРЯ'ВЫЦІ *мн.* Рэдкія зубы. Гуцкі (К).

ЖІ'РНЫЙ *прым.* Прагны да яды. П, У.

ЖО'НДЫТЫ *незак.* Дагаджаць. Лягаты (К).

ЖУ'ЙКА *ж.* Жвачка. П, У, Імяніны (К).

ЖЫЛІ'ЗНЫК *м.* Рыдлёўка. П, У, Імяніны (К).

ЗАПЫВА'ТЫСЬ(-СЯ) *незак.* Выпіваць зашмат гарэлкі. *Ой ты, дру'жычку, ны запывáйся, у свойі'м ді'лы ны забувáйся* (з песні). П.

ЗАРОБЫ'ТЫСЯ *зак.* Запрацавацца, захапіцца працай. *Заробы'лась, як свынняʹ в Спáсовку* (прыказка). У.

ЗАШЧЫМЫ'ТЫ *зак.* Сціснуць (зубы, кулакі). А (К).

ЗАШЫПЫЛІ'ТЫ *зак.* Зашамацець. *Чу'ю, шо то пісь-пісь коло мынэʹ, а то мыш у бумáзі зашыпылі'ла.* У.

ЗБАБУРІ'ЧЫТЫ *зак.* Моцна ўдарыць. *Збабурі'чыв ёгó.* П.

ЗБАБУ'РЫТЫ *зак.* Ударыць. П.

ЗБУЗОВА'ТЫ *зак.* Падняць цяжкое. А (К).

ЗБУМБЭ'РЫТЫ *зак.* Падняць цяжкое. А (К).

ЗВІ'ННЫЙ *прым.* Рухавы, быстры, спрытны. *Зві'нна в тыбэʹ ді'вчына ростэʹ, Тáнё.* У.

ЗВОНЯ'К *м.* Частка кола з некалькімі спіцамі. П.

ЗВЯ'КАТЫ *незак.* Надакучаць. Вострава (К).

ЗЛІ'ТАТЫ *незак.* Падаць (па адной сняжынцы, лістку і г.д.). П, У. *Сніжóк злі'тае, по одні'й сніжы'нцы пáдае.* П.

ЗНОРЫ'ТЫ *зак., экспр.* З'есці. У.

ЗНЫ'КНУТЫ *зак.* Зніцець. *Зны'кло всё в горóды, бо дошчіʹ і ны опóлянэ.* П., Бс.

ЗОРАʹ, ЗОРЯʹ *м.* Зорка, нябеснае свяціла. *Зорá (зоряʹ) вжэ зыйшлá.* П.

ЗОРЫ'ТЫ *незак.* Спяліць. *Зоры'ла жы'то на сóнці, то од воробьйі'в ны одогнáтыся.* У. *Зоры'лы гарбузыʹ на стрі'сы.* П. *Зоруʹ помыдóры на окні.* Бд.

ЗРА'ННЯ прысл. П., У. Зранку. *Зранняʹ булó сóнцэ.* П.

ЗУБАЧІʹ *мн.* Матыка з зубцамі. П.

ЗЫЛЫПА'ТЫ *незак.* Цяжка дыхаць. *Лэдь ідэʹ, зылыпáе.* Бд.

ЗЫМНЕʹ *ж.* Зямля. Бд.

Ӥ'ЛЬХА *ж.* Алешнік. П.

КА'ЙДУБ *м.* Выдзеўбаны з аднаго кавалка дрэва посуд (бочка і інш.). П.

КАРДУ'ПЭЛЬ *м.* У выразе: Як карду'пэль. Пра малога чалавека. П., У.

КВА'ДРА *ж.* Квадра, фаза месяца. *Квáдра пэ'рша, дру'га, трэ'тя, чытвóрта.* П.

КЕ'ЛБЫК *м.* Пячкур (руск. *пескарь*). П.

КНУРОВА'ТЫ *незак*. Пра стан цечкі ў свінні. П, У, Бс.

КОВДУНОВА'ТЫЙ *прым*. Пузаты. П, У.

КОВПА'К *м*., КУПА'К *м*. Варона, капялюх (грыб). П.

КОЛОСОВА'ТЫ *незак*. Аддзяляць зерне ад асцюкоў. *Тыпэр обмолоты'в с солóмы, колосу'еш ёгó, пры'сы обываéш*. Ан.

КОЛОТЫ'ТЫ *незак*. Абмалочваць самае буйное зерне. П.

КОЛЮ'ШЧА КАРО'ВА *ж*. Бадлівая карова. П, У.

КО'НЧЭ *прысл*. Абавязкова. П.

КОНЭ'ЧНО *прысл*. Абавязкова. *Мні зáвтра конэ'чно трэ'ба в Кóбрэнь. Чы ж конэ'чно всэ забырáты!* П.

КОНЭ'ЧНЭ *прысл*. Абавязкова, менавіта. *Шо то за ді'вка такáя вроды'лася: дай юй конэ'чнэ тóе сáмэ, шо й стáршуй, а не – такы'й гвалт спрáвыть*. У.

КО'РКОШКЫ *мн*. У выразе: На кóркошках. На кукішках. *На кóркошках сі'ла*. Ан.

КО'РМНЫК *м*. Кормны парсюк. П, У.

КО'РМНЫЦЯ *ж*. Кормная свіння. П, У.

КОРОВА'ТЫ *незак*. Здымаць кару. П, У.

КОРЧА'ТА *ж*. Куст. А.

КОСАРІ' *мн*. Сузор'е Вялікая Мядзведзіца. *Косарі' повырну'лы туды', ужэ' под дэнь, колы'сь жэ часі'в ны булó*. Ан.

КОСТЫРВА' *ж* П, костырóва *ж*. У. Брыца (пустазелле).

КОТЫ' *мн*. Страва з ільнянога семя. *Коты' – то галушкы' з одхóдув льнянóго сі'м'я, ёгó дóвго товчы' трэ'ба у сту'пы, і так йіх йі'лы тóжэ*. Ан.

КРАЁВЫ'НА *ж*. Аполак. *Ході'м прынысэ'м с тобóю краёвы'ну, бо мні самóму тя'шко сóваты*. У.

КРЯ'ВКАТЫ *незак., экспр*. Сакатаць (пра курэй; піскліва). П.

КРЯ'КАТЫ *незак*. Каркаць (пра варону). П, У.

КУСА'ЧЫКЫ *мн*. Пласкагубцы. П, У, Бс.

КУСЯ'ВКА *ж*. Дробная слізкая рыбка без калючак. П.

ЛАСКУ'Т *м*. Невялікі кусок тканіны. П, Бс.

ЛАТЫ'Ш *м*. Старая адзежына. *Він був в старóму полáтаному латоші'*. Бд.

ЛОГОВЫ'ШЧЭ *н*. Логава. П, У.

ЛОМЫ'ТЫ *незак*. Араць іржышча. П.

ЛОНЧЯ'К *м*. Жарабя-пярэзімак. П.

ЛОПАТА' *ж*. Няроўнасці ў касе у выніку няўмелага кляпання. *Лопату' вгнав в кóсу*. П.

ЛОХА'НЯ *ж*. Вялікі збан. Вострава (К).

ЛОХАЧІ' *мн*. Буякі. П, У. *Тры бу'тлі лохачі'в постáвыла на зы'му*. У.

ЛУХЫ'Й *прым.* Глухі. *Лухы'й, як пэнь.* П.

ЛУЧ *м.* Прамень. *Коло сонця лучі'.* П, Бс.

ЛЫЖКЫ' *мн.* Ляжанне (пра лён) і месца, дзе быў пасланы лён. *Лён у лыжкáх.* П.

ЛЫСТА'Ч *м.* Жменя наламанага зялёнага галля. *З дэ'рыва налáмнэш голля' зылёного – і лыстáч.* П.

ЛЮ'МА *ж.* і *м.* Плакса. *Ну й лю'ма ты, і пáльцём нáвыть ны зачыпы'!* У.

ЛЮ'МАТЫ *незак., экспр.* Плакаць. *Пырыстáнь лю'маты, ты ж вылы'кый вжэ.* У.

ЛЮ'МЗАТЫ *незак. экспр.* Румзаць. *Ны лю'мзай, мáты зáра пры'йдэть.* У.

ЛЯНЫ'Й *прым.* Ільняны. П, Бс.

ЛЯ'ПКА *ж.* Непакрытая шэрсцю частка храпы ў каровы. П.

МАГРЭ'ПА *ж.* і *м.* Несур'ёзны чалавек. Гуцкі (К).

МАЁВЫ ГРЫБЫ' Агульная назва веснавых грыбоў. П.

МА'ЙКА *ж.* Маёмасць. П.

МАНЫ'СТ *м.* Водная расліна. *Маны'ст – по воді, цвіт жóвтынькый, круглый, лыст почті' як на латачóвы, бы росстылáйіцьця на воді', по однúй цвытэ'.* П.

МАНЬКЫТУ'ХА *ж.* Вышываная частка жаночай кашулі. П.

МАНЭ'КЫН *м.* Прыдуркаваты чалавек. П.

МАТУ'ЛЯ *ж.* Хрышчоная маці. А (К).

МАХЛЕ'Й *м.* Хлус. А (К).

МІ'НА *ж.* Выраз, рысы твару. *У ёгó зáвшы мі'на такáя.* У.

МІ'РШЧЫК *м.* Землямер. Гуцкі (К).

МЛЕЧ *ж.* Малокі ў рыб-самцоў. П.

МНЯ'СО ГАРБУЗО'ВЭ *н.* Мякаць гарбуза, дзе знаходзіцца насенне. П, У.

МОКРЭ'ЦЬ *м.* Хвароба капытоў. П, У.

МОРСЛЯКЫ' *мн.* Маршчыны. П.

МОСЫЙІ'ТЫ *незак.* Імжэць. *Мосыйі'ть дошч.* Ан.

МОТЫЛЫ'ЦІ *мн.* Хвароба ў авечак. П, Бс.

МУ'ДРЭ ДЭ'РЫВО *н.* Дэкаратыўнае дрэва сямейства хвойных з мяккай іглiцай і шышкамі. *Му'дрэ дэ'рыво* – [іголкі] *ны'бы на ёлцы, алэ мня'хкы, і шышычкы' мня'хкы; в маёнтку бáчыла.* П.

МУ'ЧАНЬЩЯ *ж.* Крывяная каўбаса. *Трóхы мнёса прыварыть ячмэ'ню, грэ'чкы, росколóтыть, поналывáе в кышкы' і пычэ', такáя смáчна му'чаныця получéйіця.* Ан.

МЫ'МРЫТЫ *незак.* Гаварыць незадаволена. А (К).

МЫНТЫ'ТЫСЬ(-СЯ) *незак.* Хварэць на панос (пра парасят). П, У.

МЫНТЮ'ШКА *ж.* Мянташка. П.

МЫНЮ'ТА *ж.* Мінута. А (К).

МЫ'ЧКА *ж.* Месца пад заднім пальцам на капыце каня. *Пуд мы'чкамы чя'сто мокрэ'ць заво́дыця у ко́нэй.* У.

МЫ'ШШЫ ГРЫБЫ' *мн.* Неядомыя грыбы.Тэўлі (К).

НАВЇ'ЛНЫК *м.* П, навы'лнык *м.* У. Тое, што можна ўзяць на вілы за адзін раз. *Навї́лнык сі'на. Навї́лнык гно́ю.* П.

НАДВЇ'Д *м.* Праводзіны. *Заплаты', Іва́нко, за надвїд – взя́втра ны пушчу' на свїй двїр* (з песні). П.

НАКО'ПСАТЫСЯ *зак.* Нахадзіцца, нарабіцца. *За дэнь нако́псався – аж но́гы гуду'ть.* У.

НАКЫСЛЁНЫЙ *прым.* Насычаны вільгаццю (пра драўніну). П.

НАПО'РНЫЙ *прым.* Настойлівы. П.

НАПОСУ'ПЫТЫСЬ(-СЯ) *зак.* Насупіцца. П.

НАПРА'СНО *прысл.* Дарэмна. П, У, Бс, Ан.

НА РО'СКЫДЬ. Спосаб арання ад краёў да сярэдзіны. П, У.

НА РОССВІ'ТЫ. На світанні. П.

НА СКЛАД. Спосаб арання ад сярэдзіны да краёў. П, У.

НАСТО'ЙЧЛІВЫЙ *прым.* Настойлівы. П, У, Бд.

НАСТОЯ'ШЧО *прысл.* Па-сапраўднаму. *Вжэ настоя'шчо по́ночы.* П, У, Бс, Бд.

НАХВО'ЙІТЫ *зак.* Моцна намачыць. *Шчось хму'рыця, ны трэ'ба открыва́ты карто́плі, а то шчэ дошч пі'йдэ і нахво́йіть.* У.

НЫДБА'ЙНЫЦЯ *ж.* Жанчына, якая адносіцца нядбайна да сваёй справы, да сваіх абавязкаў. П, У.

НЫЗЫНУ'ТЫ *зак.* Штурхнуць. П, У, Бд.

О'БУЙ *м.* Абутак. П, У.

О'ДДЫШКА *ж.* Адпачынак. *Э'то о́ддышка тыпэ'р, а ны робо́та.* Ан.

О'ДЛЫГ *м.* Перапынак. *Ідэ' і ідэ' дошч, о́длыгу ныма́ ёму'.* Ан.

ОДНОЛІ'ЧНІК *м.* Аднаасобнік. П, У.

ОЖМЫНЫ'ТЫ *зак.* Навярэдзіць руку ў час жніва. *Ожмыны'ла ру'ку, натягла́.* П, У.

ОЛЕ'ШЧ *м.* Лешч. П.

ОПАДА'ТЫ *незак.* Нападаць са злосцю, апантана, ашалела. *Як мэд быру'ть, то пчо́лы так опада́ють! Я й на зэ'млю ляга́ю, і всёромно́ дэсь залі'зэ і вку'сыть.* У.

ОПКОСЫ'ТЫСЯ *зак.* Скасіць, выкасіць. *В гэ'тум ро́ці я до дошчі'в успі'в опкосы'тыся, вы'сушыты і в хлів прывысты'.* У.

ОРАБЫ'НА *ж.* Рабіна. П, У.

ОРІ'Х *м.* Агрэх, незахопленая плугам палоска зямлі. *Орі'ха ны вы'кынув.* П.

ОСА' *ж.* Асіна. П.

ОСІ'НКА *ж.* Асенняе ягня. Ан.

ОТЁ'СА *ж.* Атоса. П. У.

ОТПЭ'РЫТЫ *зак., экспр.* Адлупцаваць. П, У. *Той чолові'к чуть ны отпэ'рыв мынэ', з бычём біг за мною.* У.

ОТРЭ'ПЫНЫ *мн.* Атрэп'е. П, У.

ОТСЛУЖЫ'ТЫ *зак.* Перастаць быць працаздольным членам сям'і. *Гарасы'м отслужы'в ля дытэ'й і ля вну'кув – вжэ ны зду'жае робы'ты. Манéчка батэ'ньку отслужы'ла – в комóры сэ'рпа положы'ла* (з песні). П.

ОШЫБНУ'ТЫСЬ(-СЯ) *зак.* Памыліцца П, У, Бс.

ПА'ЗА *ж.* Шрам ад рога на скуры ў жывёлы. *Вы'гнала пáзу корóві.* Ан.

ПАЗЮ'Р *м.* Ногаць. П.

ПАЛЁР *м.* У выразе: ДА'ТЫ ПАЛЁРУ. Моцна насварыцца, прабраць, расправіцца з кім-небудзь. *Хоть бы прыйі'хав колы' і дав йім палёру.* У.

ПАЛЫ'ТЫСЬ *незак.* Пра стан цечкі ў кабылы. П, У.

ПА'НТОЧЫТЫ *незак., экспр.* Есці. *Всё пáнточыш і пáнточыш, колы' вжэ ты найісы'ся.* У.

ПАРНЫ'К *м.* Балотная расліна. *Парны'к в болóты ростэ', шырóкэ лысте, як попáрыш нóгы, то впотрыбля'ють.* П.

ПА'СТЫ *зак.* Даць ускладненне, паўплываць адмоўна. *І топі'ро пáло мні на мозгы'.* У.

ПЛЁШЧЫТЫ У'ХА (пра каня). Прытульваць вушы, выказваючы незадавальненне. П.

ПЛО'ХЫЙ *прым.* Спакойны, рахманы (пра жывёл). *Плóха ку'рыця.* П. *Хвыдóрын бычóк плóхый, а мій як гад скáчэ, жу'тко пудыйты'* У. *Такóе тылéтко плóхынькэ.* Бд.

ПЛЫВУ'Н *м.* Плывучы мул на дне вадаёма. *Плыву'н – ны здэ'ржаты; плыву'н почті' тóе сáмэ, шо му'ля.* П.

ПОВО'ДШЧЫК *м.* Той, хто водзіць каня ў час ворыва. П.

ПОГРАБІ'ТЫ *зак.* Адубець (ад холаду). *Пограбі'лы рукы.* П, У.

ПОДВЫРЭ'ДНЫК *м.* Травяністая расліна. *Подвырэ'днык – лыстóчкы, як на орабы'ны, жóвтынькы цвытóчкы.* П.

ПОКУ'ШАТЫ *зак.* Пакаштаваць. *Поку'шай суп, чы ны пырысолы'ла я?* У.

ПОЛЭ'НУТЫ *зак., фальк.* Паляцець. *Полэ'нь, сокóлю, полэ'нь, я'сныnькый, до нáшого батэ'нька* (з песні). П.

ПОНЫ'КНУТЫ *зак.* Зніцець. П.

ПОПЛЫВСТЫ' *зак.* Паплыць. *Поплú'в парахóд.* П.

ПОПОРІ'ЗАТЫСЬ *зак.* Прайсці, праехаць па цяжкай дарозе. *Ны було́ прослі'дку – цылухóм попорі'зався.* П.

ПО'РЦЫЯ *ж.* Чарка. П.

ПОСВЫСЦЁЛ *м.* Нясталы чалавек. *Чуго́ вуна́ за юго́ пушла́, чы ж гэ'то мужы'к, пусвысцёл якы'йся, удрáзу вы'дно, шчо гурувáты бу'дэ.* Км.

ПРІ'ЛНЫК *м.* Трыпутнік (травяністая расліна).П.

ПРІ'СНЫЙ *прым.* У выразе: Прі'сна зымля'. Зямля, не пакрытая снегам. *На прі'сну зэ'млю напáдав сніг.* Ан.

ПРОСЛІ'Д *м.* Ледзь прыкметны след. *Хтось ішов, бо прослі'д вы'дно на росі'.* П.

ПРО'ТОР *м.* Іголка без вушка. П.

ПРЫ'БОЛОТКА *ж.* Каўпак кольчаты, падбалацянка (грыб). П.

ПРЫ'БОЛОТО *н.* Месца каля балота. П.

ПРЫПАДКО'ВА *ж.* Падучая хвароба. *Прыпадкóва взялá.* П.

ПРЫПАДКО'ВЫЙ *прым.* Хворы на падучую хваробу. П.

ПРЫСЛО'НЬНЕ *н.* Чырвоны слуп над сонцам на захадзе. *Якáясь зьмéна погóды бу'дэ, бо на зáході такóе прыслóньне було́.* У.

ПРЫСТІ'НЬ *н.* Пярсцёнак. Дзівін.

ПРЫ'СЫ *мн.* Асцюкі ў ячмені. *Трэ'ба колосовáты ячмі'нь, коб пры'сы одлі'талы.* Ан.

ПУРХА' *ж.* Перхаць у скаціны. П.

ПУСТЫ'НЬ *ж.* Пустка. П.

ПУТПОЛО'НЫК *м.* Перапечка (з хлебнага цеста). *Спычы' путполóныка, я ёгó вэ'льмы люблю'.* У.

ПУХА' *ж.* Тупы канец яйка. П, У.

ПУ'ЧКА *ж.* Бутон. П.

ПЫГА'РКА *м.* Плеўка (на малацэ); падрумяненая ці трохі падгарэлая частка бульбы, кашы. П.

ПЫЛЮ'ТКА *ж.* Палавіна качана капусты. П.

ПЫРЫКУЛЬБА'ЧЫТЫСЯ *зак.* Перакуліцца. *Як дам дэ чым, аж пырыкульбáчыся.* У.

ПЫРЫЛОМЫ'ТЫ *зак.* Пераараць поле ўвосень другі раз. *Пырыломы'ты на зы'му пóлэ, як вонó ны вы'роблянэ дóбрэ, там пы'рый.* Ан.

ПЫРЫЛЫТА'ТЫ *незак.* Пра падзенне зоркі. *Зорá (зоря') пырылытáе.* П.

ПЫРЫХЛЕ'БЛЯНЫЙ *прым.* З апалымі бакамі (пра карову). *Пырыхлёбляна корова, бы глабы'на.* Ан.

ПЫЧО'НЬЩЯ *жс.* Печаная бульбіна. П.

РА'ПА *жс.* Пласт неўрадлівай глебы чырвонага колеру таўшчынёй 7—8 см. *На ра́пі сад ны хо́чэ росты'; ко́рэнь шчэ'пы дохо́дыть до ра́пы і высыха́е, пробы'ты ны мо́жэ.* Ан.

РА'ПЫЦЯ *жс.* 1.Цвёрды пясчаны пласт зямлі. *Ра́пыця – ры'жсый помыз жо́втым, пысо́к твэ'рдый.* 2. Прамежнасць паміж капытоў у каровы. П.

РА'ТВЫЦЯ *жс.* Прамежнасць паміж капытоў у каровы. Ан.

РАХОВА'ТЫ *незак.* Лічыць. П, Бс.

РОЖО'Н *м.* Мучное печыва. *Рожны' пыклы' с ті'ста: скачée у качёлку ті'сто, потóм наполовы'ну пырыгóрнэ, звэ'рху нóжыком позначы'ть шэ', і казáлы рожóн.* Ан.

РОЗБЎ'РКЫ *мн.* Кароткія загоны. П.

РОСПРЯ'ТАТЫСЬ(-СЯ) *незак.* Распранацца. П.

РОССВЫТА'ТЫ *незак.* Світаць. П.

РОСТА'ВКА *жс.* Лужына расталага снегу. *Як высно́ю роста́вкы, то й вы'їхаты нымо́жна було́.* Ан.

РОСТАРА'КАТЫ *зак., экспр.* Разбіць. П.

РОСХЎ'ДНЫК *м.* Травяністая расліна. *Росхўдник – ны'зынькый, малю'сінькы цвыто́чкы жо́втынькы, і зымо́ю, і лі'том, кутяшка́мы росстыла́йіцьця.* П.

РЯ'МКА *жс.* Рамка. П, У.

САДІ'ВНЫЦЯ *жс.* Жанчына, якая садзіць бульбу. *Трэ'ба бі'гчы в сыло́ саді'вныць шука́ты.* П.

САДІ'ЛНЫЦЯ *жс.* Жанчына, якая садзіць бульбу. П, Бс.

СВЫТЎ'ВКА *жс.* Заранка, ранішняя зорка. П.

СВЫТОВА'Я ЗОРЯ' *жс.* Заранка, ранішняя зорка. П.

СІ'ВКЫЙ *прым.*; сі'вкэ полотно́. Рэдкае палатно. П.

СКВЫРЖ *м.* Закрутка на нітках. *Збыга́ють сквыржі' на ны'тцы.* П.

СКІ'МЫНЫТЫСЯ *незак.* Скнарнічаць. *Чого́ ты скі'мынысся, сып, ны шкоду'й, в тыбэ' ж мны'го шэ.* У.

СЛІДЗІ'ВКА *жс.* Бочка з-пад селядцоў. П.

СЛЫЗЫ'ТЫ, СЛЫЗІ'ТЫ *незак.* Быць пакрытым сліззю, не гаіцца (пра рану). *Ра́на слызы'ть.* П.

СМА'РКЫ *мн.* Соплі. П.

СМЫРДЮХА' *жс.* Лясны клоп. П.

СМЫТЫ'НА *жс.* Парушынка (якая часам трапляе ў вока). П, У.

СМЫЮ'Н *м.* і *жс.* Дзіця, якое пачынае смяяцца. П, У, Бс.

СНІГА'Р *м*. Снягір. П.

СНЎ'ЙНЫЦЯ *ж*. Сноўніца П.

СНЫТІ'Й *м*. Галаўня (у зярнятах проса, аўса). П, У.

СОННЮ'ТА *ж*. і *м*. П, Бс, Бд, сонюʼта *ж*. і *м*. У. Санлівы чалавек.

СОПЛІ' *мн*., СОПЭ'ЛЬ *м*. *адз*. Ледзяшы. П.

СОПЛЯКЫ' *мн*., СОПЛЯ'К *м*. *адз*. Ледзяшы. П.

СО'СКА *ж*. Сасок у каровы. Ан.

СОСО'НКА *ж*. Хвошч летам. П.

СПЛЫМЫНЫ'ТЫСЬ *зак*. Пра з'яўленне каўтуна. П.

СПРЫНДЖЫНОВА'ТЫ *незак*. П, У, СПРЫНЖЫНОВА'ТЫ *незак*. Бс. Культываваць (пра зямлю).

СРІ'БНЫК *м*. Падтыннік. *Срі'бнык – такы'й сы'выནькый.* П.

СТАТЫ'ВКА *ж*. Бакавая частка кроснаў. П, Хабовічы (Х).

СТЎЛ *м*. Надмагільны помнік у выглядзе бярвенца з выразаным крыжам. П, У.

СТОРЧЯ'К *м*. Галоўны корань дрэва. П, У.

СТРА'МНО *прысл*. Сорамна. П.

СТРАМЫ'ТЫСЬ(-СЯ) *незак*. Саромецца. П.

СТРЫХА'ЧКА *ж*. Прылада, якой выраўноўваюць салому пры крыцці страхі. П.

СУВЭ'РТОК *м*. Скрутак ільновалакна. *Сувэ'рток – тое, шо прач.* П.

СУДОШЯ'ТЫ *незак*. Сустракаць. П, У.

СУДОШЯ'ТЫСЬ(-СЯ) *незак*. Сустракацца. П, У.

СУТО'К *м*. Месца перакрыжавання палак у баране, у якое ўстаўлялі зуб'е. *На сутóках занóзы в'язáлыся лозóю абó вытыéм, похóжым на лóзу, такы'йі галё'вкы робы'лыся.* Ан.

СУТОНІ'ТЫ *незак*. Сутóнець. *Вэ'чор, почынáе сутоні'ты, рóбыцьця пóночы.* П.

СШУМІ'ТЫ *зак*. Вельмі разрасціся на ўгноенай глебе. П, Бс.

СЫРНЕ'ГА *ж*. Сярмяга. Бд.

СЫРЫБРІ'СТЫК *м*. Піжма. П.

СЫСУ'Н *м*. Цяля гэтага года. *Сысу'н – сёгóрочнэ тылé, сóску шэ ссэ, а як до гóда дохóдыть, то вжэ тылé.* Ан

СЬЦІ'БРЫТЫ *зак*. Украсці. *Позы'ч жылі'зныка, бо моёго сьці'брылы.* У.

СЭ'НДЫРКО-ПЭ'НДЫРКО *м*. Божая кароўка. *Сэ'ндырко-пэ'ндырко, чы бу'дэ зáвтра погóда, як ны бу'дэ, то заб'ю', а як бу'дэ, то пушчу'* (прыгаворваюць, трымаючы на руцэ). У.

СЭ'РПЫК *м., памянш.*.Сярпок. *Мі'сяць гóстрынькый, як сэ'рпык.* П, У.

ТАШЧЫ'ТЫ *незак.* Разграбаць рукамі выараны рад бульбы, капаць бульбу. *Сядáй на рятки', помагáй ташчы'ты.* У.

ТЕ'МРАВА *ж.* Цемната. *Тéмрава на дворі', хоч óчы вы'коль.* У.

ТКА'ЛЬНЫЦЯ *ж.* Жанчына. якая тчэ кросны. *Ці'лу зы'му пря'ла, ці'лу вэ'сну ткáла; шо бэ'рдычком сту'кнэ, то ны'точка пу'кнэ; ны'точку звя'жэ, самá спáты ля'жэ – так ткáльныця спывáла.* П.

ТОВМАЧІ' *мн.* Звараная тоўчаная бульба. У.

ТРАПУ'НОК *м.* Выпадак, здарэнне. П.

ТРУ'СОК *м.* 1. Дробныя трэсачкі, кусочкі сухой кары і інш.. 2. Месца, дзе сякуць дровы. П.

ТРЫБ *м.* Утрамбаваная лясная дарога. П.

ТРЭ'ПАЧКА *ж.* Прылада, якой трэплюць лён. Хабовічы (Х).

ТУ'БЫЛНЫЙ *прым.* Мясцовы. *Ту'былных людэ'й шэ мны'го.* П.

ТЫРТЫ'ЦЯ *ж.* Дошка. П.

ТЫРЫ'Б *м.* Прасека праз лес. П.

ТЭ'НУТЫ *зак.* Пасунуць, зрушыць з месца, адштурхнуць. *Я тэ'нув трóшкы з мі'сьця ёгó.* Ан.

ХЛУ'ЧЧЫК *м.* Драўляная палачка, на якую насаджваецца цэўка ў чаўнаку. П.

ХЛЮ'БА *ж.* Гнуткі дубец. П.

ХЛЯ'ПАТЫ *незак.* Хлюпаць. П, Бс.

ХОРОШЫ'ЛО *н.* Плацэнта ў каровы. П.

ХРЯПАНЫ'НА *ж.* Стан, калі замёрзла без снегу дарога, галалёд. П, Ан. *На пóлы, на траві' бугоркы бувáють, то хряпаны'на получя'йіця, він ломáйіця пуд ногáмы, пря'мо хрусты'ть.* Ан.

ХРЯ'ПКЫЙ *прым.* Замёрзлы без снегу (пра дарогу). *Дорóга хря'пка, як груддé.* П.

ЦЫЛУ'Х *м.* Снежная цаліна. *Ны булó прослі'дку, цылухóм ішóв.* П.

ЦЯ'ТА *ж.* Тлушчавая кропля ў страве, скалка. *Дывы'сь, якы'йі ця'ты в су'повы.* У.

ЧІРНУ'ШКА *ж.* Прыправа да хлеба і інш. Дзівін.

ЧО'РНЫЙ БУ'СЭНЬ *м.* Чорны бусел. *Чóрный бу'сэнь – лісны'й, проводны'к.* П.

ЧУ'НІ *мн.*; чунь *м.* Дзіцячы (пераважна) абутак з нітак. П.

ЧУТЬ НА РОССВІ'ТЫ. На досвітку. П.

ЧУХРЫ'ТЫСЬ(-СЯ) *незак.* Чухацца. П, У.

ЧЫРО'ВКА *ж.* Травяністая расліна, якая "ўеццa" па іншых (культурных) раслінах. *Чыро́вка – ныма́ ны лы'стя, нычо́го, повы'та, бы повзэ'.* П.

ЧЫТЬВО'РТЫЙ *ліч.* Чацвёрты. П.

ШАГ *м.* Крок. П, У, Бс, Бд. *Ступы'в сім шагїв да й став.* П.

ШАГА'ТЫ *незак.* Крочыць. П., Бс.

ШВЭ'РГАТЫ *незак.* Гаварыць абы-што. П, У.

ШЇ'ХЛЯ *ж.* П, Ші'хля *ж.* Бд. Ліхаманка.

ШМЫ'ТКО *прысл.* Шпарка. П, У.

ШМЫТКОМАРУ'ДНЫЙ *прым.* Той, хто робіць хутка, але няякасна. П.

ШМЫ'ТКЫЙ *прым.* Шпаркі. П, У.

ШОЛО'ТА *ж.* і *м.* Балбатун. П, У, Бд. *Шолота вылызла з болота.* У.

ШО'ПЫЛЬКА *ж.* Драўляны шуфлік, якім веялі ўручную. П, Бс.

ШПА'ҐА *ж.* Стрэмка. П, У, Бд. *Загнав шпа́ґу в ногу.* П. *На, вы'ймы мні шпа́ґу с па́льця, у самэ'йі ныць ны получя'йіця, ны ба́чу вжэ.* У.

ШПУ'ТА *ж.* Планка, якой замацоўваюцца дошкі. П, У.

ШУ'ХМЫННЕ *н.* Дробнае ламачча і інш., драбяза. П.

ШЧЇ'ТКА *ж.* Сівец (травяністая расліна). П.

ШЧЫНЕ'ТЫ *незак.* Пластаваць сена. *Почына́й шчыне́ты шчы'нка.* Ан.

ШЧЫНЯ'К *м.* Пластаваны абярэмак сена, саломы. П.

ШЧЯ'Я *ж.* Шчыліна. П.

ШЫШЯ'К *м.* Гронка арэхаў. П, У.

ШЭ'РОХ *м.* Тоненькі лёд на вадзе. *Вночі' са́жолка зашэ'рхла, покры'ло шэ'рохом.* П.

ШЭ'РХНУТЫ *незак.* Падмярзаць, замярзаць трошкі, злёгку. *В лу'жы вжэ вода́ почына́е шэ'рхнуты, знов бу'дэ моро́з.* П. *Бач, як вода́ в выдрі' шэ'рхнэ, му'сыть ні'ччу вылы'кый моро́з бу'дэ.* У.

ШЯ'РҐА *ж.* Вялікі вецер, бура. *Куды' тыбэ' розді'того нысэ', бач яка́я шя'рґа пудняла́ся.* У.

ЮЧЬ *м.* Страўнік у свіней, каровы, цялят. Ан.

Я'ДУШЛЫВЫЙ *прым.* Які з задышкай, дыхавічны (пра чалавека). П, У. *Пытро́ такы'й я'душлывый став, ныць вжэ ёго́ ныма́, при'йдэ мэ'трув дэ'сэть і становы'ця опочы'ты, я'духа забыва́е.* У.

ЯЗЫ'К *м.* Рухомая частка церніцы. П.

ЯЗЫЛЭ'ЦЬ *м.* Павой. Ан.

ЯЗЫ'ЧОК *м*. Травяністая расліна, якая "ўецца" па іншых раслінах, звычайна культурных. *По горóды язы'чок, сплымыны'ть картоплы'нне всё.* П, У.

ЯЗЮ'К *м*. Язь. П.

ЯНДЫ'К *м*. Індык. П.

ЯНДЫ'ЧКА *ж*. Індычка. П.

*М.Н. Крыўко*

# З ЛЕКСІКІ ТКАЦТВА, ПРАДЗІВА І ЗВЯЗАНАЙ З АПРАЦОЎКАЙ ЛЁНУ, ЛЬНОВАЛАКНА, ВОЎНЫ Ў ГАВОРКАХ МЁРШЧЫНЫ

Фактычны матэрыял да гэтага артыкула быў сабраны аўтарам у час дыялекталагічнай камандзіроўкі ў жніўні – верасні 1978 года па збіранні моўнага матэрыялу для "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак", а таксама ў 1960 – 1990 гады пры вывучэнні гаворак гэтага мікрарэгіёна для напісання свайго дысертацыйнага даследавання і пры зборы лексіка-фразеалагічнага матэрыялу да "Слоўніка Дзісеншчыны". Было абследавана ў розных кутках Мёрскага раёна 50 населеных пунктаў. Матэрыял, як правіла, запісваўся ад мясцовых ткачых ці асоб, што добра ведаюць ткацкую справу і структуру кроснаў, прасніц, прыстасаванняў, якія служаць для апрацоўкі лёну, льновалакна, воўны і інш.

Тут прыводзіцца 300 моўных адзінак, якія называюць дэталі, часткі красён, калаўрота, прылады, прыстасаванні для апрацоўкі лёну і льновалакна, воўны, працэсы, звязаныя з ткацтвам, апрацоўкай лёну, словы, якія абазначаюць дзеянні, звязаныя з назвамі і іншымі працэсамі, якія называюць ткацкія вырабы, якія характарызуюць такія вырабы, якія называюць віды пражы і яе апрацоўку, якія называюць прыстасаванні для снавання кроснаў і інш.

Перш чым падаваць тэматычную моўную падборку, прывядзём апісанне падрыхтоўчых дзеянняў, што папярэднічаюць працэсу ткання, якое зышло з вуснаў прызнанай майстрыхі ткацкай справы і вышывальшчыцы з вёскі Ясёва, што на поўначы Мёрскага раёна, Аўдакеі Аляксандраўны Тамашэвіч (1916 г.н.): *Укіналі ў ніты, тады ўкіналі ў бёрда. Улажылі цыны, дзве цыновачкі. Сталі навіваць на навой. Навілі гэту аснову. Тут канцы разрэзалі. Гэта бёрда снялі. Тады пачалі кідаць у ніты. Укіналі ў ніты, тады снова ў бёрда. Тады прывязываім да затыкальніка, сучым цэўкі. Да нітоў чапаім вяровачкі. Прывязываім гэтыі вяровачкі да панажоў, цэўку кладзём у чаўнак і затыкаім. І тчом палатно.*

АДАРО'БКА *ж.* Прыстасаванне, на якое намотваюць пражу. Новы Пагост, Канцэрава, Копцева І, Мётлы. *На адаробку пражу маталі.* Канцэрава.

АДБЕ'ЛІВАЦЬ *незак.*, АДБЯЛІ'ЦЬ *зак.* Адбельваць, адбяліць (палатно). *Палатно на сонцы адбелівалі.* Новы Пагост.

АДХО'НАВАСТЫ *прым.* Не круты, пахілы (пра аснову). *Адхонавастыі ніткі – гэта ня крута напрадзеныі ніткі.* Манякова.

АДХО'НЫ *прым.* Тое, што адхонавасты. *Аснова буваіць адхоная.* Ясёва.

АСНО'ВА *ж.* Аснова (кроснаў). Ясёва, Пераброддзе, Дзедзіна. *Пражу афарбавала на аснову.* Дзедзіна. *Аснову наўюць на навой, а тады канцы разрэжуць.* Янова.

АТРА'ПНІК *м.* Даматканы ручнік, якім выціралі рукі, пасуду. *Я табе калі дам гэтым атрапнікам!* Манякова.

АЧО'СКІ *мн.* Рэшткі, адходы пры часанні лёну. *Лён чэшуць, у канцы ачоскі астаюцца.* Пераброддзе.

БАВАЛЬНІ'ЦА *ж.* Баваўняныя ніткі, купленыя ў магазіне, для ткання. *Бавальніца куплялася маткамі.* Янова. *Бавальніцу ткалі, іна куплялася.* Новае Сяло.

БА'ЛЬКА *ж.* Таўставата спрадзеная нітка. Ясёва, Даўгінава. *Талька і балька, як прадзеш. Дзе тоўста спрадзеш, дзе тонка.* Пераброддзе. *Вот прадзець: гдзе талька, гдзе балька – і тоўста, і тонка спрала.* Новае Сяло. *То талька, то балька – то тонка, то тоўста спрадзіна.* Туркова. *Напрала ты дык напрала: дзе талька, дзе балька.* Дворнае Сяло. *Вот прадзець Ганулля: то талька, то балька.* Малая Кавалеўшчына.

БАЧНЫ' *прым.* Бакавы (пра навой). *Гэты бачныі наваі.* Новы Пагост.

БЕРДАВЫ': БЕРДАВАЯ ТРОСЦЬ. Трысцінка ў бёрдзе. *Бёрда састуўляіцца, у бёрдзі ёсць бірдава́я тросць.* Новы Пагост.

БЕ'РДЗІЦА *ж.* Дошчачка для замацавання трысцінак у бёрдзе. *Було дзве бердзіцы у бёрдзі.* Манякова.

БЁРДА *н.* Бёрда. Ясёва, Даўгінава, Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *У набілку ўстуўляіцца бёрда.* Янова. Новае Сяло, Туркова, Цімошкава, Павяцце, Смолеўцы, Дворнае Сяло, Марозькі. *Радабочныі бёрды для радабоці, для рэдкага палатна.* Новы Пагост. Канцэрава.

БІ'ЛА *н.* Набіліцы. *У нас болі набільніцы завуць, алі завуць і біла. Гэта адно і тоя ў краснах.* Манякова.

БЛІЗНА' *ж.* Памылка пры тканні палатна, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання. *Ідзець шчэлка, гэта блізна.* Новае Сяло. *Ткала, памылілася, вот і йдзець блізна.* Марозькі. *Кажуць: во тчэш – блізна пашла.* Канцэрава.

БЛЮЗЁНКА *ж.* Памянш. да блюзна. *Ткалі ў блюзёнкі.* Янова. Павяцце.

БЛЮЗНА' *ж.* Тое, што і блізна. *Кажуць: блюзна ідзець, ніправільна ткана.* Ясёва. *Блюзну зробіла.* Новы Пагост. *Ідзець блюзна.* Пераброддзе. Дзедзіна. *Блюзна ідзець. І ткалі ў блюзёнкі.* Янова. *Блюзна палучылася.* Туркова. Цімошкава.

БО'ЙКА *ж.* Мера лёну, роўная прыкладна 4 кг. *Дзве бойкі лёну паўпўда. Бойкі візалі вяровачкамі, а тады трапалі.* Манякова.

БЫК *м.* Памылка пры снаванні кроснаў, калі ніткі асновы ідуць зверху безператыкання. *Снуеш кросны, абмылісся, бык палучыцца.* Манякова.

БЫКА' ПАЛАЖЫ'ЦЬ. Памылка пры тканні, калі ніткі асновы ідуць зверху безператыкання. *Во тчэць – быка палажыла і тчэць.* Туркова. *Абмылілася ў тканні – быка палажыла, кажуць.* Цімошкава.

ВА'ЛАК *м.* Навой. *Аснова на валак навіваіцца.* Пераброддзе. Дзедзіна.

ВАСЬМІНІ'ТНЫ *прым.* Тканы ў восем нітоў (пра палатно). *Такоя палатно було пасці ш васьмінітная.* Новы Пагост.

ВАЎНЯ'НЫ *прым.* Ваўняны, зроблены з воўны. *Паўсукенік – калі па кужалю патыкалася ваўняными ніткамі.* Смолеўцы.

ВЕРАЦЁНА *н.* Вярацяно. *А дзе гэта маё вірацёна, хацела во чалавеку паказаць.* Новы Пагост. *На вірацёна пралі.* Румполле.

ВЕРАЦЯНО' *н.* Тое, што верацёна. *Вірацяном пралі ўперат.* Туркова. Цімошкава.

ВІРЭ'ЙКА *ж.* Бакавая частка бёрда. *Збоку планачкі, гэта вірэйка ў бёрдзі.* Ясёва.

ВІТУ'ШКА *ж.* Вітушка. *На вітушку пражу наматываім.* Ясёва. *Адаропка – адно, а вітушка трошку другоя.* Новы Пагост. *Напрадзём пражы, а тады на вітушку наматываім.* Цімошкава. *Адаробка і вітушка – тоя самая.* Канцэрава.

ВІЮ'ШКА *ж.* Тое, што вітушка. *На віюшку маталі пражу.* Павяцце.

ВО'ЛЬНА *прысл.* Не крута, не туга (звіты, скручаны, спрадзены). *Вольна пралі. Вольнінька спрадзець, роўнінька.* Янова.

ВО'ЛЬНАЯ ПРА'ЖА. Някрута спрадзеныя ніткі. *Буваіць крутая пража і вольная.* Новы Пагост. Пераброддзе, Дзедзіна.

ВЫЦІРА'ЛЬНІК *м.* Даматканы ручнік, якім выціраюцца. *Выціральнікі ткуць, пасцілкі, настольнікі.* Новае Сяло.

ГАЙСА'ЛКА *ж.* Дэталь у калаўроце, якая звязвае кола з понажам. *Гайсалка звязываіць кола з лапатачкый у калаўроці.* Новае Сяло.

ГНЯЗДО' *н.* Месца ў калаўроце, куды ўстаўляецца рагач і шпулька. *У гняздзе сядзіць рагач і шпулька.* Цімошкава.

ГУ'НЬКА *ж.* Зрэбная посцілка. *Ізрэбная пасцілка – гунька, і прастыі пасцілкі называюць гунька.* Ясёва. Пераброддзе, Дзедзіна, Лугі. *Гунькі ткалі, коні імі накрывалі.* Туркова.

ДАРО'БКА *ж.* Вітушка. Ясёва, Пераброддзе, Дзедзіна. *Даробка, цэўкі на ей сучылі. Даробка была і маткі матаць на яе. Гэта ўжо былі сучаныі ніткі.* Новае Сяло. Павяццце. *Даробка – з ліповый карыны такая. На яе маталі ніткі.* Старыя Крукі.

ДАРО'ГА *ж.* Тое, што блізна. *Во якую дарогу ў палатне зробіла.* Манякова.

ДАТЫКА'ЛЬНІК *м.* Кіёк з нацягнутым на яго палатном у ткацкім станку для пачатку і заканчэння ткання. *Затыкальнік і датыкальнік. Ім начыналі і канчалі ткаць.* Янова.

ДВАНА'ЦЦАТНІК *м.* Бёрда ў дванаццаць пасам. Манякова.

ДВАЦЦАТНІ'К *м.* Бёрда ў дваццаць пасам. *Двацатнікам бавульніцу ткалі, самыі тонкії ніткі.* Манякова.

ДЛІНЯ' *ж.* Мера палатна, роўная 2 – 3 сценам (гл. сцяна). *Дліня – дзве, тры сцяны палатна.* Ясёва.

ДРУ'ЧКА *ж.* Прылада для апрацоўкі лёну на кужаль. *І пачасаўка скажуць і305 дручка – гэта адно і тоя ж. Ей кудзелю апачасывалі.* Манякова.

ДЫВА'Н *м.* 1. Дыван; коўдра, вытканая з рыззя; дыван з рыззя. *Трантоўку ішчэ дыван завуць.* Ясёва. *Дыван з трапак.* Новы Пагост. *Трапачны дыван.* Пераброддзе. 2. Посцілка, вытканая прыгожымі ўзорамі. *Красівы пірабор тожа завуць дыван.* Ясёва.

ДЫВАНО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да дывана; які з'яўляецца дыванам (гл. дыван). *Дывановыі былі палавікі, дывановыі дарожкі.* Манякова.

ДЫ'МКА *ж.* 1. Узорам тканае палатно. *Дымка – гэта ўзорная тканая палатно.* Ясёва. *Дымка ткалася ў чатыры ніты.* Новы Пагост. *Са шляком ткалі, дымкай ткалі.* Малая Кавалеўшчына. Канцэрава. *Дымка – пірабіраная коўдра, у восім, шаснаццыць нітоў ткалі.* Манякова. 2. У выразе: У ДЫМКУ – узорам, з узорамі (ткаць палатно, тканае палатно). *Можна аднацветна ткаць што-небудзь, а можна у дымку.* Копцева П.

ДЫМКО'ВЫ *прым.* Узорны, з узорамі (пра палатно). *І ў дымковай пасцілцы тожа называіцца шляк.* Ясёва. *Шляковая ткалася, дымковая.* Старыя Крукі. *Я сама, бувала, дымковая ткала, чаго я толькі ні піраткала.* Канцэрава.

ЁЛАЧКА *ж.* Тое, што ёлка. *Рабізну ткалі ў рыб'я вочкі, у ёлачку.* Манякова.

ЁЛКА *ж.* Узорам тканае палатно ў чатыры ніты (ужываецца звычайна ў выразе: **у ёлку ткаць, у ёлку тканае**). *У чатыры ніты ткалі палатно, гэта называлася – ткаць у ёлку ці ткаць у ёлачку.* Манякова.

ЖА'БКА *ж.* Шрубок у калаўроце, на які надзяваецца шпулька і які служыць для рэгуліроўкі шнуркоў. Манякова.

ЖАЛЕ'ЗКА *ж.* Дэталь у калаўроце. *Мітэрка, а тады жалезка ў калаўроці.* Туркова. Цімошкава.

ЗАКРУ'ТКА *ж.* Дэталь у калаўроце, якая служыць для рэгулявання шнура. *Шнур каб палажыіць ці паслабіць, дык для гэтага ёсць закрутка ў калаўроці.* Канцэрава.

ЗАЛА' *ж.* Луг, шчолак (служыў для адбельвання, адмочвання пражы, палатна). Новы Пагост, Перабродздзе, Дзедзіна. *Залой пражу атмачывалі, адбелівалі.* Дзедзіна. *Пражу атмачывалі ў зале.* Канцэрава.

ЗА'СМАРЖКА *ж.* Вузел на нітцы, які завязваецца адвольна на нітцы пры прадзенні. *Халера, ішчэ адна засмаржка на нітцы зробілася.* Манякова.

ЗАТЫКА'ЛЬНІК *м.* Тое, што датыкальнік. *У затыкальніку два кіёчкі. Адзін укладаіцца ў навой. З гэнага нава́я ідзець на гэтат навой палатно. На затыкальніку начыналі і канчалі ткаць.* Ясёва. *Як начынаіш і канчаіш ткаць – затыкальнік.* Цімошкава. *Затыкальнік, ім начыналі і канчалі ткаць.* Павяцце.

ЗБО'ІСТЫ *прым.* У выразе: **збоістае палатно** – густое, акуратна збітае пры тканні палатно. *Збоістая палатно – акуратна збітая палатно.* Новы Пагост.

ЗБО'ЙКІ *мн.* Папярочныя планкі у кроснах. *Збойкі – пярэчкі ў краснах, клінамі збіваюцца.* Туркова. *Збойкі – гэта тры пярэчкі ў краснах.* Марозькі. *Тры збойкі нада ў краснах.* Малая Кавалеўшчына.

ЗГРЭ'Б'Е (згрэ́б'я) *н.* Тое, што зрэб'е. *Спірва йдзець кужаль, послі пакула, ці пакуля ішчэ яе завуць, тады йдзець згрэ́б'я, а тады пачасся і ачоскі.* Дзедзіна.

ЗЕЎ *м.* Прамежак паміж ніжнімі ніткамі асновы красён, праз які праходзіць чаўнок. Ясёва, Даўгінава. *Чаўнок ходзіць па зяву́.* Новы Пагост. *Каза вышла, два зявы́ зробілася.* Янова. Новае Сяло. *У зеў закідываіцца чаўнак.* Туркова. Цімошкава, Павяцце, Дворнае Сяло, Марозькі, Смолеўцы, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава, Язна.

ЗРЭ'Б'Е (зрэ́б'я) *н.* Зрэб'е, грубая кастрывая кудзеля, што аддзяляецца пры тканні лёну; палатно з такога валакна. *Зрэб'я – самы горшы лён, тады пачасся, а тады кужаль.* Новы Пагост. *Спірва, як чэшуць лён, ідзець кужаль, тады пачася, а ў канцы пакуля, ці зрэб'я.* Янова. *Лён дзеліцца на зрэ́б'я, пачасся і кужаль.* Марозькі. *Вот я вам раскажу, як у нас лён*

*дзяліўся: самая горшая – гэта зрэб'я, тады – пачасся, тады – трацяк, а тады чацвёртая, самая лепшая – гэта кужаль; а пакуля ня ў гэтат шчот, яно аддзельна.* Малая Кавалеўшчына.

ЗЭ'ДЛІК, ЗЭ'ДЛІЧАК *м.* Падобная на зэдлік дэталь у калаўроце, каля якой прымацавана кола. *У калаўроці называіцца зэдлік. Зэдлічак – дзе калясо стаяла.* Янова.

ІЗРЭ'Б'Е (ізрэ́б'я) *н.* Тое, што зрэб'е. *Ізрэб'я тожа насілі. Ізрэбныі рубашкі насілі.* Туркова. *Ізрэб'я йдзець, пачасся, а тады – кужаль.* Канцэрава.

ІЗРЭ'БНІНА *ж. зб.* Вырабы са зрэб'я. *Даўней було поўна ізрэбніны.* Манякова.

ІЗРЭ'БНІЦА *ж.* Зрэбная коўдра. *Ізрэбніцы былі во цяжкіі, нападоймішча.* Манякова.

ІЗРЭ'БНЫ *прым.* Зрэбны. *Ізрэбный пасцілкый накрывалісі.* Новы Пагост. *Ізрэбныі рубашкі насілі.* Туркова. *Матка-пакойніца даўней казала: хоць і ізрэбная, абы чысцінькая.* Манякова.

ІШПУ'ЛЬКА *ж.* Шпулька ў калаўроце. Ясёва, Даўгінава, Новае Сяло. *Ішпульку выніла з калаўрота.* Малая Кавалеўшчына. Старыя Крукі, Канцэрава, Язна, Цвеціна, Мапінаўка, Копцева І.

ІШПУ'ЛЯ *ж.* Тое, што і шпулька. *Са йшпулі матаім на клубкі.* Новы Пагост. *Ішпулю нітак напрадзеш, на клубок піраматаіш і зноў прадзеш.* Павяцце.

КАБЫ'ЛКА *ж.* 1. Назва адной ніткі пры тканні красён. *Адна нітка кабылка завецца.* Ясёва. *Адна нітка ў тканні – кабылка.* Малая Кавалеўшчына. 2. Частка нітоў, у якую ўводзіцца нітка. *Кабылка – адзіночная часць нітоў, у каторую ўводзіцца нітка.* Новы Пагост.

КАЗА' *ж.* 1. Памылка пры тканні, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання; памылка пры тканні, калі атрымліваецца замест аднаго два зявы (звычайна ўжываецца ў выразах: каза вышла, казу пакласці, казу палажыць, казу зробіць і інш.). *Каза вышла, два зявы зробілася.* Янова. Канцэрава. *Казу паклала – зробіла памылку пры тканні.* Дворнае Сяло. *Як ты тчэш, вун узнова казу зробіла.* Новае Сяло. 2. Памылка пры снаванні кроснаў. *Казу паклала – зробіла памылку пры снуванні.* Павяцце. *Снуеш, памылісся, кажуць: казу паклала.* Марозькі. *Казу палажыць – абмыліцца пры снаванні.* Пераброддзе.

КАЗЁЛ *м.* 1. Тое, што каза (у 1 знач.). *От тканніца, казёл палажыла.* Новы Пагост. *Во наткала: казла палажыла і тчэць сабе далі.* Малая Кавалеўшчына. 2. Тое, што каза (у 2 знач.). *Палажыць казла значыць памыліцца, снуючы. Ідзець крыж-накрыж. Памылку гэту выразалі.* Ясёва.

КАЗЛІ'ЦЦА *незак.* Касабочыцца, хіліцца на бок (пра кросны) . *Кросны мае сталі казліцца, нада ўперці лепі.* Камянполле.

КАЗЮ'ЛЬКІ *адз. няма.* Прыстасаванне, прымацаванае ўздоўж сцяны, для снавання красён. *Прыбівалі такіі казюлькі да сцяны, тады на іх кросны снувалі.* Янова.

КАЗЯЛО'К *м.* Матавіла. *Матавіла і казялок – тоя самая.* Новы Пагост.

КАЛАЎРО'Т *м.* Калаўрот. *Ліжачы калаўрот зваўся ліжак.* Даўгінава. Пераброддзе, Дзедзіна. *Дзе калясо ў калаўроці стаяла, там зваўся зэдлічак.* Янова. *Калаўрот на чатыры ножкі.* Дворнае Сяло. *Калаўрот на нагах стаіць.* Старыя Крукі. Румполле.

КАЛЕ'СКІ *адз. няма.* Блок для падвешвання нітоў у кроснах. *За калескі ніты падвешываюцца.* Новы Пагост.

КАЛЕ'СЦЫ *адз. няма.* Тое, што калескі. Ясёва, Даўгінава, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле, Туркова, Цімошкава, Павяцце. *Калесцы з нітамі звязаныі.* Янова. *За калесцы ніты прывязываюцца.* Янова. *Калесцы, а ціраз іх – ніты.* Канцэрава.

КАЛЁСКІ *адз. няма.* Тое, што калескі. *Ніты прычэпліваюцца да калёсак.* Новае Сяло. *У кроснах ёсць калёскі, на іх вешаюцца ніты.* Марозькі.

КАЛО'ДА *ж.* Прыстасаванне, на якое навіваюцца ніткі. *Калода – дзе навіваюцца ніткі.* Марозькі. *Кіёк дзяржыць калоду.* Дворнае Сяло.

КАЛЯ'НЫ *прым.* Груба вытканы (пра палатно). *Даўней і калянная палатно насілі, гэта болі зрэб'я було.* Даўгінава.

КАЛЯСО' *н.* Кола ў калаўроце. *Шнур нада туга нацягаваць на калясо, тады лоўка прасці.* Пераброддзе.

КАНЦЫ' *мн.* Канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання кроснаў. Ясёва, Даўгінава, Пераброддзе, Дзедзіна. *З канцоў плялі плётку.* Туркова. Цімошкава. *Канцы сплітали ў плётку.* Павяцце. *Канцы астаюцца, возьміш абрэжыш іх, абрэжыш.* Малая Кавалеўшчына.

КАРАЎЛО'Т *м.* Тое, што калаўрот. Новы Пагост, Новае Сяло. *У мяне ш ёсць караўлот, прала ўсё.* Цімошкава. Туркова. *Мой караўлот у пазыках.* Павяцце. *Я ўжо на сваім караўлоці даўно ні праду.* Канцэрава.

КАРО'МІСЛЫ *адз. няма.* Спецыяльны блок для падвешвання нітоў у кроснах пры тканні ўзорнага палатна. *Каромісла былі, як дымку ткаць, а так – калесцы.* Ясёва.

КАРШУ'Н *м.* Дэталь у калаўроце ў выглядзе двухзубай вілкі з металічнымі зубамі, на якую надзяецца шпулька. Ясёва, Даўгінава, Новае Сяло, Павяцце, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава. *У каршуне – жалезка, йшпулька.* Манякова.

КІЁК *м.* 1. Клін для ўмацоўвання задняга навоя. *Для скраплення задніга кола служыць клін, ён завецца кіёк. А для пярэдніга кола – трашчотка.* Цімошкава. 2. Палачка, да якой падвешваюцца набіліцы. *За кіёк падвешывалася набіліца.* Цімошкава. 3. Кіёк – палачка, якая служыць для апоры калоды (гл. калода). *Кіёк дзяржыць калоду.* Марозькі.

КІЙ *м.* Тое, што кіёк. *Набіліца падвешывалася на кію.* Туркова .

КЛІН *м.* Спецыяльны клін у кроснах. *Пярэчкі ўставюцца і кліны заганяюцца, кап ні разліталісі кросны.* Ясёва. *Кліны ў краснах*. Павяцце.

КЛЯЧА'СТЫ (клічáсты) *прым.* Клятчасты. *Клічастае палатно.* Пераброддзе.

КО'ЛА *н.* 1. Дэталь у калаўроце. *На кола надзяецца шнур.* Ясёва. *Кола ў калаўроці.* Пераброддзе. *Гайсалка звязываіць кола з лапатачкый у караўлоці.* Новае Сяло. Цімошкава, Павяцце, Старыя Крукі, Канцэрава. 2. Навой. *Трашчотка – такі клін для скраплення пярэдніга кола красён.* Цімошкава.

КО'ЎДРА *ж.* 1. Коўдра. Ясёва, Даўгінава. *Коўдра на пакуллі.* Пераброддзе. *Коўдра на кудзелі.* Туркова. 2. Даматканая посцілка, звычайна вытканая ўзорамі. *Пірабіраныі коўдры ткалі.* Падзвінне.

КРО'СНЫ *адз. няма.* Хатні ткацкі станок. Ясёва, Даўгінава, Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле, Новае Сяло, Туркова, Цімошкава, Павяцце, Дворнае Сяло, Смолеўцы, Марозькі, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына. *Любка ў нас ішчэ кросны тчэць*. Канцэрава.

КРУГ *м.* Зроблены з рыззя кругападобны палавічок. *Кручком з трапак робіла круг, пад ногі слала*. Пераброддзе.

КРУ'ТА *прысл.* Крута, туга (звіты, скручаны, спрадзены). *Крута прадзець, у сукаратні* Янова.

КРУТА'Я ПРА'ЖА – крута спрадзеныя ніткі. *Буваіць крутая пража і вольная.* Новы Пагост. *Крутая пража і вольная пража. Вольная – гэта добра, а крутая дрэнь*. Пераброддзе.

КРЫЖЫ' *адз. няма.* 1. Прыстасаванне для сукання цэвак. Ясёва, Даўгінава. 2. Прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. *На крыжах зматывалі ў маткі ніткі.* Новы Пагост.

КУДЗЕ'ЛІНА *ж.* Згорненаяе валакно для пражы на калаўроце. *Кудзеліну вяровачкай прывяжаш да прасніцы і прадзеш.* Пераброддзе. *Кудзеліну вяровачкый увязывалі.* Янова. *Вяровачкый абматывалі кудзеліну.* Новае Сяло. *Я ішчэ ня кончыла прасці сваю кудзеліну.* Калатушкава.

КУДЗЕ'ЛЯ *ж.* Кудзеля. *Кудзеля скачалася камкамі.* Манякова. *Кудзелю пралі пры лучыні.* Пераброддзе. *Коўдра на кудзелі.* Туркова.

КУ'ЖАЛЬ *м.* 1. Кужаль, валакно ачэсанага лёну. *Спірва, як чэшуць лён, ідзець кужаль, тады пачася, а ў канцы пакуля, ці зрэб'я.* Янова. Ясёва,

Даўгінава, Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Павяцце. *Пачасся срэднія между кужалім і ізрэб'ім.* Туркова. *Кужаль – самы лепшы лён.* Старыя Крукі. 2. Палатно з кужэльных нітак. *Самая танейшая ткуць у шаснаццаць, васімнаццаць пасам, гэта кужаль.* Камянполле.

КУЖЭ'ЛЬНЫ *прым.* Кужэльны, з кужалю. *Кужэльная палатно.* Смолеўцы. *Кужэльныі рубашкі.* Янова.

ЛАПА'ТАЧКА *ж.* 1. Спецыяльная лапатка, што выкарыстоўваецца пры тканні палатна пры дапамозе кроснаў. Пераброддзе, Дзедзіна. *У краснах нада лапатачка.* Пераброддзе. 2. Понаж у калаўроце. *Гайсалка звязываіць кола з лапатачкый у калаўроці.* Новае Сяло.

ЛАПА'ТКА *ж.* Понаж у калаўроце. *На лапатку нагой націскаіш і прадзеш.* Янова. *Лапатку нагой цiскаіш.* Цімошкава. *Лапатка – панажок такі ў караўлоці.* Канцэрава. Румполле.

ЛАПАЦЕ'НЬ *м.* Тое, што лапатка (у 2 знач.). *Як прадзеш, націскаіш нагой на лапацень.* Ясёва.

ЛЁН *м.* 1. Лён. 2. Валакно са сцёблаў гэтай культуры. *Кужаль – самы лепшы лён.* Старыя Крукі.

ЛІСІ'ЦА *ж.* Тое, што гайсалка. *Лісіца лётаіць у калаўроце.* Ясёва.

ЛІТЭ'РКА *ж.* Дэталь у калаўроце – драўлянае колца, якім замацоўваецца шпулька на рагачы. *Літэрка ні пускаіць, кап шпулька зваліваласяя.* Манякова.

ЛУГ *м.* Тое, што зала. *Лугам абварывалі пражу, а тады патузаіш, патузаіш і навіваіш. Нікаторыі крухмалілі.* Ясёва. *У лугу́ пражу мачылі.* Камянполле. Новы Пагост, Новае Сяло. *Лугам бялілі, адбелівалі палатно.* Туркова. Павяцце. *Луг – вада з попілу такая, пражу ў ім атмачывалі.* Дворнае Сяло. *Лугу́ налієш, а тады ў яго ніткі і хай мокнуць.* Малая Кавалеўшчына.

ЛУГА' *ж.* Тое, што зала. *Лугой адбелівалі палатно, пражу, у ей атмачывалі пражу.* Манякова.

ЛЯЖА'К (ліжáк) *м.* Ляжачы калаўрот. *Быў стаячы калаўрот, гэта зваўся проста калаўрот, а быў ліжачы калаўрот, зваўся ліжак.* Ясёва. *На ліжак даўней пралі, на віpацёна пралі.* Манякова.

МА'ЛЬЧЫК *м.* Тое, што закрутка. *Мальчык – стоўбік рэгуліраваць шнур тужэй ці слабей.* Старыя Крукі.

МАТАВІ'ЛА *н.* Прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. *Матавіла і казялок – тоя самая.* Новы Пагост. Пераброддзе, Дзедзіна. *Матавіла, ім нада було матаць ніткі.* Камянполле. *Матавіла – на чатыры рагі.* Новае Сяло. *Наматывалі ніткі на матавіла маткамі.* Туркова. *Матавіла – маткі матаць.* Павяцце. Дворнае Сяло, Марозькі, Смолеўцы,

Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына. *Матавіла – такіі казюлькі, а разматкі – крыжыкі такіі.* Канцэрава.

МАТО'К *м.* Ма́ток (нітак). *Наматывалі ніткі на матавіла маткамі.* Туркова.

МАТУ'ШКА *ж.* Тое, што маток. *Матушка з ніткамі.* Марозькі. *Маток нітак ішчэ завуць матушка.* Дворнае Сяло.

МІТЭ'РКА *ж.* Тое, што літэрка. Ясёва, Даўгінава, Пераброддзе, Дзедзіна, Новае Сяло, Цімошкава, Туркова, Павяцце, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Румполле.

МЯ'ЛІЦА *ж.* Церніца. *Лён мялі на мяліцу.* Манякова.

МЯ'ЛКА *ж.* Тое, што мяліца. *Стапаніха была падаўшы ў мялку руку, було ей руку пакруціўшы.* Манякова.

МЯ'ЛЬНІЦА *ж.* Тое, што мяліца. *У васёціх лён мялі, мяльніцы там стаялі.* Малінаўка. *Куды табе лезіць гэта іда, як у мяльніцу.* Манякова

НА'БІЛКА *ж.* Набіліцы. Пераброддзе, Дзедзіна. *У набілку ўстуўляіцца бёрда.* Янова. Новае Сяло. *Набілка, тады бёрда.* Янова. Новае Сяло. *Набілка, тады бёрда, бёрда ў яе ўстуўляіцца.* Павяцце.

НА'БІЛКІ *адз. няма.* Тое, што набілка. *Набілкі – дзе ўкладываіцца бёрда.* Марозькі.

НА'БІЛЬНІЦА *ж.* Тое, што набілка. *У набільніцу ўстуўляіцца бёрда.* Новы Пагост. *У кроснах ёсць набільніца, у яе уставіш бёрда і тчэш.* Цімошкава. *Набільніца падвешывалася на кію.* Малая Кавалеўшчына. Старыя Крукі.

НА'БІЛЬНІЦЫ *адз. няма.* Тое, што і набілка. *Набільніцы падвешываюцца.* Ясёва. *У набільніцы бёрда ўстуўляіцца, адны набільніцы буваюць.* Канцэрава. *Уходзіць нітка празь ніты і ідзець у бёрда, а з бёрда ідзець у набільніцы.* Манякова.

НАБО'РКА *ж.* Расквечанае ўзорамі даматканае палатно. *Наборка – у два ніты, набіраная цвітамі.* Новы Пагост.

НАВО'Й *м.* Навой. Ясёва, Даўгінава, Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *Накачываюць аснову на навой. Два наваі ў кроснах.* Новае Сяло. *На навой накручываіцца аснова.* Цімошкава. Туркова. *Наваі два: адзін – дзе аснова. Другі – дзе тканіна круцілася.* Павяцце. Марозькі, Дворнае Сяло, Смолеўцы, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава, Язна.

НАДЗЕ'ЖНІК *м.* Абрус, якім накрывалі дзяжу, калі расчынялі хлеб. Ясёва, Даўгінава.

НАМЁТКА *ж.* Частка палатна, якое неабходна было выткаць за суткі. *Намётка – гэта палатно, якоя за суткі вытчаш. Ткалі за суткі. За суткі нада было напрась, аснаваць, накідаць у бёрда і саткаць. Ткалі, кап ні*

*було вайны, гэткая. Звалася намётка.* Ясёва. *Намётка..., то ад сухаты ткалі, за 'дны суткі нада було выткаць, ткалі ад халеры, ад чумы.* Новы Пагост.

НАСТО'ЛЬНІК *м.* Настольнік. *Палатно ткалі ў два ніты, міхавоя ў чатыры ніты, настольнікі ў восім нітоў.* Новы Пагост. Пераброддзе, Дзедзіна.

НАТА'ЛІЦЬ *зак.* Спрасці вельмі тонкай ніткай, высакаякасна. *Ты наталіла добра, маладзец – тонка спрала.* Манякова.

НЕДАСЕ'К (нідасéк) *м.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдамі. *Слаба стукніш бёрдамі – і палучыцца нідасек.* Цімошкава.

НЕДАТО'К (нідатóк) *м.* Тое, што недасек. *Нідаток палучыўся.* Ясёва. Пераброддзе, Дзедзіна. *Во тчэць : нідаток а нідаток.* Янова. *Ні прыстукніш добра ўток, вот і нідаток.* Павяцце. *От Надзя ткала дрэнна, ня ўмела ткаць – усё нідаток і нідаток у яе.* Малая Кавалеўшчына.

НІТ, -á *м., мн.* ніты́, -óў. 1. Злучэнне ніцяных петляў у кроснах для падымання нітак асновы. *Аснова ўкідываіцца ў ніты.* Іст. 2. Спосаб ткання, ад якога залежыць від перапляцення ў тканіне. *Палатно ткалі ў два ніты, міхавоя – у чатыры ніты, настольнікі у восім нітоў.* Новы Пагост.

НІТЭ'РКА *ж.* Тое, што мітэрка. *Нітэрка ёсць у караўлоці.* Канцэрава.

НОГІ *мн.* Ногі, апора калаўрота. *Калаўрот на нагах стаіць.* Старыя Крукі.

ПАВЕ'СМА *н.* Пасма, кудзелі, лёну для прадзіва. *Длі кудзеліны нада многа павесім.* Манякова.

ПА'КУЛА *ж.* Пакулле. *Бувала, я пакулій вокны абтаркавала.* Пераброддзе. Дзедзіна.

ПА'КУЛЛЕ (ПА'КУЛЯ І ПА'КУЛЛЯ) *н.* Тое, што пакула. *Абтыкалі вокны пакулім.* Пераброддзе. *Коўдра на пакуллі, з пакулля.* Пераброддзе. *Спірва, як чэшуць лён, ідзець кужаль, тады пачася, а ў канцы пакуля, ці зрэб'я.* Янова. *Пакуля було, пачася було і кужаль быў.* Новае Сяло. *Пакулім дзіркі затаркавалі.* Старыя Крукі.

ПАКУ'ЛЯ *ж.* Тое, што пакула. *Ідзець кужаль, тады пачасся, а самая хужэйшая пакýля.* Павяцце.

ПАКУЛЯ'ННІК *м.* Коўдра на пакуллі. *Пакуляннік – пакулля наложуць і сшыюць коўдру.* Ясёва.

ПАЛАСА' *ж.* Доўгая вузкая рыса, лінія другога колеру на даматканым палатне. *Пасцілка ў палосы.* Канцэрава.

ПАЛАСА'ТЫ *прым.* Паласаты, у палоску. *Паласатыі пасцілкі болі ткалі.* Манякова.

ПАЛАСЯ'СТЫ *прым*. Тое, што паласаты. *Ткалі і клічастае палатно, і паласястае.* Пераброддзе.

ПАЛАСЯ'ТЫ *прым*. Тое, што паласаты. *Паласятыі пасцілкі былі, гэта рабізнавыі.* Туркова.

ПА'ЛЬЧЫК *м*. Тое, што закрутка. *Пальчык у калаўроці, каб падтужываць ці пасла́бліваць шнур.* Манякова.

ПАНАЖЫ' *мн., адз.* по́наж *м*. Панажы ў кроснах. Ясёва, Даўгінава, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *Панажамі пірабіваюць ніты.* Новае Сяло. *Панажы ганяюць ніты*. Цімошкава. Павяцце. *Панажы, іх буваіць ад двух да васьмі*. Дворнае Сяло. Марозькі, Смолеўцы, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава.

ПАС *м*. Палоска іншага колеру на даматканым палатне. *Ёсь белы, чырвоны і зялёны пас на коўдры, а поля жоўтая*. Манякова. *Пасцілка ў па́сы*. Старыя Крукі.

ПА'СМА *ж*. Мера асновы ў шырыню. *У пасмі трыццаць нітак.* Ясёва. *У шырыню пасма.* Даўгінава. *Буваіць ад сямі да дваццаці пасам.* Ясёва. *У пасмі дзесяць чыслін, чысліна – трыццаць нітак.* Новы Пагост. *Пасма – трыццаць нітак*. Пераброддзе. *Бёрды ў дзесіць, дванаццаць пасам – самая таўсцё.* Янова. *Нескулькі пар чыслін – пасма.* Новае Сяло. *Пасма – дванаццыць чыслін.* Туркова. Цімошкава. *Шэсцьдзісят пар гэта будзіць пасма.* Манякова.

ПАСО'ЎКА *ж*. Посцілка ў палосы (у пасы). *Пасоўкі прыгожыі ткалі.* Старыя Крукі.

ПАСЦІ'ЛКА *ж*. Посцілка. *Пасцілкый хоць абкрыйся ад дожджу.* Манякова. Пераброддзе, Дзедзіна. *Мая братавая красівыі пасцілкі ткала.* Цімошкава. *Пасцілка ў палосы*. Канцэрава.

ПАТА'ЛІЦЬ *зак*. Пачаць прасці вельмі тонкай ніткай, высакаякасна. *Во ўжо паталіла*. Манякова.

ПАЎСУКЕ'НАК *м*. 1. Даматканае палатно з суконным утокам і парцяной асновай. *Паўсукенак толька патыкаіццап сукном, а ніз парцяны, а суконная палатно – с аднэй воўны.* Цімошкава. Туркова. *Якоя палатно толька ні ткалі: і паўсукенак ткалі, і радабоць ткалі, с усякімі ўзорамі, рысункамі ткалі*. Канцэрава. 2. Швейны выраб з такога палатна. *Паўсукенак насілі – спадніцы, паддзеўкі, армякі, штаны.* Манякова.

ПАЎСУКЕ'НЕВЫ *прым*. Зроблены, пашыты з паўсукенку. *Паўсукеневая палатно було.* Ясёва.

ПАЎСУКЕ'НЕК *м*. Тое, што паўсукенак. *Паўсукенек снуецца портам, а патыкаіцца сукном.* Ясёва. Пераброддзе, Дзедзіна. *Паўсукенік з воўны ткаўся*. Павяцце. *Паўсукенік – калі на кужалю патыкалася ваўнянымі ніткамі*. Смолеўцы. Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына.

ПАЎСУКЕ́НКАВЫ *прым*. Тое, што паўсукеневы. *Паўсукенкавы мацір'ял быў*. Пераброддзе. *Пасцілкі былі паўсукенкавыі, дываны*. Туркова.

ПАЎСУКЯНКО́ВЫ *прым*. Тое, што паўсукеневы. *Ткалі і шылі паўсукянковыі штаны, паддзеўкі, армякі*. Манякова.

ПА́ЧАСАЎКА *ж*. Тое, што і дручка. І *пачасаўка скажуць, і дручка – гэта адно і тоя ж. Ей кудзелю апачысывалі*. Манякова.

ПА́ЧАССЕ *н*. Пачаскі, пачассе. Ясёва, Даўгінава. *Самая дрэнная пры часанні пачасся і ў канцы ачоскі*. Пераброддзе. *Спірва, як чэшуць лён, ідзець кужаль, тады пачасся, а ў канцы пакуля, ці зрэб'я*. Янова. *Пакуля було, пачася було і кужаль быў*. Новае Сяло. *Пачасся срэднія между кужалім і зрэб'ім*. Туркова. Павяцце.

ПЕРАБІРА́НКА (пірабіра́нка) *ж*. Коўдра, посцілка, вытканая прыгожымі ўзорамі. *У нас завуць і пірабор, і пірабіранка*. Ясёва. *Пірабіранкі ішчэ й цяпер ткуць*. Старыя Крукі. *Антоніха ўмела дужа красівыі пірабіранкі ткаць*. Канцэрава.

ПЕРАБІРА́НЫ (пірабіра́ны) *прым*. У выразе: **перабіраная коўдра** – тое, што перабіранка. *Завуць і пірабіраная коўдра і пірабіранка*. Туркова.

ПЕРАБО́Р *м*. Посцілка, вытканая прыгожымі ўзорамі. *Красівы пірабор тожа завуць дыван*. Ясёва. *Пераборы ткаць нада доскі*. Даўгінава.

ПЕРАСЫПА́ЦЬ (пірасыпа́ць) *незак*. У выразе: **перасыпаць бёрда** – устаўляць трысціны ў бёрда. *Пірасыпаіш бёрда, значыць, устуўляіш трысціны ў бёрда*. Манякова.

ПЕ́РЦІ *незак*., ПАПЕ́РЦІ *зак*. Біць, выбіваць (палатно). *Папёр пранікам і будзіць бялейшая. Пёрлі пранікамі палатно лі сажалак, тады рассцеліш яго на сонцы, і беліцца яно сабе ішчэ*. Малая Кавалеўшчына.

ПЕ́РЫЦЬ *незак*. Тое, што перці. *Перылі палатно на рэчцы*. Павяцце.

ПІЛЬСЦЬ *ж*. Адходы пры часанні воўны. *Воўну чэшыш, пільсць ляціць*. Манякова.

ПЛЁТКА *ж*. Сплеценыя канцы асновы. *Спляцеш канцы ў плётку*. Пераброддзе. *Канцы сплітапі ў плётку*. Павяцце. *Канцы астануцца, у плётку іх спляцеш, послі недзя й згадзяцца*. Малая Кавалеўшчына. Канцэрава.

ПЛІСНА́ *ж*. Тое, што блізна. *Памылка пры тканні красён – гэта плісна*. Манякова.

ПО́ДВЯЗЬ (по́двізь) *ж*. Падвязка ў кроснах для прымацавання нітоў да блока. *У краснах нада подвізь, ей ніты прывязываюцца да калесцуў*. Манякова.

ПО́ЛЕ (по́ля) *н*. Асноўны фон вытканага палатна. *Поля ружовая, а тады ўсякії цвяты, прыгожая коўдра*. Манякова.

ПРАДЗІВО́ *н*. Прадзіва. *У нас, помню, век прадзіва́ було многа. Як мне надаела гэта прадзіво́*. Манякова.

ПРАПРАДУ'ХІ *мн.* Зборышча, якое наладжвалі вясковыя жанчыны для таго, каб папрасці і павесяліцца. *Хадзілі ў прапрадухі, пралі, песні піялі, шуцілі.* Манякова.

ПРА'СНІЦА *ж.* Прасніца. Ясёва, Даўгінава, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *Прасніцу ўспёрла на гару.* Язна. *І на караўлоці пралі, і на прасніцы.* Павяцце. *Кудзеліну прывяжыш да прасніцы і прадзеш.* Марозькі. Канцэрава, Румполле, Новае Сяло.

ПРО'СТАЕ ПАЛАТНО' Палатно, тканае без узору. Ясёва. *Простая палатно – ня ўзорная.* Ясёва.

ПРУТО'К *м.* Драўляны стрыжань, на які насаджваецца цэўка чаўнака. *На пруток цэўка насаджываіцца.* Ясёва.

ПРЫПРА'ДУХІ *мн.* Тое, што прапрадухі. *Упярод хадзілі у прыпрадухі, сідзяць вечарам дзеўкі з прасніцамі, прадуць, песні пяюць.* Манякова.

ПРЫ'ШВА *ж.* Месца ў ткацкім станку, дзе з нітак выходзіць палатно. *Зарубкі ў прышві.* Дворнае Сяло. Марозькі. *У прышві ёсць кусок жалеза.* Смолеўцы.

ПУНДЭ'ЛАК, -лка *м.* Мера лёну, роўная прыкладна 8 кг. *Лён на пундэлкі важылі: паўпуда лёну – пундэлак.* Манякова.

ПУСТЫ' ЗЕЎ. Разнавіднасць зева, калі закідаецца чорная нітка ў яго. Малая Кавалеўшчына. *Буваіць пусты зеў.* Канцэрава.

ПЯРЭ'ЧКІ *мн.* Тое, што збойкі. *Пярэчкі ўставюцца і кліны заганяюцца, кап ні разліталісі кросны.* Ясёва. *Пярэчкі ёсць у краснах.* Павяцце.

ПЯТНА'ЦЦАТНІК (пітна́ццатнік), -а *м.* Бёрда ў пятнаццаць пасам. *Бёрда у пітнаццыць пасам – гэта пітнаццатнік.* Манякова.

РАБІ'ЗНА *ж.* Саматканы матэрыял з палосамі іншага колеру. *Рабізна такая – красілі: і белая було і красная, паласатая, клічастая палатно.* Пераброддзе. *Ткалі рабізну, ткалі і са шлякам. Рабізна – гэта болі пасцілкі былі.* Марозькі. *Гэдак тканая, у палосы, звалася рабізна.* Малая Кавалеўшчына. *Рабізну ткалі ў рыб'я вочкі, у ёлачку. З рабізны шылі штаны, торбы, мяшкі.* Манякова.

РАБІЗНА' *ж.* Тое, што рабізна. *Рабізна́ – чорная з белым палатно. Пакрашаная. Шылі з рабізны́ і спадніцы, штаны, рубашкі, касцюмы, пасцілкі.* Туркова.

РАБІ'ЗНАВЫ *прым.* Паласаты, рабы (пра даматканае палатно). *Накрый гэтый рабізнавый пасцілкый.* Манякова.

РАГА'ТКА *ж.* Тое, што каршун. *Рагатка, а тады шпулька лі яе.* Цімошкава.

РАГА'Ч *м.* Тое, што каршун. Пераброддзе. *Цірaз рагач нітка йдзець.* Дзедзіна. *У рагач надзяецца шпулька.* Камянполле. Дворнае Сяло, Марозькі, Румполле.

РАГАЧО'К, -чка́ *м.* Тое, што каршун. *Ці рагулька, ці рагачок – тая самая.* Манякова.

РАГУ'ЛЬКА *ж.* Тое, што каршун. *Рагулька у вадным месці трэснуўшы.* Манякова.

РАДАБО'ЦІНА *ж.* Кусок рэдка сатканага палатна. *Радабоціну саткала нейкую.* Канцэрава.

РАДАБО'ЦЬ *ж.* Рэдка сатканае палатно. *Радабоць ткалі на кляёнку, ткалі канву вышываць.* Ясёва. *Радабоці наткала.* Пераброддзе. *Саткала нейкую радабоць.* Туркова. Цімошкава. *Выткала нейкую радабоць.* Павяцце. *Радабоць тчэць.* Дворнае Сяло. *Узорамі вытчыш радабоць такую, вот і добра стол заслаць.* Старыя Крукі.

РАДАБО'ЦЯ *ж.* Тое, што радабоць. *Вышла ў яе радабоця, а ні пасцілка.* Новы Пагост.

РАДАБО'ЧНЫ *прым.* У выразе: **радабочныя бёрды** – бёрды для ткання рэдкага палатна. *Радабочныі бёрды длі радабоці, для рэдкага палатна.* Новы Пагост.

РАЗМАТАВІ'ЛА *н.* Прыстасаванне для размотвання пражы на клубкі. *Разматавілам разматываюць пражу на клубкі.* Новы Пагост.

РАЗМА'ТКА *ж.* 1. Тое, што крыжы (у 2 знач.). *На разматку маткі надзівалісі.* Павяцце. 2. Тое, што разматавіла. *У каждый разматцы – чатыры дзіркі. Пража йдзець з разматкі на ўюшку, з ўюшкі на снавальню, са снавальні на кросны.* Марозькі.

РАЗМА'ТКІ *адз. няма.* Тое, што разматавіла. *На разматках маток з ніткамі разматываіцца.* Пераброддзе. *Разматывалісі ніткі на разматках.* Малая Кавалеўшчына. *Матавіла – такіі казюлькі, а разматкі – крыжы такіі.* Канцэрава. *Разматкі – крыжы такіі. З іх пража разматывалася на клубкі.* Румполле.

РАСКІ'ДА *ж.* Рэдкае палатно, "у роскід тканае" палатно. *Рэдка сатканая палатно завуць рэдкая палатно, раскіда, у роскід тканая завуць.* Ясёва.

РАССЕ'К *м.* Тое, што недасек. *Узнова вун рассек зрабіла, як іна тчэць.* Манякова. *Скажыш і нідасек і рассек –усё роўна.* Манякова.

РУКАЯ'ТКА *ж.* 1. Ручка ў матавіле. *Рукаяткый круціш матавіла.* Ясёва. 2. Жменя лёну (валакна) для трапання. *Рукуятку лёну возьміш і трэпіш.* Манякова.

РУШНІ'К *м.* Ручнік. Ясёва, Даўгінава. *Усё ткалася, і рушнікі тожа.* Цімошкава.

РЫБ'Я ВО'ЧКІ Узорнае даматканае палатно, што вытыкалася ў чатыры панажы (ужываецца звычайна ў выразе ткаць у рыб'я вочкі). *Рабізну ткалі ў рыб'я вочкі, у ёлачку.* Манякова.

РЫЗ'Ё *н.* Рыззё, лахманы як матэрыял для ткання палавікоў. *На палавікі рыз'ё ішло.* Перабраддзе.

РЫЗЗЁ *н.* Тое, што рыз'ё. *Палавікі з рыззя ткалі.* Ясёва.

РЭ'ПКА *ж.* Тое, што мітэрка. *У калаўроці ёсць рэпка, каля шпулькі іна.* Ясёва. *У калаўроці ёсць кола, рагач, шпулька, рэпка, шнур.* Марозькі.

САМАДЗЕ'ЛЬНЫ *прым.* Даматканы, не фабрычны (пра тканіну). *Самадзельная тканнё.* Ясёва. *Даўней толькі з самадзельнага палатна й шылі ўсё чыста.* Дзедзіна.

САМАДЗЕ'ЛЬШЧЫНА *ж.* Даматканае палатно. *Уперад толькі самадзельшчыну й насілі, крамнага мала куплялі.* Дзедзіна.

САМАДЗЯЛКО'ВЫ *прым.* Тое, што самадзельны. *Упярот болі самадзялковая палатно було.* Туркова. Цімошкава, Калатушкава, Мазурына, Атрошкава, Манякова, Бухалава, Копцева II, Цвецїна.

САМАТКА'НЫ *прым.* Тое, што самадзельны. *Даўней насілі усё саматканая.* Туркова.

СЕ'ДЗЕЛКА (се́дзілка) *ж.* Сядзенне ў прасніцы. *На седзілку садзісся і прадзеш.* Манякова.

СКАЗЛІ'ЦЦА *зак.* Скасіцца, скасабочыцца (пра кросны). *Кросны сказлілісі, скасавалісі.* Янова.

СЛАНЕ'Ц, -нцу́ *м.* Вылежаны лён на сцелішчы. *Сланец выліжыцца, тады лоўкі ён.* Манякова.

СНАВА'ЛЬНЯ *ж.* Прыстасаванне для снавання кроснаў. *У снавальні чатыры дзіркі.* Марозькі. *Кажуць і снавальня і снуйка, гэта тоя самая.* Дворнае Сяло.

СНУ'ЙКА *ж.* Тое, што снавальня. Ясёва, Даўгінава. *Снуйка, а ўпярот на сцяне снавалі.* Новае Сяло. *На снуйку кросны снувалі.* Туркова. *І снуйка і снулька скажуць.* Павяцце. *Кажуць і снавальня і снуйка, гэта тоя самая.* Дворнае Сяло. *Снувалі кросны на снуйцы.* Старыя Крукі.

СНУ'ЛІ *адз. няма.* Тое, што снавальня. *Бувала, паставіш снулі і снуеш.* Новы Пагост.

СНУ'ЛЬКА *ж.* Тое, што снавальня. *І снуйка і снулька скажуць.* Павяцце. *Снулька мая у сянёх стаяла.* Канцэрава. *На снульцы ніткі снувалі. У нас была снулька.* Румполле.

СНУ'ЛЬКІ *адз. няма.* Тое, што снавальня. *Нашы снулькі ў сянёх лі сцяны стаяць.* Манякова.

СНУ'ЛЯ *ж.* Тое, што снавальня. *Кросны снуюць на снулі.* Перабраддзе. *Была і снуля, ей снавалі кросны.* Камянполле.

СОЇЛКА *ж.* Тое, што кудзеліна. *Казалі: "Нада спрасці сваю соілку, каб каліда ні заспела".* Манякова.

СТАВІНА' *ж., мн.* ставіны. Адна палавіна ткацкага станка. *Ставіны і стáўкі – адно й тоя ж.* Дворнае Сяло. *Адна ставіна ў мяне іщчэ недзя бадзялася на гарэ.* Смолеўцы.

СТАВЫ' *мн.* Кросны, хатні ткацкі станок. Пераброддзе, Дзедзіна, Туркова, Цімошкава, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына. *Нада ш умець ставы́ паставіць, што вы думаіці.* Канцэрава.

СТАЙНО' *н.* Прыстасаванне для трапання лёну – убіты ў зямлю кол. *Кол угоніш у зямлю і пярэш аб яго лён, геткі кол звáўся стайно.* Даўгінава.

СТА'ЛІЦЬ *зак.* Спрасці вельмі тонкай ніткай, высокаякасна. *Во як ты сталіла, умееш жа вот так тонка спрасці.* Манякова.

СТАН *м.* Кавалак палатна, якое дарылі на вяселлі. *Стан падарыла значыць – палатно падарыла.* Ясёва. *Стан на свадзьбу дарылі.* Новы Пагост.

СТА'ЎКА *ж., мн.* стáўкі. Тое, што ставіна. *Ставіны і стáўкі – адно і тоя ж.* Дворнае Сяло.

СТА'ЦЬВІНА *ж.* Дэталь у калаўроце. Ясёва.

СТАЦЬВІНА' *ж., мн.* стацьвіны. Бакавая частка ткацкага станка. Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *У ставáх ёсь дзве стацьвіны.* Манякова. *Стацьвіны, іх дзве ў краснах.* Павяцце.

СТАЯ'К, -á *м.* Тое, што стайно. *На стаяк лён трапалі. Кол у зямлі ўвагнаны сядзеў, гэта й быў стаяк.* Манякова.

СУКА'ЛА *н.* 1. Прыстасаванне для сукання нітак. *Ніткі сучуць, сукала завецца.* Пераброддзе. *Сучылі ніткі на сукалі.* Янова. Новае Сяло, Туркова, Цімошкава. 2. Прыстасаванне для навівання нітак на цэўкі. *Цэўкі сучуць на сукалі.* Румполле. *Сукала – гэта палачка такая, іна ўдзяецца ў цэўку, тады круцюць калаўротам і ніткі нderматываюцца, насучываюцца.* Манякова.

СУ'КАРАТКА *ж.* Сукаратка. Ясёва, Янова, Камянполле. *Нешта ўсё твае ніткі ў сукараткі пашлі.* Манякова.

СУКА'ЦЬ *незак.* 1. Сукаць, намотваць ніткі на цэўку пры дапамозе сукала. *Сукаюць ніткі на цэўкі сукалам.* Пераброддзе. 2. Звіваць некалькі нітак у адну. *У вадну нітку звіваіш і дзве ніткі і болі, гэта – сукаіш ніткі.* Дзедзіна.

СУРАВІ'ЗНА *ж.* Нябеленае, грубае палатно. *Суравізну нада вымачываць, бяліць.* Манякова.

СУРАВЫ' *прым.* Нябелены, грубы (пра палатно). Ясёва, Даўгінава. *Суравоя палатно – ня беліная, ні параная.* Янова. *Суравоя палатно адбеліш, яно станіць мяканькім, беліанькім і тады шый з яго, што хочыш.* Новае Сяло. *Суравоя палатно нада було бяліць.* Туркова. Цімошкава. *Суравоя палатно*

*нада було выбеліваць*. Павяцце, Дворнае Сяло, Марозькі, Смолеўцы, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава.

СУРО'ВЫ *прым*. Тое, што суравы. *Суровая палатно – ішчэ ня беліная палатно*. Дзедзіна.

СУ'ЧКА *ж*. Дэталь у калаўроце. Ясёва. *Сучка – гэта дзіраўная лапатка ў калаўроці*. Дзедзіна. *Сучка ў калаўроці ёсць*. Туркова. Павяцце, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына, Канцэрава, Румполле.

СУЧЫ'ЦЬ *незак*. Тое, што сукаць. *Будзім ніткі сучыць у сянёх*. Манякова.

СЦЕ'ЛІШЧА *н*. Месца, дзе быў пасланы лён на полі. *Ідзі пайшчы шчаўлю на гэным сцелішчы*. Манякова.

СЦЯНА' (сціна́) *ж*. Мера даўжыні асновы красён і палатна, чатыры пярэчкі. *Калі нітка кругом абойдзіць, гэта называлася сціна*. Ясёва. *Сціна – сем аршын, дзевіць аршын*. Новы Пагост. *Аршынамі мералі палатно: восім, дзевіць аршын, дзесіць – гэта сціна*. Пераброддзе. *Сціна – па восім, дзевяць аршын*. Янова. *Сціна – і пяць, і шэсць, і сем, і восім, і дзесіць, і адзінаццыць, і пітнаццыць мэтруў*. Новае Сяло. *Сціна – дванаццыць чыслін*. Туркова. *Сціна – дзевіць аршын*. Павяцце. *Сціна – восім аршын*. Дворнае Сяло. Старыя Крукі. *Усякая сціна была: і столькі аршын, і столькі*. Канцэрава. *Сціна – гэта ў даўжыню дзесіць аршын*. Манякова.

СЧЫНІ'ЦЬ *зак*. Падрыхтаваць кудзелю да прадзіва. *Нада счыніць кудзелю, буду прасці*. Манякова.

ТА'ЛІЦЬ *незак*. Прасці вельмі тонкай ніткай, высакаякасна. *Вот Люба маладца, як таліць*. Манякова.

ТА'ЛЬКА *ж*. Тонкая нітка пры прадзенні. *Вот напрала: дзе талька, дзе балька*. Ясёва. *Вот прадзець: гдзе талька, гдзе балька*. Янова. *Дзе талька, дзе балька – і тоўста, і тонка спрала*. Новае Сяло. *То талька, то балька – то тонка, то тоўста спрадзіна*. Туркова. *Дзе талька, дзе балька – няроўна напраджана*. Павяцце. *Напрала ты дык напрала : дзе талька, дзе балька. Вот прадзець Гануля: то талька, то балька*. Малая Кавалеўшчына.

ТАРАЛУ'ШКА *ж*. Тое, што літэрка. *Шпулька завінчываіцца таралушкый*. Манякова.

ТКА'ЛЯ *ж*. Ткалля. *О мая сістра некалі бала дужа добрая ткаля*. Новы Пагост.

ТКАНІ'НА *ж*. Тканіна палатно, якое тчэцца. *Наваі два: адзін – дзе аснова, другі – дзе тканіна круцілася*. Павяцце.

ТКАННЁ *н*. Тое, што выраблена тканнем. *Нада скручываць у трубкі сваё тканнё*. Манякова.

ТО'ПАЛЬНІЦА *ж*. Понаж у калаўроце. *Нагой націскаіш на топальніцу, кола й круціцца*. Пераброддзе.

ТРАНДО'ЎКА *ж.* Коўдра, посцілка, вытканая з рыззя. *Трандо́ўкі ткалі з трапак.* Туркова.

ТРАНТО'ЎКА *ж.* Тое, што трандо́ўка. *Трантоўкі з трапак ткалі.* Ясёва. *Трантоўку ішчэ дыван завуць.* Ясёва.

ТРАПАЧНІК *м.* Палавік, сатканы з рыззя. *Трапкоўка, ці па-другому трапачнік – гэта палавікі із трапак.* Малая Кавалеўшчына.

ТРАПАЧНЫ *прым.* Рыззёвы, вытканы з рыззя. *Трапачныі дываны ткалі.* Перабродդзе. *З рыззя, з трапак ткалісі дываны, называлісі трапачныі дываны.* Павяцце. *І я некалі ткала трапачныі дываны.* Канцэрава.

ТРАПКО'ВЫ *прым.* Тое, што трапачны. *Трапковыі дываны ткалі.* Малая Кавалеўшчына.

ТРАПКО'ЎКА *ж.* 1. Тое, што трандо́ўка. *Трапкоўка – коўдра з трапак.* Марозькі. 2. Тое, што трапачнік. *Трапкоўка, ці па-другому трапачнік – гэта палавікі із трапак.* Малая Кавалеўшчына.

ТРАПЛО' *н.* Прылада для трапання лёну – дошчачка з ручкай. *Траплом трэпіш лён, лепшый адкладаіш, астаецца горшый, гэта трасуха, яе нада піратрасаць ішчэ.* Манякова.

ТРАСТА' *ж. зб.* Трысцінкі ў бёрдзе. *Бёрды буваюць з дзіраўлянный трастой і са стальной.* Манякова.

ТРАСУ'ХА *ж.* Горшае льноваланкно, што засталося пасля трапання. *Благі лён з-пад трапла – трасуха.* Манякова.

ТРАЦЦЯ'К, -цшяка́ (-цціка́) *м.* Від валакна пры часанні лёну, якое ідзе пасля пачасся і перад кужалем. *Вот я вам раскажу, як у нас лён дзяліўся: самая горшая – гэта зрэб'я, тады – пачасся, тады – траццяк. А тады чацвёртая, самая лепшая – гэта кужаль, а пакуля ня ў гэтат шчот, яно аддзельна.* Малая Кавалеўшчына.

ТРАШЧО'ТКА *ж.* Клін для ўмацоўвання пярэдняга навоя у кроснах. *Длі скраплення задніга кола служыць клін, ён завецца кіёк, а длі пярэдніга кола – трашчотка.* Цімошкава.

ТРОСЦЬ *ж.* Пласцінка ў бёрдзе. Перабродդзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *У бёрдзі тросць завецца.* Туркова. Цімошкава.

ТРОСЬ *ж.* Тое, што тросць. *Шпагатай умацавана трось.* Ясёва. Даўгінава.

ТРУ'БКА *ж.* Сувой (даматканага палатна). *Трубка палатна.* Ясёва. *Скаціла палатно ў трубку.* Перабродդзе. Дзедзіна. *Трубка палатна астаўшысі была ішчэ ад свякроўкі.* Туркова. Цімошкава.

ТРЫСЦЁ *н.* Тое, што траста. *Трысцё ўжо павысыпалася ў маім бёрдзі.* Канцэрава.

ТРЫ'СЦІ *мн.* Пласцінкі ў бёрдзе. *Трысці ў бёрдзі, а адна трысціна.* Павяцце.

ТРЫСЦІНА' *ж.* Пласцінка ў бёрдзе. Пераброддзе, Дзедзіна. *У бёрдзі трысцiна́ робілася з рабіны.* Новае Сяло. Ясёва, Даўгінава, Янова, Камянполле. *Трысці ў бёрдзі, а адна трысціна.* Павяцце. *Трысцін нескулькі паламаіцца, ужо бёрда ня тоя.* Дворнае Сяло. *Трысціна выскачыла ў бёрдзі.* Канцэрава.

ТРЫСЦІ'НКА *ж.* Пласцінка ў бёрдзі. Пераброддзе, Дзедзіна, Новае Сяло.

ТРЫСЦІНКА' *ж.* Тое, што трысцінка. *Трысцiнка́ ў бёрдзі выламалася.* Малая Кавалеўшчына. *Трысцiнка́ вывалюўшысі із бёрда.* Манякова.

ТРЫСЦІНО'ВЫ *прым.* З драўлянымі трысцінкамі (пра бёрда). *Було трысціновая бёрда, часцей, було і стальноя, радзей.* Манякова.

ТРЫСЦІ'ЦЬ *незак.* Злучаць разам ніткі. *Упярод трысцілі ніткі, а тады сучылі.* Даўгінава.

ТРЫШЧО'НЫ *дзеепрым.* Злучаны разам (пра ніткі). *Трышчоныі ніткі, а тады сучаныі.* Ясёва. *Трышчоныі ніткі сучуць.* Манякова.

УЗЁЛ *м.* Вузел. *Сукараткі – гэта узёл на ніцы, скручаная места на ніцы.* Ясёва.

УПО'РЫНА *ж.* Падпорка для красён. *Упорына ўпіраіцца ў стаў.* Пераброддзе.

УРО'СКІДЗЬ *прысл.* Уроскідку (пра манеру ткаць). *Гэткая палатно ткуць уро́скідзь.* Новы Пагост.

УТО'К *м.* Уток. Ясёва, Даўгінава, Новы Пагост, Пераброддзе, Дзедзіна, Манякова.

УШТУ'РЫВАЦЦА *незак.* Укідацца, уваходзіць. *Чаўнок уштурываіцца ў зеў і прыбіваіцца бёрдамі.* Манякова.

УЮ'ШКА *ж.* Тое, што вітушка. *Пража зматана на ўюшку.* Марозькі.

ХЛАПЕ'Ц *м.* Станок, у які ўстаўлялася вітушка ці матавіла. Ясёва.

ЦЫНО'ЎКІ *мн.* Дзве тоненькія дошчачкі ў кроснах, якія прадухіляюць блытанне нітак. Ясёва, Даўгінава. *Цыноўкі – гэта дзве палачкі, плосканькіі, длінінькіі, у краснах, кап ні асыпалісі ніткі.* Новы Пагост. Пераброддзе, Дзедзіна. *Цыноўкі і цыны – тоя самая.* Новае Сяло. Туркова, Цімошкава, Павяцце, Дворнае Сяло, Смолеўцы, Марозькі, Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына.

ЦЫНЫ' *мн.* Тое, што цыноўкі. Ясёва, Даўгінава, Новы Пагост, Янова, Камянполле, Новае Сяло. *Цыноўкі і цыны – тоя самая.* Новае Сяло. *З пасам робіюца цыны.* Туркова. *Завуць іх цыны і цыноўкі.* Дворнае Сяло. Старыя Крукі, Малая Кавалеўшчына.

ЦЭЎКА *ж.* Цэўка. *Цэўкі сучуць.* Пераброддзе. Янова, Камянполле, Новае Сяло, Туркова, Цімошкава. *Цэўка укладаіцца ў чаўнак.* Цімошкава. *У чаўнок цэўка удзяецца.* Павяцце. *На цэўку накручываюцца ніткі.* Марозькі. Малая Кавалеўшчына, Старыя Крукі, Язна, Копцева І, Мётлы, Падзвінне, Манякова, Шарагі.

ЦЯГА'ЦЬ (цігáць) *незак.* Выпроставаць мокрую аснову пасля апрацоўкі лугам. *Як аснова вымачыцца ў лузе, тады яе цігаюць.* Манякова.

ЧАЛО'НАК *м.* Чаўнок. *Чалонак – гэта па-прастому.* Марозькі.

ЧАСЛО'ЎКА *ж.* Пасма на клубку. *Пасма на клубку – гэта ж часлоўка.* Ясёва.

ЧАСО'ЎКА *ж.* Тое, што часлоўка. *Роп ужо другую часоўку, у гэту досыць матаць.* Манякова.

ЧАЎНА'К *м.* Тое, што чалонак. *Чаўнак ходзіць па зяву.* Новы Пагост. Пераброддзе, Дзедзіна, Янова, Камянполле. *Канец у чаўнаку пукаты.* Новае Сяло. *У зеў закідываіцца чаўнак.* Туркова. Цімошкава. *Іна шыбка, лоўка ткала, чаўнак у Манькі толькі лётуў.* Малая Кавалеўшчына. Канцэрава, Румполле, Язна.

ЧАЎНО'К *м.* Тое, што чалонак. *У чаўнок цэўка ўдзяецца.* Павяцце. *Чаўнок лётаіць па зяву.* Манякова.

ЧО'ХРЫ *адз. няма.* Воўначасальная машына, ваўначоска. Янова. *На чохрах воўну часалі.* Новае Сяло.

ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* Рыхтаваць кудзелю для прадзіва. *На стале быльшынство чынілі кудзеліну.* Янова. *Чыніць – гэта круціць лён у соілку, а тады гэту соілку прывязываюць да прасніцы.* Манякова.

ЧЫНО'ЎКІ *род.* чынóвак *мн.* Тое, што цынóўкі. Канцэрава. *Чыноўкі укладаюцца между пасам, каб чаўнак ішоў, каб быў зеў.* Манякова. *Чыноўкі у краснах – каб зеў робюўся у нітках.* Бухалава.

ЧЫНЫ' *род.* чынóў *мн.* Тое, што цынóўкі. *Чыны – дзве шчэпкі шырокіі, закладаюць, кап рассаідзіняўся зеў.* Манякова.

ЧЫ'СЛІНА *ж.* 1. Тры ніткі у пасме. *У чысліні тры ніткі.* Туркова. *Тры ніткі – адна чысліна.* Ясёва. 2. Трыццаць нітак у пасме. *Чысліна – трыццаць нітак.* Новы Пагост. 3. Лішняя нітка пры суканні. *Калі йдзець лішнія нітка у сучэнні, гэта – чысліна.* Янова.

ШАРА'К *м.* Шэрага колеру даматканае палатно. *Шарак – гэта паўсукенак ці рабізна.* Ясёва. Новы Пагост.

ШАСНА'ЦЦАТНІК *м.* Бёрда ў шаснаццаць пасам. *Шаснаццатнікам кужаль ткалі.* Манякова.

ШЛЯК *м.* Палоска іншага колеру на вытканым палатне. *Шляк – гэта палоска другога цвету на палатне. І ў дымковай пасцілцы тожа называіцца шляк. Шляк – палосы на палатне.* Новы Пагост. Пераброддзе,

Дзедзіна. *Шлякам дываны ткалісі.* Старыя Крукі. *У шлякі́ було палатно.* Канцэрава.

ШЛЯКО'ВЫ *прым.* Паласаты, у палосы, у шлякі (пра даматканае палатно). *Са шлякам ткалі, шляковая звалася.* Старыя Крукі.

ШЛЯХ *м.* Тое, што шляк. *Ткалі ў шляхі палатно.* Туркова. *У шляхі палатно було.* Цімошкава.

ШНУР *м.* Шнур, які нацягваецца на кола калаўрота. *Шнур слабка нацягнута, дрэнна прасці.* Манякова. Ясёва, Даўгінава, Новае Сяло. *Мальчык – стоўбік рэгуліраваць шнур тужэй ці слабей у калаўроці.* Старыя Крукі. Канцэрава, Румполле.

ШО'РСТКІ *прым.* Цвёрды, каляны, густы (пра даматканае палатно). *Шорсткая палатно – добрая палатно: крэпкая, каляная.* Пераброддзе.

ШПЕНЬ, ШПЯНЁК *м.* Стрыжань, на які насаджваецца цэўка. *Сучыш цэўкі, дык цэўка лётаіць на шпяні. Шпянёк такі востранькі, на яго цэўка надзяецца.* Манякова.

ШПУ'ЛЬКА *ж.* Тое, што ішпулька. *Шпулька надзета на мітэрку, а тады рагач.* Пераброддзе. Янова, Камянполле. *Рагатка, а тады шпулька лі яе.* Цімошкава. Дворнае Сяло, Марозькі, Смолеўцы, Румполле.

ШТЫ'ЎНА *прысл.* Прама, роўна. *Штыўна стаяць і ні касяцца кросны, як кліны загнаныі.* Ясёва. *Штыўна кросны ставюць – прама, роўна.* Новы Пагост.

ШТЫ'ЎНЫ *прым.* Цвёрды, каляны, густы (пра даматканае палатно). *Ёсь радабоць, а ёсь штыўная палатно, гэта цвёрдая, каляная, густоя палатно.* Пераброддзе.

ШЧЭ'ЛКА *ж.* Памылка пры тканні, блізна. *Ідзець шчэлка, гэта блізна́.* Новае Сяло.

ШЧЭ'ТКА *ж.* Шчотка, якой часалі льновалакно. *Часалі лён на шчэткі.* Новае Сяло.

ШЧЭ'ЦІ *адз. няма.* Машына, якой чэшуць воўну. Ясёва, Даўгінава.

ЮРО'К, -рка́ *м.* Палачка з засечкамі на канцах, служыць для матання нітак на клубок. *Юрком маталі ніткі на клубкі.* Ясёва. *Ціраз юрок маталі ніткі.* Манякова.

*А.У. Ксяндзова*

# БАЦЬКОЎСКІЯ СЛОВЫ

Прадстаўленая ў артыкуле лексіка была ўласціва жыхарам вёскі Рэчкі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1989–1990 гг. гэтая вёска была адселена ў сувязі з падзеямі на Чарнобыльскай АЭС. Словы запісаны з вуснаў майго бацькі, Ксяндзова Уладзіміра Іванавіча (1935–2003 гг.), маці, Ксяндзовай Марыі Васільеўны (1939 г.н.), а таксама сваякоў, якія жылі ў вёсцы да яе адсялення.

АБСТРЫКА'ЦЦА, ПАСТРЫКА'ЦЦА *зак.* Апячыся крапівой. *Усе' ру'кі сабе' абстрыка'ла, паку'ль траву' парва'ла ў гаро'ччыку. Ні лазь туды', табе' гавару', пастрыка'іш і но'гі, і ру'кі!*

АПЛЫ'ЦЬКА *м.* і *ж. неадабр.* Апушчэнец, апушчэнка. *Хо'дзя, як аплы'цька, аж глядзе'ць гі'дка. Аплы'цька ты, хоць бы рашчаса'лася!*

АПРАГЧЫ'СЯ *зак.* Занадта многа выпіць, пасля чаго дрэнна сябе адчуваць. *Так напі'ўся вады', што чуць ні апро'гся. На, пі, ды глядзі' ні апражы'ся!*

АТСТРА'ЦЬ *зак.* Адстаць ад сценкі або ад чаго-небудзь. *Або'і ў за'лі атстра'лі, на'да патклеі'ць.*

АТСТРАМІ'ЦЬ *зак.* Прысароміць. *Так яго' ма'тка на'ша атстрамі'ла, што і но'са ў наш бок бо'льшы ні су'нуў.*

БА'ГНА *ж.* Вельмі гразкае месца. *Цэлая ба'гна на грэ'блі разьліла'ся, і ні про'йдзіш ужо' па ё'й.*

БЕ'ЗЮКІ *мн. неадабр.* Вочы. *Бе'зюкі свае' вы'тарашча і глядзі'ць, як пе'рвы раз ба'ча.*

БЛЮСЦІ' *незак.* Берагчы. *Я ту'ю ху'стку, што мне Ві'ця падары'ў калі'сь, усё' ішчэ' блюду', ні ра'зу ні надзіва'ла.*

БРЫ'НДА *м.* і *ж. неадабр.* Чалавек, які бадзяецца або ходзіць далёка. *Ну, і дзе ты, бры'нда, падзе'лася, ужо шука'ць цібе' ду'малі.*

БРЫ'НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца, швэндацца. *Як по'йдуць зь Міллячэ'нкавымі ў ле'с, дык і бры'ндаюць цэ'лы дзе'нь.*

ВЕК *прысл.* Ніколі. *Та'к я productsады' йі'хнага саба'ку спужа'лася – ду'мала, ве'к к йім ні пайду'.*

ВІ'СКНУЦЬ *зак.* Моцна, высокім голасам крыкнуць. *Як ві'скнуў на ўсю магу', што аж ву'шы закла'ла, — хі'ба ж мо'жна та'к?*

ВЫ'СТРАПАЛІЦЬ *зак.* Вельмі хутка нешта выказаць. *Вы'страпаліла мне ўсё е'та і пабе'гла сабе', а я стаю', як ашале'лая, ды й слова ні магу' сказа'ць.*

ГРО'ЙЛА *н.* Беспарадак, куча непрыбраных рэчаў. *Навалі'ў цэ'лая гро'йла ў ха'ці і ні прыбярэ' да'жа.*

ДРАЧО'НЫ, ДРАЧО'НІКІ *мн.* Дранікі. *На'да бу'льбы начы'сьціць, напяку' сё'дні драчо'наў. Люблю', як ма'тка драчо'нікі пячэ'.*

ДУШНЯ'К *м.* Дзірка ў фундаменце хаты або ў пограбе для вентыляцыі, каб не было гнілі. *Пазакрыва'ць на'да душнякі' ў ха'ці на зіму'.*

ЗАКЛЯ'КНУЦЬ *зак.* 1. Змерзнуць. *Закля'клі мае'но'гі на маро'зі ў е'тых сапага'х.* 2. Занямець. *Як пасядзе'ла до'ўга, дык аж но'гі закля'клі, іці' ні магу'.*

ЗАСТЫ'ЦЬ *зак.* 1. Змерзнуць. *Саўсі'м ру'кі ў хало'днай вадзе' засты'лі, а'ж ні магу'!* 2. Захварэць. *А мо'й ты дзіцё'нак, засты'ў саўсі'м, ка'шаль во'н які' падня'ўся!*

ЗЕ'НКІ *мн. неадабр.* Вочы. *Пралупі'ў зе'нкі і глядзі'ць, куды'й-та ё'н папа'ў.*

КАЛЕ'НКІ *мн.* Калені. *Садзі'ў, быва'ла, аднаго' й друго'га на кале'нкі і кармі'ў.*

КРАМСА'ЦЬ *незак.* Рэзаць абы-як. *Ні крамса'й бу'лку, парэ'ж акура'тна!*

КРЫШАНІ', КРЫШАНЬКІ' *мн.* Парэзаныя яблыкі або грушы (свежыя або сушаныя). *Даста'нь крышанё'ў ш чырдака', кампо'ту зва'рым. Парэ'ж е'тыя я'блакі на крышанькі', пато'м пасу'шым.*

КУРДАЯ'ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць няправільна, незразумела. *Што' ён та'м курдая'чыў — ні сло'ва ні разабра'ў.*

КУСТАВІ'ЧКІ *мн.* Ірга – кустовая расліна з чорнымі ягадамі, якія можна спажываць. *А ў нас ка'ла ха'ты куставі'чкі расьлі', мы йіх ду'жа любі'лі.*

ЛА'ДНАГА 1. *прысл.* Даўно. *— А ці даўно' е'та было'?— Ды ўжо ла'днага.* 2. *ліч.* Нямала. *Ну, ла'днага ты' грыбо'ў сё'дні набра'ў, маладзе'ц!*

ЛА'ХАРДЗІК *м.* Ласунак, пачастунак (часцей — печыва). *Ой, люблю', як ма'тка ла'хардзікі пячэ'!*

ЛЕШЧ, ЛЕ'ШЧЫК: ДАЦЬ ЛЯШЧА', ДАЦЬ ЛЕ'ШЧЫКА. Даць аплявуху, падзатыльніка. *Так, пастры'гся Ва'ся, на'да ле'шчыка даць, штоб ко'сы быстрэ'й расьлі'.*

ЛІПЕ'ЦЬ *незак.* Ледзь трымацца. *Ай, атрыва'й ты е'тыя дзве'рцы, сіраўно' яны' чуць ліпя'ць. Саўсі'м захварэ'ў наш Андрэ'й, чуць ліпі'ць.*

ЛУ'ПІКІ *мн. неадабр.* Вочы. *Ну, што ты на міне' свае' лу'пікі тара'шчыш?*

МАДЗЕ'ЦЬ *незак.* Ледзь трымацца, пакутаваць. *Во та'к і жыво'м, дачу'шка, мадзе'ім патро'хі.*

НАРУ'ТА: НА НАРУ'ТУ *прысл.* Знарок, наперакор. *Ён такі' бы'ў не'слух, усё' на нару'гу дзе'лаў.*

НАСТРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Настроіць аднаго чалавека супраць другога. *Настрапалі'ў ён йіе' про'ціў нас, во' чаго' й ні дру'жсым.*

НАЧАПУ'РЫЦЦА, ПРЫЧАПУ'РЫЦЦА *зак.* Прыбрацца, прычасацца, апрануцца прыгожа. *Як начапу'рыўся, дык сам на сібе' ста'ў ні пахо'ж. Прычапу'рыўся ўве'сь, у клуб сабра'ўся, ці што'?*

НЫ'КАЛА *м. і ж. неадабр.* Чалавек, які бадзяецца, усюды суючы свой нос. *Ны'кала які'-та, а ні чалаве'к, усю'ль но'с сво'й прасу'ня.*

НЫ'КАЦЬ *незак.* Бадзяцца, усюды суючы свой нос. *Ны'кая, ны'кая е'ты Бі'шка ўсю'ль, усё' яму' інціро'сна.*

ПА'ШЧЫКІ *мн., лаянк.* Сківіцы. *У яго' ад зло'сьці аж па'шчыкі зьвяло'.*

ПАД'ЯЛДЫ'КА *м. і ж. неадабр.* 1. Той, хто падтаквае. *А ты, пад'ялды'ка, сто'й і маўчы', цібе' ні спра'шываюць!* 2. Той, хто падбухторвае. *А е'таму пад'ялды'ку усю'ль на'да ўле'зьць.*

ПАД'ЯЛДЫ'КІВАЦЬ *незак.* 1. Падтакваць. *А ты' ўжо чаго' пад'ялды'ківаіш, калі' табе' сло'ва ні дава'лі?* 2. Падбухторваць. *Ён то'лькі пад'ялдыківаць уме'я.*

ПАЛЁ'ГАЦЬ *зак.* Узняць нешта, спрабуючы вагу. *Цяжо'лую су'мку накла'ла, да'й палё'гаю.*

ПАМАЗО'К *м.* 1. Пэндзаль для галення. *Дай-ка мне памазо'к, пабрэ'іцца хачу'.* 2. Тое ж, што і ПОДМАЗ. *На, зье'ж памазо'к, сьмія'цца бу'дзіш.*

ПАПРО'БАЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *На'да суп папро'баць, мо'жа, пірасалі'ла.*

ПІСЯ'Г *м.* Рубец. *Так сьцібану'ў мне пруто'м па руцэ', аж піся'г аста'ўся.*

ПЛЯСЬНІ'ВЫ *прым.* У вяснушках. *А плясьні'вы ж быў, ой, лю'дцы мае'! Патаму' Пле'шам і зва'лі, што плясьні'вы быў.*

ПО'ДМАЗ *м.* Кавалачак сала, якім падмазваюць патэльню, калі пякуць бліны, аладкі. *У нас гаво'руць, хто по'дмаз зье'сьць, то'й вясё'лы бу'дзя.*

ПРА'НЦЫ *мн.* Міфічныя істоты (магчыма, чэрці). *А каб цібе' пра'нцы зье'лі!*

ПРАНЦО'М, ПРАНЦО'М-КО'ЛІКАМ *прысл.* Не рухаючыся, нічога не робячы. *Сядзе'ў бы сабе' до'ма пранцо'м, а то пацягну'ўся німаве'дама*

*куды'. Стань ты пранцо'м-ко'лікам, а то кру'цісьця, як чэ'рці цібе' тарану'юць!*

ПРАЧУХА'НКА: ДАЦЬ ПРАЧУХА'НКІ. Ушчуваць, дакараць або нават пабіць. *Ма'тка мне ўчо'ра тако'й прачуха'нкі дала', ні зна'ю, як я вы'дзіржала.*

ПРО'РАСЬЦЬ *ж.* Праслойка мяса ў сале. *Атрэ'ж-ка са'ла с про'расьцю, пад'ядзі'м с цыбу'ляй.*

ПРЫ'ЦЕМКАМ *прысл.* 1. Адвячоркам, калі ўжо сцямнела. *Пры'цемкам ўжо дамо'ў ішо'ў, цё'мна ўжо было'.* 2. Раніцай, калі яшчэ не развіднела. *Вы'шаў на ву'ліцу шчэ пры'цемкам і пашо'ў у Ма'лкаў.*

ПРЫПУ'ТАЦЬ *зак.* 1. Спутаць або прыпыніць бег каня. *На'да каня' прыпу'таць.* 2. Застаць каго-небудзь знянацку, злавіць. *Тут, кала' гаро'да, яны' яго' і прыпу'талі.*

ПРЫПУ'ЧАНЫ *дзеепрым.* 1. Чалавек, які ўладкаваўся ў жыцці. *Дзе'ці ў міне', сла'ва Бо'гу, прыпу'чаныя, паўстра'йваліся, рабо'таюць.* 2. Чалавек, які стварыў сям'ю. *Ме'ньшы мой ужо прыпу'чаны, ды' й дачка' ўжо за'мужам.*

ПРЫПУЧА'ЦЦА *незак.* 1. Прыстройвацца, уладкоўвацца. *На'да як-та ў го'радзі табе' прыпуча'цца, у дзярэ'ўні шчас ду'жа тру'дна.* 2. Выходзіць замуж або жаніцца. *Пара' ўжо, мой сыно'к, табе' прыпуча'цца, а то та'к усю' жы'сьць і прахаласьцяку'іш.*

ПУ'ЧЧА *н.* Лясная расліна (*якая ?*), сцяблы якой, аблупіўшы, можна есці. *Як дзіця'мі былі', ду'жа любі'лі, быва'ла, пу'чча ў ле'сі сабіра'ць і е'сьць.*

РАЗМУНДЫ'КІВАЦЬ *незак. лаянк.* Марудзіць, доўга думаць або разважаць услых перад тым, як зрабіць што-небудзь. *Ну, чаго' ты шчэ размунды'киваіш, і так усё' я'сна.*

РАСПАЦЯ'КІВАЦЬ *незак.* Марудзіць, доўга разважаць услых перш чым зрабіць што-небудзь. *Ні распаця'ківай мне, дава'й дзе'лай быстрэ'й.*

РАСЬКІРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Расставіць ногі. *А ён раськірэ'чыў но'гі, ні вы'дзіржаў ды як упа'дзя!*

РЫ'ЗЬЗЯ *н.* Старая, непрыгожая вопратка. *Ну чаго' ты е'та ры'зьзя начапі'ла?*

САБУГО'РЫЦЦА *зак.* Сагнуцца або скруціцца. *Во, мой дзіцё'нак, сабуго'рыўся і засну'ў, бе'дны.*

САБУГО'РЫЦЬ *зак.* З нічога што-небудзь зрабіць, прыгатаваць. *Я пае'сьць вам сабуго'рыла, дык садзі'ціся пае'жця.*

СКУГО'ЛІЦЬ *незак.* 1. Выць (пра сабаку). *І чаго' наш саба'ка ўсю ноч скуго'ліў?* 2. *перан.* Плакаць наўзрыд, вельмі жаласна. *Ну, чаго' ты скуго'ліш, сьці'хні ўжо'!*

СТРА'М *м.* Сорам. *Ой, лю'дзічкі, страм які', саўсі'м міне' е'тыя дзе'ці ў магі'лу зьвяду'ць!*

СТРАМНІ'ЦА *ж.* Бессаромніца. *І як жа ты, страмні'ца, жыць ціпе'рака ду'маіш?*

СЬВІНУ'ШНІК *м. перан.* Беспарадак, бруд. *Разьвеў ту'т сьвіну'шнік, ні прайці', ні прае'хаць. Дава'й прыбіра'й!*

СЬМЕ'ШАЧКІ *мн.* Жартачкі. *Каро'ва ў гаро'дзі буракі' пае'ла, а ёй усё сьме'шачкі!*

СЬМІХАТУ'Н *м.* Вясёлы чалавек, весялун. *Во, сьміхату'н які' ўрадзі'ўся, усё яму' сьме'шна.*

СЬМІХАТУ'РА *ж.* Нешта смешнае. *Во як было', адна' сьміхату'ра, ды й то'лькі.*

ТАРАНАВА'ЦЬ: ТАРАНУ'Я *незак.* Пра стан, калі чалавек неспакойна сябе паводзіць. *Чаго' цібе' тарану'я, скажы'? Чаго' ты ве'рцісьця?*

ТАРНАВА'ЦЦА *незак.* Гарэзіць, шумець (часцей – пра дзяцей). *Ідзі' скажы' йім , штоб ні тарнава'ліся!*

ТВАНЬ *ж.* Тое ж самае, што і *багна. Во йіка'я твань по'сьлі дажджа', па ву'ліцы ні прае'хаць.*

ТЫРСА' *ж.* Мелкія апілкі. *Тырсы' прывё'з, на'да на чырда'к закі'нуць.*

УЛО'ННЕ: НА ЎЛО'ННІ (НА ЎЛО'ННЯХ). На каленях. *Паса'дзя цібе' ма'мка, по'мню, на ўло'нні і гу'шкая. Дзяржы' е'тыя су'мкі на ўло'ннях, каб ні міша'лі.*

ЦЕ'ПІРСЯ *прысл.* Даўно. *А калі' ё'н прыйіжджа'ў, што я ні ба'чыла? —Ды ўжо це'пірся.*

ЦЫ'ТРА *ж. неадабр.* Вяртлявая, шустрая жанчына або дзяўчына. *От жа цы'тра йіка'я шыбутна'я, усё' ёй ні сядзі'цца.*

ЦЯ'МЦЯ-ЛЯ'МЦЯ *м.* і *ж.* Марудная, непаваротлівая асоба. *Ён ні чалаве'к, а ця'мця-ля'мця — ні ры'ба ні мя'са.*

ЦЯЖО'ЛКА *прысл.* Цяжка. *Ду'жа цяжо'лка, дзе'ткі, по'сьлі вайны' было', паба'чылі го'ра, дык паба'чылі.*

ЦЯЖО'ЛКІ *прым.* Цяжкі. *Цяжо'лкую ду'жа су'мку накла'ла, ні падня'ць.*

ЦЯЛЬПУ'Х *м.* Непаваротлівы, нязграбны, тоўсты. *Во, цяльпу'х які' вы'рас ніпаваро'тлівы!*

ЧАСЦЯКО'М *прысл.* Вельмі часта. *Часцяко'м і к нам Васі'ль зайіжджа'ў, ні забыва'ўся.*

ЧЭ'РЦІ ТАРАНУ'ЮЦЬ. Калі чалавек неспакойны, круціцца або злуецца. *Чаг'о цібе' чэ'рці тарану'юць?*

ШКАЎРАДЗЬ *ж. лаянк.* Вельмі непрыемны, сварлівы чалавек. *Е'ты Ві'цька ў іх така'я шка'радзь, што і зьвя'зывацца ні хо'чыцца.*

ШКРЫ'ДА *ж.неадабр.* Пра шкодную, капрызную дзяўчыну. *Ох жа ж ты' і шкры'да ў нас!*

ШЛУ'ННІ, ШЛУ'ННЯ *зб.* 1. Вантробы ў жывёлы. *На'да шлу'нні пірабра'ць ат парасё'нка сё'дні ве'чарам.* 2. *перан.* Унутраныя органы чалавека. *Усё' шлу'ння паадбіва'ў, паку'ль дае'хаў на е'тым віласіпе'дзі.* ВЫ'РВАЦЬ ШЛУ'ННІ. Дапячы, надакучыць. *Вы'рваў ты, мой сыно'к, усе' шлу'нні ў міне'.*

ШЛЫ'НДА *м.* і *ж. неадабр.* Тое ж самае, што і *брында. Шлы'нда, а ні дзіцё'нак, як по'йдзе на цэ'лы дзе'нь, дык як прапа'ў.*

ШЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Тое ж самае, што і *бруындаць. А е'таму абы' то'лькі бры'ндаць ды нічо'га ні дзе'лаць.*

ШМУ'ТКІ *мн.* Адзенне. *А шму'ткі вяза'лі ў вузлы' ды так і піраво'жалі. Шму'ткі стары'я павыкіда'ць на'да, ніха'й ні валя'юцца.* ШМУ'ЦЦЯ *зб.* Старое, рванае адзенне. *Пазабіра'й е'та шму'ццяь каб ні валя'лася.*

ШПУРА'ЦЬ *незак.*, ШПУРНУ'ЦЬ *зак.* Кідаць, кінуць. *Як шпурну'ла дае'нку, дык і паляце'ла.*

ШУБА'ЦЬ (ШЫБА'ЦЬ) *незак.*, ШУБНУ'ЦЬ (ШЫБНУ'ЦЬ) *зак.* Кідаць, кінуць з усёй сілы. *Ні шуба'й, табе' гавару', пакладзі' ці'хенька!*

Ю'ШКА І *ж.* Заслонка ў печы, у грубцы. *Нада ю'шку аткрыць у гру'бцы, штоб уга'рна ні было'.*

Ю'ШКА ІІ *ж.* 1. Вадкасць у супе. *Пасірба'й ю'шкі, штоб жыво'т ні балеў.* Ю'ШАЧКА. *памянш. Пае'ж, дзе'тка, ю'шачкі, а то жыво'т бу'дзя бале'ць ат сухамя'ткі.* 2. *перан.* Кроў, што цячэ з носа . *Так даў мне па насу', аж ю'шка пацікла'.* 3. *перан.* Смаркачы, што цякуць з носа. *Ён такі' ніге'глы, усё' ю'шка з но'са цячэ' і цячэ'.*

*П.І. Кулік*

# МОВА МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА[1]

ВО'ВНА *ж.* Воўна. *Чы клóччэ, чы вóвна, альбы' кы'шка пóвна.*

ВУ'СЬЦЕ *н.* Месца ў печы, дзе дым выходзіць у *капту'р*; яно заўсёды чорнае ад сажы. -- *Ну й шы'я у тыбэ' Мыкóлка! -- П'ю, п'ю пы'во. – Пый ты, Мыкóла, хоч самогóн, а шы'ю трэ'ба мы'ты. Марáта, як ву'сьце*

ВУ'ЧЫПКА *ж.* Прывязка пугі да пугаўя. *Прыв'яжы' бычé за ву'чыпку на бычéлно, з пытлéю.*

ВЧВАЛКЫ' *прысл.* Наўскач. *Івáн Барбáрын погнáв конé вчвалкы', шо аж шéпку згубы'в.*

ВЫРЦЁХА *ж.* Катушка для наматвання пражы з верацяна, даўжыня да 1 м, дыяметр каля 30 см. *Змотáй ныткы' з вытынá на вырцёху.*

ВЫ'СКЫРЫТЫСЬ *зак.* Ашчэрыцца. *Шо гэ'то ты, Вóлька, на мынэ' вы'скырылась?*

ВЫ'СМАГНУТЫ *зак.* Выпарыцца. *Покы' поросéтовы рвáла зі'лле, водá в чыгуні' с картóплямы вся вы'смагла.*

ВЫЧУ'ХРОВКА *ж.* Цёрка для зачысткі веласіпедных камер. *Поїхав я на рóвыры у Вы'жары косы'ты сі'но і дэсь пробы'в кóлысо. То дóбрэ, шчо булá вычу'хровка, то залатáв кі'ху.*

ВЫШЕ'Р *м.* Віша. *Як ті'лько[2] пудмэ'рзнэ каля вóзыра, трэ'ба бу'дэ накосы'ты вышару' скоты'ну пудослáты.*

ВЭ'ДЛУК *прысл.* Акрамя. *Поїлы зрáзу всэ: капу'сту, кру'пнык, мнéсо, вэ'длук жу'ру овсе'ного.*

ГНУ'ШКА *ж.* Тонкі лёд, які прагінаецца і трашчыць пры хадзьбе па ім. *Пушлы' до Галу'шкы у вольшыну' у рові' на гну'шку кóвзатыся.*

ГУРО'К *м.* Агурок. *Шось мій собáка гы'дко їсьць. А мóжэ ёму' гуркá з картóплямы дáты?*

ЖЫЛІ'ЗНЯК *м.* Рыдлёўка. *Пітюх жылі'зняком вы'копав таку'ю éму, шо аж до жабі'в докопáвся.*

ЗАКЛЕ'КНУТЫ *зак.* Застыць, здохнуць. *Моя' дóлынька! Шось моé поросé захворі'ло. Покы' бі'гала до вітінáра, а вонó вжэ заклéкло.*

---

[1] Прыводзяцца словы, запісаныя ў вёсцы Галоўчыцы (мясц. Голóвчычы) Драгічынскага раёна. Вёска знаходзіцца ў 20 км на паўднёвы захад ад Драгічына, ў 10 км на паўднёвы ўсход ад Антопаля.

[2] Літарай ї аўтар абазначае спалучэнне йі, а таксама галосны і пасля цвёрдых зычных.

ЗҐО'ВТАТЫ *зак.* Адурманіць. *Мыко́лку в шко́лы так зґо́вталы, шо він її покы'нув і став гра́ты на гармо́ні.*

ЗНЫ'ВЫЧЫТЫ *зак.* Сапсаваць. *Як жэ ты своє́ пальто́ зны'вычыв! Тыбэ' шо коро́ва лыза́ла?*

КАПТУ'Р *м.* Навес конусападобнай формы, куды праходзіць дым з печы. *Іван! Ны ві'шайся на каптурі', а то шэ піч обва́лыш.*

КАПУ'З *м.* Карапуз. *Во, Ва́нька-брыгаді'рякы'й здоро́вый! Ты, капу'з, ны лізь до ёго́, а то ты'снэ чым-нэ'будь.*

КАЧЕ'ЛО *н.* Качалкі. *Яры'на! У тыбэ' каче́ло е? Міні' трэ'ба одэ'жу покачёты.*

КВАЧ *м.* Квач. *Маня! Шось плэ'чы боле́ть. Поста́в міні' ба́нкы. Квач лыжсы'ть на ша́пы.*

КОСТЫРО'ВА *ж.* Брыца. *Ма́мо! А шо тако́е то́встэ ростэ' на по́лы? — Му'сыть карто́плы поса́джаны, а ростэ' костыро́ва.*

КО'ЛЬБА *ж.* Ручка для заводкі аўтамабіля. *Шось машы'на ны заво́дыця. На, ко́льбу, покруты', мо́жэ й завыдэ'ш.*

КУ'ЛЫК *м.* Пераплецены звязак саломы для пакрыцця страхі. *Така́я пудняла́сь бу'ра, шо аж тры ку'лыкы зорва́ла з ха́ты.*

КУСЬЦЕ' *н.* Кассё. *Шо робы'ты? Взев у Іва́на Бо́чкы ко́су і кусьце́ злама́в.*

КЭ'НДЮХ *м.*, КЫЛЮ'Х *м. экспр.* Вялікі жывот. *Ну і кэ'ндюх у тыбэ', хло́пчэ. Му'сыть, каля кышо́к прычэ'пляный мышо́к*

ЛАТА'ЦЬ *ж.* Лотаць. *Хорошэ' цвытэ' лата́ць выснóю. Всэ жо́втэ круго́м.*

ЛА'ШЧЫТЫ *незак.* Песціць, лашчыць. *У Вы'жарах до мынэ' прыбы'лася саба́чка, бі'гла за мно́ю, ла́шчылась, по́кы я йшов доха́ты.*

ЛЇ'ЖОК *м.* Ложак. *Шо робы'ты? Ді'ты спеть на за́пыку ра́зом, і хло́пчыкы і дыўчётка. Трэ'ба лі'жка дывчётюм купы'ты.*

ЛОШЧЫ'НА *ж.* Лагчына. *Трэ'ба в лошчы'ны посады'ты карто́плы на грéдках, а то шчэ вы'мокнуть, ек бу'дуть дошчі'.*

ЛЫҐА'ТЫ *незак.* Глытаць. *Ек бу'дуть варэ'ныкы, то я бу'ду по два лыґа́ты. --Дывы'сь, ны вдавы'сь.*

ЛЫҐНУ'ТЫ *зак.* Праглынуць. *Кыб булы' варэ'ныкы, ек їх ныма́, то я по два лыґа́в бы. --Бух тобі' у плэ'чы, кыб ты ны вдавы'вся, ек лыґнэ'ш.*

ЛЮ'ХТА *ж.* Металічная засаўка ў коміне. *Учо́ра лю'хту закры'ла зусі'м, а тыпэ'р голова́ болы'ть, учёдыла.*

ОПАРАЗА'ТЫ *зак. экспр.* Ударыць. *Ох і трэ'ба тыбэ' опараза́ты кычка́мы* (*кычкы'* — канцы фартуха, якія завязваюцца).

ОПУ'ДЫНА *ж.* Пудзіла; дрэнна апрануты чалавек. *Ма́нька новосі'льська одéлась на высі'лле ек опу'дына.*

ОСЛЇ'Н *м.* Услон. *Пéтя! Ны рубáй ослóна. Шчэ на ёму' постоїть выдрó з водóю.*

ПАРШЕ'К *м.* Засохлая высыпка на скуры, якая пачынае гоіцца. *Пéтя Галу'шка, му'сыть, ны мы'їця. У ёгó на гу'бі паршéк ухопы'вся.*

ПЛАЗОВА'ТЫ *незак.* Поўзаць. *Ді'ты в горóховы грáлысь в стуканá. Так там поплазовáлы, шо ны булó чогó і рвáты.*

ПЛЕ'ШКА *ж.* (ад нямецк. *Flasche*). Бутэлька. *Шкóда гэ'ту сироту'. Даю'ть їсты на ці'лый дэнь -- окру'шчык хлі'ба і плéшку молокá.*

ПОЛЫ'ЦЯ *ж.* Паліца. Рабілася ў каморы каля 2 м ад падлогі, каб класці хлеб і каб мышы яго не дасталі. *У когó пóлэ на Боровы'цы, у тогó хліб на полы'цы.*

ПОПЫРЫЧНЕ'К *м.* Папярочны загон, баразна і інш. *Слáва Богу! Згорáлы градкы'. Остáлось згорáты попырычнякá.*

ПОСТЇ'Л *м.* Лапаць. *Хай бу'дэ мужы'к як постї'л, а ты ёгó сунь за стїл.*

ПО'ТАС *м.* Прасніца. *Якы'ї там тáнцы, посля войны'. Всю зы'му на пóтасы і крóснах просыді'ла.*

ПО'ЦЮХ *м.* Мачавы пузыр парасяці, свінні. *Мáмо! Ек бу'дымо колóты поросé, аддáй міні' пóцюха, а я з егó мнячé зроблю'.*

ПРА'ЖЫТЫ *незак.* Прэгчы. *Шось їсты хóчыця, мóжэ в гру'бцы напрáжыты горóху?*

ПРА'ТЫ *незак.* 1. Біць пранікам ільнянае палатно, выбеленае папярэдне ў лугу'. *Шось полотнó вэ'льмэ твэ'рдэ. Дóвго ёгó прыдэ'цця былы'ты на воді' і мі'цно прáты* 2. Лупцаваць.

ПРОВОЛО'ГА *ж.* Напітак, вадкая страва. *Стáрость прышлá. Шось у гóрлы су'шыть. Трэ'ба вы'пыты проволóгы, мóжэ лёкшій стáнэ.*

ПРОЕ'ВА *ж. экспр.* Бяда. *І шо гэ'то за проéва? П'ю, п'ю і ныéк воды' ны напы'тыся. – Му'сыть, ты дóбрыї проéвы наїлася.*

ПРЫСКРЫ'ТНУТЫ *зак.* Прыцiснуць голадам, хваробай. *В піст я захворі'ла -- мі'цно мынэ' прыскры'гло. Ны хóчыш їсты му'чаныцю? Ек прыскры'гнэ, то здзысы' за малы'ныну.*

ПРЫТЬМО'М *прысл.* Нахабна, без дазволу. *Радыві'н прытьмóм лі'зэ в чужóе ді'ло, шчо хоч ты опáхалом ёгó одганéй.*

ПРЫ'ШЧЫТЫ (Ґ'А'ЗУ) незак. Паліць. *Таня! Хвáтыть тобі' пры'шчыты ґáзу, лягáй спáты.*

ПРЭНТ *м.* Металічны штыр, які падтрымлівае *капту'р* у печы. *Трэ'ба робы'ты піч. І дэ взёты жылі'за, кыб зробы'ты прэ'нта.*

ПУДСАХАТА'РЫТЫ *зак.* Вельмі добра падсмажыць. *Ярына Макарóва хлóпцёвы пудсахатáрыла, спóдыньку далá поїсты, кыб він ны осцыкáвся, а потом сказáла. То хлóпіць блёвáв і клев мáтыра.*

ПЫРІ'СТЫЙ *прым.* Пярэсты. *У моёму стáдовы всі коровы' пырі'сты, тї'лько однá Брыжова чырвóна.*

ПЫРЫДЫ'ЛЬКУВАТЫ *незак.* Паводзіць сябе безтурботна. *Хвáтыть тобі' пырыды'лькуваты! Іды' в хлів гнїй выкыдаты.*

ПЫРЭ'РВА *ж.* Размыты ўчастак дарогі. *Каля Кылюка на дорóзы такáя пырэ'рва, шчо нáвіть машыны' грéзнуть.*

ПЭ'НДЗЫЛЬ *м.* Пэндзаль. *Трэба былы'ты хату, а пэ'ндзыля нымá. Сходы', Мáнё, нарвы' рызаку' з зрóбы нóвого.*

ПЭ'НЬКНУТЫ *зак.* Лопнуць. *Клынóк пэ'нькнув і оттóплянэ молокó з ёгó вы'тыкло.*

РОЗБУЗОВА'ТЫ *зак.* Размясіць (дарогу). *Коровы' так розбузовáлы дорóгу, шо ныéк ны пройты'.*

РЫКА'ТЫ *незак.* Рыкаць. *Корова рыкáе. Мусыть дохáты хóчэ.*

СА'ВГАТЫ *незак.* Хутка есці. *Ну шчо гэ'то за ді'ты! Постáвыш чыгунá з картóплямы, то сáвгають, ек свы'ны.*

САПА'ЧКА *ж.* Матыка. *Зі'лле вы'росло такóе вылы'знэ, шо ны однá сапáчка ны помóжэ.*

СВІСЦЁЛЫК *м.* 1. Свістулька. 2. *перан.* Тонкі і худы. *А чогó такóе дорогóе поросé? Гэто свісцёлык, а ны поросé.*

СВЫНЫ'НЬЩЬ *м.* Свінушнік. *Вжэ трэ'ба свынэ'й кормы'ты, а то шось мі'цно квычéть у свыны'нцы.*

СКУ'ГАВАТЫ *зак.* Зацвярдзець. *Їж картóплы покы' ны ску'гавылы.*

СКУ'РЧЫТЫСЬ *зак.* Скурчыцца. *Прочну'лася я вночі', бáчу хвóра дыты'на ску'рчылась і спыть, а пéрнач валéїця на пудлóзы.*

СОВГЫНУ'ТЫ *зак.* Ударыць чым-н. вострым. *Нич булá такая тэ'мна, хоч у вóчы совгыны'.*

СПАРАЇ'ТЫ *зак.* Усмерціць. *Кыб вы'йты замуж, Манька чуть ны спараїла свою' дыты'ну.*

СПАРЫЖОВА'ТЫ *зак.* Паралізаваць. *Шось Бормы ны пошыховáло ёгó спарыжовáло.*

СУДОШЕ'ТЫ *незак.* Сустракаць *Петя коровы' пасэ, а ёму' ві'сім років. Ходы'ла ёгó судошéты в Рокы'ту, а він пас коровы' у Вы'жарах.*

СХАМЫНУ'ТЫСЯ *зак.* Апамятацца, схамянуцца. *До мынэ' свáтався п'éныця Шурум-бурум. Добрэ, шо я схамыну'лася і ёгó прогнáла. Екось загорі'лася корóста в свыны'нчыку, то добрэ шо я схамыну'лася і бу'хнула туды' выдрó воды'.*

ТАРАДА'ЙКА *ж.* Разбіты воз. *Здав я вóза у колхóз ці'лым, а тыпэ'р дывлю'ся – глабы'ны злáманы. Ны віз, а тарадáйка.*

ТЛУМЫ'ТЫ *незак.* Стрымліваць. *Чогó так пі'зно прыгнáв коровы' з пáшы? Дэ гэ'то тыбэ' так дóвго тлумы'ло?*

ТОБАКІ'РКА *ж. перан.* Твар. *Такáя пропы'та тобакі'рка в ёгó. Брыгадір, то гóрло од самогóнкы ны просыхáе.*

ТОХЛЫ'ТЫ *незак. экспр.* 1. Есці. *У Петі просы'ла фанéру, дала горі'лкы, тры їці' вбы'ла, окру'шчык хлі'ба стохлы'ла, а він сів на машыну і поїхав.* 2.Частаваць. *Ходы'в Петя-сківáторшчык до моеї Мáні. Кі'лько я ёгó тохлы'ла, а він всё в дыч ды'выця.*

ТРЭ'ПОЧКА *ж.* Прыстасаванне трапаць лён. *Кі'лько ж льну у гэ'тому рóцы. Трэ'почкію дóвго прыдэ'цця махáты. Твій язык, ек трэ'почка.*

ТУ'МНУТЫ *зак.* Моцна ўдарыць. *Як ту'мну, шо головá закру'жыця.*

ТЫТІ'ЯТЫ *незак.* Моцна і голасна сварыцца. *Ганно! Мо ты вжэ пырыстáныш тыті'яты? А то Біг вкарáе.*

ТЭ'НУТЫ *зак.* Зрушыць з месца. *Ты шо, Хвыдóсь, камі'ння положы'в у мышóк, шо ёгó ны тэ'нуты?*

УМІЛЮ'ШЧЫТЫ *зак.* Даць многа чаго-небудзь. *І шо гэ'то за дывосі'я? Бувае, моя' мáма міні' нычóго ны дае́, а в дру'гый раз можэ' умілю'шчыты сті'лько, шо ны поныcты'.*

УПО'РЫСТЫЙ *прым.* Упарты. *Скі'лько я просы'ла Івáна, кыб ны ліз на éблыню, бо вонá з вылы'зным дуплóм. Алыж він упóрыстый, полі'з і упáв рáзом з éю.*

УРЫ'КОТЫТЫСЬ *зак. экспр.* Прапваліцца. *Булó так пóночэ, шо я уры'котывся в éму з водóю по колі'на.*

УТАЛОВА'ТЫСЬ *зак.* Утаміцца. *Учóра косы'в пі'жню і так уталовáвся, шо лег спáты, нáвіть ны повычэ'равшы.*

УХОПЫ'ТЫСЬ *зак.* З'явіцца (пра хваробу). *Вчóра помогáла Влéны Галу'шчыный картóплы сады'ты, а тыпэ'р шось рука бол'ть. Мóжэ, грызь ухопы'вся?*

УШАЛАБА'НЯНЫЙ *прым.* Адурэлы. *Закрыла увэ'чоры лю'хту у гру'бцы, а врáно устáла вся ушалабáняна..*

ФІРА'НКА *ж.* Карціна на фанеры. *А дэ гэ'то поді'вся рушны'к, шо ві'сыв на фірáнцы?*

ЦЯТА'ТЫСЬ *незак.* Валаводзіцца, чыкацца. *Дэ гэ'то ты був? Я з тобóю ны бу'ду цятáтыся.*

ЯДЫ'НЫЙ *прым.* Адзіны. *Ох, Божэ мій яды'ный!*

## СМА'ЧНЫЙ БО'РШЧЫК, МАЛЫ'Й ГО'РШЧЫК

Ніжэй прыводзяцца прыказкі, запісаныя ў Галоўчыцах ад наступных людзей: Кулік Ірыны Кандратаўны (маці, 1901 г.н.), Кулік Марыі Іванаўны (сястры, 1933 г.н.), Літвінчук Марыі Кандратаўны (цёткі па маці, 1898 г.н.),

Чопка Сцяпана Антонавіча (суседа. 1910 г.н.), Чыр Ганны Іванаўны (суседкі, 1912 г.н.), Сяргунчыка Кузьмы Каленікавіча (суседа, 1934 г.н.).

А чыя ж гэто маты по світу блукае? -- А то того сына, шо Жыгулі мае.

Батько хату збу'дуе, а дытэй ны погоду́е.
Бачылы вочы, шо куплелы, то тыпэр хай йіде'ть, хоч повыла'зеть.
Быда тому́, шо зымле на кому́.
Быз капусты кышкы пусты.
Вывалыв вочы, ек баран ейця.
Высна тогді, ек уніч трышчыть, а вдэнь плюшчы'ть.
Громны'цы – ныпывся півінь воды'цы.
Громны'цы – половына зымы́цы.
Гультай за роботу – намуляч за руку.
Гуртом і батька добрэ быты.
Добрэ святковаты, алы ны дай Божэ одсвечуваты ('адпяваць').
До Дмы́тра дівка хытра.
Друга жінка, друга думка.
Ек будэ хліб, то будэ і до хліба.
Ек з йіце, так і до коньце.
Ек попав помыз вороны, то і каркай як і во'ны.
Ек трывога – то до Бога.
Здзіжмо твое, а потом каждый свое.
З слабэю головою у чед ны лізь.
З чужого воза хоч сы́рыд ка́лу.
Йіду на коні – коне шукаю.
Йіж, покы рот свіж, а підыш до гробу, то здзісы́ хворо́бу.
Каля чого ходыш, од того попы́лыся.
Колысь і півны ныслысь, а тыпэр і куры ны хочуть.
Кормы свіню ны Богом, а снопом.
Красіва, ек корова сіва.
Кыб був чорт такый страшный, ек намалёваный, то быда була б.
Кыб дід ны тішывся б, то повісывся б.
Люды спа́ты, а сова гора́ты.
Мыхайло – з поля спыхайло.
Набрався хэ́ндзу ('фанабэрыі'), ек сучка блох.
На быду мныго ны трэба
Наварыв, ек Лу́ця, шо ны здзісць і цюця.
Над сырото́ю Біг з калыто́ю.
Наду́вся, бы Нэсьцюр до крыжа.

На одным міцьці навіть камінь мохом оброста'е.

Нывістка – ны рідна кістка.

Ны оддавай свою святыню псам.

Ны той чырвек, шо ты йісы, а той чырвек, шо тыбэ йісьць.

Ны шу́ру, ны з буру дай, бабо, журу ('патрабаванне без усялякага тлумачэння').

Обі́дав, а жыві́т ны ві́дав.

Од Прычыста Сывка нычыста.

Оглядівся, як наївся.

Оддай людюм жінку, а сам іды у солїмку.

Опэнькы – грыбы усэнькы.

Ох, тежко, тежко камінь пудыма'ты, а шчэ тешчый, ва́жчый дытэй годова́ты.

П'еный свічкі ны поставіть.

Покі'рнэ тыле́тко дьві маткы сцэ.

Покы сонцэ выйдэ, роса вочы выйісьць.

После кашы ныма другэйі па́шы.

Пропав, ек бунька на воді.

Прыпав, ек жыд до парышу.

Пысала пыса́ка, шо ны розбырэ і срака.

Свое, ек вовковы свыне.

Сім раз вырнысь, но ны ввырыдысь.

Сказав, ек віл у лужу.

Смачный бо́ршчык, малы'й го́ршчык.

Смэрть – ны кара.

Сорока з лозы́ны, дэсыть на лозы́ну.

Спомынаючы мак, обыйдэмся і так.

Старое як малое – одын розум.

Старому – ны молодому, чес короткый.

Сухая ложка горло дырэ.

Сюды пынё'чку, туды пынёчку, а пынё'к ны місьці.

Тому трэба смачно йісты, хто горэ́, а ны хто пір'е дырэ́.

Ты в світ, а доля твоя вслід.

Тэмно, хоч у вочы совгыны.

У каждого свое діло, у каждого свойі прыдуркы.

Уліто ногою, а зымою рукою

У мынэ грошій стїлько, ек у дурного табаку.

Умыра́ты – дэнь тіра́ты.

Хоты́ ны хоты́, а трэба вмырты́.

Хоч мужык будэ як постїл, а ты його сунь за стїл.

Хто найдэ, той хытрый, а хто згубыть, той дурный.
Цыган кажэ: до роботы, ек хоч, а до йіжы кыём.
Чы клоччэ, чы вовна, альбы кышка повна.
Чырыз лад навыть свыны ны йідеть.
Што ты пнэсся бы жеба на купыну.
Языком хоч сраку латай, а рукам волы ны давай.
Я і быз попá знаю, шо у ныділю свето.

*Кунцэвіч Л.П.*

# З ЛЕКСІКІ в. РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

АТА'ВА *ж.* Трава другога ўкосу. *Сёлята сена німа, пасохла трава, хіба ата́вы нарасце.*

АТСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Адлучыць цяля ад каровы. *Цяля ўжэ шэсь нядзель ля каровы, пара атса́джваць.*

АТЦУРА'ЦЦА *зак.* Адрачыся ад чаго-небудзь. *Ні магу рады даць жукам, мусіць, атцура́юса, да й хай даядаюць кардоплі.*

АХАЛО'ДАЦЬ *зак.* Астыць. *Ешце, бо капуста ахало́дае, нісмашна будзе.*

АХВІРА'НКІ *мн.* Занавескі на вокнах. *Ахвіра́нкі к Вялікадню перамуць трэба, свято вялікае, трэба папрыбіраць.*

БІНТ *м.* Марля. *Атрэж кусок бінту на цадзілку, ета ўжэ вельмо жоўта.*

ВЕРАБІ'НА *ж.* Рабіна. *У нас ля хаты дзве верабіны ўжэ белые ат цьвету, а летась мало было верабін.*

ВО'БМАРАК *м.* Непрытомнасць. *Яна ўсе ў во́бмарак падае, удаўленне нізкае вельмо, на жары ні можэ быць.*

ВО'БРАЗ *м.* Ікона. *Павесь на во́браз чысты рушнік, заўтрэ ж Тройца, мо госці прыедуць.*

ВО'ДМАЛАДЗЬ *ж.* Маладыя парасткі. *Кусты абрэзоў, то ўжэ во́дмаладзь у рост пашла, мо і ягады будуць.*

ВО'ЧАРАДЗЬ *ж.* Чарга. *Заўтрэ наша во́чарадзь кароў пасьціць, хаця б дажджу ні было, як той раз.*

ГАРО'НКІ *мн.* Карункі. *Надзя вельмо харошые гаро́нкі пляце, і к просьцінях прышывае, і к падузорнікам.*

ДЗЯЛЯ'НКА *ж.* Свежына, якою частуюць суседзяў. *Дзяля́нку занясі Аленцэ, яна ж нам прыносіла, як біла свайго кабана.*

ДЗЯРУ'ЖКА *ж.* Посцілка з прышытымі да яе матузамі, у якой носяць салому, сена і інш. *Шкуты ат дзяру́жкі паатрываліса, ледзь прынесла саломы.*

ДОЖ *м.* Дождж. *Дож сёні цэлы дзень як з вядра льле.*

ДРАБІ'НА *мн.* Лесвіца. *Пастаў драбіна, трэба лезьці комін прачысціць, бо шчэ сажа загарыцца, дай хай стаяць тут, пад рукамі.*

ДРАПКІ *мн.* Матыка з зубцамі. *Дра́пкамі перабрала ўвесь загон нідаўно, а ўжэ зноў зарасло.*

ДРУЖОˈК м. Шафер на вяселлі. *Коля ў яго за дружка́ быў, яны ж вельмо хеўрылі маладые.*

ДУБОˈВІК *м.* Грыб-баравік, які расце пад дубамі. *Сёні нарваўса на дубо́вікі, то чуць прынёс карзіну.*

ДУХ *м.* Пар. *У бані вельмо ду́ху, доўго ні ўседзіш.*

ЕˈТЫ *займ.* Гэты. *Ніяк ні магу разабрацца з е́тым пер'ём, трэба падраць да ў падушку ўсыпаць*

ЖАЛЯЗНЯˈК *м* уст. Лапата . *Дзе-то наш жалязня́к дзеўса, трэба ямы пазакоппаць, што сабака нарыў.*

ЖЛУˈКЦІЦЬ *незак.* Запарваць бялізну ў жлукце. *Некалі ў жлукце ўсе жлу́кцілі, шчэ лепш выбельваласо, чым цяпер.*

ЗАКЛАˈДАНКА *ж.* Тканая посцілка з узорамі. *За зіму тры закла́данкі выткала, вельмо ніткі пазарные, то ўзоры харошые папучыліса.*

ЗАНЯПАˈСЦІ *зак.* Стаць хваравітым, слабым. *Маня етае лето саўсім заняпа́ла, і агарод свой запусціла.*

ЗАПЛЕˈТАЦЬ *незак.* Заплятаць. *Запле́таць трэба косы, а то распусціла – у вочы лезуць.*

ЗАПЛІКНУˈЦЬ *зак.* Зашпіліць. *Пазаплікáй гузікі, што ты ходзіш расхрыстаны.*

ІМЖАˈКА *ж.* Імжа. *Імжа́ка імжыць цэлы дзень – ні дож, ні пагода.*

КАКАРУˈЗА *ж.* Кукуруза. *Какару́за сёлята ніўдала, кіякі шчэ толькі пазаўязваліса, а ўжэ скорэ жаць трэба. Зноў будуць пустые сілосные ямы.*

КАПУˈСНІК *м.* Расол, у якім квасіліся качаны капусты. *Капу́снікам, кажуць, добрэ падліваць цыбулю, есьлі муха нападае і пад'ядае карэнне.*

КАЛЯСНІˈК *м.* Воз сена. *Добры каляснік сена прывезьлі, на паўзімы хваціць карове.*

КАРАСІˈНА *ж.* Газа. *Цяпер, калі і трэба лямпу запаліць, як сьвет патухне, то карасіны німа. Дзе яе возьмеш.*

КАРДОˈПЛІ *мн.* Бульба. *Кардо́плі ніўдалые сёлята, вельмо засушыло, як само цьвілі, а тады жукі даелі.*

КАСЬНІˈК *м.* Лента. *Харошые касьнікі паўплятала ў косы.*

КАСЦЕРУГАˈ *ж.* Брыца. *Касьцеруга́ запаланіла агарод, ні можно выдраць.*

КАТУШОˈК *м.* Невялікі куток. *Катушо́к у хляве адгарадзілі цяляці.*

КАˈЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Нешто кошка цэлы дзень ка́ўкае, мо захварэла.*

КВАСО'ЛЯ *ж.* Фасоля. *Квасолі нарасло багато, а браць ніхто ні хочэ.*

КІЛАВА'ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Капусты багато кілаватай, ні ў добру пору пасадзіла.*

КЛАДЫ' *мн.* Могілкі. *Кладыі ўжэ даўніе, лесом пазаросталі, трэба чысціць.*

КО'ПША *ж.* Тоўстая, непаваротлівая жанчына. *Ета копша еле варочаецца, ат яе ні жджы работы.*

КО'ЎЗАЛКА *ж.* Ледзяная дарожка. *Цэлы дзень дзеці на коўзалцэ, хто на саньках, а хто без нічого.*

КРУПЫ' *мн.* Крупы. *Крупоў сёні сын наўёз з горада ўсякіх: і прасяных, і грэцкіх, і гушчы.*

КУКУ'ЛЯ *ж.* Зязюля. *Кукуля ўжэ кукуе, сёлята рано нешто. Кажуць, калі на голы лес, то к голаду.*

КУ'ТНІЦА *ж.* Прамая кішка. *Кап табе кутніцу вупярло.*

ЛА'ВАШНІЦА *ж.* Прадаўшчыца. *Лавашніца некуды зьехала, цэлы дзень магазін закрыты.*

ЛАТА'К *м.* Жалабок, па якім сцякае вада., сок. *Ты дажэ латака ні ўмееш зрабіць, сок на землю цячэ.*

ЛІХО' *прысл.* Дрэнна. *Ліхо старой адной жыць, ніхто ні памагае.*

МАЗКІ', МО'ЗКІ *мн.* Мазгі. *У цябе ўжэ мазкі ні вараць, атпіў саўсім. Мозкі закіпаюць ат духаты.*

МАКАРО'НА *ж.* Макароны *мн. Набрала сёні ўсякае макароны ў магазіне.*

МАКРЭ'Ц *м.* Макрыца *ж. Макрацом запляло ўсе кардоплі, рукі ні ўбіць, вельмо мокры гот сёлята.*

МАЛАДНЯ'К *м.* Малады лес. *Цяпер німожно пазнацца ў лесе, маладняком пазаростало ўсюды.*

МАРО'ЗАВЫ *прым.* Змерзлы. *У войну зьбіралі марозавые кардоплі да й елі.*

МАШЫНО'ВЫ *прым.* Ніткі для шыцця на швейнай машынцы. *Падай мне чорные машыновые ніткі.*

МАХРЭ'ЧА *мн.* Расткі, парасткі. *Так зрасліса кардоплі, што ні можно махрачоў етых паатрываць. Ужэ варыць сабе нісмашные.*

МАЦЯРДУ'ШКА *ж.* Душыца . *З мацярдушкі чай добры і гарэлку можно настойваць.*

МЕ'СТО *н.* Плацэнта. *Як карова целіцца, то пільнуём, каб место ні з'ела.*

МЛІН *м.* Мельніца. *Трэба ў млін жыто везці, німа чаго сьвінням даваць.*

МО'ТУЗ *м.* Завязка да чаго-н. *Матузы́ прышыла к хвартуху. Адзін мо́туз абарваўса.*

МУЗО'ЛЬ *м.* Мазоль. *Нацерла чобатамі крывавы музо́ль, ні магу цяпер нічого абуць.*

МУ'ЛІЦЬ *незак.* Націраць *Новые чобаты так му́ляць, што німожно хадзіць.*

МУ'СІЦЬ *незак.* Быць вымушаным, абавязаным зрабіць што-н. *І му́сіла ж я сярод ночы цягнуцца яго шукаць.*

МУ'ЧЫЦЦА *незак.* Пакутаваць. *Век му́чыласа , гаравала без бацькі, рабіла і мушчынску работу і жаночу.*

НАВА'ЖЫЦЦА *зак.* Адважыцца. *Нава́жыласа я ўсё-такі пераехаць да сына. Як ужэ там будзе, так будзе.*

НА'ВАЛАЧ *ж., м.* Не карэнны жыхар. *Цяпер бойса ў сваёй хаце, ўсякай навалачы ў сяле назбіраласо.*

НА'СЬКІ *займ.* Тутэйшы, свой. *Паказваў мне нейкіе ні на́ськіе грошы, тые доляры ці як іх завуць.*

НА'ТСЫР *прысл.* Сыраваты. *Кардоплі шчэ на́тсыр булі, а ты ўжэ атцадзіла.*

НЕКАНЕ'ШНЕ *прысл.* Не абавязкова. *Некане́шне сёні ето рабіць, будзе шчэ час.*

НІГАДЗЁН *прым.* Не здаровы. *Ужэ саўсім ён нігадзён, ні знаю, ці перазімуе.*

НІДБА'ЙЛІЦА *ж.* Нядбайны чалавек. *Во мая нідба́йліца, ні пра што ні дбае, спіць днямі.*

НІМА'ШАКА *безас.* Няма. *Німа́шака ў мяне грошай , усе на муку аддала.*

НІСХАДЗІ'МЫ *прым.* Бясконцы. *У нас тут нісхадзімы лес, і грыбоў, і ягад поўно.*

НІЧАГУ'СЕНЬКІ *займ.* Узмацн. Форма да нічога. *Нічагу́сенькі не робіць, нізавошто ні бярэцца.*

НО'ЧВЫ *мн.* Начоўкі. *Вазьмі но́чвы, да замачы пасьцель, трэба памыць, а то ў сыботу папрыяжджаюць усе, то ні будзе, што заслаць.*

НЯБО'ГА *ж.* Пляменніца. *Нябо́га мая мне малако носіць, сваёй каровы ўжэ німа.*

НЯБО'Ж *м:* Пляменнік. *Добрэ, што нябо́ж патскочыў, да памог сено згрэбці.*

О'БАЛАК *м.* Воблака. *О́балак набег і дож пашоў.*

О'БШЧЫМ *прысл.* Увогуле. *О́бшчым, прыходзь заўтрэ рано, да й пойдом разом у лес.*

ПАБОʼЛЬШАЦЬ *зак.* Падрасці. *Унучачка ў мяне за лета пабóльшала, направілаcа, саўсім хароша стала.*

ПАДВОʼЙНІКІ *мн.* Падвойныя вокны. *Падвóйнікі трэба ўжэ ўставіць, а то ў хаце холадно ці палі, ці не.*

ПАДРАБЛЯʼЦЬ *незак.* Чараваць *Ёй падрóбляно было, то ўсю жызь мучылаcа, а ні жыла.*

ПАДУЗОʼРНІК *м.* Вузкая паласа белай тканіны, упрыгожаная карункамі, якая прывязвалася да металічных ложкаў. *Караваць жалезна вельмо высока, таму мы прывязваём падузóрнік, каб пад караваццю нічого ні відаць было.*

ПАКРЫʼШКА *ж.* Накідка на падушку. *У яе ўсе пакрыúшкі ўшываные, хорошые, аж гараць, такіе яркіе.*

ПАЛАʼЦЬ незак. Ачышчаць зерне і інш. Ад смецця на ветры. *Ягады ўжэ высахлі, трэба сабраць с печы да папалáць. Якраз ветрык добры.*

ПАЛЯНДРЫʼЦА *ж.* Паляндвіца. *Госці прыедуць, то паляндрыúцу дастану, каб было чым частаваць.*

ПАМАСНІʼЦА *ж.* Масніца, дошка падлогі. *Памасніúцу трэба ўздзіраць, кацяня залезло, шчэ здохне там.*

ПАМІНЮʼТНЕ *прысл.* Часта. *Памінютне хлопец на двор бегае, мусіць, застудзіўса дзе-то.*

ПАРЦЯНЫʼ *прым.* Самароблены, вытканы з лёну. *Парцяныúе штаны тады і на работу, і на вяселле надзявалі.*

ПАСТАʼВІЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Пастáвіў сабе нову хату, бо тая ўжэ скорэ ўваліцца.*

ПАСЬЦЕʼЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая сцеле маладым пасцель. *За пасьцéльніцу бяруць жанчыну, якая добрэ жыве з мужыком, не разведзеную.*

ПАТАЎШЧАʼЦЬ *зак.* Паправіцца, патаўсцець. *Галя цяпер хароша, патаўшчáла, а то была вельмо худая, вецер валяў.*

ПАХВАРБОʼВАНЫ *прым.* Пафарбаваны. *Пахварбóванае яйцо дала хросніца на Вялікдзень.*

ПЕЛЯНАʼ *ж.* Падол. *У пелянý насыпала яблык, ледзь прынесла.*

ПЕРАХЛЯʼБІСТЫ *прым.* Худы, з упалымі бакамі. *Карова твая нейка вельмо перахлябіста з зімы вышла.*

ПОʼВІДНУ *прысл.* Як стане відно. *Пóвідну прыдзеш, я цяпер не пайду табе шукаць, цёмно, хоць воко выкалі.*

ПОʼЛКА *ж.* Пялёнка. *Да чаго ж ніакуратна мая нявестка, пóлкі ўсе гразные, німа ў што дзіця перакруціць.*

ПОʼПРАДКІ *мн.* Вячоркі. *К нам усе на пóпрадкі збіраліса, хата была вяліка.*

ПО'ЎНО *прысл.*. Шмат. *Вельмо пóўно Ганна брусніц набрала, да красные, аж гараць.*

ПУЖА'ЙЛО *н.* Пугала. *Пужáйло на градах паставілі , але куры ўжэ папрывыкалі, не баяцца.*

ПУ'РЭЙ *м.* Пырай. *У новым месце кардоплі пасеялі, то пýр'ём пазарасталі, німожно вукараніць.*

ПРАПО'ЛЮС *м.* Пропаліс. *Настояны на гарэлцэ прапóлюс вельмо добрэ на націранне.*

ПРЫСТО'ПНІК *м.* Халоднае памяшканне для захоўвання зерня, мукі і інш. *Стопка наша старая, а прыстóпнік шчэ новы, зяць зрабіў, бо вечно ні было куды ні муку, ні жыто павысыпаць.*

ПУТЧАРО'ЎЕ *н.* Сала з жывата. *Путчарóўе цвёрдае, цягнецца, як пасоліш, то мы цяпер рулеты робім з яго, запякаём у печы.*

ПЯРЭ'ДАЙКА *ж.* Карова-ялаўка. *Мая карова сяголята пярэ́дайка. Малако жырнае, але мало дае.*

РАЗ'Я'ТРЫЦЦА *зак.* Моцна пачырванець. *Рана вельмо раз'ятрылаcа, трэба хлопца ў бальніцу везці.*

САЛО'МЯНІК *м.* Матрац, набіты саломай. *Раней жэ ні было купленых каравацяў, салóмянікі пакладуць на палаці, да й спяць.*

САЛО'НЫ *прым.* Салёны. *Салóные ў етым годзе ў нас гуркі, крэпкіе, але салóные.*

СКАПЕ'Ц *м.* Куча агародніны, прыкрытая саломай і засыпаная зверху зямлёй. *Буракоў нарасло, то палавіну ў скапéц закапалі, летом буду свіней карміць.*

СКА'ЦЯРКА *ж.* Абрус. *Цяпер скáцяркі ўсе куплёные, тканых мало сцелюць.*

СМЯРЦЁНАЕ *н.* Адзенне, прыгатаванае для пахавання. *Я смярцёнае шчэ дзесець гадоў мо назад падгатовіла, каб дзеці тады ні бегалі, ні шукалі.*

СПАМУ'ЛІЦА *зак.* Памыліцца. *Ой, спамýліласа я, ето ж ні ўчорэ, а заўчорэ было.*

СТО'ПКА *ж.* Будынак для захоўвання бульбы і інш. гародніны. *Кардоплёў сяголята цэлу стóпку насыпалі, даўно столькі ні накоппалі.*

СТУДЗЯНЕ'Ц *м.* Калодзец, выкапаны на месцы, дзе б'е ключ. *Тут раней студзянéц быў, ох і добра ж вада была ў ім.*

СХО'ДНІЕ ДНІ *мн.* Апошняя квадра месяца. *Цяпер само схóдніе дні, німожно садзіць нічого.*

СЦЯКЛО' *н.* Шкло. *Дзеці набілі сцяклá на дарозе, німожно прайці.*

СЦЯЧЫ' *зак.* Зрабіцца кволым, слабым. *Буракі саўсім сцяклі ў траве, яны ўжэ ні паправяцца, хоць і аполеш цяпер.*

СЫРАВЫ' *прым*. Свежы, не заквашаны. *Сыравы́ гурок з'ела і нешто нідобрэ стала.*

СЯЛЕ'НЕЦ *м*. Селядзец. *Цяпер і сялёнца ні дакупіцца, дарагі етакі.*

ТАПО'РНІК *м*. Тонкія дровы.*Дроў сёлята мне прывезлі абы-якіх, адзін тапо́рнік.*

ТО'ЎСТАЯ *прым*. Цяжарная.*Валя то́ўстая, ёй німожно ў жару палоць.*

УВЕРАДЗІ'ЦЦА *зак*. Стаміцца. *Уверадзілаcа за дзень, ледзь с поля прыцяглаcа.*

УДАЎЛЕ'ННЕ *н*. Ціск. *У мяне ж вельмо высокае ўдаўле́нне было, а цяпер трохі падлячылася.*

УПЯРО'ЧКА *ж*. Папярэчны загон. *Упяро́чку засадзілі гарбузамі, бо там больш нічого ні расце.*

ХАПУ'-ЛАПУ'. Вельмі хутка. *Прыбег у хату, хапу́-лапу́, ні ўспеў толком сабрацца, а ўжэ ехаць трэба.*

ХАРАШЫ'ЦЬ *незак*. Церабіць. *Сёні цэлы дзень харашы́ла капусту.*

ХЛЁЎ *м*. Будынак для ўтрымання буйной рагатай жывёлы. *Хлёў саўсім згніў, крыша раскрылася, німа каму паправіць.*

ХЛО'ПЧАНКА *ж*. Прыстасаванне, якім б'юць мух. *Вазьмі хло́панку да трохі мух перабі, а то вочы выядаюць.*

ХЛЯВУШО'К *м*. Невялікі хлеў для свіней. *Хлявушо́к трохі перакрылі, бо парасят сабраліса купляць, а ў ім саўсім крыша цякла.*

ХО'ЎЧА *м. І ж*. Чалавек, які многа есць і п'е. *От хо́ўча ета, павыкорпае, дзе б ні схаваў, нідзе пляшкі затуліць німожно.*

ХРО'СНІЦА *ж*. Хросная маці. *Я сваю хро́сніцу і цяпер атвядаю, а як малая была, то на кожны Вялікдзень абязацяльно бегала.*

ХРЫШЧЭ'НІЦА *ж*. Хрышчоная дачка. *Хрышчэ́ніца ў мяне адна толькі, а хрышчэнікоў аж тры.*

ЦЯЦЕ'РЫ мн. Ласі (грыбы). *Сёлята цяце́р -- усланы лес. Яны смашные, як абварыць, а тады спячы на сале.*

ЧО'КНУЦЦА *зак*. Звар'яцець. *Чо́кнуцца можно за цэлы дзень ат етаго шуму.*

Я'ЛАЎКА *ж*. Не беганая (не пакрытая) карова. *Карова я́лаўкаю асталаса, мяняць прыдзецца.*

Я'БЛЫКО *н*. Яблык. *На табе я́блыко, вельмо вялікіе параслі, да красные.*

*М.С. Ліпко*

# БАБРАЎЦЫ: АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРКІ

Вёска Бабраўцы' (мясц. *Бубрувці'*) знаходзіцца за 7 км на поўнач ад г. Брэста на беразе р. Лясной.

БАХО'Р *м.* Стог ільну; маленькае дзіця.

БАХУРІ' *мн.* Зневажальнае ў адносінах да дзяцей.

БО'ВДУР *м.* Дурны, дурненькі.

БУ'НЬКА *ж.* Мурло, хара.

БУХСІ'К-БУХСІ'К *выкл.* Пра кашаль.

БЭ'РЭК *м.* Квач (дзіцячая гульня).

ВА'ДЫТЫ *незак.* У гульні з'яўляцца галоўнай дзеючай асобай.

ВЯ'КАТЫ *незак.* Гаварыць глупства, лухту. *Ны вякай!*

ГА'ЛІ-СО'ЛІ *выкл.* Гаварылі, калі дзіця садзілі на шыю.

ГАПАЛЫ': ПУСТЫ'ВСЯ В ГАПАЛЫ'. Пабег, сарваўшыся.

ГАПЛЫ'К *м.* Гаплік.

ГЖДЫЛЬ *м. экспр.* Шыя. *Зарэ як дам в гждыль.*

ҐРЫМПЫ'НА *ж.* Рэчыва, якое змяшчае пякучыя элементы, "пячэ" накшталт крапівы, колер цёмна-карычневы, амаль чорны, глінападобнае, у выглядзе гліны або торфу, сустракаецца ў рацэ Лясной.

ГУЛУ'ЗА *ж.* Нерашучы чаловек; сырое надвор'е.

ГУЛУ'ЗУВАТЫЙ *прым.* Гл. Гулу'за. *Якэ'сь гулу'зуватэ.*

ГУМЗІ'ТЫ *незак.* Мармытаць; надакучаць натацыямі.

ГУТУ'ХА *ж.* Бясчынствы моладзі за тыдзень да Калядаў.

ДЖЫ'ҐА *ж.* Костка ад кумпяка з рэшткамі мяса.

ДЖЫ'ҐНУТЫ *зак.* Моцна ударыць.

ДЗУ'МРА *ж.* Цэлы кумпяк.

ДРАБЫЛА'ЗЫВО *н.* Лесвіца.

ДРА'СКА *ж.* Стрэмка.

ДУБКА' ДАВА'ТЫ. Ныраць, даваць нырца.

ЖА'БКА *ж.* Падкоўка на наску ў абутку.

ЖАРО'ХА *ж.* Смажаніна. *На стулі' було' всё: і жаро'ха, і смажо'ха, і пражо'ха.*

ЖБАНО'К *м.* Збан.

ЖДУМІ'КАТЫСЬ *незак.* Задумвацца; быць нерашучым.

ЗАДЫРЫ'КУШКА *ж.* Завусеніца.

ЗАПЛЮХОВА'ТЫСЯ *зак.* Засмяццца, запарушыцца.

ЗАПУРО'ХА *ж. і м.* Абрыдлая ежа; нелюдзімы, пануры человек.

ЗВАЖА'Й *незак.* Глядзі сам, мей на ўвазе.

ЗВАЖА'ТЫ *незак.* Мець на ўвазе; гл. ЗВАЖА'Й.

ЗДУМІ'КАТЫСЬ *зак.* Задумацца; апынуцца ў неўразуменні, разгубленасці. Гл. Ждумі'катысь.

ЗІ'КРА *ж. экспр.* Лупатая жанчына, дзяўчына.

ІГЛЫ'ЦЯ *ж.* Прылада, якой плятуць рыбалоўныя сеткі.

КАРАПЭ'Т *м.* Мужчына сярэдняга росту.

КРО'ПНУТЫ *зак.* Моцна ударыць.

КРЫ'ПА *ж.* Лодка.

КУПНЭ'ЛЬ *м.* Выспятак.

КУПНЯ'К *м.* Выспятак.

КУТЫ'ЛЬ. Невялікае азярцо і суседняй вёсцы Скóкі.

КАЦО'ЛЫТЫ *незак.* Густа мазаць павідлам, маслам.

КАЦЕ'РЫТЫ *незак.* Спаражняцца.

ЛАХАБЭ'ЙДА *ж.* Балбатлівая, "сварлівая" жанчына.

МАМУ'ЛЬКА *ж.* Хросная маці.

НЕ'ЦЁ *м.* Пляменнік.

НЭ'ТРА *ж.* Мноства чаго-небудзь (мух, птушак і інш.).

О'-О. Выраз без зазначэння канкрэтнага, пра яго субяседнік павінен здагадацца. *Прышóв той ó-о. Забралы тое ó-о.*

О-О'! Выраз паказвае высокую годнасць, якасць каго-небудзь, чаго-небудзь. *О-ó хлопэць! О-ó хата!*

ПОЦІНЦІРУВА'ТЫ *незак.* Злёгку шчыпнуць за шчаку і трохі пакруціць, але не да крыві, трошкі "крутану'ты" (школьн.).

ПУ'ДХВАТКА *ж.* Падхватнік (Рыбалоўная прылада).

ПУСТА'К *м.* Адна з штучных "глыб", на якія ставіцца зруб будынка.

ПЫНДЗЁЛЫТЫ *незак.* Выраблядь фокусы.

ПЭ'КАР *м.* Дзіцячая гульня.

ПЭ'НДА *ж.* Маленькая тоўстая жанчына. Параўн. санскрыцк. *pinda* 'маленькія рысавыя шарыкі на памінкавай трызне', *sopinda* 'сатрапезник на памінкавай трызне'.

РУСПАНДІ'РЫТЫ *зак.* Разарваць, моцна разрэзаць. *Руспандірыв руку* (разрэзаў). *Рубашку руспандірыв.*

РУСЧАХНУ'ТЫ *зак.* Разадраць, раскалоць удоўж (два ствалы дрэва, якія растуць з аднаго кораня, дзве галіны каля іх асновы і інш.).

РУСЧАХНУ'ТЫСЬ *зак.* Гл. РУСЧАХНУ'ТЫ. *Ну, в тыбэ' і стрэ'лка* (у штанах пасля прасавання) – *му'ха з налёту налыты'ть і напулувы'ну рушчахнэ'цьця.*

РЫЧА́К *м. экспр*. Рыканне. У выразе: Му! Дай рычаку' (Карова! Зарыка́й!).

СКІ́ПЫТЭНЬ *м.* Вялікая гарачыня, спёка. *Ну, шо двэ'ры пуруззіля'плював* (пооткрывал), *шо тубі' скі'пытэнь!*

СМАЛЬЦУ́ВКА *ж*. Гатунак селядца.

СМЫ́ГА *ж.* Прапелер у цацкы.

ТАТУ́ЛЬКО *м*. Хросны бацька.

ТІ́ЛІ-ТІ́ЛІ НАВОДІ́ЛІ. Дзіцячая дражнілка; ужываецца ў адносінах да таго хто прайграе ў гульні.

ТУ́ЗАЛНО *н.* Більярдны "конь". *Ту'зално -- білія'рдный кунь.*

ТЭ́РУН *м.* Цёрн.

ТУ́МАНОМ ХУДЫ́ТЫ. Хадзіць без мэты, без сэнсу.

УФЭ́РМА *ж.* і *м*. Прайдзісвет; бадзяга, валацуга. Слова менш крыўднае, чым *бусяʼк*.

ХЛЮ́БА *ж.* Дубец, пруцік.

ХМЫЛЫ́ННЕ *н*. Падсохлы бульбяны цяўнік, бульбянік.

ХО́ВАНКИ *мн.* Хованкі.

ХУРДУ'(ТУБІ') В БО́КИ. Адмоўны адказ на якую-небудзь просьбу.

ХУЯ́РКА *ж.* Пастухова жалейка.

ЦІНЦІРУВА'ТЫ *незак*. гл. Поцінціруваʼты

ЦІНЦІРУ́ВКА *ж.* гл. ЦІНЦІРУВА'ТЫ.

ШКУ́ЛКА *ж.* Гадавальнік.

ШЛЯ́ГА *ж.* Драўляная булава.

ШПЫ́ЧКА *ж*. Завостраная палачка.

Я́ВОР, Я́ВОРОВЫ ЛЮ́ДЫ. Слова і выраз ужываюцца ў песнях.

* * *

Сма́чный бо́ршчык – малы́й го́ршчык.
Помыня́в свышчя́ на дрышчя́.
Хуті́в, алэ хуті́ль ны дав.
--Дай вуды́!
-- Тры пря́ды уд буруды́!
Кура́чу сіську ты зна́йіш!
Як дам – аж э́хо (жэ́хо) пу́йдэ!
Розу́мный, алэ дурны́м пудшы́тый.
Коб тубі́ заці́пыло!
Коб тыбэ́ я́духа взяла́!
Іды ты пуд хале́ру!
Коб тыбэ́ хо́мра взяла!
Коб тыбэ́ сра́чка взяла́!

Дурныйй, як пулітра.

Уддáй муйї цяцькы́-лялькы́ – я с тубóю ны грáюсь.

Знáю, дэ жывэ́ тáя ныкудá (ныкудыйшный).

Посля убíда трэба поспáты, коб сáло завя́зáлось.

Показáв бы, як мазурї под гýрку йїдуть (праводзіць, націскаючы вялікім пальцам па астрыжанай галаве).

Буг ны тыля́ – бáчыть крутыля́.

Сатанá с-пуд тэ́мных ґвязд.

Пóвный як óко.

На світы трóе такы́х розýмных: ты, Марты́н шэ й в Амэ́рыцы уды́н.

Бы (бі) і дýху (чы жывы́й) слýхай.

--Купы́в?

--Не, вхупы́в!

Ды́выцьця, як сырыдá на пя́тныцю.

--Бýдыш курыты – бýдыш такы́й, як Сёмка.

Пугнáв субáк ду вуды́, а тубі казав з віхтём йты.

Як кувбасá на шы́йї в субáкы, ныц на тубі ны вдэ́ржыцьця. (Казалі, калі дзіця хутка зношвае адзенне).

У éжыкув свяннячый лыч і собáччый.

Рузля́гся (рузуспáвся), як кулудэ́нськый мулуды́й: Падзея адбылася і вёсцы Калоднае. У час вяселля жаніх, едучы ад нявесты да сябе домоў, перамерз. Прыехаў да сябе і вырашыў трохі пагрэцца на печы. Залез на печ і заснуў.

Пушóв субáкам сíно кусы́ты.

--Кум, кумá

Пужы́ч пулутнá!

--Як я вы́тчу –

Тубі пужы́чу.

--Тáту!

Залізь на хáту,

Задыры стріху,

Ны рубы́ сміху!

На гурóды сýша-грýша.

Кýпыть тáто капылю́ша.

Капылю́ша налужý,

І ду хлóпцюв пубыжý.

<u>Абрад</u>: Кастрычнік—лістапад. Хадзілі дзеці з парожнім усярэдзіне гарбузом. Унутры свечка. Прарэз для рота і вачэй. Праз *дырку* ставілі свечку. Хадзілі па хатах і пужалі. Спачатку стукалі пад вакном, а потым паказвалі гэта. Гэта праваслаўныя рабілі. Супадае з кельцкім святам *хэлоуін.*

*І.І. Лучыц-Федарэц*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСАК СЫЧЫ І АКРОПНА ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

## Вёска Сычы

Асновай падборкі лексікі в. Сычы з'яўляюцца матэрыялы,запісаныя ў 80-х гадах паводле праграмы-апытальніка "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" ад ураджэнцаў вёскі Сычы (мясц. *Сычі́*; цяпер яна афіцыйна ўключана ў вёску Аляксеевічы): Дубіцкай Ганны Тарасаўны (1919 г. нарадж.), Камісарчук Марыі Тарасаўны (1929 г. нарадж.) і Лучыц-Федарэц Алены Тарасаўны (1909 г. нарадж.).

Характэрным у фанетыцы гаворкі гэтай вёскі з'яўляецца вымаўленне [*а*] пасля цвёрдых зычных замест [э] (*ца́рква*) і гук [ⁱэ'] пасля мяккіх, які графічна далей падаецца як [ⁱ*е́*], напрыклад, *жⁱе́ба* 'жаба'. У некаторых выпадках вымаўляецца гук [*и*] – сярэдні паміж [*і*] і [*ы*]. Націскное [э'] – вузкае, пасля [*к*] яно набліжаецца да [*е*].

БАРАʹНИЦА *ж.* Аўчына. *Га́то вэ́робляна ова́чча шку́ра.*

БАЮʹРА *ж.* Яма, выбаіна на дарозе.

БЗЫКУВАʹТЭ *незак.* Гізаваць. *ⁱЕк корові́ бзыку́ють, то хвоста́ ⁱек пудне́мэ, -- да й погна́лася ў ліс.*

БОРОВОʹЕ ЖЭʹТО. Буйное чорнае зерне ў коласе, спарыш.

БОЎТІʹР *м.* Пухір, вадыр. *Боўті́р жыва́ на ті́ловэ, ⁱе́к опыча́ш гарⁱе́чию голі́йію, а пухір – ⁱек шо ўбеш: шпа́гіну чы трі́ску, да нарыва́е.*

БРУД *м.* Сукравіца ў нябожчыка. *У мырцⁱе́ з ро́та вэ́тик бруд.*

БРЫНІʹТЭ *незак.* Бруіць. *Вода́ брынэ́ть, ўжа скрізь потикло́.*

БРЭʹЖЫТИСЬ *незак.* Стан вады перад кіпеннем. *Вода брэ́жыца до кипі́ньня, а по́слі вона кипэ́ть.*

БУʹЛЬКА *ж.* Бурбалка. *Бульке́ збига́ють на лу́жах.*

БУʹХТА, БУХТОʹВИНА *ж.* Дрыгва, топкае балота, непраходнае месца.

ВАНГІʹР *м.* Той, хто (раней) пакладаў жывёлу.

ВІʹДЬМА *ж.* Начны матыль. *ⁱЕк па́лять купа́ло, то на мі́ль, шо прылі́тае на огу́нь, ка́жуть ві́дьма.*

ВОЛОЧⁱЕʹШЧІ *дзеепрым.* Валацуга. *Наш Ві́тя волочⁱе́шчі: ўсё волу́чыца по сві́тэ.*

ВИДРАНО' *прысл.* Добрае надвор'е, калі чуецца рэха. *Вэ́йшла на двір, а там так здорово́* ('ядрана') *і видрано́ – пого́да бу́дэ.*

ВИНДЗО'ЛЫТЭ *незак.* Вэндзіць. *Колэ́сь рэ́бу виндзо́лылэ на прэ́пычку.*

ВИНО'К *м.* Амяла. *Він помоцнэ́й, йім хворо́бэ лічать.*

ВЭ'ВІЯТЭ *зак.* Высахнуць. *Сало ў холоді́льніковэ тра́га кластэ ў сло́йік, бо воно вэ́віе.*

ВЭ'ДЮЖЫТЭ *зак.* Прамачыць да ніткі. *Дошч вэ́дюжыў мына́ до соро́чке.*

ВЭ'ТЫРЫБИНЭ *мн.* Выцерабкі, расцяробы. *Га́то – вэ́дранэ по́лэ, ⁱек роскорчу́ють пиньке́. А ⁱек ішлэ́ з плугом по грудко́вэ, то каза́лэ – дра́нина* ('выдзеркі').

ГО'ЙДАШКА *ж.* Арэлі. *Ба́ло на Трі́йцу ба́тько з ма́тирію йі́халэ ў сыло́ до ді́да, а мо* ('мы') *хучі ў клу́ні робэ́лэ го́йдашку з гужэ́шча да й го́йдалися два дні.*

ГОЛОМО'ЎЗЛИ (аб карове) *прым.* Бязрогі.

ГО'НДЭ, ГО'НДИЧКЕ *прысл.* Вунь, тутака. *Ска́жуть го́ндичке, а мо́жуть сказа́тэ і онёдике чы онёдичке.*

ГОРІ'Х *м.* Незахопленая плугам палоска зямлі, агрэх. *Таке́й с тыба́ рата́й: горі́ха поке́нуў.*

ГРУДЭ'СТИ (аб дарозе) *прым.* Пакрыты грудамі замёрзлай гразі. *Доро́га грудэ́ста, і по́ке прыйі́хаў по гру́дэ, то ўсю ду́шу вэ́трасло.*

ГРЫЧІ'ВЫСКО *н.* Поле пасля грэчкі. *Грычі́выско остае́цца, ⁱек ско́сять грачку.*

ҐІЗУВА'ТЭ *незак.* Сваволіць, дурэць. *Ек шо дурно́е надэ́йдэ до головэ́, то й вилікі розґізу́йіца, ны оно́ дытэ́на.*

ГЭ'НДАТЭ *незак.* Скакаць, гоцаць.

ДУПІНА'ТИ *прым.* Дуплявы (аб бручцы).

ДЮ'ГЭ *мн.*, ДЮ'ГА *ж.* Дзягі, пуцікі. *Дю́гэ быжⁱе́ть по гокні.*

ЗАЛО'ГА *ж.* Каўнер. *З ягнⁱе́чийі бара́ницэ робэ́лэ зало́гу ў кожу́ховэ.*

ЗАПЫН'ⁱЕ'ТЭ *незак.* Варочаць скаціну назад, на месца пашы, каб яна не магла зрабіць шкоды (у пасевах). *Надойі́ло ці́ли дань запынⁱе́тэ га́ту коро́ву.*

ЗАПЫТУ'ЛЯТЭ (ху́стку) *незак.* Схаваць бараду ў хустку, нацягнуўшы яе на твар.

ЗАРЭ'КОТЫТЭ *зак., экспр.* Зацягнуць, завалачы. *Ба́ло, по́ўну сту́гу з па́скію ладь зарэ́котыш ў ця́ркву.*

ЗАСЭ'НЮЙЦА *безасаб.* Хмарыцца. *Шось засэ́нюйіца, мо́жэ й дошч бу́дэ.*

ЗБІ'Ж *ж.* Збожжавыя культуры.

ЗДРІК *м.* Здрок, вялікі авадзень. *Здроке́ (або і строке́) сыд'е́ть на віюх у ко́ний, і ко́нэ лякаюца йіх.*

ЗИ'РНИ *прым.* Зорны. *На́бо зи́рнэ, му́сыть, бу́дэ пого́да.*

ЗНОЙИ'ТЭ: ДОШЧ ЗНОЙИ'ТЬ. Моцны дождж. *Га́так ка́жуть, колэ́йда міцни, сэ́лни дошч.*

КАЛНЭ'Й *прым.* Гразкі. *Доро́га така́я кална́я, віз угр'е́з і стоїіть.*

КАНЬДЮХОВА'ТИ *прым.* Жывёла з вялікім чэравам. *Ка́ньдюх у коро́вэ – га́то юц* ('страўнік').

КАЧ'ЕЊЬНЕ *н. зборн.* Рэшткі капусных сцяблоў пасля зрэзвання капусты. *Кач'е́н – сыра́дына, на якэ́й роста́ голо́ўка.*

КАЧ'Е'ТЭ *незак.* Каціць, катаць. *У нас кач'е́ють кач'е́лом ода́жу, 'ек вэ́мыта, а бо́чку с капу́стыю ко́тять або подко́чують.*

КОЛО'ТЭ *незак.* Калоць, рэзаць (свінню). *У нас ка́жуть, шо свыньню́ тра́ба заколо́тэ, коро́ву, тыл'е́, ова́чку, крул'е́ (чы трус'е́) – зарізатэ, а ку́рыцу, ка́чку, гусака́ – заруба́тэ.*

КОЎЗІ'ЛЬКА *ж.* Коўзанка. *На коўзільцэ за́ўшэ жыва́ слэ́сько, шо мо́жна і ўпа́стэ.*

КОЎТУН *м.* "Ведзьміна мятла" на дрэве, калі галінкі звіваюцца ў клубок. *Коўту́н жыва́ на вэ́шні.*

КРУ'ЧАНИ *прым.* Шалёны (аб сабаку).

КУВА'ТЭ (камі́нне) *незак.* Насякаць жорны. *У нас ка́жон сам собі куе́ ка́мын'е, ныко́го ны найма́лэ.*

КУТ'Е' *ж.* 1. Буйныя ячменныя крупы. *Просо обробл'е́ють, а кутю́ – обдыра́ють.* 2. Мноства камароў. *Кумарі тоўчу́ть кутю́.*

КЫЛИВА'ТЫСЯ *незак.* Хістацца. *Нюра ны хо́дыть, а кылива́йіца, бы ка́чка.*

КЫШКЕ' *мн.* Мякаць гарбуза, дзе знаходзіцца насенне.

МАКУ'Ш *м.* Жамерыны з тоўчанага ільнянога семя. *Макуші булэ́ кру́глэ. А 'ек натоўчуть у сту́пэ сімня* (льнянога семя́) *да ў то́ўчу намыш'е́ють то гато – маку́ха.*

МАЧУ'ДЛО *н.* Няздатны ні на што. *Воно быто́ чу́чыло, ала́ чу́чыло – ныдвіжсы́мэ, да й з мачу́дла ... у́жэ така́я ходн'е́ з його.*

МОРОС'Е'ЧКА *ж.* Морась, імжа.

МОТЫКУВА'ТЭ *незак.* Вымяркоўваць, выбіраць. *Мотыкува́ла-мотыкува́ла, коб кро́хэ да ліпш було́, ала́ нэц ны вэ́гадала.*

МОШКАРН'Е' *ж.* зборн. Машкара. *Мошкарн'е́ пырыд дошча́м, на тыпло́ ла́тае ста́ямэ.*

МУ'ДЭ *мн.* Мужчынскія геніталіі. *На Мыко́лыного ба́тька Доўгому́дого ў нас са́дять гурке́, коб булэ́ до́ўгэ.*

МУЛЯНЭЙ *прым.* Топкі, гразкі. *У гáтый сáжолцэ дно нáдто мулянóе і гр$^{i}$éзке.*

НАСТРОКОʹШЫТЫСЬ *зак.* Натапырыцца (аб кані). *$^{i}$Ек кінь прадá вýхамэ, то кáжуть, шо він настрокóшывся.*

НАʹТРА *ж.* Маленькія мушкі. *Нáтра – гáто такáя зáйідь на коровэ́. А шá кáжуть на дытáй: гáтэ дітэ – насто$^{i}$éшча нáтра: лізуть абэкудэ́.*

НЫГІʹДЛЫВИ *прым.* Месяц пасля маладзіка-сярпа. *Тóўсты місяц на ныгóду -- ныгідлыви.*

НЭʹВА *ж.* Пасеянае поле. *Усё посіянэ називáють нэ́вию.*

ОБОʹЙНА МУКАʹ. Шатраваная мука. *Обóйну мукý робэ́лэ з озáдьдя* ('пазадкі') *ля свынáй на óсыпку.*

ОБОЛОʹК *м.* Хмарка. *Оболóк жывá ны выліки, а $^{i}$ек більшы, – то ўжа хмáра.*

ОБСАДЭʹТЭ *зак.* Знізіць, апусціць (аб дзвярах). *Двáрэ зачіпаюца об шаліўку звáрху, -- трáга йіх обсадэ́тэ.*

ОБСІʹЎ *м.* Голая лапіна на засеяным полі. *Обсіў жывá, $^{i}$ек ны досійіш, а полоні -- $^{i}$ек вэ́мокло.*

ОДВІʹДУВАТЭ *незак.* Наведваць. *Одвідуйіш, $^{i}$ек зч$^{i}$éста хóдыш до когó, а $^{i}$ек онó раз, -- то провідайіш.*

ОЖМИНЭʹТЭ *зак.* Натрудзіць руку ў час жніва.

ОКОʹЛА *прысл.* Вакол. *Нáша Гáнна гэ́нчы раз прочнáцца і хóчэ на двір, то ўстáнэ і хóдыть окóла грýпкэ, мáцае йійі і ны$^{i}$éк двырáй ны найдэ.*

ОПРАʹВЫТЭ *зак.* Упарадкаваць. *Подывэ́сь, $^{i}$ек у Мáні градкé хорошá опрáўлянэ – обрóблянэ, ша й загрáблянэ.*

ОСУʹРБОВАТИ *прым.* З упалымі грудзьмі. *У тыбá грýдэ высóке, а ґéнік ваш – осýрбо$^{у}$вати.*

ОСЫРОʹДОК *м.* Асяродак морквы.

ОСЬЦЯКЕʹ *мн.* Асцюкі.

ОХВАТЭʹТИСЬ *зак.* Абапіцца вадою (аб кані). *Кінь буў утóмляни, напэ́ўсь водэ́ да й охватэ́ўся.*

ОХВІʹРА *ж.* Ахвяраванне ў царкве.

ПАКІʹЎНИ *прым.* Тоўсты і абёмісты. *Кáчка пакíўна, мнэ́го завáжить.*

ПАЛЭʹТИСЬ *незак.* Перыяд цечкі ў кабылы. *Корóва бігае, кобэ́ла – палэ́цца, свыньн$^{i}$é гýкае, а овáчка моркéчэ.*

ПАМПУʹХА *ж.* Звязка тытунёвых лістоў.

ПАʹХОТЬ *ж.* Ралля. *Гáто ўсё, шо згóранэ.*

ПЛЮʹТА *ж.* Снег з вéтрам.

ПОДСКИПЭ'ТИСЬ *зак.* Падкалоцца (аб пальцах на нагах). *Мнэ́го ходэ́ў бо́си, да по$^{у}$дшикипэ́ўся (по$^{у}$дскипэ́ўся): па́льцэ на ногáх стáлэ бы по$^{у}$дрiзанэ.*

ПОЛІ'ТОК *м.* Папар. *Я, му́сить, поке́ну на гáтой рiк тóе пóлэ ў полiтку.*

ПОЛОТЬТЕ' *н.* Поліва, праполка. *Полотьте́ ўжа надойiло: цiлынькэ лiто рачку́ю на дя́лцэ з буракáмэ.*

ПОЛУ'ДИНЬ *м.* Час каля 14 гадзін дня.

ПОРАШЧ'$^{І}$Е'ТИСЬ *зак.* Прарасці (аб насенні). *Насiньне порашч$^{і}$е́лося, попускало раске́ (або пáсынке). Гурке́ i гарбузэ́ рашч$^{і}$е́ть, коб ху́тчi вонэ́ вэ́рослэ.*

ПОРХОТО'ЧЫНА *ж.* Кратавiнне. *$^{і}$Ек поу́х натóчыть громáду зымнi, то гáто порхотóчына.*

ПОЎДН$^{І}$Е' *ж.* Поўдзень. *Ходэ́ полу́днатэ, бо ўжа поу́дн$^{і}$е́.*

ПРЭ'СЭ *мн.* Непакрытая шэрсцю частка пысы. *Прэ́сэ жыву́ть у котá, у корóвэ чы ў свыньнi, а ў кон$^{і}$е́ -- хрáпа.*

ПЫРИЛО'ГЭ *мн.* Хвароба скаціны. *Колэ́ скотэ́нэ шось зрóбыца i вона кач$^{і}$е́йiца, то кáжуть, пырилóгэ напáлэ.*

П'ЯВО'ЧНИЦА *ж.* Ракавінка слімака. *П'явóчницу ша й гэ́няк зову́ть – му́сыть, чу́чырыпок.*

РА'ЛЮХ *м.* Невялікі загон. *Усё згорáў, а рáлюх остáўся, -- манч $^{і}$ек загiн.*

РАМІ'ННИ *прым.* Скураны. *Колэ́сь мужыке́ ходэ́лэ ў рамiнных чобóтюх, а панэ́ – у хрóмовых.*

РА'НОК: НА РА'НКЕ *прысл.* Апоўдні. *$^{і}$Ек дань жывá дóўгi, то коровэ́ прыган$^{і}$е́ють на рáнке.*

РОСПОНА'ДЫТИСЬ *зак.* Павадзіцца ў шкоду. *Нáша корóва роспонáдылась по шкóдэ ходэ́тэ.*

РЭ'ЖЫЦ *м.* Жоўтая, пясчаная зямля. *Гáто рэ́жа зымн$^{і}$е́, пысок.*

СА'ЧОК *м.* Сак (рыбалоўная снасць). *Сáчок – бы граблi, кру́гли каблу́к, i на ёго натягáйiца се́тка.*

СЛОТА' *ж.* Назола. *Чогó тэ прычипэ́ўся до мынá бы слотá?*

СЛЫПА'К *м.* Сляпень. *Слыпаке́ вáймэ* (вельмі) *кусу́шчэ на дошч.*

СНИТА'Й *м.* Галаўня, чорныя зярняты ў каласах пшаніцы, проса.

СПРУЖЫНИ'ЎКА *ж.* Барана для культывацыі. *На спружыни́ўку ша казáлэ драпáч.*

СПЫНЭ'ТЭ *зак.* Спыніць. *$^{і}$Ек хто говóрыть, а тэ ны хóчыш слу́хатэ, то спын$^{і}$е́йiш ёгó, коб ны блявýзкаў лэ́чнёго. А $^{і}$ек iдáш, да судóсиш когó i хочыш опытáтись, то останóвыш ёгó.*

СТАРЭ'ЙІ ДНІ. Час, калі старога месяца ўжо няма і хутка будзе маладзік.

СТРАПОХУ'ДЛЫВИ *прым.* Пужлівы, палахлівы.

СТРЫЖІ'НЬ *м.* Смалістае дрэва. *Стрыжінь різалэ на лучэ́ну. Стрыжінь – смоляна́я, хоро́ша дырвэ́на.*

СТУ'ГА *ж.* Кораб, сплецены з саломы і лазы. *У сту́зэ носэ́лэ па́ску святэ́тэ.*

СТЫЧЭ' *зак.* Зніцець, вырасці кволым (аб гурках, бураках). *Гурке́ прытьмо́м стыклэ́.*

СЬЦЕ'НКА *ж.* Дарога. *Га́то доро́га ў лісэ, сырыд по́плаву, пазагума́нню. Ходімо та́ю сьце́нкію.*

ТАЛІ'Й *м.* Хвароба авечак. *Талій на ова́ц напа́ў.*

ТІ'КА *ж.*, ТІ'КАТЭ *незак.* Аб цечцы сабак і ваўкоў. *'Ек воўке́ тікають, то ка́жуть: тіка хо́дыть.*

ТІЛЬБУХОВА'ТИ, ТЭЛЬБУХОВА'ТИ *прым.* Чараваты. *Майко́ва коро́ва така́я ўжа тільбухова́та, шо 'ек вона́ того́ та́льбуха й но́сить.*

ТРОПЭ'НА *ж.* Дарога. *Га́то ны оно́ ста́жка пройтэ́, ала́ мо́жна й пройіхатэ.*

ТРЫМПА'ЙЛО *н.* Доўгае палена, якое вешаюць скаціне на шыю, каб не ўцякала.

ТРЭ'ПЭ *мн.* Тапкі без пятаў.

ТЭ'ЦНУТЭ НОГО'Ю. Даць выспятка.

ХАЛАЙДÔВА'ТЭ *незак.* Халасцякаваць, валацужнічаць з палюбоўніцамі.

ХИТА'ТИСЯ *незак.* Хістацца (аб зубе). *У мына́ ку́тні зуб ўжа даўно́ хита́йіца.*

ХОРОШЭ'ЛО *н.* Плацэнта ў жывёл. *Коро́ва ша ны схорошэ́лась, хорошэ́ло ша ны вэ́йшло.*

ЦЫБА'Х *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *А моя́ ны вэ́дымыла цыбу́лю, то ў горо́дэ – однэ́ цыбахе́.*

ЦЫЛУ'Х *м.* Дарога, занесеная снегам, цалік. *Цылухо́м кінь ладь пройшоў.*

ЧИШОЎ'Е' *ж.* Перхаць. *Чишоў'е́ жыва́ ў голові чоловіка і ў скотэ́нэ.*

ЧЫПЭ'ТЭ *незак.* Чапаць. *Сказа́ла я тобі: ны чыпэ́ мына́ і ны дотыка́йся!..*

ШАРСЬЦЬ *ж.* Шэрсць (ката, сабакі, каня, каровы). *У соба́ке шарсьць стойіть ду́ба. Бало, с кон'е́чыйі ша́рсьці мн'е́ча (мяч) робэ́лэ.*

ШВІ'РНИ *прым.* Хуткі. *Він усё ро́быть ху́тко, тому́ й швірни, а повільни чоловік ро́быть усё пома́линьку.*

ШКО'ДА *ж.* Шкода – у адносінах да пасеваў, якія вытаптала ці з́ела скаціна, да рэчаў, якія разбіліся, згубіліся. *Пильнуйи скотэ́ну, запын'е́й ййі, коб ны ўлізла ў шко́ду. Прызнаю́ся тобі, Ма́нічко, шо я мнэ́го шко́дэ тут наробэ́ў, по́ке тыба́ тут ны було́.*

ШКРАГНІ'ТЭ *незак.* Сквярціся, курчэць (пра жаб). *Ж'е́ба зылёна сыдэ́ть на вульшэ́нэ і шкрагнэ́ть, а 'ек на тыпло́, то ква́кае, на дошч – ку́мкае.*

ШЛІХТОВА'ТЭ *незак.* Чысціць кішкі. *Кишке́ чэ́стылэ ножа́м або́ лозэ́ныю – пырыгна́ш ййі ўдво́е і шліхту́йиш.*

ШНУРО'К *м.* Шнур (зямлі). *У шуро́к (пй'еть чы да́сить со́ток) сіялэ оўёс, ячмінь, про́со.*

ШПАТ́ИНА *ж.* Стрэмка. *Шпа́тина под пазюрэ́м, 'ек нарыва́е, то на́дто ж болэ́ть.*

ШТЭ'РХАТИСЬ *незак.* Штурхацца, таўхацца. *Ны штэ́рхайтыся кі'е́мэ, бо ша го́чэ повыбира́йіта. Він собі підэ ў походя́ньке, а я цілымэ дн'е́мэ штэ́рхаюся ў хатэ і каля ха́тэ.*

ШЧЭ'ПАЎКА *ж.* Агульная назва малых і сярэдніх памераў жукоў. *На шчэ́паўку ша ска́жуть куза́ка або й куза́ўка.*

ШЫЛИХТІ'ТЭ *незак.*, ШЫЛЁХАТЭ *незак.* Шалясцець. *Мэ́шэ шылихт'е́ть за гру́бкію.*

ШЫЛУХА' *ж.* Шалупінне. *У кон'е́ лыш'е́й шылушэ́цца, і па́дае шылуха́.*

ЯРМО' *н.* Прыстасаванне з цвікамі, якое чаплялася на вымя каровы. *Ро́блять ярмо́, коб тыл'е, 'ек побільшае, ужа́ ны сца́ло коро́ву.*

ЯРУ'ГА *ж.* Ямка, невялікае паглыбленне (на дарозе, сенажаці).

**Вёска Акропна**

Гаворка в. Акропна (па-мясцоваму: *Окрі́пнэ*), размешчанай на адлегласці 5 км ад в. Сычы, фанетычна адрозніваецца ад гаворкі апошняй адсутнасцю вымаўлення /а/ замест /э/ ў такіх словах, як *овачка, царква, мад* і інш. замест *овэчка, цэрква, мэд*. Дыфтонг 'э /у графіцы 'е́/ у гаворцы в. Акропна прысутнічае (напр., *тыл'е́, порос'е́, ш'е́пка* = 'цялё, парасё, шапка').

Словы былі запісаны ад Лідзіі Дзяменцьеўны Васілеўскай (1931 г. нарадж.), Людмілы Мікалаеўны Шаламіцкай (1951 г. нарадж.) і Саўчук Софіі Мікалаеўны (1942 г. нарадж.):

БЖУ'КАЛО *н.* Драўляны гузік. *Шэ й я помытаю, ек у войну гу́зіку ны було́ за шо купэ́тэ, то прышыва́лэ бжу́кала.*

БИКЕ'ША *ж.* Куртка. *Дытэ́на зусім змэрзла ў стійцэ стоя́чэ, і ма́тэ зложэ́ла на ййі бике́шу на ватэ пошэ́ту.*

БО'БЛЯХ, БУ'БЛЯХ *м.* Бутон. *Упыріджс, ʲек квітка мáйіца розцвистэ́, зробляца бýбляхе. Або ʲек картоплі одцвитýть, то вэ́ростуть на йіх звэрху такейі зылёнэ бóбляхе.*

БО'МБОЧКА *ж.* Шкляная цацка на ёлку. *ʲЕк мэ шэ булэ́ малэ́йі, то здавалося, шо нэц хорішчого за бóмбочку ныма.*

БРАШЧʲЕ'ТЭ *незак.* Бразгаць. *Матэ ныʲéк ны далá нам вэ́спатыся: ціли ранок брашчʲéла відрамэ і посудком.*

БЫТО' *злучн.* Нібыта. *Прыснэ́ўся мині сон: бытó я дэсь іду по стэ́сцэ киріз жэто.*

ВЫЛИКДУ'Р *м.* Малады, дарослы, высокі чалавек, які зробіць нейкае глупства. *Тэ выликдýр вылікі, а робыш, бы маленькі, – аж гэ́дко дывэ́тись і слýхатэ.*

ВЫЛИЧО'НЭ *н.* прым. Велікоднае яйка. *З выличоным бало дітэ ходэ́лэ на Паску до хрышчоных батька й матыра, а тэ́йі свойім хрышчоныкам давалэ свойі выличонэ.*

ВЭ'КАПАНИ *прым.* Вельмі падобны. *Ваш Коля – вэкапани батько, – ну ʲек так і ўдатыся!*

ГА'ЛСТІК *м.* Гальштук. *Пры Польшчэ гáлстіка носэ́лэ богáтчэ, гонорóвэ хлóпцэ.*

ГОЛОШЧО'К *м.* Зямля без снегу, пакрытая лёдам. *Насьця голошчóком пойіхала ў Дорогэ́чинь, то лэдь прыйіхала назад.*

ГЛА'ДКІ *прым.* Тлусты, тоўсты (хутчэй аб чалавеку). *Бач, ʲек баба* ('жанчына') *глáдка, то й хорóша.*

ДОРОЖНЭ'ЧА *ж.* Дарагоўля. *Прыйіхала тітка ў Мінск, походэ́ла по магáзінах, на базар зайшла да й жахнýлася: «Такая,– кажэ,– у вас тут дорожнэ́ча! ʲЕк вытэ́ тут і жывэ́тэ?»*

ДОЧʲЕ'НЬЩА *ж.* Пляменніца. *У минэ́ оно сынóўцэ* ('сыны брата і сястры'), *а дочʲéныцэ ныгóдныйі.*

ДРІ'ШЧЭ *мн.* Дрожджы. *Колэ́сь посля войнэ́ рызикáнтэ по дрішчэ йіздылэ аж у Мінск, трэба ж було лю́дюм тэ́йі смырдюхэ́ вэ́чавытэ, коб булó чэм брыгадіра загодэ́тэ.*

ʲЕ'ДРЫЧКО *н.* Насенне ў яблыку, грушцы. *У ʲйблыковэ і грушцэ ўсырэ́дынэ ʲйдрычка, а ў слэ́ўцэ чы вэ́шні – каміньчыке.*

ЖЭ'ЛАВИ *прым.* Жылаваты, моцны (фізічна) чалавек. *То нэц, шо маленькі, – він жэ́лави, схватыть копэ́цу сіна – і поніс.*

ЗАВАЛІ'Й *м.* Гультай. *Наш Коля – чэ́сти завалíй, усё лыжэть собі, а до роботэ – і ны тэ́ница.*

ЗБІ'ЖТИСЯ *зак.* Адкіпець (аб малацэ). Гл. Скипі'тись.

ЗНАЧЭ'ТЭ *незак.* Стан каровы перад ацёлам. *Колэ́ корова погу́ляна і ўжэ хутко будэ тылэ́тись, у йийі вэ́мне набрака́е, молоко йдэ, самэ́ца* ('вульва'), *$^{i}$ек культурні сказатэ, а по-про́стому – пытэ́лька) більша ро́быца.*

КАПТА'Н *м.* Кофта. *Наша тіточка Настася була бідна, то ў одному каптано́вэ ходэ́ла, мусить, рокіў з п$^{i}$еть.*

КВІ'ТКА *ж.* Мяцёлка проса. Гэ́нче квитке́ поспіють упырідж, то господэ́ня йшла з сырпо́м, зрізувала йіх, коб просо з йіх ны высыпалося, або коб шворабэ́ його ны пылэ́.

КЕ'ДАТЭ (двэ́рэ) *незак.* Пакідаць дзверы адчыненымі. *На́шо двэрэ ке́дайіш очэ́нянэ – на дворі ж зыма.*

КОЎЗІ'ЛКА *ж.* Коўзанка. *Малэ́мэ ходэ́лэ мэ на коўзілку. Там було́ висёло́, молодёжэ мнэ́га.*

КРА'МИНЬ *м.* Крэмень. *У нас кра́миню ўсю́дэ – і ў по́лэ, і ў горо́дэ знаходиш горучэ́.*

КУР$^{I}$Е'ЧКА *ж.*, КУР$^{I}$Е'ЧІ ДОШЧ. Імгла, дробны-дробненькі дождж. *Кур$^{i}$е́чка, быто́ туман.*

ЛАГУ'ДКЕ *мн.* Ласункі, далікатэсы. *Твоя́ мада́ма ны прывэ́чна до нашыйі йіжэ, бо там, у го́родэ, собі однэ́ лагу́дке пойіда́е.*

НАЖЫЎЛ$^{I}$ЕТЭ *незак.* Фастрагаваць. *$^{i}$Ек шэ́йіш, то трэба зра́зу скро́янэ нажывэ́тэ.*

НА'РВАНЫ *прым.* Нярвовы. *На́рваны чоловік – нычо́гі, він не́рвінны, налытэ́ть на тыбэ́ ны с то́го, ны с сёго.*

НА'ТХА *ж.* Стан, калі чалавек наесца нечага вельмі многа, і ў яго пачынаецца адрыжка серавадародам. *Дэсь раз на Ко́лядэ Сеня обйі́ўся гарбу́зыку, шо ў його́ почалася на́тха.*

НАЎМАНЭ' *прысл.* Адвольна выбраць з некалькіх варыянтаў адзін, але, як аказваецца, правільны. *Хоч я й сказала наўманэ́, алэ́ попа́ла, одгада́ла, $^{i}$ек трэ́ба.*

НАШЧЫПА'ТЭ *зак.* Наадламваць, наадрываць пе́ря з зялёнай цыбулі ці часныку. *Ганно, пока выдно́, скоч у горо́д і нашчыпа́й цыбулі, намнэ́мо йийі на вычэ́ру.*

ОНЁ'ДЫЧКА *прысл. Онёдычка положэ́ ко́су, а $^{i}$ек вэ́триш йийі, то занысэ́ш у шіпку. Гэ́нчі на онёдычка скажэ шэ го́ндычка.*

ОСЫЛЭ'НИЦ *м.* Селядзец. *Осылэ́нца мэ мало колэ йілэ, усё росіл з йіх куп- л$^{i}$йілэ, і с карто́плямэ – так смашно було́.*

ПОДВО'ЛИЦА *ж.* Падбародак. *Ну й роспа́сься наш сусід: стаў чырво́ны, бы брэсь, ужэ́ друга подво́лица вісыть.*

ПО̂ДЧИРО'ВЫНА *ж.* Падчэраўе. *По̂дчиро́вину сыру́ю нычого йістэ – вона т$^{i}$е́гныца, бы ґума, шо ны одкусэ́тэ, трага ножэ́м різатэ.*

ПОЛІ'НЫСКО *н.* Павольны, непаваротлівы чалавек. *Пока гэ́тэ поліныско повэ́рныца, пока зварыть тую вычэ́ру, то ўжэ й пора ўстава́тэ коро́ву дойітэ.*

ПОЛОКА'ТЭ *незак.* Паласкаць бялізну. *Полошчу́ я одэ́жу коля коло́дяза, аж бачу: Мала́ня прэ́тить н'éку вылі́ку дошку.*

ПОЛУ'ДНАТЭ *незак.* *'Ек йіздылэ за кана́л* (Днепрабугскі) *косэ́тэ, то полу́дналэ сухо́пырком: стигно́, цыбуля зылёна, сало, тваріг, а ўрано і ўвэ́чырэ ўжэ́ там зва́рать якого каньдёру чы карто́плю з свіжсымэ молодэ́мэ гуро́чкамэ.*

ПОЛУ'ДИНЬ *м.* 1. Спажыванне ежы ў сярэдзіне дня. 2. Ежа, якую бралі з сабою ў поле, у лес, ці на сенажаць. 3. Поўдзень. *Го́синю птушке́ одлітають на полу́динь.*

ПОЛУ'ПЫШОК *м.* Палукашак. *Колэ́сь наш батько йіздиў за полу́пышкамэ аж пôд канал* (Днепрабугскі). *Там росло много лозэ́ – було с чого плистэ́.*

ПОСМІ'Х *м.* Пасмешышча. *Скажэ́ мині, чого гэто с тыбэ́ за́ўшэ посміха ро́блять?*

ПО'ТЬКАТИСЬ *незак.* Увесь час займацца нейкай (нібыта) нязначнай працай. *Цілю́сінькі дэнь я по́тькаюся ў хатэ, а шэ й нэц ны зро́бляно.*

ПОХОДЭ'НЬКЕ *мн.* Працяглае знаходжанне дзесьці, не дома. *Наша Зося колэ́сь усё походэ́ньке правыла: з шко́лэ – одразу до подружок, а додо́му прыхо́дила аж увэ́чирэ.*

ПРАВЭ'Ц: ПРАЎЦЭ'М *прысл.* Хваравлівы стан, калі пэўны орган чалавека не згінаецца. *Здаецца ж, кро́хэ посыділа, а ногу поставыло праўцэ́м, шо й ны ступэ́тэ.*

ПРОКЕ'ВА *ж.* Крапіва двухдомная, Urtica dioica L. *А чого тэ сміéсься? Прокéва сма́шна, 'ек зварыш. А то і ў мн'éсо кéдалэ, 'ек ёго смажсылэ.*

ПРОКЕ'НУТИСЯ *зак.* 1. Прачнуцца. *Сплю, і, здаецца, шо хтось барабанить у гокно́. Я прокенулась, подбігла до двырэ́й, аж ныко́го ныма.* 2. З'яўляцца. *У бору ўжэ лысэ́цэ прокидаюца по однíй.*

ПРО'ЦА *ж.* Рагатка. *Ны стырл'éй з про́цэ, бо ў шво́раба ны поцэ́лиш, а гокно́ мині розоб'éш.*

ПРУЗУ'К *м.* Скураны шнурок. *Прузу́к – бы нэ́тка, йім шэ́лэ хамутэ́ й гэ́нчу упраж (набэ́дрыке, лэ́йцэ), або причіплювалэ бияка́ до цыпэ́лна ў цэ́повэ.*

ПРЫВЫСТЭ' *зак.* Нарадзіць (дзіцё). *Чы вытэ́ чулэ, шо Ганна дытэ́ну прывыла́?*

ПРЫКА'ЗУВАТЭ *незак.* 1. Прыгожа гаварыць, выкарыстоўваючы трапныя выразы, параўнанні, эпітэты. *Ба́ло гэ́нча жінка, ˈе́к голо́сыть по мужыко́вэ, то так хорошэ́ прыка́зуе; і скіль у йійі тэ́йі слова быру́цца.* 2. Загадваць. *Ма́тэ до́ўго сэ́на лупэ́ла парове́ныю і ўсё прыказувала, коб ны лазиў у чужэ́й садок.*

ПРЫСЦІ'НЬ *м.* Пярсцёнак. *Хто там колэ́сь купл'е́ў золото́го прыстэ́ня ? – оно́ хто богати.*

ПРЫСТУ'ПА *м.* Прымак. *Гэто сёромно́ – чи прыступа, чи приймак: ны од вылікого богаства йшлэ́ ў прысту́пэ.*

ПРЭ'БОЛОТУХА *ж.* Невялікі белы абабак, – расце каля балота, Leccinum holopus Rostk.

ПРЭ'СТОРЧЭ *н. зб.* Невялікія вострыя пянькі, што застаюцца пасля зсечаных кустоў. *Добрэ, шо я ўпаў крохэ ўбік од прэ́сторча, а то й гочэ собі повыбира́ў бэ.*

ПУСТА'К *м.* Пустацелы будаўнічы блок, пустацелая цэгла. *З пуста́ку хунда́мынтэ сталэ робэ́тэ пры По́льшичэ.*

ПУ'ТО, ПУ'ТИСКО *н.* 1. Пута путаць коней. 2. Павольны чалавек. *Гэ́тэ пу́тиско пока прысу́ница, то ўжэ й спочочіе. А на того́, шо по бабах хо́дить, кажуть волоч'е́й.*

ПЫРЫКЕ'ДАЧ *м.* Мужчына, які жыве то з адной жанчынай, то з другой.

РА'ҐА *ж.* Раздвоеная на канцы галіна, дубец. *Ґенік наш, бало, роско́лэ дубц'е́– зробыть раґу, засунэ тудэ́ гадину чы гуж'й, хо́дить і лякае диўч'е́т.*

Р'Е'ШКА *ж.* Нізкае вядро з клепак, якім даставалі з калодзежа ваду або выкарыстоўвалі як памыйнае вядро. *У дідовому колодязэ р'е́шка зусім оббэ́лася об бочке, но́выйі ныма дэ ўз'е́тэ, то хо́чуть купэ́тэ люмінёвэ выдро́.*

РІ'МНЯ *ж.* Раўня. *Чы ж він вам рімня, шоб разом гратысь: він жэ дід старэ́й, а вытэ́ шэ навить у школу ны хо́дытэ.*

РОЗБЫРА'ТИСЬ *незак.* 1. Разумець. *Хло́пыц зусім малэ́й, а ўжэ розбыра́йіца, шо ны мо́жна бра́тись рукою за двэ́рцэ у гру́бцэ.* 2. Распранацца. *Колэ́сь лю́дэ літом ˈек наро́бляца, поўто́млююца, то ляжэ́лися спа́тэ і на́вить ны розбыра́лися, так і спалэ ў одэ́жэ.*

РО'СПУРКА *ж.* Шырынка ў мужчынскіх штанах. *Тыпэ́р ганавэ́цэ шэ́ють з ґульфіком, а колэ́сь була оно́ ро́спурка, навить шэ й быз ґузіка.*

РЭ'ЖЫЦ *м.* Жоўты пясок. *Яко́е то по́лэ? Одэ́н рэ́жыц – тут нэц ны ростэ́, оно́ зільле.*

СВА'НИЧКА *ж.* Сваха. *Так на бабэ́й казалэ сва́тьт'е, а ў пісьн'а́х на висільлі спува́лэ сва́ничка. А на мушчэ́ну – сват.*

СВІСЬЦЬ *ж.* Жончына сястра. *На жінчыну сыстру́ каза́лэ свісьць.*

СВИ'СЬЦЁЛЫК *м.* Свісток. *Колэ́сь мині батько з вырболо́зу зробэ́ў свисьцёлыка: я буў гіро́й, бо мої това́рышэ просэ́лэ, коб я даў йім посвисьцітэ.*

СВЫНЬН<sup>І</sup>Е'ЧІ ДОШЧ. Стан прыроды, калі адначасова свеціць сонца і ідзе дождж. *На свыньн'ечі дошч шэ кажуть, шо гэ́то сэ́ротэ плачуть.*

СІ'МН<sup>І</sup>Е *н. Сімн'ем лічылися: грілэ на пытэ́льні і ў то́рбоцэ прыкладалэ до того́ місьця, якое боліло.*

СІ'МЫНИСТИ *прым.* Рабаціністы. *Наша тітка Настася зáўшэ була сімыниста, а дэсь за кілька літ до смэ́ртэ то́е работэ́ньне кудэ́сь поділося.*

СКІЛЬ *прысл.* Адкуль. *А скіль гэта баба, шо прыхо́дила до нас учора?*

СЛАБЭ'Й *прым.* Хворы. *На другі дэнь висільля баба наша стала зусім слабáя, йійі завызлэ́ ў бо́льніцу, побула там дён з дэ́сить і хутко после того́ ўмырлá.*

СКЛІ'ШЧЫТИСЬ *зак.* З'яднацца на працяглы час пры спарванні (пра сабак). *Ну й шо́ с того́, шо вонэ́ скліщчылися? Бач, ны трэ́ба було́ вам у йіх попускáтэ камытэ́хамэ (каменнем).*

СКРУТЭ'ТИСЯ *зак.* Стаць шалёным (пра сабаку). *Ны дай Біг, коб шалёни собака покусаў нашого, бо тоді, 'ек скру́тыца, то прэ́дыца його забэ́тэ.*

СКУЛЬБА'ЧЫТИСЬ *зак.* Сагнуцца, згорбіцца. *Ох, шо́ гэто года с чоловіком ро́блять: дід зусім скульбáчыўся.*

СКИПІ'ТИСЬ *зак.* Адкіпець (аб малацэ). *Моло́ко скипілося, мусить, було́ ошчавілэ.*

СЛЫПА'К *м.* Сляпень. *Зымо́ю чоловіковэ нычо́го, бо холодно́, а літом – гарачэ́, алэ́ то кôмарі, то слыпаке́ прытьмом зайідáють.*

СЛЫПЭ'Ц *м.* Сляпы чалавек. *Бало, после войнэ́ слыпціў по сёлах було мнэ́го, гэ́нчі ходэ́ў с поводырэ́м, а то по-двое, по-трое; у ныділю сыділэ вонэ на базарэ, просэ́лэ, бы старцэ.*

СМІ'ХЭ *мн.* Жартачкі, смешкі. *Молодёж, бало, 'ек позбырáюца на вычорке́, зáўшэ сміхэ строять.*

СМОЛ<sup>І</sup>Е'НКА *ж.* Яйка, з якога праз дзірачку высмоктвалі бялок з жаўтком, пасля запаўнялі пяском з смалой. *Мáўшэ смол'е́нку, ужэ́ ў пэрші дэнь Пáске можна було понавыбивáтэ поўко́пэ йіе́ц.*

СМУ'ГА *ж.* Туман. *Смуга – гэ́то так н'е́косъ быто туман.*

СНОВЭ'ДА *м. і ж.* Лунацік; сонны чалавек, які звычайна ў цемнаце ходзіць павольна. *Колэ́ ўжэ гэта сновэ́да л'е́жэ спатэ? Ны спэть, 'ек усі лю́дэ, а со́ўпайіца по хатэ ўсю нич.*

СОКОРІ'ТЭ *незак.* Выдаваць гук накшталт "ко́-ко-о-ко-ко!" (пра курыцу). *Курыца сокорэ́ть, бо чуе йіцэ́, ныстэ́ся будэ – ужэ трэба пільнува́тэ, коб пошла́ ныстэ́ся ў гниздо на по́клад, а ны ў горо́д.*

СОЛО'МН'ЕНКА *ж.* Мех даўжынёй да 2 метраў, напханы саломай. *Тыпэ́р сп'е́ть на матра́цах, а колэ́сь – на соло́мн'енках.*

СОЛНЭ'ЦА *ж.* Салянка. *У діда нашого заўшэ на столі сто'е́ла солнэ́ца з сільлю, і хліб лыж'е́ў, накрэ́ти насти́лныком.*

СОЛОМА'ХА *ж.* Невыразная страва, накшталт заціркі. *Наварэ́ла нам тітка н'е́кійі солома́хэ, шо і ў горло ны лізэ.*

СПРАВУ'НКЕ *мн.* Высвятленне адносінаў. *'Ек пошла Ганночка до Ёсыпа справу́нке шука́тэ, то так там правовалася, шо ўс'е хата ляшч'е́ла.*

СПРЭ'ХОДУ *прысл.* С краю, пры ўваходзе. *Понастаўл'е́лэ ў сінюх спрэ́ходу н'е́кіх цэ́бру – оно пальца на нозі ўраззэ́ла.*

СТА'ЛЬКА *ж.* Столка. *Гэто 'ек в'е́жуть свэ́дра, скажым, то злуч'е́ють дьві чы трэ нэ́тке разом, то кажуть: у дьві або ў трэ ста́льке.*

СТАРАЁ'НЦЛЫВИ *прым.* Старанны, дбайны. *'Ек господар стараёнцлыви, то ў його ўсэ есьця – і ў хатэ, і ў господарцэ.*

СТЫДО'ТЬТ'Е *н.* *От наша дохна ('дачка') ўчворыла, ну й наробэ́ла!.. А зарэ такое стыдо́тьт'е, шо й на гу́лыцу ны вэ́йтэ.*

СТЫПЫНУ'ТЭ *зак.* *Я тыбэ́ зарэ 'ек стыпыну́, то й ґізу́нтэ повытр'е́саю.*

СУПЭ'ЛЬ *м.* Лядзяш. *На Водохрышча трага ўваж'е́тэ: з стріхэ на го́лову можэ ўпа́стэ супэ́ль і окалі́чытэ.*

СЧЭ'СТЫТИСЬ *зак.* Вызваліцца ад прыкметаў ацёлу (пра карову). *А корова ўжэ счэ́стылась: отпало хорошэ́ло.*

СЫРЭ'Й *прым.* 1. Не вараны, не гатаваны. *Сырое молоко пользітільнэ. Ны пэ́ сырэ́йі водэ́, бо шэ жывіт заболэ́ть.* 2. Сыры, мокры. *Мусыть, тое сьніданьне бу́дэ обі́дом: дровэ́ска сырэ́йі, намо́склэ – нэц ны гор'е́ть.*

СЫБА' *злучн.* Хіба. *Сыба́ до выснэ́ ны дожыву́, алэ такэ́ чоботэ хро́мовэ собі спра́ўлю.*

СЮДАВО' *прысл.* (Вось) сюды. *Поста́ў выдро́ сюдаво́, дэ поро́жнэ місьце.*

СЮДО'Ю *прысл.* Тут, гэтай дарогай. *Ідэ́ сюдо́ю, бо там намо́чыся.*

ТАМОНЁ', ТА'МЫЧКА *прысл.* Там, вось там. *Тут, на гэ́тому заго́новэ я нэ́ц ны сіяла, а та́мычка – гурке́.*

ТІСНА'ТЬТ'Е *н.* Цесната. *Надойіло мині гэ́тэ тісна́тьт'е! Пора нам ужэ́ біль шу хату робэ́тэ.*

ТОЎКАНЭ'ЦА, ТО'ЎЧА *ж.* Гатаваная мятая бульба, камы. *Дэсь пару раз матэ тоўкла то́ўчу з маку́хію (то́ўчанэ сімн'е).*

ТРАСТЭ' (ко́мына) *зак.* Ачышчаць комін ад сажы. *Комына ко́нчэ трэба трастэ́, бо нынаджано сажа ⁱек загорэ́цца по́лумнⁱем, то й хата мо́жэ занⁱйтыся.*

ТРОНИ'ЖКА *ж. Баба наша колэ́сь мині ў тронісцэ смáжыла йіе́шню на сáловэ. О́т було́ смáшно!*

ТРОШЧЭ'ТЭ *незак.* 1. Ламаць. *Коро́выско потрошчэ́ла ўсі плотэ́, ⁱек улізла ў горо́д і потоптала заго́нэ.* 2. Есці. *Нам усім бало карто́плі жывотэ́ распырáють, а вона залізэ на хату, хучі – до кошыка, дай тро́шчыть кубáсэ.*

ТРЫПЫТЭ'НА *ж.* Шкіпінар. *Зося зусім збыліла, го́чэ по̂д лоб подвылá... Ну, думаю, трáга дытэ́ну ратувáтэ. Я хучі помазала йій трыпытэ́нию по̂д носом, – вона й ожылá.*

ТРЫЎКЕ'Й *прым.* Каларыйны, сыты. *Гэ́нча страва трыўкая: пойісэ́ йійі і до́ўго ны хочыца йістэ.*

ТЫЛЬБУШЭ'ТЭ *незак.* Трыбушыць, патрашыць. *Гэ́то, колэ́ выкидайіш з качкэ нутринносьці, або й з чого́-хоч.*

ТЫПЛИНⁱЕ' *ж. Ну, нарэ́штэ на дворі стала тыплинⁱе́, нáвить старэ́йі на прэ́зьбах кожухе́ поскидáлэ.*

ТЫРЫБЭ'ТИСЬ *незак.* Церабіцца. *ⁱЕк на дошч, то курэ тырэ́бляца, быто́ чэ́сьтять пір'е.*

ТЮ'ГЛИТЭ *незак.* Жлукціць. *Бало ў жныво́ ⁱек дорвэ́сься до бу́ньке з водо́ю, то тю́глиш і тю́глиш, пока дно ны побáчыш.*

УПІР *м.* і *ж.* Упарты чалавек. *Наш упір ⁱек упрэ́цца, то ёго ны пырыпрэ́ш, сёромно́ будэ по-ёго́.*

УПЫРІ'ДЖ *прысл.* Раней. *Упыріджю́дэ булэ́ ліпшэ, бо більш поку́тувалэ.*

УСЬЦⁱЕ'ТИСЬ *зак.* Паменшыцца (аб марозе). *ⁱЕк одлэ́га жывэ́, то кажуть, шо моро́з усьцⁱе́уся.*

УХІ'ДЧЫНА *ж.* Наваселле, пераход у новую хату. *Такую ухідчыну сусідэ спрáвылэ, шо пáру гостэ́й спáло ў нас по̂д окáциею: додо́му ны зду́жалэ дойтэ́.*

ХАМУ'ЛА *м.* Непаваротлівы, гультаяваты чалавек, нявыхаваны ў добрых манерах.

ХЛЫНУ'ТЭ *зак.* Выпіць з глыток. *Здаецца, шо коб хоч кро́хэ водэ́ хлынутэ, то поду́жчаў бэ.*

ХОЛОДНЭ'ЧА *ж.* Холад, золь. *На дворі зымá, і ў хáтэ такáя холоднэ́ча: два дні ў грубкáх ны то́пляно.*

ХОРІ'ШЧІ *прым.* Прыгажэйшы. *Твоя Маня хорішча за мою́ дыву́лю.*

ХРАПАКЕ' *мн.* Хракавінне, харкі. *Хлóпцэ, ны плюйтэ храпакé на пôдлогу – гэ́дко ййі мэ́тэ. Онё я вам постáвыла выдрó свыньнʹéчэ, тудэ й хáркайтэ.*

ХУ'РА *м.* Фура, воз з накладзеным (памерам да адной тоны) сенам ці саломай, дровамі. *Наш господáр росстарáўся: аж шість хур сіна зробэ́ў – повэ́дно на зэ́му хватэ́тэ.*

ХУ'ХАТЭ *незак.* Дзьмуць, напрыклад, на рукі, каб сагрэць іх. *Хýхай ны хýхай, нэц тэ так рук ны зогрійіш. Ліпш прытулэ́ йіх до гарʹéчийі грýбке.* 2. Пялегаваць клапатліва (перан.). *Лэґдьшо одну дытэ́нку нʹéкось злыпэ́лэ, то ўжэ хýхають на ййі, ʹек тúлько можуть.*

ЦЫМА'ЛИ *прым.* Даволі вялікі. *Дёшово тэ купэ́ў собі такое цымалэ поросʹé!*

ЧЫРЭ'НЯ *ж.* 1. Чарэнь. *Бáло, хворэ онó на чырэ́ні й лічылися: ʹек вэ́грыйіцца, то ўсʹé простуда пропадала.*

ЧЭ'ЧЫНЬ *м.* у выразе: ВЭ'СОХ, БЫ ЧЭ'ЧЫНЬ. Стаў вельмі худы. *Кажуть у нас гэтак, алэ шó то за чэ́чынь, нихтó ны відае.*

ШПІНЬ *м.* Верхні завостраны канец верацяна. *У выртинá гóстри конэ́ц – гэ́то шпінь, а на нэ́жні кажуть голóўка.*

*В.С.Місіюк*

# УРОЧЫШЧЫ З УСКРАІН БЕРАСЦЯ

Прыводзяцца назвы некаторых урочышч з былых вёсак Бярозаўка, Рэчыца, Трышын, Шпановічы, якія ўключаны ў межы Берасця (Брэста), а таксама прылягаючай да Берасця вёскі Казловічы. Аб'екты, якія абазначаюць прыведзеныя назвы, адносяцца да мінулых часоў. Пасля ўключэння ў межы горада характар адзначаных урочышч пераважна істотна змяніўся. Заўважым, што горад Брэст (Берасце) жыхары навакольных вёсак і частка жыхароў самога горада называюць *Бэ'рэсть.*

БОЛО'ТО *н.* Заліўныя землі. Шпановічы.

БУРЫ' *мн.* Поле. Рэчыца.

БЭРЧЫ'НА *ж.* Луг з кустамі. Бярозаўка.

БЭРЭ'ЗЫНА ж. Урочышча. Казловічы.

ВОНЯ'ЧКА *ж.* Урочышча. Трышын.

ВЫПАЛЭ'НКА *ж.* Поле. Бярозаўка.

ВЭРБЫ'НА *ж.* Поле і луг з кустамі. Шпановічы.

ГАЁК *м.* Поле. Бярозаўка.

ДУБЫ'НА *ж.* Урочышча. Казловічы.

ДУГА' *ж.* Заліўная зямля. Казловічы.

ДУ'ЖЭ БОЛО'ТО *н.* Заліўная зямля. Трышын.

ЗАГАЙНЫ'К *м.* Поле. Бярозаўка.

ЗАГА'Я *ж.* *Лонка*, забалочаная сенажаць. Рэчыца.

ЗА ГОРО'Ю. Поле. Шпановічы.

ЗА КАЗА'РМОЮ. Поле. Казловічы.

ЗАКУРГА'Н *м.* Поле. Бярозаўка.

ЗАПА'НКА *ж.* Урочышча. Трышын.

ЗА РІ'ЧКОЮ. Поле за ракой. Шпановічы.

ЗАСА'ДДЕ *н.* Поле. Бярозаўка.

КО'РЧЫК *м.* Поле. Трышын.

КРУГЛЫ'ЦЯ *ж.* Поле. Шпановічы.

КУРГА'Н *м.* Узгорак. Бярозаўка.

ЛАЛЫ'БЫ *мн.* Поле. Трышын.

ЛУЗКО'ВА *ж.* Заліўныя землі. Казловічы.

ЛЫ'ПНЫК *м.* Урочышча. Казловічы.

МАЛЭ' БОЛО'ТО *н.* Заліўная зямля. Трышын.

НАВОЗ *м.* Урочышча. Казловічы.

НАМЫ'ТЭ *н.* Заліўная зямля. Казловічы.

НЫ'ВА *ж.* Поле. Бярозаўка.

НЫ'ВА *ж.* Поле. Трышын.

ОСТРОВО'К *м.* Заліўныя, вільготныя землі з узгоркам. Рэчыца.

ОСТРОВО'К *м.* Урочышча на мяжы з землямі в. Рэчыца. Казловічы.

ПА'НСЬКЕ$^{Э}$ *н.* Поле. Трышын.

ПОЛЫ'НА *ж.* Поле. Трышын.

ПО$^{У}$Д ВА'ЛЭМ. Поле. Казловічы.

ПО$^{У}$ДВЫ'ШЫНКИ *мн.* Поле. Казловічы.

ПРЫДА'ТКИ *мн.* Урочышча. Казловічы.

ПУДМІ'СТЕ *н.* Поле. Рэчыца.

СТАРЫ'Й ДВІР *м.* Урочышча. Трышын.

ТЯ'ГВА *ж.* Урочышча. Трышын.

УЗОВА' *ж.* Урочышча. Казловічы.

У'ЗЫНКА *ж.* Заліўныя зямлі. Казловічы.

УСЯДКА *ж.* Заліўныя зямлі. Казловічы.

ФОМЫНЭ' ПО'ЛЭ *н.* Урочышча. Казловічы.

ШАВЛУКИ' *мн.* Поле. Казловічы.

ШАТЭ'ЦЬ *м.* Поле. Трышын.

ЯРЫ'ЧОК *м.* Няўдобіца. Трышын.

*К. М. Панюціч*

# З ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА УШАЧЧЫНЫ

Гэта падборка дыялектнай лексікі – працяг публікацыі, змешчанай у зборніку “Жывое наша слова” (2001). Запісы зроблены ў гаворках Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

Прынятыя скарачэнні назваў вёсак: Арэх. – Арэхаўна, Астр. – Астраўляны, В.Д. – Вялікія Дольцы, Кубл. – Кублішчана, Маж. – Мажэйшчына, Міх.– Міхалкаўшчына, Навас. – Наваселле, Слаб. – Слабада, Стар. – Старына, Судз. – Судзілавічы, Чэр. – Чэрсвя, Шчарб. – Шчарбёнкі.

ЇЛ *м.* Крухмал. *Выпі нашча йілу з вадой, пумагайіць ад жывата.* Арэх. *Замішала йілу ў яешню.* Чэр. *Бязь йілу кісялю ні зварыш.* Слаб.

ЇЛГЛІ'ВЫ *прым.* Хлуслівы, няпраўдзівы, ілгун. *Ад яе праўды ні даб'есься – йілглівая, нялюцкая маладзіца.* Арэх. *У яго сем вёрст да нябёс і ўсё лесам – йілглівы чалавек.* Маж. *Мусіць, так і было, як Анюта гаворыць, яна нялглівая.* Судз.

ЇЛУ'ХА *ж.* Страва з малака і крухмалу, малочны кісель. *Варыла йілуху, кісялёк такі, дабавіла йілу ў малако.* Чэр. *Два яйцы ўбіла ў йілуху.* В.Д. *Пасёрбай хоць йілухі, ня йдзі галодная.* Арэх.

ЇЛЬСЦІ'ВЫ *прым.* Лісліва. *У вочы йільсьцівы, а зачы ўсяго накашаліць на цябе.* Судз. *Ні люблю такіх йільсьцівых, як твая сусетка.* Арэх.

ЇЛЯ'НКА *ж.* Тое, што і *ілуха.* *Дала дзяцёнку йілянкі паесьці.* Судз. *З малака йілянку варуць.* Слаб.

ІМСКЛІ'ВЫ *прым.* Помслівы. *Дужа ні завадзіся зь йім, ён такі йімсклівы, чым-небуць атплаціць табе, спацціха ўкусіць.* В.Д.

ІМСЦІ'ЦЬ *незак.* Помсціць. *Сістра мая за сьветку на судзе бала, дык ён йімсьціць цяпер нам, німа ратунку.* Судз.

І'ННЫ *займ.* Іншы. *Дадушы, йінную ноч ні засьнець, так млосна ей.* Міх. *Дзяцёнак як які: йінны расьцець, хоць ты яго прыціскай, а наш во малы, карантыш.* Судз. *Па ўхаджору так убівайіцца! Лягла п йінная й спакойна спала.* В.Д. *У йінных сем'ях здольнікаў лепі глідзяць, як родных дзяцей.* Слаб.

ІСПО'ДКА *ж.* Рукавіца; часцей ІСПО'ДКІ *мн.* *Дачка мне йіспоткі зьвізала.* Арэх. *Іспотка парвалася, нада зашыць.* Астр. *Памянш.* ІСПО'ДАЧКА. *У Вушачы гэтыя йісподачкі купіла.* Шчарб.

КАВЯЛА' *ж.* 1. Мыліца. *Калека ён з вайны, на кавяле ходзіць.* Маж. 2. *м.* і *ж. перан. зневаж.* Кульгавы чалавек. *Прыцягнуўся ўжо гэны кавіла.* Судз. *Бала тут у нас адна дзеўка-кавіла.* В.Д.

КАВЯНЯ'ЦЬ *незак.* Ісці кульгаючы. *Гляджу, аж гэта наша цётка кавіняйіць пу бальшаку.* В.Д. *Ай, кавіняйіць ён патроху, с палачкай ходзіць.* Міх.

КА'ЙКІ *мн.* Канец, капут. *Каб з нашай гары зьляцеў – дык і кайкі былі п.* Астр. *У вір пупаў, там яму й кайкі, ні пасьпеў і крыкнуць.* Чэр.

КАЖЭ'РКА *ж.* Паўкажушак. *Бацька наш рукаты быў: і куваль, і кажэрку мох пашыць.* Арэх. *Кажэрка – паўшубак такі.* Чэр.

КАЖАРЭ'НАК *м.* Тое, што і *кажэрка. Дзеці даўней забіджаныя былі, гаравалі. Кажарэнак які адзенуць – і ў школу.* Судз.

КАЖЫ'ННЫ *займ.* Кожны. *Шэсь вёдраў цыбулі, алі пасьці кажынная ў пучча пайшла.* Слаб. *Кажынны глядзіць, каб добрай прыроды жонку ўзяць.* Навас. *Нявестка кажыннага дня малака нам прыносіць.* Стар.

КАЗЁЛ[1] *м.* Казёл. *Ні пускайці туды дзяцёнка, казёл бадзецца.* Арэх. *І каза ёсь, і казёл.* Астр.

КАЗЁЛ[2] *м.* Грыб масляк. *Кап хоць адзін казёл, а тыя гады ў сосьніку поўна йіх было.* Арэх. *Казлоў кош назьбірала.* Стар.

КАЗЁЛ[3] *м.* Козлы. *Прынёс казёл, будзім дровы рэзаць.* Шчарб. *Казёл шалтайіцца, дрэнна рэзаць дровы.* Слаб.

КАЛАВУ'РЫЦЬ *незак.* Вартаваць. *Маця сат калавурыла.* Кубл. *Такога здаравяку паставілі магазін калавурыць.* Арэх.

КАЛАПНІ' *мн.* 1. Каноплі. *Мала сеюць цяпер калапнёў.* Стар. *Дзеці схаваліся ў калапні.* Арэх. 2. Падсмажанае і стоўчанае канаплянае семя. *Бліны макалі ў калапні.* Стар. *У клёцках душы с калапнёў.* В.Д.

КАЛАТО'ЎКА *ж.* Мешалка з сучкамі на канцы. *Дзе гэта наша калатоўка? Німа чым гарбуз разьмішаць.* Арэх. *Бяруць такую палачку с сучкамі на канцы – гэта і будзіць калатоўка. Калатоўкай зацірку мішаюць.* В.Д. ◊ КАЛАТО'ЎКУ ЎКІ'НУЦЬ. Пасварыць людзей, унесці разлад. *Узноў калатоўку ўкінула – наздумляла,назводзіла, мужыка ж жонкай пасварыла.* Арэх.

КАЛАТУ'ХА *ж.* Страва з раскалочанай у вадзе ці малацэ мукі. *Мука бала, дык наварыла на дзень калатухі.* Шчарб. *Які там наедак с калатухі?* Судз.

КАЛЕ'КА[1] *м.* і *ж.* Калека. *Сын калека, такоя горачка маціры.* В.Д. *Яна калека з вайны.* Кубл.

КАЛЕ'КА[2] *ж. заал.* Рыба мянтуз. *Калеку злавіў і дзьве плотачкі.* Арэх. *З вусамі калека, смашная рыба.* Слаб.

КАМЫ' *мн.* Бульбяная каша з гарохам. *Баба раней часта камы варыла: наварыць гароху, натаўчэць, бульбы дабавіць.* Стар. *Ці зварыць вам камы, ці будзіці есьці?* Арэх. *Ай, якія камы, калі гароху німа'* Кубл.

КА'НЬКА *ж. заал.* 1. Кнігаўка. *Канька плачыць. Ці ня вы яе гнязьдзечка парушылі?* Маж. 2. *м.* і *ж. перан.* Канькала. *Што ты з гэтай канькай зробіш? Купі ўжо ей цацку.* Судз. *Ходзіць канька, то тоя яму дай, то гэта, канькайіць цэлы дзень.* Чэр.

КА'НЬКАЦЬ *незак.* Выпрошваць, дакучліва прасіць. *Ні канькайці, усё роўна ні пушчу ў клуп.* Арэх.

КАПА'ЧКА *ж.* Капальніца. *Сем капачак было, папрасіла радню й суседак, за дзень бульбу й выкапалі.* В.Д.

КАПЕ'ШКА *ж.* Капа. *С той пожні пяць капешак сена было.* Арэх. *Растрасла капешку, хай трава прасохніць.* В.Д.

КА'ПКА *ж.* 1. Капля. *Капні капку вады ў кварту.* Арэх. 2. Невялікая колькасць чаго-н. *Робіла вышыўку і капку адну ня кончыла, аленя-то вышыла.* Стар. *Кап хоць капку мёду бабі дастаць, занядужыла.* Судз.

КАПО'ШКА *м.* і *ж.* Маруда. *Няспрытны чалавек, капошка: пакуль склаў сена, дык і сьцямнела.* Арэх. *Гэта капошка дужа павольна робіць, ні сьпішайіцца.* В.Д.

КАПТУ'Р *м.* Пярэдняя высокая частка печы. *Сьпічкі на каптуры ляжаць.* В.Д. *Кот залес на каптур і грэйіцца.* Судз. *Палажы мыла на каптур, хай пацсохніць.* Слаб.

КАПЦЮ'ШКА *ж.* Газоўка, капцілка. *Баба Ягорыха пры капцюсцы бульбу чысьціць.* Судз. *Капцюшка – лямпа бісь сьцікла.* Арэх. *Пасля вайны капцюшкі былі.* Слаб.

КАПЫ'ЗІЦЦА *незак.* Капрызіць, упарціцца. *Бывае, дзеўка капызіцца, ня хочыць у карагот йісьці.* Навас. *Што ты капызісься? Тут табе ня дома, бяры, што даюць.* Слаб.

КАРАНТЫ'Ш *м.* Нізкарослы чалавек. *Ня бог ведайіць, які жаніх – карантыш, меншы за яе.* Шчарб. *Нейкі карантыш са сьвету прыехаў.* Арэх.

КАРБУ'НКА *ж.* Невядомая сіла, нячысцік, чорт (ужываецца ў кленічах). *Хай йіх карбунка возьміць: цігаюцца ноч, ні дадуць выспацца.* Арэх. *Кап цябе карбунка зьела! Кладзеш абы-куды йіспоткі, а тады піраварочывайіш усё!* Слаб. *Хай йіх карбунка! Самі ні знаюць, чаго хочуць, здурэлі саўсім.* Судз.

КАРУ'ЗА *м. і ж.* Няраслы, малы чалавек. *Нізавідны мужык – каруза, нівысокі, малы.* Навас. *Нейкую карузу прывёз здалёку, нібальшэнькая.* Слаб.

КАРУ'ЗЛІВЫ *прым.* Няраслы, малы. *Карузьлівы маліц, можа, яшчэ падрасьцець, малады.* Навас.

КАСАВІ'ЛНА *н.* Кассё. *Уткнуў касу касавілнам у зямлю.* Арэх. *Касавілна зламалася.* Судз.

КАСЦІ'ЦЬ *незак.* Клясці, праклінаць. *Як завядзецца сь кім, то касьціць і самога, і яго патомства.* Слаб.

КАТЫРГІ'КАЦЬ *незак.* Ісці кульгаючы. *У сьвякроўкі нага баліць, ваду нясець, катыргікайіць, а нявестка ні піраймець, ні паможыць.* Судз.

КАЧАРЫ'ЖКА *ж.* Асяродак у капусце, храпка. *Скарэй бы капусту шаткавалі, наядзёмся качарыжак!* Арэх. *Нашаткавала капусты, адны качарышкі ліжаць.* Слаб. *У сярэдзіне капусты качарышкі.* Шчарб.

КАШАЛІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, бяссэнсіцу. *Ня слухай, што ён кашаліць.* В.Д.

КАШЛЯПЕ'НЬ *м. асудж.* Маруда, капун. *Такі ўжо кашляпень, ніяк ні зьбярэцца, празь яго спозьнімся.* Судз.

КАШЭ'ЛЬ *м.* 1. Вялікі кош з лучыны (на сена, салому). *Два кашалі сена прынёс карові.* Арэх. *Ні стаў там кашэль, карова пуламайіць.* Міх. 2. *перан. асудж.* Балбатлівы, нястрыманы чалавек, выдумшчык. *Такі кашэль вам нагаворыць! Кашаліць біс канца, абы-што гаворыць.* Судз. *Ніхто й ня верыць яму – звадун, кашэль!* В.Д. ◊ ПЛЕ'СЦІ КАШАЛІ'. Гаварыць недарэчнае выдумляць. *Пляцець кашалі, здумляйіць, нісусьвеціцу нясець, ня верці яму.* Арэх. ◊ СЕМ КАШАЛЁЎ НАГАВАРЫ'ЦЬ. Нахлусіць, навыдумляць. *У яго язык біс касцей, сем кашалёў нагаворыць вам.* В.Д.

КВА'РТА *ж.* Кружка, кубак. *Аччарэпні кварту вады.* Арэх. *Занялі мне кварту – і хоць ашалей, ні зьвярнуцца, німа чым вады ўзяць.* Судз. *Так піць хацела, дзве кварты (вады) выпіла за рас.* Слаб.

КВО'ХАЦЬ *незак.* 1. Квактаць. *Наша курыца квохайіць.* Арэх. 2. *перан.* Стагнаць, кволіцца (пра чалавека). *Вечна квохайіць, хваруха такая.* Слаб. *Арынка сямёра нарадзіла, а калі квохала, калі жалілася?* Судз. *І бальшая, і здаровая, а ўсё квохайіць.* Арэх.

КІ'ПЕТ *м.* Вар, кіпень. *У бані кіпіт, прынясіця халадзёнкі – дык усё сяло можна памыць.* Судз. *Як кіпітам хто ліець мне ў бок – так мне млосна, так труднінька!* В.Д.

КІРМАШО'ВІК *м.* 1. Удзельнік кірмашу. *Кірмашовікі прыехалі.* Слаб. *Адзін кірмашовік да нас заходзіўся.* Арэх. 2. *перан. жарт.* Пярэдні зуб; найчасцей КІРМАШО'ВІКІ *мн.* *Ні паказывай нам свайіх кірмашовікаў, німа ш чаго тут сьміяцца!* Слаб. *У яго здаровыя кірмашовікі.* Кубл. *У цябе ўжо павываліваліся кірмашовікі.* Арэх.

КІСЛЯ' *ж.* Закваска. *Кідаюць у дзесцы кусочак цеста, кап кісьля бала.* Арэх. *Высыхла кісьля, нада новую завадзіць.* Кубл. *Нісмашная выйшла кісьля.* Судз.

КЛЕ'КЛЫ *прым.* Глёўкі. *Ні дакісла цеста, хлеп выйшаў клеклы, кала коркі асадак астаецца.* В.Д.

КЛЁННІК *м.* Кляновае лісце. *Пад булкі клённіку паткладалі, а тады ў печ, проста на пот.* Арэх.

КЛЁЦКІ *мн.* Галушкі з дранай бульбы, начыненыя мясным або іншым фаршам (канапляным семем, грыбамі). *Мяса й бульба ёсь, можна клёцкі ладзіць.* Арэх. *Клёцкі з душамі (начынкай) у нас у сям'і ўсе любюць.* Судз. *Садрала бульбу, ацціснула, дабаўлю мукі ў клёцкі, а душы з мяса зроблю.* Стар.

КЛУ'ХА *ж.* Курыца-квактуха. *Што ты клуху сагнала з гнізда?* В.Д. *Клуха на яйках сядзіць, ціплят выводзіць.* Міх.

КЛЫЧО'К *м.* Маленькі расток. *Агуркі ўжо клычкі пусьцілі.* В.Д. *Клычок вылез зь зямлі.* Судз.

КЛЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Шкуматаць, камячыць, цıскаць. *Гэтыя дуронікі ўзяліся клычыць паперыну.* Судз. *До ўжо табе клычыць гэтага малога, пусьці, хай сам гуляйіць.* Міх.

КЛЫШАВА'ТЫ *прым.* Крываногі, касалапы. *Ідзець, ногі раськідайіць, клышаваты чалавек.* Судз. *Нейкага клышаватага мальца сабе знайшла, ногі ў раськітку.* Слаб.

КЛЫШАВА'ЦЬКА *м.* і *ж. зневаж.* Крываногі, касалапы чалавек. *Вундзіка клышавацька пайшоў, ніпрыгожая ў яго хотка.* Навас. *Дзеўка-клышавацька.* Слаб.

КЛЫШАВЕ'НЬ *м. зневаж.* Тое, што і *клышавацька. Урадзіўся маліц клышавень, ногі крывыя.* Арэх. *Чым такі клышавень, то лепі ніякага.* Слаб.

КЛЫ'ШНІ *мн. зневаж.* Ногі. *Прыбяры свае клышні, чаго расставіў?* В.Д. ◊ ЧУЦЬ КЛЫ'ШНІ ЦЯГА'ЦЬ. Быць слабым, нямоглым; ледзь ногі перастаўляць. *Слабы ўжо, няўздолы, чуць клышні цігайіць.* Стар.

КЛЯ'ТЫ *мн.* Праклёны. *Маця сама клянець сына, што жонку кінуў зь дзяцёнкам. А я ей: нашто твае кляты, калі нічога ні піраробіш.* Судз.

КНАЛЕ'ЦЦЮ *прысл.* Да наступнага года. *Калі п тваё пальто піраліцкаваць, то й кналеццю было п добра.* Арэх. *Думалі новую ферму стройіць, ды чуйім: атклалі кналеццю.* В.Д. *Зьбірайіцца сын кналеццю ў Полацак ехаць.* Шчарб.

КО'ТАМ *прысл.* Хутка, імгненна. *Котам ноччы сь печы паляцеў: думаў, на мяне хто жывы скокнуў. А гэта клубок нітак сарваўся.* Судз. *Як пачулі, што немцы йідуць, то ўсе котам с хат – хто куды!* Чэр.

КО'ТКА *ж.* Кошка. *Упусьцілі котку ў хату.* Арэх. *Недзіка котка наша прапала, трэці дзень німа.* Судз. *Котка курню вядзець.* Слаб.

КРАЙ *прысл.* Крайне, вельмі, абавязкова. *Край нада хату піракрываць, цячэць.* Арэх. *Ці вам край было йхаць? Вашы там вяселля гуляюць, а вы тут.* Міх. *А край табе йсьці? Абыйдуцца й бісь цябе.* Стар.

КРАКТА'ЦЬ *незак.* Стагнаць. *Дзяцёнак крэкчыць, нешта баліць у яго.* Судз.

КРАКТУНЫ' *мн.* Дзіцячая хвароба. *Можа, у яго крактуны: грудзей ні бярэць, крэкчыць.* Слаб. *Ат крактуноў нада попілу разьвясьці і пакупаць у йім малога.* Навас. *Сьвякроўка мая ўмейіць аткідаць крактуны.* Судз.

КРАПІ'ЎКА[1] *ж. памянш.* да *крапіва. Крапіўка маладая паявілася.* Маж.

КРАПІ'ЎКА[2] *ж.* Хвароба скуры – крапіўніца. *Нейкая сыпка ў дзевачкі, можа, гэта крапіўка ў яе.* Слаб.

КРАПІ'ЎНІК *м.* 1. Пазашлюбнае дзіця. *Крапіўнік гэты мальчык, у дзеўках яна радзіла.* Судз. 2. *перан.* Кураня, выведзенае курыцай употай ад гаспадыні. *Гэтыя пісклiняты-крапіўнікі, ні хацела я садзіць, а курыца зробіла за дрывамі гняздо і выве́ла шасьцёра.* Арэх.

КРАПІ'ЎНІЦА *ж.* Дзяўчынка, народжаная па-за шлюбам. *Крапіўніцу гадуйіць, ня выйшла замуш, адна жывець.* Навас.

КРАХАВІ'ННЕ *н.* Жабурынне, жабіна ікра. *Мальчыкі-двайнючкі радзіліся, жывінькія рабяткі, як жабачкі ў крахавінні.* Судз. *Крахавінне ў вадзе, жабы водзюцца тут.* Арэх.

КРОМ *м.* Крайняя мяжа чаго-н., самы высокі пункт. *Люты – самы кром зімы, сама ў сілі маразы: дзень угару, а сьнех у зямлю.* Арэх. *Быў кром зімы, самыя халады якрас.* Чэр.

КРУГО'М 1. *прысл.* Вакол, навокал. *Кругом ціха, ні душы.* Кубл. 2. *прыназ.* Вакол. *Маладзён з маладухай кругом стала йідуць, а гарманіст йіграйіць.* Судз. *Авечка – кругом чалавечка, усё з воўны: кохты, йіспоткі, наскі.* В.Д. 3. *прыназ.* На працягу. *Кап пасадзілі радзіску пазьней, была п кругом лета.* Арэх.

КРУГЛАВІ'ДЫ *прым.* Круглатвары. *Ладная дзеўка, круглавідая.* Арэх. *Маладуха прыгожая, круглавідая, і маладзён відны.* Судз.

КРУТАСВЕ'ТНІК *м. асудж.* Няшчыры чалавек, махляр, круцель. *Гэты крутасьветнік хацеў замяніць нам пайку сена, добра, што агледзіліся.* Навас. *Муціць ваду крутасьветнік, абманам жывець.* Стар. *Век жжыў, а крутасьветнікам ня быў ніколі.* Судз.

КРУТУ'ШКА *м. і ж. асудж.* Легкадумны, ветраны чалавек, распуста. *Тут кіныў такую добрую дзеўку, а ў сьвеце нарваўся на крутушку: ні адзін ён у яе.* Арэх. *Прыстаў у прымы, апсмактаў маладзіцу, за гатовым жыў, а цяпер гэты крутушка махнуў некуды, зьехаў ад яе.* В.Д.

КРУЦЯ'КА *м.* і *ж.* Тое, што і *крутушка. А што ты думайіш – яму ні калёсы занасіць! Такі круцяка можыць кіныць жонку й дзяцей.* Арэх. *Наш сын ні круцяка які, совісны маліц.* Кубл. *Дзеўка йіх ні круцяка, здумляюць на яе.* Судз.

КРЫВАКЛУ'БЫ *прым.* Крывабокі. *І сама яна была крываклубая, і сын такі.* Арэх. *Крываклубы мушчына, ідзець, як пірагінайіцца.* В.Д.

КРЫВАТА' *ж.* 1. Крыўда. *З братоўкай дружна жылі, ні сварыліся: у ціснаце, ды ні ў крываце.* Арэх. 2. Хвароба, недамаганне. *Па такой крываце даўней жалі п, а яна ляжыць, стогніць.* Судз.

КРЫВО'СЦЬ *ж.* Тое, што і *крывата 2. Дужа далікатная! Каб мне твая крывось!* Міх. *Па такой крывосьці можна робіць!* Судз.

КРЫВІНДА' *м.* і *ж. зневаж.* Крываногі чалавек. *Ногі як вілы, крывінда, такі ўрадзіўся.* Слаб.

КРЫЖАВІ'НА *ж.* Ніжняя частка хрыбетніка. *Наробілася сягоння, аш крыжавіна баліць.* Навас.

КРЫЖАЎНІ' *мн.* Тканіна ў палоскі. *Даўней спадніцы с крыжаўнёў шылі, у чорныя і чырвоныя палоскі.* В.Д. *Выткала крыжаўні.* Судз.

КРЫПА'НКА *ж.* Гатунак цыбулі. *У нас расьцець цыбуля-крыпанка, у ей пер'е крыпайіцца, а ў простай – не.* Маж.

КРЫПА'ЦЬ *незак.* Начыняць фаршам. *Цэлы вечар кілбасы крыпала.* Арэх. *Хто табе пумагаў кілбасы крыпаць?* В.Д.

КУГА'КАЛА *м.* і *ж.* Малое дзіця, немаўля. *Ах ты, кугакала, сьціху на цябе німа!* Слаб. *Узяла на рукі кугакалу.* Арэх.

КУЗЛА'К *м.* Пасма, шматок. *Кузлакі кудзелі ліжаць.* Арэх. *Выцігнуў кузлак сена.* Чэр.

КУЗЛАЧЧО' *н. зб.* Кузлакі (пасмы, шматкі). *У воўні адно кузлаччо.* Арэх.

КУ'КА *ж.* Вялікі драўляны малаток разбіваць камякі зямлі. *Кукай паразьбіваў глыжы.* Чэр. *У сенцах вазьмі куку.* Арэх. ◊ ЯК КУ'КАМІ ЗБІ'ТЫ. Моцны, дужы, здаровы. *Мужык яе як кукамі зьбіты, здаравяка такі.* Чэр. *Лацно табе! Твой маліц здаравянны, як кукамі зьбіты, а наша дачка кволінькая.* Навас.

КУКАВЕ'ШКА *ж.* Патаўшчэнне на канцы палачкі, якой збіваюць масла. *Помню, маця б'ець масла, мы сядзім, глядзім, а як с кукавешкі кусочак зьляціць, на ляту хватайім.* В.Д.

КУ'КЛА *ж.* 1. Жменя закручанага збожжа, лёну на граніцы постаці. *Сабе сьвет лёну захапіла, а мае куклы трах-трах! – і вырвала.* Слаб. 2. Звязаны пучок нязжатых каласоў, што пакідалі ў час дажынак. *Сягоння ў нас абжынкі, куклу на полі завізалі.* Арэх. 3. Жаночая прычоска. *Сабрала валасы ў куклу.* Астр.

КУРГАНІ'СТЫ *прым.* Кусцісты. *Макрыца бала такая курганістая, а цяпер пасохла, даўно німа дажджу.* Слаб.

КУРДУ'К *м.* Нячыстая сіла, злы дух (звычайна ўжываецца ў кленічах). *Нялюбы, махляр, круцель, хай цябе курдук парвець!* Арэх. *А бадай цябе курдук задраў, як ты мой хвартух парваў, гэта мне татусь купіў, каб мяне Пятрусь любіў* (з песні). Міх.

КУСА'НАК *м.* Недаедзены кавалак чаго-н. *Пазьбірай гэтыя кусанкі і выкінь у вядро.* Судз. *Нідаела лусту хлеба, кусанак на стале валяйіцца.* Арэх.

КУ'ТНІК[1] *м.* Кутні зуб. *Кутнік балеў, вырвала.* Арэх.

КУ'ТНІК[2] *м.* Мужчына, які не мае свайго жылля, сваёй хаты, а кватаруе, здымае ў каго-н. пакой (куток). *Ён бабыль быў, ні кала ні двара, так кутнікам і жжыў век.* В.Д. *Ужо выйшаў Сьцяпан с кутнікаў, сваю хату майіць, і дзеці падрасьлі.* Міх.

КУ'ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая жыве ў падсуседзях у каго-н. *Кутніца Палашка ў бальніцы робіць, у сястры маей у Вушачы жывець.* В.Д. *Паслухай-шка, аткуль гэта бала тая кутніца, што пасьля вайны жыла ў вашай хаці?* Арэх.

ЛАБУДА' *ж.* 1. Трава, бадылле. *Да самай зімы хаджу й усякую лабуду зьбіраю – хоць на поцьсьціл карові будзіць.* Міх. 2. *перан. асудж.* Няўдаліца. *Лабуда нейкая, а ні лістаноска! Бувайіць, ужу спаць кладзёмся, а яна газеты нясець.* В.Д.

ЛАБУДЗІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, няпраўду, выдумляць. *Ні лабудзі ты, усякую ўсячыну зьбірайіш, бязьлепіцу нясеш.* Арэх.

ЛАБУЗА' *ж.* 1. Дрэнная трава, бадылле. *Усякай лабузы на зіму казе назьбіралі, усё пойдзіць.* В.Д. 2. *перан.* Нясмачная ежа, бурза. *Сама еш гэту лабузу, а я ня буду!* Арэх. 3. *м.* і *ж. перан. зневаж.* Неразумны чалавек. *Куды бяжыць гэны лабуза ў дошч ды яшчэ й кашолку цягніць?* Арэх. *Нічога разумнага ад яго ні пачуеш, лабуза!* Стар. *Што ты, лабуза, гаворыш пры малых?* Маж. 4. *перан. асудж.* Неразумная гаворка. *Лабузу нейкую вядзець, ня верці яму!* Слаб.

ЛАБУЗІ'ЦЬ *незак. асудж.* Тое, што і *лабудзіць*. *Ні лабузі ты, дзяцька, ні было гэтага.* В.Д. *Лабузіць і лабузіць, німа ў яго праўды.* Арэх.

ЛАБЫ'РКА *ж.* Бязрогая карова. *Карова ў йіх лабырка бала, ня выраслі рогі.* Стар.

ЛАВЭ'Р *м.* Беспарадак. *Калі ня прыдзіш – лавэр у хаці, ні прыбрана.* Судз. *Чаго вы носіціся? Вундзіка які лавэр зробілі!* Арэх. *Зьбегала йільнянішча зграбла, ні было калі прыбраць у хаце, лавэр.* Маж.

ЛАЙНО' *н.* Адзенне, бялізна. *З лайна, мусіць, усё ёсь у Мінску? Во, гляджу, на табе вязёначка харошая.* В.Д. *Які ён бацька! Лайна дзіцям ніколі*

*ні купіў.* Арэх. *Ні жалеюць дочкі лайна, бузуюць, а я дык кажынную адзежыну бірагла!* Шчарб. *Нялюцкая лайно! Можа, пашырыць гэту навалачку?* Судз. *Усе гэтыя лайны ўськінь на мяне, ні магу сагрэцца.* Стар.

ЛАЙНІНА' *ж.* Адна адзежына. *Лайніну якую нада купіць, абнасілася саўсім.* Арэх. *Кінь на печ гэту лайніну, хай сагрэйіцца.* Судз.

ЛАПАЦЕ'НЬ *м.* і *ж.* Балбатун (балбатуха). *Усюдых зь йізыком улезіць гэта лапацень!* Судз. *Няго ш у мяне йізыка німа, што той лапацень зьдзікацца з мяне будзіць, абзываць усяк?* В.Д.

ЛАПІ'КЛА *н.* Латка. *Уся ватоўка ў лапіклах, выкідаць пара.* Арэх. *Што ўзяць на лапікла?* В.Д.

ЛАПІ'КНА *н.* Тое, што і *лапікла. У гэтай тваей адзежыні лапікна на лапікні, хай будзіць на анучы.* Чэр.

ЛАПЧЫ'ВЫ *прым.* Прагны да яды, пітва, непераборлівы ў ядзе. *Лапчывы цялёнак, многа пойла выпівайіць.* В.Д. *Йшчы пупаўся парасёнак, лапчывы, што ні дай, дык зьесь.* Стар.

ЛАХАМІ'ДЗІНА *ж.* Парваная адзежына, лахман. *Ськінь сваю лахамідзіну, а то людзі засьмяюць.* Судз.

ЛАХА'НКА *ж.* 1. Балея. *У лаханцы купалі ўнучыка.* Міх. *Унясі сь сенцаў лаханку і ўлі вады.* Шчарб. 2. *перан.* Грыб кабылка. *Лаханкі папервасьці нада добра праварыць, а тады мачыць.* Судз. *Лаханкі вялікія разрастаюцца, сівыя такія мачонікі, як зрэжаш, корань чарнейіць.* Чэр.

ЛА'ХАРДЗІКІ *мн.* Ласункі, прысмакі. *Ты чаму ні ясі? Лахардзікаў табе хочацца?* Судз. *На адных лахардзіках жывець, капусты ці бульбы ня любіць.* Маж. *Здуроныя дзеці, на лахардзіках сідзяць.* В.Д.

ЛА'ХАЦЬ *незак.* Бегаць, насіцца без справы, як бы шукаючы чаго-н. *Чаго ён лахайіць па дзярэўні, яшчэ сьцягніць што!* Арэх. *Ня будзіць дабра зь дзяцёнка – дзень лахайіць лі хат.* В.Д.

ЛАХМО'ТКА *ж.* Старая парваная адзежына, лахмоцце. *Гэта ш я спраўлялася, кабана карміла, дык уськінула гэту лахмотку.* Міх. *Павыкідай свае лахмоткі!* Арэх.

ЛАЦНО' *безас.-прэд. сл.* Добра, выгадна, зручна. *Лацно цяпер: усё крамная купляюць, а мы даўней крыччу нат кроснамі сядзелі, усю зіму ткалі.* Судз. *Лацно ей: у дзяцькі на кварціры – ні ў чужых.* В.Д.

ЛЕ'ЖБІШЧА *н.* Сцелішча. *Наслалі на лежбішчы лёну – урадзіў сёліта.* В.Д.

ЛЕПШ'АЦЬ *незак.* 1. Станавіцца лепшым. *Падрастаюць і лепшаюць унукі, ні такія ўжо расколы, як раней.* Стар. *Агурочкі лепшаюць, адышлі пасьля сушы.* Арэх. 2. Папраўляцца, ачуньваць пасля хваробы. *Чужыя прыйдуць і патаюцца, ці лепшаю, а гэта свая, а ні праведайіць.* Судз. *Ня лепшаю я, каторы дзень пласточкам ляжу.* Астр.

ЛЕ'ШКА *ж.* Градка. *У нас сёліта агуркоў толькі адна лешка.* Арэх. *Пяць лешак цыбулі пасадзіла.* Навас.

ЛІПНЯ'НКА *ж.* Бочка, выдзеўбаная з кругляка ліпы, ліпаўка. *У дзеда нашага ліпнянка бала, зь ліпы выдзеўбалі бочку.* В.Д.

ЛІСТАВА'ТКА *ж. уст.* Паштальёнка. *Ліставатка пісьмо ат сына прынісла.* Міх.

ЛІСТАНО'СКА *ж.* Тое, што і *ліставатка. Адзін рас лістаноска чужоя пісьмо нам прынісла.* В.Д. *Тады нам лістаноска грошы прынісла.* Судз. *Спытайці ў лістаноскі, ці бала ціліграма.* Стар.

ЛІСЦІ'ВЫ *прым.* Ліслівы, хітры, які ўмее дагаджаць. *Лісьцівая маладзічка, умейіць з начальствам паладзіць.* Чэр. *Лісьцівы чалавек, да ўсіх падладзіцца.* Арэх. *У вочы – лісьцівы, хоць да раны прылажы, а пасьля нагаворыць на цябе.* В.Д.

ЛІСЦІНА' *ж.* Ліст. *Лісьціну трыпутніку прылажы – мігам выцігніць гной.* Арэх.

ЛІЧЫ' *часц.* Амаль. *Лічы ўсе прыйшлі, толькі дзяцькі ні было.* Шчарб. *Так труднінька мне было, лічы ноч ні заснула.* В.Д.

ЛО'ПАЎКА *ж.* Трэшчына на лязе касы пры няўмелым кляпанні, зазубіна. *Лопавак наробіў, ня ўмейіць яшчэ кліпаць.* Навас. *Набіў лопавак на касе.* Слаб.

ЛО'ПУХ *м.* Тое, што і *лопаўка. Лопухаў нагнаў, сапсаваў касу. Ня ўмейіш, дык ні бярыся кліпаць.* В.Д.

ЛО'СМАН *м. асудж.* Гультай, абібок. *Ужо каровак прыгналі, а лосман ляжыць.* Чэр. *Ніўдаліца, лосман, як яна зь йім жывець?* Судз. *Па хазяйству ні паможыць гэты лосман.* Міх.

ЛУГА' *ж.* Луг, шчолак з попелу, залітага варам. *Попіл варам аблівалі, лугу робілі.* Слаб. *Даўней лугой бяллё мылі.* Арэх. *Галаву памыла ў лузі.* Чэр.

ЛУ'МІНА *ж.* Палонка. *Луміну прасек, суды вады прынёс.* Чэр. *Луміна замёршы, нейік вады набраць.* Арэх.

ЛУ'МКА *ж.* Тое, што і *луміна. Прабілі лумку на возіры, добра будзіць ваду браць.* Арэх.

ЛУ'НКА *ж.* Тое, што і *луміна. Столькі лунак высек – і ні адна рыпка ня клюнула.* Чэр. *За ноч замёрзла лунка, схадзі ты прасячы.* Судз. ◊ ХОЦЬ У ЛУ'НКУ ГАЛАВО'Й. Пра цяжкае, безвыходнае становішча. *Троя сыноў з вайны ні вярнуліся. Як ей было – хоць у лунку галавой!* В.Д.

ЛУ'НУЦЦА *зак.* Праваліцца, трапіць у палонку. *Сьнегам засыпала лунку, ні відаць, вот ён і лунуўся, увесь мокры прыйшоў, цяпер ляжыць, гарыць.* Чэр.

ЛУ'НУЦЬ *зак.* 1. Прапасці, знікнуць. *Лунуў недзіка наш зяць – паехаў і німа.* Чэр. 2. Памерці. *Лунуў ужо, аттрудзіўся, бедны.* Слаб. *Ня лепшайіць наш дзет, мусіць, луніць скора.* Навас. *Бапка ўлогам ляжыць і мяне вымучыла, сама скора луну.* Арэх.

ЛУНЬ *м.* і *ж.* Неўраважаны, прыгнечаны, узрушаны чалавек. *Ходзіць гэты лунь, як пахаваў каго, і нам німа спакою празь яго.* Чэр. *У сястры гора – маліц ейны памёр, дык так узіла ў галаву, ходзіць, як лунь, сама ні свая стала.* Арэх. *Сядзіць, як лунь, зь людзьмі ні загаворыць.* Судз. 2. Неразумны чалавек. *Нідаразумелы чалавек, лунь: я з унучыкам малым, а ён мне бялета на аўтобус ні ўзяў.* В.Д.

ЛУНЯВА'ТЫ *прым.* Не зусім нармальны, дурнаваты, някемлівы. *Што гэта з вашым мальцам? Нейкі лунюваты стаў: гаварыла яму, што нада робіць, а ён як і ня чуў, сваё вядзець.* Судз. *Дошчачкі аднэй у яго ні хватайіць, луняваты.* Арэх. *Ходзіць, як сьцень, луняватая стала.* В.Д.

ЛУПА'ТЫ *прым.* Губасты, з вялікімі тоўстымі вуснамі. *Прывёс сабе аднекуль лупатую жонку, вусны вісяць, як грыбы.* Арэх. *Ніпрыгожы жаніх, лупаты, вусны вялікія, нялюцкі.* В.Д.

ЛУПА'ЦЬКА *м.* і *ж.* *зневаж.* Чалавек з тоўстымі вялікімі вуснамі. *Што ты лупы атвесіла' Лупацька ты!* Арэх. *Нейкі лупацька патаўся вас.* Астр.

ЛУ'ПІНА *ж. груб.* Губа, вусніна. *А што ў ей ладнага? Лупіна вісіць таўстая, ніпрыгожая дзеўка.* Судз. ◊ АДСТА'ВІЦЬ ЛУ'ПІНУ. Пакрыўдзіцца. *Табе слова наўпроці ні скажы, ацставіла ўжо лупіну, дужа крыўдлівая!* Астр.

ЛУ'ПЫ *мн. груб.* Вусны. *Уссыпала мне горкі парашок на лупы, дай мёду лізнуць!* Судз. ◊ РАЗВЕСІЦЬ ЛУ'ПЫ. Стаць няўважлівым. *Разьвесіла лупы й румзайіць.* Арэх.

ЛУПЭ'СЯ *м.* і *ж.* *зневаж.* Тое, што і *лупацька*. *Адзін сын па ей – вісоканькі, ладны, а другі пу бацьку – такі ж лупэся.* Арэх. *Лупэся пайшла.* Шчарб.

ЛЮБО'ВЫ *прым.* З праслойкамі мяса (пра сала). *Любовага сала паджар, у нас жа госьці.* Арэх. *Смашныя клёцкі зь любовым, сытых ні люблю.* Судз. *Любовага (сала) с сабой возьміш.* Астр.

ЛЮБАВІ'НА *ж.* Сала з праслойкамі мяса. *Самую любавіну сын узяў, а саланіны ня хочыць.* Арэх.

ЛЮДЗЁНАК *м.* Чалавек. *Тут людзёнак у нас быў, а там цешча ўсяк абзавець.* Навас. *Трактарыстам робіў, яго за людзёнка шчыталі, уважблі, а што ў сьвеці будзіць, нівядома.* Слаб.

ЛЮ'ШКА *ж.* Юшка (у коміне). *Закладай люшку, а то ахалодайіць хата.* Судз. *Дзеці люшку атлажылі – увесь дух выйшаў, німа ціпла.* Маж.

ЛЯ'ДА *н.* 1. Дзялянка высечанага лесу. *Там, дзе ляда, маліны добра парасьлі.* Кубл. *Даўная ляда, лес высеклі.* В.Д. 2. *перан.* Беспарадак. *У хаццы ляда, ні ўвайсьці, а дзявулля сядзіць.* Арэх. *Шумы поўна хатачка, цэлая ляда.* Судз.

ЛЯДА'ЕК *безас.-прэд. сл.* 1. Млосна, дрэнна, моташна. *Ня еш нашча бульбу: лідайік будзіць.* Арэх. *Ад грыбоў лідайік стала.* Слаб. *Ядуць нанач сала, а тады йім лідайік.* Стар. 2. *перан.* Дзіўна, непрыемна. *Ай, лідайік вас слухаць, гародзіці нісусьвеціцу.* Арэх. *Проста мне лідайік, як ты прытварайісься, на работу ня хочаш йісьці.* Кубл.

ЛЯДА'ЙКА *ж.* Млоснасць, моташнасць. *Нейкая лідайка напала, можа, ад дзяронікаў.* Слаб. *Як возьміць мяне лідайка, адразу п'ю соду.* Чэр.

ЛЯНУ'ХА' *ж.* Суп з гародніны, забелены малаком. *Капуста вырасла, можна лянуху варыць.* Чэр. *Наварыла лянухі: капуста, морква, малако.* Судз.

ЛЯНУ'ХА' *ж.* Ляжанка. *На лянусі спаў, цёпла было.* Чэр. *Пакладзі йіспоткі на лянуху, хай прасохнуць.* Навас.

ЛЯ'СКА *ж.* Кавалак мяса, масла, сала (звычайна прамавугольнай формы). *Свая, а хоць бы ляску сала дала нам за зіму!* Арэх. *Сколькі вы плацілі за гэту ляску (масла)?* Шчарб.

ЛЯЎША' *м.* і *ж.* 1. Ляўша. *Мужык ейны – ліўша, усё левай рукой робіць.* Чэр. *Баба была ліўша.* Міх. 2. *ж.* Левая рука. *Ты падумай – зь ляўшы так далёка мячык шпурляйіць.* Маж.

ЛЯЎША'Й *м.* Ляўша. *Дзяцька наш быў ліўшай.* Чэр. *Ён ліўшай, левай рукой пішыць.* Слаб.

ЛЯХА' *ж.* Градка. *Дзьве ляхі морквы пасейіла.* Арэх. *Ляху гуркоў унучка прапалола.* Судз.

*В.А.Саланевіч*

# З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ ВЁСКІ ЧУХАВА ПІНСКАГА РАЁНА[1]

БАЛАЛА'ЙКА[1] *ж.* Жоўты гарлачык. *Балалайка нывэлы'чка і над водою стырчы'ть.*

БАЛАЛА'ЙКА[2] *ж.* Дрэўка, якім стукаюць у бубен. *Як ху'ткій танец, то раз - рукою, дру'гій раз - балалайкою, а як повольный, то раз - балалайкою, два раз - рукою.*

ВОЛОЧЫ'ТЫ *незак.* Баранаваць. *Коб зробыты добрэ, волочыты трэба ў два чы ў тры слі'ды.*

ВУН *займ.* Ён. *Коб вун тобі здох, гэтой гусак! Як вун ужэ' мні впі'кса.*

ВПІ'КТЫСА *зак. перан.экспр.* Вельмі надаесці. *гл.*ВУН.

ВЫДО'К *м.* Знешні воблік. *На выдку' вона' хоро'ша, а на язычо'к - змія.*

ВЫ'ЛЬЧЫК *м.* 1.Верх стога, хлява, будынка. *Сніг, ге'бы шапка, лыжаў на выльчыку стожка.* 2.Вершаліна. *Ворона сыділа на самым выльчыку грушы.*

ВЫ'САДОК *м.* Капуста з чаранком, морква або буракі, пакінутыя для пасадкі на насенне. *На высадка покіда'ють бу'льшу морквыну, чырвоні'шого бурака, а капу'стынку - нывылычку.*

ВЫСЬЦЁБКА, ВЫСТО'БКА *ж.* Кладоўка. *У высьцё'бку й бульбу сы'палы, а ў кладоўку ге шчонь скла'далы.*

ВЭ'РОД *м.* 1.Высыпка. *На кур як хто боліе, то ны оно вы'да, а й тіло вэ'родом обсыплэ.* 2.Алергія. *Коля ха'йно хоть сто грам выпье, зразу на вы'ду чырвоный вэрод выступае.*

ВЯ'ЖЫЧ,УВЯ'ЖЫЧ *м.* Квадратны кусок тканіны з прышытымі да вуглоў таракамі. *Як сіялы, то торокі' ззя'звалы на'крыж, чэ'плялы на шыю - получавса сывны'к; носылы вяжычом сіно, солому, чы коробку, як шлы в ягоды; а як ідуть на полэ, чы на сіно, то цілу ну'шку навьязвають у вяжыч; з вяжыча'мы й до Пыньська ходылы по хліб.*

ГА'ХЛІ *мн.* Шасці- або васьміканечныя вілы з тупымі шарыкападобнымі канцамі. *Га'хлямы добрэ насыпа'ты буракі чы бульбу.*

ГАТ *м.* Запруда. *Га'том пырыгородьвалы рыку; у гату робылы*

[1] Вёска Чухава знаходзіцца прыкладна ў 30 км на паўночны ўсход ад Пінска, каля 1 км на паўночны захад ад возера Пагост, у 8 км. на захад ад мястэчка Пагост Загародскі.

*вукна і ставылы в йіх ныро'ты.*

ГЕ[1] *прысл.* Так, гэтак. *Мэнчый сын дрова сік ны ге, як старышый: і хучый, і трасок мэнч.*

ГЕ[2] *пыт.часц.* Ці так? *Ты правду кажэш, ге?*

ГЕ[3] *сцвярдж.часц.* Так. *Ге, ге, сынку, так і зробым, як ты кажэш.*

ГЕ'БЫ *прысл.* Быццам. *Ну, ня'кій ты вжэ зусім гебы малый: хто ж ге робыть?'*

ГЕНЬ, ОГЕ'НЬ, ГЕ'НЬЦЯ, ГЕ'НЬЦІКА *часц.* Вунь. *Кажуть "гень", як добрэ выдно' шчонь; "огень"- як далёко, еле выдно; "геньця"- як доказвають; "геньціка"- як точно ны знають.*

ГЛЫ'НЫШЧЭ *н.* Суглінак. *По глынышчу і жыто посіеш - нажнэш, і бульбу посадыш- накопаеш.*

ГОРА' *ж.* Гарышча. *Осыннюю батько роскладаў яблыка по горы, а на зы'му згры'баў у гурбочкі' і накрывав ла'тамы, то бувало, шчо й до новых долэ'жать на туй горы.*

ГОРЫ'Х *м.* Агрэх. *Кажэн гора'льнік дывыцца, коб горыха ны зробыты: як горэш з горыхамы, то ге й наростэ.*

ҐУМО'ВЦЫ *мн.* Абутак з кускоў гумы. *Як появылаcа в сылі ґума, то вжэ замест посто'лей шылы ґумовцы.*

ГУ'СКА *ж.* Белы гарлачык. *Гу'скі білые, лыжать на водді, а на' ноч закрываюцца.*

ДО ЖЫ'ТА Спосаб касьбы ў накірунку супраць нахілу сцяблоў. *Як одразу косыш до жыта, а потом одбываеш, то будэ склад.*

ДРА'БЫ *мн.* Лесвіца. *Наш кут, як шкоду зробыть, то зразу по драбах на гору' втыка'е.*

ДРАБЫ'НА *ж.* Бакавая дэталь воза. *До ручок прыставляюцца драбыны, а в сырэдыну наклада'й сіна, чы соломы, коб мякко сыдіты.*

ДЫВОВА'ТЫСА *незак.* Дзівіцца. *Ныма чого' дывоватыса: як дытятэм навучылы, тэе зарэ й получылы.*

ДЫВЫ'ТЫСА незак. Глядзець. *Ныя'к ны хочыцца гэтого тілівізора дывытыса.*

ДЭНЬ[1] м. Дзень. *Гэто ж ця'лый дэнь тра'було протырчаты на туй канавы з-за мысочкі йіршу'в.*

ДЭНЬ[2] *прысл.* Дзе-небудзь. *Положы ты гэтого замка' дэнь на полыцы, як трэба будэ, то найдыцца.*

ЖБУРНУ'ТЫ *зак.* Кінуць або адкінуць что-небудзь ад сябе ў стане нецярплівасці або злосці. *Посварылыса раз два хлопчыкі, а одын жбурнув другому жмэню пыску в вочы, да й побіг додому.*

ЖМАК *м.* Абярэмак, ахапак сена або саломы. *Як кто ду'жышый, то й жмака' бу'льшого во'зьмэ.*

ЖОВНІ'ТЫ *зак.* Бурчаць. *Жунка, як шчы молодая, то по-толку поговорыть, а як постарые, то будэ жовніты й жовніты.*

ЖО'РНА *мн.* 1.Жорны. *Нашы люды шчы й зарэ жорна мають.* 2.*перан.экспр.* Ягадзіцы. *О яка хвора: ныц ны робыть, оно ходыть по сылі' да жорнамы крутыть.* 3.*перан.* Бёдры. *Як ідэ, то суёгнамы шчо жорнамы мэлэ.*

ЖЫРЛО'[1] *н.* Адцягнутае ў час кляпання вастрыё касы. *Дядько прымосты'вса кай колодкі, забыв у йійі бабку, положыв на бабку ко'су і став злёгінька одтягваты жырло малым молоточком.*

ЖЫРЛО'[2] *н.* Джала. *Пчола як пэ'кнэ жырлом, то й опухнэ тэе місцэ.*

ЗА'ВШЭЙ,ЗА'ВШЭ *прысл.* Заўсёды. *Завшэй ходылы на моглыца на На'вскій Вылыгдэнь - у чытвэр по Вылыкодню.*

ЗАПОРО'ЖНІК *м.* Чалавек, які прыйшоў паглядзець на вяселле без запрашэння. *Кому тыпэр тэе вісілле інтірэснэ: запорожнікі прыходять оно' коб напытыса, да шчы й натяга'ты наза'втрэй.*

ЗАПОРО'ЖЖЭ *н.* Наведванне вяселля без запрашэння. *Ні'колы в запорожжэ шлы стары'йі і малы'йі, да ныхто ныя'койі водкі ны знав, а тыпэр ідэ мо'лодёж, да понапываюцца, да нымаві'сты шчо роблять.*

ЗАХО'ДЫТЫСА *незак.* Заходзіцца (ад смеху). *Як глянула Ганна на Гандрыя, шчо той заходыцца зо' смыху, то й сама' засмыяласа.*

ЗАХОДЯ' *прысл.* Спосаб касьбы ў накірунку нахілу сцяблоў. *Заходя косять на радок: пруйдэш радка і воро'чаесса, другого почынаеш знов стуль, скуль почынав пэршого.*

ЗДЫЛЯ'ЖЫТЫСА *зак.* Рвануць з месца і пабегчы. *Збоку нішчо зашасці'ло, а кунь як здыляжывса, то пьёр до са'мойі хаты.*

ЗНА'КІ *мн.* Маркёр. *Коб прамыйі радочкі булы, протягвалы знакі.*

ЗНАЧЫ'ТЫ *незак.* Знешняя прыкмета цяжарнасці (пра жывёл). *Тылу'шка почала значыты: покруглі'ла в боку'х, пото'ўшчала.*

Е *ас.ф.дзеясл.* Ёсць. *А чы ў тыбэ коцік е'*

КАЛЫ'ТЫ *незак.* Бяліць. *Пуд Вылыгдэнь завшэ калылы піч, грубу, сці'ны.*

КАРБІ'Ж *м.* Рубец. *Пугою по спы'ны як потягнэш, то карбіж выскочыть.*

КАЦЮБА' *ж.* Кульба. *Казав - ны ганяй на мацыкле'ту, от тыпэр ходыть з кацюбою, гебы дыдо'к старэ'нькій.*

КВЭ'ЛЯТЫ *незак.* Квэцаць. *Я ж тобі казала покалыты всю грубу, а ты оно знызу поквэляв.*

КЛУ'НЯ *ж.* Гумно. *Снопы в клуні лыжать, по'кі ны помолотять.*

КЛЫ'ПА *ж.* 1.Нага птушкі. *Кура кульга'е, можэ хтонь клыпу*

*пырыбыв*. 2.Пальцы нагі птушкі. *Подралы куры клыпамы радкі на загонах.* 3.Звараная нага курыцы. *Посмокчы от клыпу да й мовчы.* 4.*перан.* Нага чалавека. *Обуй ва'лёнкі, бо клыпы одморозыш.* 5.*перан.* Кісць рукі чалавека. *Чого ты тут розмахваеш свойімы клыпамы?'*

КОГО'НЬ *займ.* Каго-небудзь. *Як я тобі паганый, то найды когонь лішого.*

КО'ТЛЫ *мн.*(у спалуч. *на котлы*) На спіну. *Тато, возьмы мынэ на котлы, або на ручкі, а то ў мынэ вжэ ножкі' болять.*

КОША'ЛКА *ж.* Прыстасаванне для лоўлі ўюноў, сплеценае з тонкіх пруткоў конусападобна. *Тыпэр кошалкою рыбу ны ловають, гэто шчы нашы дыды йімы ловалы.*

КРУ'ТЭНЬ *м.* Звітая з сена вяроўка для замацавання сена ў стозе. *Крутня робылы тры чоловікі: одын тяг со стожка сіно, а два покрутьвалы, получаласа выровка; як пырыкінэш стожка на'крыж такімы крутнямы, то ныяка бура ны роздунэ сіна.*

КУ'МЛЯ *ж.* Кломля. *Тыпэр пуд кумлямы цыпынят чы гусынят годують, а рыбу ны ловають.*

ЛА'ТЫ *зб.* 1.Ношанае адзенне, звычайна, якое ужо не носіцца і выкарыстоўваецца ў побыце. *Чого гэтые латы валяюцца? Як носяцца, то трэба прыбраты, а не, то вынысты на гору, чы дыркі позатыка'ты в паціятах.* 2.Вырабы з тканіны. *Тютка Ганна на піч послала ла'тэй, коб цэгла ны пыкла і ны му'ляла бокі.*

ЛО'ПОТЭНЬ *м.* Нераўнамерна адцягнутае ў час кляпання карабатае месца на вастрыі касы. *Ну ты й ма'йстэр! Такого ло'потня зробыв.*

ЛУПАЎКІ' *мн.* 1.Лупіны (з бульбы). *Эх, коб у во'йну хоть лупаво'к такіх вволю було найі'стыса.* 2.Лушпінне. *Лупаўкі з гарбузыкоў выкіда'ють кура'м.*

ЛУПА'ЧКА *ж. экспр.* Няшчасце,бяда. *Шчоб на тыбэ лупачка вы'драласа!*

ЛУШПА'ЎКА *ж.* Завязь стручка гароху да з'яўлення гарошын. *Якій тобі зарэ горох, шчы'но одны лушпаўкі ві'сять.*

МАНТА' *ж.* Хлусня. *Хватыть тобі вжэ й мануты, надойіла твоя манта шо гу'рка рэдька.*

МАНТЮ'Н *м.* Хлус. *Знаем мы такіх мантюну'в, ты оно йіх слухай.*

МУТЮ'Н *м.* Хлус. *Постыды'вса б, мутюн: вовка вун поняв за хвоста*!

НАСІ'ННЫК *м.* 1.Пакінуты на насенне агурок. *Насіннык і ліпш пуд стрыху класты, коб вы'лыжалыса, бо на загоны мышы выбыруть, чы куры.* 2.Старая бульбіна, выкапаная разам з маладой. *Насіннык і з поля ны збырають, бо воны й для скотыны ядовытые.*

НА'ШЧО *прысл.*Навошта. *Нашчо тобі тыйі соткі? Коб ты хоть города обробыла.*

НОЧНЫ'ЦА[1] *ж. і м.* Лунацік. *Чого ты ходыш по хаты, гебы ночныца тая, люг бы да полыжав хоть крохі.*

НОЧНЫ'ЦА[2] *ж. і м.* Дух, які водзіць лунаціка. *Як чоловіка ночныца водыть, то нымо'жна крычаты на його, бо ўпадэ.*

НОЧНЫ'ЦА[3] *ж. і м.* Дух, які пужае малых дзяцей. *От оно діты спаты ляжуть, то вжэ й ночныцы ходять пуд вукнамы, а як на дытя нападэ, то ця'лу нуч нільга заколыхаты.*

НОЧНЫ'ЦА[4] *ж. і м.* Бяссонніца. *Няка на мынэ, мусыть, ночныца напала: до ранку ны можу заснуты.*

НЫРО'ТА *ж.* Лавушка для рыбы. *У ныроту рыбына за'йдэ, а выйты ны змо'жэ.*

НЫЎДО'БШЧЫНА *ж.* Няўдобіца. *Хоба' раз я плуга ламав на туй ныўдобшчыны: чы об корэнь, чы об камэнь.*

НЭ'ЧЭСЬ *ж.* Грубыя ільняныя ніткі з нячэсанага лёну. *З нэ'чэсі одэжы ны шылы, бо колюча була, оно на мышкі' полотно ткалы.*

ОБЗДРЫ'ЧЫТЫ *зак.* Абсмяяць. *А його хлібом ны кормы: дай оно когонь обздрычыты.*

ОБОРВА'ТЫ[1] *зак.* Парваць зубамі адзенне, пакусаць(пра сабаку). *Ны йды чырыз Карпов двур, бо собака оборвэ; можэ й ны оборвэ, то напужае.*

ОБОРВА'ТЫ[2] *зак.* Пакрыць балячкамі. *Няк осынню промок я до ныткі пуд дошчэ'м, то всэ тіло ску'ламы оборвало.*

ОБЦЭ'НЬКІ *мн.* Абцугі. *Добрэ гво'здя обцэнькамы вытягваты, алэ як муцно нажмэш, то можэ'ш пырыкусы'ты.*

ОДРА'ЗУ *прысл.* Спачатку. *Як прыйіхав, одразу выспавса, а потом росказав, дэ, шчо і як було.*

ОНО' *часц.* Толькі. *Усі зобра'лыса на врэмне, оно тыбэ трэба ждаты; тыбэ оно по смэрть посылаты.*

ОПУ'ЗНЫК *зб.* Доўгія галіны кустоў, дрэў, якімі прыкладваюць зверху стог. *Як ны хоч, коб ві'тёр роздув сіно, то прыложы опузныком.*

ОПУ'ЗЫНА *ж.* Доўгая гнуткая галіна, якая выкарыстоўваецца для ўтрымання сена на стозе. *Як одна голына, то казалы – опу'зына, а як дві чы бульш, то – опу'знык.*

ОПЫНА'КА,ОПЫНА'ЧКА *ж.* Плед. *Ні'колы бабы' быз опынакі й на сыло ны выходылы.*

ОТ злучн. Таму, таму што. Золотыйі рукі ма'е, от ы люды поважають.

ПА'НСКІЙ,СОЛО'ДКІЙ ГОРО'Х *м.* Гарох (сельскагаспадарчая культура ў адрозненне ад дзікага палявога гароху). *Солодкій горох зразу був оно ў пана, от ы прозвалы – панскій.*

ПАРСТЭ'НЬ *м.* Пярсцёнак. *У йійі всі пальцы ў парстэ'нях, а ты хоч, коб вона буракі тобі полола.*

ПАСТОЎНЫ'К *м.* Агароджанае месца на пашы для скаціны. *Колхозный статок усэ літо пасэцца на плошчаді, там коровэй і доять, а на ну'ч заганяють у пастоўнык.*

ПАЦІЯ'ТА *мн.* Франтон (-ы). *Паціята забывають зразу з обох бокув, бо як заб'еш оно з одно'го боку, а стры'ха будэ накрыта, то ві'тёр можэ й стрыху зодраты – бувало й таке'.*

ПЛАВУ'ШКА *ж.* Водная расліна, якая з'яўляецца на залітых вадою лугах. *О'ть як канава розолле'цца по вы'гону, догді й выростэ плавушка; стэ'лыцца по водді полу'скамы.*

ПЛЭ'ЧЫ *мн.* Спіна. *Ох, а ў мого' чоловіка плэчы гебы за'слонка.*

ПОЛОВЫ'ЦА *ж.* Маснічына. *У туй хаты, шчо продають, грыб ззів усі половыцы.*

ПОМОЧНЫ'К *м.* Падпасак. *Тыпэр быз помочныка важко, бо кругом поля з зылёным – усэ порозгорвалы.*

ПОТА'ПЦЫ *мн.* 1.Абрадавая страва на памінках з саладкаватай вады, хлеба (булкі або прасфоры і маку. *Як помоляцца, спы'тьвають потапцы – тры раз кажэн.* 2.Страва для дзяцей з малака і кусочкаў хлеба ці другіх мучных вырабаў. *Я всіх дытэй пот'апцамы на ногі поставляла.*

ПРЫ'КЛАД *м.* Надмагільны помнік у выглядзе бервяна. *Як похава'ють мырца, то до году ставылы крыжа і клалы пры'клада уздоўж на могілу, а як до году ны положыш, то ны клалы вжэ до трох.*

ПЫВНЯ'К *м.* і *ж.* Упэўнены ў чым-небудзь чалавек. *Мы'хал тыпэр ужэ пывняк: наробыв сіна на зыму.*

РАК *м.* Галіна, якая адыходзіць ад ствала дрэва. *Хло'пэц пудскочыв, ухопывса рукамы за ны'жнёго рака, обхопыв ногамы ствола, пудтягнувса до друго'го рака і заліз на яблонь.*

РАЧЧЭ' *зб.* Галлё. *Бач, як раччэ од грушэ'й погнулосо, коб хоть груша ны розодраласа, трэба, хоба пудпоры поставыты.*

РОЗБЫВА'ТЫ *незак.* 1.Дзяліць сенакос на участкі. *Васыль, чы ты чув, шо завтра пуйдуть на болото траву розбываты.* 2.Растрасаць (сена,гной). *Высною розбывають гнуй по полю, літом – траву, як вэльмы радкі товсты.*

РУ'ШЫТЫ *зак.* Пачаць памяншацца (пра месяц). *Учора шчы була повня, а гэтойі ночы вжэ рушыло.*

РЫПТЮ'Х *м.* Пяхцер. *А як тра'було дэнь да'лэй пойіхаты коне'м, то на оглоблю вішалы рыптюха: і кунь ны стояв, і голодный ны був.*

СКУЛЬ *прысл.* Адкуль. *Скуль ты, хлопчэ, прыйіхав?'*

СПРА'ВНЫЙ *прым.* 1.Руплівы, хуткі. *Ты бач на его, якій справный, ужэ й у мага'зін збігав.* 2. Здатны. *От у тыбэ дочка хва'йна: до любо'йі роботы справна.* 3.Дагледжаны, адкормлены(пра жывел). *Справный бычок був: гладкій, блыскучый – кіль дьвесце важыв.*

СПРАВУ'НКІ *мн.* Прэтэнзіі. *Ха'йно за'йдэ кура ў горо'д до сусіда, то одразу прыбыжать на справункі.*

СТРЫ'ПАЧ *м.* Мера ільну. 1.Валокны ільну пасля апрацоўкі на церніцы. *Брала ў жмэню лёну, ламала стрыпача на тэ'рныцы і клала до трыпа'чкі.* 2.Валокны ільну, узятыя ў жменю для аддзялення кастры. *После тэрныцы лён трыпалы на трыпацьцы: бралы стрыпача, клалы на дошку, да й трыпалы трыпа'лом.*

СТУЛЬ *прысл.* Адтуль. *Пойіхалы в ліс ранком, а вырнулыса стуль – ужэ тымніло.*

СТЫГНО' *м.* 1.Сцягно. *Сам малый, а сцёгна шчо ў кабана.* 2.Кумпяк. *Заб'е кабанчыка, кому - стыгно, кому - лопатку, а собі – голова, хвуст і рэбра.*

СУКУ'НКІ *мн.* Буркі. *Молодых ны заставыш сукункі наложыты.*

СЫВНЫ'К *м.* Сяўня. *За сывныка' бралы чы коробку з соломы, чы вяжыча чэ'плялы на шыю.*

ТРА'БУЛО,ТРЭ'БУЛО *у значэнні выказніка* Трэба было. *Трабуло ж тобі дра'бы поставыты, да ны хромы'тыса по ра'ках на тую грушу.* *гл.*ХРОМЫТЫСА.

ТЫЛЛЕ'М *прысл.* Пра баранаванне перавернутай уверх зубамі бараной. *Тыллем волочать, як дэ шчонь мі'лко посадянэ, чы коб порумнёваты зэм – полэ.*

ТЫЛЮ'К *м.* Гадавалае цяля. *Здав я тылюка' на базу.*

ТЫРЫБІ'Ж *м.* Ляда. *На тырыбі'жы', бувало, пэршого году бульбу садылы.*

ТЮ'СКА *ж.* Лучына. *Высо'ка, а худая, гебы тюска, шчо дро'ва пудпа'льваты.*

УЗНА'КІ *прысл.* Спосаб пасадкі бульбы. *гл.*ЗНАКІ. *На ны'зкому са'дымо ўзнакі, коб ны пудмочыло: клю'кою робыш ямочку і кладэш туды бу'льбынку.*

УРЭ'ЧНЭ (сі'но) *прым.* Скошанае каля ракі (пра сена). *Урэчного сіна корова ны хочэ йісты, як е мурожнэ чы трое'цке, бо в урэчному мныго рызаку'.*

ХВА'ЙНЫЙ *прым.* 1.Пяшчотны. *Бач, які́й хлопчык хвайный, як матэр шкодуе.* 2. Прыгожы. *Дівчына у йіх тожэ хвайна: ныма хору'шышойі в сылі.*

ХРОМЫ'ТЫСА *зак.* Нязграбна лезці. *Молодый і по ра'ках залізэ на дэрыво, а стары'й і по дра'бах будэ хромы'тыса.*

ХТО'НІК, ХТО'НЬЦІК, ХТО'НЬЦЯ, ХТОНЬ *займ.* Хто-небудзь. *Як ты ны во'зьмэш, то во'зьмэ хто'ньця.*

ЧОРНО'ЗІМ *м.* Зямля цёмнага колеру з прымессю торфу. *Ныма лі'пшойі зымлі за чорнозім: на чорно'зіму всэ добрэ ростэ.*

ЧЭ'РГА,ЧЭ'РОДЬ *ж.*Чарга. *На кому' осынню чэ'родь ста'ла, той высною й почына'е.*

ШВА'ЙКА *ж.* Шыла для рымарскіх работ, вырабаў з саломы. *Шылы швайкою хомуты, коробкі', ґумовцы, а шчы коло'лы каба'нчыка.*

ШЧЫ'НО *часц.* Толькі што. *Шчыно сонычко зышло, а Васылько ужэ з лісу грыбы нысэ.*

ШЭ'ЛЭКТ *м.* Козыт. *Дывкі мойі' вэльмы бояцца шэ'лэкту.*

*А.В.Трафімчык, В.Я.Чабатарэнка*

# СЛОВЫ З ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ КРУГАВІЧЫ ГАНЦАВІЦКАГА РАЁНА

Прысвячаецца бацькам аўтараў:
Яніне Канстанцінаўне і Віктару Адамавічу Трафімчыкам,
Тамары Уладзіміраўне і Яўгену Міхайлавічу Чабатарэнкам.

Вёска Вялікія Кругавічы знаходзіцца ў 14 км на ўсход ад Ганцавіч. Запісы мясцовай лексікі, якая публікуецца ў дадзеным артыкуле, зроблены ў 1998—1999 гг. Прыводзіцца таксама карта гаворак раёна. Пры яе складанні выкарыстаны апублікаваныя працы[1] і ўласныя назіранні. На тэрыторыі Ганцавіцкага раёна бытуюць тры групы гаворак: гродзенска-баранавіцкія (панямонскія), слуцкія і паўночнабрэсцкія гаворкі. Паўночнабрэсцкім гаворкам, у прыватнасці, характэрна óканне (вымаўленне тыпу *голова', молоко'*), дзеяслоўныя формы тыпу *ходзі'ці, піса'ці*, слуцкім гаворкам – сáканне (вымаўленне тыпу *нае'ўса, умы'ўса*) і інш. Гаворка вёскі Вялікія Кругавічы адносіцца да панямонскіх (гродзенска-баранавіцкіх) гаворак.

Словы: *гараты, гуліца, нігоднаго, атварог, ашчэ, локяць, ногяць, надто, недзі, гэдак, гадакі, гэдулькі* (сюды ж яшчэ, можа, "*дарэмня*"), адрозніваюцца ад літаратурных фанетычнымі асаблівасцямі ( так званыя нерэгулярныя фанетычныя з'явы).

Пракідаюцца дыялектызмы, якіх не адчуваю (напрыклад, *ткале*), таму яны засталіся без прыкладаў. Паколькі яны, бадай, ужо не выкарыстоўваюцца насельніцтвам нашай вёскі, рэканструяваць кантэкст не змог.

Некаторыя словы ў нас выкарыстоўваюцца нароўні з літаратурнай лексікай (прычым гэта не ўплыў, як мне здаецца): *ашчэ, жойка, запярэдзіць, трохо, чаго (чаму), здумаць.*

---

[1] Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, т. 1—5, Мн., 1993—1998. *А.А.Крывіцкі, А.І.Падлужны.* Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984. *Ф.Д.Клімчук.* Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. Мн., 1983.

АБГАНЯ'ЦЬ (КАРТО'ПЛЮ) *незак.* Акучваць (бульбу). *Бáцько ўзяў каня' абагнáць картóплю.*

АБІРА'ЦЬ (КАРТО'ПЛЮ) *незак.* Чысціць (бульбу). *На вячэ'ру наабірáлі картóплі.*

АБІРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Абстрыгчы нагола.

АБРО'ЖАК *м.* Нашыйнік. На паследню дзірку аброжак зацягнуў, а *Босы ўсё адно вылузваяцца.*

АБРЫ'ЗГЛАЕ МАЛАКО' *н.* Малако, якое пачало кіснуць.

АБРЫ'ЗГНУЦЬ *зак.* Пачаць кіснуць (пра малако). *Малако абрызгло – нельга есці.*

АВО', АВО'ЙДЗЯКА, АВО'ЙДЗЯКАВО' *прысл.* Вось, тут. *Ды твая' кни'га авóйдзякавó ляжы'ць.*

АВУ'НЬ, АВУ'НЬДЗЯ, АВУ'НЬДЗЯКА, АВУ'НЬДЗЯКАВО *часц.* Вунь.

АДЗЁЖА *ж. (зборны)* Адзенне.

АДНО' 1. *прысл.* Толькі. *Купи' аднó дзве бухáнкі хлéба.* 2. *часц.* Прыкладна адпавядае часціцы *-ка* ў рускай мове. *Сядзь аднó, раскажы', як усё былó.*

АДПЕ'РЫЦЬ *зак.* Набіць. *Не́кія бандзюгі сярэдня́ яго так адперылі, што два дні ні паднімаўся.*

А-Ё'-Я-ЁЙ! А-Ё'Й! Ё'-Я-Ё'Й! О-Я-Ё'Й! выкл. Ой! Выражае нечаканасць, здзіўленне, страх, розныя перажыванні і інш.

АЛЕ', НАЛЕ' *часц.* Так. *Налé, налé, праўду ты кажаш.*

А'ЛЯ 1. *злучн.* Але. *Сказáў, а'ля ні зрабі'ў.* 2. *выкл.* Ну. *Аля й пагóда сёння (сённячы)!*

АМЕ'ЦЬЯ *н. зборны.* Адходы па ачыстцы абмалочанага збожжа.

АПІВО'Ш *м.* Выпівоха, п'яніца.

АПРА'ТВАЦЬ *незак.* Прыбіраць, чысціць, прыводзіць да парадку. *У Чы'сты чацвер маці апратвала хату і надворак.*

АТВАРОТ *м.* Тварог.

АШЧЭ' *прысл.* Яшчэ.

БАЛЁН *м.* Трохлітровы слоік. *Сёння я аднó балён малакá надайі'ла ад сваёй цялу'шкі.*

БЕ'ГАЯ (КАРОВА) *цяп. час, незак.* Шлюбны перыяд. *Як нічого ні блытаю, калі карова пабегала, то скоро ёй ужэ тэрмін.*

БУХІ'КАЦЬ *незак.* Гучна кашляць з глыбіні грудной клеткі. *Бухі́каяш, як у кадý́шку.*

БЭ'БАХ *м.* Жывот (грубае, можа быць у чалавека і жывёлы). *Ну і бэбах у цябе вырас!*

ВАЛКАВ'ТАЯ (ПРА СЕНА) *прым.* Сыраватае. *Укіняш валкаватая се́но ў гумно, дык спарыцца, сапрэя.*

ВАРНА'ЧЫЦЬ *незак.* Бурчаць, надакучліва звяртацца. *Не варна́ч, бы малоя дзіця, куплю табе той магнітафон.*

ВАРУНЯ' *ж.* Стопка. *Трэ'ба ў варуні' прапалі'ць печку.*

ВІДУ'К *м.* Мак-самасейка.

ВО'БЕРАЦЬ *ж.* Вялікая луста.

ВО'ЛЬЯ *н.* Валлё.

ВУ'НЬДЗЯ, ВУ'НЬДЗЯКА, ВУ'НЬДЗЯКАВО' *часц.* гл. Аву́нь

ВУ'ЦІ-ВУ'ЦІ-ВУ'ЦІ *выкл.* Так клічуць качак і гусей.

ВЫДЗІ'РАЦЦА *незак.* Абзывацца мянушкамі. *Палучыць ён у мяне, як ашчэ калі выдзіра́цімяцца.*

ВЫ'ЗЫРЫЦЬ *зак.* Выглядзець. *А кантрольну ў школі я ўсё ж спісаў, вызырыў у суседа.*

ГАЙДА'ЦЦА, ГО'ЙДАЦЦА *незак.* Гушкацца.

ГАЙДЭ'ШКА, ГО'ЙДАНКА *ж.* Гушкалка. *Ні рабі' вялі'кай гайдэ'шкі, каб дзіця' не разбі'ласё.*

ГА'ЛЯ *ж.* Вольнае, адкрытае месца. *Ёлку вы'вярнуло бураю, бо яна на ўзле́ску ў га́лі стаяла.*

ГАРА'ТЫ *м.* Ратай.

ГАРУ'ШЧЫ *прым.* Гаротны. *Па такі'х бацька́х дзе́ці век гару'шчымі бу'дуць*

ГАРЭ'ЛКА *ж.* Запоіны, сватанне. *У іх ужэ' й гарэ'лка была́, дык ско́ро, зна́чыць вясе́лля.*

ГЛУ'МІЦЬ *незак.* Псаваць. *За два дні ро́вара зглумі'ў.*

ГО'ЙДАНКА *гл.* гайдэ'шка.

ГО'ЙДАЦЦА *гл.* гайда́цца.

ГО'СТРЫ *прым.* Востры.

ГРАДУ'С *м.* Баразна (пад бульбу і буракі). *Гэ'тым го́дам пасадзі'лі тры'ццаць до́ўгіх граду'саў карто́плі.*

ГРАМО'ЎКА *ж.* Звычайна стограмовая шклянка.

ГРЫВА' *ж.* Трава, што застаецца пасля няякаснай касьбы. *Які з яго касец, калі з праваго боку вяліка грыва застаецца.*

ГРЭ'БНУЦЦА зак. Упасці вобзем ці на падлогу. *Конь ні з таго ні з сяго дзёрнуў, дык я як грэбнуся з воза.*

ГУ'КАЦЬ *незак.* 1. Пра шлюбны перыяд у свіней. *Калі' сьвіньня гу́кая, кало́ць ні трэ'ба, бо свяжына́ бу'дзя ке́пска.* 2. Пра запой у п'яніцы. *А мой мужы'к зноў загу'каў.*

ГУ'ЛІЦА *ж.* Вуліца.

ГУСЬ *выкл.* Так адганяюць свіней.

ГЫ'ЛЯ *выкл.* Так адганяюць гусей.

ГЭ'ДАК *прысл.* Гэтак.

ГЭ'ДАКІ *займ.* Гэтакі.

ГЭ'ДУЛЬКІ *займ.* Столькі.

ДАЛЬБО' *выкл.* Далібог.

ДАРЭ'МНЯ *прысл.* Дарэмна.

ДАЎБЕ'ШКА *ж.* 1. Палка з тоўстым канцом. 2. "Недалёкі" чалавек.

ДЗЕВЯТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і прылятуха (гл. слоўнік).

ДЗЁНІКІ-ДЗЁНІКІ *выкл.* Клічуць парасят.

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ *выкл.* Клічуць свіней. *Я яму – дзю-дзю, а гэтая свінчо і вушамі ні вядзе.*

ДЗЯ'ЛКА *ж.* Участак сенажаці ці буракоў, што адводзіць звычайна калгас.

ДЗЯРНЯ'К *м.* Дзёран.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІЦА *ж.* Дзяцеліна.

ДРАБІ'НКІ *мн.* Лесвіца. *Драбі'нкі ў нас вялі'кія, а́ля гнілы'я, мо́гуць злама́цца.*

ДРО'МНЫ *прым.* Дробны.

ДРЫКО́ВАНЫ прым. Друкаваны. *Спярша мяне ба́цько навучыў пісаць дрыко́ванымі літарамі.*

Е *дзеясл. цяперашн. часу, незак.* Ёсць. *У мяне́ е я'блыко, а ў цябе́ німа́.*

ЖО'ЙКА *ж.* Жуйка. *Не́што карова перастала жо́йку жаваць. Мо хіба захварэла?*

ЗА ГЭ' *у знач. прысл.* За так, бясплатна. *Хату, можно сказаць, за гэ андаў.*

ЗАПУСКА'ЦЦА *незак.*, запусці'цца *зак.* (пра карову). Пра перыяд перад цяленнем, калі карова не доіцца. *Наша Зо́рка запусці'лася, ужэ да Каля'даў малака ні ўбачыш.*

ЗАПЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Апярэдзіць.

ЗАРА'ННЯ *прысл.* Загадзя, наперад, зараней. *У грыбы ста́ў зара́ння, каб ніхто ні апярэ'дзіў.*

ЗАЧАВІ'ЦЬ *зак.* Асвежаваць кабанчыка.

ЗБЫТКАВА'ЦЬ незак. Здзекавацца. Хо́піць збыткава́ць з мало́го.

ЗДЗІ'ВІЦЬ *зак.* Ссурочыць. *Відаць, нехто здзівіў нашу Зорку, зусім перастала малако даваць: цырканеш разоў пару – і ўсё.*

ЗДОР *м.* Затоўка.

ЗДРОК *м.* Кусачая муха, але не авадзень і не сляпак (гл. слоўнік). *Конь так панёс, нібы́то яго здрок укусіў.*

ЗДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. *Толькі як ехала дадому, здумала, што не купіла хлеба.*

ЗЕ'КРЫ *мн.* Вочы (грубае). *Чаго зекры вылупіў?*

ЗЗО'РЫЦЬ *зак.* Згледзець: угледзець, убачыць; упільнаваць каго-н., дагледзець за кім-н.; заўважыць што-н. *Грыб, каторага ззорыш, ні будзя расці.*

ЗО'ДА *ж.* Парашок для мыцця бялізны.

ЗЫ'РЫЦЬ *незак.* Глядзець (грубае). *Чаго ты зырыш, быццам ніколі ні бачыў.*

ІГЛІ'ЦА *ж. зборны.* Голкі з хваёвых дрэў.

КА'ДАЎБ *м.* Цэментнае кальцо ў калодзежы. *У нáшуй лагчы'ні калóдзясі ніглыбóкія – кадаўбóў пяць-шэсць.*

КАДДЗЕ', каздзé, каддзевó *прысл.* Толькі што. *Ён каддзé (каздзé) з работы прыйшоў. Я каддзевó вярну'лася з Гáнцавіч.*

КА'ЖАН, КА'ЖНЫ *займ.* Кожны. *Зáра кáжан дзень ў я'гады хажу'.*

КАЗА'К *м.* Амлет.

КАЛО'ДЗЯСЬ *м.* Калодзеж. *Цэ'лая лéто з-за дажджóў у калóдзясі вадá стая'ла нісмáчна, кóлькі яé ні вычэрпвалі.*

КАМЯКІ' *мн.* Тоўчаная бульба. *Люблю' паéсці камякóў з кі'слым малакóм.*

КАНЧА'Р *м.* Акурак. *Канчáр дзед вы'кінуў на пры'пяк.*

КАРБУ'НАК *м.* Ліха. *Карбунак яго ні возьмя.*

КАРО'МЫСЛО *н.* Моцная драўляная палка, да якой чапляецца плуг, прымацаваная лейцамі да хамута.

КАРТАПЛЯ'НКА *ж.* Бульбяны суп. *Мáці звары'ла прастóй картапля'нкі.*

КАЧУ'Р *м.* Самец качкі.

КВА'РТА *ж.* Мера аб'ёму роўная 0,5 літры. *Маслянка стаіць у квартовум слоіку.*

КВАС *м.* Страва з грыбоў ці сушанай рыбы.

КІЛА'ВЫ *прым.* 1. З кілою – грыжаю. 2. Няўдалы, няўмелы. *Футбаліст з яго кілавы: па пустых варотах мажа.*

КІЛЁЎКА *ж.* Прылада, якая выдаўлівае масла па кубіку з 1 кг.

КІ'ХА *ж.* Веласіпедная камера.

КО'МІНАК *м.* У рускай печы: тое на чым месціцца комін. *З-за комінка вызіралі гасцей дзве пары дзіцячых вачэй.*

КО'ПТУР *м.*: з коптурам, з каптуром. З верхам. *Сена прывязлі воз з добрым коптурам.*

КОСЬ-КОСЬ-КОСЬ *выкл.* Клічуць каня.

КО'СЬЯ *н.* Кассё.

КО'ТУХ *м.* Прыкладна тое, што і стóпка. *Кашы' пазнóсілі ў котух.*

КРЫВАЎНІ'К *м.* Крыва́ўнік.

КРЭ'СЛО *н.* Прарэх у штанах.

КУБЕ'ЛЯЦ *м.* Кубел. *У гэтум годзі зачавілі пару добрых парсюкоў, дык кубеляц ніколі ні пуставаў.*

КУ'ДАХА *ж.* Кепскае надвор'е з ветрам і дажджом ці снегам. *З-за ку'дахі цэ'лы дзень с хáты нóса ні вы'суняш.*

КУРА'Ч *м.* Курыца-гермафрадыт. *Курáч пойдзе ў суп, усёаднó (ўсёднó) з ягó тóлку німа.*

КУФА́ЙКА *ж.* Фуфайка.

ЛА'ТАЙ *м.* Лотаць.

ЛАХАЧЫ' *мн.* Буякі. *Прыцягнуў ажнó вядрó лахачóў.*

ЛЕ'СКІ *мн.* Лесвіца. *Каб залéзці на стог, спатрэ'біліся лéскі.*

ЛІТМА'НКА *ж.* Гатунак бульбы. *Літманака – гэто картопля такая: чырванавата, ружавата, вельмі смачна.*

ЛІЧА'Й *м.* Адтуліна ў жорнах для засыпкі зерня.

ЛО'КАЦЬ *м.* Локаць.

ЛУЖО'К *м.* Невялікая забалочаная мясцінка, што можа перасыхаць. *Лужóк зарóс лазóю, а былó ранéй аднó два кусты'.*

ЛУЧО'К *м.* Ручка на коссі. *Лучóк трэ каб быў на ўзрóўні пóяса, нáчай нязру'чно касі'ць.*

ЛЮБЛІ'ВАЯ, ЛЮБІ'ВАЯ (НА МЯСА) прым. Худое. Як парсюк быў нівартны, то й м'йя́со люблівая.

ЛЮ'ШКА *ж.* Юшка (у коміне). *Зарáння лю'шку закры'ў, цяпéр чáду на хáту найшло.*

ЛЯГА'РА *ж.* Драўляны брус, на які кладзецца “дзелавы” лес, каб не судакранаўся з зямлёю.

ЛЯДА'ЙКІ *прым.* Кепскі; пра чалавека – непаслухмяны, з кепскімі паводзінамі. *Зáра малады'я лядáйкія пайшлі'.*

ЛЯТУ'ЧКА *ж.* Будавая машына для перавозкі людзей. *Да райцэнтра папутнаю лятучкаю дамчаў.*

МАГІ'ЛКІ *мн.* Могілкі. *Пéрад свя'там сходзі'лі прыбрáлі магі'лкі.*

МАКАТЫ'РА *ж.* Галава (грубае). *Ве́чно сваю ты макаты́ру не́дзі ўсу́няш, каб разбіць.*

МАРЦУ'Я (АВЕЧКА, КОТКА І КАЗА) *цяп. час, незак.* Шлюбны перыяд.

МАСЛЯ'НКА *ж.* Малочнае рэчыва, якое застаецца пасля збіцця масла. *Маслянка на другі дзень ужэ нісмачна.*

МАЦЁРА *ж.* Свінаматка.

МАЦЯРДУ'ШКА *ж.* Травяністая лугавая расліна. *Насушы'ла мацярду'шкі – на ўсю зі'му ча́ю будзя.*

МЭ'ДЛЯ *ж.* Бабка са снапоў, укладзеных вертыкальна крыжам, каласамі ўнутр. *Мэдляў ні рабеця, бо іх залівая дождж.*

НАЙГРА'НАЯ (ЯЙЦО) *прым.* Аплодненае.

НА'КО злучн. Аднак. *От ты кажаш, што ў том інсцітуці цяжко вучыцца. Нако ж людзі вучацца.*

НАЛЕ' гл. але́

НАРА'ВІЦЦА *незак.* Падабаецца. *Так панаравіўся мне той хлопяц – спасу німа!*

НА'ТТО *прысл.* Надта.

НЕДАЛЭ'НГА *аг.* Недалуга, слабы, хваравіты чалавек. *З бальніцы ён выйшаў нівартным. Недалэнга, адным словам.*

НЕ'ДЗІ *прысл.* Недзе.

НЕ'КІ *займ.* Нейкі.

НЕ'МАЧКА *ж.* Глуханямая жанчына, дзяўчына.

НІВА'РТНЫ *прым.* Кепскі. *Сабака стары наш некі стаў нівартны, мусіць, скоро дойдзя.*

НІГО'ДНАГО *ліч.* Ніводнага. *З ранку на беразі возера прасе́дзяў, а нат ярша нігоднаго ні злавіў.*

НІ'ШЧАЧКАМ *прысл.* Ціхенька, акуратненька. *Хло́пяц ні'шчачкам прайшо́ў і сеў на сваё месца.*

НО'ГЯЦЬ *м.* Пазногаць.

НЭ'НДЗА *аг.* Песіміст, ныцік. *Перастань плакаць, нэндза, купім табе новую цацку.*

НЯБО'ГА *ж.* Пляменніца.

НЯБО'Ж *м.* Пляменнік. *Нябо́ж не на шмат мало́дшы за дзя'дзька.*

НЯМКО' *м.* Глуханямы мужчына, хлопец. *Нямка́ дзе́ці бая'ліся, гэ'то з-за яго́ стра́шнаго сме́ху.*

ПАВІ'ДНЫ *прым.* Зайздросны. *У староя ўдавы хата была зусім ніпавідна.*

ПАВУ'К *м.* Рыбалоўная снасць, якая складаецца з сеткі (каля 1м х 1м), падвешанай з дапамогай чатырох прутоў да доўгага кія.

ПАГО'Н, ПАГО'НЧЫК *м.* Заечая сцежка. *На паго́нчыках паста́віў пе́тлі на зайцоў , а тра́піла ліса́.*

ПАДА'Ч *м.* Вілы з доўгім чаранком. *Пада́ч і гра́блі ляжа́ць у гумне́ на вы'шках.*

ПАДБАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Падбіваць, падбухторваць. *Не падба́ўля'й чалаве́ка, каб бяды' ні было́.*

ПАДВАЛІ'НА *ж.* Першы вянок зруба. *Лес для падвалі'ны вы'бралі чым лéпшы.*

ПАДДУ'БАВІК *м.* Грыб-паддубовік. *У нас падду'бавікаў, ці як яшчэ кажуць, пóльскіх грыбóў, ні бяру'ць.*

ПАЛО' *н.* Крысо.

ПАЛЮ'Я (кабыла, сука) *цяп. час, незак.* Шлюбны перыяд. *Заўтра каровы пасвіць, а гэта сука палюя, мусіць, недзі.*

ПАМО'СТ *м.* Падлога ў свінуху ці ў хляве. *Каб сві'нні ні ры'ліся, бáцько паслáў памóст.*

ПАРНІ'К *м.* Жалезная печка з нішаю над топкай для гатавання варыва звычайна хатнім жывёлам. *У парнік бацько выліў брагу, замазаў крышку цестам з мукі і, калі разгарэлася печка, закапаў пяршак.*

ПА'РЫЦЬ *незак.* Варыць (бульбу, буракі). *Буракі' ўжэ спáрыліся.*

ПАСКУ'СТВО *аг.* Паскудны чалавек (сварлівае). *Ну ён і паскуство... Дня ні можа пражыць, каб што ні ўчвэрыць.*

ПАСО'ЛЯ *ж.* Фасоля.

ПАТАШО'ЎКА *ж.* Вялікая бочка. *Засалі'лі цэ'лу паташóўку гуркóў.*

ПАТРА'ЎКА *ж.* Страва з раскалочанай у вадзе мукі, мяса і (часта) сушаных грыбоў. Ядуць звычайна з картóпляй, камякáмі ці аладкамі.

ПАТРА'ЎКА *ж.* Страва (прыкладна тое, што і падліўка): мука на вадзе з мясам (часцей косткай), зваранае ў чыгуне ў печы.

ПАЎТАРА'ЧКА *ж.* Бутэлька 0,7 літры.

ПА'ХВА *ж.* Паха.

ПАШЧЭ'НКА *ж.* Сківіца.

ПЕРАЎЯ'СЛО *н.* Пярэвясла.

ПЕ'РЫЦЦА, ПЕ'РЫЦЬ *незак.* Зацята біцца (біць).

ПЛІ'ШЧЫЦЦА *незак.* Ціснуцца куды-небудзь паміж чым-небудзь. *Куды' ты плі'шчышся, і так мéсца німá.*

ПО'РТКІ *мн.* Штаны. *Дзіця' ўжэ з гэ'тых пóртак вы'расло.*

ПО'РХАЎКА *ж.* Грыб-порхашчка. Мясцовыя жыхары лічаць яе буслíным памётам, калі ён ужо высах. *Дзяцьмí вельмі ж любілі наступаць на порхаўкі, каб курэло.*

ПРАЎДЗІ'ВІК *м.* Белы грыб. *За кароўмі па ўзлеску пахадзіў, дык цалюткі кош праўдзівікаў нарэзаў.*

ПРАЎЦО'М *прысл.* У стаячым, вертыкальным становішчы.

ПРУ'ЖЫЦЦА *незак.* Напружвацца. *Як масаж робяць, трэба расслабіць цело, а ты пружышся.*

ПРЫ'БАЛАТУХА *ж.* Каўпак кольчасты, падбалацянка (грыб).

ПРЫБУДОЎВАК *м.* Прыбудова. *Сьвіну'х быў прыбудоўкам да хлява.*

ПРЫЌЛАД *м.* Надмагільны драўляны помнік у выглядзе бервяна. *У нас на магі'лках яшчэ е багáто пры'кладаў.*

ПРЫЛЯТУ'ХА (ЦІ РАДЗЕЙ ДЗЕВЯТУХА) *ж.* Тыдзень, калі прылятаюць з выраю птушкі, дзевяты па Калядах (праваслаўных) – з 5-га па 12-е сакавіка (у высакосны год – на дзень пазней).

ПРЫПРЫ'ЖЫЦЬ (КАЛАСКІ ЗБОЖЖА) *зак.* Падсмажыць. *У маленстві натто ж любілі прыпрыжаныя на агеньчыку каласкі шчэ нідаспелая пшаніцы.*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Прагна, часта, многа піць (ваду, малако). *Гóрачо, дык цалю'ткі дзень нічóго ні еў, адно ваду' пу'гаю.*

ПЯРЭЎБРЫНКА *ж.* Рабрынка.

ПЯЧО'РКА *ж.* Выемка ў печы. *Запалкі знойдзяш у пячорцы з боку печы.*

РЫЗЫКАВА'ЦЬ *незак.* зняваж. Выхваляцца, выстаўляць сябе. *Сёння мóда ў дзяўчáт – рызыкавáць у карóткіх спадні'цах; назоўн.* рызыкáнт, рызыкáнтка.

РЭ'ХВА *ж.* Металічны абручык, які разам з драўляным клінком мацуе касу на коссі. *Кóсья выразаў як раз па рэ'хві.*

САКЕ'РА *ж.* Сякера.

САЎСІ'М *прысл.* Зусім.

САХО'Р *м.* Вілы (на тры-чатыры зубы). *На сенакóс трэ'ба ўзяць сахарá з дóўгаю ру'чкаю.*

СЕ'ННІК *м.* Матрац, набіты саломаю.

СІВУ'ХА *ж.* Падзялёнка.

СКІ'РДА *ж.* Сціртa. Салому на зіму скідвалі ў скірды.

СЛЯПА'К *м.* Сляпень.

СМЕ'ХАМ *прысл.* Жартам. *Ён усё смéхам ды смéхам, а здэ'цца, ўжэ вялі'кі хлóпяц.*

СМЯЯ'ЦЦА *незак.* 1. Смяяцца. 2. Жартаваць. *Тóе, што я сказáў, ніпрáўда, я смяю'ся.*

СО'ТКІ *мн.* Участак, што адводзіць калгас звычайна пад бульбу.

СПРУНЖЫНО'ЎКА *ж.* Культыватар.

СРА'ЧКА *ж.* Тупы канец яйца.

СТАЛЬНІ'ЦА *ж.* Дошчачка для раздзелкі і прыгатавання ежы. *Хлеб рэж на стальні'цы, каб сталá ні псавáць.*

СТО'ЛАК *м.* Крэсла, табурэтка. *Сядзь пасядзі' на стóлку.*

СТРА'ЖНІК *м. Ляснік.* Калі бальшавікі ў трыццаць дзяўя́тум прыйшлі, то стражнікаў усіх да аднаго на Сібір пагналі.

СТРЭ'ЛКА *ж.* Кветканоснае сцябло цыбулі.

СУКА'ЙЛО *н.* Сукала.

СЦЯЖА́Р'Я *н.* Сцежар, канструкцыя звычайна з досак, аполкаў пад стог.

СЯДЫ'-ТАДЫ' *прысл.* Калі-нікалі.

ТАКВЕ'ЛЯ *прысл.* Столькі. *Такве́ля гро́шай ні ка́жны й заро́біць. Таквеля той бяды!*

ТАРОПІ́ЦЦА *незак.* Углядацца. Утаропіўся ў акно, быццам чаго там ні бачыў.

ТКА'ЛЕ *злучнік.* Усё ж, аднак.

ТРО'ХО *прысл.* Трохі.

ТРУПЭ'РНЯ *ж.* Трупярня.

ТРЭ'ЙЦІ *ліч.* Трэці.

ТУДЭ'МІ *прысл.* Тудою.

ТУДЭ'Ю *прысл.* Тудою.

ТУ'ПКО *прысл.* Мелка. *Бало́то мо́жно перайсці' ту'така, дзе ту'пко.*

УДУ'ХА *ж.* Цяжкі стан, калі не прадыхнуць, часта бывае пасля перапою – так званы бадун.

УНЬ, У'НЬДЗЯ, У'НЬДЗЯКА, У'НЬДЗЯКАВО' *часц.* гл. Авунь.

УТАРОПІ́ЦЦА *зак.* гл. Таропіцца.

УСЧА'ЦЦА *зак.* Пачацацца нейкай неардынарнай падзеі. *Што тут учало́сё пасля – словамі ні перадаць.*

УЦЯКЧЫ' *зак.* Уцячы.

ФЫ'РКАЛО *н. экспр.* Кіслае малако. *Гэ'тая фы'ркало ўжэ надае́ло.*

ХАБЗА'ЙНЯ *ж.* Сярэдняе прафесійнае вучылішча (сёння часта ліцэй), утворана ад абрэвіятуры колішняй назвы – ФЗН (фабрычна-завадское навучанне). *Яшчэ за маёй памяццю хадзіла показка: "Нейкія хлопцы ўначы ўвесь белы наліў паабтрэсалі". – "То ні хлопцы, то хабзайцы".*

ХАБЗА'ЯЦ *м.* Навучэнец хабзайні (гл. слоўнік).

ХА'БЫ *часц.* Хай бы, няхай бы. *Ха́бы ты цілівізар цішэй зрабіў – галава трашчыць.*

ХАДНІ'К *м.* Дарожка засцілаць у хаце.

ХАРМУ'ШКА *ж.* Страва. *У малацэ ці вадзе размочваяцца хлеб, можно з цукрам.*

ХА'ТА *ж.* 1. Хата. 2. Пакой у хаце. *Цілівізар стаіць у той хаці, а спімо ў гэтуй.*

ХВА'ЙНО *прысл.* Файна.

ХЛЯЎЧУ'К *м.* Невялікі хлеў (напрыклад, для свінняў ці ў якасці гаспадарчага складу).

ХРАМАЛІ'НА ж. Вакса. *Каб храмалінаю ні смярдзело, чысціць боты выходзь на двор. Даўнéй храмалі'ны ні быλó, дык бóты ваксавáлі ці дзёгцям, ці сáлам.*

ХРОСТ *м.*Прарослае жыта. *Гарэ'лкі расчыні'лі з хрóсту.*

ЦАДЗІ'ЛАК *м.* Тканіна для працэджвання малака.

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Цéпярся тóе быλó.*

ЦЁХ-ЦЁХ-ЦЁХ *выкл.* Клічуць жарабя.

ЦЫРА'ТА *ж.* Цэлафанавая плёнка. *Сéно накры'лі ад дажджу' цырáтай.*

ЧАГО' *прысл.* Часта ўжываецца ў значэнні "чаму?", "па якой прычыне?". *Чаго ты сюда прыйшоў?*

ЧАРЭ'Н *мн.* Цэлая палянка грыбоў. *Ведаю, дзе грыбы чаранамі сядзяць.*

ЧАРГА' *ж.* 1. Чарга. 2. Статак кароў вяскоўцаў, які пасвіцца імі па чарзе. *На той год у сяле будзя адно дзве чаргі. Старэюць людзі, дык цяжко ўтрымаць карову.*

ЧАТЭ'РЫ *ліч.* Чатыры.

ЧАЎПЦІ' *незак.* Сварыцца; дурэць. *Што ты чаўпéш сёння цáлыцалю'ткі дзень!*

ЧВЭ'РЫЦЬ *незак.* Рабіць нешта кепскае. *Рукі свярбя'ць, дык чвэ'рыць абы што цэ'лымі дня'мі.*

ЧО'РНЫЯ Я'ГАДЫ *мн.* Чарніцы. *Я дык з чóрных я'гадаў варэ'ння ні вару, а на гары' сушу'.*

ШКАДО'БНІК *м.* Які шкадуе (спачувае). *Так таму злодзяю і трэба, а ты ўздыхаяш – шкадобніх знайшоўся.*

ШО'ПА *ж.* Невялікая прыбудова да хаты, дзе гатуюць свінням ежу.

ШПРЫ'ХА *ж.* Спіца.

ШТА'ПІКІ *мн., адз.* штáпік *м.* Дошчачкі, якімі мацуецца шыба. *Хацéў вóкны дарабі'ць, ды шáпікаў ні было.*

ШУЛЯ'К *м.* Малы, з кулак качан капусты. *От, якáя там капу'ста, ні ўрадзі'ла, шулякі' адны'.*

ШЧАБЯТУ'ХА *ж.* Наступны пасля прылятухі (гл. слоўнік) тыдзень, на ім птушыным шчэбетам запаўняецца ўсё наваколле. *Парá выдалася такая халóдна, што і пташак ні чутно, быццам бы й ніяка ні шчабятýха.*

ШЧЫ'ТНІК *м.* Сівец. *Парóс усю'ды шчы'тнік – касá ні бярэ.*

ЯДЛАВЕ'Ц *м.* Ядловец.

ЯСЁНКА *ж.* Жаночае восеньскае паліто. *У канцы лета так зрабіласё холадно, што некаторыя ясёнкі панадзявалі.*

**Імёны**

АЗБЕ'ТА – Альжбета.
ГЭ'ЛЯ – Алена.
ДЗЕ'МКО – Дзіма.
ЗО'НЯ – Соня.
ІВА'Н, ЯСЬ, Я'НАК – у нас усе тры.
МІХА'ЛЬ – Міхал.
НАСТА'СЯ – Наста.
ТАКЛЮ'СЯ – Тэкля.
ЯРЭ'НЯ – Ірына.

**Мясцовыя назвы некаторых вёсак** (першай ідзе сучасная афіцыйная назва)

КРАСЫ'НІЧЫ – ЖЫДАВІ'ЧЫ (ужываецца нерэгулярна: раней па суседству існавалі дзве маленькія вёскі, КРАСЫНІЧЫ і ЖЫДАВІЧЫ, якія зліліся і сталі афіцыйна называцца КРАСЫНІЧЫ).

КУ'КАВА – КУКО'Ў.

МАЛЫЯ КРУГО'ВІЧЫ / КРУГАВІ'ЧЫ – МАЛО'Я СЯЛО', МА'ЛЫЯ (прыметнік – МАЛОСЯНСКІ, жыхары – МАЛОСЯНЦЫ).

НОВЫЯ АГАРЭ'ВІЧЫ – СВЕ'РЖАНЬ (сённяшнюю назву дала савецкая ўлада).

РАЗДЗЯ'ЛАВІЧЫ – РАЖДЖА'ЛАВІЧЫ (згодна з легендай, яе заснавалі разжалаваныя жаўнеры).

**Мясцовыя назвы жыхароў некаторых вёсак, мянушкі**

КАЛАТО'НЫ – в. Вялікія Круговічы.

КІТА'ЙЦЫ – в. Дзяніскавічы (паводле адной з версій, з-за вялікай нараджальнасці і колькасці жыхароў у нядаўнім мінулым).

МАРКО'ЎНІКІ – в. Шашкі.

ПАРЦІЗА'НЫ – в. Будча (шмат жыхароў з вёскі пайшло ў партызаны).

АЎСЯ'НІКІ – таксама в. Будча.

КРЫВАПЛЕ'ЧЫЯ – в. Мельнікі (там некалі быў дзядзька з крывымі плячыма).

ПАРАСЯ'ТНІКІ – в. Лактышы (вялікая ўвага (у параўнанні з суседнімі вёскамі) у гаспадарцы жыхароў той вёскі ўдзяляецца свінагадоўлі).




**Гаворкі Ганцавіцкага раёна**: I – панямонскія (гродзенска-баранавіцкія); II – слуцкія; III – паўночнабрэсцкія; - - - - - межы гаворак.

*Т.М.Трухан*

# ЛЕКСІКА ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

У падборку ўключана лексіка, запісаная аўтарам у жніўні 2002 года ад маці – Трухан Вольгі Георгіеўны, 1934 г.н.

АБАЗНА'ЦЦА *зак.* Памыліцца, прыняць за іншага. *Я, відаць, абазналаса, гэто ні Ганніна дзеўка.*

АБГНЮСІ'ЦЬ *зак.* Аблаяць, абгаварыць. *Така ўжэ натура, што бывае нізашто абгнюсіць.*

АБРЫСКЛЫ' *прым.* Абрызглы. *Маці п'е толькі абрысклое і кіслэ малако.*

АБЯРЭ'МЯ *н.* Бярэмя. *У мяне тые рáзы абярэмямі ўкроп цягаю.*

АДЗЕ'ТАК *м.* Адзенне. *Адзетку хватае, у кварціры ўсе пакупляно. Штоб у цябе быў добры адзетак і абутак.*

АДКЛА'Д *м.* Адклад. *Адклад ні йдзе ў лад* (прыказка).

АДУБЕ'ЦЬ *зак.* Моцна змерзнуць. *Прасéдзела ўсю ноч у хлявушніку – нанет адубела.*

АДХІЛІ'ЦЬ *зак.* Прыадкрыць, прыўзняць. *Як кіпіць жыр у каструлі, тады крышку атхіліць трэба.*

АЖЫВІ'ЦЦА *зак.* Добра пажыць. *Вот ажывіцца яна, калі ў калхозе рублей трыста, чатырыста палучыць.*

АКО'Т *м.* Акот. *Трэйці акот і ўсе баранчыкі нема аруць.*

АПА'ДАЧКІ *мн.* Ападкі. *Ападачкі с позніх яблык ападуць, я іх пазбіраю, патсушу і кампот звару, а яшчэ я вельмі люблю сушаныя дзічкі.*

АПА'ТРЫЦЬ *зак.* Памыць, прывесці ў нармальны стан. *Сам сябе ні апатрыць – лянуецца.*

АПЕ'ШАЦЬ *зак.* Стаць аслабленым. *Хвароба ў хаце была, то і сам апешаў.*

АПУСТО'ШЫЦЬ *зак.* Зрабіць пустым. *Апустош халадзільнік, штоб пусты быў, як барабан.*

АСЛАБАНІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць чыстай. *Хай гэту міску аслабоняць: ці самі з'ядзяць, ці свінням выкінуць.*

АСЛАБАНЯ'ЦЬ *незак.* Вызваляць. *Аслабаняй место, хай маладзёж робіць, колькі ты будзеш там сядзець?*

АСЛА'БІЦЦА *зак.* Станавіцца слабым. *Аслабляецца цело, калі доўго ляжыш, як нежывое становіцца.*

АСНО'ВІСТЫ *прым.* Гладкі. *Яна асновіста, а ні такая поўна.*

АХО'ТНІК *м.* Паляўнічы. *У ахотніка дым густы, да бет пусты* (прыказка).

БА'ВІЦЦА *незак.* Затрымліванца. *Ты як панясеш малако Мані, то ні баўса там.*

БА'НЬКА *ж.* Бурбалка. *Калі яшчэ банькі на лужах, то дож яшчэ ні скорэ перастане* (прыкмета).

БА'ЦЮХНО *м.* Той, хто ўдаўся ў бацьку. *Увесь бацюхно, хоць бы што ад мацяры ўзяў.*

БРУХМА'ТЫ *прым.* Брухаты. *Брухматы бык быў залетась.*

БЫВА'ЛЯШНІ *прым.* Былы, даўнейшы. *Бываляшні адзетак быў крапчэйшы.*

ВА'ДЗІЦЬ *незак.* Шкодзіць. *Бальному жывату і каша вадзіць* (прыказка).

ВА'РТ *прысл.* Варты. *Што ты варт цяпер бес каня, калі сілы ні пакідаюць, то дзяржаць трэба.*

ВО'ПУХ *м.* Апухласць. *Вопух у мяне па ўсёй руцэ пашоў.*

ВО'ТЛЯГА *ж.* Адліга. *Чаго таптацца ў вотлягу каля гэтаго гною, няхай лепш падмерзне.*

ВО'ЧЫ ЗАЛАЖЫ'ЦЬ Вочы закрыць. *Абы вочы залажыў, усе пашло кругом: стаў сніць усіх с канца сяла.*

ВУ'ПРАЖ *ж.* Збруя. *У каморы на кручку вісяла вупраж: хамут, лейцы, дуга.*

ВУ'ТКА *ж.* Качка. *Пражыла Феня за Алёшкаю, як вутка на вадзе.*

ВЫ'ВЯТРЫЦЦА *зак.* Выдзьмуць. *Высахло ўсе на свеце, вывятрало.*

ВЫ'ДЗЯРЖАЦЦА *зак.* Устрымацца. *Я хацеў плахое слово сказаць, да выдзяржаўса.*

ВЫКЛАДА'НКА *ж.* Посцілка, вытканая суконым утком. *Выкладанкі ткаліса портам, а выкладалі суконымі ніткамі.*

ВЯТКІ' *прым.* Які вядзецца. *Такіе цяпер грошы ні вяткіе.*

ГАРДАВА'ТЫ *дзеепрым.* Горды. *Ён скрозь як бы трохі гардаваты.*

ГІ'ЧНІК *м.* Бурачнік. *Бурачны гічнік добрэ зрэзвае машына ў сахарных буракох.*

ГЛЁЎКІ *прым.* Глейкі. *Харошэ цесто зрабіласо, но глёўке было, не патходзіло доўго.*

ГЛУМІ'ЦЬ *незак.* Псаваць. *Нашто глуміць м'ясо, калі яно ні салёнэ.*

ГО'ЦАЦЬ *незак.* Псаваць. *Хай гоцае машыну, згоцае – тады нову ён купіць.*

ДАСТАТНЫ' *прым.* Цікаўны чалавек, які любіць саваць нос куды не трэба. *Такі ўжэ дастатны: і ўсюды ён ўлезе, і ўсе яму трэба.*

ДАЎНЯ'ШНІ *прым.* Даўняшні. *Даўняшні хлеб чорны, яго ні можно ўкусіць.*

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Дзённы, атрыманы ўдзень. *Дзяняшне малако ў каморы стаіць, яно ні скісне.*

ДО'СТУПНО *прысл.* Даступна. *Тады ж гною было доступно, вазі колькі хочэш на гарот.*

ДО'СТУПНО *мн.* Кускі, дробязь. *Дрэбязкі ўсякіе паклала ў халадзільнік ат кабана.*

ДРЭ'БЯЗКІ мн. Кускі, дробязь. *Дрэбяскі ўсякіе паклала ў халадзільнік ат кабана.*

ЖАЎТЛЯ'К *м.* Перазрэлы агурок, насеннік. *Гурочнік пасохне, а жаўтлякоў свет ляжыць.*

ЖНЕ'ЎНІК *м.* Іржышча. *Жнеўнік кожну восень пераворваем.*

ЖЫ'ТНІЦЫ *мн.* Яблыкі, якія паспяваюць у час каласавання жыта. *Жытніцы -- ранніе яблыкі і смачныe, нешто цяпер звяліса.*

ЗАБА'ВІЦЦА *зак.* Затрымацца. *А як пойдзе куды, то ні забавіцца.*

ЗАБІ'ДЗЕЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Відаць, вельмо забідзеласа на брата, што вачэй ні паказвае.*

ЗАБІЖА'ЦЦА *незак.* Крыўдзіцца. *Ён на бацька забіжаўса быў трохі.*

ЗАБЛУДЗІ'ЦЦА *зак.* Збіцца з курсу. *Колісь як пойдзеш у чарніцы, то і заблудзісса, і натомісса.*

ЗАБЫТНЫ' *прым.* Забыты. *Усе прахадное, да ні забытное* (прыказка).

ЗАГАРО'ДКА *ж.* Адгароджанае месца. *Пашла, паглядзела і ў адно место, і ў другое; і адну загаротку, і другую – німа куры.*

ЗАДНІ'ЦЬ *зак.* Запаяць дно. *Выварка пацякла, трэба задніць і свінням добрэ бурачнік апарваць.*

ЗАДРАТАВА'ЦЬ *зак.* Уцягнуць у лыч свінні дроцік, каб ні рыла. *Задратаваць парасят трэба, штоб двор ні рылі.*

ЗАЙДРО'СНІ'ЧАЦЬ *незак.* Зайдросніць. *Еслі ты пенсію палучаеш большу, дак вродзе бы зайдроснічаюць, што ето чаму-то табе больш, а мне меньш.*

ЗАСА'Т *м.* Сховішча ў хляве для свінней і інш. *Мама свінку схавала ў хляве, зрабіла засат, накідала саломы.*

ЗАХАДЗІ'ЦЦА *зак.* Узняцца. *Вецер як заходзіцца, то ўсягда хмару нагоніць.*

ЗГА'ДЗІЦЬ *зак.* Надакучыць. *Так згадла, што насілу выдзяржаўса.*

ЗДРАТАВА'ЦЬ *зак.* Паразгрэбваць (грады). *Ты пусці курэй у агарот, то яны табе ўсе грады здратуюць.*

ЗЛО'МАК *м.* Непрыгодная, паламаная рэч. *Адные калёса на канюшні і тые зломкі.*

ЗМІРЫ'ЦЦА *зак.* Памірыцца. *Яны змірыліса і ні засудзілі аднаго.*

ЗНАК: ДА'ЦЦА Ў ЗНАК Надакучыць. *Сено мне цяпер асобо ў знак ні далосо.*

ЗНЕ'ХЦІЦЬ *зак.* Неўзлюбіць. *Іван жонку знехціў і яна сама пашла ад яго.*

ІНА'ЧАЙ *прысл.* Інакш. *Калі ён сам ні возьмецца за розум, то іначай нічого ні будзе з яго.*

КА'ЖНА: НА КА'ЖНАЙ МІНУ'ЦЕ. Увесь час. *Я на кажнай мінуце ў будацэ, уходжваюса.*

КА'ЛЬВА *ж.* Каліва. *Кальво ат кальвы на метру расце.*

КАПЕ'ЙКА *ж.* Капейка. *Хто капейкі ні шчытае за грошы, той і сам ні стоіць капейкі* (прыказка).

КАРАЎЯ'К *м.* Каравяк. *Мароз узяў і дажэ караўяк замёрз у хляве: і свіньскі, і кароўскі.*

КАРМА'Ч *м.* Чалавек, які падвозіць корм. *Цяпер ні кармачы, а валацугі, п'яніцы.*

КЛЫ'ПАЦЬ *незак.* Павольна хадзіць. *Паглядзі ты, яшчэ Пекарыха стара клыпае па загону.*

КЛЯ'ВІЦЬ *незак.* Клясці. *Клявяць усе яго: хабарнік, узятачнік.*

КЛЯКАТА'ЦЬ *незак.* Бурліць з шумам. *Малака папіў салоткаго, ужэ жывот клякочэ.*

КРАХАБО'Л *м.* Пра зайдроснага, прагнага чалавека. *Крахабол – аткуль ты грошы ўзяў?*

КРУГЛАВІ'ДЫ *прым.* З акруглым тварам. *Такі ўжэ харошы Коля: і поўны, і круглавіды.*

КРЫ'СА *ж.* Кавалак. *Крысу печані атрэзала і крысу лёхкаго ат каровы сабе, а больш нічого ні дала.*

КУРЫ'ЦЬ *незак.* Пускаць пыл. *Сено курыць, увесь у пылу, ідзі хоць адзетак вытрапі.*

ЛАХУ'ДРА *ж.* Неахайная жанчына. *У гэтае лахудры ніколі на галаве парадку німа.*

ЛІЦО' *н.* Твар. *Вот што значыць хвароба: Коля сразу падрабнеў у ліцы.*

ЛО'ПАЦЕНЬ *м.* Лапатун. *От лóпацень, хоць бы калі язык аддыхнуў, лапочэ без перастанку.*

ЛО'ПУШКА *ж.* Прылада біць мух. *Дзве лопушкі зрабіў, а ні адной знайці ні можно.*

ЛЕМАНТАВА'ЦЬ *незак.* Моцна крычаць. *Я ў крык, дай у голас, дай у плач – давай лемантаваць.*

ЛЯ'МАНТ *м.* Гвалт, шум. *Такі ўжэ лямант стаіць у хаце, аж на вуліцы чуваць.*

МАКАНУ'ЦЬ *зак.* Мачаць. *Я дзяржу вядро, то быцок макане разоў некалькі.*

МАТЫКАВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Матыкавала і адзін рас картоплі, і другі.*

МАЦЬ *незак.* Мець. *Каго слухай, але і свой розум май* (прымаўка).

МАРДА'СТЫ *прым.* Круглатвары. *Тоўсты, мардасты, з жыватом, от, відаць, жыве добрэ.*

МА'ТУХНА *ж.* Той, хто ўдаўся ў маці. *Уся матухна наш Коля: і пахожы, і характер такі.*

МЕ'РА *ж.* Стан. *Яна ні мяняецца, пасці ў адной меры.*

МЕ'ШАЛКА *ж.* Прылада для размешвання. *Вазьмі мешалку і добрэ картоплі патры ў выварцэ.*

МЕ'ШКАЛО *ж.* і *м.* Непаваротлівы, павольны ў працы. *Гэтэ мешкало будзе дзень калупацца ў дрывотніку.*

МІ'ГАМ *прысл.* Вельмі хутка. *Хто выбярэцца с хаты, а каго мігам засяляюць.*

МУЛЮВА'ЦЬ *незак.* Маляваць. *Што ты там мулюеш ужэ.*

МЯНТАВА'ЦЬ *незак.* Мянціць. *Мянтавала касу і сама касіла.*

НАВЫ'ЛЯТ *прысл.* Навылёт. *Пакуль прышла с канюшні, то навылят прамокла, трэба на печ лезці.*

НА'ДАЎГА *прысл.* Надоўга. *Ужэ ж кабанчыка німа, трэба што б мяса было надаўго.*

НАЖА'ХАНЫ *прым.* Напалоханы. *Як аткрыю вароцца – стаіць такая нажахана, такая напужана мая кура.*

НАЖМА'ЦЬ *зак.* Выціснуць. *Былі семкі, трыста кіло масла нажмаў.*

НАЙСЦІ' *зак.* Ісці не доўга. *Часы як стануць рэманціраваць, то так яны табе ўжэ найдуць.*

НАПРАМІ'К *прысл.* Напрасткі. *Ад нас на свінарнік можно напрамік трапіць.*

НАСТАЯ'ЦЬ зак. Настояць. *Яна вельмо ні настае ні на справункі, ні на што.*

НАТПА'СЦІ *зак.* Апусціцца. *Сонцэ так ні пячэ, яно ўжэ натпало.*

НАТУ'РЫСТЫ *прым.* Упарты. *Такі ўжэ натурысты, нізашто яго ні паправіш.*

НАЦЯМО'ЧКУ *прысл.* Перад ранкам. *Назаўтрэ нацямочку думаю: пайду яшчэ раз пагляджу куру.*

НАШТО' *прысл.* Навошта. *Нашто табе дзяржаць карову, ты хоць сама цягайса па гэтум двару.*

НЕЛАПЫ' *прым.* Велікаваты. *Нелапая ўжэ дзевачка была, як маці замуж ішла.*

НІДУ'Г *м.* Хвароба. *Бывае калі і нідуг, то перасіліць арганізм, калі пітанне добрэ.*

НІ'ШАЧКАМ *прысл.* Моўчкі, нішкам. *Нішачкам зрабі, як хочэш, штоб ён ні бачыў.*

НЯБО'Г *м.* Пляменнік. *Нябог нідалеко жыве, памагае сено касіць і картоплі абганяць.*

НЯБО'ГА *ж.* Пляменніца. *Нябога адна ў мяне і тая далеко жыве.*

ПАДДУВА'ЙЛА *н.* Паддувала. *Цэлэ паддувайло попелу, ты хоць печку ні тапі і дзверцы ні атчыняй.*

ПАДПА'Л *м.* Смаляныя трэскі для падпальвання ў печы. *Насячы патпалу, штоб было і ў печ, і ў печку.*

ПАДРАБЯ'ЗКІ *мн.* Адходы ад яды. *Ето ж вам ні ў горадзе, а ў дзярэўні ўсе падрабяскі то курам, то худобе.*

ПАДЦЫГЛЯ'СТЫ *прым.* Тонкі, сухарлявы. *Вельмі ж падцыглясты Віця, як яму німа чаго ні есці, ні піць.*

ПАЗАДНІВА'ЦЬ *зак.* Запаяць дно. *Хай бы ты пазаднівау вёдра, добрэ свінням даваць, гэтых лахмачоў хапае.*

ПАЗУБІ'ЦЦА *зак.* Прарасці (пра бульбу). *Наверх картоплі выцягні с пограба і яны пазубяцца пакуль сеяць.*

ПАЗМІРА'ЦЬ *зак.* Змерці. *Пазміралі ўжэ ўсе п'яніцы ў сяле.*

ПАЗЫ'ЧКА *ж.* Пазыка. *С пазычак усе ўрэм'е і ні вылазілі.*

ПАКІ'ДЗІШЧЭ *м.* і *ж.* Нікчэмны, ні на што не здольны чалавек. *Пакідзішчэ ты, а ні чалавек, ніхто с табою ні лічыцца і ні прызнае.*

ПАКРЫ'ШКА *ж.* Накідка для падушкі. *Пакрышкі пажаўцелі, парыжэлі за зіму, памый іх да яшчэ і падсінь.*

ПАКУ'ПАНЫ *прым.* Абліты. *Як травіла жукі, то была як пакупана ўся ат атравы.*

ПАЛАКА'ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Палакай добрэ простыні, штоб вада стала чыста.*

ПАЛЯЖА'ННЕ *н.* Ляжанне. *Штоб паляжання доўгаго ні было, штоб скорэ памерла.*

ПАНО'ЗДРЫЦЦА *зак.* Зрабіцца пульхным (пра хлеб). *Як пячэш хлеб у печы, дак ён паноздрыцца, да такі ўжэ смачны.*

ПАНЯ'ЦЦЕ *н.* Разуменне, разважлівасць. *Юля хітра дзёўчына, разборліва па яе паняццю.*

ПАПА'ТРЫЦЬ *зак.* Пачысціць. *Людзі самі сябе папатраюць: стануць на парох да ўсе парушынне с сябе пазметаюць.*

ПАСЛАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца саладзейшым. *Парэчкі паспелі і поўно пасладзелі.*

ПАЎВЫ'МЫЦЬ *зак.* Павымываць. *Паўвымато ўсе ў хаце – свіціцца, і старыя людзі жывуць.*

ПАЎМА'ТВАЦЬ *зак.* Выматаць. *Цяпер дзеці, то духі паўматваюць, што ні дай Божэ.*

ПАЎНО'ШВАЦЦА *зак.* Знасіцца. *Тые хусткі, што ты купляла ў Мінску, як-то быстро паўношваліса.*

ПАХАРАША'ЦЬ *зак.* Пахарашэць. *Красіва цяпер Тамара, кажацца, пахарашала, як і была.*

ПАХАЦЕ'ЦЬ *зак.* Моцна пахнуць. *Вясною так усе кругóм пахаціць, што, здаецца, і ў хату ні йшоў.*

ПАЦВЯЛЯ'ЦЦА *незак.* Дражніцца. *Чаго ты з етым сабакаю ўсе пацвяляесса?*

ПЕРАЕДЗІ'НЫ *мн.* Тое, што застаецца ад з'едзенага. *Цэлы катух пераедзін у каровы, выбрала і кабыле ў кармушку выліла.*

ПЕРАМЕ'Ж *м.* Месца, дзе мяняюць пасевы. *На перамежу засеяў аўса і хай расце.*

ПРАГО'НІЦКА *ж.* Прамежак паміж хат для праходу і прагону скаціны. *Прагоніцка была за мамінаю хатаю ў Грамаце.*

ПРАЗ *прыназ.* Пра. *І думаць ні буду праз гэту карову.*

ПРАКАЗВА'ЦЬ *незак.* Расказваць. *Мне праказвала баба, што сын памагаў радні, а яны і ні сустракаліса.*

ПРАЛЫ'СІЦЬ *зак.* Падмесці, памыць (падлогу) месцамі і абы-як. *Я праверу, як ты памыла падлогу, як толькі пралысіла – перамываць будзеш.*

ПРАМО'ВІЦЦА *зак.* Сказаць адзін другому непрыемнае. *Сюды я прыйшла ў пійсят трэйцюм гаду, дак у яе ўжэ і сын, яна радзіла сына пры мне, дак я тое дзіцятачко ні знала як глядзець і яе, браціху. І мы нікагда ні прамовіліса самі сабою.*

ПРАРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Прамовіць. *І слова аднаго нідзе ні прарэчыць.*

ПРАСАЛЕ'ЦЬ *зак.* Прасаліцца. *Сало добрэ з'есці, як яно прасалее.*

ПРА'СЛО *н.* Прасла, частка агароджы. *Прасло аткідаў, вазіў гной у агароччык коньські, увесь агароччык выслаў.*

ПРАСЦІРНУ'ЦЬ *зак.* Прамыць. *Я ў шампуні хустку, во як мыю голаў, прасцірну і доўго ні тру, ну яна ж ні такая граска.*

ПРУГЛО' *н.* Вочап. *Пругло старое, хаця б ні рассыпаласо, трэба будзе паехаць у Пажарніцу да выразаць.*

ПРУ'ДКІ *прым.* Лёгкі ў руках. *Феня ў руках прутка, як едзе на веласіпедзе, то я ні магу з ею з'ехацца.*

ПРЫГРЭ'БІЦА *ж.* Надбудоўка над пограбам. *У прыгрэбіцы ўсе дзешкі стаяць: і ж жытам, і с пшаніцаю, і ячмень там.*

ПРЫДА'ТНЫ *прам.* Прыгодны. *Хто прыдатны да зямлі, то добрэ.*

ПРЫ'ЛЕГА *ж.* Сырасць. *Прылегаю сено нясе да курыць.*

ПРЫ'ПАРКА *ж.* Прыпарка. *Тые годы после дажджу да прыпаркі, да пáра якая ідзе, а цяпер холадно.*

ПРЫСА'ДЖВАЦЬ *незак.* Спыняць. *Што ты будзеш прысаджваць яе, яна жалае вучыцца, хай вучыцца.*

ПРЫ'ЦЯМКАМ *прысл.* Калі яшчэ не сцямнела. *Пашла ў хату, пасядзела і ўжэ прыцямкам думаю: пайду праверу, мо дзе аткуль кура прышла.*

ПУЦ *м.* Сякера-калун. *Пуц у кожнаго гаспадара ёсь, як тоўстыя калоды калоць, то безь яго ні абойдзесса.*

ПЫНІ'ЦЬ *незак.* Рабіць усю работу па гаспадарцы. *Каця пыніць усе хазяйство, хоць і з бацькаваго году.*

ПЯРО' *н.* Ліст у цыбулі. *Пер'е цыбулі смачнэ, калі маладое і ні такое горке.*

РАДАВЫ' *прым.* Зроблены з грубай ільняной пражы, зрэбны. *Радавые посцілкі з ільну ткала , с прастога ільну, с кудзелі.*

РАЗМО'ЎНА *прысл.* Разборліва. *Размоўно так гаворыць, слухаць прыятно.*

РАПТО'ЎНА *прысл.* Раптам. *Раптоўно памерлі: і адно, і другое.*

РАПШЧА'ЦЬ *незак.* Наракаць. *А ўсё людзі рэпшчуць, ні ведаюць чаго хочуць, адно на аднаго.*

РАСКАРА'КА *м.* і *ж.*, *зняваж.* Той, хто ходзіць шырока расстаўляючы ногі. *Палядзі на яго ногі: шырокіе, крывые – раскарака кажуць.*

РЫ'ШЧЫЦЦА *незак.* Марцаваць. *Рышчыліса дзве кошкі разам, катоў было свет.*

РЭ'ПКІ *мн.* Чырвоныя буракі. *Рэпкі вельмо палезно для здароўя, я цяпер іх шмат сеям.*

РЭЧ: РЭЧ ПУСЦІ'ЦЬ. Падаць голас. *Прыдзе п'яны дамой, а жонка хоць бы рэч пусціла.*

САПЛАША'ЦЬ *зак.* Памыліцца. *Ён ні саплашаў бы, каб пашоў у веру.*

СВІНА'Р *м.* Чалавек, які працуе на свінаферме. *Дажэ ў нашум сяле свінар быў, у Няжараўцэ ён жыў ці ў Хацінаве, дак Кулеш фаміліе, с-пат Слуцка.*

СІБЕ'РНЫ *прым.* Злосны, дрэнны. *Такі сіберны наш Тузік, нікого ні прапусціць.*

СКАВАРО'ДНІК *м.* Праснак. *Як была маладзейша, часто пякла скавароднікі: яйцо ўваб'ю, смятаны, масла – вельмі добрэ.*

СКАЛЫХНУ'ЦЦА *зак.* Захістацца, загайдацца. *Будзе такая пагода, што ніщто ні скалыхнецца.*

СКВАРЭ'Ц *м.* Шпак. *Цяпер ні вельмо скварцоў відаць.*

СКРЫ'НЯ *ж.* Вялікі куфар. *Усе барахло пазбірала і ў скрыню паскладала.*

СКРЫПУ'ЧЫ *дзеепрым.* Рыпучы. *Скрыпучэ дзераво доўго скрыпіць* (пра хворага чалавека).

СЛЫ'ХІ *мн.* Слухі, чуткі. *Слыхі былі, што камбаін загнаў, ніхто нідзе ні знайшоў.*

СЛЯПЕ'НЬКІ *прым.* Няяркі (пра хустку). *Хусткі сляпенькіе купіла, кап хаця бобачкі да велікаваценькіе.*

СМО'ЛЬНА *прысл.* Моцна, настырна. *За цану жанчына так ні стаяла смольно.*

СО'НЦЭ *н.* Сонца. *Сонцэ зімою, як удовінэ серцэ, усё свеціць да ні грэе.*

СПА'ДАЦЬ *зак.* Парвацца, згнісці. *Плёнка на парніку зразу спадала ўвосень.*

СПАРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Стаць пустым. *Чорну каністру выліў – спаражніў.*

СПУСКА'ЦЬ *незак.* Мяняць зубы (пра карову). *Карова зубы спускае.*

СТАРЭ'ННЫ *прым.* Старанны. *Працавіты і старэнны такі мужык, і добры.*

СТАЎБУНЫ' *мн.* Кветаноснае сцябло цыбулі. *Цыбуля-зімка пайшла ўся ў стаўбуны.*

СТРАПНУ'ЦЦА *зак.* Скалануцца. *Страпнецца кура, штоб пясок абляцеў, у пяску мыюцца куры.*

СТРУПЛЯ'ТЫ *прым.* Струпаваты. *Моркаўка маленька да ўся струплята.*

СУХАВЕ'ТРЫЦА *ж.* Сухі вецер. *Сухаветрыца на вуліцы, можэ дажджу нагоніць.*

СХІСНУ'ЦЦА *зак.* Захварэць. *Хай ты схісніса, то ён цябе ні пашкадуе.*

СХО'ДЗІЦЬ *незак.* Сыходзіць. *Яна с аборы ні сходзіць, усе там і круціцца.*

СЦЯГА'Ч *м.* Валацуга. *А гэты сцягач дома ні стыкаецца.*

СЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Знясіліць. *Трэба на гэтым тыдні парасят атлучаць. А то добрэ свінню сцягнулі.*

СЯДНО' *прысл.* Усё роўна. *Я думаю: глядзі ты, кап сказаў ужэ ж цяпер і ні раблю нідзе, але сядно выдзіраюцца хусткі.*

СЫ'МШАНЫ *прым.* Сарваны. *Варатнік у сароцы сымшаны, як бацько барадою калючаю круціць.*

СЯНІ'НА *ж.* Каліва сена. *Калі якая сяніна ці саломіна ў кармушцэ, дык я выкіну.*

ТАПТАНІ'НА *ж.* Таптанне. *Ето толькі таптаніны больш с курамі, а толку мало.*

ТАРАНО'ЎКА *ж.* Вялікая шарсцяная хустка ў яркія кветкі. *Тарановак хапае і цяпер, хоць бы панасіць усе.*

ТАРКО'ВАНКА *ж.* Сырая драная бульба. *Цяпер німа ўрэм'я і таркованку спячы.*

ТКАНУ'ЦЬ *зак.* Уваткнуць. *Дзе я іглу ткануўла, вочы саўсім ні бачаць. Лапу ў воду ткане́, а ты воду пі.*

ТРАПІ'ЦЦА *зак.* Знайсціся. *Трапяцца паздымаць грошы, калі на кнішцэ застануцца.*

ТРО'ЎКА *ж.* Траўка. *Гляжу, ужэ праз сено троўка праскаквае.*

ТРУДНАТА' *ж.* Цяжкасць. *Трудната такая была, самім усяго ні хапало.*

УБО'ІНА *м.* і *ж. зняваж.* Гультай. *Гэта ўбоіна ні на што ні здатна.*

УГАШЧА'ЦЬ *незак.* Частаваць. *Хто б ні зайшоў у хату, то ні выпусціць, усіх угосціць.*

УДО'ВЕЛЬ *прысл.* Дастаткова. *Удовель яму есці ні даюць.*

УЗДУЦЦЕ *н.* Прыпухласць. *Як у каровы ўздуцце – мачыць анучу ў халодну воду і лажыць на бакі.*

УНУ'РЫЦЦА *зак.* Настойліва займацца чым-небудзь. *Унурыцца і дзень вышывае: то пакрышкі на падушкі, то просціны на ложак.*

УПА'ДВАЦЬ *незак.* Праціраццa, зношвацца. *Шта́пельные хусткі, як тые годы, то яны ўпадвалі як-то.*

УПІНА'ЦЦА *незак.* Супраціўляцца. *Ганна трохі ўпіналаса, ні хацела рабіць.*

УПРАГА'ЦЬ *незак.* Выпрагаць. *Удзень упрагалі коні на абет.*

УТА'ЛУВАЦЬ *зак.* Загубіць. *Ужэ ўталуваў быка – даў гарбуза з мукою.*

УТАПТА'ЦЬ *зак.* Пахараніць. *Утаптала Віцю, утаптала і зяця свайго.*

УЦІРА'ННІК *м.* Уціральнік. *Пайду мыцца ў бутку, а ты ўціраннік прыняці і плечы змый.*

ХА'ЛЕПА *ж.* Надвор'е са снегам і ветрам. *Як на халепу яку, то куры дзюбы пад крылья хаваюць* (прыкмета).

ХВАРО'БА *ж.* Хвароба. *Хваробы ўваходзяць пудамі, а выходзяць грамамі* (прымаўка).

ХЛЮПО'ТА *ж.* Сырое надвор'е з мокрым снегам або дажджом. *Куды ты гэтае хлюпоты пойдзеш?*

ХМАРУ'К *м.* Хмара. *Я ўжэ перасушвала валянкі, да нейкі хмарук находзіў і я іх на печ палажыла.*

ЦА'ЎНІК *м.* Цаўё. *Цаўнік тоўсты, харошы ў картоплях летась быў, а цяпер і цáўніку ні было.*

ЦЕ'ЛО: ЦЕЛО' ШЭ'РХНЕ. Становіцца шаршавым, пакрываецца бугаркамі. *Я як пагляджу цяпер на етэ о дзіцятко, як яно бегае, ето ж цело шэрхне, страшно пазіраць, ні дай цябе Гаспод.*

ЦЕ'РЦІСА *незак.* Церціся. *Перакінуў пузо тоўстэ, церцімецца штанамі ап печ усю ноч.*

ЦЫРБУ'Н *м.* Сцябліна. *Усе картоплі жукі паз'ядалі, ядныя цырбуны стаяць.*

ЦЯГУ'ЧЫ *прым.* Здаровы, дужы. *Такі цягучы быў Міша з Дарасіно, ніколі не думаў, што ён памрэ.*

ЧАРАДА' *ж.* Гурт людзей. *Чарада дзявок ідзе паўз клады – дарожкаю.*

ЧО'ШЧА *ж.* Цешча. *Чошчы яго гарадзілі плот увосень.*

ШАМЛЯ'К *м.* Няшчыльны качан капусты. *Шамлякі пракідаюцца ўвосень на агародзе.*

ШАЛЕ'СТАЦЬ *незак.* Шамацець. *Мы прыбеглі, чарот бальшушчы-бальшушчы, прыпалі і ето па два снапы яго нажалі і за плечы яго несці. А стораш быў, старажаваў жэ таго сенакосу. Цяпер мы як сталі шалестаць, а ён учуў, да як закрычыць моцно.*

ШАРАШЫ'ЦЦА *незак.* Поркацца ў пёрах (пра курэй). *Шарэшуцца куры, мо, глядзі, на які дош.*

ШАРГАНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, шпурнуць. *Галавою ў міску трэба шаргануць, штоп і ні падняўса.*

ШАТКО'ВАНКА *ж.* Шаткаваная капуста. *Кожны гот раблю шаткованку, дай ні па адной банцэ.*

ШАТНУ'ЦЬ *зак.* Скалыхнуць. *Вецер шатне жыто і палавіну ляжыць на зямлі.*

ШЛЯГ *м.* Край хусткі з узорам. *Паглядзі ў горадзе хустку, штоп са шлягам была.*

ШЧАХА'ЦЬ *незак.* Чэзнуць. *Етак і шчахацьме старая жанчына, калі помачы ні будзе.*

ШУГА'ЙКА *ж.* Жанчына, якая вельмі хутка ўсё робіць. *Валя прыляціць дамой, да яшчэ якая шугайка.*

ШУ'ПЕЛЬ *м.* Шуфель. *Набяры у шупель граўлю і аднясі курам, хай грабуцца.*

ШУ'РХНУЦЬ *незак.* Не рабіць ніякага шуму. *Мне цяпер ні шурхні з бальным серцам.*

ЯЗЫКА'СТЫ *прым.* Языкаты. *Такі ўжэ языкасты, хоць бы калі памаўчаў.*

*А.К. Усціновіч*

# КУПІСКІЯ СЛОВЫ

Дыялектныя словы, якія падаюцца ў гэтай падборцы, з'яўляюцца працягам папярэдніх публікацый, змешчаных у зборніках "З народнага слоўніка", с. 53-63; "Народнае слова", с. 236-241; "Народная лексіка", с. 41-49; "Жывое народнае слова", с. 105-114. У ранейшых артыкулах апісаны характэрныя фанетычныя і граматычныя асаблівасці мясцовай гаворкі вёскі Купіск, якая адносіцца да паўднева-заходняга дыялекту.

АДЗІНА'КАВЫ *прым.* Такі самы, аднолькавы. *Жыцце наша адзінакава: як тваё, так і маё.*

АДЗІЧА'ЦЬ *зак.* 1. Адзічэць, стаць дзікім. *Кот наш адзічаў.* 2. Трымацца асобна, не кантактаваць ні з кім. *Абешчык адзічаў за тры гады, што жыў далёка ад людзей.*

АДПЕ'РЫЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Адперыла хлопца за тое, што лазіў у чужы сад.*

АДПЭ'НДЗІЦЬ *зак.* Выправадзіць, адправіць. *Адпэндзіла я яго с хаты скоро, доўго ня вазілась.*

АДРАГАТА'ЦЬ *зак.* Шмат пасмяяцца. *Я сваё адрагатала, як была дзеўкаю, а цяпер толькі мукі адны засталісь.*

АДУЧЫ'ЦЬ *зак.* Адняць дзіця ад грудзей. *Адучыць дзіця ад цыцкі трэба да года, бо потым будзя цяжко, усё панімая.*

АД'Я'ДА *ж.* Сварлівы, надаедлівы чалавек. *Што ты хочаш ад мяне ад'яда, ясі ўсё жыццё поядам.*

АЛІГА'НТ *м.* Франт, фарсун. *Алігант круціцца перад люстэркам усё.*

АМАРЫКА'НЕЦ *м.* Той, хто жыве ў Амерыцы, ці той, хто пабыў там. *Амарыканяц жаніўся на маёй сястры.*

АПРА'ТНЫ *прым.* Акуратны. *Дзяўчына заўсёды чыстая, апратная ідзе ў школу.*

АРГАНІ'СТЫ *м.* Арганіст. *Як арганіста няма, дак і музычкі ня чуваць.*

АСІ'ПЦІ *зак.* Асіпнуць, стаць сіпатым. *Калі хочаш асіпці, пі ваду з лёдам.*

АСКО'МІНА *ж.* Аскома. *Зьела кіслаё яблыко, у раця аскоміна, ня магу нават хлеба ўкусіць.*

АЎСЯ'НІСКО *н.* Поле пасля аўса; аўсянішча. *Каровы ходзяць на аўсяніску, там трава добрая, а авёс быў марны.*

АЎЦА' *ж.* Авечка. *Наша адна аўца акацілась.*

БЕ'ЛКА *ж.* Вавёрка. *Бацька бачыў у леся белку.*

БЗДЗЮХА' *ж.* Мужчына і жанчына, якія псуюць паветра. *У хату ня зайсьці як бздзюха пабудзя: сакеру можна вешаць.*

БРАКАВА'ЦЬ *незак.* Не хапаць, не ставаць. *Вазілі сено прадавалі, гэта ш да хаты само прышло, а ня купіў, бракавала грошай.*

БРЭ'НДАЦЬ *незак.* Хадзіць, бродзіць без усякага занятку. *Не, кап хоць ягад прынёс, а то цэлы дзень брэндае па леся.*

БЭ'ЙБУС *м.* Дарослы, але гультаяваты хлапец. *Вырас бэйбус, а прыкідваяцца дзіцям, пестаю.*

ВО'СЬІПКА *ж.* Высыпка, сып. *На ўсём целя восыпка паявілась.*

ВО'СЬДЗЯКА *прысл.* Вось тут, зусім блізка. *Стох тут восьдзяка скідаям.*

ВЫГА'ДВАЦЦА *незак.* Абзывацца дрэннымі, зняважлівымі словамі. *Так хлопцы выгадваліся адзін на аднаго, што вушы вялі ад гэтых слоў.*

ВЫДЗІ'РАЦЬ *незак.* Брыдкімі непрыстойнымі словамі зневажаць каго-н. *Выдзіраў такімі словамі маці, што ніякава рабілася.*

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ *зак.* Выпакладаць. *Вылажылі жарабца даўно, а яшчэ і цяпер няздаровы.*

ВЫ'СЯРБАЦЬ *зак.* Сёрбаючы, выесці. *Увесь крупнік высярбаў з міскі.*

ВЯЦІНА'Р *м.* Ветэрынар. *Вяцінар прыходзіў глядзець хворую карову.*

ГАЛАПУ'ПЕЦ *м.* 1. Бедны чалавек. *А чым можа пачаставаць гэты галапупец, толькі картопляй.* 2. Малое дзіця. *Куды суняш нос, галапупяц.*

ГАМАНКІ' *прым.* Гаваркі. *Як гарэлку ў рот возьмя, то аткуль словы, такі гаманкі, што рады няма.*

ГАРАХАВЕНЁ *н.* Гарохавінне. *Гарахавенё парэсло ў гэтым годзя добраё.*

ГАРЭ'ЛІК *м.* Прыгарэлая зверху пры варцы бульба. *Гарэлікі як будзяш есьці, жвот ня будзя балець.*

ГРАДАВА'Я СЯРАДА' *ж.* Серада на тыдні перад Вялікаднем. *У градавую сяраду нельга гараць, бо град паб'е ўсё.*

ГРУБЕ'ЦЬ *незак.* Станавіцца больш тоўстым ад цяжарнасці. *Дзеўку ня пазнаць, раздалась, грубея.*

ГРУМЯКА' ДАЦЬ Надаваць кухталёў. *Такі неслух, а слухая толькі як грумяка дасі.*

ГУЗЯ'К *м.* Гузак. *Гузяк вырас на назе, да такі балючы, цяшко хадзіць.*

ГУ'КАЦЦА *незак.* Мець злучку з кабаном. *Сьвіня пачала гукацца, трэба весьці да кныра.*

ДАПІНА'ЦЬ *незак.* Да ўсяго даходзіць, дабірацца. *Яна да ўсяго пасьпявая дапяць: і ў лес, і за лес, і пагуляць.*

ДАЦЫ'БАЦЬ *зак.* Дайсці куды. *Лець дацыбала з лесу.*

ДЖВІР *м.* Жвір. *Поўнае волё ў вуткі джвыру.*

ДЖО'РГАЦЬ *незак.* Рэзка, моцна дзерці. *Крапівою сьпякла ногі, дак цяпер сядзіць і джоргая іх.*

ДЗЯЛЯГА'Т *м.* Дэлегат. *Дзялягата выбралі на сходзя.*

ДЗЁШАВО *прысл.* Танна. *Парася купіла дзёшаво.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* Смактаць. *З бутэлькі ня хацеў піць, а цыцку добра дундзіць.*

ЁЦКА *ж.* 1. Малое парася. *Ёцка, ёцка ідзі есьці.* 2. мн. Свінні. *Як мае ёцкі тут, трэба травы нарваць ім.*

ЗАДРАТАВА'ЦЬ *зак.* Падковай засячы заднюю мяккую частку капыта ці абадраць шкуру на назе капытом. *Няма як ехаць у лес, конь задратаваў нагу.*

ЗАДРЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Засвярбець. *Моцна задрэнчыла нага, трэба падраць.*

ЗАКУ'ТНІК *м.* Бедны, нелюдзімы чалавек. *Ня будзь закутнікам, выходзь да людзей за помачу.*

ЗАРЫДА'ЦЬ *зак.* Вельмі захацець, зажадаць, дамагацца ўсімі сіламі свайго. *Як зарыдала, кап купілі сукенку, то мусяла ісьці падбіраць, бо знала, што спакою ня будзя.*

ЗБЛУ'ТАЦЬ**Ошибка! Закладка не определена.** *зак.* Зблытаць. *Кот зблутаў ніткі, што былі ў клупку.*

ЗБУЗАВА'ЦЬ *зак.* 1. Змяць, пакамячыць дурашчыся. *Паглядзі, якава цяпер рубашка стала, збузаваў, што ня пазнаць.* 2. Знішчыць, патаптаць. *Коні збузавалі ўсё жыто: што з'елі, а што патапталі.*

ЗВАРУШЫ'ЦЬ *зак.* Зварухнуць, скалыхнуць, прывесці ў рух. *Як зварушыў часэ, так і Сталі Ісьці.*

ЗВАШАВА'ЦЬ *зак.* Скідаць, перакінуць у іншае месца. *Столько сена звашавалі ўдзьвёх.*

ЗНЭ'НДЗІЦЦА *зак.* 1. Змучыцца. *Дзеці знэндзіліся за дарогу.* 2. Зхуднець. *За гэтыя два тыдні пакуль я ня была дома, як знэндзіўся хлопяц, проста ня пазнаць.*

ЗЬВЕ'РГНУЦЬ *зак.* Нарадзіць раней тэрміну. *Карова зьвергла зімою, цяпер трохі дае малака.*

ЗЯКРА'ТЫ *прым.* З вялікімі выпучанымі вачамі. *Няхарошая дзеўка, бо такая зякратая.*

ЗЯХА'ЦЬ *незак.* Хацець таго, што ёсць у іншых, зайздросціць. *Чаго ты зяхаяш на чужое дабро'*

КАЎБЕ'ЛЬ *ж.* Вісячая калыска. *Дзіця з каўбелі вывалілось, дзеці ня даглядзелі.*

КАШАРЫ'ЦЦА *незак.* 1. Старанна мыцца. *Хваціць кашарыцца, сарокі на хвасьце панясуць.* 2. Прыбіраць, чысціць памяшканне. *Хату кашарыла дзень, пакуль да ладу ўсё давяла.*

КАРЦЕ'ЦЬ *незак.* Вельмі хацець. *Мне карціць пабыць у горадзя.*

КІЛУ'Н *м.* Мужчына, які хворы на грыжу. *Кілуну ня можна паднімаць нічого цяжкаго.*

КЛЯМА'Р *м.* Прыстасаванне, скаба для змацавання чаго-н. *Клямарамі зьбіваюць у плыця палены пасьля таго, як іх зьвяжуць віткамі.*

КО'РБА *ж.* Від свярдла. *Лягчэй цвік забіваць, калі корбай наробіш дзірак у паленя.*

КО'ЎТАЦЬ *незак.* Глытаць. *Горло баліць, так коўтаць нават ня магу воду.*

КРАНТ *м.* Кран. *Крант цячэ, вадышмат глуміцца пачом зра, рамантаваць конча трэба.*

КРЭ'ЙДА *м.* Мел. *Няма чым запісаць на дошцы заданё, крэйду сьпісалі.*

КУЛЁМ *прысл.* Стрымгалоў, як мага. *Як загарэлась хата і дым павярнуў, то с-пад Нёмна кулём ляцеў тушыць.*

ЛАБА'ЦІНА *ж.* Вялікі лоб. *Еш, ня крыўляйся. бо па лабаціне лошка паходзіць.*

ЛАЖБІ'НА *ж.* Лагчына. *У лажбіня добрая трава вырасла.*

ЛА'ДНЫ *прым.* 1. Добры, адкормлены. *Ладны кабан вырас, пара калоць.* 2. Дарослы. *Які ладны хлопяц вырас, хоць у беднаьці весь час жылі.*

ЛАЙДАЧЫ'НА *м.* Гультай, лайдак. *У лайдачыны ня баляць ні ручкі, ні плечкі.*

ЛАМА'ЧЫНА *ж.* 1. Зламаная палка. *Вазьмі ламачыну і адганяй карову, а то ў жыта зойдзя.* 2. перан. Няздольны чалавек да работы, няўмека. *Што ад гэтай ламачыны хацець: ні цьвік забіць, ні доску адгабляваць – нічога ня можа.*

ЛАПАТА'ЦЬ *незак.* Гаварыць без прыпынку, перапынку. *Якое здароўё мая яна, кап столькі лапатаць.*

ЛАПА'ТКА *ж.* Мяса з плечавой часткі тушы. *З лапаткі катлецікі смашнейшыя, чым са сьцягна.*

ЛАЎЧЭ'Й *прысл.* 1. Лепш. *Ён лаўчэй накідая гной. як дзеўка.* 2. Зграбна. *Лаўчэй есьці драўлянай ложкай капусту, чым жалезнай.*

ЛО'ГМА (ЛЯЖАЦЬ) 1. Неапрацаваная зямля. *Зямля ляжыць логма, атдыхнула, трэба гараць пачынаць.* 2. Без прасыпу. *Цэлы дзень логма ляжыць у пасьцелі, ня зварухнецца нават. Дзе сілы ўзяць, кап столькі спаць.*

ЛІПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Чуць жыць, дыхаць. *Няма здароўя, усё забрала хвароба, хіба гэто жыцё, толькі ліпіць.* 2. Трываць. *Туфлі парваліcь, падэшва ледзь ліпіць.*

ЛІЦАВА'ЦЬ *незак.* Перашываць на адваротны бок. *Паліто ліцавала, цяпер як новаё.*

ЛУ'КАТКІ *мн.* Ісці зігзагам. *Як нап'еuцa, дык ходзіць толькі лукаткамі.*

ЛУ'ПЫ *мн.* Вялікія тоўстыя губы. *Ня прасі нічога, бачыш як лупы надуў, ня дасьць.*

ЛУЧО'К *м.* Полка (палатно), нацягнутая на паўкруг і прымацаваная да касы для адкідвання аўса, ячменю, грэчкі пры касьбе. *Буду касіць авёс, малы вырас, трэба касу з лучком наладзіць.*

МІЗЭ'РА *м.* Малы, худы, нікчэмны. *Такі ўжо мізэра ўрадзіўся, што шкура і косьці.*

МІНУ'ЦІНА *ж* . Мінута. *Калі выдарыцца вольная мінуціна, я тады вышывала.*

МУ'КАЦЬ *незак.* Мыкаць. *У хляве галодная карова мукая, трэба сена даць.*

МУЧА'ЛЬНІК *м.* Мучанік. *Вот ужо за жыцё сваё нацярпеўся гэты мучальнік.*

МЭ'НКА *ж.* Мука. *Замужам было ня жыцё, а адна мэнка.*

МЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Мучыць. *Мэнчылі, каталі хлопца, як толькі маглі гэтыя ірады.*

НАГО'ЛО *прысл.* Нагала. *Галава была пастрыжана наголо машынкай.*

НАЛАМА'ЦЦА *зак.* Навучыцца чаму-н, прывучыцца да чаго-н. *Наламаўся гаварыць па-англійскі.*

НАРЫ'ЦА *ж.* Хвароба коней, пры якой на шыі, плячах з'яўляюцца прагніўшыя месцы. *Убілась нарыца каню на шыі.*

НЯЛЁГКАЯ (СІЛА) *ж.* Злая сіла. *Прынесла сюды няведама адкуль нялёгкая.*

ПАБУЦЬВЕ'ЦЬ *зак.* Ад сырасці падгнісці. *Пабуцьвелі падваліны ў хаця, трэба мяняць.*

ПАВАШАВА'ЦЬ *зак.* Многа і цяжка пакідаць што-н. *Павашавала зямлі пакуль пракапалі канаву, кап вада сышла.*

ПАГАЛО'ЎШЧЫНА *ж.* Падушны падатак. *За польскім часам плацілі пагалоўшчыну.*

ПАДВЯЧО'РКВАЦЬ *незак.* Есці перад вячэрай. *Падвячорквалі хлебам з квасам, больш нічога ня хацелась у такую жару.*

ПАДЦІНА'ЦЬ незак. Падпяваць тонкім голасам. *Сьпяваць, падцягваць тонкім галаском мелодыю.*

ПАЗЯВА'ЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Пара ўжо ісьці спаць, калі пачаў пазяваць.*

ПАРЫЗЫКАВА'ЦЬ *зак.* Пафарсіць. *Нядоўго ён так парызыкуя, калі будзя так сябе несьці.*

ПЕРАБО'РКА *ж.* Перабранне, выбіранне лепшага. *Сёння цэлы дзень будзя пераборка картоплі на насенё.*

ПЕ'РХАЦЬ *незак.* Пакашліваць. *Малака напары, напісь, то перастаняш перхаць.*

ПРАПШЫ'КАЦЬ *зак.* Распусціць (пра грошы). *Добрыя грошы зарабіў на сплавя, а па-пустому прапшыкаў.*

ПРЫ'ПАЦЕМКАМ *прысл.* Прыцемкам, на змярканні, тады, калі пачынае цямнець. *Канчалі кідаць стог прыпацемкам.*

ПРЫСТАРА'ЦЦА зак. Нарадзіць дзіця пазашлюбна. *Яшчэ будучы ў дзеўках прыстаралась дзіця.*

ПУСТАМО'Л *м.* Балбатлівы чалавек, пустабрэх. *Цэлы дзень рот ня закрывая пустамол гэты.*

ПУ'ТАНІНА *ж.* Блытаніна. *Пасьля яго расказу ня яснасць у галаве, а горшая путаніна.*

ПЫЛЯНЁ *н.* Кураня. *Пылянята падрэсьлі, скоро пярастануць хадзіць за курыцай.*

ПЫЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Шпурляць, кідаць. *Ажыны ня зьбірае, а пыляя каменё ў Нёман.* 2. Біць. *Пыляя яблыкамі дзяцей.*

ПЭ'РСТКІ *прым.* Нястрыманы, нявытрыманы. *Такі пэрсткі, што да трох ня гавары.*

РАСКІРА'КА *ж.* Раскарака., той, хто няўклюдна ставіць ногі пры хадзьбе. *На што яна варта гэта раскірака, калі нават пры хацьбе паміж нагамі воз праедзя.*

СМА'ЛЯЦ *м.* Гусіны жыр. *Смаляц памагае пры абмарожанні пальцаў, твару.*

САСТУПІ'ЦЦА *зак.* Сысціся, збегчыся пасля мыцця. *Саступілась сукенка, рады ня даць адзець.*

СМРОД *м.* Смурод, смярдзючы смуродны пах. *Трэба хату часцей праветрываць, а то такі смрод, што аш нос верня.*

СМЫЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Моцна стукнуць. *Адыдзі, ня лезь, ато як смыльну, дак аш скруцішся.*

СПАНАРА'ЎНЫ *прым.* Які прыходзіцца па густу. *Жаніcь толькі на спанараўнай дзеўцы, а ня на любой, кожнай.*

СПАРЫЖАВА'ЦЬ *зак.* Спаралізаваць. *Жанчыне спарыжавала ўвесь правы бок, ляжыць больш, чым рухаяцца.*

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Ня страмі яго, з яго нічога добраго ня будзя.*

СТРА'МНІК *м.* Сараматнік. *Хіба можна так брытко гаварыць, страмнік атпеты.*

ТРЫ'МКАЦЬ *незак.* Брынкаць струнамі. *Можа годзі трымкаць, давай іграй музыку.*

УВАМНУ'ЦЬ *зак.* З'есці шмат. *Увамнуў цэлы пірох, ня падумаў, што нехта яшчэ хоча.*

УВЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Натрудзіць да болю. *Увярэдзіш руку, ня хапай такімі вялікімі жменямі жыто.*

УСТУПІ'ЦЦА *зак.* Абуць што-н. хутка, устыкнуць на ногі. *Уступіўсь у галёшы і вышаў паглядзець ці паехалі начальнікі.*

ХЛЮ'НДРА *ж.* Няраха. *Нешта недзя зрабілось, што ў хлюндры чыстая хустка на галаве.*

ШЛЁГАЦЬ *незак.* Біць пугай. *Конь добра ідзе, можна ня шлёгаць весь час пугай.*

*В.М. Філосаф*

# З ГАВОРКІ ГОРАДА КАМЯНЦА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Горад Камянец (мясц. *Ка'мэнэць, Ка'мэ$^{ы}$нэць*) знаходзіцца за 40 кіламетраў на поўнач ад Брэста. Варыянтаў паходжання назвы некалькі. Найбольш распаўсюджаны: ад слова “камень”, якіх шмат было на тутэйшай зямлі. Годам заснавання Камянца лічыцца 1276, калі тут закончылася будаўніцтва Белай вежы – унікальнага помніка беларускага дойлідства. Статус горада Камянец атрымаў толькі ў 80-ыя гады XX стагоддзя. Да гэтага лічыўся паселкам гарадскога тыпу. Мясцовыя жыхары называлі яго *мі'сто*. У горадзе захоўваюцца (на вялікі жаль, знікаючыя, бо паміраюць старэйшыя жыхары) асаблівасці мясцовай гаворкі.

Гаворка горада Камянец адносіцца да брэсцка-пінскай групы гаворак. Найбольш прыкметнымі фанетычнымі і марфалагічнымі асаблівасцямі гаворкі з'яўляюцца наступныя:

1) На месцы націскнога **о* ў новых закрытых складах вымаўляецца [*у*]: *хвуст, кунь, вуз*.

2) На месцы **ѣ* (яця) пад націскам вымаўляецца [і]: *хліб* (хлеб), *хлів* (хлеў), *світ* (свет).

3) На месцы ненаціскнога **о* вымаўляецца гук "сярэдні" паміж [*у*] і [*о*]; абазначаем яго праз [*у*].

4) Зубныя і губныя зычныя перад этымалагічнымі **е*, **і* вымаўляюцца цвёрда: *дэнь, нэ'бо, пы'ты*.

5) Перад рэфлексамі *і, *е (абазначаем іх праз [*и*] і [э$^{е}$]) зычны [*л*] "паўмяккі": *ли'па, алэ$^{е}$'*.

6) Адсутнічае дзеканне і цеканне: *дід, тягну'ты*.

7) Прыстаўны гук [*в*] у словах *вун* (ён), *вуна'* (яна), але адсутнасць яго ў словах *о'кна* (вокны), *о'сынь* (восень)..

8) Наяўнасць канчатка *-а* ў назоўнікаў ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку: *ві'дра, о'кна*.

9) Ненаціскны канчатак -э у прыметніках ніякага роду: *до'брэ, тэ'плэ* (цёплае).

10) Формы назоўнікаў меснага і давальнага склонаў на *–увы*: *у кужу'хувы* (у кажусе), *у гуро'хувы* (у гаросе), *да'ты ба'тькувы* (даць бацьку).

11) Суфікс *-ш-* для ўтварэння вышэйшай ступені параўнання: *ны'шшый* (ніжэйшы), *вы'шшый* (вышэйшы);

А вось некаторыя лексічныя асаблівасці гаворкі г. Камянца:

БРАТ *м*. Хлопец, які трымае вянец над маладой пад час вянчання. *У мэ'і сыстры' за бра'та був ку'мув сын.*

ВАЛКУВА'ТЫ *незак*. Прагна есці. *Сыды'т вуна' і так хліб валку'е.*

ВЭ'РТЮХА *ж*. Посуд для вярчэння маку. *На Ко'ляду мы вжэ навырті'ли вэ'ртюху ма'ку ду куттi'.*

ГАЗУ'ВКА *ж*. Тонкая хустка. *Муя' ма'ты мі'ла тры газу'вкі і всі хуро'шы..*

ГО'ЛДА *м*. і *ж*. Вельмі высокі чалавек. *У ii' сын го'лда, чуть у двэ'ры вла'зыт.*

ГРА'НДА *ж*. Вялікая чарга, без парадку. *Мужыкі' стуя'ли за пы'вом спуку'йно, а по'сле пушли' на гра'нду.*

ГЛА'ДОК *м*. Блін з мукі. *Муя' ма'ты напыкла' по'вну мы'ску гла'дкув.* (Дранікі называюцца *гла'дкі картупля'ны.*)

ГУЛУМУ'ЗЫЙ *прым*. Светлавалосы. *Муй чулувi'к гулуму'зый, на'выть бро'вы бі'лы.*

ДЫВА'Н *м*. Адзінарнае тканае пакрывала, абавязкова ў клетку. *Муя' ма'ты натка'ла хуро'шых дывану'в.*

ЕСЁНКА *ж*. Асенняе паліто. *У мынэ' ныма' есё'нкі на о'сынь.*

ЖЭ'ШКО *прысл*. Горача. *У Ка'мэнці було' жэ'шко, і всі лю'ды пулива'ли гуруды'.*

ЗАКЕ'ВЛЯТЫ *зак. экспр*. Зарэзаць. *Муй ба'тько заке'вляв барана'.*

ЗУВЫ'ЦЯ *ж*. Сястра мужа, залоўка. *Ii' зувы'ця як ве'дьма, така'я зла'я.*

КАВЁ'Р *м*. Падвойнае тканае пакрывала з воўны. *У мэ'і ба'бы був такі'й хуро'шый кавё'р.*

КА'ПА ж. Пакрывала, купленае на ложак. *Я купы'ла хуро'шу ка'пу.*

КВА'ШЭЛИНЫ *мн*. Халодная страва з ножак, галоў, вушэй. *Мы навары'ли тры мы'скі ква'шэлин на Выли'кдынь.*

КОЦ *м*. Лёгкая коўдра. *У мынэ' е два ко'цы.*

НЫГІЛЮ'ЗА *м*. і *ж*. Недарэка. *Муй сусі'д такі'й ныгілю'за, ныць ны ро'быт.*

МО'НДРЫЙ *прым*. Спраўны чалавек, але больш языком. *Наш нача'льнік вэ'льмэ мо'ндрый.*

МІСТРЭ'НЯ *ж*. Вельмі стройная, прыгожая жанчына. *Муя' тю'тка як містрэ'ня, і удяга'іце вэ'льмэ хурушэ'.*

МУЛУВА'ТЫ *незак*. Цяжка працаваць. *Я всё жы'тте мулува'ла, а ныць ны зарубы'ла.*

МУТЫКУ'ВАТЫ *незак.* Хадзіць без сэнсу. *Наш сусі'д все мутыку'е пу гу'лиці, пугляда'е, коб хто вы'пыты дав.*

МЫТРЭ'НЬГА *ж.* Непрыемныя клопаты. *Все муе' жы'тте – ныспуді'вана мытрэ'ньга.*

МЫТУСУВА'ТЫ *незак.* Хадзіць няроўна, як выпіўшы. *Хва'тыт мытусува'ты пу гу'лиці, трэ'ба гуро'д пуло'ты.*

ПЛУМЫ'ЧОК *м.* Часопіс або брашура. *На'шчо ты ту'лько плумы'чкув накупля'ла!*

ПУМЛО'ДЫЙ *м.* Хлопец, які пад час вянчання трымае над галавой маладога вянец. *На высі'лли в на'шуго сусі'да за пумло'дыя був муй брат.*

ПУСТА'ВЫЦЬ *м.* Посуд для мыцця агуркоў перад саленнем, цэбар. *Навыбыра'ли пуста'выць гурку'в.*

ПО'СТЫЛКА *ж.* Саматканае пакрывала. *Муя' ма'ты тка'ла вэ'льмэ хуро'шы пустылкі'.*

ПУЛО'ВНЫК *м.* Хлеў, прыбудаваны да клуні. *У мэ'і ба'бы був хуро'шый пуло'вnык куло клю'ні, там стуя'ло тыля'.*

СВЫРО'НОК *м.* Невялікі драўляны будынак для захоўвання збожжа. *Був по'вный свыро'нок збуж'і.*

СІ'ТЫЙ *займ.* Гэты. *Сі'та ді'вчына муе'му сы'нувы ны па'ра.*

СПРЫНЖЫНУ'ВКА *ж.* Культыватар для глебы. *Купы'в спрынжыну'вку на туму' ты'жнювы.*

ЯТРО'ШКА *ж.* Жонка мужавага брата. *Жонкі' двух брату'в мы'жсы субо'ю – ятрошкі'. Вуна' мі'ла ятро'шку, до'брэ жыла' з е'ю.*

## Фразеалогія

КРЫ'МЫ, РЫ'МЫ, МІ'ДНЫ ТРУ'БЫ І ЧО'РТУВЫ ЗУ'БЫ (ПРУЙШО'В). *жарт.* Пра бывалага чалавека. *Вун і на вуйні' був, і на граны'ці служсы'в. Пруйшо'в і Кры'мы, і Ры'мы, і мі'дны тру'бы, і чо'ртувы зу'бы.* Сінонім: прайшоў агонь, ваду і медныя трубы.

ЛА'ЙЗЭРУВА КУРО'ВА. Пра чалавека, які не пільнуецца хаты, усё нешта шукае па свеце. Ад імя гаспадара (яўрэй Ла'йзэр). *У іі' хло'пыць як Ла'йзэрува куро'ва.*

НА ЖЫДУ'ВСЬКУГО ЮРЫЯ. Ніколі, бо ў яўрэяў няма свята Юрыя.

НА І'ЦЬКУВУГО СУБА'КУ. Пра бледнага, зморанага чалавека. Ад імя гаспадара (яўрэй Іцько ад Іцхак). *Звыла'ся вуна' з тэ'і рубо'ты на І'цькувуго суба'ку*

СТОВП КАМЭНЭ'ЦЬКІЙ ЗВАЛИ'ВСЯ. Здарылася нешта нечаканае. *Вун тыпэ'р прышо'в твыро'зый. Му'сыт, стовп Камэнэ'цькій*

*звали'вся.* [Стовп Камэнэцькій – Белая вежа, архітэктурны помнік, які ёсць сімвал вечнасці і непахіснасці].

ХОТЬ ПУД ВЭ'РТЮХУ МУЛУТЫ'. Пра чалавека невялІкага росту. *У іі' сын хоть пуд вэ'ртюху мулуты'.*

ЯК НА ДУЛО'НІ ВЫ'РУСТЭ ВУЛО'СЦЕ. Ніколі. *Вун іі' за'муж вузьмэ' як на дуло'ні вы'рустэ вуло'сце.*

ЯК СВІННІ' НАБЭ'ДРЫКІ. Нешта непатрэбнае, звычайна ў адзенні. Набэдрыкі – частка конскай збруі. *Юй ты'і пацё'ры пасу'ют як свінні' набэ'дрыкі.*

У Камянцы ёсць мясціна, якая называецца *Ле'йкувшчына* – урочышча ля гарадскога парку. Гэты мікратапонім, пэўна, звязаны з імем яўрэя Лейкі, які меў самую лепшую зямлю ў Камянцы.

З усяго можна зрабіць выснову, што Камянеччына мае цікавыя моўныя асаблівасці, якія патрабуюць вывучэння як у сінхранічным, так і ў дыяхранічным плане.

## Тэксты

* * *

Було́ то́е, як шчэ мынэ́ на світы ны було́. Так ма́ты мні каза́ла. Спав удён дід с сы́ном на пычі. Як вуны́ засну́ли, ба́ба взяла́ і шшы́ла нагавы́ці удному́ й дру́гуго. Як куто́рый хо́чэ пувырну́тыся, то тя́гнэ но́гу дру́гуго ду сыбэ́. Так і тягну́ли удне́ днуго́, пуку́ль ны вста́ли.

* * *

Як выхо́дыла муя́ ма́ты за́муж, вэ́чыром зубра́лися дывча́та і бабы́. Дывча́та рубы́ли вынo̍чкі. Всі були́ убра́ны, мі́ли бі́лы хусткі́ і бі́лы кофты́. Вуны́ мысы́ли ті́сто на курува́й, рубы́ли гусучкі́ (мале́нькі булучкі́). Як курува́й спычэ́цце, юго́ выносы́ли ду кумо́ры. На высі́лли брат (хто трыма́в вынця́) нюс туго́ курува́я на гулуві і клав на стул пы́рыд мулуды́мы. Курува́й дыли́ли для руды́ны, а руды́на кла́ла гро́шы.

* * *

(каравайная песня)
Сті́ны мы́гают,
Ла́вы двы́гают,
Пі́чка рыго́чэ,
Курува́й у піч хочэ.

* * *

І шумы́т, і гудэ́,
Дру́мный до́шчык ідэ́,
А хто ж мэ́нэ мулуду́ю
Ду думо́ньку завыдэ́.
Удузва́вся куза́к:
"На суло́дку мэду́,
Гу́ляй, гу́ляй, дывчыно́нько,
Я й дудо́му завыду́".
"Ны выды́ ты мэнэ́,
Ны прушу́ я тэбэ́,
Есть у мэ́нэ ли́хій муж,
Бу́дэ быты мэнэ́".

# РАЗДЗЕЛ II. НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

*М.П. Антропаў*

## ЛІНГВІСТЫЧНЫ КРЫТЭРЫЙ ДЛЯ АРНІТАЛАГІЧНАЙ СІСТЭМАТЫКІ І ГЕАГРАФІІ?

Хаця пытанне, вынесенае ў загаловак гэтага паведамлення, падаецца, на першы погляд, некалькі незвычайным, абсалютна новым яно усё ж такі не з'яўляецца. Не маючы поўнай інфармацыі аб даследаваннях, якія асвятляюць патэнцыяльныя ўзаемаадносіны лінгвістыкі і арніталогіі (няма, праўда, і ўпэўненасці ў тым, што яны такія ўжо шматлікія), зазначу нам вядомае – больш чым за паўвекавой даўніны манаграфію славацкага моваведа і арнітолага Оскара Фер'янса "Славацкія арніталагічныя найменні з ілюстрацыйным ключом для вызначэння славацкага птаства"[1].

Цяперашні зварот да гэтай тэмы выкліканы жаданнем больш дакладна высветліць сітуацыю з геаграфічным распаўсюджаннем *жаўны залацістай*[2] Merops apiaster L., якую, на наш погляд, былі падставы – і ў першую чаргу лінгвістычныя – уключыць у сістэматычны спіс птушак Беларусі нават раней, чым гэта зрабілі арнітолагі[3].

Вядома, што ўвядзенне новага віду ў сістэматыку таго ці іншага рэгіёна абумоўліваецца, па-першае, наяўнасцю ўзораў віду ў калекцыйных

---

[1] Ferians O. Slovenské ornitologické názvoslovie z obrázkovym kl'učom pre určovanie slovenského vtáctva. Bratislava, 1942.

[2] У айчыннай арніталагічнай літаратуры замацавалася поўнае запазычанне з адпаведнай рускай тэрміналогіі – *шчурка залацістая* (дарэчы, упершыню менавіта гэты тэрмін ужыў А. Супрун у артыкуле "Жаўна" у ЭСБМ, 3, 220) з яўна неўдалым па-беларуску *шчурка*. Таму падаецца, што лепш выкарыстоўваць уласна беларускі тэрмін *жаўна залацістая*, сутнасць (і дакладнасць) першай часткі якой будзе зразумелай з далейшага выкладання, другая ж з'яўляецца звычайным таксанамічным паліятывам.

[3] Упершыню птушка адзначана ў кн.: Никифоров М.Е., Яминский Б.В., Шкляров А.П. Птицы Белоруссии: справочник-определитель гнезд и яиц. Мн., 1989. С 250, – аднак яшчэ ў 1887 г. яна фіксавалася ў Палессі, гл.: Никольский А.М. Животный мир Полесья // Приложения к очерку работ Западной экспедиции по осушению болот 1873-1898 гг. СПб., 1899 (гэта сведчанне, якое раней лічылася абсалютна недакладным (гл., напрыклад, амаль негатыўную ацэнку указанай працы: Федюшин А.В., Долбик М.С. Птицы Белоруссии. Мн., 1967. С. 10), было "рэабілітаванае" толькі праз стагоддзе, параўн.: Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь: Рэдкія і тыя, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення віды жывёл і раслін. Мн., 1993. С.64).

матэрыялах, якія захоўваюцца ў адпаведных навуковых установах, і, па-другое, апісаннем яго ў навуковай літаратуры. Усё гэта, натуральна, прама тычыцца і арніталогіі. У адпаведнасці з названымі крытэрыямі на тэрыторыі Беларусі зараз налічваецца 305 відаў птушак, у тым ліку 225 тых, што стала гняздуюцца, а таксама адносна невялікая колькасць пралётных, зімніх і залётных[1]. Сярод апошніх ёсць, напрыклад, такія экзатычныя для беларускай фауны персанажы, як *пелікан*[2] ці *фламінга*[3].

Ужо два з паловаю дзесяцігоддзі таму назад арнітолагамі адзначаны "некаторая стабілізацыя і закончанасць інвентарызацыі арнітафауны рэспублікі"[4].

Між тым, уяўляецца, што ў дадатак да двух прыведзеных вышэй асноўных крытэрыяў можа быць высунуты дадатковы трэці, менавіта ж *народная памяць*, адлюстраваная ў мове, г.зн. фіксацыя ў ёй, перш за ўсё, зразумела, у дыялектнай, найменняў птушак (арнітонімаў), якія б адназначна, уласна – тэрміналагічна, паказвалі б на вызначаны від.

Добрай ілюстрацыяй заяўленага палажэння з'яўляюцца назвы Merops apiaster L., якія, на наш погляд, звязаны з лексемамі, што працягваюць прасл. **žьlna*.

Як правіла, да **žьlna* адносяцца найменні некалькіх відаў дзятлавых– звычайна жаўны (чорнага дзятла) Dryocopus martius L. і зялёнага дзятла Picus viridis L., а таксама івалгі Oriolus oriolus L. (значна радзей)[5]. Толькі ў заходнеўкраінскіх, а менавіта ў наваколлі Ковеля, што ўпершыню зафіксаваў

---

[1] Никифоров М.Е., Козулин А.В., Гричик В.В., Тишечкин А.К. Птицы Беларуси на рубеже XXI века: Статус, численность, распространение. Мн., 1997. С. 3-13, 164-172.

[2] Адзначаўся не толькі на поўдні, дзе б яго лагічна чакаць (Прыпяць і раён Рэчыцы па Дняпры), але і значна больш на поўнач – у 1860 г. у Барысаўскім і нават Лепельскім паветах; гл.: Федюшин А.В., Долбик М.С. Птицы Белоруссии. С. 213. Цікава, што ў 1982-1990 гг. ён рэгістраваўся ўжо чатыры разы, гл. Никифоров М.Е. и др. Птицы Белоруссии... С.24.

[3] Адзіны раз ён, паводле паведамлення мясцовага аматара прыроды А.М. Плакса, быў выяўлены ў 1961 г. у наваколлі в. Лань у Нясвіжскім раёне. "При попытках загнать ее вместе с домашними гусями в сарай, – пісаў аматар-карэспандэнт, – взлетела, поражая красотой своего розового оперения"; гл.: Там жа. С. 215.

[4] Долбик М.С. Ландшафтная структура орнитофауны Белоруссии. Мн., 1974. С.20 (з актуальнай заўвагай: "В последние два десятилетия состав птиц пополнялся за счет редких пролетных, а также залетных и *расселяющихся на гнездовье видов* [курсіў наш. – М.А.]"). Дзесяцігоддзем пазднейшы склад беларускай арнітафауны быў аўтарам удакладнены, гл.: Долбік М.С. Рэвізія саставу і размеркавання арнітафауны Беларусі // Весці АН БССР. Сер. біял. навук. 1985. С. 85-89 (але яшчэ без Merops apiaster L.).

[5] Больш падрабязна гл.: Антропов Н.П. Этимологический словарь белорусских названий птиц // Названия птиц в белорусском языке на общеславянском фоне/ Приложение 1. Дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1982. С. 249-251 (з адпаведнай літаратурай).

І. Вайцяховіч[1] са знаменальным, як высвятляецца, апісаннем – "*жовна́*, *жо́ўна* ... птушка асобага роду з доўгім языком, якая ўжывае пчол" (на гэтыя лексемы звярнула ўвагу вядомая даследчыца украінскіх дыялектаў Я. Закрэўская[2]), і паўднёвапольскіх, па даных Я. Струтыньскага[3], гаворках у падобных назвах фіксуюцца значэнні 'Merops'. Семантыку гэтых найменняў падрабязна прааналізавала ў свой час Г. Клепікава[4].

Традыцыйнай этымалагічнай версіяй для прасл. **žьlna* 'дзяцел; івалга' з'яўляецца збліжэнне з прасл **žьltъ* 'жоўты' і яго балтыйскімі адпаведнікамі, якія працягваюць і.-е. **g'hel-* або **ghel-* (**gĥel-*) 'жоўты, зялёны, блакітны, шэры'[5]. Аднак на супярэчлівасць гэтай этымалогіі ў адносінах да дзятлавых, галоўным прызнакам якіх з'яўляецца ўсё ж такі не колер, а здольнасць дзяўбаць ці стукаць, і ў прыватнасці *чорнага* дзятла, ўказаў В Махэк, прапанаваўшы збліжэнне **žьlna* з літ. *gìlti*, *gélti* 'жаліць'[6]. Гэтую думку падтрымала Я. Закрэўская[7], а далей развіў Ю. Аткупшчыкоў, які ўдакладніў, што літ. корань **gel-* азначае не толькі 'жаліць', але і 'даўбаць'[8]. На іншым матэрыяле атрымала той самы вынік І. Пятлёва[9].

Відаць, ёсць падставы падзяляць **žьlna₁* 'дзятлавыя; (чорны, зялёны) дзяцел' і яго славянскія кантынуанты, у якіх працягваецца семантыка 'даўбаць', і **žьlna₂* 'івалга' с першасным значэннем 'жоўтая (з адценнямі); жоўта-зялёная птушка'[10].

---

[1] Войцехович Ив. Собрание слов малороссийского наречия // Труды общества российской словесности при Московском университете, ч.III. М., 1823. С.284-326.

[2] Закревська Я.В. Назви дятла в західних говорах української мови // Дослідження і матеріали з української мови, т.3. Київ, 1960. С.71.

[3] См. подробнее: Strutyński J. Polskie nazwy ptaków krajowych. Wroclaw etc., 1972. С.43.

[4] Клепикова Г.П. Значения славянских орнитологических названий, восходящих к *žьlna // Проблемы индоевропейского языкознания: Этюды по сравнительно-исторической грамматике индоевропейских языков. М., 1964. С.106-114.

[5] Гл.: Антропов Н.П. Этимологический словарь...С. 249-250; найбольш падрабязна ў ЭСБМ, 3, 220, 238; з апошніх крыніц гл. таксама: Етимологічний словник української мови. Том другий / Д – Копці. К., 1985. С. 202 (ва ўсіх слоўніках – амаль вычарпальная папярэдняя літаратура). Аб балта-слав. і і.-е. каранях гл. яшчэ: Петлева И.П. Этимологические заметки по славянской лексике. VI // Этимология. 1975. М., 1977. С. 49; Топоров В.Н. Прусский язык. Словарь / Е–Н. М., 1979. С. 199.

[6] Machek V. Einige slavische Vogelnamen // ZfslPh, 20, 50-51; далей – Machek V. Etymologický slovník jazyka českého. Praha, 1971. С. 729-730.

[7] Закревська Я.В. Назви дятла...С. 70-71.

[8] Откупщиков Ю.В. Из истории индоевропейского словообразования. Л., 1967. С. 247-249.

[9] Петлева И.П. Этимологические заметки...С. 47-49.

[10] Якраз такі падзел прапанаваўся намі раней, гл.: Антропов Н.П. Этимологический словарь...С. 249-251. "Старажытную аманімію назваў розных птушак" дапускаў тут і А. Супрун (ЭСБМ, 3, 220).

Падставай для пераносу наймення івалгі, якое працягвае *$žьlna_2$, на Merops apiaster L. з'яўляецца падабенства па колеры, параўн. у папулярных арніталагічных апісаннях: "Афарбоўка [птушкі] вельмі яркая: у апярэнні шмат пёраў з зялёнымі, блакітнымі, жоўта-рыжымі адценнямі. Галава зверху каштанавая, з бакоў зеленавата-блакітная. Палоса за вокам і пад ім, пёры на вушах – чорныя. Падбародак і горла ярка-жоўтыя. Доўгая чорная дзюба крыху як бы загнутая ўніз. Спіна зверху бліжэй да галавы каштанавая, яе ніз і паясніца – залацiста-рыжыя. Хвост зеленавата-сіні, доўгі... Ногі карычнявата-шэрыя"[1].

Упершыню на тэрыторыі распаўсюджання беларускіх (палескіх) гаворак ад Олтуша і Лукава Маларыцкага раёна на захадзе рэгіёна праз цэнтральнапалескія Беражное і Кароб'е Столінскага (усе – Брэсцкай вобл.) і да Баравога Лельчыцкага раёна Гомельскай вобл. на ўсходзе гэтыя назвы былі зафіксаваныя жытомірскім дыялектолагам М. Ніканчуком (натуральна, разам з палескімі ўкраінскімі) у добра вядомай спецыялістам слоўнікавай падборцы "Палескія назвы птушак" з карэктнай паметай "верагодна" (для 'Merops apiaster L.'): *жовна́*[2]. Некалькі пазней у "Матэрыялах для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны" адзначаны аналагічны арнітонім, але без дакладнай таксанамічнай прывязкі, які, на нашу думку, таксама можа быць суаднесены з зазначаным відам (хаця і тут "верагодна", таму што нельга цалкам выключыць магчымасць аднясення наймення да зялёнага дзятла Picus viridis L.): *Жаўна́* ж. 1. заал. Жаўна. *Жаўна́ есь пчо́лы* (Лядцы Светлагорскага, Навінкі Калінкавіцкага, Вуглы Ельскага раёнаў)[3]. Нарэшце, яшчэ больш на поўнач – у Вецярэвічах Пухавіцкага раёна Мінскай вобл. адпаведную лексему, якую зноў-такі, як мы лічым, трэба звязваць з Merops apiaster L., фіксуе буйнейшы збор беларускай дыялектнай лексікі "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй часткі Беларусі і яе пагранічча": *Жоўна́* ж. Жаўна. *Жоўна́ – птушка з длінңай дзюбай, язык длінны, пчол есць*[4].

Відаць, у даным выпадку можна следам за Г. Цыхуном гаварыць аб "тэрытарыяльных амонімах"[5], у ролі якіх тут выступаюць лексемы, якія

---

[1] Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь: Рэдкія і тыя, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення віды жывёл і раслін. Мн., 1993. С.64; гл. таксама: Жизнь животных в шести томах. Том 5. Птицы. М., 1970. С. 423; з вычарпальнай паўнатой аб гэтым: Гладков Н.А. и др. Определитель птиц СССР. М., 1964. С. 294-295.

[2] Никончук Н.В. Полесские названия птиц // Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968. С.448.

[3] Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны// Беларуская мова і мовазнаўства, вып.3, 1975. С.139.

[4] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй часткі Беларусі і яе пагранічча, т.2. Мн., 1980. С.144.

[5] Цыхун Генадзь. Арэальныя аспекты семантычнай рэканструкцыі // Studia etymologica Brunensia 1. Brno, 2000. С. 202.

працягваюць прасл. **žьlna₂* са старым ('івалга Oriolus oriolus L.') і новым ('жаўна залацістая Merops apiaster L.') значэннем.

Бясспрэчна, у прыведзеных вышэй ілюстратыўных дыялектных тэкстах недастаткова матэрыялу для абсалютна дакладнага таксанамічнага вызначэння менавіта Merops apiaster L., якая, як не так даўно упэўнена адзначалі А. Фядзюшын і М. Долбік, "*заведама* не сустракаецца ў [Беларусі]"[1] (курсіў наш. – М.А.). Тым не менш, здольнасць ужываць у ежу пчол, на што адразу ж звярнулі ўвагу інфарманты, у непараўнальна большай ступені ўласціва якраз жаўне залацістай, чым зялёнаму дзятлу, у структуры харчавання якога пчолы займаюць далёка не першае месца[2]. Параўн. у арніталагічнай літаратуры: [Жаўна залацістая корміцца] "джаланоснымі восамі і пчоламі, а таксама матылькамі..."[3]; "Насякомыя, якія жаляць, складаюць любімую ежу жаўны залацістай... Спустошваючы пчаліныя вуллі, [яна] выклікае на сябе ганенне чалавека"[4]; [Яны] "харчуюцца рознымі буйнымі насякомымі, у тым ліку і пчоламі; паядаючы іх, прыносяць некаторую шкоду пчалярству. Насякомых ловяць звычайна ў палёце"[5]; "Харчуюцца пераважна буйнымі насякомымі (пчолы, стракозы, матылькі, жукі і інш.), якіх ловяць у паветры або здзёўбваюць у палёце з галін і лістоў... Месцамі прыносяць шкоду, паядаючы пчол "[6].

Дзеля аб'ектыўнасці зазначым, што назіральнік, відаць, перш за ўсё звярнуў бы ўвагу на "пчаліны інгрыдыент" у харчаванні зялёнага дзятла, аднак нам наогул невядомыя беларускія народныя назвы дзятлавых, у якіх бы гэта асаблівасць (якая, безумоўна, павінна кідацца ў вочы) атрымала адлюстраванне. Але параўн. наст.: бел. навук. (магчыма, запазыч. з руск.) *пчалаедка* 'асаед Pernis apivorus L.', руск. *пчелояд* 'тс', *пчелоедка* 'жаўна залацістая', укр. *бджолоїдка*, дыял. житом. *пчолојітка*, *бджолојітка* 'тс', слвц. дыял *včelojed* 'мухалоўка Muscicapa Brisson', балг. навук. *пчелояд* 'жаўна залацістая', славен. навук. *čebelar* 'тс' [7].

Выкладзенага падаецца дастаковым, каб лічыць, што *жаўна залацістая* Merops apiaster L. і па лінгвістычным крытэрыі можа быць

---

[1] Федюшин А.В., Долбик М.С. Птицы Белоруссии. С. 9.
[2] Брэм А.Э. Жизнь животных. Т.II. Птицы. М., 1992. С. 106; Жизнь животных... С. 448.
[3] Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь. С. 65.
[4] Брэм А.Э. Жизнь животных. С. 106.
[5] Гладков Н.А. и др. Определитель птиц СССР. С.294;
[6] Карташев Н.Н. Систематика птиц. М., 1974. С.239.
[7] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоунікаў, вып.II. Мн., 1960. С.42; Даль В.И. Толковый словарь живого великорусского языка, т.III. М., 1880-1882. С.546; Шарлемань М.В. Словник зоологічної номенклатури, ч.I: Назви птахів/ Проект. Харків -Київ, 1927. С.24; Никончук Н.В. Полесские названия птиц. С.460 (Бярозаўка, Станішоўка Жытомірскага р-на); Ferians O. Slovenské názvoslovie vtákov. Bratislava, 1958. С. 223; Патев П. Птиците в България. София, 1950; Geister I. Slovenske ptice. Ljubljana, 1980. С.463.

уведзена ў склад беларускай арнітафауны ў якасці віда, які стала гняздуецца, з наступнай поўнай таксанамічнай характарыстыкай: атрад Coraciiformes – Ракшападобныя, падатрад Meropes – Шчурковыя, сямейства Meropidae – Шчурковыя, род Залацістая жаўна Merops. Linnaeus, 1758[1].

Улік гэтага крытэрыя значна пашырае таксама уяўленне аб геаграфічнай распаўсюджанасці птушкі (гл. карту).




Распаўсюджанне назваў Merops apiaster L., якія ўзыходзяць да *žьlna₂:

● – зафіксаваныя М.В. Ніканчуком (1968)

○ – зафіксаваныя беларускімі дыялектнымі слоўнікамі (1975, 1980)

▲ – месцы арніталагічных фіксацый Merops apiaster L. (1980, 1985, 1986, 1997)[2]

---

[1] Такім чынам, дапаўняецца "Сістэматычны спіс птушак фауны БССР", гл.: Антропаў М.П. Беларуская арніталагічная тэрміналогія // Тэрміналагічны зборнік "85 – "86. Мн., 1990. С. 40-51.

[2] Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь. С. 64, карта; Никифоров М.Е. и др. Птицы Белоруссии... С. 72-73, карта.

*В.Дз. Астрэйка*

# ПОЛЬСКА-ПАЎНОЧНАБЕЛАРУСКІЯ ЛЕКСІЧНЫЯ СУВЯЗІ

Т. зв. паўночная група – адно з найменш даследаваных і даволі загадкавых у плане паходжання ўтварэнняў на тэрыторыі пашырэння этнагістарычнай сукупнасці беларускіх гаворак. На сённяшні дзень не вызначаны дакладна і яе статус у беларускай дыялектнай мове, у межах якой, як вядома, адначасова з этнагенетычнымі па сваіх вытоках дыялектнымі фарміраваннямі існуюць своеасаблівыя наддыялектныя і пераважна культурна-гістарычныя паводле генезісу яднанні мясцовых гаворак – дыялектныя зоны [КРЫВІЦКІ, 2003; 135-144]. Своеасаблівасць маўлення жыхароў поўначы нашай краіны вызначаецца адносна невялікай колькасцю рыс у асноўным лексічнага і лексіка-семантычнага парадку. Адзначаныя тут некаторыя факты фанетычнага і марфалагічнага ўзроўняў мовы ў большасці сваёй маюць лексічна абмежаванае ўжыванне. Такім чынам, паўночнабеларускія моўныя адрозненні, як і занальныя моўныя асаблівасці [там жа], з'яўляюцца монаструктурнымі па сваім характары. Гэта дае нам падставы разглядаць паўночную групу гаворак менавіта як адно з занальных структурна-тэрытарыяльных адасабленняў у межах беларускай дыялектнай мовы.

У склад паўночнабеларускага моўнага комплексу ўваходзяць, па-першае, асаблівасці, якія належаць да агульнаславянскага лексічнага фонду. Значная колькасць адпаведнікаў выяўляецца і ў намінацыйных сістэмах сумежных балцкіх моў, а таксама рускіх паўночных (асабліва паўночна-заходніх: пскоўскіх, смаленскіх, наўгародскіх) гаворак. У дадзеных адносінах паўночная група беларускіх гаворак і дыялекты адзначаных суседніх моў, несумненна, павінны разглядацца як адносна адзіная прастора, зона сумеснай балта-ўсходнеславянскай моватворчасці. У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што карэннае славянскае насельніцтва адпаведнага рэгіёна некалі ўваходзіла ў склад крывіцкай племяннной групоўкі, у якой, апрача полацкіх, вылучаліся яшчэ крывічы пскоўскія і смаленскія [СЕДОВ, 1970; 92-103]. Пра ўдзел і лёс т.зв. "паўночнарускага", крывіцкага пачатку ў гісторыі складвання беларускай мовы пісаў у свой час акад. Р. І. Аванесаў: "... як вядома, крывічамі была заселеная значная частка беларускай этнаграфічнай тэрыторыі (сучасныя беларускія гаворкі захавалі сляды гэтага элемента ў складзе беларускай мовы, праўда, толькі на абмежаванай прасторы поўначы

беларускай тэрыторыі", і далей – "..."паўночнарускі" элемент хутка паглынаўся ў Літоўска-Рускай дзяржаве больш моцным у сацыяльна-эканамічных і культурных адносінах "паўднёварускім" элементам. Рэшткі іх у сучасных беларускіх гаворках захаваліся на абмежаванай тэрыторыі поўначы і паўночнага ўсходу ў выглядзе цокання і некаторых іншых рыс, якія ў мінулым былі распаўсюджаны значна шырэй" [АВАНЕСОВ, 1947; 123, 134-135]. Добра вядома і тое, што калісьці на ўказаным абшары прышлыя славянскія каланісты сутыкнуліся і ўступілі ва ўзаемадзеянне з абарыгеннымі балцкімі (а часткова, і фінскімі) плямёнамі [СЕДОЎ, 1970; 92-103; АБ, 3; 30-31].

Разам з тым, шэраг паўночнабеларускіх намінацый мае даволі дакладныя аналогіі ў заходнеславянскіх, і найперш польскай, мовах. Гэта тым больш цікава, бо паўночная група беларускіх гаворак не знаходзіцца ў зоне непасрэднага кантакту з арэалам польскай мовы, а праз яе – і з заходнеславянскім моўным кантынуумам. Сапраўды, уласна паланізмаў сярод адпаведных рэгіянальных моўных сродкаў практычна не выяўлена. Гэтым паўночная група гаворак выразна адрозніваецца ад заходняй і паўночна-заходняй дыялектных зон, якія справядліва лічацца зонамі польскамоўнага ўплыву (як на дыялектным, так і на пазадыялектным узроўнях) на гаворкі этнагенетычнай базы беларускай мовы. У большасці выпадкаў мы пакуль можам проста засведчыць наяўнасць пэўнай агульнасці ў дачыненні да асобных паўночнабеларускіх і польскіх (а часам і шырэй – заходнеславянскіх) найменняў. Адказ на пытанне аб вытоках дадзеных з'яў у беларускай дыялектнай мове (і, такім чынам, у той ці іншай ступені вырашэнне праблемы паходжання самой паўночнай групы беларускіх гаворак), відавочна, трэба шукаць у этнічнай гісторыі беларускамоўнага насельніцтва адзначанага рэгіёна нашай краіны. Некаторыя з названых моўных адрозненняў, несумненна, з'яўляюцца храналагічна значна старэйшымі за многія, інавацыйныя па сваім характары, заходнія і паўночна-заходнія занальныя намінацыі і ўзніклі хутчэй за ўсё яшчэ ў прабеларускую і прапольскую эпоху. У сувязі з гэтым вялікую цікавасць выклікае вядомае меркаванне аб праляхіцкіх, ці вянедскіх каранях крывічоў (а не выключана, і славен наўгародскіх), якое знайшло падцвярджэнне і ў матэрыялах археалагічных экспедыцый, і ў асобных лінгвістычных фактах [СЕДОЎ, 1970; 71, 105-108]. Дадзеная гіпотэза ўзгадваецца найперш у дачыненні да пскоўскай крывіцкай групы. Ужо даўно была звернута ўвага на пэўную блізкасць пскоўскіх (у тым ліку і старапскоўскіх) гаворак з заходнеславянскімі, і асабліва – польскай, мовамі. Гэта неадрозненне мяккіх фрыкатыўных свісцячых і шыпячых, спалучэнні *кл*, *гл* на месцы праславянскіх **tl*, **dl* і інш. [СЕДОЎ, 1970; 106-107 (тут жа гл. і спіс

папярэдняй літаратуры); АВАНЕСОВ, 1947; 131-132]. Адпаведныя супастаўленні рабіліся і ў галіне лексікі і семантыкі [МЖЕЛЬСКАЯ, 1963; 89-100]. Доўгі час лічылася, што вянеды першапачаткова засялілі і асвоілі землі ў басейне ракі Вялікай і Пскоўскага возера і толькі прыкладна праз два стагоддзі прасунуліся ў раёны сучаснага беларускага Падзвіння і Смаленшчыны [СЕДОВ, 1970; 105]. Зараз, аднак, не выключаецца і магчымасць руху насельніцтва ў кірунку з Паўночнай Беларусі на Пскоўшчыну [АБ, 2; 382-383]. У любым выпадку ў Пскоўскую зямлю вянеды як прадстаўнікі паўночна-заходняй групы ранняга славянства маглі трапіць, верагодна, і прайшоўшы праз тэрыторыі Верхняга Панёмання і беларускай Поўначы [СЕДОВ, 1970; 107]. Да таго ж вянедаў, несумненна, так ці інакш варта разглядаць як продкаў усіх крывічоў – думаецца, пэўная пераемнасць, у тым ліку і моўная, паміж першымі крывіцкімі плямёнамі і іх пазнейшымі суродзічамі ўсё ж такі існавала.

Магчымай моўнай ілюстрацыяй да сказанага вышэй з'яўляецца, у прыватнасці, паўночнабеларускае рэгіянальнае найменне агрэху пры ўзворванні *целізна́ (цілізна́, чылізна́, сілізна́)*, мн. – *цялёзны*, адзначанае прыкладна ў межах тэрыторыі, якая акрэсліваецца лініяй Браслаў – Шаркаўшчына – Полацк – Лепель – Сянно – Лёзна [ЛАБНГ, 2; 141]. Ва ўсіх астатніх беларускіх гаворках у гэтым значэнні выступаюць разнастайныя варыянты назвы *агрэ́х*: *оры́х*, *урэ́х*, *узрэ́х* і інш. [там жа]. У польскай дыялектнай мове паўдн. і паўн.-усх. *całizna* таксама мае семантыку 'агрэх, не кранутая плугам зямля' і яшчэ 'мацярык; тоўшча', 'цаліна' [MAGP, 12; 601; ЭССЯ, 3]. Падобныя абазначэнні сустракаюцца, акрамя таго, на чэшскай дыялектнай тэрыторыі (мар. *celizna* 'снежнае покрыва'), у верхнелужыцкай мове (*cylizna* 'цэлае') і ў рускіх гаворках (дыял. *целизна́* 'цаліна' і, асабліва, смален. *тели́змы* 'агрэхі', вяц. *челью́жня* 'агрэх') [ЭССЯ, 3]. Нам, на жаль, пакуль невядома, ці існуе аналагічная намінацыя ў рускіх пскоўскіх гаворках. Праславянскі характар указанай формы фактычна не выклікае сумненняў: прасл. **celizna* – утварэнне са значэннем зборнасці ад прыметніка **celъ*, блізкае да **celina* [ЭССЯ, 3] (параўн. бел. *цаліна́*, руск. *целина́*, а таксама бел. *цалі́к* 'цаліна', дыял. 'агрэх', *цальні́к*, *цаля́к* 'тс' [ЛАБНГ, 2; 141]). З другога боку, яшчэ А. Брукнер адзначаў, што дадзеная лексема хутчэй за ўсё або ўласна польская, або заходнеславянская па паходжанню [BRЬCKNER]. Вельмі цікавае ў гэтым сэнсе руск. вяц. *челью́жня*. У вяцкіх і некаторых сумежных гаворках таксама зафіксаваны шэраг з'яў, якія маюць выразныя паралелі ў той жа польскай мове. Вяцічы, як вядома, былі надта блізкія ва ўсіх адносінах да радзімічаў і суседзілі з імі. Апошнія ж, паводле аднаго з меркаванняў, падмацаванага і факталагічна, былі адным з усходнеславянскіх

плямёнаў, якое ў раёны Падняпроўя і Падзісення перасялілася з абласцей, суседніх з арэалам рассялення праляхіцкіх плямёнаў [СЕДОВ, 1970].

Зусім не выключана, што да асаблівасцей таго ж парадку належыць і паўночнабеларускае паводле лакалізацыі найменне *бацян (буцян)* 'бусел'. Умоўная мяжа яго распаўсюджання ў беларускай дыялектнай мове праходзіць па пунктах Воранава – Ліда – Дзятлава – Навагрудак – Валожын – Маладзечна – Лагойск – Барысаў – Крупкі – Круглае – Бялынічы – Быхаў – Магілёў – Слаўгарад – Краснаполле, пры гэтым на большай частцы вызначанага арэала (на яго поўначы) адпаведная назва выступае як адзіна магчымы лексічны варыянт, супрацьпастаўляючыся бел. паўдн.-зах. і цэнтр. *бу́сел*, зах.-пал. *бу́сэнь (бу́сён)*, цэнтр.-пал. *бу́ськó* [ЛАБНГ, 1; 118]. У этымалагічнай літаратуры дадзенае паўночнабеларускае, як і іншыя падобныя ўсходнеславянскія абазначэнні (руск. дыял. *батя́н (ботя́н, ботья́н, бача́н, бадья́н)*, укр. дыял. *боця́н, боцю́н*), звычайна разглядаецца як запазычанне з польск. *bocian*, дыял. *bocan, bociun, bocoń* і інш. 'тс' [ЭСБМ, 1]. Сапраўды, асноўныя раёны існавання назвы – гэта вобласць пашырэння заходнеславянскіх моў (параўн. яшчэ в.-луж. *baćon*, н.-луж. *bośon*, палаб. *büöt'an*, слц. *bocian*, чэш. дыял. (невялікі арэал на ўсходзе) *bocan, bocáň, bočán, bočáň*) [там жа; РСС; ČJA, 1; 118-120]. Польская мова тут, бясспрэчна, так ці інакш паўплывала на суседнія ўсходнеславянскія мовы: украінскую і беларускую (параўн. занатаваную ў Гродзенскім і Бераставіцкім р-нах і відавочна польскамоўную па сваіх вытоках форму *бóцян* [ЛАБНГ, 1; 118], а таксама ст.-бел. *боциян* [БУЛЫКА, 1972]), а праз іх пасрэдніцтва магла паўплываць і на рускія дыялекты. Але, цалкам верагодна, што ў гаворках на поўначы беларускай тэрыторыі адпаведнае найменне ўжывалася і спрадвеку. Вельмі істотным для нас у дадзеным выпадку з'яўляецца наступнае: у рускай дыялектнай мове адзначаныя назвы бусла сканцэнтраваны, паводле даных вядомага слоўніка рускіх народных гаворак, якраз толькі на Пскоўшчыне [СРНГ, 2, 3].

Даволі блізкі і фармальна, і семантычна адпаведнік паўночнабеларускага намінацыйнага рэгіяналізма *падсмéціны* 'вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла, маслёнка' (Гарадоцкі р-н) [ЛАБНГ, 4; 327] ізноў жа выяўляецца ў польскай мове (параўн. польск. *podśmietanie* 'самае тлустае малако ў верхняй частцы жбана пад смятанкай; аселае на дне пасудзіны малако наогул' [SJP, 6]. Тое, што дадзенае, роднаснае да прасл. **sъmetana* 'смятана; смятанка', утварэнне, магчыма, дастаткова старое ў беларускіх гаворках, сведчыць наяўнасць падобнага, хаця і не зусім тоеснага фармальна, наймення ў балгарскай мове – *мътеница* 'маслёнка' [РБС] (параўн. аналагічныя па матывацыі бел. паўн.-усх. *скалóціны, скалóцвіны*, зах.-пал. *бія́нка*, а таксама і адрозныя ў гэтых адносінах бел. агульн.

*маслянка*, цэнтр. *маслёнка*, польск. *maślanka*, чэш. *podmásli* 'тс' [ЛАБНГ, 4; 327; SJP, 4; ČJA, 1; 109].

Вельмі цікавай здаецца і рэгіянальная назва сніткі *шнітка (шньітка)*, *шніць*, засведчаная на значным абшары беларускай поўначы ў адпаведным напрамку ад лініі Ашмяны – Лагойск – Барысаў – Крупкі – Сянно – Віцебск – Гарадок [ЛАБНГ, 1; 262]. Як і ў выпадку з бел. паўн. *бацян*, у пераважнай большасці адзначаных гаворак гэта адзіна магчымае абазначэнне расліны Aegopodium L. [там жа]. На астатняй тэрыторыі асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы ў дадзеным значэнні ўжываецца найменне *снітка (сньітка)* (параўн. яшчэ зах.-пал. *мóрква* 'тс') [там жа]. Падобная фанетычная і лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя фактычна аднолькавай па сваіх вытоках лексемы, магчыма, абумоўлена якраз той самай шапалявасцю свісцячых у становішчы перад мяккім зычным, якая ўзгадваецца звычайна як агульная рыса заходнеславянскіх (асабліва, польскай) моў і пскоўскіх гаворак [АВАНЕСОВ, 1947; 131-132; МЖЕЛЬСКАЯ, 1963; 89] (параўн. польск. *śnieć* 'галаўня; грыбок-паразіт (Tiletia) [SJP, 8]). Пэўную ролю пры гэтым, несумненна, мог адыграць і балцкі моўны субстрат.

Пра азначаную сувязь паўночных гаворак нашай мовы з заходнеславянскім моўным светам сведчыць і наступная, праўда, ужо не польска-, а верхнелужыцка-беларуска-руская лексіка-семантычная паралель: бел. паўн. *палóць* 'палаць, ачышчаць ад пылу і мякіны зерне, крупы' (мяжа пашырэння ў беларускай дыялектнай мове праходзіць прыкладна па лініі Паставы – Глыбокае – Полацк – Гарадок), пераважна паўн.-велікаруск. (арх., наўг., валаг., цвяр., смален., кастр., яросл., уладз., калін., арл, прыбалт.) *полóть* 'тс', в.-луж. *płoć* 'тс' (параўн. бел. паўн.-усх. *палáць*, паўдн.-зах., зах.-пал. *апалáць*, руск. *полáть*, укр. *палáти*, польск. *pałać*, слц. *opalat'*, славен. *pláti* 'палаць') [ЛАБНГ, 2; 241; СРНГ, 29; ЭСБМ, 8]. Некаторыя даследчыкі, і трэба сказаць – небеспадстаўна, лічаць, што адрозненне паміж **polti, poljǫ* (параўн. таксама славен. *polti*, *poljǫ*) і **palati*, *palajǫ* існавала ўжо ў праславянскай мове [МАСНЕК, 1957; ЭСБМ, 8].

З іншых адпаведных польска-беларускіх ізалексаў і ізасем можна прыгадаць яшчэ бел. паўн. *акóп* 'капец бульбы' (Мёрскі, Полацкі, Гарадоцкі, Віцебскі, Лёзненскі р-ны) і польск. паўдн., паўдн.-зах. *(o)kop(a)* 'тс' [ЛАБНГ, 2; 224; MAGP, 12; 561], бел. паўн. *брýшка* (Браслаўскі, Пастаўскі, Глыбоцкі, Шаркаўшчынскі р-ны), *пýзца* (Крупскі, Дубровенскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі р-ны), *пýзка* (Гарадоцкі р-н) 'лытка' і польск. паўдн.-зах. *brzuszek*, *brzuszko*, *brzuszez*, *brzuszcze*, *brzuszle* 'тс' (параўн. таксама руск. валаг., калуж. *брýшка* 'лытка') [ЛАБНГ, 3; 91; MAGP, 9; 419; СРНГ, 3], бел. паўн. *цýпка* 'цура' (крайняя мяжа распаўсюджання акрэсліваецца па лініі Верхнядзвінск –

Шаркаўшчына – Паставы – Глыбокае – Докшыцы – Лепель – Крупкі – Талочын – Дуброўна) і польск. дыял. *ciupka* 'тс' (параўн. і польск. праст. *ciapa* 'тс') [ЛАБНГ, 4; 391; СПЗБ, 5; БРПС, 2], бел. пераважна паўн. *вазо́ўня* 'пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад' і польск. *wozownia* 'тс' (параўн. таксама руск. смален., прыбалт. *возо́вня*, укр. дыял. *возо́вня*, *возі́вня* 'тс', чэш. сучасн. *vozovna* 'трамвайнае дэпо') [ДАБМ; 238; SJP, 9; ЭСБМ, 2; СРНГ, 5]. Ва ўсіх гэтых выпадках у першую чаргу варта звярнуць увагу на асаблівасці арэальнага пашырэння намінацый у адзначаных дзвюх суседніх мовах: беларускай і польскай.

Гаворачы пра польска-паўночнабеларускія сувязі ў лексічнай і лексіка-семантычнай галіне, трэба памятаць і тое, што жыхары поўначы сучаснай Беларусі і сумежных абласцей заўсёды мелі цесныя эканамічныя адносіны праз Заходнюю Дзвіну і Балтыку з самым розным па моўнай прыналежнасці насельніцтвам прыбалтыйскіх тэрыторый, у тым ліку – і з палякамі і іх продкамі. Некаторая колькасць з'яў – лексічных, семантычных, лексіка-фанетычных – аб'ядноўвае паўночныя беларускія гаворкі і з польскімі (і наогул заходнеславянскімі) і з ужо ўзгаданымі рускімі паўночна-заходнімі і балцкімі гаворкамі. Не выключана, што на гэтых землях у свой час існавала нават нешта накшталт моўнага саюзу. Тут і зараз можна назіраць "асаблівы культурны комплекс, які склаўся ... ў выніку сумеснага дзеяння шэрагу гістарычных (у шырокім сэнсе слова) фактараў" [СУДНИК, ТОЛСТАЯ, ТОПОРОВ, 1967].

У межах паўночнай групы беларускіх гаворак (пераважна ў яе ўсходняй частцы) занатаваны, у прыватнасці, назвы акрайца хлеба з коранем *-кром-*: *акро́мак (окро́мык)* (Верхнядзвінскі, Полацкі р-ны), *пакро́мак (пакро́мык)* (Гарадоцкі р-н), *кро́мка*, *кро́мачка*, *кро́мушка* (Гарадоцкі, Шумілінскі р-ны), *крамýшачка* (Віцебскі р-н) [ЛАБНГ, 4; 322]. Узыходзяць яны да прасл. **kroma / *kromъ* 'край, частка', рэфлексы якога маюцца практычна ва ўсіх славянскіх мовах [ЭССЯ, 12; ЭСБМ, 1; ФАСМЕР, 2]. Але ў значэнні 'адрэзаны вяршок ці наогул кавалак хлеба' падобныя найменні, відаць, вядомы ўсё ж такі далёка не ўсюды (параўн. найперш польск. *kromka*, дыял. *krómka*, *krumka*, *skromka*, *krom(a)* 'адрэзаны кавалак, луста хлеба, скарынка', н.-луж. *kšomica* 'скарынка, вяршок хлеба, адрэзаны хлебны або мясны кавалак', палаб. *krümkă* 'акраец, кавалак хлеба', руск. наўг., пск., ленінгр., валаг., алан., анеж., смален., цвяр., тул., тамб., сарат., калуж., курск., варон. *кро́мка*, *кро́ма* 'тс', а таксама ўкр. лемк. *кро́мка (крýмка)* 'акраец, вяршок хлеба'[1] [ЭССЯ, 12; ЭСБМ, 1; СРНГ, 23; SŁAWSKI, 3 (2 [12])]. На абмежаванасць распаўсюджання адпаведных намінацый у славянскіх мовах

---

[1] Засведчанае ў чэшскай дыялектнай мове адзінкавае абазначэнне хлебнага акрайца *skrumka* кваліфікуецца як пранікненне з суседняй польскай мовы [ČJA, 1; 268].

звяртаў увагу яшчэ А. Брукнер [BRUCKNER]. Ён, праўда, падкрэсліваў верагоднасць таго, што гэта ўласна польская семантычная рыса [там жа]. Цалкам магчыма, канечне, тут весці размову пра праславянскае дыялектнае адрозненне і рэканструяваць, такім чынам, паўн.-слав. **kroma* 'адрэзаны кавалак чаго-н.' < 'край чаго-н.' [SŁAWSKI, 3 (2 [12])]. Трэба сказаць, аднак, што ў помніках польскага пісьменства адпаведныя лексемы фіксуюцца даволі позна – толькі з XV (форма *kromka*) і XVI (форма *kroma*) стст. [там жа]. У любым выпадку, бліжэйшыя аналогіі адзначаным паўночнаславянскім назвам выяўляюцца ў гаворках сумежных балцкіх моў (параўн. літ. *kramsóti*, *kramsnóti* 'кусаць, жаваць', *krim̃sti* 'грызці', лтш. *kramsît* 'жаваць, кусаць', *krimst* 'грызці' [ЛАУЧЮТЕ, 1982; 143; ЭСБМ, 1]. Дадзеная моўная асаблівасць, несумненна, можа разглядацца як супольная для паўночных славян і балтаў.

Маўленне разнамоўных насельнікаў акрэсленага рэгіёна аб'ядноўвае, акрамя таго, і адна лексіка-фанетычная рыса. У гаворках на поўначы Беларусі амаль паўсюдна спарадычна ўжываюцца абазначэнні *но́раст (на́раст)* 'нераст у рыбы' (Мядзельскі, Докшыцкі, Пастаўскі, Браслаўскі, Шаркаўшчынскі, Мёрскі, Верхнядзвінскі, Расонскі, Полацкі, Шумілінскі, Гарадоцкі, Віцебскі, Лёзненскі, Бешанковіцкі, Лепельскі, Чашніцкі, Сенненскі, Крупскі р-ны), 'рыбіная або жабіная ікра' (Браслаўскі р-н), *нараства́ць* 'нераставаць, адкладаць і апладняць ікру (пра рыб)' (Вілейскі, Пастаўскі, Глыбоцкі, Браслаўскі, Мёрскі, Верхнядзвінскі р-ны) [ЛАБНГ, 1; 327; ЖЫВ.СВ.; 132, 155]. На ўсёй астатняй тэрыторыі пашырэння беларускай дыялектнай мовы ў дадзеных значэннях выступаюць назвы з іншай агаласоўкай кораня: *не́раст (нэ́раст)*, *не́расць*, *не́рас*, *нераства́ць (нэраства́ць)*, *нераса́ваць* [там жа]. Найменні з такім жа вакалізмам, як і ў адзначаных паўночнабеларускіх намінацый, сярод славянскіх моў сустракаюцца толькі ў польскіх гаворках (параўн. польск. *mrzost* 'нераст', *mrzoszczyć się* 'нераставаць', *narościć* 'апладняць (пра курэй)') і ў паўночнавелікарускіх дыялектах (параўн. руск. *но́рос*, *но́рост* паўн., арх. 'рыбіная або жабіная ікра', арх., валаг., наўг., калін. 'нераст', валаг. *но́рость* 'нераст', *норости́ться* 'нераставаць'), утвараючы разам агульную ізаглосу з літ. *nar̃štas*, *nar̃šas* 'ікра', *narštýtis* 'нераставаць', лтш. *nārsts* 'нераст, цечка' [ЭСБМ, 8; СРНГ, 21; ЭССЯ, 25; ФАСМЕР, 3]. У дадзеным выпадку, як і ў папярэднім, ёсць падставы для аднаўлення прасл. **norstъ*, што чаргаваннем карнявога вакалізму звязана з **nerstъ* [ЭСБМ, 8; ЭССЯ, 25; ФАСМЕР, 3]. З другога боку, тут мог праявіцца і моўны субстрат, які ў большай або ў меншай ступені выяўляецца на ўсёй названай тэрыторыі. Пра магчымасць таго ці іншага ўплыву з боку балцкіх моў сведчыць і наяўнасць у беларускіх гаворках варыянта *на́раст*.

Пэўнае месца сярод паўночнабеларускіх намінацыйных рэгіяналізмаў займае і агульная для акрэсленага балта-паўночнаславянскага абшару лексіка германскага паходжання. Большасць германізмаў беларускай мовы сканцэнтравана, праўда, у гаворках паўночна-заходняй і заходняй дыялектных зон, і трапілі яны сюды ў асноўным праз пасрэдніцтва польскай мовы. З паўночнабеларускіх намінацый германамоўнымі па сваіх вытоках з'яўляюцца, магчыма, назвы *слігі (слўгі, слёгі, шлігі, шлягі)*, *слюгавіна (шлюгавіна)* 'падваліна, папярочныя бярвенні, якія ўрубліваюцца ў першы вянок зруба і на якія потым накладаецца падлога', адзначаныя ў вузкай стужцы гаворак у напрамку на паўноч ад лініі Браслаў – Верхнядзвінск – Расоны – Полацк – Шуміліна – Гарадок – Віцебск на фоне бел. зах. *лáгі*, *лéгар* (< ням. дыял. *lôger*), усх. *падмóснікі*, паўн.-зах. *бáлька*, мін. р., слуцк. р, цэнтр.-пал. *падвáліна*) [ЛАБНГ, 4; 45]. Паходжанне адпаведных найменняў у славянскіх мовах (параўн. польск. *slega* 'наземная бэлька, якая абапіралася на сценкі будынка (у старых канструкцыях дахаў), руск. арх. *слегá (слягá)* 'тонкае доўгае бервяно', дан. *слёга* 'тонкая доўгая жэрдка', алан. *ослеги*, *слеги* ' тоўстыя калы́', пск., цвяр. *переслега* 'папярочка', а таксама ўкр. *сліги*, *сляж* 'тоўстая папярочка, масток') не зусім яснае [ФАСМЕР, 3]. Прамыя адпаведнікі маюцца і ў балцкіх мовах: літ. *slẽgos* 'падваліна, лагі' [СПЗБ, 4] і лтш. *slega* 'бэлька' [ЛАУМАНЕ, 1977; 87]. Але гэта хутчэй за ўсё якраз славізмы [там жа]. Славянскія словы ў свой час параўноўваліся і з літ. *slégti*, *slégiu* 'ціснуць' [ФАСМЕР, 3]. Вельмі надзейным нам здаецца і супастаўленне з лтш. *sleņge*, *sleņgis* 'дзвярны вушак' [там жа]. Апошняе ж некаторымі даследчыкамі тлумачыцца менавіта як запазычанне з сяр.-н.- ням. *slenge* 'рамка' [MÜHLENBACH].

Паўночная група гаворак, ці, дакладней, паўночная дыялектная зона, як бачна, прадстаўляе сабой даволі своеасаблівае і адметнае ўтварэнне ў межах беларускай народна-дыялектнай мовы. У адрозненне ад многіх іншых занальных яднанняў беларускіх гаворак, чыю спецыфіку вызначаюць пераважна асаблівасці інавацыйныя, абумоўленыя разнастайнымі культурна-гістарычнымі кантактамі беларусаў з суседнімі этнасамі, паўночнабеларускі занальны моўны комплекс складаецца акрамя таго і ў першую чаргу са з'яў ў храналагічна плане дастаткова старых, рэліктавых, тых, што бяруць пачатак яшчэ ў дадыялектную эпоху. Далейшае дэталёвае вывучэнне паўночнабеларускіх моўных рыс мае, такім чынам, важнае значэнне: яно не толькі дазволіць высветліць пэўныя асаблівасці фарміравання сучаснага моўнага ландшафту нашай краіны, але і дапаможа раскрыць некаторыя істотныя моманты ў працэсе станаўлення і існавання саміх беларусаў як асобнага ўсходнеславянскага этнасу.

## Літаратура

АБ: Археалогія Беларусі: У 4 т.– Мн.: Беларуская навука, 1997- 2002.

АВАНЕСОВ, 1947: Аванесов Р. И. Вопросы образования русского языка в его говорах // Вестник МГУ. – 1947. № 9.

БРПС: Большой русско-польский словарь: В 2 т. / А. Мирович, И. Дулевич, И. Грек-Пабисова. И. Марынякова. – М.: Рус. яз. – Варшава: Ведза повшехна, 1986-1987.

БУЛЫКА, 1972: Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. – Мн.: Навука і тэхніка.

КРЫВІЦКІ, 2003: Крывіцкі А. А. Дыялекталогія беларускай мовы. – Мн.: Выш. шк.

ЛАБНГ: Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. – Мн., 1993-1998.

ЛАУМАНЕ, 1977: Лаумане Б. Э. Лексический материал Диалектологического атласа латышского языка, отражающий латышско-русско-белорусско-польские контакты //Зб. Контакты латышского языка. – Рига: Зинатне.

ЛАУЧЮТЕ, 1982: Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. Л.

МЖЕЛЬСКАЯ, 1963: Мжельская О. С. О лексический связях псковских говоров с западными славянскими языками // Вестник ЛГУ. – 1963. № 14. Серия истории, языка и литературы. Вып. 3. – С. 89-100.

РБС: Русско-болгарский словарь. – М.: Рус. яз., 1981.

РСС: Русско-словацкий словарь. – М.: Рус. яз. – Братислава: Словацкое педагогическое издательство, 1989.

СЕДОВ, 1970: Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья // Материалы и исследования по археологии СССР. – Вып. 163. – М.: Наука.

СПЗБ: Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т. 1-5. Мн., 1979-1986.

СРНГ: Словарь русских народных говоров. Вып. 1-33. – М.-Л., 1965-1999.

СУДНИК, ТОЛСТАЯ, ТОПОРОВ, 1967: Судник Т. М., Толстая С. М., Топоров В. Н. К характеристике южной части балтийско-славянского языкового союза // Советское славяноведение. – 1967. № 2. – С. 38-45.

ФАСМЕР: Фасмер М. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. – М., 1986-1987.

ЭСБМ: Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1-8. – Мн., 1978-

1993.

ЭССЯ: Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. Вып. 1-18. – М., 1974-1992.

ČJA: Český jazykový atlas. T. 1-2. – Praha, 1992-1997.

BRÜCKNER: Brückner A. Słownik etymologiczny języka polskiego. – Warszawa, 1957.

MACHEK, 1957: Machek V. Etymologický slovnik jazyka českeho a slovenského. – Praha.

MAGP: Mały atlas gwar polskich: 13 t. Wrocław – Kraków, 1957-1969.

MÜHLENBACH: Mühlenbach K. Lettisch-deutsches Wörterbuch. – Riga, 1923-1932.

SJP: Słownik języka polskiego: 11 t. – Warszawa, 1958-1969.

SŁAWSKI: Sławski Fr. Słownik etymologiczny języka polskiego: 5 t. – Kraków, 1952-1982.

*Э.Д. Блінава, Н.В. Гаўрош*

# ПОЛІСЕМІЯ Ў ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ (З ГАВОРАК СЛУЧЧЫНЫ)

Здольнасць слова мець некалькі сэнсава звязаных значэнняў уласціва як літаратурнай, так і дыялектнай мове. Полісемія ў народных гаворках – з'ява даволі актыўная. Прычым мнагазначная дыялектная лексема адным са сваіх значэнняў, як правіла, асноўным (першасным), можа супадаць са значэннем гэтай лексемы у літаратурнай мове, але адрозніваецца яе пераноснымі (другаснымі), вытворнымі значэннямі. Напрыклад: ***мост*** 1) збудаванне для пераходу ці пераезду праз раку, канал і інш., 2) падлога ў хаце; ***гадзіць*** 1) дагаджаць, 2) наймаць на працу: *Тры гады гадзіла яго пастухом;* ***сабачка*** 1) маленькі сабака, 2) падсанкі, якія прымацоўваюцца да вялікіх саней, каб перавозіць бярвенне, дошкі.

У некаторых лексемах і асноўнае і пераноснае значэнні развіліся ў дыялектнай мове. Напрыклад: ***марына́рка*** 1) пінжак, 2) верхняе адзенне накшталт паліто; ***ахваціцца*** 1) захварэць на апой (пра каня), 2) выздаравець: *Хварэла цяжка, я ахвацілася, а дачка памерла;* абжыцца: *Цяпер людзі ахваціліся, а ранêй адна галеча была.* 4) падарвацца: *Перасіліўся і ахваціўся мужы́к;* ***плацце (плацье)*** 1) бялізна, 2) адзенне, 3) сукенка; ***рапуха*** 1) земляная жаба, 2) неахайная жанчына.

У дыялектнай мове захоўваюцца ўстарэлыя мнагазначныя словы, якія ў сучаснай літаратурнай мове ўжо не выкарыстоўваюцца. Напрыклад: ***ата́рыца*** 1) невялікі ўчастак зямлі, 2) частка ўраджаю, якую давалі дзеці старым бацькам, 3) доўг, які аддаваўся збожжам. Гэтыя дыялектныя словы паступова выходзяць з актыўнага словаўжывання, а самі носьбіты гаворкі ўспрымаюць іх як архаізмы.

Мнагазначнасць у дыялектнай мове рэалізуецца ў выніку лексіка-семантычнай варыянтнасці слова, калі ўжыванне аднаго і таго ж гукавога комплексу для абазначэння розных прадметаў, з'яў, паняццяў, дзеянняў і г.д. становіцца магчымым таму, што "мова" выбірае такія якасці, характарыстыкі прадметаў, паняццяў, якія могуць быць названы адным і тым самым словам.

Узнікненню полісеміі ў гаворках садзейнічаюць наступныя фактары:

– аб'ектыўнае падабенства прадметаў, з'яў знешняга свету;

– імкненне назваць ужо вядомым словам падобныя прадметы і з'явы;

– тэндэнцыя да ўтварэння слоў з празрыстай унутранай формай

(матывацыя);

– абмежаванасць рэсурсаў мовы, што не дазваляе бясконца ствараць новыя словы.

Прынцып этымалагічнай матывацыі выразна праяўляецца ў большасці дыялектных слоў, бо назва прадмета ці з'явы даецца на падставе якой-небудзь заўважанай практыкай прыметы, уласцівай прадмету ці з'яве. Выбар прыметы, пакладзенай у аснову назвы, можа быць не абавязкова галоўным, але, як правіла, у назве заўсёды адлюстроўваецца сувязь са зместам зыходнай лексемы. Напрыклад: ***мароз*** як назва белай хрызантэмы ўзнікла на аснове асацыяцыі колеру і формы пялёсткаў кветкі з узорамі марозу на шыбах. У дыялектным слове ў большай ступені, чым у лексемах літаратурнай мовы, выяўляецца канкрэтнасць семантыкі, больш выразнае прадметнае супастаўленне з вобразам, які заключаны ва ўтвораным слове.

Полісемія ў дыялектнай мове ўласціва розным часцінам мовы: **назоўнікам** [*галу́за* 1) галавешка, 2) бязрогая карова – у аснове назвы *'голы'*]; **прыметнікам** [*малады* 1) пра ўзрост чалавека, жывёлы, 2) рэдкі, 3) няспелы]; **дзеясловам** [*знеўда́лець* 1) захварэць, 2) схуднець]; **прыслоўям** [*спрэ́с* 1) зусім, 2) цалкам: *Яна спрэс глухая, нічого не чуе*], зрэдку іншым часцінам мовы. Аднак полісемантычныя ў дыялектнай мове найчасцей бываюць назоўнікі і дзеясловы.

Як ужо адзначалася, шляхі развіцця мнагазначнасці слова ў гаворках разнастайныя, але асноўным і вызначальным выступае *метафарызацыя*

Лексіка-семантычныя варыянты назоўнікаў – гэта часцей за ўсё вынік пераносу назвы з аднаго прадмета на другі на аснове знешняга падабенства ці паводле характэрнай прыметы, уласцівасці, якасці, а таксама метанімічны перанос і інш. Напрыклад: 1) ***асяро́дак*** 1) сарцавіна расліны, 2) стрыжань нарыва, 3) цэнтральная частка вёскі; ***гало́ўка*** 1) *памянш.* ад *галава*, 2) шапачка грыба, 3) каробачка з ільняным семем.

Асноўны шлях утварэння лексіка-семантычных варыянтаў дзеясловаў, як і назоўнікаў, – перанос назвы дзеяння, стану на аснове падабенства вынікаў дзеяння, вобразных асацыяцый, метанімічных адносін. Напрыклад: ***абіра́ць*** 1) здымаць: *Абяры́ яблыкі вунь у той кошык,* 2) ачышчаць лупінне: *Абяры́ картоплі ды звары на вячэру*; ***стаяць*** 1) знаходзіцца ў вертыкальным становішчы, 2) займаць пасаду, працаваць: *Мая нявестка ў магазіне стаіць, а сын на хвермі.*

Шматлікія прыклады полісемантычных слоў у гаворках сведчаць, што семантычная варыянтнасць слова – адна з істотных рыс дыялектнай мовы.

Даволі багатыя на мнагазначнасць і гаворкі Случчыны. Як ілюстрацыю пададзім слоўнічак мнагазначных слоў на літару ***М.***

МАГАЗІ'Н, МАГА'ЗІН, МАГАЗЫ'Н *м.* 1. Памяшканне для гандлю, крама. *Наш магазін вялікі ўсе есь у йім. Пастроілі магазін гôт п'яць назат.* Капацэвічы Саліг.; *У магазін прывезлі красівыя кохты.* Карытна Ас.

МАЙ *м.* 1. Пяты каляндарны месяц года. *У маі пасадзіла агуркі свае, ды сухата такая, мусіць нічога з йіх не будзе.* Пясочнае Кап. 2. Зелень, якой упрыгожваюць хату на троіцу. *На сёмуху май ламалі і ў хаце ўбіралі. У сенях, у варотах назатыкаюць мая на сёмуху. Зубкі Кл.*

МАЙДА'Н *м.* 1. Вялікі пляц на агародзе. *Клубнікі вунь які майдáн у агародзе, а варэння варыць няма часу. Сусетка мая з майдáна выбрала сёння вядро клубнікі.* Быстрыца Кап. 2. Загарадка ў полі, у лесе, дома для жывёлы. *Улетку мы свіней у майдáне трымаем.* Новы Быт Кап.

МА'ЙТКІ *толькі мн.* 1. Верхнія мужчынскія штаны. *Купіла сёння мужыку кортавыя мáйткі, але мусіць будуць вялізныя.* Урвядзь Кл. Святочныя мужчынскія штаны. *Мáйткі то правялебныя, толькі ў свята адзявалі, а так штаны гавораць.* Чыжэвічы Саліг. 3. Споднія штаны. *Адзень старые споднія майткі: ены цеплейшые.* Колкі Кл.

МА'КАВАЕ, МА'КАВО (ЗЕРНЕ) *прым.* 1. Зерне маку. *Мáкаво зернышко вельмо чорненько.* Ванелевічы Кап. *Мáкавае зерне пападае на зямлю, і зноў вырастае мак.* Чучча Ас. 2. Вельмі дробны. *Даў хлеба з мá-кава зерня.* Гольчыцы Сл.

МАКАЦЁР, МАКАЦЕ'Р, МАКАЦЁРТ, МАКАЦО'РТ *м.*, МАКАЦЁРКА, МАКО'ТРА *ж.* 1. Гліняная пасуда, у якой труць мак. *Куды дзяваўса мой макацёр?* Амговічы Ас. *Макатрôў цяперака пасці што ні ў каго німашака.* Рачкавічы Сл. *Макацóрт быў і на тры і на пяць літраў.* Пагарэлае Ас. *У макóтры мак добра церці, бо яна шурпатая такая.* Галынка Кл. 2. Галава *груб. От макацёр дурны! Навошто ён у цябе на плячах вісіць?* Будча Ганц.

МАЛАДЗЬБА', МАЛАЦЬБА' *ж.* 1. Працэс выкалочвання зерня з каласоў. *Маладзьбá гэта рукі адрывала.* Грыцавічы Кл. *Малацьбá раней усё ў гумнах была, йта цяпер на таку.* Хідра Пух. 2. Перыяд абмалоту збожжа. *Цяпер сама малацьбá настае.* Грыцавічы Кл. *Скоро пачнецца малацьбá.* Горкі Сл.

МАЛАДНЯ'К, МАЛАДНЁХ *м.* 1. Маладыя жывёлы. *Много маладнякý ў етум годзе здалі ў Любань на мясо.* Рэдкавічы Люб. 2. Пчолы, якія толькі што вывеліся з лічынак (3-4 дні). *Маладня́к на ўзятак не лётае, ён наводзіць парадак у вуллі.* Танежыцы Сл. 3. Малады лес. *У маладнякý мôжно набраць грыбôў.* Чыжэвічы Саліг. *Дзе было гало, тады парôс малады лес, дык гэто маладнёх.* Карытна Ас. 4. Маладыя людзі (юнакі, дзяўчаты). *Ці ты*

*згонісса з гэтым маладняко̂м?* Рэдкавічы Люб. *Маладня́к усё ў горадзе, няма каму цяпер работаць.* Танежыцы Сл.

МАЛАДЫ' *м.*, МАЛАДА' ж. 1. Юны па ўзросце. *Шчэ малады́ дзяцюк.* Турок Люб. *Як была малада́, у Слуцак, на Урэчча хадзіла.* Пасе́ка Ст.-дар. 2. Які нядаўна пачаў расці. *Пасадзіла я сабе̂ малады́х дрэўцаў.* Труханавічы Кап. 3. Няспелы, вадкі (пра гародніну, бульбу). *Картоплю і гарбузы маладзіко̂м не садзяць: маладыя́ будуць. Малада́ картопля не сопка, не смашна. Пацісні яе – дык вада цячэ.* Рэдкавічы Люб. 4. Рэдкі. *Ето рэткі кісель. От наварыла маладо́го кіселя.* Таль Люб. 5. Хлопец, які жэніцца (жаніх). *Малады́ маладую вязе дамоў, як пажэняцца.* Хідра Пух.

МАЛАКО' *н.* 1. Белая вадкасць, якая выдзяляецца ў жывёл, што кормяць залозамі. *Я зарас падаю карову і салоткаго малака́ прынясу.* Морач Кл. 2. Семявыя залозы і вадкасць у рыб. *Малако́ ў рыбе вельмі смачно.* Рожан Саліг.

МАЛЫ' *м.*, МАЛА'Я *ж.* 1. Малалетні. *Наш малы́ такі вёрткі, пайшоў у дзевяць месяцаў.* Ванелевічы Кап. 2. Малодшае дзіця. *Мой малы́ ўжэ дзесяты клас канчае.* Горкі Сл. 3. Нізкі ростам. *У нас есь Давыдоўскі, дык у яго дачка мала́.* Рэчэнь Люб. 4. *памянш.*: ад малы (памерам). *Для мале́нькіх блінчыкаў ест спецыяльна скаваротка.* Турок Люб.

МА'МА *ж.* 1. Родная маці. *Мае дзеці на мяне кажуць ма́ма.* Хідра Пух. 2. Свякроў. *Свякруху ма́май трэба зваць.* Турок Люб.

МАНІ'СТА *ж.* 1. Пацеркі. *Неўкач маністу ўсе насілі.* Рахавічы Саліг. 2. Шнурок для прасушкі лістоў тытуню ці інш. лісця. *Пад навесам нанізваюць лісце на маністу і вешаюць на прасушку.* Лясное Кап. 3. Шнурок разам з лістамі, нанізанымі для прасушкі. *Маністу рабілі з кляновых лістоў, каб потым хлеб пячы.* Ст. Гута Кап.

МА'КА *ж.* 1.Манныя крупы. *Ма́нку ў магазіне купляем.* Чучча Ас. 2. Ежа з манных круп. *Ма́нка і старой бабе добро.* Даманавічы Кл. *Ма́нка – ета дзіцячая ежа.* Таль Люб.

МАРДАВА'ЦЦА *незак.* 1. Выбівацца з сіл, знясільвацца. *Так за дзень я мардава́ласа, што ледзь ногі валаку.* 2. Мучыцца, пакутаваць. *Адзін жыве і бяды не знае, а другі ўсё жыццё марду́ецца.* Будча Ганц.

МАРКО̂ЎНІК *м.* 1. Націнне морквы. *Марко̂ўнік свіням аддаём.* Чыжэвічы Саліг. 2. Травяністая расліна з лісцем, падобным да лісця морквы. *Марко̂ўнік – ето лясавая трава, яна падобна на моркву, цвіце бе̂лымі кветкамі.* Рэдкавічы Люб.

МАРО̂З, МАРОЗ м. 1. Моцны холад, сцюжа. *Ой, маро̂с сёння, нос не выткнеш.* Рэчань Люб. *Неяк вясной маро̂з быў, агуркі памерзлі.* Чучча Ас. 2. бат. Хрызантэма. *Дачка прывезла адростак маро̂за, вунь які вырас. Цвяточкі прыгожыя, белыя.* Цялядавічы Кап.

МАРЦЫКЛЕ'Т *м.* 1. Матацыкл. *Нядаўно ўнуку марцыклéт купілі, дык усё ні наездзіцца.* Лясное Кап. 2. Веласіпед. *Гэта яны з малін на марцыклéтах едуць.* Ст. Капыль Кап.

МАРЦЫПА'ЛЫ, МАРЦЫПА'НЫ *толькі мн.* 1. Каравай. *Як на вяселы марцыпáны дзялілі, дык лажылі, хто колькі мог, грошай.* Ст. Капыль Кап. *Вяселле цяпер не такое, усё забылі, адны марцыпáлы засталіся.* Ст. Гута Кап. 2. Грошы, падараваныя маладым у час вяселля. *Ён забраў марцыпáны, кінуў маладую і з'ехаў.* Леткаўшчына Кап.

МАРЫНА'РКА *ж.* 1.Пінжак. *Даў бацько грошай, каб купіць марынáрку.* Морач Кл. 2. Пінжак асобага крою, вельмі адкрыты спераду. *Марынáрка раскладзіста, а пінжак пад горло.* Морач Кл. 3. Верхняе адзенне накшталт паліто. *У нас жанчына была, зімой і летам марынáрку насіла.* Лясное Кап.

МАСЛЁНКА, МАСЛЯ'НКА ж. 1. Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла. *Маслёнка ў жаркую пагоду лепш за малако.* Суцін Пух. *Маслянку свіням аддаём.* Грыцавічы Кл. 2. Маслабойка. *Памый маслёнку гарачай вадой і добра высушы.* Карытна Ас.

МАСЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць дарогу, брукаваць. *Трэба масціць дарогу далей, за Тальку.* Суцін Пух. 2. Старанна ўкладваць. *Сало масцілі раней у куб'ёлкі.* Быстрыца Кап.

МА'ТКА *ж.* 1. Маці. *Мой Шура кажа мáтка і мáма, а кросную называюць мáмка.* Пагарэлае Ас. 2. Унутраны орган жанчын і самак жывёл. *Пасля родаў у яе мáтка бальная.* Таль Люб. 3. Самка пчол. *Мáтка тонкая, доўгая, ні такая як пчолы.* Грыцавічы Кл. *Пчолы бяз мáткі ня могуць жыць.* Ванелевічы Кап. 4. Старая бульбіна, выкапаная з градкі разам з маладой. *Бывае, укінеш і мáтку ў кош з маладой картопляю.* Рэдкавічы Люб.

МАХРА' *ж.*, МАХРЫ', МО'ХРЫ *мн.* 1. Ніткі, што свабодна звісаюць па краях тканіны. *Зав'яжаш, бывало, хустку з махрóй ды і пойдзеш на вячоркі.* Таль Люб. *Як маладая замуж ідзе, дык маладому красівы пояс з махрáмі ткала. Пояс тканы, махры́ рабілі на канцах.* Горкі Сл. *Махрэ́ мы чапляем к настольнікам.* Чудзін Ганц. *Мóхры на скацерце з нітак.* Таль Люб. 2. Тонкія бакавыя карэньчыкі ў выглядзе нітачак на моркве. *На кôжнай моркаўцы есь мóхра.* Таль Люб. *От махры́ста моркаў, адны махры.* Чудзін Ганц.

МАЦЁРА *ж.* 1. Свойская і дзікая паросная ці з вывадкам свіння. *Мацёра ўся ў гразі, і парасята такія самыя бёгаюць.* Танежыцы Сл. 2. Старая бульба, выкапаная разам з маладой. *Мацёра – бульба нікуды нігодна: у ёй нема ні соку, ні бялкôў.* Турок Люб.

МАЧА'НКА *ж.* 1. Страва з сала, мяса і кілбасы, падкалочаная мукой. *Мачáнку паткалочваюць мукою пеклёванаю, таму яе ячшэ*

*называюць паткалôтка.* 2. Яечня з мукой. *Два яйцы, ложку мукі, малака і з салам – такая яешня атрымаецца – мачáнка.* Горкі Сл.

МАЧАХА, МАЧЫХА, МАЧЧЫХА, МАЧЭХА *ж.* 1. Няродная маці. *Мáчаха – гэто табе неродна маці. Па галоўцы не пагладзіць.* Чыжэвічы Саліг. *Якая праява, то яе і завуць мáчыхай.* Ванелевічы Кап. *Мáччахай яна была не сваім дзецям.* Хідра Пух. *У яго няродна маці, а мáчэха.* Таль Люб. 2. Старая бульбіна, выкапаная разам з маладой. *Выбірай акуратненько, не кідай у кош мáчах.* Чыжэвічы Саліг. *Маладые пазбіраеш, а мáчэха астаецца. Бальшанство мáчэх гніюць на полі.* Таль Люб.

МАЧЫЦЬ *незак.* Рабіць мокрым, вільготным. *Дôж мачыў, дык ягады вялікія раслі.* Амговічы Ас. 2. Намочваць насенне перад пасевам. *Я ўчора мачыла гуркі, а сягôння ўжэ прараслі.* Амговічы Ас. *Спачатку мачыць трэба насенне, а тады садзіць.* Гольчыцы Сл. 3. Намочваць, рыхтаваць да ежы (грыбы, фасолю, журавіны і інш.). *Грыбы ў нас соляць, сушаць, мочаць, вараць, смажаць, марынуюць.* Рэдкавічы Люб. *Мочам яблыкі ў дзераўляных дзежачках.* Ванелевічы Кап.

МАШЫНА *ж.* 1. Грузавы аўтамабіль. *Дайце машыну: трэбо дрôў прывêзці.* Таль Люб. 2. Швейная машына. *Есь усякія ігôкі: машынова, што да машыны. Бываюць розныя пад нумярамі, як і ніткі.* Таль Люб.

МАШЫНКА *ж.* 1.Запальнічка. *У маладых есь купленыя машынкі, то імі прыкурваюць папяросы.* Таль Люб. *У нас большасць машынкамі агонь запальваюць.* Карытна Ас. 2. Металічная засцёжка, кнопка. *Тыя разы на кнопі казалі машынкі.* Рожан Саліг. *Ушый машынку ў рубашку.* Колкі Кл. 3. Частка лямпы. *Закруці машынку ў лямпі, бо газа разальецца.* Колкі Кл. *У машынцы кнот знаходзіцца.* Суцін Пух.

МÊЛКІ *прым.* 1. Дробны. *Мêлкае галье спальваюць.* Рэчань Люб. 2. Від драўніны. *У адным лêсе есь лêс, дзе рознаслôй бувае. Мêлкі слôй – сама лепшы, а бôльша слаёў – слабы мацер'ял.* Рэчань Люб.

МÊСЯЦ, МЕСЯЦ *м.* 1. Планета. *Пад пôўня мêсяц круглы.* Рожан Саліг. *Усю ноч свяціў мéсяц.* Чудзін Ганц. 2. Дванаццатая частка года. *Раней называлі мêсяцы па-руску, цяпер ужо па-беларуску.* Рожан Саліг. *Мôй сын пайшоў на цэлы мêсяц вучыцца.* Ванелевічы Кап. 3. Назва танца. *У той час танцавалі розныя танцы: густэф, мéсяц, сербіянку. Мéсяц рухавы танец. Мéсяц таксама танцуем у пары.* Пясочнае Кап.

МÊШАЛКА, МЕШАЛКА *ж.* 1. Прылада для размешвання чаго-небудзь. *Мêшалку просто з дошчачкі робяць.* Труханавічы Кап. *Мêшалка ў ажагу павінна стаяць, як і вілкі, чапляя.* Капацэвічы Саліг. 2. Пра нязграбнага, некультурнага чалавека. *Мешалка ты неабрабляная.* Карытна Ас.

МІСА *ж.* 1. Таз. *Міса бальшушча, а тазік з ручкамі.* Ванелевічы Кап. 2. Вялікая міска. *Нарабіласа, то і місу капусты з'ела.* Ванелевічы Кап.

МІ'СКА *ж.* 1. Посуд, часцей гліняны, але можа быць і з іншага матэрыялу. *Раней былі гліняныя міскі, чорныя, чырвоныя, розныя.* Суцін Пух. *Міскі раней раблі гаршкалёпы.* Турок Люб. 2. Посуд (таз), у якім мыюць бялізну, твар, рукі. *У мяне цэлых чатыры міскі.* Даманавічы Кл. *У мяне вялікая міска ёсць бялізну мыць.* Суцін Пух.

МО'ВА *ж.* 1. Слова. *Восём дней пабыў, ні чуў мо́вы ад Клавы.* 2. Здольнасць гаварыць. *Параніло яго моцно, і ляжыць без мо́вы. Чалавек захварэў, і мо́ву яму атняло.* 3. Прадмет навучання. *Дачка беларускую мо́ву выкладае.* Ванелевічы Кап.

МОЛЬ, МÔЛЬ *ж.* 1. Дробны матылёк, вусень якога нішчыць шарсцяную тканіну, футра, хлебнае зерне і інш. *Моль е і цяпер. Яна ў адзёжы. Мы перасыпаем адзёжу гапталінам.* Карытна Ас. *Мôль у мяне з'ела каўнярка.* Чудзін Ганц. 2. Рыбныя малькі. *Маладзенькe рыбкі называюцца моль.* Чыжэвічы Саліг. *Шчука з'ядае мôль.* Таль Люб.

МО'РДА *ж.* 1. Твар. *З мо́рды харошы, з харакцеру не ўгада́еш.* Ванелевічы Кап. *Маці мая і цяпер кажа: мо́рду трэба памыць.* Чыжэвічы Саліг. 2. *зневаж. От разгадаваў мо́рду. Як дам у мо́рду, то зубоў не пазбіраеш.* Чыжэвічы Саліг. 3. Шчака. *На твары ў чалавека дзве мо́рды. Яго мо́рды шчаціннем паабрасталі.* Чыжэвічы Саліг. *Некалі настаўнік біў кніжкай па мо́рдзе, па галаве.* Ванелевічы Кап.

МО'РКАЎ *ж.* 1. Тое ж, што морква. *Мая мо́ркаў вельмі густая, а толку з яе будзя мала.* Амговічы Ас. *Цяпêр мо́ркаў няўдала парасла.* Чудзін Ганц. 2. Страва з морквы. *Улі мне мо́рквы, я яе з малаком натта люблю.* Рэдкавічы Люб.

МÔСТ, МО'СТ *м.* 1. Збудаванне для пераходу ці пераезду цераз раку, чыгунку, канал і г.д. *У нас есь і ежжы і пераходны мост. Пераходны мост вускі.* Чучча Ас. *У нас цяпêр найбольш бетонные масты́ строяць, стары дзераўяны мост можа і не вытрымаць: машыны цяжкія едуць.* Чыжэвічы Саліг. 2. Падлога ў хаце. *Цяперака мост у кожнай хаце з дошак паробляны, а даўней жа земляны быў.* Лясное Кап.

МО'ТАШНО *прысл.* 1. Млосна, нядобра (пра стан здароўя). *Ой, і мо́ташно мне, мо будзе ташніць да балезні.* Таль Люб. 2. Агідна, прыкра. *Ой, мо́ташно слухаць гэтаго хлуса.* Танежыцы Сл.

МУДРЭ'Й *прысл.* 1. Лепш, мацней. *Бачу, яна (машына) мудрэ́й засвстала.* Быстрыца Кап. 2. Больш. *Ён мне стаў мудрэ́й Бу́кса праціўны.* Рачкавічы Сл.

МУЖЫ'К *м.* 1.Муж. *Мой мужы́к паехаў у Лейчыкі касіць.* Труханавічы Сл. *Мой мужы́к служыў тры гады дзейсвіцельну, а потым узялі яго на паўтарэнне.* Грыцавічы Кл. *Сусетка кінула свайго мужыка́, прыехала з*

*цаліны.* Карытна Ас. *Мôй мужы́к хоча ставіць нову хату.* Чыжэвічы Люб. 2. Гаспадар. *А мой гаспадар нічога не хоча рабіць.* Труханавічы Сл.

МУ'ЛКО *прысл.* 1.Сумна. *Вôсь паедзіце ў Мінск, і мне без вас мулко будзе.* Рэдкавічы Люб. 2. Цвёрда. *Вам мо мулко спаць?* Рэдкавічы Люб.

МУ'РЗА *ж.* 1.Страва з чарніц, перацёртых з цукрам, з дабаўкай крухмалу або мукі. *У нас му́рзу так робяць: возьмуць ягад, пературуць з сахарам і яшчэ з крухмалам. Вот і мурза́ смачна.* Морач Кл. 2. Страва з чарніц, якія смажаць з цукрам. *Навары, бабо, мурзы́. Добре мурзы́ наемся.* Морыч Кл.

МУРЛА'Т *м.* 1. Бэлькі. *Мурла́т – ето балькі вычасаныя, дôўгі, мêтраў на дзесяць у даўжыню.* Таль Люб. 2. Верхні вянок зруба. *Крокбы ставяць на мурла́т.* Карытна Ас.

МУРОГ, МУРÔГ *м.* 1.Сухадольная трава высокай кармавой якасці. *Муро́г дзе высока расце, на грудах, дробненькія лісточкі.* Пагарэлае Ас. 2. Сена з такой травы. *Грудавое сена мурôг.* Ванелевічы Кап. *Як пад'есць карова мурагу́, то і малака дасць.* Горкі Сл. *За агародам поплаў, а мурôг на грудзе расце.* Грыцавічы Кл.

МЫ'СА *ж. зневаж.* 1. Твар чалавека. *Ну й мы́са ў яго, сыту мы́су адгадаваў.* Чыжэвічы Саліг. *Сядзі, а то ўпадзеш да мы́су патаўчэш.* Танежыцы Сл. 2. Морда каровы (ці іншай жывёлы). *У нашай каровы такія рогі вялікія, што паўрасталі ў мы́су. У нашаго сабакі мы́са баліць.* Чыжэвічы Саліг. *Я бачыла баброў. Спінкі чорныя, хвасты, як у рыбы, мы́сы сабачыя.* Рэдкавічы Люб.

МЫ'ЦЕЛЬНІК *м.* 1. Кут насупраць печы, дзе стаяць качарга, вілкі, ла-ва, вядро, кружка, дзе ўмываюцца і мыюць пасуду. *Мыцельнік – той куток, дзе вядро стаіць, гаршкі, чаганы.* Чыжэвічы Саліг. *Ванё, вазьмі ў мы́цельніку чапялу.* Морач Кл. 2. Акно, якое знаходзіцца ля ўваходу. *А мая меншая дачка стаяла ля мы́цельніка і ўсё бачыла.* Танежыцы Сл. 3. Месца для сушкі кухоннай пасуды. *У каго хата вялікая, дык у мы́цельніку пасуда.* Турок Люб. 4. Кут ў хаце ля печы. *Чаго вы стаіце ў мыцельніку, праходзьце далей.* Лазавічы Кл.

МЯЖА' *ж.* 1. Вузкая палоска неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі. *Мêжду сотак мяжа́. Пакінулі нямнôжко і худзяць.* Рэчань Люб. *Паміж загунамі ме́жы былі. Гарбузы на ме́жах садзяць, шкода зямлі.* Рэдкавічы Люб. *Як былі аднаасôбнікі, дак былі й ме́жы.* Амговічы Сл. 2. Разора паміж градкамі ў агародзе. *Укруга градачак і паміж імі ме́жы. Па мяжы ідзі, ні тапчы гуркоў.* Рэдкавічы Люб.

МЯРҐАВА'ЦЬ *незак.* 1. Меркаваць. *Яны мярґу́юць, кап хату ставіць.* Ванелевічы Кап. 2. Мірыць. *Яны мярґу́юць, сартуюць дзяцей, каб яны жылі дружно на адной зямлі. Ванелевічы Кап.* 3. Кіраваць. *Каб*

*знайшоўся які дзяцька ды мярѓаваў добра людзей, то й жылі б добра.* Ванелевічы Кап.

МЯРЭШЧЫЦЦА *незак.* 1. Зіхацець. *От я была ў Замосце, то лямпачкі аж мярэшчацца, а ў нас цёмна.* Гольчыцы Сл. 2. Мітусіцца, мільгаць. *У вачу што-та мярэшчыцца ў мянê, як туман.* Гольчыцы Сл.

МЯ'СА, МЯ'СО *н.* 1.Туша ці частка тушы забітых жывёл ці птушак (каровы, свінні, авечкі, гусі, качкі). *Авеча мяса добра, такое саме, як і свіное.* Горкі Сл. *Зарэзала качку да такая жырна была, да смачно мясо.* Танежыцы Сл. 2. Мяккая частка гародніны, ягад; мякаць. *З мяса гарбуза кашу вараць, от смаката.* Грыцавічы Кл. *Нêі гарбус пусты, толькі мяса нарасло, а гарбузікаў мало.* Амговічы Сл.

МЯ'ТА *ж.* 1. Лекавая травяністая расліна з моцным пахам; мята. *Ля ракі расце дзікая мята.* Таль Люб. *Ест і палявая мята.* Турок Люб. 2. Мацярдушка. *Мята лясная добра, тôлько што кепско пахне.* Капацэвічы Саліг.

МЯШО'К *м.* 1. Мех. *Жанчына пашыла мяшок са свайго палатна.* Амговічы Сл. 2. Мера для чаго-небудзь сыпкага, роўная 3–5 пудам (часам і больш). *Былі ўсякія мяшкі: па тры–чатыры–п'яць і восем пудôў. На вôзе там мяшок, паставіш і насыпаеш картошку.* Капацэвічы Саліг. *Пяць мяшкôў ячменю здала на ферму. Амговічы Сл.*

Умоўныя скарачэнні раёнаў

Ас. – Асіповіцкі
Ганц. – Ганцавіцкі
Кап. – Капыльскі
Кл. – Клецкі
Люб. – Любанскі
Пух. – Пухавіцкі
Саліг. – Салігорскі
Сл. – Слуцкі
Ст.-дар. – Старадарожскі

*А.А. Босак, В.М. Босак, С.А. Кузьміч*

# ТАПАНІМІКА ПРУЖАНСКАГА РАЁНА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ АСПЕКЦЕ

Тапанімічныя назвы займаюць значнае месца ў народных гаворках Беларусі. Яны дазваляюць найбольш трапна перадаць адметныя назвы, дапамагаюць больш дэталёва вывучыць гісторыю адпаведнай мясцовасці і характары яе насельніцтва. Найбольш яскравыя з іх перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Ніжэй мы прыводзім характэрныя прыклады народных тапанімічных назваў, якія сабраны ў трох найбольш значных дыялектных гаворках Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці [1-6]:

1) верхняясельдская гаворка – адносіцца да сярэднебрэсцкіх гаворак заходнепалескага дыялектнага тыпу. Распаўсюджана ў цэнтральнай і ўсходняй частках Пружанскага раёна. Матэрыялы сабраны ў вёсках Смаляніца (См.), Асятніца (Ас.), Бярозаўка (Бяр.), Кабылаўка (Каб.), Комлішча (Ком.), Навасёлкі (Нвс.), Піняны (Пін.);

2) паўночнабрэсцкая гаворка – адносіцца да гаворак заходнепалескага дыялектнага тыпу. Распаўсюджана ў заходняй частцы Пружанскага раёна. Матэрыялы сабраны ў вёсках Мурава (Мур.), Грынявічы (Ґр.), Чапялі (Чап.);

3) гродзенска-баранавіцкая (панямонская) гаворка – адносіцца да паўднёва-заходніх гаворак асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы. Распаўсюджана ў паўночна-ўсходняй частцы Пружанскага раёна. Матэрыялы сабраны ў вёсках Калазубы (Каз.), Навасады (Нав.), Мілейкі (Міл.), Еськаўцы (Ес.), Куляшы (Кул.).

Тапанімічныя назвы можна ўмоўна падзяліць на некалькі груп:

1) назвы, якія звязаны з гістарычнымі падзеямі. Найбольш вядомай з'яўляецца *Паля'цкі трыб* – дарога-прасека ў Ружанскай пушчы, якая была пракладзена царскімі карнікамі падчас вызвольнага паўстання Вінцэнта Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе для ўзмацнення кантролю за перамяшчэннямі групаў паўстанцаў; сюды ж, хутчэй за ўсё, патрэбна аднесці *Лі'соў трыб, Жылі'нскі трыб, Пэрэе'здзіцкі трыб*;

2) назвы, звязаныя з былымі ўладальнікамі той ці іншай мясціны. У сваю чаргу яны падзяляюцца на назвы, звязаныя з канкрэтнай асобай (*Бубначо'ў ху'тор, Марці'ноў рог, Сэльвэсюко'ў горо'д*); дзяржаўныя ўладанні (*Казё'ннэ* – Ружанская пушча); уладанні жыхароў іншых вёсак (*Хорэўскі' луг*);

3) назвы, якія звязаны з прадметамі ці з'явамі навакольнага асяроддзя (*До'ўгая хвоі'нка, Барсуко'віца, Багны'* і г.д.); цікавай назвай у гэтым сэнсе з'яўляецца *Гу'ра* – узвышша ў Ружанскай пушчы, якое з'яўляецца водападзелам басейнаў Нёмана і Прыпяці;

4) новыя назвы, звязаныя найперш з пераменамі ў землеўпарадкаванні і меліярацыяй (*Ко'ло хво'і* – адзінае дрэва, якое засталося пасля асушэння балоціны, *До'ўгая кле'тка, Ко'ло шлю'за* і г.д.).

АЛЬШЫ'НКА (*Мур., Чап.*) – альховы лес.

БАГНЫ' (*См.*) – балоцісты лес.

БАГО'Н (*Каз., Міл., Кул.*) – лясны масіў.

БАРВІ'НСКЕ (*Мур., Гр.*) – поле па назве былога ўладальніка.

БАРСУКО'ВІЦА (*См., Ас.*) – лес, поле і балота па назве дзікіх звяроў.

БЕ'ЛКА (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былой вёсачкі.

БЕРО'ЗКІ (*Мур., Чап.*) – бярозавы лес.

БОР (*Мур., Чап.*) – сасновы лес.

БОРЫ'СОЎ ГОРО'Д (*См.*) – поле па назве былога ўладальніка.

БРАДКІ' (*Мур., Чап.*) – лес, які знаходзіцца за былымі брадамі ў балоце.

БРОДЫ' (*См., Ас.*) – адкрытыя водныя ўчасткі пасярод балота.

БУБНАЧО'Ў ХУ'ТОР (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

БЭРО'ЗОЎСКАЯ ДОРО'ГА (*См.*) – дарога ў напрамку в.Бярозаўка.

ВО'КНІНА (*См., Ас.*) – моцна балоцістая мясціна.

ВОЎКОЎНЯ' (*См.*) – лес, дзе зімой часта сустракаліся ваўкі.

ВЫ'НІМКІ (*См., Каб.*) – поле і лес паабапал яго.

ГАІ'К (*Каз., Нав., Міл.*) – невялічкі лясны масіў.

ГАРЭ'ЛІК (*Каз., Кул.*) – лес на месцы былога пажару.

ГЛІ'НКІ (*См.*) – поле і лес з глiністай глебай.

ГОРО'ХОВА ГОРА' (*См., Ас.*) – поле і лес па назве былого ўладальніка.

ГО'РЫ (*См.*) – лес і поле на ўзгорках за вёскай.

ГО'РЫ (*Мур., Чап.*) – лес, які знаходзіцца на ўзгорках.

ГРА'ДКІ (*См.*) – лес на месцы былога поля.

ГРЭ'БЛЯ (*См., Ас.*) – дарога праз балоцісты лес.

ГУ'РА (*Каз.*) – узвышша ў Ружанскай пушчы (водападзел Нёмана і Прыпяці).

ГУТЭ'НСКЕ О'ЗЕРО (*См., Ас.*) – возера непадалёку ад в.Гута.

ДО'ЎГАЯ КЛЕ'ТКА (*См., Ас.*) – асушаны тарфянік згодна месцазнаходжання.

ДО'ЎГАЯ ХВОІ'НКА (*См.*) – лес значных памераў.

ДРУГА'Я КЛЕ'ТКА (*См., Ас.*) – асушаны тарфянік згодна месцазнаходжання.

ДУБРО'ВА (*Мур., Чап.*) – лес, дзе сустракаюцца ў значнай колькасці дубы.

ДЭСЭЦІ'НЫ (*См.*) – лес на месцы былых палёў.

ЖЫЛІ'НСКІ ТРЫБ (*См., Ком., Бяр.*) – прасека ў лесе.

ЗА ГОРЭ'Ю (*См.*) – поле на пагорках.

ЗА ГРУДКО'М (*См.*) – балота, поле і лес за ўзгоркам.

ЗА МО'СТОМ (*См.*) – поле і сенажаці згодна месцазнаходжання.

ЗА СОШЭ'Ю (*См., Каб., Нвс.*) – лес і поле за шашой.

ЗА Я'СЕМ (*Пін.*) – поле за хатай Яся.

ЗАГА'ЦЬ (*Мур., Чап.*) – поле, якое знаходзіцца за балоцістай мясцінай.

ЗАГО'НЦЫ (*Мур., Гр.*) – поле, дзе раней знаходзілася мноства загонаў.

ЗА'ДНЕ (*Пін.*) – поле згодна месцазнаходжання.

ЗЭЛЁ'НЭ (*См.*) – балота і лес з густой раслiннасцю.

КАЗЁ'ННЭ (*См., Ас., Бяр.*) – назва Ружанскай пушчы, якая належала дзяржаве.

КАР'Е'Р (*Каз., Нав., Міл.*) – поле каля месца здабычы жвіру.

КІ'ШКА (*См.*) – доўгі нешырокі лес.

КЛЮКАЧЫ'СІНА ГРАДА' (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

КОЗЁ'Л (*См.*) – лес, балота і поле па назве дзікіх звяроў.

КОЛЕСНІ'ЦА (*См.*) – лес, праз які ішла дарога з вёскі.

КО'ЛО БРОДКА' (*См., Каб.*) – поле і лес каля броду.

КО'ЛО ГРЫБКА' (*См.*) – поле згодна месцазнаходжання.

КО'ЛО ДУ'БА (*См., Каб.*) – поле і лес згодна месцазнаходжання.

КО'ЛО ЖЭ'БРУНА (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

КО'ЛО КА'МЭНЯ (*См.*) – поле згодна месцазнаходжання.

КО'ЛО ПО'ЛЬКІ (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

КО'ЛО РУПЕ'КІ (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

КО'ЛО ХВО'І (*См., Ас.*) – поле згодна месцазнаходжання.

КО'ЛО ШЛЮ'ЗА (*См.*) – поле згодна месцазнаходжання.

КО'ЛО Ю'ЛЬКІ (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

КОЛОСКІ' (*Пін.*) – поле, дзе найчасцей сеялі збожжавыя культуры.

КО'НСКІЕ МОТЛІЦЫ (*См., Пін.*) – месца, дзе раней хавалі хатніх жывёл.

КРА'СНІК (*См., Ас.*) – лес і поле па назве былой вёсачкі.

КРЫЖЫ' (*Нав., Міл., Ес.*) – поле каля скрыжавання дарог.

КУ'КСОВА ГОРА' (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

КУРГА'Н (*Каз., Ес., Міл.*) – узгорак пасярод поля.

ЛАТІ (*Каз., Нав., Кул.*) – маленькае возера і балоціна.

ЛЕСКІ' (*Мур., Чап.*) – лес, які ўтварыўся на месцы некалькіх невялічкіх лясоў.

ЛІЗЭ'РТ (*См., Ком.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

ЛІ'СОЎ ТРЫБ (*См., Ком., Бяр.*) – прасека ў лесе.

ЛІ'СЫ НО'РЫ (*См.*) – лес і поле па назве дзікіх звяроў.

ЛІТО'ЎСКЕ (*См.*) – балота і лес у напрамку «літоўскіх» (панямонскіх) вёсак.

ЛЫ'САЯ ГАРА' (*Каз., Кул., Міл.*) – поле пасярод ляснога масіву.

ЛЫ'САЯ ГОРА' (*Ком., Нвс.*) – бязлесы ўзгорак пасярод ляснога масіву.

МАРГІ' (*Мур, Чап.*) – поле па назве былой зямельнай меры.

МАРЦІ'НОЎ РОГ (*См.*) – лес і поле па назве былога ўладальніка.

МАЦО'ЎКА (*См., Кам.*) – рэчка; поле і лес непадалёку ад гэтай рэчкі.

МАЦО'ЎСКАЯ ДОРОГА (*См.*) – дарога ў напрамку лесу, поля і р.Мацоўкі.

МІРОМО'Х (*См., Бяр., Ком., Нвс.*) – лясны масіў з характэрнымі прыкметамі.

МО'РАШКОВА ГОРА' (*См.*) – лес са мноствам мурашыных хатак.

МО'ШКАРОЎ ХУ'ТОР (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

НА БОЛО'ЦІ (*Пін.*) – поле і сенажаці на асушаных тарфяніках.

НА БЭРЭ'ЗІНІ (*См.*) – поле каля бярозавага лесу.

НА ЛІ'ПОВІКУ (*См.*) – поле згодна месцазнаходжання.

НАДДА'ТКІ (*Мур.*) – поле, якое было перададзены другім уладальнікам.

НІ'КАР (*Мур., Чап., Гр.*) – поле па назве былога ўладальніка.

НІ'ЎКІ (*Пін.*) – назва поля значных памераў.

ОЛЬШЫ'НА (*Пін.*) – альховы лес.

ОЛЬШЫ'НКА (*См.*) – сажалка, парослая альховікам; поле вакол сажалкі.

ОСТРОВА' (*См., Пін.*) – пясчаныя выспы пасярод балота.

ПАЛІГО'Н (*См., Каз., Бяр.*) – лес паабапал вайсковага палігону.

ПАЛЯ'ЦКІ ТРЫБ (*См., Ком., Бяр.*) – дарога-прасека ў Ружанскай пушчы.

ПАЎЛУ'ШЫНЫ КО'РЧЫКІ (*См.*) – лес па назве былога ўладальніка.

ПЛЁС (*См.*) – вялікі брод у выглядзе сажалкі пасярод балота.

ПОД ЗА'ГОРОДОМ (*См.*) – балота, поле і лес згодна месцазнаходжання.

ПОЛОВІ'ЦА (*См.*) – поле і лес каля балота.

ПОПЛАВЫ' (*См.*) – балоцістыя сенажаці пасярод поля.

ПОРОСЛЕ' (*См., Ас.*) – лясны масіў.

ПРЭ'ДКАВА ВО'ЗЕРА (*Каз, Нав.*) – возера па назве стваральніка.

ПЭ'РШАЯ КЛЕ'ТКА (*См., Ас.*) – асушаны тарфянік згодна месцазнаходжання.

ПЭ'РШЫ (ДРУГІ і г.д.) КВАРТА'Л (*См., Ас., Ком., Бяр.*) – канкрэтны ўчастак лесу.

ПЭРЭ'ДНЕ (*Пін.*) – поле згодна месцазнаходжання.

ПЭРЭЕ'ЗДЗІЦКІ ТРЫБ (*См., Ком., Бяр.*) – прасека ў лесе.

РЫ'БЭЛЬ ПО'ЛЕ (*См., Бяр.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

РЫ'ЦІЦКАЯ ГРАДА' (*См., Ас., Бяр.*) – лес па назве былога ўладальніка.

СКОРЭ'ЦКІ ЛЕС (*Пін.*) – лес у напрамку да в.Скорцы.

СМЫ'КАВІЦА (*См.*) – невялікае балота пасярод лесу.

СОЛОЎЁ'ВЭ (*См.*) – балота па назве былога ўладальніка.

СЦЕ'НКА (*См.*) – прамая дарога каля лесу.

СЭЛЬВЭСЮКО'Ў ГОРО'Д (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

СЭРЭ'ДНЕ (*Пін.*) – поле згодна месцазнаходжання.

ТАРТА'К (*См., Ком., Бяр.*) – лес, дзе раней знаходзіўся лесапільны заводзік.

ТРЭ'ЦЯ КЛЕ'ТКА (*См., Ас.*) – асушаны тарфянік згодна месцазнаходжання.

ТЭ'МРА (*См., Ас.*) – рэчка; балота, поле і лес вакол гэтай рэчкі.

ХОРЭЎСКІ' ЛУГ (*См.*) – былое ўладанне жыхароў в.Харава.

ЦІМОХО'ВЭ (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

ЧУ'ДОЎ КЛІН (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

ЧУЛІ'НДА (*См., Ком., Бяр.*) – лясны масіў у Ружанскай пушчы.

ЧЭ'РЭЗ СОШУ' (*См., Каб.*) – поле і лес у напрамку шашы.

ЧЭРЭ'ЧЭНІК (*См.*) – сажалка; лес і поле вакол гэтай сажалкі.

ШЧЫТЭ'НКА (*См., Ком., Бяр.*) – лясны масіў у Ружанскай пушчы.

ШЫ'МЭЛЁЎ ХУ'ТОР (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

Ю'ДЗІНЫ КО'РЧЫКІ (*См.*) – лес па назве былога ўладальніка.

ЮШКОВЭ'Ц (*См., Ас.*) – поле і лес каля рэчкі.

ЯЛО'ЎКА (*Мур., Чап.*) – яловы лес.

Я'НІНО (*См.*) – поле і лес па назве былога ўладальніка.

ЯРМАКО'ВЭ ПО'ЛЕ (*Мур., Чап.*) – поле па назве былога ўладальніка;

Я'СЭНЕЦ (*См., Бяр.*) – ясеневы лес і поле непадалёку ад яго.

**Літаратура**


1. *Аванесаў Р.І.* Групоўка дыялектаў беларускай мовы // Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1964. – С. 382-403.
2. *Босак А.А., Босак В. М.* Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Фанетыка і марфалогія. – Мінск, 2005. – 94 с.
3. *Вайтовіч Н.Т.* Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 220 с.
4. *Зянько І.І.* Важнейшыя асаблівасці фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу гаворак Пружанскага раёну Брэсцкай вобласці // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. – вып. 3. – Мінск: АН БССР, 1957. – С. 145-158.
5. *Клімчук Ф.Д.* Гаворкі Заходняга Палесся. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.
6. *Клімчук Ф.Д.* Заходнепалескія гаворкі // Беларуская мова / Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 57, 218-219.

# СЕМАНТЫКА РУСАЛЬНАЙ ТРАДЫЦЫІ

Беларуская русальная традыцыя — адзін з нешматлікіх фрагментаў архаічнай мадэлі свету, на якую хрысціянства амаль не зрабіла ўплыву. Летапісныя помнікі з XII ст. адлюстроўваюць барацьбу хрысціянскіх прапаведнікаў з язычніцкімі русаліямі, і да цяперашняга часу царква не змагла падпарадкаваць традыцыйныя ўяўленні аб русалках кананічнай рэлігіі. Доўгі працэс вывучэння вобраза гэтага персанажа прывёў да супярэчлівых вывадаў: русалкі — гэта душы людзей, памерлых не сваёй смерцю, якіх трэба сцерагчыся, але гэта і добрыя духі раслінасці, што даруюць дождж, ураджай. Станоўчае ў вобразе русалак пачалі ацэньваць як спрадвечнае, а негатыўнае звязалі з уплывам хрысціянства. Л.М. Вінаградава падкрэсліла адметныя рысы, уласцівыя толькі для гэтага персанажа (малады ўзрост нябожчыкаў, што станавіліся русалкамі, сезонны характар з'яўлення іх на зямлі і інш.)[1]. Пры аналізе русальнай традыцыі неабходна размяжоўваць міфалагічныя ўяўленні, павер'і аб русалцы і абрады, рытуальныя дзеянні, якія адпраўляюцца з мэтай устанаўлення з ёй кантакту. Аб старажытных каранях русальнай традыцыі сведчаць захаваныя сакральныя знакі, і ў першую чаргу хранонімы, назвы персанажаў, абрадаў, выканаўцаў абрадаў, рытуальных прадметаў, дзеянняў.

Назва *русалка* — самая распаўсюджаная ва ўсходніх славян. Паходзіць яна ад старажытнарускага *русалии*, дзе мае некалькі значэнняў: 1. Народная назва свята Пяцідзесятніцы, якое замяніла язычніцкае веснавое свята славянскіх і іншых народаў. 2. Язычніцкія святкаванні Каляд. 3. Абрадавыя гульні ў час названых свят[2]. (Параўнайце сучасны запіс: "*Русальна недзеля, йіх тры: велікодня, на Труйцу і на Рожэство*" (Жахавічы Мазырскага

[1] Виноградова Л.Н. Мифологический аспект полесской "русальной" традиции // Славянский и балканский фольклор. Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М.: Наука, 1986. С.88-135. Там жа гл. спіс літаратуры па гэтай тэме; Яна ж. Русальная традиция у болгар и восточнославянских народов: перспективы сопоставительного изучения // Проблеми на българския фолклор. София, 1991. Т. 8. С. 202-208; Яна же. "Русалии" на Балканах и у восточных славян: Есть ли элементы сходства // Балканские чтения – 2. Симпозиум по структуре текста. М., 1992; Яна ж. Цветочное имя русалки: Славянские поверья о цветении растений // Этноязыковая и этнокультурная история Восточной Европы. М., 1995. С. 231-259.

[2] Словарь русского языка XI–XVII веков. М.: Наука, 1997. Вып.22. С.258; Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. М.: Прогресс, 1971. Т.3. С.520.

р-на)[1]. У якасці хранsocіма тэрмін вядомы у старажытнаславянскай (*русалиѦ*), балгарскай (*русалия*), старажытнасербскай (*русалиѩ*), сербскахарвацкай (*ру̀саље*) мовах[2]. *Русалії* ў Албаніі (праз 25 дзён пасля Вялікадня) — гэта свята кветак, звязанае з культам продкаў[3]. Няма падставы не пагадзіцца з даследчыкамі, што прыведзеныя назвы бяруць пачатак ад *rosālia* — язычніцкага рымскага свята руж, да якога царква прыстасавала дзень св. Пяцідзесятніцы. Вядомы *rusalii* і ў румынаў, дзе лексема абазначае злых духаў, што з'яўляюцца на зямлі ў панядзелак пасля св. Пяцідзесятніцы. На ўсходнеславянскіх землях святкаванне русалій супала з шанаваннем духаў расліннасці, якія пад уплывам хранbackcіма атрымалі назву *русалка*. Магчыма, яна замяніла спрадвечныя ўсходнеславянскія найменні *берегиня, верегиня*. Верагодна, яшчэ больш старажытнай з'яўляецца назва *перегиня*, якую зафіксаваў Грынчанка, як найменне дзяўчыны, што выконвае ў абрадзе ролю русалкі. У ст.-руск. мове слова мела значэнне 'непраходная мясцовасць' з праславянскага *pergini[4]. Ва ўкраінскай мове, у гаворках Заходняга Палесся захаваліся назвы *наўка, маўка, каўка* (праслав. *navь з і.-е. nau̯ 'карабель' (як сродак перапраўкі душ у іншы свет)[5]. Прыведзеныя назвы сведчаць аб шматлікасці міфалагічных істот, якія з'яўляліся на памежжы "таго" і "гэтага" свету (берагі рэк, абрывы, балоты). Факт, што найменне *русалка*, якое ў славян асацыіравалася з колерам валасоў "русы", атрымала шырокае распаўсюджанне, падштурхоўвае да думкі, што старажытныя ўсходнеславянскія духі расліннасці мелі выгляд маладых дзяўчат з доўгімі светлымі валасамі.

Сучасныя ўяўленні аб знешнім выглядзе русалак супярэчлівыя. Часцей гэта антрапаморфныя істоты, пераважна дзяўчаты або жанчыны, радзей дзеці. "Лакальныя адрозненні ў аблічы русалак вызначаюцца ўвогуле наступным наборам прымет: жаночае – мужчынскае (вельмі рэдка), вялікае – малое (рэдка), прыгожае – непрыгожае (часта), з вялікімі грудзямі – без іх, з зялёнымі валасамі – з русымі валасамі (часта і ў залежнасці ад месца жыхарства — у вадзе або ў жыце, у лесе, часткова ў залежнасці ад полу)[6]. Мы згодны з пунктам погляду В.В. Казначэева, які лічыць, што прывабны або

---

[1] Толстая С.М. Полесский народный календарь. Материалы к этнодиалектному словарю: Р-Я // Славянский и балканский фольклор. М.: Индрик, 1995. С.261.

[2] Фасмер М. Этимологический словарь… С.520.

[3] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Летне-осенние праздники. М.: Наука, 1978. С.246, 261, 262.

[4] Этимологический словарь славянских языков. М.: Наука, 1974. Вып.1. С.193.

[5] Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., "Навука і тэхніка", 1991. Т. 7. С. 273.

[6] Толстой Н.И. Заметки по славянской демонологии. Каков облик дьявольский?// Очерк по славянской мифологии и этнолингвистике. М.: Индрик, 1995. С.254, 255.

пачварны выгляд русалак залежыць ад адносін да іх інфарманта: лічыць ён русалку няшкоднай або, наадварот, баіцца яе[1].

Больш познія ўяўленні аб русалцы ў выглядзе птушак (Пасынкі Мядзельскага р-на), "*птушкі ў лесе*", " *птіца як каршун*" (Свяда, Слабада Лепельскага р-на), "*гусьмі ляцелі, людзьмі хадзілі*" (Чарнобыльскі р-н), магчыма, звязаны з ўяўленнямі аб птушках як іпастасях душ памерлых.

Беларускія матэрыялы пацвярджаюць дадзеныя, што русалкамі станавіліся пераважна нябожчыкі, памерлыя не сваёй смерцю, "закладныя", якіх, па царкоўных канонах, нельга хаваць на могілках, адпяваць, памінаць. На Палессі захаваліся дні, калі памінаюць такіх нябожчыкаў: "... *от у чэтвэр ужэ по Тройцы, ну у нас называють Намська Труйца. Гэто ўмэ́рлых. И ў гэтых ўмэрлых вжэ тыйи дивчята идуть, девкы, которы поумиралы дивкы, вжэ идуть гуляты воны по жытовы. А потом ужэ идуть воны на кладбишча и с сэбэ одэжу пэрэтрушвають*" (Спорава Бярозаўскага р-на)[2]. Памінальны чацьвер для "закладных" нябожчыкаў пасля Тройцы (*Намска Т., Навска Т., Надьска Т.)* супрацьпастаўляецца чацьвяргу пасля Вялікадня, калі паміналі "дзядоў". Палескія дадзеныя можна параўнаць са звесткамі з Тульскай губерніі: "...у аўторак на русальным тыдні, сяляне памінаюць тапельцаў і вісельнікаў; родныя апошніх за спачын душ разбіваюць на іх магілах чырвоныя яйкі і прызываюць пры гэтым абрадзе русалак, якім пакідаюць у ахвяру частку бліноў, што прынеслі для памінання"[3]. Прыклады сведчаць аб тоеснаснасці русалак і нябожчыкаў. Абрад "праводзін русалкі" часта заканчваўся на могілках.

На Беларусі і ў Расіі час, калі русалкі знаходзяцца на зямлі, прымяркоўваецца да Сёмухі (тыдзень напярэдадні свята, пасля яго або наступны). У некаторых месцах з'яўленне русалак звязана са святам Купалы. Найменні часу належаць да старажытнага пласта лексікі. Сярод назваў тыдня ў беларусаў і рускіх пераважае *русальны*. Арэал пашырэння тэрміна *граны (гранаты) тыдзень* супадае з умоўнай мяжой паўднёва-усходняй дыялектнай зоны беларускіх народных гаворак і мае працяг у Расіі і на Украіне. Семантыка назвы страчана. Зараз слова асацыіруецца з гульнямі русалак *(граннем)*. У сучасных беларускіх і рускіх дыялектах корань *-гран-* маюць словы са значэннем: 1. баразна, радок, градка; 2. гронка (арэхаў); 3. корч

---

[1] Казначэеў В.В. Сучасны стан усходнепалескай міфалагічнай традыцыі // Гавораць чарнобыльцы. Мн., 1994. С.175.

[2] Толстая С.М. Полесский народный календарь. Материалы к этнодиалектному словарю: К-П // Славянский и балканский фольклор. Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М.: Наука, 1986. С.205.

[3] Русский народ, его обычаи, обряды, предания, суеверия и поэзия. Собр. М. Забылиным. М.: Книга принтшоп, 1990. С.65.

(цыбулі); 4. соты з мёдам; 5. мяжа, граніца[1]. *Граністы* — у беларускай мове той, які складаецца з многіх клубняў, урадлівы[2], у рускай — *грязновитые луга* — 'лугі з высокай сакавітай травой'[3]. А.М. Трубачоў прыводзіць старажытны лексічны дыялектызм *grenъjь 'зялёны', роднасны германскаму *grān 'зялёны'[4]. Верагодна, тэрміны *граны тыдзень*, *граная нядзеля* — старажытныя назвы часу знаходжання русалак на зямлі, з праславянскім коранем *gran 'галіна', які выводзіцца ад і.-е. *ghre 'расці, даваць парасткі'[5], што яшчэ раз пацвярджае здольнасць русалак уплываць на ўрадлівасць. Асабліва цікавым нам падаецца сувязь славянскага кораня з нямецкім Granne 'асцюк коласа'. Зусім празрыстая паралель: русалка — колас бачна у песні, запісанай у в. Стаўбун Веткаўскага р-на.

*На граной нядзелі русалкі сядзелі,*
*Ой, рана-рана, русалкі сядзелі.*
*Русалкі сядзелі, на бога глядзелі,*
*Ой, рана-рана, на бога глядзелі.*
*А бог сына жэне, Ілля дочку 'ддае,*
*Ой, рана-рана, Ілля дочку 'ддае.*
*На новай сялібе пшаніца ж стаяла,*
*Ой, рана-рана, пшаніца ж стаяла.*
*Пшаніца ж стаяла, каласком махала,*
*Ой, рана-рана, каласком махала.*
*Каласком махала, галаском крычала,*
*Ой, рана-рана, галаском крычала:*
*Дзевачкі ж, сястрычкі, падайце ж вадзічкі,*
*Ой, рана-рана, падайце ж вадзічкі.*
*Падайце ж вадзічкі з халоднай крынічкі,*
*Ой, рана-рана, з халоднай крынічкі.*
*Цяжка ж мне стаяці, каласком махаці,*
*Ой, рана-рана, каласком махаці.*
*Каласком махаці, галаском крычаці,*
*Ой, рана-рана, галаском крычаці.*
*Вы ж мяне сажніце, ў снапкі павяжыце,*

---

[1] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. 1979. Т.1. С.476,477; Тураўскі слоўнік. Мн.: Навука і тэхніка, 1982. Т.1. С.227; Жывое народнае слова. Мн.: Навука і тэхніка, 1992. С.89

[2] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Мн., 1979. Т.1. С.476–477.

[3] Словарь русских народных говоров. Ленинград, 1972. Вып. 7. С.113,116,191.

[4] Трубачев О.Н. Опыт ЭССЯ: к 30-летию с начала публикации (1974—2003). Доклад пленарного заседания. XIII съезд славистов. Москва, 2003. С.13.

[5] Этимологический словарь славянских языков. М.: Наука, 1974. Вып. 1. С.104-106.

*Ой, рана-рана, ў снапкі павяжыце.*
*Ў снапкі павяжыце, ў копачкі складзіце,*
*Ой, рана-рана, ў копачкі складзіце.*
*Ў копачкі складзіце, цапамі аббіце,*
*Ой, рана-рана, цапамі аббіце.*
*Цапамі аббіце, жорнамі змяліце,*
*Ой, рана-рана, жорнамі змяліце.*
*Жорнамі змяліце, праскуркі напячыце,*
*Ой, рана-рана, праскуркі напячыце.*
*Праскуркі напячыце, у храм аднясіце,*
*Ой, рана-рана, у храм аднясіце.*
*У храм аднясіце, людзей накарміце,*
*Ой, рана-рана, людзей накарміце!*[1]

У іншых песнях такога тыпу з просьбай звяртаецца сама русалка. Матывацыя тэрміна *граны тыдзень* і іншых хранонімаў гэтага перыяду з'яўляецца падобнай. На поўдні Беларусі свята Пяцідзесятніцы можа мець назвы *зялёныяняткі* і *клечанне.* Хранонім *зялёныя святкі* — гэта запазычанне з польскай мовы. Субота напярэдадні свята мае назвы *зэлэна субота* (Дняпроўскае Чарнігаўскага р-на), *зеленая субота* (Ровенскі павет). Галіны, якімі ўпрыгожвалі хаты, называюцца *зеленець* (Ровенскі павет)[2]. Найменне *клечанне*, абазначае як назву свята, так і абрадавую зеляніну і мае распаўсюджанне пераважна на Украіне, але сустракаецца і на поўдні Беларусі (Аздамічы, М.Малешава, Луткі Столінскага р-на)[3]. Украінскім народным гаворкам вядомы таксама назвы *клечати* 'прыбіраць, упрыгожваць зялянінай', *клечь* 'сцябліна'. Украінскія даследчыкі, услед за М. Фасмерам, звязваюць гэтыя тэрміны са словамі **клёк** 'што-небудзь зацвярдзелае,' **клёкнуць** 'завядаць, зморшчвацца, высыхаць'[4]. Аднак больш верагодна, што *клечанне* мае сувязь з каранямі **клек, клёк** са значэннем 'жыццёвая сіла, сокі, клейкасць', што стасуецца з агульным сэнсам свята[5].

"Згодна з народнымі прымхамі, на *грэной неделе* нельга нічога плесці, круціць, гнуць, гарадзіць, ставіць кросны і інш., нібы, гэта адаб'ецца

[1] Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць. Мн.: Універсітэцкае, 1989. С. 54-55.

[2] Толстая С.М. Материалы к этнодиалектному словарю // Славянское и балканское языкознание. М.: Наука, 1986. С. 123.

[3] Тураўскі слоўнік. Мн.: Навука і тэхніка. 1984. С. 196.

[4] Этимологічний словник української мови. Київ. Навукова думка, 1985. Т. 2. С. 459.

[5] Тураўскі слоўнік.... С. 196. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa. Мн.: Навука і тэхніка, 1980. Т. 2. С. 475–476.

на прыплодзе свойскай жывёлы — прыплод будзе пакалечаны"[1]. "*Усё на скацине акажыцца, ни зроду ня минецца, а цяпер жа... кароўка ўжо цельна, авечечка тож* "[2]. "*А посли гряной, на Разгары, у первый день Пятровак голик пасячэт на парози* [цяжарная жанчына] *и ў печку, шоб дитёнак ня ўрода был*" (Радуціна Трубчэўскага р-на Бранскай вобл.)[3]. Падобных звычаяў прытрымліваліся на Каляды і Масленіцу. Найменне *крывая нядзеля* таксама нагадвае калядныя і масленічныя *крывыя вечары*, якія характэрны пераважна для віцебска-магілёўскай групы гаворак, Смаленшчыны і Браншчыны. Дадзеныя тэрміны падкрэсліваюць "небяспечнасць часу" і пацвярджаюць сувязь абазначаных прамежкаў часу.

Абрад "праводзін русалкі" з'яўляецца працягам міфалагічных уяўленняў аб русалках. Ен шырока распаўсюджаны ў Расіі, а ў Беларусі мае месца толькі на Гомельшчыне. Л.Н. Вінаградава падрабязна разгледзела гэты абрад[4]. Асноўныя абрадавыя сімвалы: доўгія распушчаныя валасы, белая сукенка з доўгімі рукавамі — пацвярджаюць вывады Рыбакова, што відарысы на бранзалетах са скарбаў XII–XIII стст. — гэта сцэны русальнага абраду, а самі бранзалеты адносяцца да рытуальных прадметаў. Дарагі матэрыял упрыгожванняў гаворыць аб прыналежнасці іх багатым дамам, якія прымалі ўдзел у сакральным дзеянні, што, ў сваю чаргу, сведчыць аб важнасці яго выканання.

Разнастайныя сакральныя знакі і сімвалы, такім чынам, дапамагаюць рэканструяваць фрагмент архаічнай мадэлі свету, зрабіць вывады, што русальная традыцыя, нягледзячы на працэс яе разбурэння, захавала свой спрадвечны сэнс. Супярэчлівасць жа вобраза персанажа звязана менавіта з маністычнай яго асновай. Спашлёмся на радкі артыкула Л.М. Вінаградавай: "Дваістасць, лагічная непраясненасць і супярэчлівасць вобраза "таго свету" можа быць прызнана з'явай сінхроннага зрэзу, таму што гэта ўласцівасць самой мадэлі язычніцкага свету, якая дазваляе сумяшчаць рысы, на сучасны погляд, узаемавыключальныя. Немагчымасць адназначна апісаць "той свет", які размешчаны і пад зямлёй, і на нябёсах, і за воднай перашкодай, і ў лясах, і

---

[1] Косич М.Н. О постройках белорусского крестьянина Черниговской губернии Мглинского уезда с. Росухи, д. Бородинки и Амелькина хутора // Живая старина. Спб., 1906. № 1. С.55.

[2] Расторгуев П.А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973. С.83.

[3] Толстая С.М. Полесский народный календарь. Материалы к этнодиалектному словарю: Р-Я // Славянский и балканский фольклор. М.: Индрик, 1995. С.258.

[4] Виноградова Л.Н. Мифологический аспект полесской "русальной" традиции // Славянский и балканский фольклор. Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М.: Наука, 1986. С.88-135.

на вяршынях гор, і ў прасторы хаты (покуць, запечак) — лепшы таму прыклад"[1].

Сапраўды, людзі не маглі нейтральна адносіцца да прадстаўнікоў іншага свету. Спрадвечным у вобразе русалак было як станоўчае, так і адмоўнае, таму што людзі баяліся іх, як і сваіх памерлых родных. З другога боку, яны чакалі ад нябожчыкаў дапамогі. У міфалогіі розных народаў свету цяжка знайсці адназначна станоўчых або адмоўных персанажаў. Характар іх хутчэй залежаў ад аб'ёму ахвяр, якія ім прыносілі. Хутчэй пагэтаму ў міфалагічных уяўленнях русалка часцей мае негатыўны характар, а ў абрадзе яе ролю выконвае самая прыгожая дзяўчына.

[1] Виноградова Л.Н. Мифологический аспект полесской "русальной" традиции // Славянский и балканский фольклор. Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М.: Наука, 1986. С.95.

*А.У. Ксяндзова*

# ВІДЫ НАЙМЕННЯЎ У ТЭМАТЫЧНАЙ ГРУПЕ ЛЕКСІКІ, ЯКАЯ ХАРАКТАРЫЗУЕ ЧАЛАВЕКА ПАВОДЛЕ ЗНЕШНЯГА ВЫГЛЯДУ

Вызначэнне відаў найменняў у той або іншай тэматычнай групе лексікі – адно з пытанняў, якія вывучае анамасіялогія. Як адзначае малдаўскі даследчык В. Павел, "у прынцыпе, дзякуючы агульнай псіхалагічнай аснове механізм намінацыі адзіны для ўсіх моў, але сродкі гэтай з'явы, віды найменняў, суадносіны паміж імі, праяўленне агульных і прыватных заканамернасцей намінацыі <...> разнастайныя і неаднолькавыя"[1]. Мэта нашага даследавання – высветліць, якія асноўныя віды найменняў існуюць у гаворках беларускай мовы для характарыстыкі чалавека паводле знешняга выгляду і якія адпаведныя ім спосабы намінацыі ў гэтай групе лексікі прадстаўлены. Адзначым, што мы разглядаем толькі аднаслоўныя лексічныя абазначэнні.

У працэсе намінацыі важную ролю выконвае матываванасць назваў, таму пры вызначэнні разнастайных відаў найменняў неабходна ўлічваць характар матывацыйнай прыкметы, якая пакладзена ў аснову пэўнай назвы. Вядома, што ўнутраную форму найменняў могуць складаць прыкметы, звязаныя як з самім характарызуемым аб'ектам намінацыі, так і з іншымі аб'ектамі. Адсюль вынікае, што назвы могуць матывавацца словамі, што адносяцца да адной або да розных тэматычных груп лексікі. У залежнасці ад гэтага вызначаюцца найменні з прамой і ўскоснай матывацыяй.

Узнаўленню ўнутранай формы слова часта спрыяе этымалагічны аналіз, аднак для многіх назваў унутраная форма так і застаецца нявысветленай, поўнасцю або часткова страчанай.

У групе назваў чалавека паводле знешняга выгляду (таксама, як і ў іншых тэматычных групах лексікі) вылучаюцца тры асноўныя віды найменняў у залежнасці ад іх матываванасці / нематываванасці:

1. Нематываваныя найменні.
2. Найменні з прамой матывацыяй.
3. Найменні з ускоснай матывацыяй.

Да нематываваных найменняў адносяцца словы з няяснай, згубленай або нявысветленай этымалогіяй. Гэта такія, напрыклад, назвы, як *пуляты*

[1] Павел В.К. Лексическая номинация.Кишинев, 1983. С. 35.

*(пулькаты)*'зіркаты', *лэвій (лывэй)* 'сівы', *пекур* 'з рабацiністым тварам', *груня* 'мажная жанчына', *гутыра* 'тоўстая непаваротлівая жанчына' і інш. Этымалагічныя тлумачэнні гэтых слоў адсутнічаюць у слоўніках. Аднак адносна паходжання і матывацыі некаторых з іх можна выказаць пэўныя меркаванні. Разгледзім, напрыклад, найменне *груня*, што зафіксавана на Тураўшчыне ў значэнні 'мажная жанчына' [ТС]. Можна памеркаваць, што этымалагічна яно звязана з украінскім найменнем *грунь* 'холм', рускім *грунь* 'грунт, глеба', адпаведнікі якім ёсць і ў іншых славянскіх і неславянскіх мовах [ЭСУМ, 1, 606; СРНГ, 7, 169]. Гэтыя назвы, на думку этымолагаў, па паходжанню звязаны з найменнем *грудь* (прасл. **grǫdъ*), якое ў славянскіх мовах у адным са значэнняў выкарыстоўваецца для абазначэння часткі цела[1]. Верагодна, што назва *грунь* у значэнні 'мажная жанчына' матывуецца менавіта такім чынам (сінекдахічны перанос наймення часткі цела чалавека на самога чалавека).

Часта ўзнаўленню матывацыйнай базы і аднясенню слова да матываваных або да нематываваных найменняў садзейнічае дыялектны матэрыял, змешчаны ў разнастайных лексікаграфічных працах. Напрыклад, інфармацыя адносна этымалогіі слоў *гарахаваты, ярахаваты,* зафіксаваных на Тураўшчыне [ТС], а таксама ў Іванаўскім, Маларыцкім, Драгічынскім раёнах Брэсцкай вобласці [НЛ, ДСБ, ЖНС] ў значэнні 'кучаравы чалавек', адсутнічае ў этымалагічных слоўніках. Аднак у "Дыялектным слоўніку Брэстчыны" знаходзім, што ў гэтым рэгіёне сустракаюцца словы *гарахі, ярахі* са значэннем 'кучары, кучаравыя валасы', якімі і матывуюцца адпаведныя назвы кучаравага чалавека. Хутчэй за ўсё такая матывацыя не з'яўляецца зыходнай, і можна меркаваць, што этымалагічна назвы *гарахаваты, ярахаваты* звязаны са словам *гарох* (перанос назвы з адной тэматычнай сферы ў іншую на аснове падабенства кучаравых валасоў чалавека і завітых вусоў гароху).

Найменні з прамой матывацыяй мы ўмоўна падзяляем на тры групы згодна з іх семантычным зместам:

1) найменні, што матывуюцца назвамі агульных прыкмет, дзеянняў або адцягненых паняццяў, звязаных з чалавекам;

2) найменні, матываваныя назвамі частак цела чалавека;

3) найменні змешанага тыпу.

Гэтыя віды найменняў можна класіфікаваць як паводле граматычнай прыналежнасці матывавальнага слова, так і паводле спосабаў намінацыі.

---

[1] Этимологический словарь славянских языков / под. ред. О.Н. Трубачева. Вып. 7. Москва, 1980. С. 146-149; Фасмер М. Этимологический словарь русского языка: В 4-х т. М., 1964 – 1973. Т. 1. С. 464.

Паводле граматычнай прыналежнасці матывавальнага слова ў першай групе вылучаюцца тры тыпы назваў:

а) назвы з агульнапрыкметавай матывацыяй (ад'ектыўная матывацыя):

*сляпун, слепяндзя* < сляпы;

*крывянда, крывяндос* < крывы;

*рабза, рабэйза, рабзуй* < рабы;

*слабак, слабачка* < слабы і г.д.;

б) найменні, што матывуюцца назвамі пэўных дзеянняў чалавека (дзеяслоўная матывацыя):

*абадраны, абадранец, абдзіркус* < абадраць, абдзіраць;

*абшарпаны, абшарпанец* < абшарпаць;

*чыкільда, чыкілінда* <чыкіляць;

*шлэптух* < шлэпаць і г.д.;

в) найменні, што матывуюцца абстрактнымі назоўнікамі (субстантыўная матывацыя):

*моцны* < моц;

*красун, красуха* < краса;

*сілак, сілач* < сіла.

Для назваў гэтай групы характэрны такі спосаб намінацыі, як афіксацыя, пры якім новыя найменні ўтвараюцца з дапамогай разнастайных словаўтваральных сродкаў (часцей за ўсё суфіксаў).

Другую групу найменняў з прамой матывацыяй складаюць словы, што матывуюцца назвамі пэўных частак цела чалавека, інакш кажучы, маюць саматычную (або партытыўную) матывацыю. Паводле граматычнай прыналежнасці матывавальнага слова тут вылучаецца толькі адзін від – найменні з субстантыўнай матывацыяй, паколькі ўсе саматычныя назвы (тыпу *нага, рука, вочы, губы*) выражаюцца ў беларускай мове назоўнікамі. Паводле спосабаў намінацыі ў гэтай групе вылучаюцца тры віды найменняў:

а) сінекдахічныя назвы:

*барада* 'чалавек з барадой' < 'барада ў чалавека';

*лупа* 'губаты чалавек' < 'губа';

*нос* 'чалавек з вялікім носам' < 'нос';

*кудра* 'чалавек з кучаравымі валасамі' < кудры, кудра 'валасы';

б) афіксальныя ўтварэнні, матываваныя назвамі частак цела чалавека:

*губаты, губар* < губа;

*вылупак, лупаты, лупач, лупацька* < лупы 'вочы';

*вірлаты, вірласты, вірлач* < вірлы 'вочы';

*вушаты, вушаха, вушацік* < вушы;

*насаты, насач, носаль, насацік, насатка* < нос;

*кучаравы* < кучары 'завітыя валасы';

*сукрысты* < сукурытка, сукырык 'завіток валос';

*распэтланы* < пэтлахі 'доўгія валасы';

*раскудланы, раскудлаваны, раскудлошаны* < кудлы 'валасы';

*пуцаты, пуцаваты, апуцаваты, апуцалаваты* < пуцы, пуцкі 'шчокі', пуца 'твар з поўнымі шчокамі';

*відаты* < від 'твар' і г.д.;

в) найменні, утвораныя шляхам асноваскладання ад саматычных назваў:

*лупавокі* < *луп*а + *вок*а;

*вірлавокі* < *вірлы* + *вок*а;

*вачалупы* < *вочы* + *лупы* і г.д.

Сінекдахічныя найменні асобы ўзніклі ў выніку семантычнай дэрывацыі – шляхам прамога пераносу наймення часткі цела чалавека на самога чалавека. Афіксальныя назвы ўтвораны пераважна суфіксальным спосабам. Складаныя найменні, якія сустракаюцца ў гэтай падгрупе, утварыліся ў выніку складання асноў двух слоў.

Найменні з прамой матывацыяй змешанага тыпу ўяўляюць сінтэз асобных кампанентаў назваў з агульнапрыкметавай, дзеяслоўнай або саматычнай матывацыяй. Адпаведна паводле граматычнай прыналежнасці матывавальных назваў тут вылучаюцца найменні са структурай “прыметнік + назоўнік”, “назоўнік + дзеяслоў”, “прыметнік + дзеяслоў”. Гэта такія назвы, як *велькавокі* (< вялікія вочы), *таўстагубы* (< тоўстыя губы), *даўганосы* (< доўгі нос), *крываносы* (< крывы нос), *круглавіды* (< круглы від 'круглы твар'), *паўнавіды* (< поўны від 'поўны твар'), *круглаліцы* (< круглае ліцо 'круглы твар'), *губашлёп* (< шлёпаць губамі), *крывашлап* (< крывы і шлапаць 'шлэпаць нагамі') і інш. Гэтыя найменні ўтварыліся шляхам асноваскладання. Для вытворных назваў ад гэтых слоў характэрна афіксацыя: *даўганосік, даўганоска* < даўганосы.

Назвы чалавека з ускоснай матывацыяй прадстаўлены метафарычнымі найменнямі, што ўзніклі ў выніку пераасэнсавання назваў іншых тэматычных груп лексікі. Паводле матывацыйнай прыкметы ў гэтай групе назваў некаторыя даследчыкі[1] вылучаюць наступныя віды найменняў:

1) найменні, матываваныя назвамі жывёл (заамарфізмы):

---

[1] Кавальчук А.І. Семантычная дэрывацыя асабовых найменняў з гаворак Гродзеншчыны // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: Матэрыялы навук. канф., 24 кастр. 2001 г. Гродна, 2002. С. 270 –276.

*вогір, каніско, стаеннік* 'дужы, здаровы (часта гультаяваты) чалавек' < вялікі, сыты конь';

*бугаіска* 'дужы гультаяваты чалавек' < 'вялікі бык';

*смяцюх* 'малы, нядужы чалавек' < заал. 'аўсянка', 'верабей' і інш.;

2) найменні, якія матывуюцца назвамі дрэва, яго частак:

*дзерць* 'моцны чалавек' < 'тоўстае дрэва';

*бушвалак, бурвалак (бурвэлак)* 'моцны, камлюкаваты чалавек' < 'кавалак бервяна';

*карчак* 'дужы, каржакаваты чалавек' < 'корч, пень, вывернуты з зямлі';

*гніляк* 'хваравіты чалавек' < 'кусок гнілога, спарахнелага дрэва' і інш.;

3) найменні, што матывуюцца назвамі пэўных прадметаў побыту:

*качолка* 'дужая, рухавая жанчына' < 'качалка, круглая палка для раскачвання цеста або разгладжвання бялізны';

*рэптух* 'стары, нямоглы чалавек' < 'вялікая торба, мяшок';

*латак* 'тоўсты чалавек' < 'жолаб для сцёку вады, соку';

*торба* 'тоўстая жанчына' < 'мяшок' і інш.;

4) найменні, матываваныя назвамі транспартных сродкаў, вялікіх пабудоў:

*рыдван* 'здаровы, моцны мужчына' < уст. 'вялікая дарожная карэта';

*галобля* 'пра высокую тонкую дзяўчыну' < 'аглобля';

*ратонда* 'тоўстая жанчына' < 'круглая пабудова (будынак, павільён, зала), звычайна акружаная калонамі і ўпрыгожаная купалам' і інш.;

5) найменні, матываваныя назвамі раслін, іх частак:

*жаўцяк (жаўтляк)* 'хваравіты чалавек з тварам жоўтага колеру' < 'стары насенны агурок';

*стрымбуль* 'хударлявы, празмерна высокі хлопец' < 'сцябло';

*лапшак* 'даўганогі чалавек' < 'грыб падбярозавік';

*баравік* 'нізкі каржакаваты чалавек' < 'грыб белы' і інш.;

6) найменні, якія матывуюцца іншымі назвамі:

*чарап'ё* 'старыя хворыя людзі' < 'чарапкі';

*кавяла* 'кульгавая жанчына' < 'мыліца – палка, на якую абапіраецца хворы на ногі чалавек';

*кіта* 'мажная тоўстая жанчына' < 'вязанка, цюк, сноп';

*шышак* 'хто малога росту, недарослы, падлетак' < 'патаўшчэнне ў выглядзе шышкі, гузак' і інш.

Заўважым, аднак, што найменні, якія матывуюцца назвамі дрэва і яго частак, і найменні, матываваныя назвамі раслін і іх частак, мэтазгодна адносіць да адной групы найменняў, матываваных назвамі расліннага свету (у параўнанні з заамарфізмамі). Таксама можна, напэўна, уключыць у адну

групу найменні, матываваныя назвамі пэўных (вялікіх па памерах) прадметаў побыту, вялікіх пабудоў або вялікіх рэчаў увогуле.

Такім чынам, у якасці асноўных крытэрыяў для анамасіялагічнага вызначэння відаў найменняў у тэматычнай групе лексікі, звязанай з характарыстыкай чалавека па знешнім выглядзе, былі выкарыстаны наступныя: 1) матываванасць / нематываванасць; 2) семантыка; 3) граматычная прыналежнасць матывавальнага слова; 4) спосаб намінацыі.

Праведзеныя намі назіранні можна прадставіць у выглядзе табліцы (гл. Табліцу 1).

Праца выканана пры падтрымцы Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў (праект № Г04М-149).

**Прынятыя скарачэнні крыніц**

ЛАБНГ – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 3: Чалавек. Мн., 1996.

ТС – Тураўскі слоўнік: У 5-ці т. Мн., 1982 – 1987. Т. 1–5.

НЛ – Народная лексіка. Мн., 1977. 288 с.

ДСБ – Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989. 294 с.

ЖНС – Жывое народнае слова. Дыялекталагічны зборнік. Мн., 1989. 294 с.

ЭСБМ – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978 – 1993. Т. 1–8.

ЭСУМ – Етимологічний словник української мови у 7-мі т. – Т. 1 – 3. – Київ: Академія наук Укр. ССР, 1982 – 1989.

СРНГ – Словарь русских народных говоров. Вып. 1–19. – Л.: Наука, 1965 – 1983.

*г. Мінск*

*Табліца 1.*

**Віды найменняў у тэматычнай групе лексікі, якая характарызуе чалавека паводле знешняга выгляду**

<table>
<tr><th></th><th>Нематываваныя найменні</th><th colspan="9">Найменні з прамой матывацыяй</th><th>Найменні з ускоснай матывацыяй</th></tr>
<tr><td>Паводле семантыкі</td><td></td><td colspan="3">найменні, матываваныя назвамі агульных прыкмет, дзеянняў або адцягненых паняццяў, звязаных з чалавекам</td><td colspan="3">найменні, матываваныя назвамі частак цела чалавека</td><td colspan="3">найменні змешанага тыпу</td><td>1) найменні, матыва-ваныя назвамі жывёл (заамарфізмы);<br>2) найменні, матываваныя назвамі расліннага свету;<br>3) найменні, матываваныя назвамі пэўных прадметаў побыту, вялікіх пабудоў або вялікіх рэчаў увогуле;<br>4) найменні, якія матывуюцца іншымі назвамі</td></tr>
<tr><td>Паводле граматычнай прыналежнасці матывавальнага слова</td><td></td><td>назвы з ад'ектыўнай матывацыяй</td><td>назвы з дзеяслоўнай матывацыяй</td><td>назвы з субстантыўнай матывацыяй</td><td colspan="3">назвы з субстантыўнай матывацыяй</td><td>прыметнік + назоўнік</td><td>назоўнік + дзеяслоў</td><td>прыметнік + дзеяслоў</td><td>назвы з субстантыўнай матывацыяй</td></tr>
<tr><td>Паводле спосабу намінацыі</td><td></td><td colspan="3">афіксальныя найменні</td><td>сінекдахічныя назвы (семантычныя дэрываты)</td><td>афіксальныя найменні</td><td>складаныя найменні</td><td colspan="3">складаныя найменні</td><td>метафарычныя назвы (семантычныя дэрываты)</td></tr>
</table>

*В.М. Курцова*

# СТАН ДЫЯЛЕКТНАГА МАЎЛЕННЯ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XX СТ. І ЯГО МЕСЦА Ў СІСТЭМЕ СЕЛЬСКІХ САЦЫЯЛЬНА-КАМУНІКАТЫЎНЫХ ЗНОСІН

## 1. Лінгвагеаграфічнае падложжа сацыяльна-дыялекталагічнай праблематыкі

У вывучэнні стану дыялектнага маўлення беларускай мовы ў другой палове XX ст. умоўна можна вылучыць некалькі розных па сваіх задачах і метадалогіі іх здзяйснення накірункаў. Найбольш важкім і плённым па выніках сярод іх з'яўляецца лінгвагеаграфічны. Якраз на пачатку 50-х гадоў моваведамі Беларусі было завершана комплекснае універсальнае даследаванне дыялектнай прасторы беларускай мовы ў межах яе нацыянальнай тэрыторыі. Вынікам творчай працы дыялектолагаў з'явілася стварэнне фундаментальнага лінгвістычнага твора — дыялекталагічнага атласа беларускай мовы (ДАБМ: 1963). Працягам і лагічным завяршэннем гэтага комплекснага унікальнага лінгвагеаграфічнага праекта стаў лексічны атлас, які па шматлікіх прычынах быў надрукаваны значна пазней, чым папярэдні (ЛАБНГ 1-5: 1995-1998). Дадзеныя лінгвагеаграфічныя атласы — панарамнае палатно стану гаворак беларускай мовы ў іх разнастайных сістэмна-структурных асаблівасцях у першай палове мінулага стагоддзя.

Атрыманыя лінгвагеаграфічным шляхам звесткі аб моўнай рэчаіснасці Беларусі пасляваеннага перыяду дэталізавалі, і тым самым удакладнялі, дапаўнялі і пашыралі навуковыя працы традыцыйнага тыпу. Гэта апісальна-манаграфічныя дыялекталагічныя даследаванні (поўны пералік такіх публікацый гл.: Беларускае мовазнаўства: 1967 і інш. бібліяграфічныя даведнікі гэтай навуковай серыі). Апошнія ў адпаведнасці са сваімі задачамі, метадамі вывучэння і аналізу стану традыцыйных мясцовых гаворак беларускай мовы працягвалі скрупулёзную працу ў гэтым кірунку патрыярха беларускай філалогіі і яе заснавальніка Я.Ф. Карскага і ягоных пераемнікаў, беларусаведаў генерацыі 20-х гадоў XX ст., перыяду, вядомага ў гісторыі айчыннага мовазнаўства пад назвай беларусізацыі. Усе разам дыялекталагічныя выданні рознага тыпу зафіксавалі адметнасці структуры дыялектаў беларускай мовы ў прасторы яе нацыянальнага пашырэння ў максімальна поўным выглядзе.

На каштоўнасць зместу лінгвістычных, у першую чаргу лінгвагеаграфічных, фундаментальных даследаванняў, а таксама манаграфічных публікацый па дыялекталогіі паўплываў і час іх выканання. Справа тут вось у чым. 50-я гады, дакладней іх пачатак, сталі для краіны тым гістарычным момантам, калі яе моўнае развіццё вызначалі "адкатныя і, па сутнасці, дэградацыйныя працэсы" (Крывіцкі: 1998, 66), якія тут мелі месца ў папярэдні, ваенны час, і якія ў значнай ступені прадвызначылі дынаміку моўнага развіцця Беларусі на ўвесь пасляваенны перыяд, а фактычна да пачатку рэфармацыйных працэсаў, ці "перабудовы", у савецкім грамадстве. Спецыфіку і асобасць гэтага кароткага па храналагічных мерках моўнага адрэзку склала арыентацыя беларускіх насельнікаў у сваёй камунікатыўнай дзейнасці галоўным чынам на дыялектныя моўныя сродкі. Вынікі яе ўвасобіліся ў значную "дыялектызаванасць мясцовага насельніцтва" Беларусі, яе ўсходняй і заходняй тэрыторыі (Крывіцкі: 1998, 66). І вось у гэтых, максімальна спрыяльных і прыдатных для лінгвістычных вопытаў умовах адбылося збіранне матэрыялаў для будучага ДАБМа. Падобная маўленчая рэанімацыя жыхароў Беларусі па дыялектных рэсурсах у сваю чаргу дазволіла адлюстраваць на картах першага універсальнага атласа беларускай мовы стан яе гаворак не толькі на момант іх вывучэння, але выявіць і зафіксаваць іх структурныя і паняційна-сэнсавыя асаблівасці і сродкі даўнейшага мінулага. Занатаваныя ў іх геаграфічнай выяве адметнасці дыялектамоўнага беларускага ландшафту праз шлях наступнай ізаглоснай стратыфікацыі паасобных моўных з'яў, прывялі лінгвістаў да нечаканага адкрыцця. Было засведчана: паводле гісторыі складвання і развіцця адметнасці беларускай мовы аб'ядноўваюцца не ў адзін, — як меркавалася і што было ў прынцыпе вядома і дагэтуль, — а ў два ўзроўні дыялектных тыпаў адрозненняў. З аднаго боку, гэта тыя адрозненні ў галіне яе структуры, якія адлюстроўваюць этнагенетычны шлях развіцця гаворак беларускай мовы, з другога — дэманструюць вынікі культурна-гістарычных узаемадачыненняў беларускага народа з яго іншамоўнымі суседзямі. У адносінах да мовы ўвасабленнем такіх узаемасувязей і ўзаемакантактаў памежных і тэрытарыяльна аддаленых суседзяў выступаюць занальныя ўтварэнні, ці зоны беларускай мовы. Зоны паводле іх асаблівасцей вызначае той сукупны комплекс адрозных прыкмет ці толькі паасобных адрозненняў, якія не належаць да ўласналінгвальных характарыстычных набыткаў моўнай сістэмы. Інакш кажучы, такія моўныя асаблівасці не з'яўляюцца этнагенетычнай спадчынай, а зоны тым самым утварэннямі сістэмна-структурнага парадку. Гэта структурна-тэрытарыяльныя моўныя фармацыі, ці адасабленні. Яны склаліся дзякуючы культурна-гістарычным кантактам рознамоўных народаў, дакладней, праз узаемадзеянне іх мясцовых гаворак і

моўных сістэм. Таму ў адносінах да моўных асаблівасцей занальныя ўтварэнні беларускай нацыянальнай мовы — гэта ў значнай ступені вынік трансфармацыі сістэмных адрозненняў асобнага ўзроўню (узроўняў) сацыяльна прэстыжнай мовы. Моўныя з'явы занальнага парадку на тэрыторыі Беларусі неаднолькавыя па лакалізацыі (ЛГ: 1969, карты №№ 76-80) і, зразумела, розныя па часе ўзнікнення і паходжання.

Выяўленая дваістая, этнагенетычная, з аднаго боку, і культурна-гістарычная, з другога, прырода паходжання моўных з'яў, засведчаная на розных частках прасторы мовы, указвала на рэгіянальную неаднароднасць маўлення тагачасных сельскіх камунікантаў. Аднак адлюстраваная на лінгвагеаграфічных картах ДАБМ моўная рэчаіснасць выступала ў выглядзе статычнай і пазасацыяльнай сістэмы адметнасцей. Яна папросту дэманстравалася як факт існасці без усялякай аднесенасці з адпаведнай сацыяльнай групай (групамі) яе носьбітаў. Стваралася ў сувязі з гэтым уражанне, што маўленне сельскіх жыхароў уяўляе сабой такі комплекс разнастайных структурна-сэнсавых асаблівасцей, якія групуюцца ў адпаведны дыялект (традыцыйную мясцовую гаворку) і выступаюць праз мясцовае маўленне. Паўсюдна і ва ўсіх яго носьбітаў у сваім поўным, ідэальным складзе. Відавочна, гэта перабольшанае ўяўленне, несуладнае з моўнай рэальнасцю і неадпаведнае ёй. Аднак падобная геаграфічная дэманстрацыя беларускага моўнага ландшафту і не магла быць іншай. Як вядома, "для лінгвагеаграфічнага вывучэння мовы асноўным аспектам з'яўляецца вывучэнне тэрытарыяльных адрозненняў сістэмы мовы", пры гэтым "маюць пэўнае значэнне таксама функцыянальна-стылістычны і часавы" (Аванесов: 1963, 8). Пытанні сацыяльнай дыферэнцыяцыі дыялектаў не ўваходзяць у кола лінгвагеаграфічнай праблематыкі па прычыне несумяшчальнасці метадалагічнага апарату сацыяльнай лінгвістыкі і лінгвістычнай геаграфіі. Таму невыпадкова, што менавіта першаснасць прынцыпа "тэрытарыяльных адрозненняў мовы", сфармуляваная найбольш відным прадстаўніком маскоўскай лінгвістычнай школы ў асобе Р.І. Аванесава, была адлюстравана на лінгвагеаграфічных картах ДАБМ, навуковым кіраўніком і моўным ідэолагам якога ён якраз непасрэдна з'яўляўся. "Трэцяе вымярэнне" дыялекталогіі — сацыяльны аспект як абавязковы атрыбут дыялекталагічных даследаванняў, але прыстасаваны да лінгвагеаграфічных вопытаў, пад увагу не прымаўся. І не толькі асабіста Р.І. Аванесавым, ды і іншымі прадстаўнікамі маскоўскай мовазнаўчай эліты.

Разам з тым, яшчэ ў 60-я гады адзін з самых дасведчаных і аўтарытэтных беларускіх дыялектолагаў А.А. Крывіцкі пісаў: "... Карціна беларускай дыялектнай мовы, атрыманая ў выніку абагульнення ... палявых даследаванняў (у час збірання матэрыялаў для ДАБМ — В.К.) гаворак у

межах Беларусі — гэта дыялекталагічная рэканструкцыя" (Крывіцкі: 1977, 194). Таму, нават нягледзячы на тое, што ў час збірання матэрыялаў для ДАБМ "традыцыйную гаворку ў вёсках часта даводзілася фактычна выяўляць і ўзнаўляць на аснове назіранняў над мовай старэйшых вясковых жыхароў", на маўленне іншых узроставых і сацыяльных груп вяскоўцаў не зважалі (Крывіцкі: 1977, 194). І гэта мела месца ў найбольш спрыяльныя гады — у час дыялектнай "рэанімацыі"! Выяўлены ўжо тады, у сярэдзіне мінулага стагоддзя, факт, "што мясцовае маўленне (відавочна, сельскіх насельнікаў — В.К.) ... вельмі далёкае ад сваёй першароднай дыялектнай чысціні" і што ў сённяшніх умовах "гэта пераважна кангламерат моўных з'яў розных моўных сістэм з рознымі колькаснымі функцыянальнымі суадносінамі паміж імі" (Крывіцкі: 1996, 4) не стаў дадатковым штуршком да новых дыялекталагічных росшукаў беларусаведаў. Прынамсі, у сацыяльна-лінгвістычным, дакладней сацыядыялекталагічным, кірунку. І замінала даследчаму руху ў галіне дыялекталогіі беларускай мовы не толькі наяўнасць часава-прасторавага здымка разнаструктурных асаблівасцей яе гаворак у іх сінтэзаваным лінгвакартаграфічным абагульненні.

## 2.1. У рэчышчы сацыяльна-лінгвістычнай рускамоўнай праблематыкі

Развіццё савецкага, адпаведна і беларускага, мовазнаўства ў 70-я гады вызначаецца пільнай цікавасцю да праблем функцыянавання рускай мовы ў савецкім грамадстве, дакладней у нацыянальных рэгіёнах былых савецкіх рэспублік. Таму і разгортваюцца ў гэты час даследаванні па комплекснай праграме "Руская мова ў нацыянальным рэгіёне".

Буйнамаштабнае вывучэнне стану рускай мовы на савецкай моўнай прасторы з'явілася падставай і неабходнасцю адначасова таксама і для аналізу праблем яе функцыявання ў сельскім камунікатыўным асяроддзі.

Навукова-даследчая праграма "Руская мова ў нацыянальным рэгіёне" выконвалася калектывам супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства тагачаснай АН БССР. Прыкладна тады ж былі ажыццёўлены таксама і некаторыя індывідуальныя даследчыя праекты, накіраваныя на вывучэнне моўнай сітуацыі ў асобных частках Беларусі (Булдык: 1983). Адначасова рабіліся прыватныя назіранні над станам і развіццём рэгіянальных моўных працэсаў (Клімчук: 1981, 214-220).

Комплексная праграма "Руская мова ў нацыянальным рэгіёне" не была метадычна забяспечанай і адаптаванай для правядзення даследавання ў сельскім камунікатыўным асяроддзі. Таму лінгвальныя працэсы ў сельскім кантынууме рэспублікі атрымалі ацэнку галоўным чынам з пазіцый вызначэння функцыянальна-камунікатыўнага месца беларускай і рускай моў

у гэтым тыпе маўленчай прасторы. З-за адсутнасці адпаведнай метадычнай базы выканаўцы праграмы не назапасілі і дыферэнцыраванай моўнай інфармацыі аб рэальным "вонкавым абліччы" традыцыйных мясцовых гаворак пры ўжыванні іх у маўленчай практыцы сацыяльна неаднароднымі групамі вясковых жыхароў. Фактычна, даследчыя вынікі выканання гэтай праграмы вызначаюцца не столькі інтэрпрэтацыйным зместам, колькі маюць характар навуковага паведамлення.

Праграма "Руская мова ў нацыянальным рэгіёне" ставіла сваёй мэтай атрымаць цэласнае яўленне аб моўнай сітуацыі ў сельскай мясцовасці рэспублікі ў яе розных моўна-геаграфічных рэгіёнах. Падобная цэласнасць была забяспечана абследаваннем асобных населеных пунктаў (н.п.). Гэтыя н.п. у прымеркаванасці іх дыялектнай нацыянальнай прасторы прадстаўлялі не толькі адрозныя групы гаворак у складзе асобных дыялектаў беларускай мовы, але і яе розныя дыялекты. Праўда, іх выбар па рэгіёнах не абумоўліваўся пэўнымі лінгвагеаграфічнымі крытэрыямі, не быў абгрунтаваны ён і асобымі метадалагічнымі ўстаноўкамі. Гэта было адвольнае па выбары аб'ектаў абследавання ў рэгіёнах вывучэнне моўнай сітуацыі ў сельскім камунікатыўным асяроддзі краіны. Паколькі праведзеная палявая праца дазволіла займець факталагічныя матэрыялы з дыялектна адрозных кантынуумаў Беларусі, склаўся больш-менш уяўны малюнак моўнага побыту вясковага жыхарства на ўсёй яе тэрыторыі. Адначасова было вызначана і функцыянальна-камунікатыўнае месца дыялектнай сістэмы (традыцыйных мясцовых гаворак) сярод іншых сістэм вусных моўных зносін.

Паўночна-заходнюю ўскраіну Беларусі прадстаўляла ў гэтым даследаванні вёска (в.) Турасполле Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, традыцыйная мясцовая гаворка якой належыць да паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы да групы яго полацка-мінскіх гаворак. Даследчыкам устаноўлена, што моўную сітуацыю ў паселішчы складае функцыянаванне трох сістэм моўнай арыентацыі — мясцовай гаворкі, беларускай і рускай літаратурных моў. Але вобласць ужытку традыцыйнай мясцовай гаворкі тут абмежавана штодзённа-побытавымі зносінамі. Аднак нягледзячы на падобнае камунікатыўнае месца, мясцовая гаворка захоўвае за сабой статус прэстыжнага сродку маўлення. У іншых сферах камунікацыі, перадусім афіцыйнага характару, пашырана выкарыстанне рускай мовы ў яе мясцовым варыянце (Свежинский: 1985, 29), а таксама літаратурнага варыянта беларускай. Характар узаемаадносін трох моўных сістэм, наяўных у мясцовым маўленчым ужытку, выяўляецца праз "узаемадзеянне рускай мовы з беларускай мясцовай гаворкай". (Свежинский: 1985, 27). Вынікам падобных узаемаадносін выступае "збліжэнне мясцовай гаворкі з беларускай літаратурнай мовай пры адначасовым запазычанні русізмаў" (Свежинский:

1985, 29). Інакш кажучы, стан дыялектнага маўлення на той час характарызаваўся адметнымі ўласна лінгвальнымі працэсамі. З аднаго боку, нібыта мае месца сыходжанне дыглосных моўных сістэм і, адпаведна, нівеліраванне адрозных асаблівасцей паміж імі. Але, з другога, гэты канвергентны працэс не зусім паўнавартасны: дынаміку аб'яднальных тэндэнцый парушае — гэта мае месца ў галіне лексікі — інтэнсіўнае выкарыстанне "русізмаў", дакладней, сэнсава-намінацыйных сродкаў рускай мовы. І, відавочна, на гэтым узроўні паміж блізкароднаснымі моўнымі сістэмамі маюць месца супрацьлеглыя адносіны — дывергентныя. Цікава тут і тое, што пры такіх неаднародных па характары развіцця лінгвальных працэсах уласны комплекс моўных асаблівасцей тутэйшай гаворкі з боку яе фанетыка-марфалагічнай структуры "характарызуецца адноснай устойлівасцю" (Свежинский: 1985, 29).

Традыцыйная гаворка в. Аўсянка Горацкага раёна Магілёўскай вобласці таксама ўваходзіць у склад паўночна-ўсходняга дыялекту, але адносіцца да групы яго віцебска-магілёўскіх гаворак. Аднак яе месца ў сістэме сродкаў мясцовай камунікацыі, аказалася некалькі адрозным у параўнанні з в.Турасполле. Паводле меркавання аўтара, у гэтым тыпова беларускім па этнанацыянальным складзе (у вёсцы жыло 162 аднанацыянальныя беларускія сям'і) селішчы мясцовая гаворка фактычна не функцыянуе (!?). Праўда, адначасова ўказваецца, што "беларуская мова выкарыстоўваецца пераважна ў сферы сямейна-побытавых зносін, з'яўляецца мовай школьнага навучання, мовай фальклору" (Лапицкая-Антипова: 1985, 34). Мабыць, пад беларускай мовай як сродкам маўлення ў галіне сямейна-побытавых зносін і разумелася найперш традыцыйная мясцовая гаворка.

Група пераходных гаворак беларускай мовы ў даследаванні прадстаўлена дзвюма ўскраіннымі мясцовымі гаворкамі рознай рэгіянальнай лакалізацыі. Адна з іх, гаворка в. Перадзелка, знаходзіцца на паўднёва-ўсходняй ускраіне беларускай тэрыторыі, памежнай з Украінай. Гаворка в. Беняконі размяшчаецца на супрацьлеглым, заходнім беразе адзначанага моўнага згрупавання. Такім чынам, у тэрытарыяльных адносінах абедзве гаворкі — гэта адкрытая кантактная прастора актыўнага іншамоўнага ўздзеяння і ўплыву. Украінска-рускага — у першым выпадку, польска-балтыйскага, прынамсі літоўскага, — у другім.

Мясцовая гаворка в.Перадзелка Лоеўскага раёна Гомельскай функцыянуе пры міжсямейных зносінах і ў побыце. На яе сродкі арыентуюцца не толькі карэнныя вяскоўцы, прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці. У гэтай жа сферы кантактаў яна мае месца ў маўленчай практыцы і ў змешаных па этнанацыянальнай прыналежнасці сем'ях. Функцыянальныя адносіны традыцыйнай мясцовай гаворкі да іншых моўных

ідыёмаў вызначаюцца яе актыўным уплывам на гукавое аблічча вуснага маўлення на літаратурнай беларускай мове і па-руску. Тым самым пацвярджаецца, па сутнасці, зыходнасць яе граматычнага ладу ў фарміраванні адпаведных структурных тыпаў маўлення.

Сучасны стан дыялектнай моўнай сістэмы, на думку даследчыка, характарызуе дыферэнцыраваны склад яго рознаструктурных асаблівасцей. Таму традыцыйная мясцовая гаворка выступае ў вёсцы ў двух структурна-сістэмных відах, ці варыянтах. У выглядзе "архаічнай і новай беларускай гаворкі" (Довгяло, Янкова: 1985, 37). Іх адрознасць вызначаецца толькі па сацыяльнай аднесенасці. Так, "архаічная гаворка" (трэба меркаваць, што пад гэтай назвай маецца на ўвазе традыцыйная мясцовая гаворка), характарызуе маўленчую дзейнасць прадстаўнікоў старэйшага пакалення вяскоўцаў. "Новая беларуская гаворка" ўласціва галоўным чынам вясковай моладзі, у тым ліку, вучням, студэнтам, урачам, настаўнікам, інтэлегенцыі наогул. Інакш кажучы, пераважна той частцы вясковай грамады, спантаннае маўленне якой, як сцвяржаецца ў разглядаемым даследаванні наогул, характарызуецца звычайна як змешанае. Таму заканамерна паўстае пытанне, што гэта за такі варыянт ці тып маўлення — "новая беларуская гаворка"? Змешанае маўленне ці наогул рускамоўнае прастамоўе? (Крывіцкі: 1998, 84). Не выключана таксама, што гэта можа быць значна рэдукаваная мясцовая гаворка, якая не мае пэўнай часткі сваіх рудзіментных і асобных канстытуцыйных асаблівасцей, але ўтрымлівае асобныя рысы рускамоўнай сістэмы.

Сацыяльна-камунікатыўны статус дыялектнай моўнай сістэмы ў в.Беняконі Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці аналагічны месцу і ролі гэтай сістэмы сродкаў маўлення ў папярэдніх абследаваных вёсках. І тут традыцыйная мясцовая гаворка, або "простая мова", паводле замацаванай на заходняй ускраіне Беларусі яе назвы, з'яўляецца адным з пашыраных і тыповых для гэтага рэгіёна сродкаў камунікацыі. Мясцовая гаворка пануе тут у побыце. У іншых сферах камунікацыі функцыянуюць іншыя сістэмы моўных сродкаў маўлення (Войнич: 1985, 57-58). Выкарыстанне "простай мовы" абумоўлена ў вёсцы нацыянальным статусам сям'і. Так, на гаворку арыентуюцца ў маўленні найперш польскія, асобныя аднанацыянальныя беларускія, а таксама некаторыя тыпы змешаных сем'яў, як польска-беларускіх і беларуска-іншанацыянальных (Войнич: 1985, 56). Большасць жа беларускіх, рускіх, а таксама змешаных, руска-, літоўска-, яўрэйска-іншанацыянальных у якасці сродку камунікацыі абралі рускую мову, "ўскладненую асаблівасцямі адпаведнай сістэмы роднай мовы" (Войнич: 1985, 56-57). Інакш кажучы, іх маўленне па складу яго структурных асаблівасцей з'яўляецца змешаным. І "трасянка" выступае тут не толькі як яе

адзіны беларуска-рускі з некаторымі рознамоўнымі "дамешкамі" тып, але і ў іншых варыянтах.

Высновы і назіранні І.В. Войніча аб камунікатыўным статусе традыцыйных мясцовых гаворак, як і моўнай сітуацыі ў адзначаным рэгіёне наогул, у іх агульных палажэннях таксама падмацоўвае і прыватнае даследаванне па вывучэнні асаблівасцей функцыянавання беларускай і рускай моў І.М. Булдыка (Булдык: 1983; Булдык: 1981). Аўтарам даследавання засведчана, што беларуская мова, і найперш традыцыйныя гаворкі гэтага краю, служаць асноўным размоўным сродкам фактычна для ўсяго сельскага жыхарства Гродзенскай вобласці. А ў сферы вытворчых і побытавых зносін асабліва, яны наогул трымаюць першынства над іншымі сістэмамі вуснай камунікацыі. Аднак дыялектнамоўнымі з'яўляюцца тут перадусім старэйшыя па ўзросце насельнікі, а таксама школьнікі (Булдык: 1981, 133).

Становішча традыцыйных мясцовых гаворак у межах іх мазырска-слуцкай групы, якая выдзяляецца ў складзе паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, у даследаванні "Руская мова ў Беларусі" дэманструецца на прыкладзе в.Рухава Старадарожскага раёна Мінскай вобласці. Праз вывучэнне моўнай сітуацыі ў паселішчы даследчыкам устаноўлена, што выкарыстанне дыялектнамоўных сродкаў залежыць тут ад нацыянальнага статусу сям'і. У аднанацыянальных беларускіх сем'ях, у першую чаргу ў сферы сямейна-побытавых зносін, "размаўляюць звычайна на мясцовай гаворцы" (Кунцевич: 1985, 41). Падобнай сістэмы моўнай арыентацыі прытрымліваюцца і ў невялікай колькасці змешаных, пераважна беларуска-рускіх па нацыянальным складзе сем'ях, што жывуць у вёсцы. На карэляцыю моўных паводзін насельнікаў уплывае таксама і іх адукацыйны цэнз. Так, усе вяскоўцы з нізкімі адукацыйнымі адзнакамі, акрамя вытворчай і невытворчай мясцовай інтэлігенцыі, у вобласці публічных афіцыйных зносін у сваіх моўных паводзінах арыентуюцца на беларускамоўныя сродкі маўлення ў іх мясцовым і літаратурным варыянтах.

Пэўную цікавасць маюць для нас заўвагі аўтара дадзенай часткі публікацыі аб фанетычнай якасці мясцовай гаворкі па-руску. Якраз апошняе дазваляе ўскосным чынам уявіць стан сучаснага дыялектнага маўлення і меркаваць аб характары лінгвальных працэсаў у структуры тутэйшай гаворкі. Прынамсі, указваецца, што ў вымаўленні вяскоўцаў з рускамоўнай арыентацыяй захоўваюцца шматлікія канстытуцыйныя рысы мясцовай гаворкі, у тым ліку і закрытыя галосныя гукі (о), (е), рэалізуецца тут таксама гук (*о*) у канцавым адкрытым складзе слова і шэраг іншых рэгіянальных і агульнабеларускіх вакалічных, а таксама марфалагічных асаблівасцей. З другога боку, у сістэме кансанантызму не ўжываецца гук (*й*) у пэўных канструктыўных ўмовах — пасля папярэдняга губнога зычнага. Дадзёныя

моўныя факты даюць апасродкаваныя падставы для наступнага заключэння. Відаць, у комплексе адметнасцей мясцовай дыялектнамоўнай сістэмы ў галіне фанетыкі мае месца сацыяльная ці сацыяльна-камунікатыўная дыферэнцыяцыя гукавога матэрыялу. Так, для маўлення маладых адукаваных вяскоўцаў ужо, мабыць, не характэрна (або яно камунікатыўна размежавана) вымаўленне (*й*) пры спалучэнні яго з папярэднім губным. Між тым, наяўнасць гэтага кансананта ў зазначаных канструктыўных умовах — тыповая прыкмета ў фанетычным ладзе паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. Па прычыне яе выразнай дыялектальнасці, сацыяльна ўсведамляльнай, найперш яна трапляе ў лік згасальных моўных рыс на дадзеным геаграфічна-моўным абшары. Усе іншыя дыялектныя фанетычныя асаблівасці заставаліся тут галоўным чынам устойлівымі. Непарушным быў і прыярытэт традыцыйнай мясцовай гаворкі ў штодзённа-побытавых кантактах.

Надзвычай высокая камунікатыўная пашыранасць дыялектнага маўлення была засведчана пад час вывучэння моўнай сітуацыі ў заходнепалескім кантынууме на прыкладзе в.Беражное Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Дадзены дыялектны рэгіён нацыянальнай тэрыторыі комплексам сваіх структурных асаблівасцей выразна адрозніваецца ад гаворак асноўнага масіву беларускай мовы. Разам з тым, характар моўнай сітуацыі ў рэгіёне ў сваіх агульных тэндэнцыях па сутнасці такі ж, як і на большай частцы дыялектнай прасторы Беларусі. У маўленчым ужытку тут пашыраны камунікатыўныя сродкі трох моўных сістэм — традыцыйнай мясцовай палескай гаворкі, беларускай і рускай моў. Але ў сістэме вусных моўных кантактаў, як зазначае даследчык, у гэтай палескай вёсцы "функцыянальна першай мовай (відавочна, сродкам маўлення — В.К.), і, адпаведна, "найбольш распаўсюджаным сродкам зносін" выступае мясцовая гаворка (Веренич: 1985, 51). Яна выкарыстоўваецца пры размовах сяльчан у любых абставінах камунікацыі. Якраз апошняе і сведчыць пра высокую прэстыжнасць мясцовай гаворкі, маштабнасць і натуральнасць яе функцыянавання сярод мясцовага насельніцтва з рознымі сацыяльнымі характарыстыкамі.

Агульны лінгвальны стан мясцовай гаворкі ў сваіх асноўных асаблівасцях таксама характарызуецца падобнымі, як і ў вышэйадзначаных н.п., тэндэнцыямі. Так, з аднаго боку, дыялектная моўная сістэма апошнім часам зазнала пэўныя змены пад уздзеяннем рускай мовы на ўзроўні лексікі, але з другога, — "фанетычная і граматычная структура гаворкі істотна не змяніліся" (Веренич: 1985, 50).

Аб першынстве традыцыйных мясцовых гаворак сярод іншых сістэм камунікацыі ў вусных сферах зносін у гэтым жа, заходнепалескім моўным

кантынууме сцвярджаецца таксама і ў публікацыі Ф.Д. Клімчука (Климчук: 1981, 214-220). Паводле аўтарскай высновы, заходепалескія гаворкі, за выключэннем сферы афіцыйных стасункаў, ужываюцца ўсюды і рознымі сацыяльнымі групамі вяскоўцаў. Характар і тэндэнцыі змен у структуры дыялектнай моўнай сістэмы тут таксама аналагічныя іншым сельскім паселішчам. Гэта: устойлівасць ладу гаворак у галіне іх фанетыкі і марфалагічнага ўпарадкавання і рухомасць лексічных сродкаў у бок замены традыцыйнага маўленчага рэпертуару на рускамоўны.

Вось такім па выніках аказаўся стан дыялектнага маўлення ў сярэдзіне 70-х гадоў XX ст. Другаснасць задач у адносінах да вывучэння рэальнага стану дыялектнага маўлення ў сацыялінгвістычным даследаванні "Руская мова ў нацыянальным рэгіёне" і дастаткова суб'ектыўныя крытэрыі аналізу моўнага матэрыялу не дазволілі атрымаць дакладныя факталагічныя звесткі аб унутрыдыялектных працэсах. Таму меркавальна можна сказаць: на гэты час дыялектны комплекс сістэмна-структурных адметнасцей усёй нацыянальна-моўнай прасторы па складзе сваіх моўных рыс гэтаксама, як і ў 50-я гады, заставаўся пераважна ўстойлівым і нязменным. Ён не зведаў істотнага ўплыву з боку рускай мовы на фанетыка-марфалагічным узроўні. Але разам з тым, была засведчана спроба вяскоўцаў з высокім сацыяльна-іерархічным статусам, пераважна мясцовай сельскай інтэлігенцыі, пазбавіцца ў сваім маўленні некаторых тыпова´дыялектных асаблівасцей, характэрных найперш для гукавой сістэмы гаворак. У лепшым выпадку мае месца дыферэнцыраванае ўжыванне дыялектных сродкаў маўлення. Асаблівы ціск на дадзены час аказвала руская мова на лексічны лад гаворак, змяншаючы колькасна корпус уласнадыялектных намінацый і замяняючы іх рускамоўнымі інавацыйнымі адзінкамі. Усё гэта сукупна вызначала кірунак наступнага развіцця дыялектаў беларускай мовы на розных узроўнях іх структуры.

Што датычыцца функцыянальна-камунікатыўнай размеркаванасці традыцыйных мясцовых гаворак, то яны першынствалі ў штодзённа-пабытавых размовах вяскоўцаў, і найперш ў сямейных зносінах. Дастаткова шырока выкарыстоўваліся пры вытворчых моўных кантактах і, нарэшце, яны амаль не ўжываліся ці досыць абмежавана ўжываліся пры афіцыйных умовах сумоўя. Падобная маўленчая дыстрыбуцыя сельскіх жыхароў па характары моўных паводзін на ўсім беларускамоўным ландшафце была пераважна аднастайнай.

### 2.2. Дыялектнае маўленне праз прызму тыпалогіі моўных працэсаў

Новай спробай у вывучэнні моўнай сітуацыі ў Беларусі, у тым ліку і ў яе сельскай мясцовасці, была адзначана сярэдзіна 80-х гадоў. У гэты час пераважна тым жа аўтарскім калектывам была выканана комплексная праграма "Тыпалогія двухмоўя і шматмоўя ў СССР", ініцыятарам і стваральнікам якой стаў тагачасны Інстытут мовазнаўства АН СССР. У адрозненне ад папярэдняга даследавання, дадзенае вывучэнне моўнай сітуацыі было загадзя падрыхтаваным і метадычна забяспечаным. Даследчае мерапрыемства ажыццяўлялася комплексна, на базе адзінай сацыялінгвістычнай анкеты. Яно было накіравана на выяўленне функцыянальнай дыстрыбуцыі моўных сістэм у розных тыпах камунікатыўнага асяроддзя ў асобных сферах сацыяльна-вытворчай дзейнасці беларускага соцыуму. Даследаваннем была ахоплена вялікая колькасць вытворчых аб'ектаў, у тым ліку і ў сельскім моўным кантынууме. У выніку была атрымана багатая факталагічная інфармацыя, суб'ектыўная па характары яе назапашвання, але дастаткова рэпрэзентатыўная і прадстаўнічая. Яна дазваляла вызначыць месца кожнае з функцыянальна дзейсных сістэм пісьмовага і вуснага моўнага забеспячэння ў Беларусі.

Сярод усіх сфер камунікацыі, вынікі вывучэння якіх адлюстроўваюцца ў навуковым выданні "Тыпалогія двухмоўя і шматмоўя ў Беларусі", спынімся толькі на тых з іх, дзе змяшчаецца матэрыял аб месцы дыялектных сродкаў маўлення ў вусных зносінах у сельскім асяроддзі, а таксама характарызуецца хоць нейкім чынам стан самой моўнай сістэмы паводле яе структурных асаблівасцей. Але адносна апошняга заўважым. Характар дадзенай працы не быў скіраваны менавіта на выяўленне дакладнага месца дыялектнай моўнай сістэмы, не ўлічвалася таксама, што традыцыйныя мясцовыя гаворкі ў сельскім асяроддзі з'яўляюцца самастойным, адным з істотнейшых і надзвычай важных кампанентаў сельскай камунікацыі. Акрамя таго, не даследаваўся мэтанакіравана іх стан з улікам сацыяльна-камунікатыўнай размеркаванасці ў маўленчай дзейнасці вяскоўцаў. Відавочна таму і на гэты раз, у другой палове 80-х, атрымаць грунтоўныя і змястоўныя звесткі аб уласналінгвальных працэсах у дыялектах не ўдалося. Аднак пэўныя дадзеныя, якія тычацца канкрэтна дыялектнай моўнай сістэмы або толькі абагуленага паняцця беларуская мова, без падзелу яе на літаратурны ці дыялектны варыянты, яны змяшчаюць.

Адной з сфер сацыяльна-вытворчага гаспадарання ў сельскай мясцовасці, дзе моўная сітуацыя даследавалася спецыяльна, была галіна жывёлагадоўлі і механізацыі. Аб'ектам аналізу сталі моўныя паводзіны розных узроставых груп сельскіх насельнікаў. Аўтарам дадзенай часткі даследчай праграмы, Т.В. Кузьмянковай, устаноўлена, што традыцыйная мясцовая гаворка выступае асноўным сродкам зносін найперш у сямейна-

побытавай сферы. Ужыванне яе тут не залежыць ад ролевага статусу гаворачых. У зносінах за межамі сям'і беларускамоўныя рэсурсы выкарыстоўваюць галоўным чынам жыхары сталага і сярэдняга веку. Другая палова дадзенай узроставай катэгорыі сельскіх насельнікаў у аналагічных камунікатыўных сітуацыях рэалізуе небеларускамоўныя сродкі. "Беларуская мова (яе мясцовы варыянт)", інакш кажучы, традыцыйная гаворка, ужываецца пераважна і ў вобласці грамадскіх кантактаў. Але камуніканты маладога і сярэдняга ўзросту сяльчан з дастаткова высокім сацыяльна-адукацыйным статусам вар'іруюць рэпертуар моўных сродкаў маўлення. У залежнасці ад абставін зносін яны выкарыстоўваюць сродкі мясцовай гаворкі, беларускамоўнай ці рускамоўнай літаратурнай або змешанай сістэм маўлення.

Такім чынам, выяўлена: сістэма дыялектных моўных сродкаў у маўленні вяскоўцаў рознага ўзросту, жывёлаводаў і механізатараў па прафесійным занятку, утрымлівала пануючае становішча ў сямейна-побытавай, а таксама вытворчай сферах. "Пераважнае" месца яна мела і ў сферы грамадскіх стасункаў. Інакш кажучы, уласнавытворчая сельскагаспадарчая частка насельніцтва Беларусі заставалася фактычна дыялектнамоўнай па характары рэалізацыі сродкаў маўлення і яго структурных адметнасцях. Функцыянальная прыярытэтнасць дыялектнай моўнай сістэмы над іншымі сродкамі вуснай камунікацыі ў пералічаных сферах зносін і, галоўнае, яе жыццёвасць на бліжэйшы час пацвярджаецца таксама наступнай аўтарскай рэмаркай. Даследчык канстатуе, што сярод найбольш пашыраных у сельскім камунікатыўным асяроддзі тыпаў маўлення дыялектнае з'яўляецца нормай моўных паводзін для "пэўных" груп вясковага жыхарства. На гэтую норму яны арыентуюцца заўжды і паўсюдна. А значыць, і ў канцы 80-х гадоў традыцыйная мясцовая гаворка захавала ў сельскай мясцовасці статус прэстыжнага і эфектыўнага сродку вуснай камунікацыі.

У адносінах да стану дыялектнага маўлення, заснаванага на структурных асаблівасцях рознарэгіянальных тыпаў мясцовых гаворак беларускай мовы, засведчана: "найбольш чысты мясцовы дыялект захоўваецца ў асоб старэйшага пакалення, пераважна ў жанчын сталага веку". А вось маладыя прадстаўнікі вясковых насельнікаў "на чысты мясцовы дыялект арыентуюцца рэдка і ў залежнасці ад сітуацыі" (Кузьменкова: 1999, 201). Але разам з тым, і моладзь пры пэўных камунікатыўных акалічнасцях трымаецца мясцовых маўленчых традыцый, няхай сабе і абмежавана.

Высокай распаўсюджанасцю дыялектнай моўнай сістэмы як актыўнага і эфектыўнага сродку камунікацыі характарызуецца таксама і галіна сувязі. Пераважна па-беларуску размаўляе гэтая прафесійная частка

сельскага насельніцтва не толькі на працы, а таксама і ў сямейна-побытавай сферы, і ў грамадскіх месцах (Войнич: 1999, 205). Але, як заўважана даследчыкам,: зносіны на мясцовай гаворцы звычайна ажыццяўляюць "сувязісты" сталага (звыш 51 года) і сярэдняга (35-50 год) веку з дастаткова нізкім адукацыйным цэнзам. Гэта тыя з іх, хто мае няпоўную сярэднюю адукацыю. Пры чым, арыентацыя на беларускамоўныя сродкі ўласціва найперш сельскім паштальёнам, у меншай ступені — начальнікам сельскіх аддзяленняў сувязі і працаўнікам бухгалтэрыі.

Аналіз анкетнага матэрыялу са сферы побыту і ўнутрысямейных стасункаў цалкам сцвердзіў звесткі, атрыманыя іншымі даследчыкамі пры вывучэнні моўных паводзін вяскоўцаў пры іх кантактах з членамі сям'і або суседзямі з вышэйназваных сфер камунікацыі (Николаева: 1999, 229). Выяўлена: статус пануючай, а часцей адзінай сістэмы моўных зносін належыць тут беларускай мове (пераважна мясцовым гаворкам). Відаць, гэтая адзнака у дадзенай сферы захаваецца за гаворкамі і ў бліжэйшай перспектыве. Грунтуецца падобнае на выснове аб невысокай прэстыжнасці нарматыўнага літаратурнага маўлення ў сельскім камунікатыўным асяроддзі наогул, і тым больш у сям'і і побыце. Можна ў связку з апошнім прадбачыць і вызначальную для моўных паводзін сённяшніх і патомных вяскоўцаў арыентацыю па маўленню. Яна на бліжэйшы час і ў той моўнай сітуацыі, што характарызуе цяпер моўнае жыццё Беларусі, застанецца пераважна дыялектнамоўнай. Відавочна, у пэўнай меры зменёнай у сваіх структурных сродках па прычыне інтэнсіўнай экспансіі рускай мовы ва ўсіх абласцях камунікацыі.

Дынаміка функцыянальнай размеркаванасці моўных сістэм у сферы абслугоўвання цалкам аналагічная папярэднім сферам народнай гаспадаркі сельскай мясцовасці. У якасці пераважнага сродку вусных зносін тут таксама выступае беларускамоўнае маўленне (аўтарскі матэрыял падаецца ў асноўным без дыферэнцыяцыі на моўныя варыянты) (Лукашанец: 1999, 219).

Што да сферы народнай адукацыі, дакладней за межамі навучальнага працэсу, аўтарам зазначана: "Па-за ўрокамі і настаўнікі, і вучні размаўляюць часцей за ўсё па-руску ці на дыялекце" (Кунцевич: 1999, 141). Інакш кажучы, па-за вытворчай дзейнасцю і настаўнікі, і дзеці, тыя, каго яны вучаць узорнай літаратурнай гаворцы, з'яўляюцца часткова дыялектамоўнымі па асаблівасцях сваёй сацыяльна-маўленчай дзейнасці.

Такім чынам, і вынікі, атрыманыя паводле суб'ектыўных заяў інфармантаў аб характары іх моўнай арыентацыі пры камунікатыўна адрозных акалічнасцях, паказалі. У канцы 80-х, на пачатку 90-х гадоў традыцыйныя мясцовыя гаворкі ў розных рэгіёнах нацыянальна-моўнай тэрыторыі рэспублікі захоўвалі статус актыўнага сродку вуснага маўлення.

Пры гэтым, пераважна нязменнай і ўстойлівай была арыентацыя вяскоўцаў на дыялектнамоўную сістэму ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасці, і яшчэ больш паслядоўнай пры прымарных кантактах, міжсямейных і побытавых. Да таго ж, асобныя групы сяльчан скарыстоўвалі моўныя рэсурсы мясцовых традыцыйных гаворак і ў публічных выступленнях.

## 3. Вопыт сацыялінгвістычнага вывучэння стану народнага вымаўлення ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне Беларусі

### 3.1. Сацыяльна-лінгвальная матывацыя выбару аб'екта даследавання

Наша прыватнае даследаванне па часе яго рэалізацыі прыпадае амаль на той жа перыяд, калі ажыццяўлялася праца па комплекснай праграме "Тыпалогія двухмоўя і шматмоўя ў Беларусі". Пры выбары аб'екта лінгвістычнага доследу было вырашана: па-першае, даць сацыялінгвістычную ацэнку моўных працэсаў, зыходзячы не з прынцыпа прасторавай пашыранасці таго ці іншага структурнага тыпу гаворак беларускай мовы; па-другое, устрымацца ад суб'ектыўных характарыстык сацыяльна-маўленчай дзейнасці з боку саміх інфармантаў. У аснове навуковага росшуку — апісанне лакальнай моўнай сітуацыі на прыкладзе тыповых для таго часу сацыяльна-вытворчых аб'яднанняў сельскагаспадарчай вытворчасці. Такімі ў Беларусі, прынамсі на яе паўднёва-ўсходняй тэрыторыі, з'яўляюцца калгасы, радзей — саўгасы. Акрамя таго, з боку лінгвальнай праблематыкі беларускім моваведам у агульных рысах быў ужо вядомы характар моўнай сітуацыі ў рэспубліцы. Відавочна, галоўныя адметнасці яе ў большай ці меншай ступені паўтараліся ў гэтым рэгіёне. Таму здаваўся надзвычай прадуктыўным і цікавым падыход: даследаваць стан маўлення сельскага насельніцтва асобнай, характэрнай для супольнай сістэмы сельскагаспадарчай вытворчасці адзінкі. Такая пастаноўка задачы спрыяла ў перспектыве магчымасці праецыравання вынікаў даследавання на аналагічныя па арганізацыі і структуры вытворчасці аб'екты ў межах пэўнага моўнага кантынуума.

З вялікай колькасці вытворчых сельскагаспадарчых аб'яднанняў ў гэтым краі быў абраны калгас "Звязда". Апошні знаходзіўся (і знаходзіцца зараз) у Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці. Яго выбар у значнай ступені матываўся моўнай спецыфікай адзначанага рэгіёна. Мясцовыя гаворкі гэтай часткі беларускамоўнай прасторы ў адносінах да сцверджанай і прынятай ў беларускім мовазнаўстве іх класіфікацыі і групоўкі знаходзяцца ў міждыялектным пасе гаворак беларускай мовы, займаючы яго ўскраінную паўднёва-ўсходнюю частку (ЛГ: 1969, карта № 75). Гэта па сутнасці іх моўная перыферыя. Адначасова гэта таксама зона беларуска-ўкраінскіх і

беларуска-рускіх міжмоўных кантактаў. Гісторыя іх існавання мае вельмі трывалыя карані. Яны абумоўлены этнагенетычнай агульнасцю мясцовых гаворак гэтага моўнага рэгіёна і іх ранейшай супольнасцю дзяржаўнага пражывання (ДАБМ: 1963, карта Я.Ф. Карскага). У сувязі з адзначаным станавілася відавочным, што тыя моўныя працэсы, якія спарадзіла інтэнсіўнае выкарыстанне рускай мовы ў пасляваенны час у рэспубліцы наогул, тут ужо былі больш дэманстрацыйныя і паказальныя па сваіх выніках. А гэта само па сабе заслугоўвае даследчай увагі.

Спроба зазірнуць на моўны побыт сельскага жыхарства найперш з пазіцый яго сацыяльна-вытворчых заняткаў, а таксама ў звыклых для яго акалічнасцях: дома, пры сустрэчах са сваякамі ці проста аднавяскоўцамі і г.д., або не вельмі паказальных для сельскага асяроддзя, як удзел у грамадска-публічных мерапрыемствах, — вымагала мець адпаведны метадычны апарат даследавання. Неабходнасць яго стварэння для нас была відавочная. Бо ставілася на мэту выяўленне сістэмы моўных сродкаў маўлення праз лінгвальную ацэнку прадуцыруемага моўнага матэрыялу моўцамі. Яго меркавалася назапашваць праз вывучэнне моўных паводзін сельскіх насельнікаў у тыповых для іх умовах зносін. Для кваліфікацыі фактаў маўлення быў абраны яго фанетычны ўзровень. Апошні, як вядома, з'яўляецца найбольш устойлівым і непадуладным інтэнсіўным зменам узроўнем мовы, таму і найбольш важным пры характарыстыцы моўных працэсаў.

Спецыяльны метадычны апарат даследавання склаў наступны інструментарый: 1) стратыфікацыйная мадэль сацыяльна-вытворчай дзейнасці мясцовага насельніцтва; 2) комплексы дыягнастычныя (КД) фанетычных асаблівасцей мясцовага вымаўлення; 3) камунікатыўная мадэль аналізу вымаўлення ў сацыяльна-вытворчых групах (СВГ).

### 3.2. Стратыфікацыйная мадэль сацыяльна-вытворчай дзейнасці даследуемага насельніцтва

У выніку вывучэння характару працоўных заняткаў у вызначанай для даследавання адзінцы сельскагаспадарчай вытворчасці ўсё мясцовае насельніцтва было дыферэнцыравана і згрупавана ў асобныя групы. Ёй стала СВГ, або мікрасоцыум. На базе такіх мікрасоцыумаў надалей аналізаваліся асаблівасці сацыяльна-маўленчай дзейнасці вяскоўцаў. Фарміравалася такая СВГ на падставе шэрагу сукупных сацыяльных крытэрыяў. Галоўнымі з іх былі характар вытворчай працы насельніка і яго кваліфікацыя, суаднесенасць яе кіруючых і выканаўчых функцый, ступень інтэлектуальнасці і інш. За аснову падобнай дыферэнцыяцыі і групоўкі мясцовага жыхарства была прынята стратыфікацыйная мадэль, распрацаваная ў тагачаснай савецкай

сацыялогіі (Староверов: 1975, 73-75). На падставе яе ў калгасе "Звязда" вылучалася сем СВГ тутэйшага жыхарства, занятага непасрэднай вытворчай дзейнасцю. Акрамя гэтай часткі мясцовага насельніцтва, тут была выяўлена яшчэ адна дадатковая група вяскоўцаў, характар працоўных функцый якіх не датычыўся ўласна сельскагаспадарчага занятку. Гэта былі асобы, якія працавалі пераважна ў лясной ці перапрацоўчай галінах вытворчасці. Такім чынам было зрупавана практычна ўсё тутэйшае насельніцтва вёсак калгаса "Звязда". Аднак найбольш прадстаўнічымі як па прафесійнаму, так і колькаснаму складу аказаліся СВГ, выяўленыя ў в.Залессе, цэнтральнай сядзібе калгаса. Менавіта яны і сталі зыходнымі пры ажыццяўленні наступных уласнамоўных этапаў нашага сацыялінгвістычнага даследавання.

**3.3. Асноўныя тыпы мясцовага вымаўлення і спосабы іх апісання**

Рэальную моўную сітуацыю абранага рэгіёна вызначала пераважна функцыянаванне трох моўных сістэм — дыялектнай, беларускай і рускай літаратурных. Праз вывучэнне спантанных тэкстаў маўлення рэцыпіентаў усе яны былі апісана паасобку, а іх асаблівасці абагулены і прадэманстраваны графічна, у выглядзе табліц. Кожная такая табліца — гэта комплексы найбольш выразных, ці дыягнастычных, фанетычных асаблівасцей, уласцівых дадзеным моўным сістэмам. На іх арыентуецца ў сваім вымаўленні мясцовае насельніцтва. Пры гэтым, у комплекс адметнасцей дыялектнага вымаўлення ўключаны не толькі тыя вызначальныя асаблівасці мясцовай гаворкі, якія адлюстраваны на лінгвістычных картах ДАБМ, але і шэраг моўных рыс лакальнай распаўсюджанасці. Яны паказальныя найперш для маўлення паўднёва-ўсходняга занальнага згрупавання гаворак беларускай мовы. Корпус асаблівасцей беларускай літаратурнай і рускамоўнай сістэм маўленчай арыентацыі складаюць моўныя рысы не адпаведных ім кадыфікаваных ідыёмаў, а толькі тыя з іх, што выступаюць у вымаўленні і ўжываюцца ў сукупнасці з гукавымі асаблівасцямі мясцовай гаворкі. Інакш кажучы, ні ўласна літаратурным беларускім, ні тым больш рускім дадзеныя тыпы маўлення не з'яўляюцца. Гэта структурна адметныя іх рэдукаваныя віды, або рэгіянальныя мясцовыя варыянты. Усе разам комплексы дыягнастычныя фанетычных асаблівасцей мясцовага вымаўлення (КД) і ўвасобілі лакальную мадэль даследаванага моўнага кантынуума. У іншых частках дыялектнай прасторы беларускай мовы падобная мадэль будзе мець, натуральна, іншую выяву і характарызавацца розным колькасным складам яе кампанентаў. Абумоўлена падобнае выразнай рэгіянальнай і занальнай неаднароднасцю нацыянальна-моўнай тэрыторыі.

Практыка пераканала нас у незвычайнай зручнасці дадзенай метадычнай прылады даследавання. Была засведчана таксама яе высокая вартасць пры выяўленні сацыяльна-камунікатыўнай варыянтнасці маўлення і яго складу наогул у СВГ. Упэўнены, адаптаваныя да розных па характары моўнай сітуацыі рэгіянальна-занальных моўных кантынуумаў Беларусі, ды і іншых тыпаў лінгвальнага ландшафту, падобныя мадэлі з'явяцца эфектыўным інструментам па вывучэнні рэальнага стану маўлення ў соцыумах.

### 3.4. Камунікатыўная мадэль аналізу моўных паводзін

Аналіз моўных паводзін абраных у якасці інфармантаў асобных прадстаўнікоў розных СВГ ажыццяўляўся праз сканструяваны комплекс маўленчых сітуацый у найбольш важных для сельскай мясцовасці галінах камунікацыі. Падобныя сітуацыі — тыповыя і паказальныя для сельскага асяроддзя, але яны не з'яўляюцца вычарпальнымі.

Камунікатыўная мадэль аналізу вымаўлення ў СВГ

I. Моўныя паводзіны прадстаўніка СВГ у сферы вытворчай дзейнасці.

Сітуацыя (С.) 1: размова радавых членаў СВГ паміж сабой.

С.2: размова начальніка і радавога прадстаўніка СВГ.

С.3: размова радавога прадстаўніка СВГ з начальнікам не сваёй групы.

II. Моўныя паводзіны прадстаўніка СВГ у грамадска-палітычнай, ці афіцыйнай сферы.

С.1: у час унутрыгрупавых афіцыйных мерапрыемстваў (рабочы калектыўны сход, пасяджэнне сацыяльна-вытворчай групы і інш.).

С.2: у час агульнакалгасных афіцыйных мерапрыемстваў (урачысты сход калгаснікаў, прафсаюзны сход, пасяджэнне сельскага савета і інш.).

III. Моўныя паводзіны прадстаўніка СВГ у сямейна-побытавай сферы.

С.1: размова бацькоў з дзецьмі, мужа з жонкай.

С.2: размова суседзяў, сваякоў або знаёмых аднавяскоўцаў.

С. 3: размова падначаленага і начальніка ў неафіцыйных умовах.

Вышэйпералічаныя кампаненты метадычнага апарату даследавання ў сваёй сукупнасці дазволілі практычна ажыццявіць сацыялінгвістычны карэляцыйны аналіз. Бо створаная лакальная мадэль моўнага кантынуума выяўлялася ў канкрэтных тыпах маўленчых сітуацый і выступала як уяўны комплекс фанетычных асаблівасцей, характэрных для вымаўлення кожнай СВГ. Адпаведна з'ўлялася і рэальная магчымасць устанавіць сістэму моўнай

арыентацыі мясцовага насельніцтва ў іерархіі яе маўленчых сродкаў, а таксама засведчыць іх сацыяльна-камунікатыўную дыферэнцыяцыю.

### 3.5. Аналіз моўных паводзін СВГ

Аналіз моўных паводзін кожнай СВГ праводзіўся паводле факталагічнага матэрыялу, тэкстаў маўлення, занатаваных у розных тыпах маўленчых сітуацый камунікатыўнай мадэлі. У наступным праз суаднесенне і адпаведнасць фанетычных сродкаў маўлення тыпу КД вызначалася сістэма моўнай арыентацыі кожнага з васьмі — з улікам дадатковай СВГ рабочых — мясцовых мікрасоцыумаў.

Аднак паколькі нас цікавіць стан дыялектнага маўлення пры арыентацыі СВГ на дыялектную сістэму моўных сродкаў, надалей будуць характарызавацца толькі тыя з мікрасоцыумаў, якія выкарыстоўваюць падобны маўленчы інвентар.

Найбольш паказальнай з гэтага боку нашай цікавасці з'яўляецца другая (II) СВГ.

Аналіз тэкстаў выказванняў прадстаўнікоў II СВГ дазволіў засведчыць. У адрозненні ад астатніх СВГ, гэты мікрасоцыум характарызуецца адноснай аднароднасцю па асноўных асаблівасцях свайго вымаўлення. Паводле захаванасці ў ім адметнасцей КД яно з'яўляецца дыялектным. Выяўлена, амаль ва ўсіх сферах моўных зносін дыялектныя рысы, вызначаныя ў якасці дыягнастычных у КД дыялектных моўных асаблівасцей, у вымаўленні мікрасоцыуму выступаюць найбольш паслядоўна і максімальна поўна. Гэта мае месца ў сферы вытворчых зносін, у тым ліку, у С.1, у сямейна-побытавай у С.1 і С.2 і інш. Але ў асобных сітуацыях абраных сфер камунікацыі, як у С.2 і С.3 у сферы працоўнай дзейнасці, а таксама ў сферы афіцыйных кантактаў асабліва, у вымаўленні СВГ адзначаюцца некаторыя рысы з сістэмы рускамоўнага вымаўлення. Прынамсі, у сістэме кансанантызму: зычны гук /л/ адпаведна /ў/ у становішчы перад наступным зычным у асобных словах і дзеяслоўных словаформах (*пашо́л, жо́лты*); канцавы зычны /й/ у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду прыметнікаў (*калхо́зный, да́ўный*); зычны /т/, які займае фінальнае становішча ў слове і выступае ў канчатку 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў (*ідз'о́т, займа́йіт*). У сістэме вакалізму: галосны гук /э/ або /ы/ у становішчы пасля зычных /ж/, /ш/, /ч/, /ц/ і /р/ незалежна ад адносін да націску і якасці націскнога галоснага (*рыко́рд, жэла́йа*); націскны галосны /о/ у становішчы пасля мяккіх зычных у 1-ай асобе множнага ліку і 2-ой асобе адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў абвеснага ладу' (*н'ас'о́м, н'ас'о́ш-н'ас'о́ц'а; кладз'о́м, кладз'о́ш-кладз'о́ц'а*).

Дадзеныя, па сутнасці адзінкавыя, рысы рускамоўнага маўлення, істотна не ўплываюць на агульную якасць вымаўлення II СВГ. Акрамя таго, яны не з'яўляюцца вызначальнымі ў мясцовым рускамоўным вымаўленні, адносяцца пераважна да ліку дробных яго асаблівасцей. Ды і выступаюць у вымаўленні абмежавана і непаслядоўна. Але разам з тым яны яскрава сведчаць: панцце ўласнадыялектны тып маўлення як цалкам аднародная па структурных сродках дыялектная гаворка з'яўляецца адносным. Дыялектнае вымаўленне нават старэйшых па ўзросце прадстаўнікоў сацыяльна-вытворчых нізоў мясцовай гаспадаркі характарызуецца варыянтнасцю. Яна камунікатыўна маркіраваная, колькасна выразна абмежаваная і спарадычная па ўжывальнасці. Яна існуе пакуль што факультатыўны паказчык пашырэння гукавога складу сродкаў традыцыйнай мясцовай гаворкі.

У адрозненні ад II СВГ, іншыя мікрасоцыумы выкарыстоўваюць дыялектныя моўныя сродкі толькі пры пэўных акалічнасцях зносін. Акрамя таго, моўныя паводзіны з арыентацыяй на дыялектны рэпертуар характэрны не для ўсіх членаў той ці іншай СВГ, а, як правіла, для асобных яе прадстаўнікоў з пэўнымі сацыяльнымі атрыбутамі. Улічваючы адзначаную асаблівасць, усе мікрасоцыумы з неаднолькавай моўнай арыентацыяй і, адпаведна, камунікатыўна зменным тыпам паводзін, былі падзелены на асобныя часткі. Кожная такая ўнутрыгрупавая частка, або падгрупа, СВГ атрымала адпаведны літарны індэкс (напрыклад, падгрупа **а** і г.д.).

Так, сярод прадстаўнікоў I СВГ найбольш паслядоўнай па характары сацыяльна-маўленчай дзейнасці і моўных паводзінах з'яўляецца падгрупа **а**. Паводле сацыяльных адзнак яе складаюць галоўным чынам асобы сярэдняга і сталага ўзросту мужчынскага і жаночага полу з нізкай адукацыяй. Размова па-мясцоваму вызначае моўныя паводзіны прадстаўнікоў падгрупы **а** ва ўсіх тыпах камунікатыўных сітуацый. Пры гэтым, у сферы вытворчасці ў С.1, а таксама ў сямейна-побытавай у С.1 і С.2 выступаюць фактычна ўсе рысы, якія складаюць блок дыягнастычных дыялектных асаблівасцей. Але ў С.2 і С.3 у сферы вытворчасці, а таксама ў С.1 і С.2 у грамадска-палітычнай сферы і С.3 сямейна-побытавай, акрамя рыс дыялектнага вымаўлення, маем тут таксама асобныя дыягнастычныя адзнакі мясцовага рускамоўнага маўлення. Гэта ў сістэме кансанантызму: зычны гук /в/ адпаведна /г/ у канчатку ў прыметнікаў у родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду (*на́шава, ро́днава*), зычны гук /ш/ перад наступным мяккім свісцячым кансанантам /с'/ у зваротным афіксе дзеясловаў у 2-ой асобе адзіночнага ліку цяперашняга і простага будучага часу (*ву́чышс'а, нарабо́тайішс'а*), гук /т/ у канчатку 3-яй асобы адзіночнага ліку такога ж часу дзеясловаў (*хо́дз'іт, пла́чыт*), канцавы /й/ у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду прыметнікаў і такіх жа займеннікаў

(*бал'шо́й, тако́й*), фінальны зычны /л/ у дзеясловаў у форме прошлага часу адзіночнага ліку мужчынскага роду (*в'ол дз'іц'э́й, нашо́л*), кансанант /к/ у асобных групах лексем у назоўнікаў жаночага роду ў месным склоне (*на кла́дк'э, дачк'э́*). У сістэме вакалізму: галосны гук /э/ або /ы/ не пад націскам у становішчы пасля шыпячых і зацвярдзелых у розных марфаналагічных умовах (*гл. прыклады вышэй*), націскны галосны /о/, які выступае пасля мяккіх зычных у дзеясловаў у 2-ой асобе адзіночнага і множнага ліку абвеснага ладу (*в'адз'о́ш, н'ас'о́ц'а*), ненаціскны галосны /э/, які рэалізуецца ў канцавым адкрытым складзе пасля мяккіх зычных (*у по́л'э, аб'ішча́н'ійэ, да́л'н'ійэ*). Аднак пералічаныя фанетычныя асаблівасці, характэрныя для мясцовага рускамоўнага вымаўлення, выступаюць як спарадычныя моўныя з'явы і не з'яўляюцца рэгулярнымі фактамі маўлення. У сувязі з апошнім яны істотна не ўплываюць на агульны характар вымаўлення. Але разам з тым, і ў маўленні гэтай часткі I СВГ адзначаецца пэўная варыятыўнасць гукавых сродкаў. Па функцыянальных і колькасных суадносінах яна шырэйшая ў параўнанні з II СВГ і мае выразны камунікатыўны характар.

Сярод прадстаўнікоў IV СВГ адметнасцю з боку рэалізацыі фанетычных сродкаў вылучаецца падгрупа **а.** Ва ўсіх камунікатыўных сітуацыях абраных сфер вусных моўных зносін яе паводзіны характарызуюцца дыялектнамоўнай арыентацыяй. Праўда, найбольш поўна гукавыя асаблівасці дыялектнай сістэмы адзначаюцца ў сацыяльна-вытворчай сферы ў С.1 і С.2, а таксама ў сямейна-побытавай у С.1 і С.2. А вось у сферы вытворчых моўных зносін у С.3, а таксама ў сямейна-побытавай С.3 вымаўленне падгрупы **а** не з'яўляецца такім аднародным. Тут разам з фанетычнымі рысамі, дыягнастычнымі ў мясцовым вымаўленні, выступаюць таксама некаторыя гукавыя адзінкі, якія складаюць асобасць мясцовага рускамоўнага маўлення. У пераважнай большасці гэта тыя ж асаблівасці, што характарызавалі вымаўленне найперш I СВГ падгрупы **а** ў падобных С., а таксама II мікрасоцыуму пры такіх жа ўмовах зносін.

У V СВГ толькі падгрупа **а** ў С.1 і С.2 у сферы сямейна-побытавых зносін арыентуецца на фанетычныя інвентар мясцовай дыялектнай сістэмы сродкаў маўлення. Але прадстаўлены ён далёка не ў тым аб'ёме, як гэта мела месца, да прыкладу, у маўленні II СВГ. Прынамсі, тут амаль не адзначаецца вымаўленне: гукаў /х/, /п/ ці тоесных ім спалучэнняў зычных /хв/, /кв/ і іх мяккіх варыянтаў у адпаведнасці з гукам /ф/ у запазычаных лексемах (*х'э́рма, квасо́л'*), кансанантнага спалучэння /с'ц'/ згодна з /шс'/ у асобных лексіка-граматычных умовах (*купа́йэс'ц'а, Пал'э́с'ц'а*), цвёрдага зычнага гука /м/ у складзе канчатка -амі ў скланяльных часцінах мовы ў творным склоне множнага ліку (*рука́мы, да́ўн'імы, свайі́мы*) і некаторыя інш. У сістэме вакалізму не вымаўляюцца: галосны /а/ у канцавым адкрытым складзе ў

дзеясловаў у 1-ай асобе множнага ліку (*ста́н'іма, по́йдз'эма*), націскны галосны /э/ у адпаведнасці з /ы(і)/ у прыметніках у назоўным склоне множнага ліку (*даўг'э́йа, залатэ́йа*), а таксама некаторыя інш. Акрамя гукавых асаблівасцей дыялектнамоўнай прыналежнасці, тут адзінкава выступаюць таксама фанетычныя рысы, дыягнастычныя ў беларускім літаратурным і рускамоўным блоках КД. Колькасць першых — нязначная. Але найперш гэта і ёсць спецыфічнае сведчанне прафесійных заняткаў падгрупы — яны настаўнікі мясцовай беларускамоўнай па статуту школы. Рускамоўныя адметнасці пераважна тыя ж, што і ў папярэдненазваных СВГ або іх падгрупах.

Вымаўленчыя арыенціры VI СВГ групы залежаць галоўным чынам ад тыпу С. Прынамсі, засведчана: дыялектныя фанетычныя асаблівасці выступаюць у сямейна-побытавай сферы ў С.1 і С.2. Але рэалізуюцца яны ў спалучэнні з адметнасцямі мясцовага рускамоўнага вымаўлення. Заўважым пры гэтым, у вымаўленні мужчынскай часткі групы колькасць фанетычных адзінак рускамоўнага узусу пераважае ў параўнанні з вымаўленнем яе жаночай часткі.

Моўныя паводзіны VII СВГ у адносінах яе да дыялектных сродкаў маўлення вызначае арыентацыя на іх у наступных С. Так, падгрупа **а** ва ўсіх тыпах маўленчых сітуацый абраных сфер камунікацыі, ужывае пераважна моўныя сродкі мясцовай гаворкі. Падгрупа **б** рэалізуе іх у С.1, С.2 у сферы вытворчасці, а таксама С.1 і С.2 сямейна-побытавых кантактаў. Пры гэтым, у вымаўленні падгрупы **б**, у адрозненні ад **а**, фанетычныя дыялектна-дыягнастычныя рысы выкарыстоўваюцца не ўсе і не так паслядоўна. У гукавым рэпертуары маўлення падгрупы выступаюць таксама асобныя гукі, уласцівыя мясцовай рускамоўнай гаворцы. Іх корпус складаюць у асноўным тыя самыя адзінкі, што характарызавалі вымаўленне папярэдніх СВГ.

Нарэшце, сярод прадстаўнікоў VIII СВГ, або групы рабочых, дыялектную сістэму ў якасці сродку зносін абралі падгрупы **а** і **б** у сферы вытворчасці ў С.1, С.2, а таксама ў сямейна-побытавай сферы ў С.1 і С.2. Акрамя таго, дыялектнымі па сістэме моўнай арыентацыі застаюцца моўныя паводзіны падгрупы **а** ў С.3 у сферы вытворчасці. Але іх комплекс гукавых сродкаў дыялектнай вымаўленчай сістэмы вызначаецца значнай рэдукаванасцю ў адпаведнасці яго КД фанетычных асаблівасцей мясцовага вымаўлення. Адметнасці дыялектнага тыпу спалучаюцца тут з асаблівасцямі мясцовага рускамоўнага узусу. Яны па сваёй функцыянальнай размеркаванасці і якасці ў асноўным не адрозніваюцца ад гукавых адзінак, што выступалі ў маўленні пераважнай большасці вышэйназваных падгруп. Адпаведна і вымаўленчую арыентацыю VIII СВГ у пералічаных тыпах С. вызначае дыялектная сістэма фанетычных сродкаў з наяўнасцю асобных

адзнак гукавой інтэрферэнцыі рускамоўнай сістэмы.

Падагульняючы, зазначым. Сістэматызацыя маўленчага матэрыялу ў выглядзе вялікага корпуса спантанных, тэматычна незададзеных тэкстаў, паказала. У пачатку 90-х гадоў асноўным сродкам вусных моўных зносін у тыповых і пашыраных у сельскай мясцовасці маўленчых сітуацыях у іх найбольш прадстаўнічых сферах камунікацыі выступала традыцыйная мясцовая гаворка. Яна была характэрна для маўленчай дзейнасці розных па складзе СВГ мясцовага насельніцтва. Прынамсі, на дыялектную сістэму моўных сродкаў, за выключэннем III СВГ і часткова V, арыентаваліся тутэйшыя насельнікі ў сямейна-побытавай у С.1, С.2 і пераважная большасць з іх у сацыяльна-вытворчай сферах у С.1, С.2. І толькі ў галіне грамадска-палітычных дачыненняў размаўлялі па-мясцоваму члены II СВГ. Рэдка, акрамя II мікрасоцыуму, выкарыстоўвалі дыялектныя сродкі маўлення прадстаўнікі СВГ у даследуемых сферах у С.3. Гэта якраз такія тыпы сітуацый зносін, пры якіх сацыяльныя адзнакі камунікантаў былі адрознымі. Такім чынам, высветлілася: сацыяльны статус гаворачага служыць падставай для карэляцыі моўных паводзін і адпаведна змены — наколькі гэта дазваляе зрабіць лінгвістычная кампетэнцыя — сістэмы моўнай арыентацыі суразмоўцам з больш нізкай сацыяльнай атрыбутацыяй.

Сумуючы атрыманыя вынікі з боку камунікатыўнай эфектыўнасці дыялектнамоўнай сістэмы, можна лічыць: традыцыйная мясцовая гаворка і, шырэй, дыялект, выконваюць на сённяшні час пакуль што пануючую ролю ў сістэме рознасітуацыйных моўных зносін, літаратурныя моўныя ідыёмы як сродкі вуснай спантаннай камунікацыі саступаюць ёй. Гэтым атрыманыя вывады фактычна не пярэчаць і не адрозніваюцца ад назіранняў і звестак папярэдніх сацыялінгвістычных публікацый. Яны ў многім пацвярджаюць іх. З другога боку, у адносінах да інвентару дыялектнай моўнай сістэмы выявілася: абагуленая ў выглядзе КД сістэма фанетычных дыялектных сродкаў характарызуецца іх дыстрыбуцыяй па асобных СВГ. Апошняе якраз і сведчыць аб пэўнай залежнасці тыпу маўлення ад характару сацыяльна-вытворчай дзейнасці мясцовага насельніцтва. Чым бліжэй іх заняткі да мясцовых традыцый гаспадарання, тым паўней рэалізуецца комплекс моўных асаблівасцей мясцовай гаворкі. Сталася, па-другое, відавочным: колькасны склад фанетычных сродкаў маўлення дыялектнамоўных СВГ вызначаецца некаторай рэдукаванасцю ў параўнанні з іх абагуленым комплексам. У максімальна поўным інвентары дыялектны КД прадстаўлены ў маўленні II СВГ. У іншых мікрасоцыумах асобныя тыпова дыялектныя моўныя асаблівасці не выступаюць. Прынамсі; не рэалізуецца ў маўленні спалучэнне мяккіх зычных /н'с'/ у кансанантным ланцугу /н'с'к'/ як: *ко́н'с'к'і, дабра́н'с'к'і,* не вымаўляецца цвёрды зычны /л/ у словах тыпу *са́лца, прыдс'іда́ц'элша,* не

ўжываецца спалучэнне зычных гукаў /шн/ у лексемах рознага часу запазычання з рускай мовы, накшталт *со́лн'ішны, бал'н'ішны, убо́рашнайа*, абмежавана выступае цвёрды кансанант /м/ у складзе флексіі –амі ў розных скланяльных часцінах мовы ў творным склоне множнага ліку: *рука́мы, на́шымы, зчарн'э́лымы;* у сістэме вакалізму: наогул не фіксуецца галосны гук /а/ у становішчы пасля папярэдняга зычнага /п/ у словах з марфемным прэфіксам пера-, тыпу *парайэ́хаў, парайшо́ў*, не вымаўляецца фінальны ненаціскны гук /а/ у дзеяслоўных формах 1-ай асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу, прыкладу *по́йдама дамо́ў, йак з'дз'э́лайіма.* Усё гэта ў сукупнасці паказвала: у сацыяльна-маўленчай дзейнасці пераважнай большасці дыялектных СВГ мае месца тэндэнцыя да уніфікацыі сродкаў вымаўлення. Як вынік яе ў значнай частцы размоўных сітуацый нівеліруюцца сацыяльныя характарыстыкі дыялектнамоўных носьбітаў і змяншаецца колькасць супрацьпастаўленых сфер камунікацыі. Адначасова з гэтым устаноўлена: інтэгральнай рысай усіх дыялектнамоўных камунікантаў застаецца захаванне ў вымаўленні пераважнай большасці характэрных асаблівасцей рэгіянальнай дыялектнай сістэмы. Прынамсі, маюць месца: недысімілятыўнае аканне і дысімілятыўнае яканне, звонкія зычныя ў розным фанетычным становішчы ў слове, падоўжаныя зычныя ў інтэрвакальным становішчы ў адпаведнасці з гістарычным спалучэннем падобнага зычнага з наступным /й/, дзеканне і цеканне, у тым ліку і ў іншамоўных словах, пратэтычны /в/ перад націскнымі /о/, /у/ у пачатковым становішчы ў складзе, краепалатальныя /ц'/, /дз'/, /с'/, /з'/ перад наступнымі мяккімі зычнымі і шэраг інш.

Акрамя таго, ацэньваючы корпус асаблівасцей дыялектнай сістэмы па яго складу, нельга не адзначыць і такую адметную акалічнасць. Выяўлены стан дыялектнай сістэмы ў адносінах яе да іншых сістэм лакальнай мадэлі даследаванага моўнага кантынуума вызначаецца не сыходжаннем дыглосных моўных сістэм, мясцовай гаворкі і нацыянальнай літаратурнай мовы. Факты сведчаць: абазначылася іх дывергенцыя. Безумоўна, гэта, так бы мовіць, пачатак працэсу. На сённяшні час ён найбольш уяўны па выніках тут, у паўднёва-ўсходнім рэгіёне Беларусі, бо найперш на дадзенай яе частцы ён меў, пра што гаварылася, адпаведны культурна-гістарычна падмурак. Але найбольш спрыяльнай для падтрымкі зазначанай з'явы аказалася моўная сітуацыя на працягу апошняга паўстагоддзя. Спецыфіка яе вызначалася ў функцыянальнай прыярытэтнасці рускай мовы ў параўнанні з нацыянальнай літаратурнай. Ды і характар цяперашняй моўнай сітуацыі садзейнічае толькі паглыбленню акрэсленай тэндэнцыі. Некалькі адрозныя адносіны паміж літаратурнай беларускай мовай і яе дыялектнай формай маюць месца пакуль што на захадзе рэспублікі. Аднак, як вядома зараз, і тут дынаміку развіцця

моўных працэсаў вызначае арыентацыя мясцовага насельніцтва на рэпертуар маўленчых сродкаў рускай мовы (Крывіцкі: 1998, 86-90). Інакш кажучы, і на захадзе Беларусі ў бліжэйшай будучыні дывергентныя працэсы будуць выражаць характар адносін паміж кадыфікаваным ідыёмам нацыянальнай мовы і яго рэгіянальным заходнім дыялектным тыпам. Зразумела, і ў іх фанетыка-граматычным ладзе.

## Літаратура


Аванесаў Р.І. Да тэарэтычных пытанняў лінгвістычнай геаграфіі // Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. Мінск, 1963. 972 с.

Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны ўказальнік (1825-1965). Мінск, 1967. 416 с.; Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны паказальнік (1966-1975). Мінск, 1980. 352 с.; Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны паказальнік (1976-1985). Мінск, 1993. 558 с.

Булдык И.М. Моўная сітуацыя ў сельскай мясцовасці Гродзеншчыны // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. 1981. № 5. С. 131-136.

Булдык И.М. Языковая ситуация в Гродненской области БССР: Автореф. дисс. ... канд. филол. наук. Минск, 1983.

Веренич В.Л. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Бережное Столинского района Брестской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 44-51.

Войнич И.В. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Бенякони Вороновского района Гродненской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 51-59.

Войнич И.В. Функции белорусского и русского языков в сферах связи и транспорта // Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Минск, 1999. С. 202-212.

Довгяло Г.А., Янкова Т.С. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Переделка Лоевского района Гомельской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 35-38.

Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. Мінск, 1963. 972 с.; Дыялекталагічны атлас беларускай мовы (карты). Мінск., 1963, VIII + 338 карт.

Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. Москва, 1981. С. 214-220.

Крывіцкі А.А. Гаворкі беларускай мовы, пасляваенная моўная сітуацыя і дынаміка маўлення Беларусі // Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich. Opole, 1998. С. 55-104.

Крывіцкі А.А. Традыцыйны сельскі моўны ландшафт Беларусі (Poseban otisak). Sarajevo, 1977.

Крывіцкі А.А. Рэгіянальныя моўныя з'явы і іх лінгвагеаграфічная стратыфікацыя // Беларуская лінгвістыка. 1996. Вып. 46. С. 3-6.

Кунцевич Л.П. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Рухово Стародорожского района Минской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 39-44.

Кунцевич Л.П. Двуязычие в сфере народного образования // Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Минск, 1999. С. 139-147.

Лапицкая-Антипова И.Н. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Овсянка Горецкого района Могилёвской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 29-35.

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у пяці тамах: Т.1 Мінск, 1993; т. 2. Мінск, 1994; т. 3. Мінск, 1994; т. 4. Мінск, 1997; т. 5. Мінск, 1998.

Лінгвістычная геаграфія і групоўка гаворак. Мінск, 1968. 320 с.; Лінгвістычная геаграфія і групоўка гаворак. Мінск, 1969. 80 карт.

Лукашанец А.А. Языковая ситуация в сфере обслуживания // Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Минск, 1999. С. 212-220.

Николаева О.М. Двуязычие в сфере быта и во внутрисемейном общении // Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Минск, 1999. С. 220-234.

Свежинский В.М. Языковая ситуация в сельской местности. Деревня Туросполье Ушачского района Витебской области // Русский язык в Белоруссии. Минск, 1985. С. 23-29.

Староверов В.И. Социально-демографические проблемы деревни. Методология, методика, опыт анализа миграции сельского населения. Москва, 1975. 287 с.

*Н.В.Сівіцкая*

# НАЗВЫ ТРАДЫЦЫЙНАГА ВЕРХНЯГА АДЗЕННЯ Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРКАХ

Назвы традыцыйнага верхняга адзення прадстаўляюць сабой адзін з надзвычай шырокіх і ў асноўным старажытных лексічных пластоў. Як паказваюць этнаграфічныя даследаванні, беларускае традыцыйнае адзенне, як жаночае, так і мужчынскае, мае менш варыянтаў, чым рускае і ўкраінскае, паколькі беларусы этнаграфічна больш аднастайныя (ВЭС, 794). Што ж тычыцца найменняў беларускага традыцыйнага адзення, то яны прадстаўлены даволі вялікай колькасцю назваў, што ў першую чаргу можна патлумачыць уплывам розных экстралінгвістычных фактараў, такіх, як, напрыклад, культурныя ўзаемадзеянні розных, перш за ўсё суседніх, народаў. Таксама немалую ролю ў фарміраванні назваў прадметаў адзення адыграла запазычанне некаторых рэалій, што абумовіла з'яўленне некаторых новых намінацый, якія маглі з часам распаўсюдзіцца і на іншыя, падобныя, тыпы адзення. На сённяшні дзень большасць прадметаў традыцыйнага народнага адзення перайшлі ў разрад этнаграфічных рэліктаў. Адпаведна іх назвы прадстаўляюць сабой дастаткова ўстойлівы лексічны пласт, вывучэнне якога дае магчымасць разглядаць лексіку гэтай групы ў тым ліку ў кантэксце міжмоўных і міжэтнічных узаемадзеянняў і ўзаемаўплываў у розныя гістарычныя перыяды, а таксама дазваляе зрабіць некаторыя высновы аб працэсе і сродках фарміравання назваў прадметаў традыцыйнага народнага адзення.

Мы разгледзім назвы прадметаў адзення, якія, на наш погляд, а таксама па этнаграфічны дадзены, з'яўляюцца адными з найбольш архаічных – гэта назвы адзення тыпу "світа". Як паказваюць карты "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" (том 4. Побыт), у межах беларускай дыялектнай мовы шырока распаўсюджаны разнастайныя найменні верхняга мужчынскага і жаночага адзення тыпу «світа», якая выраблялася з даматканага сукна і была вельмі папулярнай на тэрыторыі Беларусі (ЛАБНГ, к. 229). Характэрнай асаблівасцю дадзенага тыпу адзення і яе несумненна архаічнай рысай з'яўляецца практычна поўная адсутнасць раздзялення па гендэрнай прыкмеце (тут маецца на ўвазе характар крою), што, відавочна, стала прычынай адсутнасці падобнай дыферэнцыяцыі і ў назвах, якія існуюць у беларускіх народных гаворках. Асноўныя найменні гэтага тыпу адзення, распаўсюджаныя на ўсёй тэрыторыі Беларусі, прадстаўлены лексемамі

агульнаславянскага паходжання *світка, світа* (параўн. руск. *свита*, укр. *свита, свитка*, славен. *svita*, с/х *свӣта*, польск. *świta*). Верагодна, з'яўленне лексемы *світка* звязана з працэсамі словаўтварэння ў самой беларускай мове. Па той жа мадэлі ўтвораны і некаторыя іншыя назвы традыцыйнага адзення: параўн. – *курта – куртка, сак – сачак, сярмяга – сярмяжка, хуста – хустка*. Разам з тым, побач са спрадвечнымі дыялектнымі назвамі вышейназванага тыпу вопраткі можна назіраць паралельнае франтальнае або спарадычнае ўжыванне лексем з занальным характарам распаўсюджання, з'яўленне якіх абумоўлена ў першую чаргу культурна-моўнымі кантактамі. Гэта назвы *армяк, бурнос, бурка, жупан,* якія абазначаюць вышейназваны тып адзення, якія, верагодна, распаўсюдзіліся ў беларускай дыялектнай мове ў розны час і, відавочна, з розных напрамкаў -- усходняй і заходняй памежных тэрыторый.

Назва *армя́к* (*ярмя́к, ірмя́к*) засведчана ў межах усходняй дыялектной зоны беларускай мовы (ЛАБНГ, к. 231). Як паказваюць этымалагічныя дадзеныя, гэта назва з'явілася ў рускай мове шляхам запазычання з татарскай у 16-ым стагоддзі, і паходзіць ад назвы тканіны, з якой шылі гэты від адзення – "армячина – кипорная ткань, верблюжьей шерсти, выделываемае большей частью татарами, *армяк* – крестьянский кафтан, сшитый из армячины" (ЭСРЯ, 1, 146; ДАЛЬ, 1, 23). Існуе меркаванне, што дадзеная намінацыя была прынесена на тэрыторыю Беларусі рускімі стараабрадцамі (МАЛЧАНАВА, 64). На наш погляд, гэты факт меў толькі некаторы ўплыў на распаўсюджанне дадзенага наймення на терыторыі беларускіх народных гаворак. Як сведчаць матэрыялы "Диалектологического атласа русского языка", на тэрыторыі рускіх народных гаворак лексема з такім жа значэннем мае шырокае распаўсюджанне: Калінінскі, Яраслаўскі, Кастрамскі раёны *армя́к*; Вялікалукскі раён *армячо́к*; Вялікалукскі, Смаленскі, Калужскі, Бранскі раёны *ирмя́к.*; Смаленскі, Бранскі раёны *ърмя́к*; Бранскі раён *ырмяк*; Вялікалукскі, Смаленскі, Калужскі раёны *ирмя́к* (ДАРЯ, к. 32). Відавочна, што распаўсюджанне вышэйпералічаных лексем стварае адзіны арэал, частка якога знаходзіцца на тэрыторыі беларускіх народных гаворак.

Такім жа чынам можна інтэрпрэтаваць і з'яўленне на тэрыторыі беларускіх народных гаворак назвы *чухме́нь*, якая займае невялікі арэал на ўсходзе Беларусі – вузкая пало́са гаворак уздоўж мяжы з Расіяй ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях (ЛАБНГ, к. 232). У гаворках Расіі найменне сустракаецца шырока: Смаленскі раён *чухме́нь*, Бранскі раён *чукме́нь, чахме́нь чакме́нь*, Ліпецкі раён *чихме́нь*, Курскі раён *тикме́нь*, Калужскі раён *чакме́нь, чикме́нь*, Арлоўскі, Курскі, Ліпецкі раёны *щикме́нь* (ДАРЯ, к. 32).

У межах паўночна-заходняй дыялектнай зоны бытуе найменне *бурнóс* (ЛАБНГ, к. 231). Падобная назва фіксуецца таксама ў гаворках на паўднёвым усходзе і ўсходзе Польшчы -- *burnus* (MAGP, 12, 564). Этымалагічныя даследаванні паказалі, што першапачаткова лексема *бурнус* мела значэнне «доўгая і шырокая накідка з каптуром, без рукаваў, якое насілі арабы» (DOROSZEWSKI, 1, 733, ДАЛЬ, 1, 143). Змены ў семантыцы слова, верагодна, адбыліся ў сувязі са з'яўленнем новага тыпу адзення. Шырокаму ж распаўсюджанню дадзенай намінацыі паслужылі новыя тэндэнцыі моды, калі ў мужчынскім гардэробе з'явіўся вельмі папулярны сярод розных слаёў насельніцтва тып доўгага шырокага паліто, якое мела назву *бурнус* (КИРЕЕВА, 146). Верагодна, з польскай літаратурнай мовы яно прыйшло ў народныя беларускія гаворкі, дзе і было засвоена ў якасці абазначэння адзення тыпу “світа”.

Заходнезанальным па распаўсюджанню з'яўляецца назва *бýрка* (ЛАБНГ, к. 232). Сустракаецца яно і ў гаворках у цэнтры і на паўночным захадзе Польшчы (MAGP, 12, 564). Лічыцца, што назва прыйшла з Русі (DOROSZEWSKI, 1, 731). Як паказваюць нашы назіранні, найменне вядома ў рускай мове, але ў значэнні «адзенне з даматканага сукна» мае зусім невялікі арэал распаўсюджання – наўгародскае *бурка* (ДАРЯ, к. 32). Больш шырока гэта назва выкарыстоўвалася ў якасці абазначэння войлачнага валянага авечага круглага плашча або безрукавай епанчы для вершніка (ДАЛЬ, 1, 143). Верагодна, лексема *бурка* распаўсюдзілася на захад з усходу ў значэнні “акрыцце без рукаваў”, пра што сведчаць наступныя дадзеныя: *burka* 'oponcza' у 17 ст. (BRÜCKNER), *burka* – від доўгага плашча з каптуром, зробленага з грубай тканіны; **раней**: верхняе мужчынскае акрыцце без рукавоў” (DOROSZEWSKI, 1, 731). Назва, магчыма, паходзіць ад колеру тканіны і, відавочна, запазычана з усходніх моў, параўн. манг. *buruj* 'цёмны', тур., перс. *bur* 'rudawym' (BRÜCKNER). Не выключана, што ў гэтым выпадку, як і ў папярэднім, змена семантыкі слова адбылася са з'яўленнем новага тыпу адзення. Такім чынам, тэрмін *бурка* быў перанесены на новую рэалію – “верхняе мужчынскае адзенне” і ў такім значэнні быў засвоены народнымі гаворкамі.

У якасці абазначэння адзення тыпу “світа” ў беларускіх народных гаворках адзначана некалькі фіксацый назвы *жупáн* – *жýпіца* – Пружанскі раён, *шушпáн* – Іўеўскі раён, *жупаніна* – Гомельскі раён, *жупáн* – Шчучынскі раён (ЛАБНГ, к. 229). Лексема *żupan* распаўсюджана на паўночным захадзе і ўсходзе Польшчы (MAGP, 12, 564), а таксама зафіксавана на Смаленшчыне (ДАРЯ, к. 34). На думку этымолагаў, назва *жупáн* была запазычана з польскай мовы і праз пасрэдніцтва беларускай трапіла ў рускую (ЭСРЯ, 11, 298). Выклікае цікавасць найменне *шушпан*,

зафіксаванае ў Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці. Падобная назва адзначана ў Віцебскім раёне Віцебскай вобласці: *шушма́н* – тунікападобны нагруднік з рукавамі, які выконваў ролю фартуха (МАЛЧАНАВА, 141). У традыцыйным рускім касцюме *шушма́н* – разнавіднасць фартуха, які надзяваецца праз галаву (ВЭС, 650). На тэрыторыі беларускіх народных гаворак падобныя найменні з'яўляюцца адзінкавымі, і пытанне іх паходжання і з'яўлення патрабуе дадатковага даследавання.

Такім чынам, назвы традыцыйнага верхняга адзення паводле свайго распаўсюджання з'яўляюцца як дыялектнымі, так і занальнымі, што адпавядае двухпланаваму характару групоўкі беларускіх народных гаворак. Трэба сказаць, што найменні адзення ў большасці сваёй заўсёды ўзнікалі як вынік этна-культурных і культурна-моўных узаемадзеянняў. Разгледжаную групу назваў складаюць намінацыі, розныя па спосабу ўтварэння і характару пранікнення і распаўсюджання на тэрыторыі беларускіх народных гаворак. На фарміраванне гэтай групы лексікі вельмі істотна паўплываў этнамоўны ўзаемаўплыў суседніх народаў, які адбываўся перш за ўсё і пераважна на лексічным узроўні.

ЛІТАРАТУРА:


1. BRÜCKNER – Brückner A. Słownik etymologiczny języka polskiego. – Warszawa: Wiedza powszechna, 1974. – 806 с.
2. ВЭС – Восточнославянский этнографический сборник (Очерки народной материальной культуры русских, украинцев и белорусов в XIX – н. XX вв). Под ред. Токарева. М., 1956 – 805 с.
3. ДАБМ – Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963.
4. ДАЛЬ – Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка М., 1965.
5. ДАРЯ – Диалектологический атлас русского языка (Центр европейской части СССР): В 3 вып. 1986 – 1989.
6. КИРЕЕВА – Киреева Е.В. История костюма. Европейский костюм от античности до XX века. М., 1976. – 245 с.
7. ЛАБНГ – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 4. "Побыт", Мн., 1997.
8. МАЛЧАНАВА – Малчанава Л.А. /Беларускае народнае адзенне, Мн., 1975. – 96 с.
9. ПРЕОБРАЖЕНСКИЙ – Преображенский А. Этимологический словарь русского языка. – М.: Гос. изд-во иностр. и нац. словарей, 1959. – Т. 1. – 674 с.; Т. 2. – 560 с.

10. DOROSZEWSKI – Witold Doroszewski. Slownik Języka polskiego. Warszawa, 1961.

11. MAGP – Mały atlas gwar polskich, t. 12. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1969.

12. ЭСРЯ – Этимологический словарь русского языка, т. 1. М., 1963. Под ред. Шанского Н.М. –195 с. Т. 2. М., 11, 1974. – 305 с.

*А.К. Пекач*

# ПРЫСЛОЎІ, СУАДНОСНЫЯ З НАЗОЎНІКАМІ МЕСНАГА СКЛОНУ І ЎТВОРАНЫЯ КОНФІКСНЫМ СПОСАБАМ, У БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРКАХ

У беларускіх народных гаворках адзначана 226 прыслоўяў (у тым ліку і фанетычныя, і акцэнталагічныя варыянты), якія суадносяцца з назоўнікамі меснага склону і ўтвораны конфіксным спосабам.

Словаўтваральны тып з першым кампанентам конфікса **на-** (**ны-**) аб'ядноўвае восем мадэлей:

1) **на- ... -ах (-ех, -ох, -ях)**: ***наверха́х (наверхо́х), на ды́бках, накале́ках, на ко́кішках, на кукарэ́чках, на растаня́х, на су́мярках, наторoко́х, нау́мех***: *Му каталіс* ***наверха́х,*** *пока коні не попрыставали. Наверхо́х ехалі козакі по селу* (в.Малое Малешава Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 113]. *Наша малая не ходзіць, да нечага ўсе на ды́бках бегая* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 267]. *Ох, папанасіла я накале́ках уцетых во пацаноў* (в.Пярэдзелка Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 204]. - *Як ты ее дапер? - А накале́ках* (в.Чаплін Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 204], *Чаго сеў на ко́кішках? Бачыш, хадзіць мне тут трэба* (в.Азяраны Дзятлаўскага р-на) [Аляксейчык - 78, с. 13]. *Набраўся самагону і паўзе на кукарэ́чках* (Ст. Беліца Сенненскага р-на) [Каспяровіч, с. 200]. *Дзе тыя Свяцілавічы, аж на растаня́х – ехаць нада на кані цэлы дзень* (в.Палессе Чачэрскага р-на) [МДСГ, 5, с. 162]. *Ён на су́мярках прыехаў* (в.Старыя Смільгіні Воранаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 17]. *Стоіш наторoко́х, шчо б не прозеваць аўтобуса* (в.Дварэц Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 166]. *Не нау́мех і рыба та, як жабером опечэсса* (в.Луткі Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 169].

2) ***на- (ны-) ... -е (-э, -я)***: ***наве́рсе, наво́тшыбя, навясьне́ (наве́сьие, наве́сьне), напашэве, напрадвясъне́, напярахапэ́, нара́зе (нара́зя), натарэ́ндзе, нау́ме́ (нау́ме), на́яве, нызадзе́***: *Сабранія будзець наверсе* (в.Пірагова Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 273]. *Хата стагць навотшыбя* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнк, с. 164]. *Здэцца, навясьне пошлі ены ў салдаты* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 267]. *Летась навясьне купіў* (в.Клетнае Глускага р-на; в.Прудок Калінкавіцкага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 120; МДСГ, 5, с. 151]. *Навясьне прадаў адно куранё* (в.Вышалаў Петрыкаўскага р-на) [МДСГ, 5,с. 151]. *Навясьне ўжэ цяплей, хоць сьнех і ляжыцы Згарэш сваe навясьне, ні канешня ўвосянь гараць* (в.Грабава Зэльвенскага р-на) [Сцяц-

ко - 78,с. 145]. *Навесьне прадаў адно канча* (в.Слаўкавічы Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 120]. *Я навесьне замуж пайшла* (в. Пасека Старадарожскагар-на) [КДСС]. *Палажы вероўку напашэве: ена скора трэбо будзе* (в.Танежыцы Слуцкага р-на) [Германовіч, Шуба - 79, с. 68]. *Напрадвясьне ішчэ маразэ моиныя бываюиь* (в. Галынка Зэльвенскага р-на) [Сцяцко, с. 103]. *Кінуліся усе касіць атаву напярахапэ* (в.Любонічы Кіраўскага р-на) [Гайдукевіч - 76, с. 70]. *Було, було ўсе добра, а ета наразе путкоўзнулася й ногу зламала* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 269]. *Вецер наразе меншы стаў. "Дошч ідзе?" - "Не, ціпер наразе не ідзе". Наразе зямля мокра – садзіць німожна* (в.Мсцібава Ваўкавыскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173]. *Наразе атаслалі, а потым зноў забралі Наразе яны не будуць удома. Я думала наразе, што ён глухі* (в.Малі Астравецкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173]. *Наразе Ніна за няньку пашла* (в. Чабаі Валожынскага р-на) [СЦРБ, с. 242]. *Як вучыўся, наразе не было як гуляць. У нас наразе не было студні* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173]. *У нас таксама была ваша, але як скончыласа наразя, то й ціхо* (в.Цярэшкі Ваўкавыскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173]. *Пастаў натарэндзе, кап шукаць ні трэба было* (в.Чабаі Валожынскага р-на) [СЦРБ, с, 243]. *А вон седзіць да плачэ, ужэ і коні не наўме* (в. Хачэнь Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 169]. *То забуду, то так случыцца, шчо не наўме* (в.Бярэжцы Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с, 169]. *Я ж гораў поле і бону наяве, шо собака посунуўса* (Тураў Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 176]. *Падводы ехылі разым, толькі адна зыстылась нызадзе* (в.Маластоўка Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 292].

3) **на- ... -і (-ы):** ***наве́рсі, навысні́, наза́дзі, накану́ні, на́куці, нападарэ́ндзі, напе́рэдзі (на́пірадзі), нара́зі, наро́спусці, на́тузі***: *Нехта ехау наверсі на кані, а я і ні пазнала* (в.Цялякава Уздзенскага р-на) [СЦРБ, с. 236]. *Схываўсь пыд ваду, адны толькі бурдылькі наверсі пашлі* (в.Парадзіна Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 273]. *Навысні оно трава зазылыніе, дай выганеюць коровэ на пашу, ек сіно у кого кончылось* (в.Акропна (Нямержа) Драгічынскага р-на) [Лучыц-Федарэц - 92, с. 86]. *Пашукай, госьці [восці] ляжаць назадзі ў чоўні* (в.Стральцы Гродзенскага р-на) [Рамановіч - 75, с. 33]. *Накануні жабу крумкалі от і дождж пошоў* (в.Пагост Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 132]. *Ніхай садзіцца накуці, як старэйшы* (в.Шклянцы Докшыцкага р-на) [Зубрыцкі - 60, с. 143]. *Дакументы ўсе ляжалы нападарэндзі* (в.Паланэчка Баранавіцкага р-на) [ДСБ, с. 142]. *Нападарэндзі ляжаў бохан хлеба* (в.Чапялі Пружанскага р-на) [ДСБ, с. 142]. *Наперэдзі беда!* (в.Аздамічы Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 148]. *Садзіся напірадзі, у галоўках* (в.Ясёва Міёрскага р-на) [Крыўко - 92, с 71]. *Колбасу зробіць і*

*наразі з'есь. Яшчэ наразі ня беруцца робіць апірацыю* (в.Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173]. *Му ехалі з Іваном нароспусці, то попоцегалі ту машыну. Нароспусці сама плюхота, снег з водою* (в.Луткі Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 156]. *У руках натузі дзержаў* (в.Мачуль Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 167].

4) **на- (ны-) ... -ку:** ***навітку́, наву́сочку, надо́зарку, напасьле́тку (ныпасьле́дку)***. *Навітку сядзіць* (вМярэцкія Глыбоцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Така ек маці навусочку росце* (в.Хачэнь Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 117]. *Ішоў услет за ім надозарку і згубіў* (в.Даўгабор'е Расонскага р-на) [Шаталава - 75, с. 109]. *Напасьлетку нічого не выходзіць* (в.Морач Клецкага р-на) [КДСС]. *Только ныпасьледку прізнаўся, што ён у сватоў пубуваў* (Мсціслаўшчьша) [Юрчанка, СНС, с. 196].

5) **на- (ны-) ... -у:** ***на бягу́, навярху́ (наве́рху, нывяръху́), навідаво́ку, навідаку́ (навідо́ку), назаду́, назо́рку, на зъмярку́ (на́смерку), наладу́, нанізу́, напача́тку, напашэ́ўку, нара́нку, нарату́нку, нахапу́, нацямку́, нацямо́чку, начаку́, нысярёдку***: *Мамы няма, то я не вару, усе на бягу й на бягу* (в.Рачэнь Любанскага р-на) [КДСС]. *Калені навярху [пра кароткае адзенне]* (в.Дакудава Лідскага р-на) [СПЗБ, 3, *с.* 128]. *Швэлі кладуцца навярху, на слупы* (в.Быстрыца Астравецкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 128]. *Наверху дым* (в.Быстрыца Астравецкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 123]. *Айдзе я гуляў, мы пасьці ўсігда былі нывярьху. С харошыю маткыю усігда будіця нывярьху, а тэя, пыд нізом, згніюць* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНС, с. 191]. *А я нг баюся -ўсё навідавоку раблю* (в.Кліманты Маладзечанскага р-на) [Бекіш - 60, с. 102]. *Тэта кнішка ў цябе павінна быць навідавоку* (в.Моханава Верхнядзвінскага р-на) [Шаталава - 75, с, 108]. *Навідавоку гуляй!* (Лоск Валожынскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Навідавоку ляжала сетка, і яна яе ўзяла* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Навідавоку памідоры растуць* (в.Малахоўцы Баранавіцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Навідавоку ўзяў і пашоў* (в.Масілавічы Слонімскага р-на) [СПЗБ, 3, с 124]. *Навідавоку ш стаяла, і ці ён ні згледзяў, ці віт зрабіў толькі* (в.Зарытава Ляхавіцкага р-на) [Гуліцкі - 60, с. 126]. *Паставіў навідавоку ровар і пашоў* (в.Малі Астравецкага р-на) [СПЗБ, 3, с, 124]. *Стаяў навідавоку* (в.Рудня Астравітая Чэрвеньскага р~на) [СПЗБ, 3, с 124]. *Усё навідаку стаіць* (в.Мярэцкія Глыбоцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Навідоку паложаць* (в.Жылі Іўеўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 124]. *Навідоку седзяць усе коло хаты* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 113]. *Начэпляем назаду і наперэду тых дзяцей, ек много, і пошлі ў поле* (в.Луткі Столінскага р-на) [ТС, 3, с. 128]. *Назорку выгнала корову*

(в.Марозавічы Буда-Кашалёўскага р-на) [МДСГ, 5, с. 154]. *Назорку сёньня бліны пякла, бо дачка едзе да мяне* (в.Вязынка Маладзечанскага р-на) [СЦРБ, с. 239]. *Цёця Надзя ўстае назорку кожны дзень, бо карову трэба падаіць* (в.Кароткавічы Жлобінскага р-на) [МДСГ, 5, с. 154]. *Я на зъмярку ела, тоне хочу* (в.Морач Клецкага р-на) [КДСС]. *Насмерку з сена прышлі, бо погода* (в.Пагост Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 161]. *Жывом цепер добрэ, наладу* (в.Верасніца Жыткавіцкага р-на) [ТС, 3, с. 138]. *Стаялі нанізу* (в.Груздава Пастаўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 163]. *Вячэраюць напачатку сумнавата* [НЛГ, с. 92]. *Былі ў мяне тут напашэўку ножніцы і недзя прапалі* (в.Беражна Карэліцкага р-на) [Крамко - 78, с. 73]. *Запалкі напашэўку палажы, мо пасьвяціць на часы трэба будзя* (в.Зарытава Ляхавіцкага р-на) [Гуліцкі - 60, с. 126]. *Так баяўсь пажараў, што адзежуклаў каля сябе, напашэўку* (в.Купіск Навагрудскага р-на) [Усціновіч - 79, с. 45]. *Лепш наранку пайсці* (в.Вострава Мастоўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173-174]. *Наранку прыехаў* (в.Збляны Лідскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173-174]. *Наранку ўстанеш* (в.Вялікія Баяры Шчучынскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 173-174]. *Устала наранку* (в.Паляцкішкі Воранаўскага р-на) [СПЗБ, 3, 173-174]. *Рабёнак піратунку крычаў* (в.Курына Кузняцоўскага р-на) [Каспяровіч, с. 202]. *Ды, вядома, нахапу* (в.Вялікія Нястанавічы Лагойскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 192]. *Яна вечна нахапу ўсё робіць, быццам часу не хапае* (в.Касцюжі Барысаўскага р-на) [СЦРБ, с. 244]. *Дзеля гэтага ён і загадаў яшчэ нацямку падняць Коўціка* [НЛГ, с. 94]. *Кол'іс' жыто с'ейал'і иац'амдчку, да дн'а* (в.Рэдкавічы Любанскага р-на) [КДСС]. *Ужо свадзьба начаку, а брат ня йдзець вырашаць, на якім аснаваньні замуш сястру аддаваць* (в.Баранцы Вілейскага р-на) [СЦРБ, с. 245]. *Умяне доўга болела нысярёдку, а тады неік само пы сабе прайшло. Буваіць, як зыпякець нысярёдку!* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНС, с. 199].

6) **на- ... -ій**: ***навмі́й**: Мыні було **навій**, то чырывэкэ дівчынэ траба купэтэ* (в.Брашэвічы Драгічынскага р-на) [ДСБ, с. 139].

7) **на- ... -оліцы: *наві́доліцы:*** *От шукала доўга, а ено ат ацетта навідоліцы й лежала* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 266].

8) **на- ... -оцы: *наві́доцы:*** *Глей, каб цівяняты [кураняты] дзель навідоцы булі Мая хата на [пры] шлеху, дак навек **навідоцы*** (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 266].

Словаўтваральны тып з першым кампанентам конфікса **па- (по-, пы-)** аб'ядноўвае дзевяць мадэлей:

1) **па-...-асці (-ысьці, -ьсьці)**: ***паблі́зкысьці, падру́гасці, папе́рвасці (папе́рвьсьці):*** *Адной ба ёй туга прішлося, ну сестры жы-*

*вуць паблізкысьці, пыдбігаюць паможч* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 2, с. 128-129]. *Неяк па другасці я зайшоў к Мітрахвану: ён мне тады ўсё гэта дзела расказаў* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, ЖНС, с. 215 ]. *Сьпірва яны ны пяцьсот ні сыглышаліся, а тады па-другысьці зыхадзілі, відна, былі б сыгласны і пяцьсот зыплаціць* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 2, с Л 55]. *Ак сышліся, дак папервасці ўсего було* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 271]. *Папервасці мне выпісалі гэта лікарства* (в.Валынцы Верхнядзвінскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 399]. *Папервасці еш сушаныя яблыкі: яны добрыя. Гаварылі старыя людзі такія словы: "Папервасці мне далі такога зеля "* (в.Кураполле Пастаўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 399]. *Папервьсьці ж добръя бъла, увъжала ўсіх, а тады нъ яе нейкій чорт усьсеў – і пъшла хъялём хадзіць* (в.Манякова Міёрскага р-на) [Крыўко-76, с 117].

2) **па- (по-)...-е (-а, -э, -я)**: ***паабе́дзе, пав'ас'н'е́, паза́дзе, пакро́шца, папе́радзя, папра́ўдзе (попра́ўдзе), пачарзе́, покрысе́, поночэ́, поосене́:*** *Паабедзе сонца апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй* (в.Віць Хойніцкага р-на) [МДСГ, 6, с. 120]. *Мо прыйеz'е пав'ас'н'е? А чауо йехац', тол'к' ўтрасц'йсса* (в.Горкі Слуцкага р-на) [КДСС]. *Іна ішла пазадзе за мной* (в.Моханава Верхнядзвінскага р-на) [Шаталава-75, с.120]. *Яна, бедная, плакала, плакала па мацы, але ўжо пакросца стала забывацца* (в.Дукора Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с. 275]. *Цяперака вясельля гуляюць так: папярадзя ў маладой гуляюць, а тады к молодому едуцъ. І на трэці дзень шчэ гуляюць* (в.Кукшавічы Дзяржынскага р-на) [СЦРБ, с. 286]. *Ужо і папраўдзе ці не адумаліся, грахаводнікі, пад вадою*[НЛГ, с. 105]. *Поправдзе сказаць, шо хлеба не елі* (в.Мачуль Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 176]. *Мы ходзім на варту пачарзе* (в.Глебаўск Сенненскага р-на) [Каспяровіч, с 237]. *Покрысе далі сена ўсім у Стаўку* (в.Хачэнь Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 136]. *Куда тэ підэш, ужэ ш поночэ* (в.Закозель Драгічынскага р-на) [ДСБ, с. 176]. *Поосене добро чоботы* (в.Кароцічы Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 164].

3) **па- (по-)...-і (-ы)**: ***паве́кі, паво́лі, па во́чарадзі, пажы́зні, панача́ (по́начы, по́ночі, по́ночы), па нядзе́лі, папары́, папаўдні́, папе́радзі (попе́рэдзі), попо́лудні, папра́ўдзі, пасеро́дкі, по́душы, по́задзі***: *Сям'я велькая, сыноў многа, і ў кожнага сыны растуць — павекі вякоў іх род не перавядзецца* (в.Савоні Стаўбцоўскага р-на) [СЦРБ, с. 253]. *Ідзе яна паволі, памаленьку* (в.Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 282]. *Ідзець ён так сабе паволі, як карова наеўшысь* (в.Бяседавічы Хоцімскага р-на) [Бялькевіч, с. 301]. *Паволі вы робіце* (в.Кругляны Віцебскага р-на) [Каспяровіч, с. 214]. *Паволі едзь, ня разганяйся надта!* (в.Старына Смілавіцкага р-на)

[Шатэрнік, с. 184]. *Паволі ўгарваецца на плёце* (в.Новікі Гродзенскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 282], *Мы тавар па вочарадзі пасом навек* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 270]. *А хвост у яго пажызні застаўся.* (в.Кашталянаўшчына Глыбоцкага р-на) [Драбудзька- 01, с 38]. *Узяла моду чытаць паначы, спаць не даеш: сьвет мяшая* (в.Дрычын Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с.284]. *Нехта поначы ходзя пыд вакном* (в.Палуж Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с 335]. *Ночы, поначы хадзіла па хаці* (Крэва Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 47]. *Поначы вазьму* (в.Малахоўцы Баранавіцкага р-на) [СПЗБ, 4, с 47]. *Поначы за чужымі бабамі ганяецца!* (в.Любашкова Высачанскага р-на) [Каспяровіч, с. 246]. *Поначы пошла* (в.Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [СПЗБ 4, с. 47]. *Поначы ў баню хадзіла* (в.Азяраны Рагачоўскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 47]. *Тыпэр на дворы вэльмі поначы* (в. Міжлессе Бярозаўскага р-на) [ДСБ, с. 176]. *Што я з маслам зраблю поначы?* (в.Мсцібава Ваўкавыскага р-на) [СПЗБ, 4, с.47]. *Поночі, темно, лёдь прышла* (в.Дзяржынск Лельчыцкага р-на) [Яшкін-77, с. 242], *Було так поночы, шчо я обмацком шукала дорогу на хутор* (в.Каўняцін Пінскага р-на) [Шапялевіч-92, с. 133]. *Зымою в сім часов ужэ поночы* (в.Дзеткавічы Драгічынскага р-на) [ДСБ, с. 176]. *Кыдай свою роботу: ужэ ж поночы* (в.Ушкавіца Кобрынскага р-на) [СПЗБ, 4, с.47]. *Ходзяць тут поночы усякіе* (в.Азяраны Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 162]. *Учора трэба было покачаці хоч поночы, а я сегоні* (в.Смаляніца Пружанскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 47]. *Калі ж гэта Міша прыедзе, абяцаў па нядзелі, а няма* (Дзяржынск) [МММГ, 2, с. 117]. *Адумаўся, але ўжо папары* (в.Кальчуны Ашмянскага р-на) [МММГ, 1, с. 96]. *Папаўдні пашоў сьнег. Папаўдні сталі на работу* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 201]. *Ён жа паперадзі ўцёк* (в.Целякава Уздзенскага р-на) [МММГ, 1, с. 96; СЦРБ, с. 286]. *Поперэдзі зубу булі* (в.Пагост Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *Паполудні і паедам па снапэ* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 202]. *Гэта было папраўдзі* (в.Старое Сяло Зэльвенскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 403]. *Папраўдзі холодно* (в.Морач Клецкага р-на) [КДСС]. *Грубу пастаў пасеродкі* (в.Пярэдзелка Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 256]. *Яму подушы, што я накрычала на Аню* (в.Міратычы Карэліцкага р-на) [СПЗБ, 4, с. 34]. *Позадзі едзе сын зъ нявесткый* (Хоцімск, усходняя Магілёўшчына) [Бялькевіч, с. 335].

4) **па- (пы-)...-ку:** ***паасо́бку (пыасо́бку), пале́тку:*** *Ты бутылкі паасобку пыкладзі, ато паб'юцца* (в.Старое Сяло Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с.300]. *Яго хата стаіць ны краю сіла, пыасобку, адна сабе* (в.Бяседавічы Хоцімскага р-на) [Бялькевіч, с. 362]. *Палетку булі тут* (в.Зубарэвічы Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с.

137-138]. *Палетку назьбірала, й добрэ* (в.Клетнае Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 137 — 138]. *Рызадзеўся палетку* (в.Палуж Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 311]. *Я ета гичэ палетку купіў* (в.Засінцы Ельскага р-на) [МДСГ, 6, с. 151].

5) **па- (по-, пы-)...-у:** ***паве́рху (павярху́, по́верху, по́вярху, пывярху́), паза́ду (поза́ду, позаду́), пакрыху́, пале́ту (пал'ёту, пале́ту), папацёмку (папацёнку), папе́раду (попе́раду, по́переду, попе́реду, попе́рэду), пара́неньку (пара́неньку, пора́неньку), пацíшычку, понадво́рку:*** *Поверху нема яблык, а толькі пададном* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 270]. *Папругаю поверху патпяражысся* (в.Малахоўцы Баранавіцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 279]. *Першы зарат пусьціў наверху* (в.Бытча Барысаўскага р-на) [СЦРБ, с. 253]. *Эх, ты, мазіла! Пусьціў зарад поверху, зайца прашляпіў* (в.Княгініна, Мядзельскага р-на) [СЦРБ, с. 253]. *Здаецца і прыцэліўся ўжо харашо, а не, глядзіш — повярху* (в.Халочча Чачэрскага р-на) [МДСГ, 6, с. 123]. *Павярху насыпана пяском* (в.Асавец Вілейскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 286]. *Нітка поверху ідзе* (в.Дакудава Лідскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 29]. *Нітка поверху пашла* (в.Вялікія Нястанавічы Лагойскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 29]. *Поверху баліць нага* (в.Старыя Смільгіні Воранаўскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 29]. Эх, *такі зарад нашоў поверху* (в.Нізок Уздзенскага р-на) [СЦРБ, с. 253]. *Абівалі лён прайнікам повярху* (в.Магуны Пастаўскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 29]. *Повярху насаліла сланіну* (в.Жылі Іўеўскага р-на) [СПЗБ, 4, с. 29]. *Повярху пусъціў, а так на блясі забарабаніў бы* (в.Савічы Зэльвенскага р-на) [Сцяцко, с. 125]. *Знаіш, якея кыпаньнікі: пывярху бульбу троху сыбяруць, а у зямле уся астаецца* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СШ, 2, с. 55]. *Іду, а ён усю дорогу пазаду бежыць за мной* (в.Вулкан Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 238]. *Пазаду пабралі маладёж на войну* (в.Дзяражычы Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 238]. *Вон бежыцъ позаду за мною* (в.Лугкі Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 120]. *Позаду ўсіх родзілоса дзіцятко* (в.Аздамічы Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 120]. *Вось вам хлеп, вось вам пакрыху сала* (в.Літва Стаўбцоўскага р-на) [СЦРБ, с, 276]. *Полёту і без шубы можна абыйціцца* (в.Куркаўшчына Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 311]. *Полёту хадзілі ў ягады* (в.Клятное Пухавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 197]. *Мы палету н'иколі н'е закрывайем йушк'і. Палету на печ н'е л'ез'е, йон і дол'е л'ажа Полету ц'ачэ хата, лйеца крууом* (в. Горкі Слуцкага р-на) [КДСС]. *А ву булі полету там?* (в.Вялікае Малешава Столінскага р-на) [ТС, 4, с, 142]. *А цепер і полету ходзяць обутые* (в.Пагост Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 142]. *Зімою і полету жакі становяцъ* (в.Кароцічы Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 142]. *Шо полету ногою, то*

*зімою рукою* (в.Сямурадцы Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 142]. *Папацёмку яна прыйшла* (в.Летцы Кузняцоўскага р-на) [Касяпровіч, с. 228]. *Ты доўго там ні ацягайся, бо папацёнку кепско будзя патходжвацца* (в.Беражна Карэліцкага р-на) [Крамко-77, с. 160]. *Ідзі ты папераду* (в.Рудня Чэрвеньскага р-на, в.Палік Барысаўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 399]. *Ідом лесам, адна папераду, другая ззаду, страшна, аш жуць бярэ* (в.Дрычын Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с. 286]. *Коні папераду йдуць, а я ззаду, за бараной* (в.Зазерка Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с. 286]. *Мая матка папераду памёрла* (в.Вецярэвічы Пухавіцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 399]. *Папераду прыслалі такую бумагу, пісьмо, ці прыміця мяне ў школу* (в.Вецярэвічы Пухавіцкага р-на) [СПЗБ, 3, с. 399]. *Папераду сходзі ў магазін, пасьля пойдзіш у клуб* (в.Зацяцерка Круглянскага р-на) [МСМ, с. 69]. *Прыехала своячка на кані, папераду забрала мяне і маці, а потым Вольгу і Насту да сябе* (в.Капейнае Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с. 286]. *Сястра мая папераду пайшла замуж, а я потым* (в.Дрычын Пухавіцкага р-на) [СЦРБ, с. 286]. *Ты едзь папераду: твой конь ямчэйшы* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 201]. *Што некому поперpredу вити, Песенку запети, Таночка завести* [НЛГ, с. 105]. *Брат попереду едзе, кіруе конем* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *Пойду к мамци в гости в середу, Мой нелюбый да й попереду* [НЛГ, с. 105]. *Гэтые плоскуні поперэду убіраюць* (в.Старажоўцы Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *Збіўсе весь народ, да як побег медзьведзь, так і з дзесяць мушчын бегуць за ім: медзьведзь поперэду, а аны за ім бегуць* [НЛГ, с. 105]. *Немец мне кажэ: ідзі поперэду, а я боюса* (в.Запясочча Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *Поперэду роб'яць луг, да ў его плацье кладуць, шоб отпрэло* (в.Малое Малешава Жыткавіцкага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *Як тры рублі, так руку процяг поперэду* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 167]. *У нядзельку рана-паранепьку Усе званы званілі, Усе жоначки маладзенькія К ютрані хадзілі* [НЛГ, с. 106]. *А у недельку параненьку солнышка ўзыйдець, зірну, гляну я - на моры карабель плывець* (в.Чаплін Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 251]. *У недельку пораненьку чумак по двору ходя, свое белы ручки ломя* [НЛГ, с. 106]. *Дзьверi пацішычку аччыняюцца - ідзець унук Адаркін. Можа як пацішычку і пыдыйшла б: тут жа нідалёчыка* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 2, с. 238 - 239]. *Порося ж ходзшо понадворку* (в.Луткі Столінскага р-на) [ТС, 4, с. 157].

6) **па-...-іцы:** ***папоўніцы:*** *Есьць папоўніцы, завіхаяцца* (в.Вялікая Вуса Уздзенскага р-на) [СЦРБ, с. 287].

**7) па-...-кі:** ***патайкі:*** *Мы патайкі сядзем у лесі* (в.Азяраны Рагачоўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 442].

8) **па-...-не**; ***памінютне:*** *Дзеці памінютне ў хату бегаюць, скібкі мажуць маслом і назад бягуць* (в.Рухава Старадарожскага р-на) [Кунцэвіч- 01, с. 96],

9) **па-...-оўня: *павярхоўня:*** *Сталі нейкія колькі па жываце павярхоўня* (в.Малі Астравецкага р-на) [СПЗБ, 3, с 286].

Словаўтваральны тып з першым кампанентам конфікса **у- (в-)** аб'ядноўвае восем мадэлей:

1) **у-(в-)...-ах (-ох, -ых, -ях):** ***у вачах, ввочох, в гочях, увочах, увонках, у крыжах, у лецях, унячывілях, упоцемках (упацёмкых, упацёмычкых, упоцімкых, упоцімычкых), утырыпях, у цялешніках:*** *Ён мне у вачах і цяпер стаіць* (в.Вялікія Баяры Шчучынскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 168]. *Курчаткі ўжо велькія былі, кот прыбех і схваціў аднаго у вачах і панёс* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СГОБ 5, а 168]. *Мусыть такый вжэ голодный був, бо як дала кусок хліба — ввочох зьів* (в.Ушкавіца Кобрынскага р-на) [Міхайлаў-77, с. 92]. *В гочях всэ схнэ* (в.Сіманавічы Драгічынскага р-на) [Клімчук-75, с. 137]. *Собака разорваў гусь увочах* (в.Малое Малешава Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 177]. *У вочах говорыць, шо прыдумае* (в.Дварэц Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с 177]. *Худоба ўвочах тоне* (в.Запясочча Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 177]. *Увонках холадна - адзень кажух* (Чашнікі) [Каспяровіч, с. 316]. *Ён жыве там, што ў крыжах хата* (в.Асавец Вілейскага р-на) [СГОБ, 2, с. 543]. *Дэй, божа, шчасце ў лецях да і ў дзецях. У лецях трэ було на вечоркі бегаць* (в.Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага р-на) [Дуброўская, с. 276]. *Пабех унячывілях* (в.Луб'ева Азярышчанскага р-на) [Каспяровіч, с. 321]. *Упоцемках копаецца* (в.Аздамічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 205]. *Ні нада табе ўпацёмкых іціць, заўтря ранінька устаніш і пыбягіш* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНС, с. 220]. *Пысядзіця трошку ўпацёмычкых, паспробыю лампу ныправіць* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252 - 253], *Пашлі упоцімкых, дасца ім дорога пы грязішчы* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252 - 253]. *Упоцімкых знайшоў, вобмыцкым* (в.Крывы Лес Рослаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 461]. *Пароўся нешта упдцімычкых, ці найшоў што, ці нічога ні найшоў* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252 - 253]. *Сыбіраліся утырыпях і самыя галоўныя забылі - бумажкі ні ўзялі* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 268]. *Пастаў гаршчок у цялёшніках!* (в.Вецярэвічы Пухавіцкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 387].

2) **у-...-е (-э, -я):** ***уверсе, угарэ (угаре), удварэ, удоле, улегцэ, умесце (умесця), уначэ (уночэ), унізе, уперадзе, у сярэдзіне, утырапе:*** *Конь кажэ: "Як цебе везці: уверсе ці унізу?"* (в.Кароцічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 174]. *У снойцы ўдолі і ўгарэ былі такія крыжыкі*

(в.Васілевічы Гродзенскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 173]. *Шчыт угарэ* (в.Завельцы Астравецкага р-на) [СПЗБ, 5, с 173]. *Печ пыбялгла, нада угаре працерць ды мост падмыць* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 229]. *Ці гэта твой сын удварэ?* (в.Гуліна Сенненскага р-на) [Каспяровіч, с. 317]. *Парвецца ўдоле спадніца* (Крэва Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 182]. *Помню: бурносы шылі удоле шырокія* (в.Навасёлкі Свіслацкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 182]. *Без кладзі ехаць, паражняком. Улегцэ за час то й у Барбароў зойдз[е]ш* (в.Халопенічы Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 185-186]. *Улегцэ паêхаў, ён бы й вас заўёз* (в.Слаўкавічы Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 185 - 186]. *Умесце жыцъ, яку цесця* (в.Паляцкішкі Воранаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 208]. *Як жывеш умéсця с сям'ёй, то добра* (в.Пераброддзе Міёрскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 208]. *Уначэ встали* (в.Горск Бярозаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Уначэ дзісь марос быў, хоць нівелькі, аля бачыш, як кляткі завялі* (в.Бершты Шчучынскага р-на) [Лепешаў-75, с. 50]. *Яны уначэ пазванілі і прыляцелі уначэ* (в.Парэчча Гродзенскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Уночэ на Піцкого яме зашэрхло* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 199]. *Уночэ хлопцы ўсю клубніку порвалі, пом'ялі* (в.Малое Малешава Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 199]. *Дзверы запёрты ўнізе* (в.Магуны Пастаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 210]. *Жолап плялі з саломы, з дупцоў: унзе – шырока, кверху - вузей* (в.Асавец Вілейскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 210]. *Прыбі цвек унізе!* (в.Жодзішкі Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 210]. *Вон уперэдзе буў, больш вуробатваў кажны год* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 202]. *Ты ж не знаеш уперэдзе, ека будзеш ты* (в.Малое Малешава Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 202]. *Даўней гаварылі: "Кап цябе не здзівілі, трэба зашпіліць шпільку ў сярэдзіне"* (в.Дарава Ляхавіцкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 240]. *Ні знацьцё, так, утырапе ехылі, нада було пріхваціць тэя дзьвері* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 268].

3) у-...-і (-ы): ***увéчары (увéчоры, увéчэры), угары́, удвары́, удóлі, укýчы, умéсці, унóчы (уначы́, унóччы), унутры́, упарóзі, упаўначы́, упéраді (уперэдзі́, упярадзі́), урáніцы, урáньні, ураўні́, усусі́:*** *Увечары будзе вячэра* (в.Вецярэвічы Пухавіцкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 169]. *Увечары вылі ваўкі, а ня ночы* (в.Кузьміно Сенненскага р-на) [Каспяровіч, с. 316]. *Увечары немцы мушчынаў давай цягаць на дапрос* (в.Малышы Лідскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 169]. *Учора ўвечары мы позна ны ганкых сядзелі* (усходняя Магілёўшчына) [Бялькевіч, с. 452]. *Як увечоры карова ідзе, то кажэ Роман, а як удзень - то Васі-і-ль!* (в.Аздамічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 175]. *Увечэры поплачэ, пока не засне* (в.Цераблічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с 175]. *Беры ягады угары: ены не пацертые, а знізу пойдуцъ на верэня* (в.Ручаёўка Лоеўскага р́-на)

[Янкова, с. 367], *На яблынцы толька ўгары штук пяць яблыкаў вісіць* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 284]. *Угары стаяў дым* (в.Пятніцкая Бешанковіцкага р-на) [Каспяровіч, с 317]. *Мая матка січас удвары* (Сянно) [Каспяровіч, с 317]. *Пускай Надьку, нехай удолі поўзае* (в.Карпаўка Лоеўскага р-на) [Янкова, с 368]. *Сяеначы пазасыпалі удолі* (в.Дзяражычы Лоеўскага р-на) [Янкова, с 368]. *У снойцы ўдолі і ўгарэ былі крыжаке такія* (в.Васілевічы Гродзенскага р-на) [СПЗБ, 5, с, 182]. *А мы ж столько, ўремя жылі укучы, усяго хвытала* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 3, с. 183]. *Дывайця ўсі ўкучы сьпяем, і разым што б пачынаць* (в.Арцёмаўка Мілаславіцкага р-на) [Бялькевіч, с. 458]. *Іна была дужа пыкладлівыя, дык мы нічога і ўкучы жылі* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 3, с. 183]. *Пы лясу дзеўкі хадзілі ўкучы, каб ні заблудзіцца* (в.Маластоўка Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 458]. *Хадзілі па свету песельнік і казачнік. Сышлісь яны ў места і сталі ўкучы хадзіць* [НЛГ, с. 153]. *Яны шчэ ў кучы жылі* (в.Рачэнь Любанскага р-на) [КДСС]. *Умесці гулялі ў адной дерэўні і пабраліся* (в.Дзяражычы Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 374]. *А я ўночы прыхожу: яна стаіць і сенца есь* (Крэва Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Браў мяне днём, а ня ўночы* (в.Сідоры Межынскага р-на) [Каспяровіч, с. 321]. *Едуць, смалякі паляць уночы* (в.Завельцы Астравецкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Калісьці малацілі ўночы* (в.Кемялішкі Астравецкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *У нас дні жаркія, а ўночы - холат* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Уночы пасвілі валэ* (в.Дорава Ляхавіцкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Уночы прыехалі с поля* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 287]. *Яна ўночы прыбегла* (в.Дакудава Лідскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Яны ўночы паелі* (в.Ёдлавічы Браслаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с.211]. *Уначы малацілі* (в.Беняконі Воранаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 211]. *Ішоў уноччы з Асмолавіч, як ускочыў у нейкую каўдобіну, чуць выбраўся. Уноччы ваўкі жырябёнка зьелі* (в.Пірагова Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 460]. *Нехта стукыўся у вакно ўноччы - я й ні дгукнулыся, й ні ччыніла* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, ДС, с. 205]. *Зверху - абалона, а ўнутры – мяздра, семкі* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 212]. *Тут халадно, цягня з надворку, а ты сядзіш упарозі. Уставай, а то прастудзісся седзячы* (в.Грабава Зэльвенскага р-на) [Сцяцко-79, с. 25]. *Уставалі, бывала, упаўначы і церлі лён, мяльніца была такая* (Магуны Пастаўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 215]. *Мені уперадi бланка прышла, а тады ужэ пасылку палучыла* (в.Дзяражычы Лоеўскага р-на) [Янкова, с 376]. *Ідзе уперэдзі воўк, ге поглядзеў і пошоў у корчы* (в.Вялікае Малешава Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 202]. *Бродзянь утраёх цягалі:*

*адзін ззадзі, а двоя ўпярадзі* (в.Быстрыца Астравецкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 221]. *Ураніцы сьпіць, увечары лажыцца разам с курамі, а мне душыся адной, а чуць што – "паляжацы яму не даюць"* (в.Беларучы Лагойскага р-на) [МММГ, 3, с. 117]. *Заўтра ўраньні бяльлё пажлукціць нада* (в.Заполле Шклоўскага р-на) [МСМ, с. 102]. *Мы пыкляліся, каб сустрэцца ў пынядзелак ураньні* (в.Пірагова Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 462]. *Ураньні сêў паêхаў* (в.Клетнае Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 187]. *Устаўшы ўраньні, бацька пашоў дываць каровым корму* (в.Лешчынка Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 462]. *Васіль ураўні са мною* (в.Маластоўка Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 462]. *Год можэ вудзержаць, еслі усусі* (в.Дварэц Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 215].

4) у-...-ку: *уле́тку, уле́шку, ута́йку, уце́мку: Зімою - это круча, а улетку – гроза* (в.Верасніца Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 195]. *Нема зімою снегу, то не будзе улетку дождэку* (в.Цераблічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 195]. *Улетку светок у нас* (в.Аздамічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 195]. *Шчо улетку ногою, то зімою губою* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 195]. *Як будзе сонца ўлешку – прыдзі ка мне, Тацянка* (в.Лужасна Кузняцоўскага р-на) [Каспяровіч, с. 320]. *Мой Грышка ўцёк сяньні ад мяне утайку, дык во ніяк не знайду, айдзе ён* (в.Добрае Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 466]. *У мяне уцемку бальшы празнік – ушэсце* (в.Дзяражычы Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 385].

5) у-...-у: ***уважку́, уваччу́, уве́чыру, увярху́ (уверху́), удво́рчыку, узаду́, уза́пічку, у знаку́, у краку́, уме́сцечку, унізу́, упо́цемку (упацёмачку, упацёмку, упацёмычку, упо́цімку, упо́цімычку), урядку́, усъмяху́, усярёдку (усярёдычку), уцяжку́:*** *Мая нявестка зноў уважку ходзіць* (в.Стаўбун Веткаўскага р-на) [МДСГ, 9, с. 141]. *Во злодзій: уваччу хочыцъ абдурыць* (в.Дубец Касцюковіцкага р-на) [Бялькевіч, с. 451]. *Вот так уваччу ён і стаіць* (в,Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 283]. *Гэта даўно было, а ўваччу стаіць ён і цяпер* (в.Вялікія Баяры Шчучьшскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 168]. *Тут жа ўваччу ілгець* (в.Хацімшчына Кузняцоўскага р-на) [Каспяровіч, с. 316]. *Учора ўвечыру ён рысказываў нам, што нібыццым-та будуць высылаць атсюль усіх тумырыў* (в.Старое Сяло Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 452]. *Увярху ў печы – паднябенне* (в.Солы Смаргонскага р-на) [СПЗБ, 5, с, 172]. *Лой уверху ў роце зноў закожавеў, ек охолодай* (в.Дварэц Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 174]. *Нічыпырка, пайдзем удворычку, годзі табе бусываць* (в.Новы Свет Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 454]. *Нам участкі адбілі ўзаду, далека було хадзіць, ды кожный дзень* (Мсціслаўшчьша) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 234]. *Ого, якей ты храбрый*

*узапічку, а выйдзі зы порог, дык і напусьціш* (в.Ганнаўка Клімавіцкага р-на) [Бялькевіч, с 455]. *Адзін месяц ні ўзнаку ў маладым вяку* (в.Рыбчына Вілейскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 191]. *У краку ўстаўлялі кліны* (в.Саланое Вілейскага р-на) [СПЗБ, 2, с. 523]. *Умесцечку седелі пуленяткі* (в.Ручаёўка Лоеўскага р-на) [Янкова, с. 374]. *А тут унізу нема ўжэ зубоў* (в.Пагост Жыткавіцкага р-на) [ТС, 5, с. 199]. *Ета ат яго пісьмо: во й яго потпіс унізу* (в.Арцёмаўка Мілаславіцкага р-на) [Бялькевіч, с. 460]. *Картопля, што ляжала ўнізу ў пограбя, дык уся пагніла* (в.Старына Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с 287]. *Унізу, у доліні, прыцягае гром* (в.Сямігосцічы Столінскага р-на) [ТС, 5, с 199]. *Упоцемку церлі лён колісь* (в.Вялікае Малешава Столінскага р-на) [ТС, 5, с. 205]. *Трэба ўпацёмачку заплакаць, а пры людзях вясёлай быць* (в.Саланое Вілейскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 215]. *Красір січас такей дырагей, што хоць ты вечырам упацёмку сядзі* (в.Лешчынка Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 460]. *Нашто ты чытаеш упацёмку, вочы папорціш* (в.Хвёдараўка Краснапольскага р-на) [Бялькевіч, с. 460]. *Нічога упацёмку няўвідзіш, хуць сьпічкі с сабою вазьмі узатреш. Пріехылі саўсім упацёмку, мы іх ужо ні ждалі* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 3, с. 202]. *Упацёмку нічого ні відаць* (в.Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на) [СПЗБ, 5, с. 215]. *Ён прыспалітный, і упацёмычку найдзіць дарогу* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252 - 253]. *Дахаты вярталіся ўжо ўпоцічку - не відаць дарогі* (в.Узгурск Лагойскага р-на) [МММГ, 3, с. 117]. *Упоцімку ні знайду свае шапкі, чыркні сернічак ды пысьвяці* (в.Забычанне Хоцімскага р-на) [Бялькевіч, с. 461]. *Упоцімку нязгодна ткаць, нада зыпаліць лампу* (в.Слаўнае Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 461]. *Як ты будзіш шукаць упоцімку, сьпічку узатрі* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252-253]. *Яны вярталіся ўжо упоцімку: усе вясёлыя, бо доўга гасьцілі* (в.Узгурск Чэрвеньскага р-на) [МММГ, 2, с. 166]. *Яны прібеглі упоцімычку, ціхенька разьдзеліся і ляглі* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, СНЛ, 3, с. 252 - 253], *Мы йшлі ўрядку зь ім* (в.Канічы Касцюковіцкага р-на) [Бялькевіч, с. 463]. *Хадорка любіла яго ўсьмяху* (Бялынкавічы) [Бялькевіч, с. 465]. *Даўно жаліцца, што ўсярёдку нешта баліць. Ліпу зывалілі, дык іна усярёдку уся пустая. Режыцъ палкі, усярёдычку выкалупывыіць сірцавіну і сьвісткі пулучаюцца* (Мсціслаўшчына) [Юрчанка, НВС, 3, с. 241]. *У нас адна маладзіца штогод ўцяжку бывая* (в.Хізы Веткаўскага р-на) [МДСГ, 9, с. 158].

**6) у-...-асці:** ***ско́расці (ско́ръсьці):*** *Ускорасці посьлі вайны шукалі штойта ў Прудку, но нічога не нашлі* (Чачэршчына) [Курцова-

01, с, 109]. *Ускоръсьці посьлі мяне і матка пръшла* (в.Манякова Міёрскага р-на) [Крыўко-76, с. 125].

7) **у-...-ке:** ***украдке́:*** *Украдке купіў сабе стрэльбу. Усё робіць украдке ад бацькоў (в.Старына* Смілавіцкага р-на) [Шатэрнік, с. 286].

**8) у-...-кі:** ***укра́ткі, утайкі́:*** *Доўга ня ведаў, што жонка купляла ўсё ўкраткі й насылала сваім* (Глуск) [МСМ, с. 100-101]. *Утайкі купіў і занёс ей* (в.Азяраны Рагачоўскага р-на) [СПЗБ, 5, с. 241].

Адзначана чатырнаццаць прыслоўяў з першым складаным кампанентам канфікса. У словаўтваральным тыпе з першым складаным кампанентам канфікса **наў-** вылучаюцца чатыры мадэлі:

**1) наў-...-ах:** ***наўко́ленках:*** *Усю ноч наўколенках прастаяла* (в.Апанасаўка Гомельскага р-на) [МДСГ, 5, с 166].

2) **наў- ... -е:** ***наўпе́радзе:*** *Квят на галаве не было, а была фата, як гэтыя модніцы цяперака адзяваюцъ, наўперадзе кружочык нейкі* (в.Язні Вілейскага р-на) [СЦРБ, с. 244].

3) **наў- ... -і**; ***наўпярэ́дзі:*** *У савы очы наўпярэдзі* (в.Мсцібава Ваўкавыскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 190].

4) **наў- ... -у**: ***наўбо́чу:*** *Што ш ты, Яначка, села наўбочу? Патсовайся* (в.Савоні Стаўбцоўскага р-на) [МММГ, 2, с. 106; СЦРБ, с. 244].

У словаўтваральным тыпе з першым складаным кампанентам канфікса **паза-** вылучаюцца дзве мадэлі:

1) **паза- ... -і:** ***пазало́ні:*** ***Пазалоні*** *дачка з цаліны прыяжджала* (в.Вострава Мастоўскага р-на) [СПЗБ, 3, с. 330].

2) **паза- ...-у:** ***пазабо́ку***: *Бочка цячэ пазабоку* (в.Грабава Зэльвенскага р-на) [Сцяцко - 78, с. 146].

Акрамя таго, вылучаюцца адзінкавыя мадэлі з першым складаным кампанентам канфікса:

1) **напа- ... -оцэ:** ***напавідо́цэ:*** *Хай ходзіць тавар* ***напавідоцэ*** (в.Клетнае Глускага р-на) [Янкоўскі, 1, с. 124].

2) **напад- ... -е:** ***нападрэсце:*** *Ды цеперся араць пачалі, а мы прыйшлі ўжо нападрэсце* (в.Пральнікі Валожынскага р-на) [СЦРБ, с 241].

**3) напера- ... -ку:** ***напералю́бку:*** *Карова дзе хочэ, напералюбку ходзіць* (в.Жахавічы Мазырскага р-на) [Крывіцкі, Клімчук, Лобач, Трухан- 94, с. **61**].

**4) напо- ... -е:** ***напо́хваце:*** *У яе тôй рушнік напохваце* (в.Пасека Старадарожскага р-на) [КДСС].

5) **напод- ... -ку:** ***напо́ддымку:*** *Наподдымку пойдзем сено зграбём* (в.Рухава Старадарожскага р-на) [Чабатар-92, с 119].

6) **неў- ... -е:** ***неўзабаве:*** *Неўзабаве ён вярнуўся* (в.Гунчанкі Суражскага р-на) [Каспяровіч, *с* 207].

7) **ніў- ... -і:** ***ніўзыбаві:*** *Ніўзыбаві зы табой і ён прышоў. Ніўзыбаві і брат прышоў пысьля нас* (в.Кокатава Мсціслаўскага р-на) [Бялькевіч, с. 288].

8) **уво- ... -і:** ***увосьні*** 'ў сне': *Як увосьні ўвідзіла свайго мужыка, стала ждаць яго з вайны* (в.Валынцы Верхнядзвінскага р-на) [СПЗБ, 5, с 171].

## Прынятыя скарачэнні


1. Аляксейчык - 78 - Аляксейчык Г.М. Да слоўніка Навагрудчыны// Жывое слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1978. – С. 5 - 19.

2. Бекіш - 60 - Бекіш В. 3 лексікі вёскі Кліманты// Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. - Мн.: Выд-ва БДУ імя У.І.Леніна, І960.- С. 93 -109.

3. Бялькевіч – Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1970.

4. Гайдукевіч -76 - Гайдукевіч І.М. Некалькі слоў з мясцовай гаворкі// Народнае слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1976. - С. 65 - 75.

5 Германовіч, Шуба - 79 - Германовіч І.К., Шуба П.П. 3 лексікі вёскі Танежыцы Слуцкага раёна// Народная словатворчасць. - Мн.: Навука і тэхніка, 1979. - С. 61 - 73.

6. Гуліцкі - 60 - Гуліцкі М. 3 лексікі вёскі Зарытава // Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. - Мн., Выд-ва БДУ імя У.І.Леніна, 1960.-С. 121-131.

7. Драбудзька - 01 - Драбудзька Н.В. 3 лексікі вёскі Кашталянаўшчына Глыбоцкага раёна // Жывое наша слова. - Мн.: Беларуская навука, 2001. - С 36 - 39.

8. ДСБ - Дыялектны слоўнік Брэстчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1989.

9. Дуброўская - Дуброўская Е.Ф. Прыслоўі ў гаворцы вёскі Вялікія Аўцюкі // 3 народнага слоўніка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1975. - С.258-278.

10. Зубрыцкі -60 - Зубрыцкі С. 3 лексікі вёскі Шклянцы //Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. - Мн.: Выд-ва БДУ імя У.І.Леніна, 1960. - С. 133 – 149.

11. Каспяровіч - Каспяровіч В.І. Віцебскі краёвы слоўнік. - Віцебск, 1927.

12. КДСС - Картатэка дыялектнага слоўніка Случчыны (захоўваецца на кафедры беларускага мовазнаўства УА "БДПУ імяМаксіма Танка").

13. Клімчук - 75 - Клімчук Ф.Д. 3 лексікі цэнтральнага Загароддзя // 3 народнага слоўніка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1975. - С. 135 - 153.

14. Крамко -77 - Крамко І.І. Мясцовыя словы адной прынёманскай гаворкі // Народная лексіка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1977. - С. 156 — 164.

15. Крамко - 78 - Крамко І.І. 3 лексікі вёскі Беражна // Жывое слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1978. — С. 67 — 78.

16. Крывіцкі, Клімчук, Лобач, Трухан - 94 - Крывіцкі А.А., Клімчук Ф.Д., Лобач С.Г., Трухан Т.М. Усходнепалеская гаворка наваколля Мазыра // Гавораць чарнобыльцы (3 мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі). - Мн., 1994. - С 37 - 88.

17. Крыўко - 76 - Крыўко М.Н. Так гавораць на Дзісеншчыне // Народнае слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1976. - С. 101-130.

18. Крыўко - 92 - Крыўко М.Н. 3 лексікі вёскі Ясёва Мёрскага раёна // Жывое народнае слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1992. — С. 64 — 75.

19. Кунцэвіч - 01 - Кунцэвіч Л.П Рэгіянальная лексіка вёскі Рухава Старадарожскага раёна Мінскай вобласці // Жывое наша слова. - Мн.: Беларуская навука, 2001. - С. 92 - 97.

20. Курцова - 01 - Курцова В.М. 3 роднага слова // Жывое наша слова. - Мн.: Беларуская навука, 2001. - С. 98 - 109.

21. Лепешаў - 75 — Лепешаў І.Я. 3 лексікі вёскі Бершты Шчучынскага раёна // 3 народнага слоўніка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1975. - С. 36 -52.

22. Лучыц-Федарэц - 92 - Лучыц-Федарэц І.І. Лексіка з ваколіц Драгічына // Жывое народнае слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1992. -С. 83 - 88.

23. Міхайлаў - 77 - Міхайлаў П. А. 3 лексікі роднай вёскі //Народная лексіка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1977. — С. 91 - 99.

24. МДСГ - Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомелыпчыны // Беларуская мова і мовазнаўства. — Мн., 1975 - 1982.

25. ММMГ - Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак/ Пад рэд. М.А.Жыдовіч. - Мн.: Выд. БДУ, 1970-1977.

26. МСМ - Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1981.

27. НЛГ - Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік/ Пад рэд. У.В. Анічэнкі. - Мн.: Выд. БДУ, 1983.

28. Рамановіч - 75 - Рамановіч Я.М. Да слоўніка Гродзеншчыны // 3 народнага слоўніка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1975. - С. 30 - 35.

29. СПЗБ - Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніčча: У 5 т. - Мн.: Навука і тэхніка, 1979-1986.

30. СЦРБ - Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У2 т. Т. 1. -Мн.: Універсітэцкае, 1990.

31. Сцяцко - Сцяцко П.У. Дыялектны слоўнік (3 гаворак Зэльвеншчьшы). - Мн.: Выд-ва БДУ, 1970.

32. Сцяцко -78 - Сцяцко П.У. 3 роднай гаворкі // Жывое слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1978. - С. 138 - 147.

33. Сцяцко - 79 - Сцяцко П.У. Лексічныя рэгіяналізмы Зэльвеншчыны // Народная словатворчасць. — Мн.: Навука і тэхніка, 1979. – С. 16-29.

34. ТС - Тураўскі слоўнік: У 5 т. - Мн., Навука і тэхніка, 1982-1987. 35. Усціновіч - 79 - Усціновіч А.К. Так гавораць у Купіску //

Народная словатворчасць. - Мн., Навука і тэхніка, 1979. - С. 41 - 48.

36. Чабатар - 92 - Чабатар Н.А. 3 лексікі вёскі Рухава Старадарожскага раёна // Жывое народнае слова. — Мн.: Навука і тэхніка, 1992.-С. 115-123.

37. Шапялевіч — 92 - Шапялевіч В.В. 3 лексікі вёскі Каўняцін Пінскага раёна // Жывое народнае слова. – Мн.: Навука і тэхніка, 1992. – С. 131-134.

38. Шаталава - 75 - Шаталава Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова. - Мн.: Навука і тэхніка, 1975.

39. Шатэрнік - Шатэрнік М.В. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. - Мн., 1929.

40. Юрчанка, ДС - Юрчанка Г.Ф. Дыялектны слоўнік (3 гаворак Мсціслаўшчыны). - Мн., 1966.

41. Юрчанка, ЖНС - Юрчанка Г.Ф. Жывое народнае слова // Полымя. - 1987. - № 7. - С. 213 - 222.

42. Юрчанка, НВС - Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова. 3 гаворкі Мсціслаўшчыны. - Мн., Навука і тэхніка, 1981-1985.

43. Юрчанка, СНЛ – Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка. 3 гаворкі Мсціслаўшчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1993-1998.

44. Юрчанка, СНС - Юрчанка Г.Ф. Сучаснае народнае слова. 3 гаворкі Мсціслаўшчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1988.

45Янкова - Янкова Т.С. Дыялектны слоўніік Лоеўшчыны. - Мн.: Навука і тэхніка, 1982.

46.Янкоўскі - Янкоўскі Ф.М. Дыялектны слоўнік. - Мн.: Навука і тэхніка. Вып. 1, 1959.

47. Яшкін -77 - Яшкін І.Я. 3 лексікі вёскі Дзяржынск Лельчыцкага раёна // Народная лексіка. - Мн.: Навука і тэхніка, 1977. - С. 238 - 243.

# РАЗДЗЕЛ III. ТЭКСТЫ

*В.Л. Авілава*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРКІ ВЁСАК БАЯРЫ І БУРЛАКІ АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА

Збочыўшы з вялікай дарогі каля Бурлакоў (так гэтую вёску называюць мясцовыя жыхары, афіцыйная ж яе назва – Новыя Якентаны) і праехаўшы з кіламетр па грэблі, вы трапіце ў Баяры. Калісьці пры ўездзе, на скрыжаванні, стаяў крыж і расла таўшчэразная вярба, якая ад зямлі разыходзілася трыма ствaламі і была родным домам для мясцовай дзетвары, птушак і белкі, якая жыла ў дупле і час ад часу бегала навыперадкі з малымі. Летам, увечары, каля вярбы збіралася ўся вёска, каб сустрэць кароў з пашы, ды пагаварыць з суседзямі. Але час бязлітасны не толькі да дрэў – вярба спрахнела і зламалася ў буру, перагарадзіўшы сваімі магутнымі стваламі дзве дарогі, – але і да людзей – у Баярах засталося пяць хатак.

Аднак, калі цёплым летнім вечарам выйсці да крыжа (хоць не пашкадаваў і яго хуткаплынны час, сцёр з твару зямлі баярскай, праўда, назва засталася), то вецер нашэпча шмат гісторый пра тое, як было калісьці, і як вядзецца цяпер. Паслухайце і вы.

Наш татка па-пра́ўдзе сядзе́ў за по́льскім часам у турме́. А за што, за́ра скажу́. Даўне́й на паляўа́нне трэбуло біле́ты браць. Та́тка меў. А сы́шоў срок, ні ўзяў біле́та, пайшоў на паляўа́нне – забі́ў ні казла́, алі казу́. А сусе́д уда́ў. Пра́ўда. Ра́зам хадзі́лі. Гэ́ны нічога ні забі́ў, а наш забі́ў. А ў нас гумно бальшое было. Торп аста́ўшыся быў саломы. Паскіда́лі вон, вы́капалі яму. Этай казе́ ску́ру зьдзёрлі, у каду́шку, пасалі́лі, закапа́лі, злажы́лі салому этую высока. Прые́хала, этая во, мілі́цыя. Гмі́на за польскім была́ ў Солах. І ў ночы, зімой было, на кані́ прые́халі тры палі́ця́нты. У чорным шыналі. Як далі тату нага́йкай:

– Муф, кдзе! То ты за́біл?.

Ста́лі пыта́цца стрэ́льбу. Ба́цька меў – нашто патрэ́бны быў – лявoрвер. І адда́ў. Так яны вінто́ўкі ні шука́лі. Забра́лі та́тку, адра́зу павязлі ў Солы. А мама толькі Вацю нарадзі́ўшы, хворая. Мы з Оляй ста́лі пла́каць. Ка́жуць:

– Не тшэ́ба пла́каць дзіфчы́нкі. Ойцец вру́ці се. Отсе́дзі і вру́ці се. То зьле́ зробіл.

І засудзілі ці зна́іш сколька? – год турмы́ ка́мернай. А сядзе́ў у Вільні на Лукі́шках. Атпуска́лі два [тры?] разы́ на год – пасадзі́ць, накасі́ць карове і скапа́ць. Мама гавора:

– А пад турмой сядзя́ць розныя ба́бы, ка́жаць – мой сядзі́ць нявінна. А ма́ма ка́жа:

– А мой вінна. Чаму́ вінна? Каза́лі ні хадзі́ць на палява́нне і стрэ́льбы ні браць, а ён хадзі́ў, насі́ў – няха́й сядзі́ць. І ўсе, кажа, гаворацъ:

– Му́сі гэта ба́ба дурна́я ці на́дта бага́тая. Му́сі дурна́я.

Брат зупэ́лне нявінна пагіп. Была́ вайна́, ну а наш у войска ні пашоў. У войска ж ніхто адра́зу ні йшоў. Яны́ хава́ліся, так іх злавілі і ў турму́ забра́ўшы былі́. Злавілі і пасадзілі ў турму́. А тады зрабілася пабе́да – дарава́лі ўсім. На́шаму да́равалі. Брат Юлю́к быў два́ццаць чва́рты рочнік. Тады пашоў у банды́ты. А ў Літве́ ўжо не́шта рабілася. Было не́йкае войска сюды́ прысла́нае на Белару́сь. Тады́ гэ́тыя во на́шыя банды́цікі ўсе, ну і на́шага с сабой ра́зам павялі́, пашлі́ ў Малу́ю Вёску. А як прышло войска – злавілі іх. А наш меў ксёншку, што прашчано яму. І во прышлі́ якраз да вас у мале́нкую ха́ту. Эты во Монта Юзю́к – у Вільні цяпе́р выехаўшы́ – хадзіў ў банды́тах, а яго і ні ўзялі́. Ён памага́ў этых во банды́таў рускім [лавіць]. Ён сколькі – Маркуна́ забіў, Яша забіў, хто быў дапута́там – тых страля́ў. Наста́ўнік быў – дом вялікі ў Альгіня́нах – ён быў дэпута́там, так яго спалілі дом. Тады я пашла́ да вас – хто ш пойдзя? Та́тка быў хворы тады́, дзед стары́, ма́ма ні пойдзя, Оля ні йдзе. Я тады пашла́. Наш сядзіць на ла́вя. А тады Юзю́к падыма́іцца і ка́жа:

– І ён ра́зам з на́шамі быў.

А ві́дзіш, усё ж бая́ліся каза́ць. А цяпе́р зна́іш што, дзе́тка, я та́бе скажу́: што зна́іш пра́ўду, ні́гды ні трэ́ба махлява́ць! Кажы́ пра́ўду. Я шмат гора ця́пнуўшы. Каб жа я зра́зу сказа́ўшы! Бо я ж усё зна́ла, як яны кладаву́ю абабра́лі. Раке́ць дарабіў ключы́. Прыходзя да нас з ключа́мі і воркаў цэ́лая ку́ча. Ка́жа:

– Хадзі́, пойдзім у кладаву́ю. Ма́ім ключы́, адамкнём, набярэ́м жы́та.

А на́шы ляжа́ў на пе́чы, быў троха вы́піты. Ён як ляжа́ў, замычаў:

– М-м, – заруга́ўся нібы на мяне́: – Дава́й скарэ́й е́сці!

– Што, ні нае́ўся?! Так можа ты, Броня, пойдзіш?

Кажу:

– Ні пайду́.

– Што, маіш хле́ба?

– Маю–ні маю …

Ну, як забрáлі, так і забрáлі. Трэ́було ў ЭнКаБэ [НКВД] ісці, што брат забрáны. Ну й пашлá. Начáльнік сядзіць за сталом, а мяне́ во так проці сябе пасадзіў. Ляворвэль падняў.

– Ну што, Карвэцкі Юльян Антонавіч – ваш брат?

Я кажу:

– Брат.

– А гдзе он был, он жэ ш бандзіта. З бандзітамі хадзіў. У бандзітах быў.

Кажу:

– Не знаю, як ён ў бандзітах быў. Пашоў з дому – не быў бандзітам, а цяпе́р у вас ужо ў бандзітах.

– Ну, гавары́: падáдзены былí, што банды́ты ёсць у Баярох, э́тыя во Субялí.

Кажу:

– Ні знáю я нічога. Я ў Баярох мáла нáдта былá.

– А дзе ты была?

– У нас бальшáя сям́я. Я служу́ па паме́шчыках. Я далёка была, аж за Маладэ́чынам. Нідáўна да хáты прые́хала, я нічога ні знáю.

Мама сказáла:

– Ні прызнавáйся. Ні кажы нічога.

Ну а што гавары́ць!? А каб я сказáла б, удавáла б, што былі, прышлí – так адрáзу б прышлí і нас усíх [забілі]. А каб сказáўшы прáўду, ні было б такіх банды́таў, гэтых пабрáлі бы і усё. І нáшы, можа, быў бы жы́ўшы. Алі ж як гэта людзе́й удавáць бу́дзіш?!

Ну, тады што. Тады пісаў-пісаў. Пытáецца па-руску:

– А сколькі абразавáнія іме́іш?

Я маўчу́.

– Чыво маўчы́ш?

Кажу́:

– Што вы гаворыця? Я ні знáю, што вы гаворыця.

– У школу ці хадзіла? Альфабэ́т ці знáіш?

Чаму та я ні знáю, каб ты так ні вісе́ў. Я знáла тады па-ру́ску, наўчы́ўшыся была. Мáма мяне вы́пісала на ку́рсы. Кажу:

– Ні знáю. Кры́жычкі пастáўлю.

– Ні нáда крэ́сцікаў. Так аткáзываіся ад паказáньня? А брáта ні жáлка?

– Ні жáлка. Зрабіў – пусць сідзіць.

Што я буду гавары́ць!? Буду удавáць Юзюкá, Вінцу́лю буду ўдавáць, Амбро́жу буду ўдавáць?!

Тады судзілі, дзéсяць лет турмы́. Сядзéў у Стáрай Вілéйцы. Турмá тады была там. Ну і сказáлі, што бýдуць высылáць. Прыйшоў такі цялятнік, абабіты доскамі. Па сходках спусцілі іх, ідýць, ідýць, і пасядáлі на замлю́ ўсе. А тады ж такая жарá былá, так жа ж цёпла было! І пасядáлі, памлéўшы. А Божа, якія страшны́я! Прыляцéў нейкі адтýль. Закрычáў: Што нам трупоў даяцё; нам жа нáда на мéйсца загнáць! Ой, тады вы́перлі нéйкай баланды́ цэ́бар і па бýлцы хлéба стáлі давáць. Збялéўшыя! Дванáццаць было радоў па чатыры чалавéкі, я рады палічы́ла. Канвойныя стая́ць чатыры. Я пашлá да канвойных, каторыя пільню́юць. А што вы хочаце, дзéвачка – малáдая была, эта ж ні цяпéр.

– Тут, – кажу, – судзоны ёсць мой брат і высылáюць яго ў конслáгер.

– А што вы знáеце?

– Так после ж судý можна знаць.

– Ну, харашо. А вы ці узнáеце яго. Ідзіце абыдзіце памáлу. Толькі не ўглядáйцеся, нічога не падымáйце. І толькі тады, як пагоняць у вагон, пагрýзяць, тады пад акно можна падысці бýдзя.

Я абышлá раз, другі раз. Адольфу адрáзу пазнáла. Глянуў ён на мяне, глянуў, і паказáў, што і нáшы ёсць. Рáзам яны прывéзеныя былі. Я ішчэ раз абышлá – не. Другі раз – пазнáла яго. О Божа, дзéтачка мілая! Гóрача было, параздзявáліся. А блізка некая хáтка, стýдня. Я пашлá да канвойнага. Кажý:

– Я, можа, прынясý – пазвóліця – вядзéрка вады́, надта піць хочаць.

– А ці дадýць вядзéрка?

– Ні дадýць. Я куплю́. Маю дзéньгі.

Дастаю́, грошы пакáзую. Прынясла́ адно вядро, тады другоя пад акно. А Божа мой, як яны пілі! А што ж падáць можна было? Сухары́, што ж падасі! Сáлу ні можна падавáць, жы́ру ні можна. Ні курэ́ння, нічога ж ні можна было.

Калісьці пісьмы пасылáлі – ні дайшлі. А потым прыслáў: «Да сьвідáньня. Жывіце багáта, а мне – лёд і хáта». А там лес рубілі, такі грубы́. На лы́жах. А калі звáлісься – у снег утапілі, ніхто ні ратýя. Як увáліцца – і ўсё.

(Явароўская Браніслава Антонаўна, 1916 г.н.).

Тут боляй палякаў жыло. Нáшы тáтка толька быў рускі. Адна толькі хата была рýская. Дык помню, як Гарасім тут быў, і ксёнц па калядзé хадзіў, дык ён ні заводзіў ксяндзá – што рускія. А тады, я ні знáю, як там было так, што тáтка ці да каго да хворага вазіў – з ксяндзом пагаварыў. Такі быў, звалі Кавáлісам. Мусі літовец быў. А тыды хадзіў па калядзé, так гэты Гарасім ні зайшоў, а ён адзін зайшоў. Ну зайшоў, так тут мама давáй яго частавáць. Яна

што суме́ла састроіць, бо ён татку каза́ў, што буду хадзіць па калядзе́ – зайду́. Ну дык яны чыка́лі яго. Тады зайшоў, сеў ужо е́сці, а эны Гарасі́м стаіць за дзве́ры ўзя́ўшыся, за кля́мку, сра́кай завярну́ўшыся. А эты ксёнц сеў есці. А тады бу́дзя каза́ць на ма́му:

– Дай ты тое есці, чым ты дзяце́й кармі́ла.

Мама там, зна́іш, састро́іла ўжо ле́пей. Тады ма́ма мела капу́сты зварыі́ўшы з бара́нінай. Наліла́.

– О, то я зна́м, жэ то ядзэ́ня. А то ты мне да́ла ме́нса. То ме́нса я і сам штодзе́нь з́ем. А капу́сту хто мне зва́ра?!

То гэта помню я. Ужо былі мы ла́дныя. Помню на́дта па харошаму абра́зіку даў, харашэ́йшы, як каму́. Злоца́ныя не́йкія. І тады гэты ксёнц стаў заходзіць. Тады ўжо мама з та́ткам Адэ́лю хрысці́лі ў ксяндза́. Так усё вазілі ў цэ́ркву ў Смургонях. А тыды Адэ́лю хрысці́лі ў касце́ле і То́фцю хрысці́лі ў касце́ле. Ужо ні павязлі́ ў цэ́ркву.

После ўжо млыні́ знайшлі́ся. А так па ха́тах мелі жорны, у жорнах малолі. Як шмат, то ця́жка. Але як быва́я на скорую ру́ку, німа́ калі там е́хаць, так у жарна́х зме́ля, хлеб зарасчыня́іш і пячэ́ш. Свіня́м у жарна́х зме́ліш. У ка́ждай хаце былі жорны. А млын быў у Гярвя́тах і ў Астраўцы́ на рэ́цца. Жывёлу кармі́лі мукой, як я ўжо ста́ла помніць. Помню та́тка наш вазі́ў у млын. Нава́ля воз дабра́. І кура́м мало́лі, і свіня́м, і сабе малолі. Помню ўжо после сталі шатрава́ць ячме́нь. На кру́пы сшатру́я, тады ме́ля на муку́. Шатрава́ныя бліні́ ўжо е́лі. А перш дык малолі абы-як, се́ялі. Усяля́к было. А зра́зу малолі хто што меў. Грачы́ху – так грачы́сныя добрыя былі бліні́. А хто малоў там гарох, ячме́нь – так які ж там ужо блін! Алі елі. Які быў, такі елі.

Усё се́ялі. Найболяй ужо после грачы́ху. І кру́пкі рабілі грачы́сныя, ка́шу вары́лі. Малы́я дзеці былі, дык помню наша ма́ма ка́шу грэ́цкую ўсё дзе́цям вары́ла. Тады ма́сла ўкіня, на малацэ́. Сма́чная ка́ша была́. Булён вары́лі, сква́рылі. Кру́пы вары́лі, бацьвіня вары́лі, капу́сту. Хто што меў, тое й вары́ў. З яды нічога ні купля́лі. Сваё было ўсё. І бацьві́ня было сваё, і бура́к быў свой, і капу́сту садзілі, і моркву садзілі, і цыбу́лю. Бу́льбы ні надта шма́т садзілі. Быва́ла наш та́тка цялё пу́сця гадава́ць – так аўсом. Аўса́ дава́лі цяля́ці. А коням – канюшы́на, се́чкі, авёс. Як я мала́я была, буракоў ні садзілі каровам. Як каровы ўжо паце́ляцца, так яка́я лі́шняя бу́льба, так сасячэ́. Які корм быў – такім карміі́лі. Се́чка, трася́нка. А вясной як ні стае́ корму, так жа́лі ве́рас хадзілі.

(Ніна Осіпаўна Крыжаноўская, 1912 г.н.)

Як малы́я былі́ ў хава́нкі ба́віліся, ў пікера на́дта гуля́лі, а зімой круту́ху рабілі. За гумном на́шым, як на па́сяку ісці, был са́жалка. Тут тэш быў такі ручаёк невялічкі, такая далінка́. Увосені налі́е дождж, заме́рзне. А лёд празра́чны, ну све́ціцца. Віда́лася, як рыбка та́мака пла́вае. Така́я вада чы́стая. Ну і што тады́. Прадзю́баім дзюрку, устаўля́ем кол, тады калясо ад колаў. І да гэ́тага каляса́ такую доўгую па́лку хлапцы́ прывя́жаць, і да гэ́тай па́лкі на канцы́ – са́нкі. На гэ́тыя са́нкі хто сяда́я, а тады ў гэта калясо невялічкую па́лку [устаўляеш] і кру́ціш. Са́нкі, знаіш, як да бальшой па́лкі прывяза́ныя, які круг даю́ць! Так, божа, як раскру́цяць, як зва́лішся! Гэля Балюковая так во круці́лася, як звалілася ў нейкую гру́ду, ой, як моцна была́ над брывом рассе́кшы. Кроў пайшла́. У яе, мусі, і цяпер яшчэ знак ёсь.

Перш Баяры́ была бальша́я вёска. Ні такая бальша́я, алі большая, як цяпе́р. І хутары́ былі. Во за Броняй быў ху́тар Зуза́нкаў. А тады ішчэ да́лей быў ху́тар – Цылінкі баба жыла́. Вінцэнто́ва. Як ісці ў Паве́рбы, жыў Монта. Тады так во праве́й, такая Касту́ся была адна́. Ба́бка жыла́ на ху́тары. Тады́ ішчэ́ там за ей Маце́йкавы жылі́. У іх многа дзяце́й было, мусі сем. Ну, тады во Коўзаны былі на ху́тары. А за Коўзанам, праз равок, там, дзе я́блыні, Свідовічыха жыла́. Тады дзе ішчэ́? Ад Коўзана – Базючкі́, пагу́рачак такі аста́ўшыся. Там як скле́п бы́ўшы – я́ма. Ну, тады́ во Банэ́дыкавыя былі на ху́тары. Ну і ў вёсцы. Тут во, як Субаткéвічыхі сад, две ха́ты былі́. Напрэ́ціў Лявона – адна́, друга́я – туды дале́й, як сад. У Субаткéвічыхі ха́це Лю́двікі жылі́. Дзяце́й ні ме́лі. Яны жылі́ калі́сьці – ма́ма каза́ла – у Рыге. Яна така́я інтэліге́нтная ба́ба была́. Ну і тады́ Юзю́к не́як падле́з да іх, і ў адны́м канцы́ пасялі́ўся жыць. А тады памярла́ гэта Лю́двічыха, ён і забра́ў гэту хату, прада́ў – а Субаткéвічы адкупілі – а сам пае́хаў у Вільню жыць. Ха́тка была во тут, як Сабіны гарод канча́іцца. Толькі на другу́ю старану́. Як Фылю́мы поля – туды во ха́тка была́. Ну і за Рава́камі ў клянах была́ ха́та на́шага дзе́да Балтуна́.

*(Лаўрэцкая Тарэса Паўлаўна, 1944 г.н.)*

*В.Дз. Астрэйка, Н.В. Сівіцкая*

# ХАРАКТАРЫСТЫКА ГАВОРАК вв. ВАСІЛЕВІЧЫ, СЕЛІВАНАЎЦЫ І АСОЧНІКІ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гаворка жыхароў вв. Васілевічі і Селіванаўцы Гродзенскага раёна (найперш старэйшага, а таксама сярэдняга пакалення) з'яўляецца, з аднаго боку, тыповым прыкладам маўлення носьбітаў паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы – а дакладней, гродзенска-баранавіцкай яго разнавіднасці. У галіне фанетыкі можна адзначыць наступныя характэрныя рысы:

1. Моцнае недысімілятыўнае аканне ва ўсіх перад- і паслянасціскных пазіцыях, акрамя апошняга адкрытага склада.

2. Захаванне (пераважна ў прыслоўях) этымалагічнага [о] у апошнім адкрытым складзе – так званае няпоўнае аканне. У мове карэнных жыхароў Сапоцкінскага мікрарэгіёна гэтая з'ява рэалізуецца, аднак, не заўсёды паслядоўна, параўн. *в"эс''эло, такс'амо*, і *р'ана* (в. Васілевічы). Разам з тым канцавы галосны [о] рэгулярна ўжываецца у маўленні ураджэнкі Бераставіцкага раёна Ганны Яхімаўны Габрукевіч (в. Селіванаўцы).

3. Моцнае недысімілятыўнае яканне у 1-ым перадняцціскным складзе пасля мяккіх зычных (*з'б'ар'уцца, прыјажж'ајэ, z''ар'эктар*), якое, аднак, спалучаецца з яканнем дысімілятыўным. Дысіміляцыя галоснага найчасцей назіраецца ў некаторых службовых словах, прыслоўях, формах займеннікаў (*ні, нім'а, ціп"эр, ціб"э*, але таксама *двін'аццац', смі'аліс'а, у z''вір'ах*). У такіх выпадках адпаведна націскным [э] пасля мяккіх зычных звычайна выступае галосны [і], хаця часам сустракаецца і [э] – *в'эс''"элл'э, н'эz''"эл'а* (паралельна з *н'аz''"эл'а*). Апошняя з'ява, магчыма, тут абумоўлена ўплывам з боку польскай мовы.

4. Адносна паслядоўнае захаванне галоснага [э] пасля мяккіх зычных у паслянаціскной пазіцыі. Толькі зрэдку ў пазначаных умовах фіксуецца [і] (*хл'опіц, у касц''умі*)

5. Вымаўленне на месцы былога спалучэння мяккіх зубных і заўсёды цвёрдых [ш], [ж], [ч] з наступным [j] зычнага нармальнай даўжыні (*с''він"а, зб'ожа*). Але ў асобных словах у падобным становішчы выразна чуецца падоўжаны зычны (*в'ас''эл':е, крышч'эн:'э*), што, магчыма, абумоўлена ўздзеяннем з боку беларускай літаратурнай мовы. Тут адзначаюцца і такія цікавыя асаблівасці, як дэлабіялізацыя галоснага [у] і вымаўленне на яго месцы [ы] (*у сыб'оту*) вымаўленне [ы] адпаведна [і] (*васыл'іны*), вымаўленне

цвёрдага [п] у спалучэнні з [j] у слове *пятніца* (*пj'атніца*), вымаўленне слова *ездзіць* як *jэүз''зіц'* (гэта асаблівасць занатавана намі раней і ў Слонімскім раёне). Дадзеныя з'явы, несумненна, з'яўляюцца лексічна абмежаванымі і ўжываюцца ў асобных лексемах ці групах слоў.

З занатаваных намі найбольш істотных дыялектных марфалагічных і сінтаксічных рыс прыгадаем наступныя:

1. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на мяккі і зацвярдзелы з канчаткам [е] (*шлюбэ, валэ, быке, бацьке*).

2. Форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду тыпу *дзяўке*.

3. Пераважнае ўжыванне архаічнай формы назоўніка *дзіця* з асновай на [т] *дзіця – дзіцяці*. Часам (в. Васілевічы) адзначаецца форма *дзіцёнак*, але, як бачна па кантэксце, хутчэй як дэмінутыўны адпаведнік. Там жа (в. Васілевічы) намі засведчаны і варыянт *дзіцё*.

4. Наяўнасць [л'] пасля губнога зычнага асновы ў асабовых формах дзеясловаў 1-га спражэння (*пасыпл'у*).

5. Ненацiскны канчатак *–аць* у формах дзеясловаў 2-га спражэння (*прых'одз'аць*).

6. Паралельнае ўжыванне зваротных дзеясловаў з часціцай *-ся* і яе цвёрдай разнавіднасцю *-са* (апошняя форма характэрна для гаворак поўдня Беларусі і якраз наваколля Гродна): *паздароўкаўса, забраўса, астаўся*.

7. Канструкцыі з родным склонам адпаведна вінавальнага: *пытае б'ацькі*.

Па-другое, дадзеныя гаворкі належаць да так званага заходне-занальнага тыпу. У іх структуры побач з дыялектнымі выяўляецца цэлая група асаблівасцей (пераважна на лексічным і фанетычным узроўнях), што з'явіліся ў працэсе ўзаемадзеяння з суседняй польскай мовай. Адпаведныя рысы, у адрозненне ад дыялектных, не адносяцца да ліку асноваўтваральных. Большасць з іх узнікла тут ва ўмовах беларуска-польскага білінгвізму і, часткова, у выніку наддыялектнага ўплыву польскай мовы (мова касцёла, школы). Гэта словы *ровэр, велькі, ест*, польскамоўныя назвы святаў (*Велькaноц, Вігілія, Зелёны Свёнткі* і інш.), яўна інтэрферэнтныя па сваіх вытоках лексемы і формы тыпу *валён, календаваць, пражагнаць, модляцца, тадэ*). Не выключана, што ў працэсе кантактавання з польскай мовай узнікла і такая мясцовая фанетычная з'ява, як вымаўленне пачатковага [з] на месцы [с] у шэрагу слоў: *забр'аўса, загл'асныя*. Аднак дадзенае пытанне патрабуе яшчэ вывучэння. Усе з прыгаданых асаблівасцей, відавочна, маюць маўленчую прыроду. Некаторыя з іх, аднак, здолелі стаць фактам мовы, элементамі адпаведнага занальнага моўнага комплексу (напрыклад: *велькі,*

*ест, тыка* -- з польскага *тыльно*). Іншыя ж працягваюць выступаць толькі на ўзроўні маўлення (параўн. адначасовае выкарыстанне толькі ў адным сказе злучнікаў *ці* і *чы*, паралельнае ўжыванне форм *недзеля* і *нядзеля, седзеў* і *сядзеў*).

Даследаваныя намі гаворкі знаходзяцца, акрамя таго, і на перыферыі паўночна-заходняй дыялектнай зоны. Тут, у прыватнасці, адзначаюцца такія паўночна-заходнія занальныя асаблівасці, як няўстойлівасць ва ўжыванні пачатковага і пратэтычнага [г] (*гэта* побач з *эта*, захаванне складанай формы прошлага часу з дзеясловам *быць* у ролі звязкі і дзеепрыслоўем на *–шы, –ўшы* (але апошнія, па нашых назіраннях, сустракаюцца тут толькі спарадычна; адпаведную форму мы пачулі толькі аднойчы ў маўленні жыхаркі в. Селіванаўцы Клары Уладзіславаўны Габрукевіч (*былі разышоўшыся*).

Нарэшце, гаворкі названых вёсак уваходзяць яшчэ і ў склад цэнтральнай зоны беларускай дыялектнай мовы. Цэнтральная зона найбольш актыўна пачала фарміравацца у 20-30 гг. ХХ ст. у выніку пэўных кансалідацыйных працэсаў, якія мелі месца на той час унутры самой беларускай нацыі, што выявілася ў імкненні з боку прадстаўнікоў розных этнадыялектных груповак да яднання на аснове адзінай агульнанацыянальнай нормы. Сярод занатаваных намі цэнтральна-занальных моўных асаблівасецей -- моцнае недысімілятыўнае аканне, ужыванне назоўнікаў жаночага роду множнага ліку ў родным склоне з канчаткамі *–аў(–яў)*, незалежна ад характару асновы (*дружкаў*), форма *дзіцё*.

У дадзеных гаворках адзначаюцца і з'явы рускамоўнага паходжання якія ўзніклі ў выніку татальнага наддыялектнага ўплыву рускай мовы на мясцовыя гаворкі па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Гэта пераважна рысы лексічнага характару (*вторнік, жэншчына, такжэ, дзіствіцельна, вапшчэ, шчытаецца*) і інш. У мове прадстаўнікоў старэйшага пакалення адпаведныя ўтварэнні сустракаюцца значна радзей. У маўленні прадстаўнікоў сярэдняга пакалення, асабліва тых, хто мае сярэднюю спецыяльную ці вышэйшую адукацыю (як, напрыклад Габрукевіч Анна Яхімаўна), да таго ж можна пачуць заштампаваныя выразы тыпу *в частнасці, в цечэніе, факцічаскі*. Трэба сказаць, аднак, што ў цэлым тут захоўваецца фанетычны лад і граматычная будова традыцыйнай для дадзенага рэгіёна беларускай гаворкі.

Што тычыцца гаворкі жыхароў в. Асочнікі, то разам з рысамі беларускімі (напрыклад, аканнем) тут выразна выяўляюцца польскамоўныя рысы (оканне). Наогул, часам складваецца ўражанне, што гэта хутчэй польская па сваёй аснове гаворка.

Узоры гаворкі

2. 02. 2002 г.

в. Ас'очнікі Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці.

Мясцовая назва – Асочн'ікі.

Запісана ад Крывіцкай Марыі Казіміраўны, 1932 г.н., полька, каталічка. Скончыла 4 класы польскай школы.

З'амуш вых'оzіла, то был'о на Б'ожа Нароz'эн'а // С''н'эгу ні был'о // Пр'осто т'ыко так м'окра был'о як бы / дош пап'адаu̯ // Ні ф'урамі / ніч'ым / а маш'ынају / аш у Капц''ова // У нас кс''онzа ні был'о /забр'алі н'ашаго кс''онzа / сідз''эў кс''онz у ц'урм''э // А мы маш'ынају пај'эхалі аш до Копц''ова // І там кс''онz літ'эўскі нам шлюп дав'аў // І тад'э прыј'эхалі дах'аты // І u̯ х'аці св'аz'ба адбыл'аса / гр'алі / танцав'алі //

Он [муж інфарманткі] захвар'эл на жэлт'ачка // і он л'эж'ал ф шпіт'ал'у// а он задл'уго был в д'ому // Јуш у јэг'о аш пазн'охц'і был'і ж'олтэ// і тут ја јаг'о до амбул'ат'оры // тут пов'эz'элі: "в'эз'/ -- к'ажэ/ -- до Гр'однэ"// Ја јаγ'о u̯ аu̯т'обус і да Гр'одна зав'эзл'а // Јан'э јак пал'аz''элі/ јан'э сказ'али так: "А чым ты јаγ'о прыв'эзл'а?"// ја каж'у: "Аu̯т'обусам" // то ан'ы за γолаu̯ бр'аліса // јан'ы п'отым ст'алі выціраu̯' там z'э јон с''аz'эu̯// "у јаγ'о/ -- к'ажэ/ -- жэлт'уха/ і ты бл'іско јаг'о н'э стој / бо ты наб'ар'эс̑а" // ја каж'у так: "ја јак н'э набр'аласа да γ'этај пар'ы / то н'э наб'ар'уса // ја з јім сп'ала" // Пр'энzэј д'алі "ск'орују" / пав'аз'лі u̯ т'ују бал'н'іцу / z'э на 'эту жэлт'уху л'ожац'' / і там јаγ'о палаж'ылі // он д'олγа / γ'эты д'охтар уж'э јон ні д'умаu̯ / што он жыц'' б'уz'э // јон каз'аu̯ так: "жэб јэшч'э одн'у н'очку п'эраначавал д'ома / то ты u̯жэ u̯ кар'опцы был бы". "Каз'м'эравна / -- он так на мн'э γавар'ыц̑ / -- јэм'у ніц ні л'учшэ, а он γав'орыц'', што јэм'у л'учшэ // вот он / -- к'ажэ / -- папр'авіц:а" // ну ја к'ажу: "Д'октар, ја вас адблаγадар'у за γ'эта / јэс''лі вы јаго в'ыратујэц'э" // а ја так'аја спл'акана пашл'а на баз'ар // і мін'э цыγ'анка адр'азу / пал'аz''эла / што ја так'аја уб'ітаја уж'э // і γав'орыц'' так: "у вас/ -- к'ажэ/ -- б'эда" // ја к'ажу: "Б'эда" // і н'э мог'у hовор'ыц'' ат пл'ачу // а 'она к'ажа так: "А што так'ојэ?" // дав'ај мн'э расп'ытваu̯а // ја расказ'ала // а 'она сказ'ала так: "Прыј'эz'эш на тој z'эн' / прыв'эз'і мн'э јэ'ічка і прыв'эз''і γ'олку" // і вы зн'ајэц'э / ја бај'аласа // ну п'отым саб'э д'умају: "рас ужэ ја / то / каж'у/ пај'эду // зав'эзл'а је'ічка і γ'олку і јін'а u̯з'эл'а і к'ажэ: "Зн'ајэш што (цо јан'а там раб'іла / пан''аціја н'э м''эју) зај'эz'эш там / z'э јон спаu̯ / пакач'ај 'эта јэ'ічка» // а цо јон'а γавар'ыла з јім зрабіц'' / ја ні п'омн'у u̯ж'э / бо то давно был'о // і јін'а от гав'орыц'' в''эл'а u̯жэ мн'э плаціц'' // ја 'іл'э јэј заплоц'іла // і јэшч'э сказ'ала рас прыј'эхац'' // ја пај'эхала // а u̯жэ мн'э сказ'алі б'абы: "н'э јz'і // бо јан'а м'ожэ цо зн'ајэ цо то'б'э зраб'іц''" // і ја адышл'а аш ф стар'онку / а јін'а – н'э б'ад'уйц'э – м'эн''э

пазн'ала здал''ок // і одр'азу прышл'а до м'эн'э // ну і γав'орыц'': "ну как / л'утшэ тр'оха?" а он чуц'' н'э два м'эс'ацы л'эжаў // "н'ібыто / до'ктар каз'аў / што на папр'аву јz'э" / "ну / к'ажэ / хараш'о // к'ажэ: "ск'ол'ко м'ајэш z'эн'эк?" ја / зн'ајэц'э / спал'охаласа // ја јак на тојэ с'амајэ ні бр'ала z'эн'эк / ја узіл'а / но за мн'оју была друγаја ж'эншчына // ја т'ыјэ гр'ошы адал'а / а т'ыко німн'оγа цо то м''эла // ја каж'у: "о кошэл''ок / о в''эл'э м'ају z'эн'эк // в''эл'э вам дац''?" "м'ала / -- гав'орыц', -- м'ала? – ја б'ол'ш н'і м'ају // н'ац''э // ја т'ыко т'ыл'э соб''э воз'м'у / што на аўт'обус // а γ'этыја ўс'эн'кіја вам адам" // і јан'а ні р'ада был'а / цо ја јэј м'ала гр'ошэј дал'а // ја г'этыја гр'ошы јој падал'а / і адышл'а / пражыγн'аласа / каж'у: "бол'ш ја н'і хач'у" // а јон ліж'аў дат'ул' / п'ок'эн јаγ'о ні в'ыл'эчылі // і γ'это п'эвно ніц ні помоγл'о // т'ыл'ко хац''эла ад м'эн''э гр'ошы выцеγн'уц'' // а п'отым он прыш'ол дах'аты / в'ыздарав'эў і к'ажа: "ал'э ш ты ј д'уран' // т'ыко / к'ажэ / д'обра / цо ты гр'ошај мн'оγа ні м''эла / а то ан'а у ціб'э забр'ала п ус'э гр'ошы // она ніц ні выл'эчыла ні мін'э / ні ціб'э / нік'оγа / т'ыко п ціб'э ашук'ала" //

3. 09. 2002 года.

в. Васіл'евічы Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласі

Мясцовая назва: Васіл''эвічы

Запісана ад Юзэфы Андрэеўны Сялецкай, 1920 г.н. ураджэнка в. Каўняны, полька, каталічка. Скончыла сем класаў польскай школы

в'эс''эл:э спраўл'алі 'эта да вајн'ы / зн'ајэц''э / т'ол'ки ва фт'ornік // хараш'о был'о // шлюб'э бр'ал'и ў кас''ц''эл'э // т'адэ к'он'ми јэγzілі / ні ціп'ер так як у маш'ын'э // адн'а ж'эншчына каз'ала: "ціп'эрака ўсаz''ац'' у γ'эту маш'ыну / јак у буд'у саб'аку і так в'азуц'' " // с''міјаліс''а // тад'э на к'он'ах ј'эγzілі // тад'э даж'э 'этых лісап''этаў / ров'эраў м'ала ў каг'о // а так хараш'о жылі // с''в'аты ўс''э пр'азнавалі // так вос'' γ'этыја што быв'ајуц'' / γ'этыја ўжэ бал'ш'ыја с''в''аты: Ражаств'о / В'эл'к'аноц / З'эл''онэ С''в''онткі //

Каляды

ну ўжэ хаzіл'і ў кас'ц''ол // на Ражаств'о в''эчар спраўл'алі јак γав'орац'' / віґілија // уж'э там γат'овілі так'ојэ ўс''о пасн'ојэ // а п'отым уж'э наз'афтра ід'уц'' у кас''ц''ол ус''э // і на В'эл'к'аноц т'ојэ с'амајэ // кал'эндав'али т'ожэ // кал'эндав'али / знајэц''э / был'і хто хаz'ілі р'азам // вапшч'э хараш'о было // в''эс''эло было // вараж'ылі // от знајэц''э / збяр'уц:а малаz''ош // то плат'ы абдым'ајуц'' / што ці ў п'ару / чы л'ішн'у аб'ым'э //

Вялікдзень

Эта u̯ж'э счыта'јэц:а В''эл'ка Суб'ота / уж'э шых'ујэц: а на п''эршы z'эн' уж'э ус'э-ус'э // р'ана ід'уц'' у кас'ц''ол // а с кас'ц''ола u̯ж'э прых'oz'ац'' / u̯с''э да стал'а с'ад'а јуц'' / накрыв'а јуц'' стол // ну пак'ушалі / ус''о пај'елі // а тад'ы на в''осцы з'арэ малаz''ош / хл'опцы u̯ж'э гарман'істаu̯ јішчуц'' / т'анцы з'z''элајуц'' //

Тр'ы Кр'улі – эта Крышч'эн:'э / Н'овы гот / потым Грамн'іцы -- ід'уц' у кас'ц''ол с'в''энц'ац'' грамн'іцы М'аткі Боскі грамн'ічныјэ //

З'ал''оныја С'в''онткі // с'в'а'та так'ојэ // два дн'а т'ожа такс'амо // у кас'ц''ол х'oz'ац'' / м'одл'ац:а і u̯с'о // з'ал''оным убір'ал'і [хату] // б'ар'оскај // гал'іны лам'алі і u̯д'ома u̯бір'алі //

Ян -- то ні с'в''ата был'о јан // эта u̯жо хто јан называ'јэц: а z''эн' ражž'эн'а спраu̯л'ајэ //

ј'эжэлі вот јам'у панар'авіліс'а вы // он прыјажž'ајэ сват / дам'ој / с''аz'іц'' / п'отым дапр'ашвајэ // пыт'ајэ м'атку / б'ац''кі пыт'ајэ // тад'ы малад'ы / ці заγл'асныја // ну јак заγл'асныја / ус''о / дагав'орац:а / тады u̯ж'э прыјажž'ајэ u̯ пј'атніцу і u̯ сыб'оту // ну ј ј'эдуц'' да кас''ц''ола / в'азуц'' на з'апав'эц'' // тад'ы тры н'аz''элі чыт'ајэ кс''онz з'апав'эц'' / уж'э пос''л'э трох н'аz''эл' уж'о св'аz''ба // [маладая] у б''элым // б''элаја сук''энка // вал''он // і др'ушкі јај'э u̯ б''элым // а малад'ы так јак звыч'ајна u̯ кас''ц''умі хар'ошым // у малад'оγа нім'а др'ушкаu̯ / т'ока св'ан'кі // б'улак нап'эклі // сух'арак пап'ак'уц' // наж'ом так'іја накр'ојац'' / пап'ак'уц'' / а п'отым јашч'э нам'очац'' у вад'у / с'ахарам пас'ыпл'уц'' // м''аса навар'ылі / халатц'а навар'ылі – фс''э // фс''а св'аz''ба // [пасля касцёлу] да малад'ој ј'эдуц'' // а вжэ ат малад'ој -- тад'ы да малад'оγа // у z''вір'ах ціб''э фстр'эц''ац'' б'ац''ка ј м'атка с хл''эбам // б'ар'уц'' хлеп / јz''эц'' на стол ст'авіц'' // тад'э за стол с''ад'ајуц'' // ус''о // і u̯ малад'оγа так с''п''эчаны на стал''э ст'ојіц'' карав'ај // јак падар'унак -- тад'э кр'ојац'' 'эты карав'ај // а п'отым уж'э п'ос''л'э св'аz''бы за н'эz''эл'у -- уж'э да малад'ој т'ожэ прыјажž'ајуц'' / 'эта γав'орац'' / јак пад Васыл'іны // 'эта ад'эзвы // ад јаγ'о т'ожа бац''к''э прыјажž'ајуц'' уж'э да 'этај малад'ој // там шчэ хр'осныја јак'іја там //

стар'ыја л'уzі раск'азывалі так: м'ожа мы жыц'' ні буz''эм / но хто дажыв''э / то буz''э так (а тад'ы самал'отаu̯ ні было / ој z''э там!) / γав'орыц'' / л''уzі u̯ в'оздуху л'атац'' б'удуц'' // і γав'орац'' јашч'э/ л'уz'і б'удуц'' в'іz''эц''

л’уz’’эј с ус’’ул’ ('эта во цiлiв'iзары) // і / γав'арыц’’ / б'удуц’’ л’уzі друγ'оγа вiz’iц’’ нi б'уz’’э і будуц’’ разгав'арвац’’ ('эта па тэл’эф'он’э цiп’’эр) // о / стар'ыја л’’уzі так γавар'ылi / а цiп’’эр так і в'ыјшла // цiлiв'iзары / тэлiф'оны / самал’’оты во л’ат'ајуц’’ л’’уzі // п'отым јшчэ што ан'ы γавар'ылi / стар'эјшыја л’’уzі // чы ј'эшчэ мы жыц’’ нi б'энz’’э / пш'ыјz’’э γ'эткі час / чл'ов’эк чл'ов’эка нi б'энz’э нав'iz’’эц’’ // м'онж ж'онэ нi б'энz’’э нав'iz’’эц’’ / ж'она м'энжа нi б'энz’’э нав'iz’эц’’ // z’’эцi на 'ојца // 'ојцы на z’’эцi // так јэст т'эраз / чы н’э? за дв’э н’эz’’элi в’энцэј нар'оду п'адн’э / јак ф ч'ас’э в'ојны // і жэ чл'ов’эк б'энz’’э в'iz’’эц’’ св’ат і б'энz’’э уц’’экац’’ // то м'увiлi // ј'эшчэ м'ожэ до т'эγо ј д'ојz’’э //

на вајн’’э ч'асам z’’эцi был'i аzін'окiја // пазастаu̯л’’ныја z’’э пры ком // мн’э дв'ојэ ziц’’’эј д'алi // z’’арэктар даu̯ // аz'iн двiн'ац:ацi л’эт / а друγ'i м’эu̯ п’ац’’ // хл'опiц // хар'ошыја хл'опцы б'ылi // ал’э тој што двiн'ц:ац’’ л’эт м’эu̯ / то паб'ыu̯ хiба тры н’аz’’элi / забр'аu̯са ј паш'оu̯ // а γ'эты аст'аu̯с’а // п'отым бац’ка прыш'оў з вайн'ы / а м'атка был'а заб'iта / то јон паш'укваu̯// ну тад'а рајк'ом / рајспалк'ом // сказ'алi / што тут о тут јэст ziц’’’о // прыј'эхаu̯ 'эты бац’’ка // прыв’’оu̯ дыр'эктар да мiн’’э јаγ'о / эты хл'оп’эц быu̯ // јон уважш'оu̯ / паздар'оu̯каu̯са / вс’’’о / с’’эz’’’эu̯ // п'отым вым'ајэ // да ziц’’ацi γас’’ц'iн’эц прыв’’ос // вынiм'ајэ абар'анкi с карт'офлi п’’эчаныја – с карт'ошкi т'оu̯чанај // і п'отым так'а кр'угла б'улка хл’’эба -- ж'оu̯та так'а нав’эрх'у / крас’’’iва // γ'эты хл'опчык уз’’аu̯ / разлам'аu̯ γ'эты абар'анак / укус'iu̯ // к'iнуu̯ // к'ажа: “п'апа / 'эта ш карт'опл’а” // і јашч'э так сказ'аu̯: “ја нi зн'ају / јакi ты п'апа / ја цiб’’э нi зн'ају // м'ожэ ты і п'апа мој” // п'отым уз’’аu̯ раскр'ојiu̯ γ'эту б'улку // “тут -- к'ажэ -- карт'ошка u̯ с’’ар'эziн’э” // а ана был'а там карт'офля нал'ожана / т'окi мук'ој абл'ожана ус’’’а // паш'оu̯ / шк'афчык аткрыв'ајэ / к'ажэ: “паγл’аz'i / п'апа / јак'iја во јдэс’’ б'улачкi л’аж'ац’’ // паγл’аz'i / м'асла ста'iц’’ /м’’аска ста'iц’’ / малачк'о ста'iц’’ // 'эта м’ан’’э ц’’’оц’’а так хараш'о к'орм’iц’’ // і мн’’э пам'ыјэ / і мн’’э абм'ыјэ // так хараш'о мн’э / гав'орыц’’/ і фс’’о // јон паб'ыu̯ аzін z’эн’ / друγ'i z’’эн’ / г'эты u̯ж'о бац’’ка γав'орыц’’: "ну што ш? пај'эz’’эм?" – "н’э зн'ају // м'ожа ты і п'апка / ал’э мн’э нi х'очацца атјiж:ац:а // мiн’’э так ц’’оц’а хараш'о см'отрiц’’ // ну ал’э јак ты u̯жэ 'жэлi дiс’твiц’эл’н'а ты мој п'апка / то пај'эду с таб'ој" //

Ат сп'уду ј'эст чартапал'ох так'i // ну то б’ар'уц’’ чартапал'ох // п'ал’ац’’ і над 'эцiм д'ымам z’’эржыц’ мацi 'этага ziц’’онка // цi в'оскам вылiв'ајуц’ на вад'у //

ты м’эн’’э u̯ чуж'ују х'ату нi в’эz’’i/
чуж'аја х'ата / јак св’экр'уха лiх'аја //

а збуд'уј з' л'эб'ад'ы
тад'ы м'эн'э прыв'эz'і //

[кали памрэ нехрышчонае дзіця] то п'отым с'эм л'эт z'іц''онак пл'ача // а хто ч'ујэ / тр'эба пражаун'ац'' 'этаγа zіц''онка // и ц̑с'о / и п'эраст'ан'э пл'акац'' //

4. 09. 2002 г.
в. Селіванаўцы Гродзенскай вобласці Гродзенскага раёна
Мясцовая назва -- С'іл'в'ананац̑цы. (прыходзілі *на Сіл'в'онац̑цу*).
Запісана ад Габрукéвіч Клары Уладзіславаўны, 1919 г.н. полька, каталічка, скончыла 5 класаў польскай школы, і Габрукевіч Анны Яхімаўны, 1944 г.н., ураджэнка в. Вішнеўка Макараўскага с/с Бераставіцкага р-на (нявестка).

// пл'ача zіц'а ц̑нач'ы // каз'алі в''эшац'' ч'орныја ган'учы // в'очы пад'олкам выцір'алі // см'окчуц'' в'очы / т'ф'у / в'ыпл'унуц'' //
кар'ов'э выц'ір'ајуц' сп'однім в'очы з н'очы //

бух'анку хл''эба зак'опвајуц'' у з''эмл'у // (з мэтай зрабіць каму-небудзь шкоду)

*Ю.А.Барысюк (Кобрын), В.Г.Белявец (Мінск)*

# ЛЕГЕНДЫ З КОБРЫНШЧЫНЫ І КАМЯНЕЧЧЫНЫ

## ***Княжая Гара*** **на Кобрыншчыне**

На Кобрыншчыне недалёка ад вёскі Ляхчыцы (мясц. *Ля'хчычы*) існуе пагорак выцягнутай формы, які крута ўздымаецца ўверх. Мясцовыя жыхары называюць яго Княжая Гара (*Кня'жса Горá*). Амаль на 10 метраў вяршыня пагорка пануе над навакольнымі палямі: Косцевым (мясц. *Кóсьцёво*), Вырысаватым (мясц. *Вырысовáтэ*), Гліншчамі (мясц. *Глы'нышча*), Навінкаю (мясц. *Новы'нка*), Стаўком (мясц. *Ставóк*)[1]. Паводле падання, тут пахавана княгіня Вольга.

Р а с к а з в а ю ц ь ж ы х а р ы в. Л я х ч ы ц ы К о б р ы н с к а г а р а ё н а (запісаў Ю.А.Барысюк у 1997 г.):

№ 1. Прыступчык Аляксей Васільевіч, 1925 г. нарадж., да пенсіі працаваў лесніком:

*Як я чув, то Кня́жса Горá так называ́йіцьця потому́, шо там похорóнёна княгы́ня. Вона булá нáша ру́ска. Во як зáра губернáторы і мэ́ры, то й колы́сь так у городáх булы́ князі і княгы́ні. Ну і йійі тут похороны́лы. Як я був малы́й, то там булá вы́дно могы́ла і рослы́ барвы́нкы Шэ й зáра я могу́ показáты тое мі́сцэ. Шэ й стары́йі лю́дэ роскáзувалы, шо як вонá воёвáла, то обхытры́ла врагів тым, шо пырыкувáла подкóвы на копы́тёх у кóный. Алэ́ я ны знáю, як йійі звáты, ны – з кым вонá воёвáла. А мі́сцэ тóе, як я пóмню, буó за Антóніковыю сыды́бою, пошті под выршы́ню.*

№ 2—3. Назарук Міхаіл Іванавіч, 1910 г. нарадж., яго жонка, Назарук Вера Іванаўна,1925 г. нарадж.

М.І.: *Вжэ я стары́й і такы́йі рэ́чы ны помытáю, алэ́ дóбрэ знаю́, шо там похорóнёный якы́йся князь. Колы́сь там і могы́ла булá і барвы́нкы рослы́. А чый то князь – гэ́того я ны знáю.*

В.І.: *А я знáю, давнó вжэ чу́ла, то ны князь, а княгы́ня похорóнёна. Тогó й называ́йіцьця Кня́жская Горá.*

№ 4. Барысюк Сцяпан Пятровіч, 1911 г. нарадж.:

*Як я чув гэ́ту гістóрыю, то там колы́сь княгы́ня з вóйском на прыпы́нок останáвлювалася. Тáя ж горá колы́сь быз лі́су булá. А пóсле тóго*

---

[1] Падрабязней гл.: Памяць. Кобрынскі раён / Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск: БЕЛТА, 2002. С. 28–29.

*там крыжя́ поста́вылы. Я помыта́ю, шчо спор був у сылі про гэ́ту гору́. Було́ мныго роска́зув. Не́которы каза́лы, шчо вона там похоро́нёна, алэ́ я чув, шчо вона́ там про́сто остана́влювалася. А крыж там стоя́в шчэ пры мойій па́мяты.*

№ 5. Прыступчык Васіль Фёдаравіч, 1924 г. нарадж.:

*Чув я, шчо там яка́ясь княгы́ня була́, алэ́ в яку́ю гэ́то було войну́, я ны зна́ю, чы з німцямы, чы з францу́замы.*

№ 6. Прыступчык Мікалай Георгіевіч, 1918 г. нарадж.:

*Про Кня́жу Гору́ я нычо́го то́лком ны знаю, алэ́ чув, шчо пра́вільно трэ́ба называ́ты Кня́жая Гора́, а ны Князь Гора́, як не́которы гово́рять, бо там княгы́ня похоро́нёна. Стары́йі лю́дэ каза́лы, шчо там могы́ла була́, то як на́шы бе́жонцы роска́зувалы в пойізда́х про Кня́жу Гору́, то всі вдівля́лыся і роспы́тувалы.*

№ 7. Барысюк Сцяпан Карпавіч, 1932 г. нараджн., стараста в. Ляхчыцы:

*Мні гэ́ту гісто́рыю так роска́зувалы: Тут княгы́ня воёва́ла, а вокру́г гэ́тыйі горы́ булы́ болота́, вона над йімы стоя́ла. Ну і княгы́ня на ты́й горі росположы́лася. А врагы́ од Новосілок наступа́лы. І на горі княгы́ню ту́ю забы́лы, бо за йійі убі́йство врагы́ заплаты́лы. А пото́м княгы́ню там похороны́лы.*

№ 8. Прыступчык Еўдакія Іванаўна, 1916 г. нараджн.:

*Я ты́лько чу́ла, шчо там яка́ясь княгы́ня похоро́нёна, а колы́ і як йійі забы́лы, -- ны зна́ю.*

№ 9. Барысюк Ніна Паўлаўна, 1942 г. нараджн.:

*Я чу́ла гэту гісто́рыю от свікрыві. Там блы́зько був йіх ху́тор, то вона́ мні ча́сто роска́зувала про гэ́ту гору́. Каза́ла вона́, шо там похоро́нёна княгы́ня Ольга. Колы́сь забы́лы мужыка́ йійі Владімыра і вона́ пойшла́ воёва́ты з врага́мы. Вона́ хы́тросцю обману́ла врагів, пэрэкува́вшы у ко́нэй подко́вы на копы́тёх за́дом на пыро́д. Тут вона́ прохо́дыла з во́йском. А на ты́й горі йійі забы́лы й похороны́лы. Там до́вго могы́ла була́ і за е́ю дывы́лыся. Як я в шко́лы учы́лася, то туды́ нас учітель воды́в. Там барвы́нкы рослы́.*

№ 10. Рагачук Мікалай Андрэевіч, 1936 г. нараджн.:

*Каза́лы, шчо там похоро́нёна княгы́ня. За Дывыно́м був пост і отты́ль солда́ты йійі доганя́лы, а на горі забы́лы. Шчэ й могы́ла була́. А шо копы́та, му́сыть, то Суво́ров пэрэкува́в, а ны вона́.*

№ 11 Назарук Фёдар Іванавіч, 1928 г. нараджн.:

*Чого́ Кня́жа Гора́ так называ́йіцця? Это потому́, шчо там княгы́ня похоро́нёна. Колы́сь там крыж стоя́в такы́й про́стый. Но му́сыть його́ пры большовыка́х знялы́. А могы́ла була́ з барвы́нкамы. За́ра я ходы́в*

*дывывся, шукáв тýю могылу. Трýдно найты́, трýдно, но мóжно. Алэ́ я ны знáю, як йіὶі звáты і с кым воёвáла. Давнó то всё булó.*

№ 12. <u>Раманюк</u> Вольга Якімаўна, 1912 г. нарадж.:

*Кáжуть, шчо давны́м давнó тут княгы́ня Ольга йі́хала і на горі останáвлювалася, і там йіὶі карéта закóпана.*

№ 13. <u>Лазарчук</u> Васіль Паўлавіч, 1912 г. нарадж.:

*От стары́х людэ́й я чув так, шо там пройізджя́ла княгы́ня со свойі́мы козакáмы на пырыговóры. Шчэ й в одногó пыры́на на шя́пцы ві́сыла. Ну а тáя горá над болотамы стоя́ла і на йій княгы́ня пырыговóры вылá. Шчэ казáлы, шчо я́мка быздóнна, котóра кóло Кня́жыйі Горы́ булá. Появы́лася вонá, як княгы́ня кы́нула там ртýті, і вонá взорвáлася. А всё то давнó булó і мáло хто про гэ́тэ помытáе.*

№ 14. <u>Куліковіч</u> Вольга Іванаўна (вёска Руховічы), 1910 г. нарадж.:

*Я самá з Бíльська. А мій Антóнік мáло мні роскáзував, алэ́ казáв, шчо там княгы́ню похороны́лы і шчэ над éю накы́далы мны́го зымлі́. Ну і показував мні бы то могы́лу под выршы́нію. А мóжэ шэ шчо казáв, алэ́ я ны помытáю, бо вжэ старáя.*

№ 15. <u>Барысюк</u> Антон Карпавіч, 1937 г. нарадж., трактарыст:

*Колы́сь роскáзувалы, шо княгы́ня тут з войскáмы прохóдыла і забы́лы йіὶі тут. У Глы́нышчах шчэ й ныдáвно я́мка булá быздóнна, то там княгы́ня ртýті кы́нула і я́мка тáя образовáлася. Алэ як меліорáцію провылы́, то зáра і ны нáйдэш тогó мі́сьця.*

№ 16. <u>Раманюк</u> Пётр Фёдаравіч, 1924 г. нарадж.:

*Давнó тóе булó. Княгы́ня Ольга тут прохóдыла. У йіὶі булó бі́лэ волóссе і йі́здыла вонá на бі́лому коні́. Ну і врóді бы йіὶі на горі́ у нас забы́лы.*

### Легенда пра ўрочышча *Змі'ёва Горá*

(Р а с к а з в а е Калядзіч Міхаіл Рыгоравіч з в. М л ы н ы Ратайчыцкага сельсавета Камянецкага раёна, каля 55 год. Запісаў В.Г.Белявец 3.07.1997 г.).

Про Змíёву Горý говоры́лы стары́йі лю́ды, шо жыв на гу́рі змій. Дорóга блы́ско кóло горы́. Лю́ды ходы'лы на робóту. Ря́дом рыкá Лісня́. Був вы́гон, пáслы скоты́ну. І змій всё врэ́мя мэшáв для людэ́й. Скоты́ну ловы'в і зйідáв і ходы'в до рыкы́ пы'ты вóду. В людэ́й орýжыя нэ булó, шоб ёгó забы́ты. Одён дя́тько зробы́в схóтку, поговоры́в із людьмы́, шо трэ́ба забы́ты змíя. Зары́залы баранá, облупы'лы, мі́цно насолы́лы і заныслы́ блы́ско до Змíёвой Горы́. І положы́лы баранá на зэ́млю мі́цно насóляного. І зрáзу постáвылы всіх людэ́й із кулкáмы кóло рыкы́. Змій зйів солёного баранá і

схотыі́в пы$^{ə}$ты$^{э}$. І повзэ́ до рыкыі́. А там всі лю́ды із кулка́мы нэ даю́т змі́ю дойтыі́ до рыкыі́. Змій ходыі́в на гору́ свою́ Змі́єву, то до рэкыі́ пы$^{ə}$ты во́ду. А ёго́ всё нэ пуска́лы до рэкыі́. І так змій му́чывся і здох бэз водыі́. І так называ́ецьця [урочышча] Змі́ёва Гора́.

*А.А. Босак*

# ПРОЛЕ'СКІ

*Замалёўка прыводзіцца на верхняясельдскай гаворцы, якая распаўсюджана ў цэнтральнай і ўсходняй частках Пружанскага раёна. Верхняясельдская гаворка адносіцца да сярэднебрэсцкіх гаворак заходнепалескага дыялектнага тыпу [1-3].*

Наступіла вэсна́. Засвэціло со́нэйко. Прыро́да почала́ прочына́ціса од до́ўгого зімнёго сну. Заспова́лі птухі. Побе́глі ручэйкі, по якіх дзе́ці пуска́лі кара́блікі. Появіліса пэ́ршые квэткі ў ле́сі.

Было́ ешы́ вэ́льмі ра́но, як Міша прочнуўса. Усе́ ешы́ спа́лі. Вон ціхенько ўста́ў, одзе́ўса і побе́г у лес за проле́скамі... для ее́, для са́мое ле́пшое на све́ці.

Як Міша вэрнуўса з буке́том додо́му, то ма́ці ўжэ нэ спа́ла і завіха́ласа ко́ло пэ́чы. Вона́ готова́ла е́жу.

- Сыно́к, посне́дай, - сказа́ла ма́ці. – Не, мам, мне ўжэ ў шко́лу трэ́ба.

Нэ ўспе́ла ма́ці огля́нуціса, як Міша ўжэ вы́бэг з ха́ты. Ёму́ трэ́ба было́ прыці́ сёго́ні пэ́ршым у клас і пока́ ніко́го нэма́, положы́ці квэткі на па́рту. Вон леце́ў як на кры́лах, сэ́рцэ ёго́ мо́цно білосо, вон ду́маў оно́ про ее́, про Шу́рочку.

Ну ось Міша і прышо́ў. У шко́лі было́ ешы́ ціхо, зна́чыт пока́ ніко́го нэма́. Успе́ў. Міша одчыні́ў двэ́ры ў свой 10 “Б”, ніко́го нэ было́. Вон подышо́ў до Шу́рыное па́рты, положы́ў на ее́ квэткі і ве́ршыкі, якіе вон склаў для Шу́ркі. Міша посэдзе́ў за ее́ па́ртою, а пото́м вы́шоў з кла́са, коб ніхто́ нэ ве́даў, шо гэ́то вон положы́ў гэ́тые проле́скі.

Потро́ху почалі ўжэ збіра́ціса ўчыцеля́ і ўчэнікі. Міша зашо́ў у клас. Ужэ́ мно́гіе однокла́снікі сэдзе́лі ў кла́сі і губіліса ў дога́дках, хто ж гэ́то прынёс квэткі для Шу́ры. Воны́ смэя́ліса, пыта́ліса вы́ясніці, хто ж са́мы пэ́ршы прышо́ў со́ні ў шко́лу. І тут появіласа Шу́ра. Усе́ одра́зу замо́ўклі, у кла́сі ста́ло ціхо. А ў Мішы, як оно́ вон ее́ ўба́чыў, мо́цно забілосо сэ́рцэ, вон опусці́ў о́чы і ждаў, шо ж вона́ бу́дэ робіці. Шу́ры і дога́дваціса нэ трэ́ба было́, хто гэ́тэ зробі́ў. Вона́ ве́дала одра́зу, бо Міша ўжэ нэ раз ёй говоры́ў, шо лю́біт ее́. Але́ Шу́ра ёго́ нэ любіла. Шу́ра ўзяла́ ве́ршыкі, порва́ла іх на малы́е кусо́чкі і ра́зом з квэтка́мі вы́кінула і вы́бэгла з кла́са. Міша сэдзе́ў за па́ртою нэподвіжно, опусці́ўшы го́лову і ду́маў: “Бо́жэ мой, за шо вона́ так зо мно́ю. Я ж хоце́ў, як лепш. Шу́рочка, мілая моя́, я нэ могу́ бэз тэбэ́ жыці! Ты для мэнэ́ одна́ ў све́ці! Я так тэбэ́ любю́! Бо́жэ мой, шо мне робіці?” У кла́сі было́ ціхо.

Гэ́того ніхто́ нэ ждаў.

Так Міша просэдзе́ў усе́ ўро́кі, нічо́го нэ чу́ючы і нэ ба́чачы. Со́ні быў найго́ршы дэнь у ёго́ жы́зні. І да́жэ ты́е пэ́ршые проле́скі, які́м вон так ра́доваўса зра́нку, вон больш нэ ба́чыў по доро́зі доха́ты.

**Літаратура**


1. Босак А.А., Босак В.М. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Фанетыка і марфалогія. – Мінск, 2005. – 94 с.
2. Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.
3. Крывіцкі А.А. Дыялекталогія беларускай мовы. – Мінск: Вышэйшая школа, 2003. – 294 с.

*Т.А.Грачыха*

# З ГАВОРКІ РОДНАЙ ВЁСКІ

Сярод гаворак Загароддзя гаворкі стрыгінскага тыпу вылучаны параўнальна нядаўна[1]. Яны вызначаюцца архаічнасцю, адметнымі моўнымі асаблівасцямі[2]. Пра гэта сведчаць дыялектныя тэксты, запісаныя ў вёсцы Стрыгінь Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Вёска Стрыгінь размешчана ў 4 км на паўднёвы ўсход ад г. Бярозы, непадалёку ад левага берага ракі Ясельды.

I. Мой дед Іва́н сто два́цэть лет прожы́в. Вон дохторо́в нэ знав, з зуба́мі помёр, вы́палі оно́ ку́тніе. Роска́звав гэ́то вон, шо лет тры́ста як была́ война́. Тут у нас проході́мая сторона́: на По́льшчу ішлі́ все во́йны. На́шэ сэло́ вы́рэзалі, шчыта́й, ніко́го тут нэ оста́лоса. На́шые мэста́ засэля́лі з Укра́іны, з Волы́ні. Мшарэ́ прозва́лі волынца́мі, і за́рэ іх волынцэ́ зову́т. Попкі́, му́сіт, з Ро́вэнское чы Жыто́мірское о́бласте.

Наш раён бе́дны, бо зэмля́ блага́я. А возьмі́ Дрогі́чын, Междуле́се: до войны́ по со́рок дэсэті́н ма́лі, се́ялі пшэні́цу – во жылі́! Сіхвіста́тор собіра́в пода́ткі за зэ́млю. Дэ́вэть дэсэті́н было́ в нас. Всю зэ́млю пэрэме́ралі, катего́рыі на ее́ установля́лі, і пода́ткі былі́ нэ одіна́ковые. Ба́тько платі́в тры́цэть злотых пода́тка. За страхо́вку удде́льно платі́лі. Мо́жно было́ жы́ті пры па́ншчыне: в па́на робі́лі, а як шо нэма́, пан дава́в бэспла́тно. В одного́ господара́ вол здох, то пан одпра́вів, коб выбіра́в сэбе́. Янук ка́жэ, шо колхо́зы – во гэ́то па́ншчына: робі задаром, ніхто́ ніц нэ даст. По́сле войны́ па́лочку в колхо́зі ста́вілі. В Голі́цах, в Здітові па́ня была́. В Стрыгі́ні лесні́чы Харчу́н быв. Пры По́льшчы дэ́рэво ко́ло зэмлі́ зрэ́звалі, коб гі́руша нэ было́. Жыды́ в па́на закупля́ют лес, пэрэпродаю́т. Быв па́нскі і казёны лес. Мы все валя́лі ёго́, дэнь выхо́дів чты́ры-шэсть зло́тых. До́брэ заробля́лі -- на сле́ді хвата́ло. Пі́лы былі́ шверца́рскіе фульто́нкі. Лесні́чы нас уважа́в. За ле́сом поля́кі догляда́лі.

Усёго́ в нас дэ́вэть коро́в было́, з іх шэсть до́йных. Колі́ сове́ты прышлі́ в тры́цэть дэвя́том, дава́й лупі́ті в людэ́й коровы́. Пять коро́в здалі́, а воны́ копе́йкі заплаті́лі. Пры не́мцах было́ чты́ры коро́вы. Огроно́м вызнача́в,

---

[1] *Л.В.Леванцэвіч.* Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці.Фанетыка. Ч. І, ІІ. Брэст, 1993.

[2] *Ф.Д.Климчук.* Диалектные типы Полесья // Слово и культура. Памяти Никиты Ильича Толстого. М.: Индрик, 1998. С. 118—135.

ко́му здава́ті коро́ву не́мцам. Тые платі́лі карбо́ванцы. Коб нэ здава́ті, зарэ́залі коро́ву. Оді́н конь быв у нас. В Серге́я Го́расёвого і в Барабано́в вышэ́йшэе по́ле. На тры коне́ посе́ют ёму́, пото́м друго́му посе́ют, пото́м на ніжэ́йшэе по́ле пэрэхо́дят. Ру́чну попорва́лі жы́та, овса́, ячмэ́ня, льну – ско́лько коп ста́вілі. Свінэ́й шэ́стэро было́, трыма́лі по чты́ры го́да, свінома́тка в нас была́ сем лет.

Моя́ сэстра́ Ве́ра за Павлюко́м была́ за́мужэм. Чты́ры коро́ві до́йных трыма́лі, свінэ́й ко́лько было́. Ха́та бля́хою была́ кры́та – кулако́м назва́лі. У сорокову́м году́ вое́ные прыехалі. Ве́ру з малы́м хло́пцэм і стары́мі в Новочэрка́скі раён одпра́вілі, а мужчын у я́му одра́зу – рострэля́лі. Ве́ра з Павлючы́хою е́лі з свіньмі́. Іва́на мале́нького повэзла́ туды́, а прывэзла́, колі́ ёму́ во́сем лет было́.

У войну́ не́мца боя́ліса, се́ялі по́ле, свое́ ма́лі. Обіра́лі у войну́ людэ́й. За Пе́скамі партіза́нэ стоя́лі. Пры́дут уночэ́, всэ забэру́т, ішы́ і людэ́й забіва́лі. У войну́ оді́н одного́ удава́лі поліца́ям, а не́мцы нэ чэпа́лі, поліца́і людэ́й забіва́лі. В Бэрэ́зі под кля́штэром, на Бро́ной Горэ́ жыдо́в і на́шых рострэ́львалі, в я́му звалі́лі. Зарэ́чэ ко́ло нас спалі́лі, але́ все в лес повтэка́лі. Не́мцы дава́лі се́яті, як град всэ побі́в. Пэдэся́т пудо́в ба́тько прывёз. Ніхто́ жы́та не́мцу нэ здава́в. Я быв у ла́геры на Бро́ной Горэ́. Там пяцо́т молоды́х чолове́к было́. Ніку́ды нэ по́йдэш, доха́ты нэ пуска́лі. На дру́гі год попро́сіса, то не́мэц дава́в про́пуск, одпуска́в. Обе́д у ла́геры дава́лі і буха́нку хле́ба дава́лі. В Герма́ніі то́жэ не́мэц на ду́шу буха́нку хле́ба дава́в. Коб про́пуск нэ вы́кінув свой, то, мо́жэ, гро́шы получы́в бы. За́рэ не́мцы мно́гім повы́платілі. Колі́ дітя́ там роді́лоса, то больш полу́чыт як ба́тько.

Шо ішы́ ве́тэ хо́чэтэ почу́ті? Нэма́шыка шо каза́ті. По охо́ті, по ле́сі всю жы́зню ході́в: на Гора́ву, Во́вчы Кова́лок, Па́нскі Лес, Во́вчэе, Во́вчы Мох, Загоро́дянэ, Панічо́ву Дэля́нку, Вэлі́кі Мох, Ба́тэвэ Боло́то, Чо́ртов Круг, Жыгуля́нку, Ду́дарову Пого́ню, Сты́рнікову Пого́ню – боло́то такэ́е было́. Бога́тые звёром былі́ мэста́. Вовко́в мно́го было́, воны́ нэ напада́лі, до семдэся́тых былі́ ры́сі, пры По́льшчы мэдвэ́ді былі́, але́ ма́ло. Мно́го было́ ло́сёв, кабано́в. В рэцэ́ Ясэльді я́зя было́ у́йма – аж вода́ кіпе́ла, гэ́так лопота́в. Бе́лый кара́сь, кра́сный кара́сь быв, зовёвса за́рэ. Лешчо́в было́ мно́го, шчупако́в мо́рэ. Як лопонэ́ шчупа́к, аж злека́е, по дэ́сэть-восемна́цэть кілогра́м ловілі. Мэнькі́, лінькі́, вюны́ -- му́ля кіпе́ла од іх. Мэнько́в за́рэ мэнтуза́мі зову́т. За́рэ вжэ і ні́якое ры́бы нэма́, оно́ шо ка́рпа завэлі́. А яка́я пры́рода была́: рыба всэ ле́то хо́діт, кры́ку на го́зэрах од качо́к. Лес на вэсне́ – аж во́здух шумі́т. Нэма́ тое́ пры́роды за́рэ. Сёго́нь пту́шкі нэ почу́еш. Всэ вы́травілі, всэ погі́бло. Наро́д ду́стом вы́травілі – во усе́х я́зьва ста́ла.

(Запісана ад А.С.Папко, 1923 года нараджэння).

II. Нéколі збірáліса в хатáх, кóло дэ́рэвца якóго собэрэ́мса, танцу́ем, сповáем. Коровы́ гóнят, а мы сповáем – э́хо ідэ́. Пры Пóльшчы собірáліса в клу́ні. Лежáт молоды́е, обдымáюца, але́ хлóпцы боя́ліса чэпáті дéвчыну. Од трыцáтых годóв нэ былó вжэ гэ́того. Котóрая дéвка нагуля́е, сэлó ее́ окíнэ, ніхтó нэ гля́нэ на ее́.

У трыцáтых годóв хлóпцы дóбрэ ходíлі: чóботы хрóмовые на свя́то, штаны́ галіфэ́ по-воéному. Потóм пóсле трыцáтых клёш носíлі. Пэ́ршая вы́пуска клёша – тры́цэть, потóм тры́цэть пя́ть, сóрок. Пóсле войны́ шы́лі на тры́цэть два сантімэ́тра. У постоля́х на косовíцу ходíлі. А на гуля́нкі надэвáлі костю́м, хрóмовые чóботы, сорóчку з гáлштуком. У тры́цэть дэвя́том, як прышлí ру́скіе, то дівовáліса.

На поку́дэле собірáліса в одноé дéвкі, в другóе. Кудэ́лю прадэ́ дéвчына, а хлóпэц сэдíт, говóрыт, забавля́е. Котóру ніхтó нэ провэдэ́, то про ее́ скáжут, шо ее́ нэ лю́бят і хустку ёй нэ помня́лі. У пáса грáлі. Івáн Пéвэнь грáе тáнца, а Івáн Штэ́лев, покóйнік, прыдумля́в поцолу́нкі: стáвіт у кутку́ дéвку, вы́тнэ ее́ пáском, тоды́ вонá выбірáе, когó поцоловáті. Гэ́так дáлей мэня́ліса. "Рэ́чэньку", "Страдáне" танцовáлі. "Лы́сого" танцовáлі і сповáлі: "Ой, чогó ж ты, лы́сы, бэз волóс остáвса? -- Бо рáно з дéвкамі остáвса". Зáрэ такíх тáнцов нэ танцу́ют.

Всэ ру́чно робíлоса. Пóсле войны́ ткáлі, шы́лі всэ. Горóх прáжылі пэ́рэд огнéм на бля́ху. Малéньку ры́бу пáрылі: кішэчкí, голóвкі одкідáеш, заворóчваеш (закрывáеш наглу́хо) і пáрыш – заворóтамі звáлі. Боб товклí на товканíцу, колí пáрылі. Сочэвíцу сéялі, упрэ́е – смáчно. Прóсо товку́т товкачэ́м, як у пэчэ́ упрэ́е. А на гáзі, шо зáрэ вáрым, ніц нэ прэ́е.

В жы́то нэ пускáлі дэтэ́й: там русáвка сыдíт, цы́цку жылéзну даé. Похóжа на вéдьму. Роспу́стіт кóсы – налекáе. Вовк хóдіт по жы́ті, дэтэ́й хватáе – боя́ліс дéті. Вэ́сёло жылí, сёнь нія́кое нэмá рáдості.

(Запісана ад М.С.Даміно, 1936 года нараджэння).

III. Як вэсэля́ прохóділі? Пры Пóльшчы і пóсле войны́ по стэгну́ з кабанá нэсэ́ш на вэсéле. У пэдэся́т пэ́ршом году́ на нáшэ вэсéле тóжэ былí стёгна. Родню́ клíкалі, троюрóдных тóжэ, потóм двоюрóдных стáлі клíкаті. Стёгна в бóчку склáдвалі. Буты́лку тóжэ брáлі з собóю. Дары́лі тóжэ. Молодóго дáрат у сэбэ́. Сваты́ до молодóе прыежáют – дáрат, коб купíті мéсто. До молодóго вэзу́т пры́данэ, трэ́ба тожэ́ подары́ті, коб купíті мéсто в молодóго. Там купля́ют і тут купля́ют. З шэсдэся́тых годóв гэ́того нэ стáло. Грóшы ішлí молоды́м. По рублю́ нам клáлі, хто і копéйкі кíнэ, хто скóлько полóжыт. Як Іванéц жэнíвса – Лю́бку брав, -- былó в трох мíсках мя́со ту́шанэ, квашэлíна, кíселю́ зробíлі з ягодьмí і гарэ́лка булá. Пры Пóльшчы гарэ́лка в магазíнах булá: буты́лка – два злóтых, лíтэр – чты́ры злóты,

чэку́шэчкі былі́. Хло́пцы в два́цэть оді́н год ішлі́ в а́рмію, раз у год пілі́. На бутылочку учэтыро́х скла́дваліса. Наро́д і нэ пів тоды́. Як ру́скіе в трыцэть дэвя́том году́ прышлі́, навучы́лі гна́ті гарэ́лку, навучы́лі і пі́ті.

По́сле войны́ жэніліса вжэ по любві́, а до войны́ нэ бра́ліса по любві́. Ба́тько кома́ндовав. На Ко́ляды, на Вэлі́кдэнь, на Тро́йцу е́зділі сваты́. Хо́чэ жэні́х жэні́тіса – дружка́ бэрэ́ і е́дут до дэво́к. Всю ноч мо́гут проє́здіті і нэ найті́. По дэ́сэть жэніхо́в за ноч моглі́ прые́хаті до де́вкі. Прыежа́лі то́ко но́чу. Пэ́ршы дэнь Ко́ляд – де́вка вжэ на ноч нэ роздэва́еца, ждэ. Дружо́к – з ручніко́м, з бу́лкою. Бу́лку кладэ́, знако́міца з ба́тькою, з ма́тэрою. Ба́тько пыта́е, ско́лько в жэніха́ зэмлі́, яка́я сэмя́. Жэні́х мовчы́т, бы на вэро́вцы прывэзлі́ ёго́. Де́вка сэді́т, гледі́т. Ба́тько нэ дозволя́е де́вцы за́муж выхо́діті, як жэні́х бе́дным ёму́ зда́вса. Як усэ́ до́брэ, то п́ют по ча́рцэ. Ра́нком собіра́ют род. Запо́іны в молодо́е, як сваты́ прыежа́ют. Молоды́ вэзэ́ п́ять-дэ́сэть лі́тров гарэ́лкі. Все собра́ліса, п́ют. Дружко́ догово́рваеца, колі́ бу́дэ вэсе́ле. Молоды́ свой род збіра́е, молода́я свой. Як молода́я і ба́тько пэрэду́малі, то молода́я за росхо́ды пла́тіт молодо́му грошы́ма. Як дэ́сэть лі́тров вы́пілі гарэ́лкі за со́рок зло́тых, то сто́лько і запла́тіт.

(Запісана ад М.В.Папко, 1930 года нараджэння).

# ПЕСНІ СОФ'І СЯЛЯЎКА

Песні запісаны ў чэрвені 1979 г. у вёсцы Кухты Вязынскага сельсавета Вілейскага раёна ад Соф'і Канстанцінаўны Сяля'ўка (Селя'ўка), якая нарадзілася ў 1901 г. Інфарматар свае песні не спявала, а проста пераказвала. Гэтым яна набліжала іх да мясцовага вымаўлення. З моўнага боку тэксты песень не аднолькавыя. Пераважаюць старадаўнія мясцовыя народныя песні. Яны адлюстроўваюць традыцыйную гаворку вёскі Кухты, у той жа час у іх ёсць і фальклорнае "аздабленне", а часам і ўплыў старадаўняй кніжнай мовы. Ёсць песні больш позняга паходжання з пэўнай колькасцю русізмаў, часам даволі значнай. Нарэшце, ёсць песні "звычайныя" рускія, але ім характэрна тыповае беларускае вымаўленне цэнтральнай Беларусі. У гэтых адносінах яны адлюстроўваюць рускае маўленне беларусаў рэгіёну.

№ 1
Ся́ння Купа́лле, зо́ўтра Ян;
Бу́дзе, хло́пчыкі, лі́ха вам:
Ай лі́ха, лі́ха ліхо́е:
Паго́ніце су́чкі ў по́ле.
Бу́дзеце су́чкі даі́ці,
К Пятру́ сы́ры рабі́ці.

№ 2
Ой гу́лі, гу́лі, дзе́вачка,
Па ўсі́х ву́ліцах гуля́ла,
Усі́х малайцо́ў га́ніла,
То́лька аднаго́ хвалі́ла:
«Ой харо́ш хло́пец у кве́це,
Нема́ тако́га ў све́це;
Ці ня со́ўнейка радзі́ла,
Ці ня ме́сячык гадаво́ў,
Ці ня ве́трычак калыхо́ў,
Ці ня зо́рачкі забаўля́лі.»
«Ні про́ўда ва́ша, дзе́вачкі, –
Радзі́ла мяне́ ма́мачка,
Гадаво́ў мяне́ та́тачка,

Забаўлялі мяне́ дзьве сястры́,
Калыха́лі мяне́ два браты́.
Калышьі́це, бра́тцы, вышэ́й гор,
Кап я уві́дзеў цясцёў двор,
Дзе мая́ дзе́вачка гуля́я,
Шалко́вай ху́стачкай маха́я.»

№ 3
Ой у по́лі, ў по́лі бяро́за стая́ла,
А на тэй бяро́зе зязю́ля куку́е.
Йіна́ кукава́ла, ўсю про́ўду каза́ла:
«А едзь жа, сыно́чак, ты там не бадзя́йся,
На другі́м гадо́чку наза́д варо́чайся».
Ужо́ год прахо́дзе, другі́ наступа́е,
Ма́тка свайго́ сы́на з во́йска ажыда́е.
«Здра́ствуй, здра́ствуй, ма́ма, ці ра́да ты мно́ю,
Ці ра́да ты мно́ю мае́ю жано́ю?»
«Ра́да я, сыно́чак, ра́да я табо́ю,
То́лька я не ра́да твае́ю жано́ю.»
Ма́тка сваймý сы́ну дала́ пі́ці-е́сці,
Чужо́й-чужані́не – на паро́зе се́сці.
Дала́ ма́тка сы́ну зялёнага ві́на,
Чужо́й чужані́не го́ркую атру́ту.
Сын зялёна ві́на пад ко́ніка вы́лляў,
Го́ркую атру́ту ён напала́м вы́піў.
Ня ўме́ла ж ты, ма́ці, на́мі пасыла́ці,
Ці суме́еш, ма́ці, ты нас пахава́ці
Пахава́ла сы́на ўсё ля цэрка́вы,
Чужу́ чужані́нку усё за цэрка́вай.
Пасядзі́ла па сы́ну зялёны дубо́чык,
А па чужані́не бе́лую бяро́зу.
Яны́ раслі́, раслі́ ды пахілі́ліся,
Чэ́раз цэ́ркаву й сашчапі́ліся.
А з іх усе́ лю́дзі падзіві́ліся,
А што на тым све́це палюбі́ліся.

№ 4
Цякла́ рэ́чка с-пад млынэ́чка,
А друга́я с таго́ кра́я.
Была́ ў ма́ткі адна́ дачка́,

Іна́ была́ праму́драчка,
Павіла́ ў Дуна́й паіць каня́.
Яе́ ко́сю сапе́, храпе́,
Із Дуна́я ва́ды́ не п'е
І за Дуна́й пагляда́я.
Там каза́кі ў ка́рты йгра́юць,
Дзяўчы́начку праклiна́юць:
"Ці пае́дзеш ты із на́мі
Да і з на́мі, казака́мі?
У нас рэ́кі мядо́выя,
У бе́разе сады́ вішнёвыя."
"Ой ні про́ўда, каза́чанькі,
У вас гэ́дак, як у нас.
У нас рако́й вада́ ляці́ць,
У бе́разе лаза́ цьвіці́ць.»

№ 5
Зажыда́ла ма́ччыха
Баравы́х яго́дачак
І крыні́чнай вадзі́цы.
Пасла́ла сіро́тачку
Да ў бор па яго́тку,
У крыні́цу па вадзі́цу.
На дварэ́ сміркае́цца –
Сіро́ткі з вадо́й німа́.
Ой пашо́ў тату́лечка
Каля́ лукі́, каля́ ракі́,
Ву́тачкі страля́ючы,
Сіро́ткі шука́ючы.
Кап яе ваўкі́ зье́лі,
Усе́ п лясы́ зашуме́лі,
Кап у мо́ра ўтану́ла,
Усё п мо́ра скалыхну́ла.
Там стая́ла ялу́шачка,
А пат тэй ялу́шачкай
Там сіро́тка пла́кала,
Пла́кала-прымаўля́ла,
Ма́мачку разбуджа́ла:
«Ды ма́мачка ро́дная,
Ды ўстань раню́сенька,

Умы́й мяне́ бялю́сенька,
Учашы́ гладзю́сенька.»
«Ды дачу́шка мі́лая,
Ёсць у цябе́ ма́ччыха,
Хай устае́ раню́сенька,
Умыва́е бялю́сенька,
Учэ́ша гладзю́сенька.»
«Ды ма́мачка ро́дная,
Не дай Бо́жа ма́ччыха.
Як зачне́ мяне́ часа́ць,
Аж мае́ ко́скі трашча́ць;
Як сце́ле пасце́лечку,
Яна́ мяне́ праклына́е,
Каб но́чкі ні даспа́ла
І друго́й ні дажда́ла;
Як дае́ кашу́лечку,
Іна мяне́ праклына́е,
Кап гэ́тай не знасі́ла,
І друго́й не прасі́ла».

№ 6
Цякла́ рэ́чка бы́страя,
Там вада́ хало́дная;
Там каза́к каня́ паі'ў,
Ён сваю́ жану́ тапі́ў.
Жана́ ў яго́ прасі́лася:
"Ні тапі́ мяне́ удзе́нь,
Ні смяшы́ сваі́х людзе́й;
Тапі́ мяне́ супо́лначы,
Як мае́ дзе́ткі паснуць,
Па мне пла́каць не бу́дуць».
А прышо́ў жа ён дамо́ў –
Пыта́юцца дзе́тачкі:
«Ах ты суда́р-ба́цюшка,
А дзе ж на́ша ма́тушка?»
«Пашла́ ж ва́ша ма́тушка
Ў шчы́ры бор па яго́ткі,
Па чо́рныя смуро́ткі.»
Пашлі́ дзе́ткі, ска́чучы,
Ма́тку перайма́ючы;

Увíдзелі плывучыí,
Ідýць дамóў, плáчучы.
«Ах ты судáр-бáцюшка,
А ўжо ж нáша мáтушка
У віры пат калóдаю,
Пад бéлай бярóзаю.
Цíха, дзéткі, не плáцце,
Я вам мáтку прывядý
Прыкрáсную, маладý.»
«Наштó ш нам чужá мáці,
Йінá нас бýдзе біці,
А мы бýдзем плáкаці,
Тýю спамінáючы,
Гэ́ту праклынáючы.»

№ 7
Маладáя дзéвушка
За Дунáй зáмуш пашлá,
Багáтага сьвéкра найшлá:
Лікайí ў пéчы тóпюць,
Кухарыí éсьці вáруць,
Вýтачка на стол несé,
Селязéнь гасьцéй завé.

№ 8
На балóце касéц кóсе,
Да, прылёгшы, галóсе:
Ці ягó касá тýпа,
Ці ў ягó жанá скýпа.
Ў ягó касá не тýпа,
А ў ягó жанá скýпа:
Прынясла́ палýдняваць
Хлéба скарыíначку,
Цыбýлькі пярыíначку,
А сóлі драбíначку.

№ 9
У барý, барý зязюля кукýе.
Па мне маладóй ніхтó не бядýе:
Па вадзíцу йду бóсымі нóшкамі,

Вадзі́цу нясу́ – лію́ся слёскамі.
Хай ба ма́мачка на свет не радзі́ла,
Хай бы ты мяне́ ў мо'ра ўтапі́ла.
Ле́пей мне было́ ў вадзе́ бурава́ці,
Як мне маладзе́ ўсю жызь гарава́ці.

№ 10
Спі́ўся каза́к, спі́ўся,
На дом свой забы́ўся,
Каню́ варано́му
На гры́ўку схілі́ўся.
«Ой ко́сю мой, ко́сю,
Ко́сю варане́нькі,
Прада́м цябе́, косю,
За ме́лкія дзе́ньгі,
За ме́лкія дзе́ньгі, за тале́р бяле́нькі.»
Ох там на Дуна́ю сестра́ пла́цьце мы́ла,
Сістра́ пла́цьце мы́ла, з бра́там гавары́ла:
«Адда́й мяне́, бра́це, адда́й мяне́ за́муж
У но́вую дзярэ́ўню, ў бальшу́ю сяме́йку,
У шыро́кую по́стаць і ў чужу́ю во́лась.
Па но́вай дзярэ́ўні люблю́ пахадзі́ці,
І з бальшо́й сяме́йкай люблю́ гавары́ці,
Ў шыро́кай по́стаці люблю́ жы́та жаць,
А ў чужу́ю во́лась люблю́ лісты́ (пісьмы) слаць.»
Жыла́ сістра́ гадо́к, жыла́ сістра́ другі́,
На трэ́ці гадо́чык шле бра́ту лісто́чык.
Брат лісто́к чыта́е, слёзкі праліва́я.
«Во цябе́, сястры́ца, но́вая дзярэ́ўня,
Но́вая дзярэ́ўня, бальша́я сяме́йка,
Шыро́кая по́стаць і чужа́я во́лась.
Па но́вай дзярэ́ўні чаму́ ты не хо́дзіш,
З бальшо́й сяме́йкай чаго́ не гаво́рыш,
С шыро́кай по́стаці чаму́ жы́та не жнеш,
А ў чужу́ю во́лась чаму́ пісем не шлеш?»
Заўвага інфарматара: по́стаць – шнур жы́та.

№ 11
Як паехаў каралёнка
На паляванне,

Пакінуў Марусіцу
На гараванне.
Ажно яго Марусіца
Сына радзіла
І спавіла ў пялёнушкі,
Ў Дунай пусціла.
«Плыві, плыві, мой сыночка,
Так як вутачка,
А я цяпер маладая
Луччэ дзевачкі.»
Туды мы йшлі, туды мы йшлі,
Рыбалоўнічкі,
Закінулі шалкоў неват
Рыбачку ўлавіць.
Ні злавілі рыбы-шчукі,
Сплавілі льна,
Разьверцелі, паглядзелі –
Аш мало дзіця.

№ 12
А за рэчкай, за ракой,
За халоднаю вадой
Жыла–была удава;
Яе дочка хараша
Супалноч гуляць пашла.
Яе маці шукала,
Афіцэра спаткала.
«Афіцэрык маладой,
Ці ня відзіў доч маю?»
«Відзіў, відзіў доч тваю
У Варшаве пад вянцом (2 разы),
І з харошым малайцом.»

№ 13
Каля рэчачкі бярэзнічык,
Там плавала шэра гусачка.
«Гыля, гыля, шэра гусачка, з вады,
Ці ты яшчэ ні наплавалася?
Я молада ўжо наплакалася,
Што мой мілы горкі п'яніца;

У карчо́мцы распіва́ецца,
Пры́дзе дамо́ў, разбіва́ецца,
Кладзе́цца спаць ён паперо́к ло́жы,
Застаўля́е раззува́ць, раздзіва́ць,
Дро́бны ґу́зічкі расшпі́ліваць.
Як пашо́ў жа ды мой мі́ленькі у клець,
Як прынёс жа ён раме́нную плець;
Як зачо́ў жа памі́ж пле́чак мне сеч.
«Бу́ду, бу́ду цібе́, мі́лы раззува́ць,
Дро́бны ґу́зічкі расшпі́ліваць.»

№ 14.
Зацьвіце́лі сі́ні я́гады ў бару́;
Пашлі́ дзе́вушкі ў яго́душкі.
Заблудзі́ла кра́сна дзе́ўка у лесу́,
Сама́ се́ла ў круто́м берагу́,
Сваé по́лы раскіда́ючы,
Перавóзніка чака́ючы.
«Перавóзнічак, ты па́рэнь маладо́й,
Перавязі́ кра́сну дзе́ўку мало́ду
То на пра́ву, то на ле́ву сто́рану.»

№ 15 (Жні́ўная)
Со́нца за лес захо́дзіла.
Ма́ці до́чку право́дзіла,
Право́дзючы, пыта́лася:
«Чаму́, дзіця́, з ліца́ спа́ла?»
«Да ма́мачка ро́дная,
Ні пыта́й майго́ ліца́,
А пыта́й майго́ жыцця́.
Ні хвар́эла ні нядзе́лькі,
Ссушы́ў муш маладзе́нькі.
Ця́шка по́лю біз каме́ння,
Мне маладзе́ без пляме́ння;
Ця́шка са́ду бес цвато́чка,
Мне маладзе́ без брато́чка.
Ў мяне́ та́тачка начаво́ў,
Вышэ́й ако́нца пасце́ль сло̀ў.
«А як бу́дзе світа́ці,

Бу́ду я ад'яжджа́ці.»
«Пабу́дзь, та́та, да світа́ння.»
«Дзя́куй, дзіця́ – дасвіда́ння.»

№ 16
Вот у на́шага купца́
Была́ до́чка ву́мніца:
Па го́радзе хадзіла,
Двох ку́пчыкаў любіла (2 разы),
Двох сыно́чкаў радзіла (2 разы),
Іваню́шу й Васіля́.
Сама́ ба́бушкай была́,
Ў пялёнушкі спавіла́ (2 разы),
У ціхі Дуна́й занісла́.
«А ты ціхі Дунаёк,
Ты кармі маіх сыно́ў (2 разы),
Да сімна́ццаці гадо́ў.
На сімна́ццатым гаду́
Пашла́ дзе́ўка па ваду́.
Размуціла ваду́ брацкь,
Стаў кара́бель выплыва́ць.
А ў тым жа карабцы́
Два ўдалы́я малайцы́.

№ 17 (Гэта жарто́ўная, вясе́льная)
А было́ табе́, было́ ў сва́ты ня е́хаць,
А было́ табе́, было́ табе́ гваздо́чкі часа́ць,
А было́ табе́ калы́сачкі чапа́ць,
А было́ табе́, было́ табе́ байструкі калыха́ць.

№ 18
Ехалі каза́кі грумадо́ю,
Абманілі Га́лю, ўзялі за сабо́ю.
«Ой ты, Га́ля, Ґа́ля, ты заўлёка,
Заўліка́ла ты мяне́, сама́ жыве́ш далёка.
Ці пае́дзеш, Ґа́лю, з на́мі, казака́мі?
У нас бу́дзе ле́пей, як у ро́днай ма́мы:
У ма́мы ты е́ла, е́ла хлеп аўся́нный,
А ў нас ты бу́дзеш е́сьці пытлява́ный;
У ма́мы насіла да ты ла́пці з лы́кі,

А у нас ты бýдзеш насíць чаравíкі;
У мáмы насíла сукéнкі латáны,
А у нас бýдзеш насíці вышывáны.»

№ 19
Гуля́ла Мáшанька па садóчку
Укалóла нóжаньку на вішнёчку.
Балíць жа мне нóжачка, да не бóльна.
Любіў пáрань дзяўчынáчку,
Ды не дóўна.
Забірáюць парнíшачку у салдáты,
Забылася дзяўчынáчка папытáці
"А ці зáмуж мне ісцí, ці гуля́ці?
"Гуля́й, гуля́й дзяўчынáчка, як гуля́ла,
Тапчы́, тапчы́ чаравíчкі, як таптáла,
Сцялí, сцялí пасцéль бéлу, як ты слáла;
Ні кажы́ ты хлóпцам прóўды, як казáла –
Яны́ тваю пасьцéль бéлу параскíнуць,
Яны́ цябé любíць бýдуць ды пакíнуць.»

№ 20
А я жаль мáю на свайгó аццá:
Ажаніў мяне́ малалéтняга,
А ўзя́ў жóнку непамыслу[а]ю,
Непамы́слаю, некары́снаю:
Ня бéла ліцó, ня чóрны брóвы.
«Залажы́, ацéц, вараны́ кóні,
А паéдзем мы ў Кітáй-гóрад,
У Кітáй-гóрад за пакýпкамі;
Мы кýпім карáп хоць за сто рублéй,
Хоць за сто рублéй с палцíнаю,
Пасаджý жанý і з дзяцíнаю,
А пушчý карáп у сíня мóра,
А сам пайдý упярóт глядзéць,
Упярóт глядзéць, як карáп ідзéць.
Карáп ідзéць, аж вадá равé,
А жанá сядзíць, як зарá гары́ць,
А дзяцíначка, як малíначка.
Прападáй, карáп, хоць за сто рублéй,
Вярнíся, жанá, ты дамóў скарэ́й,

Хоць за сто рублéй і з палцінаю,
Вярніся, жанá, і з дзяцінаю.»
«Не вярнýся, муш, не вярнýся, злой:
Ўчóра звечóра і с кахáнкаю,
Сегóня рáна із нагáйкаю;
Чóрна нагáйка міш плеч шумéла,
Бéла кашýлька ат крыві шчарнéла.»

№ 21
Спóмню, спóмню цябé, маць,
Как меня́ любіла,
І не раз, і не два
Ты мне гаварыла:
«Ні шатáйся па начáм,
Ні гуля́й з варáмі –
Цібé ў кáтаргу сашлю́ць,
Скую́ць кандалáмі;
Вóлас длінный твой густóй
Збрóют да самóй шыі;
Прападзёш ты ў кандалáх
На сібірскіх тáйнах.»

№ 22
«Ты ня едзь, мілы, ў Расéю,
Там чужáя старанá,
Цябé яўрэячка палю́бя,
Забýдзеш, мілы, пра меня́.
Ты, мой мілы, уяжджáяш,
Забяры міня́ с сабóй;
Ты бýдзіш радавым салдáтам,
А я міласэрнаю сястрóй.
Цібé, мой мілы, крэпко рáняць
І да шпітáлю прывязýць;
Я тваі рáны пірамóю,
Бéлым бінтóм перавяжý,
На мéста пухавóй падýшкі
Я прáву рýчку палажý.»
Назнáчыў міленькі свідáння
На тэй дарóшке сталбавóй.
Прыхажý я на свідáнне –

Мілы гуля́л із друго́й.
«Гуля́й, гуля́й, нячы́ста сіла,
Гуля́й, гуля́й, нячы́сты дух,
От січа́с жа я узна́ла,
Што ты мой няве́рны друх.»

№ 23
По́зна з ве́чара стая́ла я ў варо́т;
Вот сматру́ – стралко́вай полк сюда́ ідзёт;
Пе́рад ім жа пан пару́чык маладо́й:
«Напаі меня́, краса́віца, вадо́й.»
Напаі́ўшы, крэ́пка ру́чаньку пажа́л,
На сьвіда́нейко абня́л, пацэлава́л.
Лет семна́щцаць я удо́вушкай была́,
Чатыро́х сыно́ў ў салда́ты аддала́,
Сы́на пя́тага не ўсьпе́ла я адда́ць;
Вараці́лся той стралко́вый полк апя́ць;
На кварці́ру к нам зае́хал каміса́р,
Ў яго́ го́лава пабі́та сатіно́й.
Аш тот са́мы, што паі́ла я вадо́й.
Заўвага інфарматара: сацінá – такáя трóстачка.

*Л.П. Кунцэвіч*

# З ГАВОРКІ в. КРЫВАЛЬ ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

У Васіля (суседа) пчолы былі. У старога, у бацькі яго, бы́ла сто калот, сто сямей. У трыццаць первам гаду, кагда калхоз арганізоўвалі, двацяць сямей яму аставілі, а астальные абагулілі.

– А куды ж яны мёд дзявалі?

– Яго ні было, таго мёду. Што ён у калодах, у калодах жэ ні прагледзіш. Раі толькі ловіць цэлае лета. А яны за зіму пагібнуць. А тые, што раі дадуць, ужэ ш мёду ні дадуць. Ён падглядае, ужэ падрэзвае, кажды гот іх падрэзвае ў апрадзялённам месце, а церас тры го́ды лезе ў галаву, ужэ галаву падрэзвае. Дак ужэ, калі гало́вы тые падрэзвае, дак там бывае мёт. Як сакрашчае на зіму гняздо, дак ужэ атрэжэ лу́стак сколькі з вашчынай, накалупае тых кускоў. Церас каждые 2—3 годы трэба зьмяніць вашчыну ўжэ зьверху, амаладжваць трэба, зьверху усягда вырэзваў вясною, як перазімуюць.То яны, пака перазімуюць, то зьядзяць той мёт. Колькі там астаецца яго? Ён жа за лета, бывала, па трыццаць раёў лавіў. А яны ўсе пагібалі. У іх ўсё ўрэмя ў калодах пчолы былі, і ўжэ й после вайны. А мёду ні было.

Я першы гот як завёў ужэ пчолы, дак я завёў ужэ ў ра́мачных на зіму ў мяне дзьве сям'і было. А вясной зьдзелаў трэці вулей. Зайшлі Васіль с Хведарам: "Во, захацеў у каробцы мёду наесціся". А я кажу: "Пабачыш, у мяне будзе мёт, а ў цябе – не".

У канцы мая я ўжэ магазі́ны паставіў. Пастаяў магазін дней мо пятнаццаць, і я аткатáў сразу мо чатыры банкі мёду. Опшчым я с аднаго ву́лля аткатаў підзісят кілаграм. Медагонкі ні было сваёй, насіў тут к аднаму.

Увосень Каця, жонка Хведара таго, што смяяўся, пытае: "Ну як твая Сонька раёў трохі налавіла?" А я кажу: "А нашто тыя раі?" – "Во, а я дзесяць райкоў злавіла сяголета. – "А сколькі ты мёду накатала?" – "Во, ён захацеў мёду, ето ш увосень глядзяць мёт" – "Дак ужэ ш восень. Мая Сонька райкоў ні лавіла, а ўжэ аткатала підзісят кілаграм мёду. А шчэ магазіны стаяць".

А адзін вулей – калоду, я завёз (там шчэ лес быў бальшы за градамі), дак я за канавай еты вулей усцёг на хвою. І мне сразу ж і рой сеў. І ўжэ тры сям'і ў мяне к восені аказалась. Я зноў зьдзелаў рамачны вулей, да паехаў туда с этым ву́ллем. Канём завёс, да й перагнаў пчол. Да й прывёз дадому. То два разы хадзіў у лес: апсядуць калоду во так шапкай, да й сядзяць. Дак я ў

каробачку іх, прынясу, да й зноў сюды. А яны як паляцяць за ўзяткам, то зноў у калоду ляцяць.

А раз с суседзямі ў нас шуміха была. Вышаў рой і сеў на Васілёву яблыню. Соня адзелася і пашла палівать і абабрала рой. Тут Васіль прышоў, шуміху такую падняў: "Сэ мой рой абабралі". А ў яго тут пат хатай тожэ калоды стаялі. Мы трохі пагаварылі, да й сьціхлі, бабы вельмі ругаліcь, адна другой праклёны дзелалі за еты рой. А я, як высыпаў рой у свой вулей, дак тые пчолы, што атляцелі, усе на мой вулей упалі. Я Васіля нарочно зваў, дак ні пашоў глядзець. Такі ўпрамы. Калі, гавару, быў бы твой рой, то ўсе пчолы на твой бы вулей упалі.

Я бальным людзям усягда мёт даваў. Ужэ цяпер, Воля, жонка Васілёва, кажэ: "Як это ты даеш мёт бальным?"

– А мы ш колісь ні давалі. Давалі, ну, толькі ні так, як ты даеш. У нас была атдзельна сям'я, с атдзельнай сям'і мёт астаўлялі, штоб бальному даць.

– А чаму?

– Абязацельно пчолы пагібнуць, еслі дасі мёт бальному, а бальны памрэ.

– Кап усе пчолы паміралі, еслі дасі бальному, а ён памрэ, то ўжэ ні было б пчол. Хто ш купляе на базары? Толькі для бальных купляюць мёт. То, што паміраюць пчолы, то это да, толькі ні па этаму. А, бывае, ні дагледзіш, ці матка прападзе, ці ні хватае кармоў, ці расплод ніўда́лы.

Раз мае чуць усе ні пагіблі вясной. Але я угледзеў, што ўжэ расплоду поўные вуллі, а мёду німа і холад, дак я заліў па кілаграму сіропу. Дак яны вышлі харошые, а хто ні дагледзеў, то пагіблі з галаду. А бывае адна сільна сям'я дась два раі за лета, а маладая матка аста́нецца на восень, да ўжэ расплоду ні дась. Дак яны й пагібнуць, бо слабые. Во і ў нас, каторые далі раі, мажэ́ ўжэ ні напладзіць і мажэ й пагібці. У аўгусце месяцы холад ужэ пачаўся, маладая матка ўжэ мала наплодзіць. А бывае, і ў сенцябры шчэ плодзіць, еслі цёпла. Але ў аснаўном у сенцябры ўжэ німа етых маладых лічынак. У начале аўгуста магазін снімеш, а шчэ носяць у гняздо, па пятнаццаць – чаты́рнаццаць гнездавых рамак трэба нанасіць мёду. Адзін гот у мяне было многа сямей. На Прася́нум просо пасеялі, ўсё гэта балота на скос, на сілас. Позно пасеялі, дак яно ў сенцябры цьвілі краскі. А якіе? Гарчаку́ нарасло. І так бралі харашо з гарчаку́ гэты мёт, быў мёт горкі. А тут усё это балото было пасеяно падсолнухом і кукурузай. Дак падсолнуха расьцьвіла, шчэ, наверно, й віка тут была пасеяна, красак разных нарасло. Ну ўсё балота зацьвіло, адно й другое. А да палавіны сенцябра было так цёпла . Я мо пятага чысла (жніўня) зняў магазіны, яны нанасілі мёду поўные гнёзды. Я вынімаў рамкі і ставіў пустые. І сняў тады я мо семдзісят з лішнім рамак полных із

мёдам, закрытые. Два шкафы было, усе з мёдам рамкі. Мёду было навалам, ні было куды дзяваць. Было тады ў мяне васімнаццаць сямей, ну й тады, я бы сказаў, пчолы так ні раілісь, як цяпер. Ну але пчольнік там далёка шчэ стаяў, хто іх вельмо бачыў.

Запісана ад Кунцэвіча Антона Цімафеевіча 1915 г.н. у 2002 г.

*В.М. Курцова*

## З ГАВОРКІ НЯСВІЖСКАГА РАЁНА

Ай, дзеткі, я ста́ра. На Міколу перад Колядамі будзе 82 гады, пойдзе 83. Можа ужо памру да Колядаў. Ужэ, ведаеце, не магу нічога дзелаць. Ганяе, як устану, ганяе. Каб не трымалася за што, дык упала. Была што эта нага аднялася. Стаяла во так во. Ляжала у бальніцы. Цэлы гот лячыла ногу. Яна мне і сёння баліць. У сьпіну як пачне даваць, дак днімаецца сьпіна. Цяпер во была забалела прошлую зіму у пяце, не магла стаць на пяту. То я парыла, ванны во з гэтае картошкі (тапінамбура — В.К.), што сядзіць у агародзе, рабіла. І сь сена перш парыла. Трошкі лепш. А як стала парыць картошкай, мне памагло. Але ўсё роўна як пахаджу-пахаджу, так чую: там папіквае, паколвае у пяце. Паколвае чутна, але раней не магла ўстаць. Тока ўстану і скачу.

Мяне гне да зямлі. Як пахаджу — адагне трошкі. У мяне тут круп выперла гэты с пазваночніка. Гэты во нічога, а гэты тырчыць. Вот яна, нага, і баліць у мяне ат тога. Гэту ногу атняло.

— Адгэтуль во, — сказалі урачы, — выйшаў нэрв.

А яго назад не загоніш... А нэрвы? Дванаццаць гот хварэў. Дванаццаць гот стаяла стойма. Стаіш і наравіш і ні ўнаровіш. То не гэтак падасі, то не гэтак што. Вядома: хворы — ненавісны. Але потым усё роўна, як уміраў, казаў:

— Ты то міне глядзела. Ні знаю, хто цябе будзе глядзець. Усяго пражыла́.

Да адна у хаце, да работы па вушы. Паплачу-паплачу да ўсё роўна... І сена на мне, і каровы, і сушыць трэба было, і прывезьці трэба было. Вот вам і нэрвы разышліся. А вып'е, то прыйдзе, яшчэ і матам нагне. Усяго было у жызьні.

Патом на апендыцыт рабілі у шэ́йсят гот апэра́цу. Глухавата стала. На адно вока не бачу. Ужо і прошлы гот не бачу. Цяпер цёгаецца во троху нага. Трэба цёгацца. Як ногі тупаюць трохі, дык і тупай.

Маладые балеюць да ўміраюць...

А так. Вот дачка прыехала, будзе даглядаць мяне. Эта ужэ дочка пашла на пэнсію, ёй пійсят чатыры года. Яшчэ гот робіць, але яе атпусцілі, бо я ж адна. Стары быў мой інвалід. Ён быў ранены. Рука бы яго з вайны... Пальцы во, не адгіналіся. Была у яго рана вялікая, косьць даставалі. Мужык хварэў дванаццаць гот. Вядома, быў на вайне, да

ранены. Ды па сьнягу... цэлых чатыры годы. Ужэ яму будзе на Пакровы дзесяць гот, як памёр. Посьле мяне тады вызвалі ў райсабез, пэнсію мне яго да́лі, інваліндская.

Я адна была ў хаце. Дзесяць гот адна. Цяпер во сьмялей жыву. Дочка прыехала. А як адна, так замкнуся ды ляжу. Думаю: можа й не ўстану да дня. Буду ляжаць тут замкнёна. Ніхто ж не ходзіць. Тут чалавека не ўгледзіце. Гэта цяпер да дных дзеце прыехалі, двое унукаў. То яны праедуць па сяле, а так не́ма. Усе ста́рые. Але прыяжджалі даўней і ка мне унукі, што былі ма́лые. Цяпер ужэ прыжаніліся і праўнукаў прыждала. Гэта во ужо праўнукі і у сына праўнук. А у самой было чацьвёра у мяне дзяцей. Але... Аднаго забілі у Слуцку, ён быў у ваеншчыне. Ішоў увечар дадому і забілі. А другі у Семіпалацінску. Німа зьвесьцій ад таго. Прапаў, а двое асталося. Самы сын малодшы і дочка. Дочка сюды прыехала. Яна таксама здароўя не мае. Была на балонах, дзе гэта робяць краску. Та паўліяла на здароўе. Вот у міне, бо я хадзіць не магу. Кажа: памрэ мама да бачыць не будзем. Тут жа у нас гэтака дзярэўня... Ну хат колькі, а людзей няма. Памрэш, дак будзеш ляжаць, чэрві пойдуць. Ніхто ж не йдзе. Ніхто-ніхто... Во цэлы дзень прасяджу, а ці пройдзе па вуліцы хто.

Раней тут было многа людзей. Дык польскіе, як прыйшлі Саветы, павыезджалі. На хутарох — былі кругом хутары, тут і там, — яны жылі. Багатые. Зямлі было тут многа. Людзей. Адно асталося дзьве хаці тут польскіх. А потым панаяжджалі сюды перасяленцы с Польшчы. Во тут жыве адна жанчына с Польшчы. Стара́я тожэ. Адна ў хаце. За нашай хатай другая, а яе трэця хата, упапярок стаіць. Стара́я хоча выяжджаць да сына ў Расію. Балея таксама. Задышка вяліка.

Каторые ў Польшчу павыяжджалі, гаворាць па-польску. Во прыяжджалі, тут касьцёл зрабілі. Ксёндз прыежджаў. Гэта ужо дзьве нядзелі, што наехала было с Польшчы. Аўтобусы бальшые такіе. Хадзілі, глядзелі, дзе й іх хаты былі, дзе што. Яны і тады па-польскі гаварылі. Гаварылі самі сабе, як тут жылі, па-рускі. А як с кім дзе гаворыць, калі там хто прыедзе, дык ужо па-польскі. І цяпер во прыяжджалі, па-польскі гавораць. Жывуць там даўно, дык чаго не гаварыць. А як с кім, во ужо старой гэтай, намі, дык па-дзеравенскі. А ўсё раўно язык варочая.

Запісана ад П.В. Макаўчык 1918 г. н.,
в. Пляшэвічы, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

*******

Я у бацькоў адна была, а чатыры хлопцы. Мяне шкадавалі. Бывала ісьці некалі на ноч не пускалі бацькé. Дык ужэ на танцы было блізенька ісьці. Прашуся у бацькоў, на танцы хочацца, дык матка:

— Не пушчу, не пойдзеш і ўсё.

А ўжо падыдзе ціхенька ацец:

— Ай, хай пойдзе, хай пагуляе, да тут недалёка.

Я кажу:

— Мамачка, я доўга не буду, вот гадзіны у дзве прыдзем. А ён заўсёды мяне атпускаў, бо шкадаваў міне. Я і замуш ішла, то ён плакаў, хаця б кап добра было. Але усяго было. Як вып'е, то усяго было.

Запісана ад П.В. Макаўчык 1918 г. н.,
в. Пляшэвічы, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

*******

Маладая я у калхозе рабіла. Усё жыццё. За Польшчу жыла. Сваё поле было у бацькі. Бедные былі мы. Хадзілі да пана на работу. Жылі паны... Я у Смо́ліч жыла. Шэсьць кіло́мэтраў адгэтуль. Хадзілі на работу. Пойдзеш, заробіш злот. А як вырабатку дасьць, вырабіш вырабатку, і два злотых палучыш. Сукеначка будзе якая сітцавая. Во як было. Поле мала было, а нас чатыры браты, а я пята. Гэтак і жылі. А патом ужо, як прыйшла сюда замуш, прыйшлі Саветы. Ужо поле не трэба, надзялілі соткі. Да во тут і жыву.

Запісана ад П.В. Макаўчык 1918 г.н.,
в. Пляшэвічы, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

*******

Выходзіла замуш у вайну я. Браты мае былі на вайне, ніхто і на свадзьбе не быў. Там вечар гулялі. Адно быў бацька. Матка не жыла. Без маткі было. Матка мене́ шчэй пакінула дзяўчынаю, памерла. А брацíха была са мною, учыла меня́. Выйшла замуш сюды — шэсьць кіломэтраў ат Смалíч. Замуш прышла, а эта матка балела яго. Памерла скора. Шэсьць месяцаў толькі і жылі разам. Я ужо тожа засталася адно зь ім. Тут і дачка радзілася. У доме стары жыў, калека. А матка у яго служыла. Вот як была. Матка яго сама з Лазавіч. Як была эта вайна, тутака стаялі салдаты. Яна за укра́інца выйшла замуш. Радзіўся ужэ ў яе эты хлопец. Яна жыла́ пры брату. Потым, як стала трохі успакойвацца, ён выяжджаў, забіраў матку. Матка ні захацела ехаць зь ім туда, на Укра́іну. А адна

паехала — іх вышла тры — і прапала. Дык яна пабаялася. Кажа, што можа дзе утапіў тую. Ды й не паехала. Засталася зь ім пры брату. Брату ш не патрэбна. Сталі спорыць. Яна кінула, дай прышла сюды. Ён быў калека. Узяў жанчыну за служанку. Яна яго даглядала. Калека той гэта усё ёй апісаў тут: хату, старэнька стаяла там во. Там жыў гэты стары́. І вот, як матка памерла, гэта сыну засталося. Ён ажаніўся, і мы тут жылі. Потым прыіжджаў яго брат к нам ужэ. А мы тады паставілі гэту хату. Ён купіў там у Раёўцы гатовую. Мо брат тут хацеў узяць што, ні знаю. Сказаў толькі:

— Дайце мне ікону.

Былі тры польскіе іконы.

— Наце, глядзіце. Ён узяў адну ікону і кажа:

— Во вы і хату новую паставілі.

Я кажу, што ж тая ўжо, сабакі глядзелі у вакно. Так паставілі новую. Ён пагаварыў, пасядзеў. Я кажу:

— Можа пачаставаць? Наце абедаць.

— Не, я пайду тут к радне сваёй.

І паехаў. А та́ко жылі удваіх.

Гора было. Рабіла усё дома. Карова была, сьвіня былі, хазяйства ж было, трымалі. Вот як. У калхоз хадзіла на палявые, картофлю капалі, сена сушылі. Дак яшчэ ж, як калхоз пачаўся, коньмі разорвалі картофлю. Мералі на куске́. Вы́дзел быў. На вы́дзелы капалі. А патом, як трактарэ, яны лічы пачалі ўжо трактарамі і касіць, а мы ўжо сушылі ета сена. У калхозе хадзіла рабіла. А вот ей, дочцы, было шэсьць годзікаў. Так самага меншага гадавала: вазіла каляску. Іду з работы, так жанчыны кажуць:

— Глянь, дзе твой хлопец.

Каляска ўгары, хлопец пат каляскаю, а яна яго выцягвае, менціць па жопе.

Шэсьць годзікаў, дзіцяці пакідала ж. Ішла у калхоз. Рабіць жа трэба было. На каго пакідала? На дзіцяі... І вот вырасьлі. А здароўя не маюць. Цяпер маладые ўсе балеюць... Вот мой замуш. Жыла. Што я ўжыла? Нічога. Гора, клопату, бяды. Дванаццаць гот хварэў, з бальніцы да ў бальніцу. Да абмірае. Скорую да скорую вызывалі. Цірас дзень іду да іду ў Нясьвіш. Пазамыкаю, пазачыняю, да й іду. Іду на аўтобус, далёка, пад гасьцінец туды. Саджуся і еду. А назат прыеду да іду зноў. Дадому трэба было. Сьвіне́ былі́, курэй трымала. Эта ужо зьвялі, ні курэй німа, ні сьвіней...

Во гэта кураняткі прывязла яна, кап хоць куру́ якую зарэзаць увосень. Пільную іх. Гэтак і жывецца. Усё роўна што... А уміраць страшна.

Запісана ад П.В. Макаўчык 1918 г.н.,
в. Пляшэвічы, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

*******

— Як на Яна гулялі?

— На Яна, як ідом, дык у Лявонавіч. Там былі танцы. Лявонавіцкая дзярэўня была там, дык мы ідом церас сяло і у клуб. Як вечар, толькі шарэецца, — дадому. Даўней не было, каб гэ́то па начах хадзілі. Не...

— А вогнішча на Купалле палілі?

— Палілі. Маладзёш. Вянкі хадзілі плялі. Былі ж каладзязе́. Гэтые (моладзь) цягалі калаўроткамі, але не гэтак, як корбут даўней. Дык вянок прыцягнеш, вісіць гэты вянок, пака не высахне, не адваліцца.

Сядзелі, сьпявалі песьні. На вянок так рвалі якіе цьвяты. Што седзяць на дарогах кветачкі. Сіненькіе некіе цьвілі. Валошкамі называюць у нас. Усякіе, якіе на дарошцы назьбіраем-назьбіраем. Возьмем які шнурочак, каб не рассоўваліся і вянок такі круглы паўём. Корап выцягнем назат. Вядром гэтым чэрпалі воду.

Раней жа жылі праскоўі. Не гэтак, як цяпер жывуць. Вянкі гэтыя паложана было на Яна прычапляць. На вянкі не гадалі. А гадалі вот калі. Як Новы гот. Дык ужо на гэтую куцю гада́лі. Вот як навaрыш куцью, паставім сена на покуце і на сена куцью, бо некалі былі гаршке. Гаршчочкі такіе на базары прадавалі. У гаршкох варылі, каструляў не было. Гэтые гаршчочкі накрываеш. Скараводкі ма́ленькіе на гаршчэчкі купляліся. Ста́ўлялі гэтую куцю, і яна стаіць. Назаўтра рана, як устаём, на першы ш дзень гэтую куцю ядзім. Матка накідае шчэ каўбасу на стол. Сьвята. Як посна куця, дык пяклі блінчыкі посные. Гэта на алеі. Быў алей с сем'я — свой. Эта масла посна. Пойдзе бацька мой, наробіць гэтага алею. У нас там гналі алей. Нагоніць бацька бутылак дзесяць, і елі мы яго. І хлеба мазалі, аблівалі, і картошку. Маку намном. Мак сеялі. Было маку во па такіх торбах (паказвае). Харошага маку. Сахары́на было бубкаю. Куплялася. Сахары́наю салодзім. Намачаем гэтых блінцоў у мак на вечар. Наварылі кампоту. Яблык насалодзім. Гэта посна вячэра. Патра́ўка посна, сялётка. Сялётка хароша такая: во аш зь яе льецца.

— А патраўка — гэта што за страва?

— Патраўка? Кіне у чыгунчык, наварыць, патом цыбулькай паткалоціць. Некалі на гэта у нас казалі верашчака, а цяпер ужэ́ падалікатнаму кажуць патра́ўка. І я чую і цяпер каторые кажуць: верашчаку варыла. Або як ужо скаромную куцю варыла матка на Коляды на першы дзень. Так кідае косткі туда, у чыгунок. Да жырные такіе. Патом мукою. Харошай мукі напытлюем, свая пшаніца была. Паткалоціць туды цыбулькаю ж жырам, патскварыць яе, накрые. Яна утушыцца. Ой, прыедзем с цэрквы — абет. Становіць матка каля стала усіх, молімся. Садзімося усе — уся сям'я. На стале і калбаса, і мяса, і халоднае наварана, і учарашні кісель с аўса, ён такі: застывае, і салоджаны мак — усё. Хто што хоча, есьці. Во як даўней рабілі. Цяпер усё павыводзілі. Няма гэтага. Можа ў людзей дзе... Як чую, па радзіву гаворaць, што робяць, як некалі у нас, на Украіне. А тут ... Не-а.

Запісана ад П.В. Макаўчык 1918 г.н.,
в. Пляшэвічы, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

******

Тут дзяўчата, маладые студзенты, хадзілі, фальклор сабіралі. У міне была́ кніжка, "Зорка" называлася, 27 года кніжка. Дзеўчата прычапіліся: атдайце эту кніжку. Яна ужо патропана была, па ёй вучыліся мае сёстры, я. Я атдаў тую кніжку. Эта яшчэ пры Польшчы было. Кніжка была "Зорка". Беларускую мову троха вучылі там ці што. Семінарыя была настаўніцкая у Не́сьвіжы. Гадоў два пабыла семінарыя, патом палякі закрылі. Я у той семінарыі не вучыўся. У школу хадзіў звычайну. А у лесе была школа — публічна поўшэ́хна школа называлася. Школа сем класаў. С шасьці класаў бралі у гімназію. Гімназія імені Сыракомлі. То там трэба было плаціць сто пейсят злотых за права вучэньня. І да́льшэ сто пейсят злотых за кніга, за цетрадзі, за крандашы, за краскі (сем красак там было). Зьмешвалі краскі. Нас вучылі этаму. Но не толькі гэтаму. Мы працавалі, сталярка была. Рабілі, напрымер, падстаўка. Сьвецярка такая.

Гімназія была польская. Але да палавіны года павучыліся папольскі. І рускі язык быў. А патом так: жэлаюшчые падавайце заяўленія у рускую школу, а жэлаюшчые — у польскую. У польскую панапісваліся многа. Так польска с утра. Нам трэба у тры часа падымесься, а патом дадому, да пяць кіламетраў па гразі ісьці. Плоха было. Я пайшоў у рускую гімназію. Бацька пасаветаў у рускую. Мне лёгка было вучыцца

па-руску. Бацька мой кончыў у Клецку народную нейкую школу. Паглядзеў маю цетрадзь.

— Ой,— кажа, — ашыбак сколька. Я не адной ашыбкі не дзелаў.

Як стане, праверыць. У майго бацькі усе пяцёркі былі: па мацемацікe, па-руску. Нада было сахраніць ацістат яго. У нас у гімназіі прападаваў рускі язык адвакат польскі Цьвердахлебаў. І рускі чалавек: фамілія Цьвердахлебаў. Стары́ адвакат быў. Пане прафесо́рэ яго называлі. Па-рускі чыста гаварыў. І быў там батанік харошы, але уцёк у Польшчу. Кабінет у яго харошы. Мікраскоп нам паказваў. Крахмал там, усё увідзіш.

А патом закрылі эту польскую гімназію. Я-та ціпер думаю: у Гродне ужо як два года работае трохэтажная школа. Аднавілі. Палякі мацер'ялу далі́. І другую школу строяць яшчэ у Слоніме. Школа польска. Лукашэнка так аткрывае школу. А як нашу семінарыю, закрылі тагда палякі.

Запісана ад А.М. Плаксы (былы настаўнік біялогіі
з вышэйшай адукацыяй) 1928 г.н.,
в. Лань, Нясвіжскі р-н., 2000 г.
*******

Два хлопцы нас у бацькі было. Павучыліся троха. Завочна. Я канчаў педучылішча. Посьле педвучылішча Баранавіцкі учыцільскі інсьцітут. Палучыў дзіплом. Высшае абразаваніе стаў імець. Дзіплом даваў права работаць у шостым — сёмым класе. Два года атдыхнуў, паехаў у Гомель у педінсцітут. Кончыў педінсьцітут у шэйся́т первам гаду. Тры года заочна вучыўся там. Прыпадавацель папаўся там, што заалогію вучыў у Баранавічах.

— Дак вы ж, — гаворыць, — здавалі.

— А там была праграма не такая.

У школе я сорак лет праработаў. Выкладаў батаніку, заалогію, дарвінізм — асновы Дарвіна — у дзевятам класе. Але патом обшчая біялогія. Генеціка цяжка учэнікам даёцца. Яна і нам цяжка. І селекцыя.

Як я вучыўся, я старастам групы быў. Тожа ж эта атчоты напісаць трэба. А экзамены па тры ра́за не́катарые здавалі, зачоты. Было: прышоў другі прыпадавацель, ужо сонца зашло, а наш ішчо мацімацiку канчае. Трынаццаць чалавек с мацімацікі пагнаў з групы. Назаўтра історыя педагогікі. Так па пяць-сем рас ганяў людзей. А мы узялі аткрапіцельные. Учатырох свае работы напісалі са Стаўбцоўскага раёна і у Мінску паздавалі этат экзамен. Як здаваў, прыпадавацель міне пытае:

— Как ты праводзіш сбор?

— А я прыгатовіўся. Кажу:

— Я пракрасна граю на скрыпцы. Кампазітар Чайкоўскі будзе. Но ён:

— А чаму вы мацер'ялы зь'езду не чытаеце?

— Будуць і мацер'ялы.

Не заштапарыі́ў міне. Узяў я білет, а атвеціў добра. Выйшаў, хацеў клікаць, а хлопцы — было нас трох-чатырох — пахаваліся. Баяліся. І вобмарак падалі студзенты. Было усё дарагое, не было што есьці.

Запісана ад А.М. Плаксы (былы настаўнік біялогіі
з вышэйшай адукацыяй) 1928 г.н.,
в. Лань, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

******

Пчол пачці мала у каго не было. Ні то што у кожнам двары былі, но дзержалі многа пчол. Рабілі с саломы бывая вулей, а то с досак. Бальшынство с саломы. Лес дарагі быў, трудна было с досак. Дарага. Хто багаты, можа. А бедны — с саломы. Спляце эты вулей, сшые. Спырскае прынадай. А пчолы лезуць у вулей. Прынада ат гэтага вулея, дзе пчолы. Есьць такі мёт, рэдзіно́й мёт. Возьме гэты мёт, у марлю яго, каб запах быў. Тады пчолы — гані іх, а аны лезуць у вулей і там пасяляюцца. У адным вулеі — адна сям'я. Бывая вялікая сям'я, там дзьве маткі, так яны кусаюцца адна з другой. Такая, каторая пабядзіць астаецца. А то возьме адна уцячэ ўжо. Дзержаў я пчол, былі, але не у мяне, а у дзядзькі у другой дзярэўні. У мяне было два ву́лье, а там, у дзядзькі, больш. Дзесяць было. Яны разам стаялі. Мае і яго. Саламяные. Вулей с саломы і называўся саламяны. Мёт выбіралі не ўсякі рас. Кажуць, як год медавы́, не́катарые пчолы старацельные, раньшэ выбіраюць мёт. Таму што ён ужэ чэрэсчур: вы́цекае с улья. Ужэ тагды бярэш цэбар такі, ночвы і выбірае, улівае у цэбар. Атсольваецца ён, тады заклада́е у банкі. Вязе про́даць на базар. Той, што сабе, — у збанке́. Гліня́ные збанкі былі такіе. Паналівае збанкі поўные. Дасьць, у каго німа. Стаіць ён у гліня́ных збанке́, сцыкру́ецца, дык нажом калупаць трэба. Лошкаю яго не ўчэрпаеш, трэба нажом. Первы мёт, первы мор — самы луччы мёт, таму што цьвятэ́ са́ма цьвітуць. І аны зьбіраюць гэты мёт ужэ. Асеньніе цьвяты — ужэ не той мёт. Ён цямнейшы, а эці сьве́ціне, жоўценькіе. Сь іх первы мёт. Каторы увосень, ўродзі бы гушчэйшы такі, але не той ўкус.

С пчоламі ж нада далікатна абыходзіцца. А як жа. Абірае гэты мёт, кладзе шчы́та на сабе, такое рэшата на голаў. Тут завязвае, таму што

яны могуць даць джалы, кусаюцца. Смажаш ру́кі жырам: яны баяцца гэ́таго. Вот і работаеш.

Запісана ад П.М. Максімовіча 1905 г.н.,
в. Лань, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

********

Раскажу, як жыў. Я сам у лапцях хадзіў. А лапці... Шчэ патшыць німа чым, да так. Пляцеш, а яны за тры-чатыры дні патопчацца, другіе пляцеш. Я і сам з лыка плёў. Лыка — гэта ліпа. Аголяць кару і з гэтай кары плятуць. З маладой кары лапці — лапці з ліпова дзерава. З лазы не так лапці рабілі. Бо́льшэ зь ліпы. А вот серма́гу рабілі з авечкі. Серма́га нападобіе халата. На галаву капялюш. Улетку капялюшы плялі с саломы, саломенные былі. А былі і такіе — зь нітак. Іх ткалі. А бальшынство-то с саломы. Самі плялі. Ачысьцяць салому гэту, спарацць яе у кіпятку, што б яна ні ламалася, і тады плятуць. Тры саломінкі плятуць. Плятуць-плятуць, патом сшываюць. Палучаецца капялюш. Сшывалі капялюш ніткаю, а то, бывая, машынкаю строчаць скрозь. Так бывае на́цельне салома, мяккая такая, яе абвяліш ці апарыш і плятуць.

Запісана ад П.М. Максімовіча 1905 г.н.,
в. Лань, Нясвіжскі р-н., 2000 г.

********

********

*В.А. Саланевіч*

# ЧУХОВСКАЯ БУВАЛЬШЧЫНА

1

У Бо́товы був такій Мытрук. Як служыв (а тогді було служыты в армійі дващэть пьять год), вэльмы захотів побачыты свою сэ́мню, вэльмы вду́мавса – зану́дыв, заскучав.

От пудыходыть до ёго́ чоловік і кажэ, шчо можэ́ показаты ёму́ ёго сэмню, алэ коб вун ны слова ны сказав, як будэ в хаты, бо помрэ і вун, і гэтой чоловік.

От обырну́вса вун някім гебы коне́м, гебы змі́ём. Сів на ёго Мытрук – і оно́ чуты ёму було ня́ке, гебы гудэ ні́шчо, а ныц ны бачыв. А як остановылыса, то ўбачыв свою хату.

Побу́в у хаты, а по́том – назад. Знов зашумів, загув вітёр. Алэ вжэ остановылыса посырэ́д дорогі, коло валыкого розбытого дуба, наполовыну сухого, коб оддыхнуты.

А тут той і росказав Мытруку, шчо тут, на ду́бу, воны варылы кашу. Ажно́ удырыв грум, обырнув того котла - і дэ каша тыкла, то там дуб засох.

Спужавса Мытрук, бо по́няв, шчо гэто нычыстый. Алэ ж отказатыса ны муг, бо трэба було на службу. Той тожэ поняв і сказав, шчо ўспіють…

Потом Мытрук напысав додому пісьмо, а дома ны повірылы. І ужэ як прыйіхав з арміі, то росказав, дэ шчо бачыв по дорозы і в хаты.

2

Про нычыстых мныго чого́ ста́ры люды росказвалы.

З Ботовско́йі цэркви як шлы, то пужав: вы́дався чоловіком – молодым, у чорному капылюшы́, і одэ́жа чорная, з тро́сточкою, а одэжа – костюм.

Бачылы кай мо́глыц – жоно́ччыною.

Нычыстым шчыта́лы й вы́хора, як крутыть.

Дытэй пужалы то бабою якою страшною: одра́зу прыкі́ныцца доброю, а як завыдэ до сыбэ в хату, то станэ звыро́м.

Бувало, чулыса някі голоса (часті́й - спувалы), алэ як до йіх ідэш, то ны ду́йдэш. Алэ й самы стары́йі люды ны вірылы вжэ.

Казалы, шчо роса́лкі бувалы ў по́лы, у жыты. Шчыталосо, шчо росалка – дiўка чы жоноччына з роспу́сьтяныміы косьмы́. Або обэ́рныцца клубком, чы звэро́м яке́нцым.

Як уночы́ ны спало дытя, то казалы, шчо Ночны́ца дітям спаты ны дае. Про́ті гэтого духа пуд поду́шычку клалы крэ́стыка чы свічку і молылыса. А некото́ры клалы ножа чы го́лку, коб дух уколо́вса, да й коб вочы паганые ны наврыдылы.

Кай моглыщ бачылы білого стоўпа́. Як до чоловіка пудыйдэ, то чоловік помрэ. Коб спастыса, трэба розбыты ножом.

Дытэй шчы пужалы Во́воюю (вовком), цыгано́м – коб боялыса выходыты з хаты да ныку́ды ны пошлы, коб боялыса огонь розво́дыты. Роса́лкамы – коб ны шлы ў горо́д самы́ да ны нашкодылы там , коб жыто ны повыка́чвалы. Ведьмою чы зміём – коб ны пудыходылы до колодяза.

Ведьма пырыворо́чваецца ўночы в жабу, чы кото́м – чым хоч… А ходыты мож́э й ура́но – вэльмы пагано на молоко.

Хто такім займа́вса, казалы – зна́хор, колдун, відьма́р, шыптун… Хто з йіх чым займавса – ны важно, бо познаю́ть йіх по йіх ділу. Воны вэльмы старалыса чоловіку наврыдыты пырыд свята́мы, чы на высіллі. Мусыть, коб розуверыты чоловіка, чы напужаты, коб йіх бульш боялыса, чым Бога, да йім служылы.

3

Росказвалы таке́.

От прыйшла раз нывістка до свёкрові жыты. Як пу́йдэ вона́ в хлів, то мало надойвае, як пуйдэ свёкруха – мны́го.

От раз вона́ й пудглэдыла. Бачыть: по́куль до дойіння, то свёкруха в вуглу, в стыні́, вымма́е сучка́, а стуль – тычэ молоко.

Дру́гій раз пошла нывістка дойіты, і тожэ ге зробыла. Алэ забула вставывты того колочка назад. То й кроў пошла з коровы.

4

А от роскакзвав одын.

Пошов няк ура́нынько вун ловаты рыбу. Сыдыть на канавы і чуе голос:

– Гм, а дэ ж вун́? Казав прыйду, да й ныма.

Оно потом, кажэ, йдэ сюды чоловік. Роздынувса купатыса. ( А тут жэ й мілко.) Оно вліз у воду – рып! – ныма вжэ, утоп.

А той рыбак і бачыв того, чый був голос. Казав, ня́кій гебы в формы і в капылюшы.

5

Одын бідный чоловік пошов до колдуна. А той хотів ужэ помырты́, то ёму тра́були кому́нь пырыдаты гэтэ колдовство. От вун і кажэ гэтому бідному:

– Забыры ў мынэ "гэ́тэ", да й ты будэш багатый.

Як забрав вун "гетэ", то пошлы до ёго́ люды – ужэ й вун став багатый, да й ны хочыцца ёму вмыра́ты.

А знахорыв вун так. Появля́ласа ёму чолові́ча голова. Як гэта голова стояла уногах больного, то той чоловік мусів помырты, а як уголовах – то такій поправлявса. От вун і знав по гэтому, кому шчо казаты.

А як захворыв сам, то убачыв гэту голов кай сыбэ – кай свойіх нуг. То сказав, коб лужка пырыставылы. А як лужка повырнулы, то тая голова пырыйшла тожэ і знов стала кай нуг.

Так ёго кружыны́лы, кружыныы, ажно́ вун да й кажэ:

- Ай, як ны круты, сёрамно трэба вмырты.

Да й дойшов.

6

У одного колдуна да вэльмы помырало всэ: діты, коровы́, куры … А гэтым, значыть, вун рошчытьвавса за тэе, шчо людям робыв.

От жунка й ны выдыржала. А вун юй сказав, шчо трэба пырыставля́ты хату вукнамы на другій бук.

І мусілы пырыстройваты хату. А як пырыстройілы, то вун ужэ й ны змуг бульш колдоваты.

7

Бувало таке, шчо ді́вчына чы жоно́ччына поро́дыцца на по́лы дэнь, чы в дорозы, а дытя помрэ быз ймэ́ння ( а значыть – ны пырыхры́стянэ), то чырыз год воно закрычыть пырыд чоловіком, шчо йты́мэ кай того місца, дэ воно́ зако́панэ. То той, хто почуе, трэба, коб сказав: "Як ты – хлопчык, то – Одам, а як дівчынка, то – Ева".

8

Одно́го чоловіка укусьла змія, гадюка. І от вун ужэ став чырніты. Ажно́ йдэ другій чоловік. Став. Пытае, шчо тут таке́. Ёму́ росказалы і показалы, куды побігла гадюка. (Кай хаты було.)

Вун пудышов да й кажэ:

– Выла́зь! Іды свою выну скупля́й!

І от вона повзэ, а поку́сяному чоловіку ужэ й страшно стало.

Пудповзла гадюка до раны і давай з йійі смоктаты. Смоктала, смоктала…покуль ны лопла.

– Алэ гэто тра́було направыты тому, хто тобі направыв, - одозвавса той чоловік.

9

На Дыды́ варылы куттю́ – я́чны крупы́. А шчы робылы ку́ттю: солодылы воду, пыклы хлібцы́, нала́ммалы в гэту воду, сыпалы помнятого маку.

Садыласа вся сымня́, а йісты почыналы со стары́шого. Кажэн спы́тьвав по тры раз. Потом трабуло положыты ложкку на стул і поставыты гэту мыску з, куттёю, а ложку клалы зав́эрнуту.

Йілы так, коб оставалосо дыдам, бо ж ты ны бачыш, кулько дыдув стойіть над тобою: мо́жэ й шчы когонь з собою возьмуть. Прыходять і тыйі дыды, у кого ныма родні на зымлі чы як хто ны робыть йім вычэры .

Росказвають, як у одну хату зайшов урано някій чоловік да й кажэ, шчо забув учора шапку. А його пытають – колы́? – а вун одказав: "Учора був тут з вашым дідом".

10

Бувало, костра палылы ны оно́ на Купа́йло. Палылы й на Юрье: смітте спальвалы, да й холодно́ було… Шчы, навэть, і ў яйца былыса на Юрье.

А Купайло – нуч пырыд Яном; на Яна сонцэ "грало". На Купайло збыралы дыркачы́, вы́стопкі. Посырэдыны ставылы ты́чку. Шчыталосо, шчо ведьму палять.

У гэту нуч ныко́му ны позычалы огню. Така й прыговорка була: " Тып́эр - Купайло, завтра - Ян. Прыдэ ведьма – огню ны дам".

У гэту нуч ведьмы́ пырыворо́чвалыса жаба́мы, корова́мы, ку́ньмы, кота́мы. Коб ведьма опыкласа, як хоті́тымэ влізты в хоромы, запыха́лы

праківу́ у клямкі. Гэтойі ночы стара́лыса забыты кота чы собаку – всэ жывэе былы, бо думалы, шчо ведьма.

От був такій розговор.

Пошла жоно́ччына, да ныма й ныма. Пошов мужык шукаты. Натра́пыв на жабу, да поняв, шчо гето ведьма, да й одсю́к юй лапу, ажно вона обырнуласа жункою.

У гэту нуч ны можна було купа́тыса і ныц одному робыты, бо гэта нуч – выдьмэ́й, і як дэнь сам уночы́ будэш, то можу́ть тыбэ пошчытаты за ведьму.

Мныго шко́ды людя́м робылосо гэтойі ночы, алэ робылы шкоду і на Ко́ляду: двэрца здыма́лы да дэнь пырыно́сылы чы з кімцень мынялы... Шкодылы молодыйі.

На Купайло роскіда́лы по зымлі огонь, коб ведьма ногі попыкла́. Огонь пудкіда́лы ввэрх, то бувало й на людэй попадэ́, да когонь і муцно опычу́ть.

На Яна всэ хавалы од вочэ́й. На́вэть, як йісы́ молоко, да хтонь ідэ, то хавалы, коб ны подывывса.

*Т.М.Трухан*

# З ГАВОРКІ В. ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

*Расказвае Трухан Вольга Георгіеўна, 1934 г.н.*

Ты, Тамара, купіла куры, прывязла нам і так яны быстро прывыклі. Яны падружыліса: і нашые, і твае. Я така давольна была. Я ш трохі нек ізразу, як ты прывязла, вродзе бы як і ні давольна была. Вельмо ж дораго. Да і кажу на старого: "Вот, купіла Тамара курэй такіх дарагіх". Цяпер нівартшкурка за вы́чынку. Пійсят чатыры тысячы за куры, да мяшок пшаніцы купі, да дзесяць тысяч, дак ето ж кажу, а работы, заботы сколькі ж! А дале пабылі етые куры, якраз як яны ў нас і былі. І заходзяць так добрэ, і тые ні клююць іх -- нічого. Так добрэ. Ну я ўжэ кажу: "Ну, дарма, вот кажу, што я і гаманіла на Тамару, а, кажу, такіе нейкіе шустрые куркі, харошые". Дай сталі нясціса ўжэ быстро. Тады ж лічыла ўсе пад вечар, вот як заганяю і палічу, і палічу іх. Аднажды аднаго васкрасення хадзіла ж у сабранне. Прыхожу, лягла трошкі паляжала, патом думаю, трэба ж ісці занясці яшчэ курам, дай пагляжу я іх. Панясла я ім есці, ну пастаяла трошкі, вродзе бы як і ўсе. Я ні палічыла іх. А дале пашла ўжэ іх закрываць. Гляжу – німа куры аднае. Палічыла – палічыла раз, другі раз – вачам ні веру. Туды-сюды прайшла, паглядзела – ні відно. На бацька кажу: "Глядзі, Коля, кура прапала, німа куры". Як прапала ён, як можэ кура прапасці? Вылязці, яна нікуды ні вылязе. Ён прышоў. Давай усюды абгля́даць – німа. А я папахадзіла. Госпадзі міленькі, шкода -- шэсь тысяч прапала. Я і ў адзін бок, і на гарот, я і к саседзям, я і гукаю ўсе -- німа нідзе тае куры. Да ні веру вачам. Развярнуса і зноў іду, палічу. Ён прышоў і бацько ізноў лічыць. А я кажу: "Да я лічыла, да сколькі можно лічыць? Што я, сляпая? Я ш бачу курэй". І ўжэ стало і цямнець, німа. Я думаю, хаця ж етые закрыю. Мо хто яе і ўлавіў. Дзе ж яна можа дзецца? Закрыла, пашла к саседзям. Папытала: "Мо бачылі тут куру, вы на загоне былі?". Не, ні бачылі. Ну ні бачылі і ні бачылі, прапала. Цяпер, значыць, закрыла, пашла ў хату, пасядзела трошкі і ўжэ прыцямкам думаю: "Пайду праверу, мо дзе, кажу, аткуль яна прышла". Прашла, паглядзела і ў адно место, і ў другое, і ў адну загаротку, і ў другую – німа. Німа-німа, белые ш куры відные. Прыхожу, лягла і спаць і ўсе. Назаўтрэ нацямочку ні верыцца, думаю -- пайду яшчэ пагляджу усюды: і ў дварэ, і ў агароччыку, і ў суседзей, мо дзе за платамі. Абышла, хадзіла-хадзіла -- німа нідзе на свеце. Я і ў ету зыгаратку, дзе яны тупалі і карміла іх гляжу – німа нідзе на свеце. Дак я і ў адзін двор, дак я і ў другі двор, усюды. Пералазіла –

нідзе на свеце німа. Ну німа-німа. А гетых-то ні аткрываю кур. Думаю, да як ето, ну ні можэ быць, штоб прапала кура, ну ні верыцца проста. Ні помню колькі часоў, думаю: "Пайду аткрываць, ужэ ні прышла, той ні прыдзе". Я гетак падумала. Калі й прыйдзе, то мо будзе толькі за плотам, яна ж ні можэ ніяк нікудэю ўлезці. Абышла, нідзе на свеце ні відно. Прыхожу, ні аткрываючы курэй, думаю: "Пагляжу яшчэ ш, палезу ў етые зыгараткі, дзе яны ходзяць". Як аткрыю вароцца – стаіць, такая нажахана, такая напужана. І дзе яна магла быць, то ні прадстаўляю, ну. Якраз як яе хто схапіў і выняў, а ўтрам прынёс і ўкінуў. Тады я аткрываю вароцца, а яна і забягае, якраз як тут і жыла. Ні толькі мо ето прашло тыдняў тры як ты купіла, а проста як і свае гадоўлі. Ну нажахана, такая спужана, што дальшэ некуды. І ўсе куры. Я на бацька кажу: "Коля, сюда йдзі, кура прышла". Ён: "Аткуль яна прышла". А я кажу:" Я ж ні ведаю. Вылясці яна ні можэ нікудэю вылясці. А мо хто яе ўлавіў, кажу. А бачаць, узналі, што я шукаю, дай прынёс і ўкінуў. Хто яго ведае. Тут жэ ні бачыўшы ні скажэш на нікого. Ні ўзяў за руку, ні кажы, што злодзей. Ета кура, што прышла, пабыла два дні, нармально, лічу, ужэ раней іду глядзець. І правяраю, і пералічваю, і ні рас, разоў некалькі пералічу – усе. Гляжу, два дні после етаго пералічыла – куры німа зноў. То ні веру вачам. Я аткрываю вароцца, думаю: мо дзе яна залезла. Паправярала ўсюды на свеце, німа нідзе ні шчыляк, ні дырак ніякіх. Вылясці яна ні можэ нікудэю. Кажу зноў на бацька: "Коля, ізноў тае куры німа". Як німа? А чаму ты ні глядзела вабет, ці яна была, ці не? Дак я кажу: "То ні можэ быць." Яны ж ні пералятаюць, нічога на свеце. А мо дзе нясецца яна. Як мо і вылязла, мо дзе і пераляцела. Ну яны шчэ ні пераляталі, штоб я бачыла, што яны пералятаюць. Патом німа-німа. Я абратно пашла к саседзям і пытаю: "Мо сёння бачылі куру маю? Зноў прапала кура мая". Кажу: "Тады як я пытала вас, што прапала, німа куры, мо вы бачылі, назаўтрэ, кажу, ні было, но после ўжэ, якраз як яе хто ўкінуў у двор. Прышла тая кура ці явіласа. А ето абратно прапала". Яны: "Не, ні бачылі". Цяпер абратно этак само перашукала ўсюды на свеце: і к саседзям і ўсе зелье іхне пералазіла – нідзе на свеце німа куры. Гляжу, ну што ж, німа, німа, ужэ цёмно, дакуль жа буду лазіць. Усё. Прапала і прапала. Ну думаю: ужэ яна ні вярнецца. Дай думаю сама сабе: "Ну, калі мо дзе яна сёння і знясласа ці што, то яна ж і заўтрэ будзе ўцякаць. То я ўжэ прысляджу яе. Ужэ буду пільнаваць". Цяпер ні аттуль, ні атсюль заўтрэ вутрам гэтак само: пазакрывала вечарам усе. Паглядзела ўтрам – німа нідзе на свеце куры. Абратно мо ў дзевяць часоў ужэ і ні аткрывала да дзевяці часоў этых сваіх курэй. Думаю: "Ну ніўжэ то яна ні прыдзе?" Калі дзе ці ўлезла ў што, ці як? Ні можэ быць, штоб ето прапала кура! Цяпер, значыць, ізноў думаю: "Пайду аткрываць куры". Дакуль жа можно. Ні прышла ўжэ і ні прыдзе. Прыхожу, абратно кура ў дварэ. І просто голаў усе працягáе-

працягáе, як яна спужана, як яна тут век ні была. Аткрыла свае куры, яна прыляцела к курáм есці і ні скажэш, што яна тут ні была. Вот як. Ні дай Божэ, якое сабыцце с кýрамі папало.

*Гутарка паміж Трухан Вольгай Георгіеўнай, 1934 г.н.*
*і Дубінам Мікалаем Андрэевічам, 1928 г.н.*

Гной на загон вазілі вясною. Тые годы я на зіму гной вазіў, цяперака вясною. Развязлі Пеця і дажэ Ягорко. Прыехалі, развязлі, дак Каця кажэ: "Тут буракі ат палавіны загона былі, сюды гною чуць-чуць". У нас жа ні так, як у вас, што самое цячэ, а ў нас бочка ўкопана, да злівае, да дзе ў разору якую, або на кучу гною, патаму што ў нас цéчыме, дак у двор жыжа, ето ж ні ў вас, што на агарот. Дак яна вот так. Дак я тут узяў да ўдабрэння патсеяў, дзе вот да палавіны. А туды на гной, а яна: "Што бо етэ ўдабрэнне, і картоплі ні смачные - ня сей". Ну дак тамака, як атрэзаныя былі. Праўда, і па цэнтру. Дак я і то ўжэ, як яны ўзышлі, добрэ ўзышлі, мо перад абгананнем, узяў да вядро рассеяў етаго краснаго ўдабрэння, той там бы і етаго ні было. Дак вот дзе ён заначальна патсеяў, дак яны, ты панімаеш, і картаплянніk лепшы і лепшые былі. А там, на етум жа гнаі, і етаго ні было.

-- А дзе буракі былі, атлічаюцца картошкі?

-- Поўно лепшые, сразу атсюда поўно лепшыя.

-- О-о-о, Алёшка Лявонавых наваліў картопель – удзіўленне! У яго два загоны на мсе. Ведамо, там жа хлявы, да ўсе, да платы. У іх жа там карацей пляцы́, як ото ў нас, ну шырай. Загон гот буракоў, загон картошкі. І такія растуць картошкі, што, табе кажу, як і етаго году. Есьлі б ты паглядзеў, то ўдзіўленне, як яны толькі сцягалі, як у калхозе капец.

-- Дак вот слушай што, сяменá нада мяняць, мяняць сяменá. Два годы пасеяў, на трэйці мяняць. Ето законно трэба. Ето і гной даваць. Што мы валім? Ён тожэ вот пат сухі гот, пад мокры год ён да. А ў нас, на том вугле, дай гною, яны ваабшчэ, сядзіць дзёўбам усё. У вас жа поўно ніжайшы бок.

-- Што толку? Калі ўжэ зямля – адзін гной.

-- А які гной? Я і табе кажу, што лішня. Вато ж Ніна Сцяпанавых (Коля ж выхадзіў, ты ні хадзіла ні разу, а бачыў жэ, якія зараслі), а картоплі ні горшые, як у мяне. Удабрэнне патсыпала і там, я табе ку, зарошшые. Наймала етаго Пекарчыка, да Магаданаў, да ўчатырох, ці сколькі, да скасілі етэ. То ў яе зарошшые былі. На дном месце, дак сямена змяніла, казала, дак ваабшчэ харошые былі.

Ты хадзіла па нанавозу, палядзі, у мяне загоны роўныя. Как перайці вот на праву сторану, сюды к Ніне Сцяпанавых, ат палавіны там жэ

Круцянкова сеяла, палядзі, настолькі во падняла загон. Мая ўжэ ў разоры, а іх на цэлых трыццаць санцыметраў увесь загон вышай. Вот і шчытай. А яны зямлі ніхто ня панёс і ні панясе.

А ў Крыжа онё тожэ Валодзі прапалі, яшчэ горшые, як у мяне, і на гародзе.

-- Ага. Казалі, што ў іх прапалі. А вот у Аленкі там ат лінькі во загон жэ туды ад Застарынскіх кладоў, кажэ, харошые былі ў Аленкі. Там лох.

-- Ай, усядно, як ні шчытай. Вонь у Саветы Магалёвых Косціные хлопцы, дак яны сямена новые купілі. Яны, мабыць, для сябе, ну як дармавая картошка. Бо яна кажэ: "Ні магу есьці". Ну яно і лох. Ты паглядзі, як у Саветы само ніжэ. Вот і шчытай. Яна ж свайго каня запусьціць, дак і ні відаць.

-- Дак харошые былі ў Саветкі?

-- Я ні знаю, я то ні бачыў, мо шчэ ні выбіралі. А дзело ў том, што і картапляннік, і пробувалі ш капаць, дак харошые. І па картапляннку ж відаць якіе.

Яны ж думалі ўбіраць, да, мабіць, ета ж прыяжджала Валодзіна, што за француза пашла, ето ж аўтобусік іх. У Валодзі да жонка дзе-то с Палесся. Яна ж у касе рабіла ў Салігорску, Проська. Дак яе млатша дочка вышла замуш, ужэ й пяць ці шэсць у школу ходзіць дзевачка. А ета кончыла, мабіць, таргovы, за ету магазіншчыцу, рабіла ў Гродна. Яна ўжэ больш за мо трыццаць два гады, ці трыццаць тры. І там француз нейкі, тут у Гродна. Пазнакоміліса і ён яе, как-то здзелалі на шэсь месяцаў ці на несколькі. Яна рашчыталаса і паехала туды ў Францыю. І з імі ето вот прыяжджалі. Ето вот былі, у нядзелю мо паехалі, ці да нядзелі, там у сыботу. Белы аўтобусік, яны ўшасцёх прыяжджалі. Яны тут ездзілі на пасёлку, дак яны етэ былі, дак ні выбралі картошку. Дак яна за етага француза вышла. Прыяжджала маці, сястра і тры дачкі яе. І брат ці што, дажэ ні знаю. Перавоччыка яны бралі ў Салігорску са школы. І тожэ вот яны садзіліса ў самалёт на арадроме там, афармілі дакументы ўсё шэсь чалавек як бы есь. І бацько мо тры годы ці сколькі ляжыць, у пасцелі ляжаў. Яны поўнасцю афармілі дакументы і тут жэ целяграма, пад'ехалі, там жэ і сказалі, што пам'ёр. Яны ўжэ рашылі, што ўсе прыгатоўляна – хараніце без нас. І яны прыехалі сюды, а бацька там пахаранілі, іх дзеда.

Саветка нам і караваю прыносіла. Дак у іх каравай: вот такая каробачка во, дак там канхветы, як вот фасолька, чуць большы есь. У іх, кажэ, ето даюцца на каравай. Яны і ў Саветы, прыяжджалі. Савета вот расказвала. Дак яны купілі фатапарат, дак усё ета фатаграфіравалі і паказвалі. Фатапараты цяпер с плёнкаю. Сразу фатаграфіруе і фатаграфія выкручваецца. Дак яны, ка, фатаграфавалі і абразы, і поле ета, і печку, і дрова. Нашто ета печка пыталі. Так што ўжэ дзве замошчанкі ў Францыі.

-- А хто другі?

-- Ганны Тэклiных Іра. Яе мужык, ён рускі, у Францыі, паехаў там. Ето прыяжджалі, яны ўжэ былі, мабіць, шэсь месяцаў, ці сколькі. Паехалі апяць.

-- То яна ж мо даўно ўжэ вышла замуш?

-- Ну даўно. Яны ж жылі ў Кіеве, у іх, па-моему, кварціра еська. То што-то ён с камерцыяй там связаны ў Францыі. Бо ето былі вато, Васіль казаў, што паехалі. Я ку, ну як там?

-- А што там. Усюды трэба знаць іх язык.

-- Ето язык-язык. Кажэ, калі не знацьмеш, то што б ты быў ім і палезны.

*Дз.М.Шмат*

# ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ВЯЗ ПІНСКАГА РАЕНА[1]

1. **Вяселле. Цырамоніі перад вяселлем**. Удóма у молодóйі був оды́н дэнь пэ́рэд вэсіллем, дó дня́ прыéзду жэныхá за молодóю і окончáтельным пэрэéздом до жэны́ха; звáлы дэвóцкіе запóйіны. У гэ́тэ врэ́мья пэрэ́д вэсіллем пэклы́ коровáй у жэныхá. А у молодóйі роспліталы кóсу ейі, як іті до вэнцá. І вонá прошчáласа з подрýгамы, родны́мы, з дóмом у кругý подрýг. І вэлы́ вэнкі у молодóйі . А хліб пэклы́, окрóм коровáя, на вэ́сілле; называ́ють ёгó – довгачы́. Довгачы́ – воны́ як батóны. А свáдебнэе дэ́рэвцэ звáлы – клён, сірэ́нь. Знáмье свáдебнэе булó – флаг, вішають ёгó во врэ́мья свáдьбы, а ежэ́лі молоды́е ідýть до вэнцá, то обхóдять окóл столá і нэсýть довгачы́, обвя́заны рушныкóм; а пóсля гэ́того ідýть молодые на двур і кунь стойіть з вóзом, укрáшаный квэткáмы чы вэнцóм на дузі.

2. **Пасаг**. Выкупля́лы покá молодýю, а пóсля ужэ́ забырáлы подýшкі, одэя́ла, ікóну, кýхор, шчо клáлы туды́ одэ́жу, і вынóсылы на вуз. І колы́ вывóзылы постіль і молодýю до молодóго, то дары́лы: корóву, кýры, гýсы, учáсток зэмлі, хату молоды́м. Чы́ны у жэныхá булы́: брат, сват, дружóк, а у молодóйі – сват, брат. Воны́ спывáлы і танцовáлы, вэсэлы́лыса. Звáлы: дід, бáба, брат, бáтько, дя́дько, сватóк дорогі́й. А як увэ́чэры, то запáльвалы лáмпу, якá заправля́ласа керосіном.

3. **Абход поля**. Ходы́лы процэ́сією: бáтюшко з корогвáмы і лю́ды ходы́лы з йім, просы́лы Бóга о дождю́; гэ́то був крэ́сный ход. Ходы́лы тогді старыéі молодые. Гэ́тэ булó з вэсны́ на літо; в маі чы 6-ого іюня був обхóд. Гэ́то булó сьвáто **Юрый**. А до гэ́того сьвáта робы́лы, хто ткав рушныкá, хто сады́в гарбузы́, хто выганя́в корóвы́ на пáшу і.т.д. Но обхóд значáла робы́лы з сэлá, т.е обхóдылы сэ́ло, а пóсля обхóдылы окóла цэ́рквы, нэслы́ ікóну, булы́ всі рáзны лю́ды, т.е вдовá, дівчына, старые і молодые лю́ды. Прыглашáлы, хто хотів, у когó булó жэлáнне. На **Юрыя**, на **Трýйцу** булы́ такі обхóды. Гэ́то було днём, а шчоб нэ булó опáсностей, такі, як пья́ны хóдять по сэлý, то прэдостэрэгáлы. Ходы́лы воны́, т.е. процэ́сія, прóтів сóнца А начынáлы ходы́ты од хрáма і пóсля по сэлý. На Юрыя і Трýйцу був обхóд. Ткáлы специáльны рушны́к і носы́лы у храм, а робы́лы ёгó жонóччыны, і молодые, і

[1] Вёска Вяз (мясц. *Ві́яз*) знаходзіцца прыблізна ў 35 км. на паўночны ўсход ад Пінска, ў 4 км. на поўдзень ад мястэчка Пагост-Загародскі, ля паўднёва-ўсходняга берага Пагосцкага возера.

старые. У хаты ткалы, хто був специаліст у гэтым ділу. Ткалы ёго в любэе врэмья, значала сіялы лён, пбсля полбльі ёгб, рвалы, пбсля слалы, збыралы, тэрлы пбсля трэпалы ёгб чэсалы на грэбні шчуткою, выбывалы, пралы і пбсля сновалы і парылы в цэбры, прача сушылы, коб вьісохло, навывалы на воротыло, а пбсля ткалы, коб вьішов рушнык, ёгб робылы зо льна. Святылы рушнык вытканый у цэркви . Ёгб нэ мочылы і нэ стіралы, бо вун... краска полізэ. Ёгб вішалы на пэрэкрэсных дорбгах, на кладбішчах, крэстах, на царскіх ворбтах у цэрквы. Робылы з дэрэва крэста, шчоб вішаты рушныка. Смотра як робылы: за одын чы за два дні, ставылы на пэрэкрэсных дорбгах фігуры, які робыв спіціаліст, йіх называлы крэст-каплыца. Обхбдылы з рушныком сэлб, цэрков. Нэкотбры кладуть рушнык, освяшчбнный водбю, прогоняють скотыну, як выганяють в пэршый раз запасьваты. Булб шчо крэст укбпвають, дэ вода ідэ – крыныца. Обгорбдьвалы крыныцу во врэмья обрада.

4. **Засуха**. Во врэмья засухі украшають на **Труйицу** дівку: вэнца рбблять і надэвае на гблову. І воны спывають, пуд кажду хату. Гэто булб днём – куста вбдять. Був обычай спываты пісні. До Благовішчыння ныц нэ робылы, бо будэ засуха, нэ будэ дожча. 7-ого апрэля сьвато – Благовішчынне. Зрбблять куклу шчбби вызваты дожч. Ейі робылы у хаты, скрутяны ганучы юй давалы, умэнне – Марья, Ганна, то Ярына і.т.д. А як хто пэрэд сьватом поставыть забора чы вкопае стовба, то ёгб вырывалы, бо будэ засуха. Засуху обьяснялы так, шчо вынбвного накарав Бог, т.е. грэшныка. Засуха – вэлыка жара, ныц нэ ростэ всэ засыхае. Вэлыкэ сьвато – нэ мбжна дажэ ныц вышываты, і вывішваты бэллё. І дажэ пташка нэ вые гнэзда до Благовішчыння, бо будэ засуха. І хліб нэ мбжна пэкті на Благовішчынне. Выноватых облывалы водбю. Есть такбе, мєсный сказ: Дбжчык, дбжчык, пэрэстань, мы пойідэм на ордань, ключыком, замбчком, шбвковым платбчком. Ордань это – вэлыкый збур людэй. Батюшко мблыцца і освяшчае воду, і люды набырають вбду в збанкі. А ішчы казалы так: Бусько, бусько, кінь колбду, чы на дожч, чы на погбду.

5. **Калядныя святы**. Пэрыод од Рожэства до Крэшчэння звалы колядьмы. Чы од Нбвого гбда до Крэшчэння. А дэнь пэрэд Рожэством звавса Коляда. Солбма – клалы на стул скатерть, а пбсля сіно, а другая скатерть, ею накрывалы сіно і ставылы куттю, і йілы на Нбвы год, 14-ого чысла. Крэшчэнне 19-ого чысла, і Рожэство – 7-ого чысла январа. А пбсля ейі (сіно, солбму) давалы скоту. Солбмою обьязвалы дерєвья – дэрэво і – вэрбвочкою. І на шчбдрыка сыпалы пбпэл пуд кажэнь ствол. Хліб выпэкалы пэрэд куттёю, звавса – колядныкі, ёгб фбрма була, як довгач. А новогбдні вэчор звалы – Богаты вэчор.

5. **Іншыя паверí, звычаі, спосабы лячэння хвароб, назвы**. Шчоб нэ болíлы зýбы, йíлы хліб, шчо йíлы мы́шы. Як спужáесса, то нападáе уля́к. А звóдылы борóдявкі так: помáзаты смэтáною борóдявкі і хай собáка вы́лыжэ, і як дожч ідэ́ трэ́ба умы́тыса. І як кунь, як у ёгó кáпае слы́на, тóжэ гэ́тым звóдять намáзаны борóдявкі. Падýчая назывáлас своя́ болéзнь – сады́лыса на выд (на твар́) больнóго. Ковтýн бувáе, як птáшка вóзьмэ на кублó кíданы кóсы і рóбыть кублó. Ёгó, т.е. ќосы, йіх одры́звалы і закóпвалы пэ́рэ́д порóгом, дэ хóдять лю́ды. На вы́ду (на твары́) рóблящца… работы́нне, воны́ появля́ющца, од як скідáеш пташы́нэ кублó, то нападáють… работы́нне. А звóдылы цвэткóм, такí жóвты, ёго…, вун назывáвса молочáем. Там у цвэткý мазь е такá. А насекóмые назывáлыса: павýк, кýзка, одны́м слóвом, шчо скачэ. Стáя журавлíв зовýть ключóм, як воны́ лэтя́ть у вырэй, і гýсы, буськí, табýн, а вовкýв – тíчка. Зозýля, як убáчыш чы почýеш, то вонá панýе, лычы́лы гóды до смэ́рты. Як загрэмы́ть на сухы́ ліс, то бýдэ голóдны год. Обуй старýю звáлы вы́топкі, йíмы паля́лыса, коб прогнáты зы́му. [Расліны-ахоўнікі] – булы́ такí, як часны́к і прокíвá; прокíвý у хлэві клáлы, коб скот був здорóвый, а часны́к од нэчы́стойі сы́лы. Кай хáты нэ трэ́ба сады́ты дубы́ бо воны́ выростáють вы́шэ роста, і чоловíк, хозя́йін, умрэ́. Мóжна сады́ты бэрóзу, бо вонá даé сок, рабы́ну, грýшы, яблоні́ – воны́ даю́ть плоды́. Дéцке місте назывáлы – лужэ́чок. Булá такá одэ́жа: сорóчка, штаны́, кафтáн зрíбны. Вы́шкрэбком звáлы послéднэ дытя́ в сэмы́. Умэ́ння ім давáлы: хлóпцу – Івáн, Адáм, Ромáн, Ныкы́та, Стэпáн, дíвчыны – Мáрья, Ярына, Марына. Дíтям казáлы, шчо дытя́ у капýсты нашлы́, чы з чэрдакá, чы з вы́шок упáв. Стры́глы в пэ́ршый год, коб кóсы рослы́ густы́йі і закóпвалы йіх у зэ́млю. Повівáльную бáбку так назывáлы, бо вонá – котóра завя́звала пуповы́ну. А казáлы про умырáюшчого чоловíка і як умэ́р – мэрэ́ц, сканáв чы канáе, Дух вы́шов, а покóйныка звáлы мрэц, нэбóжчык. Гроб -- звáвса трунá. Як похавáють, пóсля клáлы колóду дубóву, прыкладáлы éю і стáвылы крэстá. Гэ́то булó аж до Покрóвы, т.е. пэ́рэд 14-ого октябрá, стáвылы ейі дэ́то 10-ого октябрá а пóсля нэ стáвылы. Клáлы в трунý сíно, одэ́жу, платкá, бэллё і óбуй. Сíном напыхáлы подýшку, шы́лы ейі спрáва на ліво, т.е. на лíвый бук, і выворóчвалы ейі. Звя́звалы чóрною лéнтою нóгі. Помынáлные дні звáлы дэды́.

# З ГАВОРКІ в. ШАЛАМЫ СЛАЎГАРАДСКАГА РАЁНА

**Як мы ў бежанцы хадзілі**

Рыскажý табе, Йван, як мы ў бéжынцы хадзі́лі. Усё, як було́. Атступáў нéміц ужó. На Прóні, за прóнным мастóм бой быў. Нáшы ціряз брод, кылá Крáсныя Слабады́ хацéлі прырвáць хронт, каб у Чы́стуй Лýжы (у балóці) сыйдзíніцца з пырцізáнымі. Ні ўдалóся ні пырцізáным аццю́ліцька ныжáць, каб прырвáцца кы сваíм, а нáшым з-за Проні, тагó што нéмца дыгнáлі ды Сыжá і Прóні, а ты́л зыстáўся далёка. Ой, яй-жа бóгу, каб тады́ рванýлі, то нéміц уцёк бы жаж за Няпрó і стóлькі б людзéй ні пылягло́ зы Прáпоськ, а тады́ і за Дынéпыр. Як стаў нéміц хрóнтым на Сажý, тады́ ён узя́ўся зы пырцізáнуў і зы людзéй, якея дýмылі, што хронт праскóча і усé вéрнуцца дамóў. Нéмцуў наéхыла у Шыламы́ мнóга. Стáлі дзéлыць мост тэй што спалíлі пырцізáны ў нас ны Пішчáнцы. Спáлі мы ў зімля́нцы, што якýю вы́кыпылі ны гарóдзі пад лíпуй.

**Бой пад Краснай Слабадой**

Пра бой пыт Крáснуй Слыбадóй рыскажý. Бой ішóў усю́ ноч, быў сінця́бырь ці што. Мы вы́йдзім зь зімля́нкі, то зáріва там і бой ідзéць. Малíліся бóгу, каб нáшым пумаглóся. Сціх бой і ны зáўтріга пы шляхý з Прапóську вялí нáшых сылдáцікуў у сéрых шынількáх, худзéнькіх. А нéмцы ж тут пырыскáрмлітыя. У наж жа ні карóў, ніііччóгтаа ні було́, усё паéллі.

Вой мы аряшы́лі пайцíць у лес. Па гóрых у Шылымáх нéмцы нырысстуўнуля́лі пулямёты, каб глядзéць за ўсíм. Нéкытырыя нáшы ў кустóх тýтыцька хувáліся, дýмылі што скóра бýдзя. Нáшы тáта і дзя́дзька, як ішлí на хронт, то прікáзылі тут хувáцца, нніккýуддыы няйцíць і ня вéріць нéмцым. У сваёй мéснысці – вы пáны, вы ўсё тут знáйіцця. Мы аряшы́ліся пайцíць у лес. Нáшы сусéдзі, ужó пыкыпáлі бліндажы́ ў лéсі, жылí тáмыка. Мы пашлí з клýмыкамі ґ бáбі Дýні (у канцы́ вýліцы) і пы вызярíшчу пашлí ў кусты́ на Пажóзі (рэчачка, левы прыток Пяшчáнкі). А нéмцы пы гарé éздзюць. У Сімнаццатым нéмцуў ні було́, там лес блíзка. Лю́дзі у кустáх ныпря́тылі лёну кóпы, пы капé ў тóпкіх мéстых. Пысядзéлі мы лі такéя капы́, піріждáлі і пашлí лі вітрікá ў лес. Бліндáж быў с крáю лі Гутароў (дзе Гутары́ жылí). Нáшы сусéдзі пыдаліся дáлі ў балóты, а мы ў íхнім бліндажы́ нучувáлі, варíлі ў лéсі

сухастóйім, сýччыкым. Нóччы нéмцы банбíлі лес. Стрáшна ў лéсі. Схадзíлі мы з Людуй Мáшкінуў ў дзярéўню. Цётка Сцепаніда і цётка Насця кáжуць, што на лес пышлá тýча чóрныя нéмцуў і што аттýліка выгынюць ці паб'юць. Нéмцы ішлí аблáвуй 'дзін лі 'днагó іх сыбáкькімі яўчáркімі, стрілялі і ўсіх выгынялі. Скрозь ат Проні і ды Дніпрá ціряз балóты, пы лясý. 'Дзін лі Сімнáццытыга (Шаламы II) на пóлі пыд лазóвым кустóм выруў 'коп, залéзлі сь сям'ёй і куст на выхыд пысадзíў. То сыбáкі ўчýлі і нéмцы крічáлі: "Русь, выхадзí!" І выгнылі. Праўды ні пыстрілялі. Во й мы ны бліндажы зыкыпáлі падýшку, дзіяла сваé рабóты. Мáма зукруціла ў мóх і зарыла ў пясóк. То ніхтó ні нашóў (пóслі хрóнту хадзілі і 'ткыпáлі сáмі). А ў лéсі людзі і з карóвымі з тóрбамі пыныдзівáтымі на мóрды. То яны му-у-у, а пéўні пяюць. Назывáйіщца схувáліся. Нямéцкыя развéдка ны манцыклых паўз лéсу чыж-ж, чыж-ж, днём йéздзія. Стрáшна булó.

Мы пашлí зь лéсу нызáд у Шыламы. Выйшлі лі Шпачкóвых на лог, а тут ныляцéлі нáшы сымалёты на нéмцуў і стрóчуць. Нéмцы бéгыюць і нáшы людзі бéгыюць. Літалі сымалёты, зь якіх гуваріла рáдзіва, што нéмцуў прагóнюць. Нізка, нізка лётылі сымалёты. Йіх ня зьбíлі, а стрілялі. 'Стрябкí былí. Прышлí мы к цёццы Сціпанідзі і тáтку хрёсныму Йвану, у гумнé яны стыялі. Пóўна гумнó снапóў ны стыранé, а нéмцы пы хáтых жылí людзéй пуўгунялўшы. Нéмцы мост ўжо пастрóйілі. Йстрýб на мост зыбрáлі, хáту Сóні Пёкліныя, дачкí Змітрыкá Тыратóнувыга. Прасíлі, ні ддáлі. Пóсьлі піряшлí мы жыць у сваю зімлянку на Лýпуўцы.

### Як мост палілі

Пра éтый мост указзэя цэлая. Як ягó палілі парцізáны пірід 'тступлéнійім. Былó ета ў 'юлі. Ныраббóвытыісся, то сыпіш як пшаніцу прадáўшы. Пырцізáны бáчуць, шо ў халýпі згаріць сылдáтка, прішлí й бýдзюць: 'стувáйщуя, згарэцё! А мост гаріць, тряшчыць, ялóвінькій вéдума ж быў. Йіскырічча і ны наш двор вéтрым пывівáя. Пыстáвілі лéсвіцу, вéнік. Вядрó з вадóй і пырскыйім на крышу. Тушыць мост ніхто ня йдзéць, каб жаж ня быць вінувáтым, а то й пырцізáны с кустóў глідзяць. Згарéў éтый мост, а мы ні згарéлі. Вéцір нéйік абтýх. Рáннім нéмцы пріéхылі, 'хвіцэры пыгіргытáлі і паéхылі. Усё звязьлí пырцізáны, нікóга ні пабілі.

Пóсьлі вайны ужó дызнáліся, як палілі éтый мост. Так і ні ныградзілі нікóга з нáшых людзéй. Пырцізáны зыгыдáлі насіць зь Піўныга гумнá салóму Мáшцы і Гáнні Піўнувым, Мáшцы Кувалісі, Кузьмóвым, Тáньцы Кірéйівуй. Мóст чуць зыгарéўся, сырэй быў.

**Як бабу Дуню забілі**

На́ша ба́ба Ду́ня жыла́ там у канцы́ ву́ліцы Лу́пуўкі з Ныта́шкуй сваёй. Ры́жый не́міць бы́тта ні дышчыта́ўся 'дзія́луў ці што яму́ сту́кнула, і пызва́ў па́льцым яе́ і атвёў ны гаро́д і забі́ў. Ныта́шка прішла́ к нам, а ма́ма з цёткуй ка́жуць, што ідзі́ да́лі 'т нас, каб і нас не пабі́ў ён. Йіна́ пышла к хрёснуй ма́цы, на тэй бок ре́чкі.

**Як уласаўцы адступалі**

Як ула́суўцы атступа́лі, мост быў спа́ліныты́ў, то ны Шылыма́х (вуліца) не́мцы стая́лі, а ў нас на Лу́пуўцы йіх ні було́. Мы кыпа́лі бу́льбу і зыкапа́лі ў капцы́ ду́мылі мо́жа што атста́не́цца 'т пыжа́ру, як не́мцуў прагóнюць. Прі́дуць і стыя́ць зы пря́слым, не́шта ґірґо́чуць. Ма́тка ка́жа, прыда́йця ґа́зы для ла́нпы. Нікс, ма́тка, ахвіцэ́р пу́х! Ста́лі 'тступа́ць ула́суўцы. А ны сашы́ Мысква́-Вырша́ва дзень і ноч ішлі вайскі́ не́мцуў. Ула́суўцы сы Смале́ншчыны пыстыя́лі су́ткі і пае́хылі ны Васькувічы. Йе́хылі ж жонкімі, лён ны калёсых вязылі́, ду́мылі ў не́мцуў пря́сьць. Куре́й у нас паскру́чылі гало́вы. У сусе́да Йва́на былі́ пчо́лы стыя́лі. Ула́суўцы пызыпалі́лі снапкі́ кулявэ́я сало́мы, пубвя́зыліся і пале́злі ў хізо́ны. Пубра́лі вёдры і ў вёдры мёд вашчы́нымі вы́ламылі. Тыка́я мітусьня́ была, што як ішчэ́ пыжа́ру ні надзе́льылі. Не́мцы стая́ць на тым баку́ ре́чкі і рагóчуць: русь, русь... Ула́суўцы былі́ ны нас злэ́я во́лі, што вы 'тстаіцёся, на́шых ждзіцё.

**Як нас выганялі ў бежанцы**

Як нас былі́ павыгыня́лі ў бе́жынцы. Ра́ннім ба́чым не́мцы з кру́глымі бля́шкамі на цэ́пцы на грудзя́х хо́дзюць пы ха́тых і людзе́й выгыня́юць к мо́сту (дзе́льылі пріхрантаву́ю пыласу́). Пыдыйшо́ў к на́шуй зімля́нцы і ка́жа цурі́кі і пака́зывыя на мост. Ма́ма пабе́гла у быразну́ бу́льбы і вы́кыпыла там схо́ваныты́я кускі́ маце́рыі і на сьмерць што. Ён пыглядзе́ў, пірятрёс і аддаў. Мы зайшлі́ ў ха́ту, аччынілі ю́шку. Піріхрісці́ліся на йко́ны і пашлі. Тро́я ма́лых дзяце́й і ма́ма зь цёткуй. Узіла́ я квасо́лі, ця́жка несць, зыйшла пад мост і вы́сыпыла. Сыгна́лі ўсіх, хто быў шыламо́ўцуў. Хто каро́ў пызыпріга́лі, хто так. Дзед Хрол Йікано́рінык і дзед Лявон Кувалёў Гу́туруў з ко́шыкамі з ру́чкуй. А ў е́тых ко́шыках дзіся́тык бу́льбін пе́чынных буу́та́йіцца, кыча́юцца. Ве́ра Бы́чыкува квасо́лі ўзіла́, ду́жа ўрадзі́ла. А што б зірна́ яко́га усы́паць?! Мыла́ння Рыманчыкува Сухару́чка ўзіла́ паўме́шша мя́са з прасо́лу. Яна́ ка́жа, а як жа мне́, ба́бычкі, быць, цяжо́ла, а зь е́тыга мя́са

праз мех расóл сік-сік. Йіна трёх-трёх, а расóл сік-сік. Тут нéмцы атыбрáлі мушчы́н і хлóпцуў і на лагу́ пастрóілі, зыгыдáлі зняць шáпкі і пыстáвілі шарéнгым ны калéні. Падня́ўся сквіл сярод баб і дзяцéй. Пыстріля́юць, пыстріля́юць гаварілі кóжны сабé ціха і ў гылавé. "А вы, пырцізáны, пырцізáны..." А тут быў Яшкін Сяргéй Пáўлавіч, Сярёжка Пуўлючóнык, якéй быў у тýю вайнý у плянý у Гірмáніі. Умéў пы нямéцку гуварíць. Ён ім канвóйным скызáў, што éта ні пырцізáны. А хвóрыя – падлéткі, старéйя. Нéмцы, як хто ўмеў па-йíхныму, то ўвыжáлі так éтых мужчы́н 'тпусцілі ґ бáбым.

Пыгнáлі нас пылявы́мі дарóгымі ны сашý, пы Слыбадзé (вуліца у в. Шаламы). У 'дныé, ні нáша йна, чумуйдáн цяжóлый. Йна стáла плáкаць, трéсца. А нéміц кáжа цурíк! Йна кінула чумуйдáн і пышлá са ўсімі. Дыгыня́юць на Ўрéчча, а урéчынь ня гóнюць ішчэ́. Йіх кінулі, яны́ ў éту пыласý ні пупыдáюць. Мы хацéлі ўвільнýць к камý, сáмі ўрéчіні ня хóчуць, каб мы да іх ішлí, быя́цца, што йіх бýдуць вінувáціць. Пыгнáлі нас дáлі пу пылявóй дарóзі ны Гынчарóўку. У Гынчарóўцы лі сáду стáлі, каб пірадыхнýць, каб лю́дзі пры сабé здзéлылі ў кустóх. Некатóрыя бы́ццам пры сабé і пухувáліся ў кустáх, каб астáцца. Дáлі пыгнáлі ны Зарéчча, што лі Вáськувіч, вы́гнылі ны сашý. Пыгнáлі ны Лібядзёўку сашóй. Цёмна стáла, прігнáлі і кінулі. Мы мóкрыя сéлі пад стóгым. Трóхі. Да паўнóчы прысядзéлі. Заснýлі, а тады́ пáмітуючы, што нам кызáлі бацькí ні 'тлучáцца, пашлí ны Прывóлля. А там тóжаж усіх вы́гнылі Мы 'ттýліка пашлí у бок лéсу, дáлі 'т сашы́. Засціг дзень. Мы йшлí ні адны́. З нáмі былá і Вéрка Дзянісіха, Крýглікава Рóйіха с сімярмí дзяцьмí і яе сістрá, нáша кумá Хадóра Кызакóва тóжа ж сяммíмі дзіця́мі. Сéлі мы пы дарóзі з Прівóлля ў Ржáўку ў Кыпáльніх (кар'еры). Пысярóд Кыпáльнюў дарóга йшла, бірягí Кыпальню́ў сасóннічкым пырасьлí. Йван Вáркін усё (мáлый быў) то сухарёў прасíў. Дýмайім, пірясéдзім дзень, а тады́ дáлі пóйдзім. Нáдвічыр кóнный раз'éзд аб'íжджáя Кыпальні, правéрка. Убáчылі нас вірьхавэ́я і нéшта кáжуць. А мы у адзíн гóлас: панóчкі, бом, бом, то мы тут. А яны: нікс, мáткі, бом, бом. Цуррíк! І паéхылі. Мы вы́лізьлі і ўсё ідзём дáлі, у бок лéсу. Узыйшлí ны Ржáўку. То ж ні душы́. Лі калóдзіша бярэ́ць нéміц вадý. Мы тóжа ўлілí сабé ў вядрó. А тýта с хáты выбігáя улáсувец і крічы́ць: дзéй-та вы былí, ся́нні ж тут усíх вы́гналі. Крíкнуў і схувáўся ў хáці. Мы ні жывы́я, ні мёртвыя йдзём дáлі. З крáйнія хáты выбігáя бáба і кáжа: дзéтычкі, бýдзьця у мянé. Не, бáбычка, пайдзём дáлі. Стаў туманóк. Зайшлí мы на лог паміж Аржáўкуй, Лéнінскім (пас.) і Мóлатавым (пас.) і ляглі пад ёлачкі ў алéшнічку.

**Захоп кароў немцамі**

Як карóў у нас пубрáлі нéмы. Було́ вой як. Пыгнáлі мы (дзéці) -- Лю́да Мáшкіна, я, Кóля Хрысці́нін, Тáнькіна карóва былá – сваíх кароў на Мугулёўчык (уроч.) пáсьціць. У пýніх быя́ліся дзіржáць, тагó што ўдзéнь ёздзілі 'тступáючыя нéмцы і брáлі скот. Кымáнда нéмцуў з Вáськувіч, дзе яны́ атступáлі на Удóўск (Доўск) éхыла на Ціцілíнувуй вýліцы. У бінóкыль яны́ замéцілі карóў. Мы былí ны паля́ныццы. З усіх бакоў нéмцы су ўтумáтамі ты́рк, ты́рк і пыгнáлі карóў. Нáшы бáчылі éта, і прібéглі, каб прасíць, што каб аддáлі карóў. "Панóчкі, кля́йнэ кíндэр, аддáйця карóў!"—прасíлі мы і плáкалі. Яны́ гóнюць карóў ны Вáськувічы, а мы бя́жым і з імі і прóсім, мáткі цалýюць рýкі. Яны́ рýкі кладýць на грýдзі і кáжуць: мáткі, нам во йдзе ныбалéла. Увéрьх стріля́юць. Рáды, што зыдáнія вы́каныліі. Прігыня́юць карóў у Вáськувічы, зыгыня́юць у пýню. Ахвіцэ́р пыглядзéў і кáжа: "Гуд, гуд!". А перавóдчыку кáжа, што скажы́, што як пріéдуць у Гырмáнію, то там ім аддадзíм. Мы 'ттýліка вы́йшлі і дай бог нóгі дамóй. Там жа Ры́пка Мажэ́йіха прасíла аддáць казý. "Панóчкі, аддáйця майгó цы́гана" – прасíла бáба. Йна служы́ла ў яўрэ́яў і знáла пы-нямéцку. Дуракí мы былí, маглí б нéмцы пірістріля́ць там у кустáх і ўсё – выйнá.

**Як баба бабіла**

Мужы́к ідзéць звáць бáбу бáбіць дзіцёнка. Нясéць хлеб і кладзéць на стол і кáжа: "Нáця вам хлеб-соль, а дáйця мне бáбу". Бáба сыбірáйіцца, бярéць сáла, пыдáрык, мацéрійі мéтры трі. Бярé сáла кусóк, хлеб бярéць. Ета усё ў вузёл, у вузёл і пóйдзя. Бярéць 'дія́ла дзіцёнку. Прíхóджыя, пірібáбя, атрéжа пуп 'т мéста, такéй каўбýх, дзе дзіцёнак бувáя. Пупавíну кладзé ны прáнік, пáльцы ны два 'тмéрія і атрéжа, зывя́жа алляно́й нíткуй. Ета яе дзéвачка, то бýдзя плáцця праць. Ета ўсё вы́мудры. Есьлі хлóпчык, то бярýць тряпы́шку, яé ў тря́пышку і 'тмéріюць трі пáльцы і 'трéжуць пуп. Бáба завя́жа крéпка, аллянóй нíткуй, штоб кроў ні ціклá. Тады́ дзіцёнычка мы́юць. Бáба вадý піряхрíсця, пéрва сымá піряхрíсціцца і скáжа: "Гóспыдзі, пумажы́, каб булó харóшыя здарóўя, хай бог дае". У купéлі патсцéля, пыд галóўкі бóлі, штоб мякчэ́й. Галóўку, як дóўгінькыя, то пакруглíць, штоб крýглінькая былá. На галóўку платóчык завя́жыш. Памы́юць, каб кары́ на йім ні булó, як у бальнíцы рыджáйіцца. Бáба спаўе, нóжкі шчы́тнінька звя́жа, штоб ні былí крівы́я. рáншы булó болі кріванóгіх, а цяпéр не. Пыкладзé дзіцёнка ў люлíчку, у начóвычкі. Што ёсць. Бáбі грóшы кладýць на пéлюсць купéла. Кладýць на стýлік бáбі грóшы, а ні ў вадý! Ксціць вязýць у цэ́рькву ці к мáтушцы ў хáту. Мы Кóлю Пілíпёнкувыга як вазíлі ксціць, то к мáтушцы у хáту зынасíлі, папóм быў тады́ Йвáнька. Піря́д éтым кýма йдуць звáць. Мужы́к кладзé хлеб-соль і кáжа: "На табé хлеб-соль, а мне дáйця кýма (ці кумý)". Кумý завуць.

Ба́ба ка́шу гату́я. Зра́зу ка́шу ва́рюць у чугуну́, а тады́ у гаршчо́к кладу́ць. Во́зьмя ма́сла, абкыта́я гаршчо́к, каб ка́ша ні пріста́ла, зыкла́дыіш ка́шу прысяну́ю, ду́жа ні сціска́іш. Ныкла́дайіш курганко́м накрыва́йіш місычкуй, штоб ка́ша вы́рысла. Пытсылыджа́йіш са́хырым. Мёдым ня до́бря, дзе́лыйіцца кра́сныя. На́да варі́ць ка́шу круту́ю. Дзед нясе́ ка́шу, а ты ла́дкі, сцю́дзень, пыда́рык пырадзісі. Калі́сь-то дзед у лу́бцы насі́ў. Прінясе́ ка́шу, ба́бы схува́юць, шука́юць, найду́ць ка́шу. Магарі́ч ста́вюць, нясу́ць на ку́т, ста́вюць на сто́л. Ны ка́шу кладу́ць гро́шы. Кум кладзе́ спыча́тку капе́йкі. Усе́ ка́жуць: "Ку́мува ка́ша, ку́мува ка́ша". Кум бо́лі кладзе́, усё пыкрыва́я. Як гро́шы былі́ дырагея́, то рублёў дзе́сіць кум кладзе, а цяпе́р рубле́й підзіся́т кладзе́. Ка́жуць: хто вы́шы кума́? Як ніхто́, то ка́ша ку́мува. Ну, тады́ бяру́цца біць ка́шу з нысывіка́мі ў рука́х ба́ба, кум і кума́. Утраі́х падыма́юць ка́шу і ка́жуць сабе́: раз, два, тры. І ґах! Ка́шу аб сто́л. До́бря зва́рітыя ка́ша стаі́ць, а няўме́ла зва́рітыя рассы́пліцца. Усі́ хва́люць: ой, до́брыя ба́біна ка́ша, ой, до́брыя ба́біна ка́ша. Во харо́шыя ка́ша! Ба́ба рэ́жа нажо́м ка́шу. Пырадзі́ха ны ка́шу ба́бі намётку дае́, ме́тру чаты́ры с пылаві́нуй, пяць ме́труў маце́рыі (йка́я шырына́). Ба́бы хапа́юць дзе́цім ка́шы ў плато́чык, гасці́нца са ксцін. На ксці́нах гаре́лку п'ю́ць. Ну і ўсё. У Рябі́нуўцы ба́бу апкру́чуюць ціріз плячо́ намёткуй і ска́чуць з ба́буй. А мужы́к пырадзі́хі у зі́мнюй ша́пцы хо́дзя, часці́ць. Як ужо́ бо́лі гаре́лкі ста́віць на стол (вёдрымі ста́вілі) ня бу́дзя, то зніма́я ша́пку і ка́жа: "Па хле́бу-со́лі". Гульня́, бясе́да йдзець да́лі. Дыші́ва́юць, пяю́ць, ска́чуць. Гасці́ць ужо́ ня бу́дуць, садзі́ць за сталы́ ня бу́дуць.

Запісана ад Круглікавай Алены Міхайлаўны, 1911 г.н.

**Як карова ацельваецца**

Як каро́ва ціля́іцца. Калі́ ўре́мя аця́ліцца і но́чы хо́дзюць сціряѓу́ць, каб прігле́дзіць цяле́ння. Пе́рва йдзе пузы́р, яго́ прішчы́пайіш, штоб вада́ сыйшла́. Каро́ву бяру́ць на́жмы. Пе́рва но́жкі йдуць. Мы́йіш чы́ста ру́кі і рука́мі там глядзі́ш, ці пра́вільна ідзе́ць гало́ўка. Каро́ву быру́ць на́жмы, гало́ўку вызваля́йіш і увесь цялёнык выхо́дзіць. Ціріз два часы́ каро́ві дайеш ба́нку са́хару ў вядро́ вады́, і каб йіна́ вы́піла. Ну, як уста́ня каро́ва, 'блі́жа цялёнка. Усё прігля́д лю́ббя.

Запісана ад Прачуханавай Ганны Іванаўны, 1928 г.н.

# РАЗДЗЕЛ IV. НАШЫ ЮБІЛЯРЫ

*Т.М. Трухан*

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ф.Д. КЛІМЧУКА

27 лютага 2005 года споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага вучонага-лінгвіста лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Фёдара Данілавіча Клімчука.

Пасля заканчэння ў 1952 годзе Драгічынскай СШ № 2 паступіў у Пінскі настаўніцкі інстытут (гістарычны факультэт). З 1955 па 1968 гады працаваў настаўнікам у Драгічынскім раёне. У 1967 годзе закончыў завочна Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут (гістарычны факультэт). У 1968 годзе Фёдар Данілавіч Клімчук паступіў у аспірантуру Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Абраў для даследавання дыялекталагічную тэму "Да лінгвагеаграфіі Заходняга Палесся", якую абараніў у 1973 годзе. Навуковым кіраўніком дысертанта была Ю.Ф. Мацкевіч.

З 1971 года жыццё Фёдара Данілавіча Клімчука непарыўна звязана з Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа. З першых гадоў працы ў Інстытуце мовазнаўства ён стаў адным з асноўных выканаўцаў шэрагу буйных калектыўных прац. Гэта – "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (1993—1998), "Агульнаславянскі лінгвістычны атлас", "Лінгвістычны атлас Еўропы", "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (1979—1986) і інш.. Фёдар Данілавіч Клімчук з'яўляецца рэдактарам першага тома "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" і членам рэдкалегіі ўсіх астатніх чатырох тамоў. За гэтую грунтоўную працу Фёдару Данілавічу і асноўнаму аўтарскаму калектыву прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь. Кола навуковых інтарэсаў Фёдара Данілавіча Клімчука даволі рознабаковае. Гэта дыялекталогія, лінгвагеаграфія, лексікаграфія, славістыка, фальклор, этнагенез, глотагенез, сацыялінгвістыка, тапанімія.

Фёдар Данілавіч Клімчук з'яўляецца аўтарам каля 170 навуковых прац, сярод якіх і манаграфія "Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс"(1983). Старшыня грамадскага аб'яднання "Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства "Загароддзе". Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам і ўдзеле выйшлі тры зборнікі Матэрыялаў навуковых семінараў і канферэнцый

па вывучэнню Палесся (Загароддзе—1, 1997; Загароддзе—2, 1999; Загароддзе—3, 2000). Ён кіруе падрыхтоўкай аспірантамі дысертацыйных работ, з'яўляецца таксама кансультантам у маладых вучоных і аспірантаў.

Фёдар Данілавіч Клімчук – адзін з самых вядомых і адданых сучасных даследчыкаў мовы і этнічнай культуры Заходняга Палесся.

## НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ І РЭДАКТАРСТВА Ф.Д.КЛІМЧУКА. ЛІТАРАТУРА АБ ІМ

### Манаграфіі. Слоўнікі. Атласы. Артыкулы. Тэзісы.

1. [Дыялектныя тэксты з вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці] // Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. С. 321 – 323.

2. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья // Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М.: Наука, 1968. С. 20 – 78.

3. Групування говірок Берестейщини // XIII Республіканська діалектологічна нарада. Тези доповідей. Київ: Наукова думка, 1969. С. 110—112.

4. З лексікі гаворак Драгічынскага раёна // Тэзісы дакладаў маладых вучоных на лінгвістычнай канферэнцыі 13—14 красавіка 1970 г. Мінск, 1970. С. 42—44.

5. До класифікації говірок Берестейщини // Праці XIII Республіканської діалектологічної наради. Київ: Наукова думка, 1970. С. 178—183.

6. Об одном из диалектных типов в южной Брестщине // Ареальные исследования в языкознании и этнографии (тезисы докладов и сообщений) 9—12 февраля 1971. Л.: Наука, 1971. С. 94—95.

7. Наяўнасць цвёрдых зычных перад [і] ў брэсцкіх гаворках і звязаныя з гэтай з'явай памылкі вучняў // Беларуская мова і літаратура ў ВНУ. Тэзісы рэспубліканскай навукова-метадычнай канферэнцыі. Брэст, 1971. С. 158—161.

8. О твердости-мягкости согласных перед гласными переднего ряда в говорах Брестско-Пинского Полесья // Совещание по Общеславянскому лингвистическому атласу (Черновцы, 24—30 июня 1971 г.). Тезисы докладов. М., 1971. С. 43—47.

9. [Адказы на пытанні "Анкеты"] // Беларуска-украінскія ізалексы (Матэрыялы для абмеркавання). Мінск, 1971. С. 33—36.

